№1(62)
/студзень-люты/ 2013

ДЗЕ

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Генадзь Бураўкін



...і зоркі вечныя чытаю,
і бессмяротна вецер п'ю...

# Жыву сярод птушак і пчол

* * *

Куды падзецца з думамі
І што рабіць мне з вершамі,
І тымі,
Што задуманы,
І з тымі,
Што завершаны?

Яны ля сонца плаваюць,
Як павуцінкі срэбныя,
Нікому не цікавыя,
Нікому не патрэбныя.

Яшчэ не прачытаныя,
Маўчаць яны разгублена,
Як госці нечаканыя,
Як дзеці пазашлюбныя.

Нясмелымі падлёткамі
Яны здалёку цінькаюць,
Журботнымі,
Турботнымі
Душы маёй часцінкамі.

І спадзяванні кволыя
Варушацца:
А ну калі
Яны прыдацца здолеюць,
Прылашчаныя ўнукамі?..

* * *

Так хачу я,
Каб вывезці
Нас усё-такі змог
Белы конь справядлівасці
Праз сутонне дарог.

Каб над цёплаю грываю
Засвяціла з-за хмар
Маладая,
Гуллівая
Зорка спраўджаных мар.

Каб у нашага шэсця
Быў шчасцівы працяг,
Каб мы выйшлі нарэшце
На прастор,
На прасцяг...

* * *

Я жыву сярод птушак і пчол,
Мне на рукі садзяцца стракозы.
І я ўсіх
Рамантычна цвярозых
Да сябе запрашаю за стол.

Прыязджайце,
Хадзіце між дрэў,
Падмінайце барвяныя краскі.
Каля вулляў
Шукайце падказкі,
Ад чаго гэта я падабрэў.

На выбоінах пыльных дарог
Пакідайце благія навіны,
Каб прастор
Першабытна нявінны
Спахмурнець ад самоты не мог.

Абагрэйце паўдзённым святлом
Свае сумныя мудрыя чолы...
І вас прымуць
І птушкі,
І пчолы.
І ў вас будзе пасад за сталом...

* * *

Мяне і ў дальняй старане
Трывожаць даўнія правіны.
І пад падушкаю ў мяне
Заўсёды –
Хатнія ўспаміны.

Штораз дамоў вяртае сон
З усіх вандровак і гулянак,
Аж покуль мройлівым крысом
Душу не ахінае ранак,
Аж покуль з-за высокіх хмар,
Як сонейка праз патарочы,
Не выгляне матулін твар,
Яе заплаканыя вочы.

І мне няўсцерп
Праз гарады
І аўтастрадаў шматгалоссе
Сцяжынкай кінуцца туды,
Дзе ўсё на свеце пачалося.

Ні на хаду,
Ні на бягу
Мяне не перапыніць стома,
Бо за грахі твае
Змагу
Я расквітацца толькі дома.

* * *

Кожны дзень нясе дзівосы:
Зарастаюць цінай плёсы,

Кнігаўкі замоўклі сухама,
Не рыпяць ля хат калёсы,
Не звіняць у лузе косы.
Шчасця ж па-ранейшаму няма.

Не растрэсены пракосы,
Замест пчол раяцца восы –
Мёду нам ад іх чакаць дарма.
Паламаны жыцці-лёсы,
Ля паркана спяць п’янтосы.
Ладу па-ранейшаму няма.

А навокал ззяюць росы,
Свет віруе шматгалосы,
Цешыцца дзяцінная гурма.
Толькі ў нас ізноў дзівосы –
Ператрусы,
Перакосы.
І адхлання па-ранейшаму няма.

* * *

Люблю лясное маладое веча,
Дзе слухаюць не толькі салаўёў,
Дзе ўсё звініць,
Сакоча
І шчабеча,
І не бяда,
Што кожны –
Пра сваё.

Там услаўляюць голасна
Ад ранку
І сонца,
Што над хвалямі ўзыйшло,
І свой пагорак,
І сваю палянку,
І свой закутак,
І сваё дупло...

Як вельмі рэдка між людзей бывае
У нашай балбатлівай старане,
Ніхто нікога не перабівае
Пры стогалосай дружнай гамане.

І ў майскі дзень,
І ў вечар ліставею,

Ці ляжа ціш,
Ці вецер шугане –
Я іх усіх,
Здаецца,
Разумею...

Ці змогуць зразумець яны мяне?..

* * *

Порсткія гарэзы-раўчукі
З раніцы пабеглі па асфальце.
Ну давайце ж,
Родныя,
Давайце
Разам паімчымся напрасткі.

Хай бяссільна асядае снег
І ільдзінкі ломкія канаюць.
Ні калюжы гразкія, ні наледзь
Не прыпыняць наш суладны бег.

Падаюць з паддашша капяжы,
Цінькае сінічка за спіною...
Ну і хто з нас
Першы прыбяжыць
На спатканне з ранняю вясною?..

* * *

Пакуль вясну не засялілі птушкі,
Яна яшчэ не заняла пасад –
І прахалода вее ад прысад,
І зеляніну сніць маўклівы сад,
Дзе сірацеюць між галін кармушкі.

Пазней,
Калі,
Як лёгкі дым,
У садзе
Павісне пара ад сырой зямлі,
І каташкамі пульхнымі
Абсядуць
Кусты агрэсту
Сонныя чмялі,

І ўпрысядкі ля хат заскачуць жабкі,
І хлапчукі гарэзна скінуць шапкі,
І спаляць
Лісця прэлага ахапкі
На вогнішчы вячэрнім
У двары,
А вецер,
Надакучлівы і зябкі,
Схаваецца ў лазовым гушчары,
І жаўранкі зазвоняць угары –

Тады рабі чаканыя высновы:
Вось і прыйшоў нарэшце час вясновы.

* * *

Салавей у прысадах сваё ўмельства адточвае –
Без разгубленасці і мітусні
Б'е і б'е
Сваім срэбраным малаточкам
Па нябачным кавадле
Начной цішыні.

Ён не чуе нічога
Ні здалёку,
Ні зблізку,
Захлынаецца шчасцем
Ад працы сваёй.
І здаецца –
Высока ўзлятаюць
Мігатлівыя іскры,
Астываюць між зорак
Пад імглою сівой...

* * *

Звонка і доўга
Зязюля кувала.
А мне ўсё гадоў
Было мала і мала.

А мне ўсё хацелася
Матчынай ласкі,
Сяброўскай спагады
І боскай падказкі.

А мне ўсё карцела,
Нібы ў маладосці,
У далечы ўгледзець
Таемнае штосьці.
І сэрца прасіла
У свеце лядачым
Хоць трошачкі сілы,
Хоць трошачкі ўдачы.

Кувала зязюля.
І ўсе яе чулі...
І радасна верыў я
Шэрай вяшчунні.

* * *

*Рыгору Барадуліну*

Карацее жыццё.
Карацеюць лірычныя вершы.
Усё болей наперадзе
Слоты,
Туману,
Імжы.
Толькі ты не спяшайся
І белых сцягоў не вывешвай.
Мы яшчэ не дайшлі
Да нябачнай апошняй мяжы.

Нам яшчэ надакучыць
Зямныя грахі не паспелі.
Мы сяброўскія чаркі
Яшчэ не да дна дапілі.
Хай нас доўга чакаюць
Драўляныя нашы пасцелі.
Мы яшчэ наляжымся
У роднай пясчанай зямлі.

Не хіліся пад ветрам
Старым адзінокім асверам,
Таямнічыя сцені
Ад вокнаў сваіх адгані...
Мы яшчэ пажывём
І бацькоўскую мудрасць праверым:
Хоць гады карацеюць,
Даўжэйшымі робяцца дні...

* * *

Прырода падае нам ясны знак,
Нагадвае,
Што нас чакае заўтра:
Прабілася праз зелень жаўцізна
І ў кронах распаўзаецца заўзята.

Яна яшчэ прыцьмелая,
Аднак
Усё гусцеюць фарбы даляглядаў,
І ў іх турбота вечная адна –
Не абмінуць
Ні ўзлескаў,
Ні прысадаў.

А потым
Запалае клёнаў медзь
І першы іней блісне блізка недзе...

Калі прыроду добра разумець,
Яна пра ўсё паспее папярэдзіць...

* * *

Раскашуе бабіна лета –
Ясным сонцам грэе прастор,
З позніх кветак новай сурвэткай
Засцілае пад яблыняй стол.

Запрашае ў свой двор гасціну,
Узгадаўшы на свята правы
І адводзячы павуціну
Ад затлумленай галавы.

Заклапочана і цвяроза
Пазірае ва ўсе бакі...
І злятаюць лісткі з бярозы,
Як самлелыя матылькі...

### *КАНЕЦ КАСТРЫЧНІКА*

Завершаны справы –
Ўсе восем.
Прасторна абшару ўсяму.
У прыцемку

Позняя восень
Памалу спаўзае ў зіму.

Над комінам –
Дым шызаваты.
Пранізлівы дождж на двары.
І ціснецца моўчкі да хаты
Бяздомны сабака стары.

### *У САМОЦЕ*

Вартую цішыню ля гаю,
Начны туман сцялю куп'ю.
І зоркі вечныя чытаю,
І бессмяротны вецер п'ю.

Сачу над елкамі сухімі
Бясшумны, лёгкі лёт савы.
Блукаю сцежкамі глухімі,
Як адзінокі лесавік...

### * * *

Усе гады
На ўсе лады
Я шал вясновы славіў.
І вось,
Даўно немалады,
Стаю на пераправе.

І час – другі.
І я – другі.
Ды шкадаваць чаго там?
Пазарасталі берагі
Аерам і чаротам.

З-за маладога лазняка,
Як срэбранае дзіва,
Шырока коціцца рака
Імклівая
І маўклівая.

Зялёны конік на вясле
Даверліва качуе.
Я не галёкаю,
Але

Мяне
Былое
Чуе...

* * *

Махні рукой на горкія прадвесці,
Згані туман загадкавых размоў.
Я ведаю:
Каб лёс хацеў развесці,
Ён бы даўно ўжо нас з табой развёў.

Так,
Я не той зусім.
І ты не тая.
Мінуў наіўнай маладосці час.
Але ў далёкі край не адлятае
Той журавель,
Што звёў калісьці нас.

З глухіх сцяжынак
І з прасторных станцый
Мне трэба,
Каб услед глядзела ты.
Я так баюся без цябе застацца,
Бо без цябе мне белы свет пусты.
І хай стамлюся я і пасівею
У апраметнай мітусні зямной, –
Каб толькі ты
І ў лівень,
І ў завею
Была
Нясгасным сонейкам
Са мной.

* * *

Хоць даўно ўжо не колецца
Горкіх дакораў асцё
І ў душу пасяліўся
Ссівелы, зажураны досціп,
Гэтак хочацца раптам
Адрынуць усё
І пабегчы
Шукаць апантана
Сляды маладосці.

Ты не думай,
Што я пераблытаю адрасы
І аднойчы папуткай прыеду няпрошаны
У той сад,
Дзе вяргіні блішчаць ад расы,
У той дом,
Дзе настольнік з блакітнымі прошвамі.

У дарогу,
Здаецца,
Я сабраўся дарма.
Вецер памяць пагойдвае,
Як старая калыска.
Таго саду няма.
Таго дома няма.
І цябе там няма ані блізка...

* * *

Калі мы сыйдзем з гэтага жыцця,
Сплывем за незабудкавыя далі,
Мы вам гукнём
З прадонняў небыцця
Той самы кліч,
Што на зямлі гукалі.

Ён знойдзе вас
На ўробленым надзеле,
Прытоены ў траве і сіняве,
Як запавет,
Як заклік
І надзея,
І як апошні выдых наш:
– Жыве!

* * *

Усё адыйдзе –
І любоў,
І скруха.
Усё міне –
І радасць,
І туга.
І застанецца
Згадак пацяруха,
І застанецца
Мрояў мітульга.

Ніхто на гэтым свеце не ўтрымае
Таго,
Што адцвіло пад ветру стынь.
Вядзе сцяжынка волкая, прамая
Да поўні ў небе чыстым і пустым.
Шчымлівы боль суцішыцца дарэшты
Пад пылам часу,
Ліпкім і рудым...
Ды застанецца ў памяці
Хоць нешта –
Хаця б туман,
Хаця б начлежны дым...



Леанід Дранько-Майсюк



...Максім Танк меў сілу выходзіць
у адкрытае поле –
умеючы абараняцца, умеў абараняць!..

# У Вільні і больш нідзе

### "...натуральны, як лінія небасхілу"

*"Часам вецер смалістым пахам старога бору абвее хаты і,
прыгнуўшыся за вёскай, папаўзе па межах,
шырока расхінаючы калоссе..."*

Максім Танк "Па дарогах і вёсках", 1936 г.

*Працяг. Пачатак у №4 (41) за 2009 год, №4 (47) за 2010 год і №3 (52) за 2011 год.*

Максім Танк – паэт, якому наканавана было здзіўляцца: няўжо людзі так і не зразумеюць людзей, і колькі яшчэ зямля будзе цярпець такіх незгаворлівых дурняў?!

Паэт верыў у простыя ісціны, паводле якіх, як у той казцы, дабро перамагае зло, і ці не змалку ведаў, што так бывае не заўсёды, аднак жа верыў да старасці.

Максім Танк настройваў сябе на каштоўнасць часу, упэўнены: час даражэй за грошы, хаця паміж нараджэннем і смерцю, калыскай і дамавінай існуе, на думку паэта, не час, а толькі вінная розніца:

Чаркай віна
Адзначаецца дзень нараджэння
І дзень развітання.
Розніцы, пэўна, між імі
Ніякай няма,
Калі не лічыць
Розніцы ў смаку віна.

Верлібры паэта нагадваюць фрагменты антычных збудаванняў, а ягоны скепсіс заўсёды быў неаспрэчны:

Як толькі ў маленстве
Сяк-так навучымся хадзіць,
На гэтым, звычайна,
І канчаецца наша
Адукацыя...

І вызначэнне ў нашай паэзіі маўчання таксама з'яўлялася па-танкаўску неаспрэчным:

Маўчанне
Ніколі не было
І не будзе золатам:
Яно – або
У шмат разоў даражэйшае.
Або – нічога не вартае.

Так гаварыў чалавек, які ведаў, што такое дзяржаўны дыктат, які і пры дыктатуры маўчання (!) шукаў новыя лексічныя значэнні.

Пэўна ж, не звяртаючы на гэта асаблівай увагі (хіба зважае мора на тое, што вымывае на бераг бурштын?!), Максім Танк даваў словам новы сэнс; асабліва такім свавольным паняццям, як слава:

Слава –
Медыцынская сястра,
Якая часта блытае адрасы,
Спазняецца
Праверыць пульс
І каму трэба
Аказаць дапамогу.

У творчасці майстра заўсёды ж далёкая прастора становіцца блізкай, чужое робіцца зразумелым, а філасофская здагадка ў сваёй класічнай нязменнасці, здаецца, з'явілася спачатку ў тваёй чытацкай душы і толькі пасля ўжо ў гэтай знакамітай міфалогіі:

Старажытныя амфары.
Гэта, што была з вадой,
Расказвае пра дзяўчыну,
Якая з яе спаталяла смагу.
Гэта, што была з віном,
Расказвае пра песні,
Якія спявалі на свяце Дыяніса...
Але чаму з іх адна маўчыць?
Няўжо была ў ёй цыкута?

У пытаннях жывуць адказы!

У нашай літаратуры паэт засвоіў гэту ісціну найлепш, чым хто, і ператварыў яе ў адну з яркіх адметнасцяў свайго стылю.

Скажам, нагадваючы аб тым, што на матэрыяльна-культурных з'явах ляжыць выяўны цень разбурэння ці нават самазнішчэння, – Максім Танк у пытальнай інтанацыі сцвярджае заўсёднасць, непарушнасць душэўнага свету:

І Парфенон раствараецца ў смогу,
І Равенна западае ў зямлю,
І Венецыя патанае ў моры...

Чаму ж мой сум па табе
Аказаўся вечны?

Зрабіць лішняе, як і выпіць лішняга – пахіснуць гармонію, парушыць суладнасць эмоцый.

А напісаць лішняе?

Максім Гарэцкі, аналізуючы творчасць Якуба Коласа за 1921-1922 гады, заўважыў: "...ён піша прост недазволена многа для паэта..."

Недазволена многа!

А сёння маем творцаў з кірункам на Маскву, якія за адзін толькі год пішуць (праўда, ці самі пішуць?) і выдаюць усё за той жа год па трычатыры тоўстыя раманы!

Але пакіну тых творцаў з іхнімі раманамі, прыдатнымі хіба што для пустых рэйтынгаў, і скажу: шматпісанне – форма хваробы.

І мне зразумелыя пакуты вялікага паэта – пакуты ад сваіх лішніх твораў:

Пракладаючы новую дарогу,
Я ўсё збіраюся прайсці
Праз пушчу сваіх вершаў
І пакінуць толькі тыя,
На якіх шчэрбіцца
Сякера часу...

Танкаўскія верлібры – перш за ўсё псіхалагічныя запісы; такімі ж, можна сказаць, запісамі духоўнага складу, у якіх сваё, прыватнае, мае сэнс глыбокага абагульнення, з'яўляюцца і рыфмаваныя шэдэўры народнага песняра:

Не спіцца нешта,
Хоць мінула поўнач.
Не ведаю, ці сам,
Ці нехта так зрабіў:
Што трэба было помніць –
Я забыў,
А што – забыць,
Усё яшчэ я помню...

Нас вучылі: эстэтызм раз'ядае палатно зместу, і, магчыма, гэта так, аднак у вяршынных творах Максіма Танка выяўнае захапленне харáством ужо само па сабе становіцца тым нечаканым, а таму патрэбным змес-

там, які непрыдуманы, які прыродны, хаця й мае прыкметна кніжную аснову.

Дарэчы, паэт не меў універсітэцкай адукацыі і, пэўна ж, праз гэта быў проста нястомным чытачом, усё жыццё сам вучыўся паэтычнаму рамяству і авалодаў ім на зайздрасць кожнаму...

– Шчаслівы ты, што можаш Галатэю
У мармуры стварыць, Пігмаліён.
Перад яе прывабнасцю нямею.
І мне здаецца, што ўсё гэта – сон.

– Не сон! Чакай! Яшчэ разцом прайду я,
Яшчэ распраўлю валасоў брую.
І ты пабачыш наяву жывую.
Глядзі! Скідае туніку сваю...

Што гэта?

Узор чыстага мастацтва?

Магчыма.

Аднак жа Максіма Танка не назавеш эстэтам – іншыя задачы стаялі перад ім.

Праз усё сваё доўгае жыццё ён шчыра хацеў аб'яднаць беларускае і савецкае, народнае і камуністычнае.

Паводле Уладзіміра Калесніка: ідэю палітычную паэт ператвараў у ідэю мастацкую!

Так, ён быў шчырым камуністам, але песню сваю ў 1930 годзе (васямнаццацігадовы!) пачаў з уславлення нацыянальных каштоўнасцяў:

...Пад сцягам бел-чырвона-белым
Чакае перамога нас.
Няхай жа меч пагоні ззяе!..

І завяршыў сваю жыццёвую дарогу, трэба сказаць, на той жа ноце – вось ягоныя словы, прамоўленыя ў 1994 годзе: "...сённяшні XI з'езд пісьменнікаў сапраўды заслугоўвае звання гістарычнага, бо ўпершыню сабраўся ў свабоднай і суверэннай нашай Беларусі, над якой горда рэе бел-чырвона-белы сцяг..."

І так ужо сімвалічна сталася: у жніўні 1995-га, калі паэта хавалі, над яго трунай, якую вынеслі з менскага Дома літаратара, нейкая добрая і смелая душа ўзняла менавіта бел-чырвона-белы штандар!

Не лішне нагадаць: гэта адбылося пасля травеньскага рэферэндуму, калі нацыянальная сімволіка падпала пад забарону!

Зламыснікам паэта напомню: Максім Танк стаў камуністам не дзеля кар'еры, а дзеля змагання – дзеля рызыкоўнага жыцця.

Калі ж кампартыя сваю кіраўнічую ролю страціла, *выхадзімцам* не зрабіўся.

Рыгор Барадулін трапна назваў выхадзімцамі тых *спраўнякоў*, якія авечымі чародамі выходзілі з КПСС – вядома ж, выходзілі тады, калі за гэта ўжо нішто не пагражала.

Для выхадзімцаў партбілеты былі хлебнымі кніжкамі, і выхадзімцы "мужна" палілі іх, ужо непатрэбныя, у 1991-м...

Я назіраў гэту агідную сцэну ў Мінску ля Дома ўрада.

Я не быў камуністам (двойчы клікалі – не пайшоў), але ў той момант, калі спраўнякі насоўвалі на спіцы, каб не апячы свае мазольныя пальцы (рыхтаваліся ж!), чырвоныя кніжачкі і падносілі іх да агню, з павагай думаў пра тых партыйцаў, якія гэтага не рабілі.

Тыя партыйцы (пісьменнікі і непісьменнікі) шанавалі Максіма Танка.

Аднак жа цікавая рэч: Максіма Танка не любілі і не любяць літаратары, якія пайшлі ў камуністы дзеля салодкага жыцця і залатога дажджу.

Адзін з іх абзываў паэта – “абвешаным ордэнамі”, а другі ў друку называе – “фанерным Танкам”.

А ўсё ад зайздрасці!

І адзін, і другі выпрошвалі, вымольвалі ўсялякія ўзнагароды і пасады – Максім жа Танк узнагарод і пасад не выпрошваў і не вымольваў.

І кар’ерысты больш за гэта ненавідзелі паэта, чым нават за тое, што ён не хваліў іхнія доўгія нудныя раманы.

Аднак жа паэта абагаўляла вялікая Ларыса Геніюш!

“Максім Танк! Вельмі добра, што Вы ёсць на свеце...” – пісала ў сваім лісце 20 лютага 1967 года і гаварыла, што Максім Танк сваім існаваннем падымае на ногі цяжка хворых, і прызнавалася паэту, як сястра: “Проста дрыжу за Вас...”

Чытаючы ягоныя вершы, змаладу – складныя, а пазней – арытмічныя, спадарыня Ларыса, пэўна ж, паспела прачытаць і гэты верлібр, і, думаю, прыняла яго, як дакладную самаатэстацыю свайго заступніка:

Калісьці хапала мне
Ямбаў, харэяў,
Адмераных,
Строгіх радкоў.

А зараз пішу
У рытме свайго
Арытмічнага сэрца,
Зямлі і падзей.

Таму мае вершы
І не надаюцца
Да танца
Або да ружанца,

Як не надаюцца
Да гэтага
Гром,
Гул землетрасення
Ці крык папярэджання...

Так, дыханне пераважнай большасці танкаўскіх вершаў менавіта арытмічнае, нібыта свядома няроўнае, зусім не такое, як – нагадаю для параўнання – стройная рытміка паэзіі П. Глебкі, А. Куляшова, А. Вялюгіна.

Палонніца сацыяльнага і палітычнага неўладкавання, а таксама ж і творчай арытміі, Ларыса Геніюш невыпадкова хінулася да Максіма Танка – чула ў ім сваё, заходнебеларускае, якое без глянцу, але надзейнае; шукала і знаходзіла ў ім абаронцу...

Абараняць – то-бок, просячы за некага ці закрываючы сабой некага, мець мужнасць стаць на шляху чужой бяды.

Абараняць – зусім не тое, што абараняцца!

Абараняцца лягчэй, бо мы змагаемся ў гэты момант толькі за сябе, і тут нам дапамагае дзікая сіла самазахавання; тут мы ратуем сваё жыццё і не маем іншага выбару, як ратаваць сваё жыццё; тут мы не можам схавацца, бо само наша цела (калі заўгодна: шкура!) ведае: калі кінем абараняцца і пачнем хавацца – адразу ж загінем; менавіта адсутнасць выбару патройвае нашы сілы!

Іншая справа – абараняць!

Абараняць, змагацца за чужога – значна цяжэй!

Тут выбар ёсць.

Тут можна схавацца, не вылазіць, пераседзець, бо гэта ж урэшце не твая бяда!

Гэта ж не табе, а некаму пагражае няшчасце...

О, як цяжка выцягнуць сябе з надзейных кустоў!

О, як часам бывае смяротна немагчыма пакінуць утульную схованку і выйсці ў адкрытае поле!

Максім Танк меў сілу выходзіць у адкрытае поле – умеючы абараняцца, умеў абараняць!

Паэт шмат каму дапамог, шмат каму даў ратунак і вельмі шкадаваў, калі не здолеў дапамагчы (на жаль, здаралася й так) вартым ягонай дапамогі людзям...

Пішучы пра яго, што ён грамадскі дзеяч, часам зусім забывалі, што ён перш за ўсё чалавек, можна сказаць, даткліва сямейны!

Здаецца, да сям'і ў яго былі іконныя адносіны, і сям'ёю ён жыў гэтак жа, як і творчасцю, і не бачыў той мяжы, якая звычайна аддзяляе творчасць ад сям'і.

Ён вельмі клапаціўся пра сваіх блізкіх і мучыўся гэтым клопатам і, велікадушны, пэўна ж, не хацеў нават і падазраваць, што сям'я – вялізны букет руж, у якім хаваецца клубок змей...

Ён марыў стварыць новую паэзію і шкадаваў, што не хапіла на гэта часу...

Ён пераносіў у верлібры снежныя малюнкі: "...верш, адціснуты лапай куніцы...", а ў маладосці пісаў прозу, да вобразаў якой можна дакранацца: "...спіць, ляжыць зямля чорная, як партфель секвестратара, а над ёй, як шапка паліцыянта, цёмная сіняя ноч..."

Ён любіў кіно і мастакоў-імпрэсіяністаў, але не прымаў літаратурную моду на Кафку, Сартра, Іянэску, Мілера, Бекета...

Заўважу: не прымаў не саміх гэтых пісьменнікаў, а моду на іх, а гэта прынцыповая розніца!

Наогул жа аўтар "Нарачы" быў упэўнены: пісьменнік у любой з'яве павінен бачыць істотнае...

Ён, як ужо было сказана, багата чытаў, але не ацаніў, на жаль, "Маю анкету" Пятра Глебкі і чамусьці ацаніў "Лысагорскую паэму"...

28 кастрычніка 1993 года ў сваім дзённіку развважаў: "...Зараз наша мова, якая доўгі час была і ў загоне і ў прыгоне, патрабуе грунтоўнай рэстаўрацыі і ачышчэння ад розных непатрэбных запазычанасцяў..."

Сам жа ў тым жа дзённіку (як і не бачыў!) раз-пораз ужываў гэтыя "непатрэбныя запазычанасці" – пісаў "справачнік", а не даведнік; "журнал",

а не часопіс; “полка”, а не паліца; “штукатурка”, а не тынкоўка; “бублік”, а не абаранак; “пахата”, а не ворыва; “расшаліўся”, а не раздурэўся; “запрапасцілася”, а не згубілася; урэшце – заместа нязграбныя або няскладныя радкі, выводзіў: “...несуразныя радкі...” і г.д.

Тут, вядома, не магло не паўплываць тое, што першыя кнігі, якія прачытаў, былі на расійскай мове і ў школу пайшоў у Маскве, і пасля нейкі час вучыўся ў Віленскай расійскай гімназіі імя А. Пушкіна.

Наогул жа варта сказаць і аб тым, што жывых класікаў у нас і лексічна, і стылістычна асабліва і не правілі!

Такое дзіўнае адкрыццё я зрабіў, працуючы ў выдавецтве “Мастацкая літаратура”; тады я шмат рэдагаваў твораў, якія ўжо былі надрукаваны ў газетах і часопісах, і неаднойчы даводзілася ў знаных аўтараў, вобразна кажучы, “храмых” канёў выпраўляць на “кульгавых”...

Максім Танк – творца вандроўны; ён шмат бываў у замежных камандзіроўках і заўсёды ж заносіў у нататнік нумары сваіх гатэльных пакояў; пэўна ж, гэта нейкім чынам забаўляла яго, бо самі паездкі, калі верыць запісам, не вельмі цешылі...

А яшчэ ён пакутаваў ад бясконцых гасцей, якія, вядома ж, не давалі працаваць; не радаваўся тэлебачанню і пашырэнню турыстычнай індустрыі; меліяратараў называў душагубамі прыроды, а спартыўныя гульні (у першую чаргу футбол з хакеем) – школай шавінізму.

Дарэчы, выдатнае азначэнне!

Ён рассылаў мноства віншавальных паштовак, у год да “сотні паўтары...”; мусіць, любіў віншаваць людзей гэтак жа, як і хадзіць у грыбы...

Ён баяўся не старасці, а баяўся ў старасці злегчы на чужыя рукі, таму са страхам браў у галаву: “...самае важнае ў жыцці – нікога не абцяжарыць сваім адыходам...”

Я чуў і бачыў Максіма Танка менавіта ў старасці; чуў па тэлефоне ў верасні 1992-га – ён пазваніў мне, каб падзякаваць за мой артыкул пра яго, надрукаваны ў “Советской Белоруссии”...

Бачыў у тым жа выдавецтве “Мастацкая літаратура”, у Саюзе пісьменнікаў, у музеі Янкі Купалы (тады ў музеі ён расказваў Зянону Пазняку, як угаворваў яго дзеда Яна Пазняка прыняць удзел у стварэнні Народнага фронту ў Заходняй Беларусі); у 1995 годзе я заходзіў да паэта ў шпіталь...

Аднак жа самыя адметныя, самыя асаблівыя, самыя мастацкія сустрэчы былі ў яго дома, на вуліцы Кульман...

У снежні 1992-га паэт Васіль Зуёнак (на той час кіраўнік Саюза пісьменнікаў) папрасіў, каб я схадзіў да Максіма Танка па новы рукапіс вершаў.

І вось у канцы 1992-га, у пачатку 1993 года я як рэдактар некалькі разоў сустракаўся з паэтам, а, вярнуўшыся дадому, рабіў спешныя нататкі:

“16 красавіка 1993 г. Быў у Максіма Танка на вуліцы Кульман. Гаспадыня кватэры Любоў Андрэеўна ў інваліднай калясцы, аднак жа напаіла мяне гарбатай. А гаспадар вельмі цікава расказваў пра Янку Купалу: “...У час вайны мы сустракаліся ў Маскве. Купала тады называў мяне “вызваленым”, бо я з вызваленай Заходняй Беларусі... Аднойчы запрасіў на дачу да Кірпоціна. Увесь час, пакуль ехалі, Уладзіслава Францаўна дакарала за ўчарашняе: позна аднекуль прыйшоў! Ён даваў жонцы водпаведзь папольску... Калі выехалі ў поле, немцы пачалі бамбіць горад, а Уладзіслава Францаўна вяла сваё... І от у самы пік сваркі загадаў шафёру спыніцца, адчыніў дзверцы і выгукнуў у неба:

– Анёл Паньскі! Забеж одэ мне тэго д'ябла!..

Часта пытаюць пра купалаўскага шафёра. Ён быў з аўстра-венгерскіх палонных, здаецца... Чалавек даволі дзіўны. Калі пры ім нехта глядзеў на свой гадзіннік, то ён тут жа вымаў свой і казаў:

– Извините за грубость, у меня тоже есть часы!..

Мы жылі ў гасцініцы "Масква". Я з Броўкам у адным нумары. Аднаго разу Купала заначаваў у нас... Раптам сярод ночы пытае:

– Гэта ты, мая Ная?

– Гэта я, дзядзька Янка! – адказаў Броўка.

От і думай, што хочаш...

Яго добра ведалі ў рэстаране гасцініцы, а ў тым рэстаране меўся акварыум з карпамі.

Часам Купала клікаў афіцыянта:

– Братка, зláві мне вунь таго і засмаж!

Афіцыянт лавіў карпа, але, зайшоўшы за калону, выпускаў яго назад у акварыум і, вытрымаўшы час, неабходны для смажання, прыносіў з кухні раней прыгатаваную рыбіну... Хіба праверыш: той карп ці не, але Купала заўсёды быў задаволены...

У першы год вайны лётчыкам уручалі ўзнагароды ў Крамлі, і яны таксама жылі ў гасцініцы "Масква", і ў рэстаране шчодра частавалі сваіх сяброўак, і самі шмат пілі... Было ўсяго, даходзіла й да страляніны, нават спрабавалі пацэліць у акварыум... Патрулі насілу ўпраўляліся з лётчыкамі-героямі, а Купала з любасцю глядзеў на іх...

Грошай у нас было не надта, а неяк аднячасова яны выйшлі і ў мяне, і ў Броўкі, і ў Кучара. Ведаючы, што мы галодныя, Купала запрасіў нас на абед. Па абедзе ж дастаў свой партманет і спакойна гэтак разважыў:

– Кожны плоціць сам за сябе...

Мы з Броўкам на нейкі момант збянтэжыліся, ажно вачыма залыпалі, але "выручыў" Кучар – ён тут жа палез у Купалаў партманет:

– Дзядзька Янка, дык жа ў вас поўна грошай!

Даўшы Кучару разабрацца са сваёй гатоўкай, Купала ўсміхнуўся і падміргнуў нам:

– Што, напалохаліся?!.

...Святкавалі юбілей (35-годдзе творчай дзейнасці песняра. – *Л. Д.-М.*), найшло шмат гасцей, прыехаў Панамарэнка, а сам Купала спазняўся...

– Где же юбиляр? – спытаўся Панамарэнка.

– В печке! – адказаў дырэктар літфонду.

– В какой еще печке?!

Дырэктар тут жа напалохана ўцяміў: не тое сказаў!

Быў упэўнены, што Панамарэнка пытаецца пра юбілейны торт, кулінарны цуд з крамлёўскімі вежамі... Калі з'явіўся Купала, пачаліся бясконцыя тосты, але найбольш запомнілася віншаванне летувіса Антанаса Венцлавы. У шчырым парыве ён збіў рукой на торце чырваназорную вежу. Усе імгненна змоўклі – "Крэмль" застаўся ж без адной вежы! Той, каму трэба, лёгка мог бы падумаць, што Венцлава знарок зрабіў замах на няхай сабе кулінарны, аднак жа Крэмль!.. Праўда, неяк абышлося...

Аднаго разу перад вайной Купала запрасіў мяне ў госці, а я меў пільную работу, не мог сярод дня кінуць усё і паехаць з ім... І от шкадую, што не паехаў...

Ён любіў гасцей і не хаваўся ў сям'і, як гэта часам рабіў Якуб Колас.

Яны розныя былі, таму й пацвяліцца іншы раз маглі – асабліва ў той жа Маскве.

– Каласок, дзе будзеш начаваць?

– А ты дзе, Янаčка?

– У гасцініцы!

– І я ў гасцініцы!

– У якой? – цікавіўся Купала.

– А ты ў якой? – перапытваў Колас.

– Я ў “Маскве”, Каласок!

– Ну, а я тады асталююся ў “Якары”, Яначка!

Праз нейкі час, вядома ж, не паехаўшы ў гасцініцу “Якар”, Якуб Колас завітваў да мастака Елісеева і бачыў у яго вясёлага Купалу, які й не думаў спыняцца ў гасцініцы “Масква”...”

Пра Янку Купалу, ды яшчэ такія жывыя апавяданні, слухаў бы і слухаў, аднак жа я рэдактар, таму зусім трохі пагаварылі і пра “Мой каўчэг” – рукапіс вершаў, які я рэдагую, і сам аўтар ацаніў яго так: сіл пакуль хапіла, і сабраў зборнік, але ці адужаю сабраць новы?

(Перад самай смерцю паэт паспеў падрыхтаваць да друку яшчэ адзін свой зборнік пад назвай “Errata”. *Л. Д.-М.*)

І зноў гаворка пайшла пра пісьменнікаў:

“...Неяк у час вайны Панамарэнка спытаўся ў нас:

– Может, стоит выпустить Андрея Александровича? Похулиганил и хватит?

Лынькоў быў за тое, каб выпусціць. А я сказаў, што не ведаю ўсёй справы, і Панчанка гэтак сказаў... Броўка ж і астатнія былі супраць...”

Тут гаспадар кватэры спытаў, ці можна дадаць у рукапіс новыя творы і разгарнуў тонкі школьны сшытак (у такія сшыткі ён звычайна і занатоўваў свае верлібры), і я, вядома ж, адказаў, што новыя вершы дадаць можна і ў звязку з П. Броўкам і А. Александровічам успомніў “Аповесць для сябе” Барыса Мікуліча, у якой згадваліся такія словы Броўкі: “Мы Александровіча не надта хочам пускаць зноў, паганы ён чалавек...”

Максім Танк ажывіўся:

– У 1948 годзе я спрабаваў у “Полымі” надрукаваць Барыса Мікуліча, ягоны “Жыццяпіс Вінцэся Шастака”, але не далі...

Было бачна, да Б. Мікуліча адчуваў сімпатыю, гаварыў пра яго так, што вось ён, сталінскі вязень, а пісаў у любых умовах, заставаўся творцам заўсёды, як і Ларыса Геніюш, як і Пятро Бітэль...

Пайшла гаворка і пра тое, што П. Бітэль у бараку пераклаў на беларускую мову “Пана Тадэвуша” і праз аднаго паляка, які адседзеў сваё, пераслаў пераклад у Беларускі саюз пісьменнікаў.

Пятрусь Броўка аддаў рукапіс яму, Максіму Танку: маўляў, ты лепей разбіраешся па-польску, так што чытай і параўноўвай!

Высока ацаніўшы пераклад, Максім Танк, тады ўжо лаўрэат Сталінскай прэміі, напісаў невядомаму перакладчыку прыязны ліст.

А што было далей, паведаў мне сам Пятро Бітэль, з ім я сустракаўся ў 1983 годзе ў выдавецтве “Мастацкая літаратура”, калі рэдагаваў ягоную кнігу паэм...

П. Бітэля выклікаў начальнік лагера.

– Вы пасылалі ў Мінск рукапіс?

– Пасылаў...

Дзіва дзіўнае, такі адказ цалкам задаволіў начальніка (і сярод іх людзі сустракаліся!), і ён даў прачытаць ліст.

Прачытаўшы, уражаны вязень знайшоў у сабе сілы папрасіць, каб гэта нечаканае пасланне аддалі яму.

Не аддалі, і тым не менш...

– Як я ўсцешыўся тады! – казаў спадар Пятро. – На мяне пачалі глядзець па-другому, нават на лягчэйшую работу паставілі, бо мне, зэку, напісаў лаўрэат Сталінскай прэміі!..

Я коратка пераказаў Бітэлеў успамін, і Максім Танк памаладзеў:

– А я й не ведаў, што ўсё так добра адбылося! Адно цікава, куды схавалі той ліст?

– Мусіць, ляжыць у справе Бітэля?!

– А, можа, у маёй справе?! – смех царскім чырвонцам бліснуў у яго позірку. – За сваё жыццё я многа пісьмаў па свеце разаслаў, багата ж і атрымліваў... Цяпер загаварылі пра Ларысу Геніюш, а яна вялікая ахвотніца была пісаць лісты! Шмат пісала і да мяне... Часам нешта прасіла, але адну просьбу я не выканаў...

– Якую?

– Дапамагчы выехаць у Чэхаславакію! Не мог зразумець, як гэта можна пакінуць Беларусь!.. Памятаю, як яна адмовілася ад дзвюх пуцёвак у Кактэбель... Мусіць, муж яе настройваў на гэта...”

Дык вось, гэта запіс за 16 красавіка 1993 года; гадзіны тры доўжылася маё гасцяванне-рэдагаванне; на адвітанне ж Максім Танк паказаў пісьмы ад спевака М. Забэйды-Суміцкага і зноў загаварыў пра Янку Купалу, па-сялянску разважыўшы:

– Трэба напісаць пра яго, але як жа пра ўсё напісаць?!

Акцэнт быў зроблены на гэтае таямнічае “ўсё”...

А праз чатыры дні яшчэ раз я пайшоў на вуліцу Кульман.

“*20 красавіка 1993 г.* Зноў у Максіма Танка. Рабілі апошнія праўкі ў кнізе “Мой каўчэг” і, калі ўправіліся, паэт паказаў “Лютню Пушкіна” – зборнік, у якім Юльян Тувім сабраў усе свае пушкінскія пераклады...

– Пасля вайны я быў у Варшаве на днях Міцкевіча. З Рыльскім і Бажаном наведаў Тувіма. Кожнаму з нас ён падараваў па такой кнізе...

– Вы завучваеце свае вершы на памяць?

– Не... А от Пушкіна па-польску магу чытаць на памяць хоць увесь дзень!

– А як адносілася ўлада да Тувіма ў паваеннай Польшчы?

– Здаецца, добра. Ён тады якраз вярнуўся з Бразіліі... Праўда, у палякаў не разбярэш. Часам такога могуць коніка выкінуць! Вачам не верыш! Пра таго ж Міцкевіча, напрыклад, могуць такое панапісваць!..

Я ўжо стаяў у парозе, а ён без ніякай злосці пасмяяўся з нашай моладзі, якая, на яго думку, перабольшвае маштаб Грунвальдскай бітвы:

– Аперацыя “Баграціён” – вось дзе Грунвальд быў! Тут ужо немцам далі дык далі!..

Развітаўшыся з Любоўю Андрэеўнай, якая нерухома сядзела ў інвалідным вазочку, я ўжо выходзіў з кватэры, а ён раптам прамовіў:

– Чэслаў Мілаш сказаў пра паэзію: яна выскоквае з нас, як тыгр...”

Так, я бачыў Максіма Танка ў старасці, але заўсёды хацеў убачыць яго маладым, віленскім, дваццацігадовым, якім ён быў у першую сваю турэмную палову 1930-х.

Як мог, уяўляў той час, пра які паэт напісаў:

"...Я працаваў у падполлі і за ўдзел у рэвалюцыйна-вызваленчым руху быў арыштаваны і сядзеў у вядомай віленскай турме Лукішкі..."

Яго пашпартнае імя – Яўген Скурко – узнікала тады ў паліцэйскіх, пракурорскіх і судовых паперах, а перш за ўсё ў канфіскаваных матэрыялах, з якімі можна пазнаёміцца ў Летувіскім цэнтральным дзяржаўным архіве (LCVA): фонд 129, вопіс 2, справа 2034 і фонд 129, вопіс 2, справа 2227...

11 жніўня 1933 года віцэ-пракурор XIII Віленскага раёна Дамінік Пятроўскі ў сваім абвінаваўчым акце (13 друкаваных старонак!) заяўляў, што жыхар вёскі Пількаўшчына, Мядзельскай гміны, Пастаўскага павета, сын Яна і Дамінікі Яўген Скурко, якому 21 год, абвінавачваецца ў тым, што з 1930-га па 27 траўня 1933 года ў Вільні, у Пастаўскім і Дзісенскім паветах Віленскага ваяводства, а таксама ў Наваградскім ваяводстве, маючы намер гвалтоўна змяніць дзяржаўны лад Польшчы і адарваць частку яе тэрыторыі, узяў удзел у Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ), ведаючы, што гэта партыя складаецца з асоб, якія імкнуцца да азначанай вышэй мэты...

Што й казаць, абвінавачанне вельмі сур'ёзнае!

Віцэ-пракурор падкрэсліў: такое злачынства караецца згодна артыкулаў 97 параграф 1 і 93 крымінальнага кодэкса міжваеннай Польшчы (злачынствы супраць дзяржавы. – *Л. Д.-М.*), і аднатаваў: калі 5 лютага 1931 года ў Тчэве арыштавалі Браніслава Тарашкевіча, то ў ягоных блакнотных нататках была знойдзена характарыстыка на нейкага Скурко: "Смелы хлопец, вучань беларускай гімназіі, адзін раз ездзіў у Слонімскі павет, дзе жыве брат Дварчаніна..."

Д. Пятроўскі асаблівую ўвагу звяртаў на тое, што згаданы Скурко ўваходзіў у шэраг актывістаў, якія непасрэдна праводзілі ў Польшчы дырэктывы кампартыі.

Блакнотныя нататкі Тарашкевіча ў Вільні пераклалі з беларускай мовы на польскую, перадрукавалі, і атрымалася 22 старонкі.

З 1-га і ажно па 23 красавіка 1931 года іх падрабязна вывучыў судовы следчы Язэп Булгак.

На 6 і 7 старонках даваліся кароткія характарыстыкі на кур'ераў; дык вось, на 7 старонцы ў 24 пункце і паведамлялася пра "нейкага Скурко".

У кнізе М. Мікуліча "Максім Танк: на скразняках стагоддзя" змешчана паэтава згадка пра той выпадак:

"...У мяне пачынаўся акт абвінавачання, што... пры пераездзе граніцы ў Тчэве быў арыштаваны Браніслаў Тарашкевіч, у запісной кніжцы якога было пазначана: "Скурко (толькі імя не было) – хлопец дзельны, вазіў літаратуру". А я тады, сапраўды, вазіў літаратуру брату аўтара хрэстаматыі Дварчаніна..."

Лідару "Грамады" паэт прысвяціў твор "Б. А. Тарашкевіч":

Лукішкі.
Ключоў турэмных звон.
Год 1932, здаецца.
Першы павільён.
Паверх трэці.

Калі выводзілі нас
На астрожны двор пракляты,

Мы бачылі яго,
Прыніклага да кратаў,
З рукой, у прывітанні
Ўзнятай...

У 1983 годзе я рэдагаваў кнігу Максіма Танка “За маім сталом” і памятаю: гэты верш уразіў мяне сваім нязвыклым (назаву яго турэмным!) рытмам...

Д. Пятроўскі паведамляў таксама, што ўжо з канца 1930 года паэт належаў да нацыянальна-вызваленчага беларускага руху.

Згадваецца імя паэта і ў лісце Віленскай пракуратуры, адрасаваным 26 лютага 1932 года суддзі Я. Булгаку.

А 8 сакавіка 1932 года старшы пастарункові следчай службы Пятро Блесмановіч дакладваў гэтаму суддзі: з канфідэнцыяльнай інфармацыі вядома, што Яўген Скурко падчас вучобы ў Віленскай беларускай гімназіі належаў да камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі.

Дарэчы, у той жа дзень – 8 сакавіка 1932 года – П. Блесмановіч у якасці сведкі прымаў удзел у справе Б. Тарашкевіча.

Спрытны функцыянер!

Якраз такія спрытныя і амбітныя навадам хадзілі за маладым беларускім песняром Максімам Танкам...

І не толькі за ім.

У дакументальнай аповесці “Было яно калісьці...” Якуб Міско ўспамінае, як Блесмановіч намаўляў яго, вучня Віленскай беларускай гімназіі, здрадзіць свайму настаўніку Ігнату Дварчаніну, прапаноўваў шпіёніць за доктарам філасофіі, — калі ж вучань адмовіўся, даў кухталя і адпусціў.

Даў кухталя і ўсё?

Любы ветэран сталінскай палітычнай паліцыі толькі б усміхнуўся!

Ніякі савецкі вучань не здолеў бы так лёгка адмовіцца ад стукацтва, бо не кухталь яго чакаў, а сама мала — дзесяць гадоў Калымы!

Якуб Міско нават пакінуў і партрэт Блесмановіча: элегантна апрануты, русявы, прычасаны на гладкі прабор і з невялічкімі, вядома ж, як свярдзёлкі, вочкамі...

Але вернемся да Максіма Танка.

Праясню сітуацыю з першым арыштам паэта.

У. Калеснік у кнізе “Паэзія змагання” гаворыць:

“Летам (?) 1932 г. яго арыштавалі...”, а ў кнізе “Зорны спеў” цытуе інфармацыйны камунікат паліцыі № 142: “...дня 2.04.1932 г. зволены з-пад арышту з турмы на Лукішках...”

Тут нехта відавочна памыліўся – ці даследчык, ці пісар, які складаў камунікат, бо атрымалася дзіўная перастаноўка: арыштавалі паэта летам, а выпусцілі вясной, 2 красавіка, усё таго ж 1932 года!

Пазней у кнізе “Максім Танк. Нарыс жыцця і творчасці” У. Калеснік няпэўна ўдакладніў: “...паэта арыштавалі ў сакавіку 1932 года, а ў красавіку звольнілі...”

У новых публікацыях даследчыка замест 2 красавіка з’явілася 11 красавіка, як дзень выхаду з вязніцы, аднак жа і гэтая дата сумніўная.

У лісце У. Калесніку, напісаным у студзені 1978 года, Максім Танк далікатна тлумачыць: “...па нейчай віне... укралася памылка, што я звольнены з турмы 11.04.1932 года. Я тады напярэдадні Першага мая быў арыштаваны. Аб звальненні ў гэты час не магло быць і гутаркі...”

Дзмітры Бугаёў у кнізе “Паэзія Максіма Танка” даводзіць: будучага аўтара “Нарачы” арыштавалі ў красавіку 1932 года.

Мікола Арочка ж у даследаванні “Максім Танк. Жыццё ў паэзіі”, мусіць, каб не памыліцца, наогул не называе ні дзень, ні месяц, ні год першага арышту, а проста кажа пра свайго героя: “...упершыню трапіўшы на Лукішкі...” і г.д.

У сваім цікавым артыкуле “Дзённік – гэта шлях з верставымі слупамі-паказальнікамі...”, які з’яўляецца ўступным словам да 9 тома са збору твораў Максіма Танка ў трынаццаці тамах, Святлана Калядка адзначае, што “... няма архіўных матэрыялаў, на падставе якіх мы маглі бы дакладна ўзнавіць даты арышту і знаходжання Максіма Танка ў турме ў 1932 г. ...”

Аднак жа гэтыя даты павінны быць, і яны ёсць; у абвінаваўчым акце, падпісаным Д. Пятроўскім, знаходжу: 27 красавіка 1932 года Яўгена Скурко затрымалі, а 29 красавіка рашэннем суда 1-й інстанцыі зняволілі.

Сапраўды ж, “...напярэдадні Першага мая быў арыштаваны...”

Прыкладна праз месяц, 24 траўня, арышт замянілі закладам у суме 200 злотых – пра гэтыя 200 злотых, дарэчы, напісалі ці не ўсе танкаўскія даследчыкі.

Калі грошы былі ўнесены (пэўна ж, з партыйнай касы), то 11 чэрвеня 1932 года паэт выйшаў на волю.

У згаданым вышэй лісце У. Калесніку Максім Танк паведамляе, што выйшаў з Лукішак толькі ў ліпені.

У чэрвені ці ў ліпені, але як бы там ні было – паэт не стаў чакаць суда, схаваўся ад паліцыі (некалькі тыдняў знаходзіўся ў БССР), таму былі разасланы гончыя лісты – так зваліся аб’явы пра пошук злачынцаў.

Надышоў 1933 год...

27 студзеня і 16 лютага акруговы следчы суддзя 2-й Віленскай акругі выпісаў паведамленні аб новых гончых лістах на Яўгена Скурко.

Натуральна, яны былі скасаваны, калі 24 траўня 1933 года юнака затрымалі ў Глыбокім, а праз тры дні, 27 траўня, арыштавалі (другі раз!) і змясцілі на Лукішках, у 1-м корпусе, у камеры 89, у якой з 8 верасня 1932 года знаходзіўся Ян Гарэлічонак.

16 ліпеня паэт падаў заяву на імя судовага следчага 1-й Віленскай акругі з просьбай дазволіць яму выпісаць газету “Глос Вільна”.

Бачыце, турмы Язэпа Пілсудскага – не турмы Язэпа Сталіна; у турмах Пілсудскага вязні маглі выпісваць газеты!

Але цікава, чаму менавіта гэта выданне, а не якое-небудзь іншае, захацеў чытаць вязень 89-й камеры?

І, вядома ж, прасіў не “Глос Вільна” Арахоўскага (палітычна-грамадскі тыднёвік, які існаваў у 1920-я гады); прасіў “Глос Вільна” Вітальда-Зыгмунта Гурнісевіча – штодзённую незалежную (!) ілюстраваную газету, якая выходзіла ў пачатку 1930-х.

Так, свой кірунак выданне Гурнісевіча вызначала як незалежны, аднак жа кірунак гэты быў непрыхавана санацыйны!

На чатырох старонках (пазней і на шасці), вялікага фармату (як у “Слова” ці “Кур’ера Віленскага”) і, сапраўды, з ілюстрацыямі – газета пры першым гартанні, кажучы сённяшняй мовай, рабіла ўражанне гламурнага выдання.

Зазначу: такая думка складвалася толькі пры гартанні, а не чытанні!

На сваіх старонках пра сябе часта змяшчала кідкую рэкламу: “Глос Вільна” – самая папулярная газета на ўсходніх землях!”

“Самая папулярная”!

І, мусіць жа, самая танная – адзін яе паасобнік каштаваў 10 грошаў.

Для параўнання: экзэмпляр таго ж “Кур’ера Віленскага” меў цану 20 грошаў, а, скажам, за літр малака ў той час плацілі 40 грошаў...

Газета Гурнісевіча друкавалася ў Віленскай каталіцкай друкарні Казіміра Ляўковіча, што ў Літарацкім завулку, 11, а рэдакцыя знаходзілася на Вастрабрамскай, 17...

Такія “знешнія” дадзеныя, а што да сутнасці, то “Глос Вільна” шмат пісаў пра кіно, змяшчаў партрэты Грэты Гарба ды іншых славутых тагачасных акцёраў, аднак жа (у адрозненне ад “Кур’ера Віленскага”!) нічога не паведамляў пра беларускае жыццё.

Нібыта ў Вільні ніякіх беларусаў і не было!

Газета вяла спрэчкі з Цатам-Мацкевічам, рэдактарам “Слова”, і нападала на камуністаў.

Наогул жа, “Глос Вільна” быў антыкамуністычны, але найбольш антысеміцкі!

Юдафобскія матэрыялы (часам проста жахлівыя!) шырокай і глыбокай плынню разліваліся амаль па ўсіх яго нумарах!

Пан Гурнісевіч і ягоныя журналісты, здаецца, ніколі не стамляліся ў сваім праведным і мэтаімклівым змаганні з “хлуслівымі махабеюшамі” – кідаліся ў сварку з сіяніцкім “Нашым Пшэглёндэм”, узвышалі хрысціянскую этыку над іудаізмам і прадбачвалі ягоную пагібель (канечне, у міжнародным маштабе!), а таксама ж трывожыліся: польскія суды і адвакатура ажно на 80% складаюцца з гэтых самых “махабеюшаў”!

Пан Гурнісевіч і ягоныя журналісты цешыліся: аферыстка Хава Раigх будзе выселена з Польшчы! – і жахаліся: у ліпені 1932 года ў Львове (на вуліцы Лычакоўскай, 60) жыды пабілі лістаношу за тое, што ён у суботу патрабаваў распісацца за дастаўленую дэпешу!

І сапраўды, “Глос Вільна” ў сваім антысеміцкім пафасе быў нястомны, ён паспяваў скрозь – то высмейваў рытуальнае абмыванне дзяўчат у мікве, а то звяртаў увагу Таварыства апекі над жывёламі, што віленскія шлёмы мучаць коней на вуліцы Азёрнай, якая з рыбнага рынку вельмі крута падымаецца на вуліцу Бакшта – коні насілу выцягваюць на Бакшта вялізныя вазы з марожанай рыбай, а шлёмы неміласэрна хвошчуць іх пугамі!

Вядома ж, віленскія беларусы, летувісы, палякі ці тыя ж стараверы ніколі сваіх коней пугамі не хвасталі!

І, вядома ж, хрысціяне ніколі не падманвалі дзяўчат, а вось нейкі Хаім Давідсан (калі верыць “Глосу Вільна”!) удаваў з сябе пазнанскага графа і, уводзячы ў зман даверлівых варшаўскіх паненак, заваблівал іх у падазроныя памяшканні і там рабаваў іх...

“Глос Вільна” мужна папярэджваў сваіх чытачоў: у Польшчы жыве найбольш, чым дзе ў Еўропе, габрэяў – 3 мільёны 125 тысяч!

Маўляў, пільнымі будзьце!

Спасылаючыся на нямецкую (значыць, дакладную!) статыстыку, газета нагадвала: у свеце каля 15 мільёнаў габрэяў; у Еўропе – 9 мільёнаў 785 тысяч; у Савецкім Саюзе – 2 мільёны 870 тысяч; у Румыніі – 800 тысяч; у Нямеччыне – 585 тысяч; у Чэхаславакіі – 380 тысяч; у Брытаніі – 300 тысяч; у Аўстрыі – 220 тысяч; у Летуве – 167 тысяч; у Францыі – 160 тысяч; у Галандыі – 120 тысяч; у Латвіі – 96 тысяч; у Грэцыі – 73 тысячы; у Югаславіі – 67 тысяч; у еўрапейскай частцы Турцыі і Балгарыі – 50

тысяч; у Італіі і Бельгіі – 45 тысяч; у Швейцарыі – 18 тысяч; у Гданьску – 9 тысяч; у Швецыі – 6 тысяч; у Даніі – 5,5 тысячы; у Эстоніі – 5 тысяч; у вугальным басейне Саар – 4,5 тысячы; у Іспаніі – 3 тысячы; у Партугаліі – 2,5 тысячы; у Фінляндыі – 1 тысяча 800; у Люксембурзе – 1 тысяча 750; у Нарвегіі – 1 тысяча 450...

Напрошваецца выснова: найбольш пашанцавала нарвежцам, бо ў іх толькі паўтары тысячы габрэяў!

І то без пяцідзесяці душ!

Але самую запамінальную юдафобскую публікацыю Гурнісевіч змясціў у 246 нумары, за сераду, 14 верасня 1932 года.

У гэтым нумары можна прачытаць, што ў адным з паморскіх мястэчак гаспадары на сваіх крамах напісалі: “Жыдам уваход забаронены!”

Пакрыўджаныя габрэі прасілі бургамістра пакараць крамнікаў, аднак жа галава мястэчка даў такую водпаведзь:

– У гэтым учынку хрысціян не бачу ніякага злачынства!

Пакрыўджаныя настойвалі на сваім, тады бургамістр параіў:

– А вы на сваіх крамах яшчэ большымі літарамі напішыце: “Палякам уваход забаронены!”

Учынак паморскіх крамнікаў “Глос Вільна” назваў патрыятычным і нават пажадаў, каб надпісы “Жыдам уваход забаронены!” з’явіліся на крамах па ўсёй Віленшчыне.

Як бачна, у нянавісці да людзей суботы, як і ў нянавісці да камуністаў, “Глос...” Гурнісевіча бег па віленскім бруку нават паперадзе Гітлера...

І вось такую газету (у дадатак яшчэ і абыякавую да беларускага жыцця!) захацеў выпісаць камуніст беларус Яўген Скурко, у душы якога не было і кроплі юдафобства.

Дык чаму ж менавіта гэта выданне прагнуў мець у вязніцы?

Магчыма, такое заданне атрымаў ад турэмнага камітэта, а магчыма таму, што “Глос Вільна” быў таннейшы за іншыя віленскія газеты...

А яшчэ можа быць і такі адказ: выданне Гурнісевіча шмат пісала пра кіно, а Максім Танк, як вядома, у маладыя гады быў вялікім прыхільнікам кіно!

Чытаць за кратамі пра любімы род мастацтва – значыць, мець у турме хоць нейкую асалоду!

Аднак жа напрошваецца і такое тлумачэнне (назаву яго дыпламатычным): выпісваючы санацыйную газету, вязень Яўген Скурко хацеў увесці ў зман адміністрацыю і тым самым аблегчыць свой лёс – маўляў, глядзіце, панове, жадаю чытаць ваша выданне; выходзіць, не такі ўжо я і “выўратовец”!

Аднак жа, здаецца, начальства не паддалося гэтай хітрасці!

Але аб усім па парадку.

Дык вось, 16 ліпеня 1933 года Яўген Скурко падаў заяву – палова аркушыка з вучнёўскага сшытка ў клетку.

Варта падрабязна апісаць гэты дакумент...

На першай старонцы – авальная пячатка турэмнай канцылярыі: “Атрымана 17 ліпеня 1933 г.”, а на адвароце начальнік Лукішак 20 ліпеня прыпісаў: “Вязень Скурко салідарызуецца з вязнямі камуністамі і паводзіць сябе нездавальняюча”.

Атрымаўшы з такой выразнай прыпіскай заяву, судовы следчы 26 ліпеня пераслаў яе віцэ-пракурору XIII Віленскага раёна – то бок, Д. Пятроўскаму.

27 ліпеня заява легла на віцэ-пракурорскі стол, аднак жа Д. Пятроўскі ніякай рэзалюцыі не пакінуў.

Мусіць жа, падумаў: раз Яўген Скурко салідарызуецца з камуністамі, то не варта патураць яму, скажам, даваць дазвол на падпіску нават праўрадавай газеты!

Варта згадаць тут і такі факт: 17 ліпеня, на другі дзень пасля падачы гэтай заявы, паэта выклікалі на допыт...

31 жніўня ў 3-ці крымінальны аддзел Віленскага акруговага суда быў дасланы абвінаваўчы акт.

2 верасня завялі крымінальную справу – Яўгена Скурко абвінавачвалі паводле артыкула 97 параграф 1 у звязку з артыкулам 93.

8 верасня старшыня суда даў справе ход.

Праз чатыры дні, 12 верасня, кіраўнік сакратарыята 3-га крымінальнага аддзела адправіў на Лукішкі копію абвінаваўчага акта і тлумачэнне аб парадку падачы скаргаў.

13-га чысла паэт атрымаў гэтыя дакументы, а 18-га падаў новую заяву – зноў палова аркушыка ў клетку – у акруговы суд з просьбай дазволіць прачытаць акты сваёй справы.

На тытуле заявы – авальная пячатка: “Атрымана 18 верасня 1933 г.”, а на адвароце пазнака – 19 верасня начальнік турмы (ужо без ніякіх прыпісак!) перадаў заяву па прызначэнні, і назаўтра яна была зарэгістравана ў судовай канцылярыі.

У выніку на тытуле дакумента з’явіліся дзве рэзалюцыі – верхняя: “Выклікаць. 25.09.1933 г.” і ніжняя, відаць, больш пэўная: “Выклікаць на 27.09.1933 г.”

Тым часам разаслалі й позвы на судовы разбор, прызначаны на 6 лістапада...

На разбор выклікаўся сам абвінавачаны Яўген Скурко і сведкі Ян Касяк (на той час таксама лукішскі вязень), Апалінары Мальчэўскі (чыноўнік следчага аддзела) і выдавец доктар Усевалад Шыран (позву яму ўручылі 21 верасня ў мястэчку Лужкі Дзісенскага павета)...

Доктар Усевалад Шыран – асоба ў Заходняй Беларусі даволі вядомая.

Д. Пятроўскі паведамляў, што ў лютым 1932 года У. Шыран задумаў заснаваць у Вільні беларускі “Часопіс для ўсіх” (выданне КПЗБ).

Яўген Скурко даведаўся пра намер У. Шырана ад студэнта Яна Касяка і прапанаваў для друку свае творы – “Песня Ігната”, “Шахцёры”, “За работай”, “Трынаццаць”, “Качагары”...

Пазней у дзённіку (запісана 8 студзеня 1935 года) Максім Танк згадваў: “... “Часопіс для ўсіх”... так хутка быў канфіскаваны паліцыяй, што я нават не паспеў панюхаць, як пахне друкарская фарба маіх першых надрукаваных твораў...”

У якасці сведкаў паклікалі ў суд і будучую жонку паэта Любоў Асаевіч, а таксама ж яе сястру Соф’ю; позвы ім даставілі на адрас: Вільня, вуліца Букавая, 14.

Трэба думаць, сёстраў не было дома, таму 20 верасня пасланец уручыў дзве павесткі іхняй непісьменнай маці – у графе “podpis” жанчына двойчы паставіла алоўкам тры крыжыкі...

Паводле Д. Пятроўскага, Яўген Скурко жыў на вуліцы Букавай у доме 14 з 1929 года; у розныя часы там з ім перабывалі Мікалай Сіцько, Сяргей Скурко, Ян Гарэлічонак...

Ноччу з 11 на 12 красавіка 1932 года паліцыя абшукала дом і ў пакоі Соф'і...

Дарэчы, Соф'я была вядомая Браніславу Тарашкевічу; праўда, пішучы пра Соф'ю, лідар "Грамады" называў яе Зояй: "...Асаевічанка Зоя – аграномія – санацыя..." – што, напэўна, значыла: дзяўчына вучылася на агранома і не належала да камуністычных арганізацый!

Дык вось, у пакоі Соф'і пад шафай паліцыя знайшла два паасобнікі адбітага на шапірографе часопіса "Пралом" № 2 з датай "Люты 1932 г.", а таксама рукапісы:

1. Верш "Заштрайкавалі гіганты-коміны", падпісаны: "Максім Танк";

2. Верш "Гаротнікі абудзіліся", датаваны 20.01.1932 г. і падпісаны: "Арсень Граніт" (адзін з ранніх псеўданімаў паэта. – *Л. Д.-М.*);

3. Артыкул "Замест прадмовы", змест якога падобны на змест артыкула "Ад рэдакцыі", змешчанага ў 2-ім нумары "Пралому";

4. Апавяданне пра перажыванні беспрацоўнай Манькі...

Соф'я заявіла, што не ведае, хто ў яе пакоі хаваў часопіс "Пралом", аднак заўважыла: да яе часта заходзілі кватаранты Яўген Скурко і Мікалай Сіцько...

На адной з вокладак "Пралому" быў надпіс па-беларуску: "На памяць ад рэдакцыйнай калегіі "Пралому" 2 красавіка 1932 г.", і пазней каліграфічная экспертыза паказала: гэта рука Яўгена Скурко.

27 красавіка 1932 года пшадоўнік Леан Гансяроўскі зноў пératрос дом на Букавай, асабліва пакой Яўгена Скурко і Мікалая Сіцько.

Немагчыма не здзівіцца: за два тыдні хлопцы нічога не схавалі!

Зусім нядбалыя былі, ці што?!

Гансяроўскі выявіў шмат выданняў і камсамольскіх цыркуляраў, вершаваныя рукапісы камуністычнага зместу, а таксама ведамасці-справаздачы, багатыя на лічбы, даты, падрахункі і скарачэнні – напрыклад, "Док" (Докшыцы), "Дун" (Дунілавічы), "См-нь" (Смаргонь), "Гр" (Гродна), "Ві" (Вільня) і г.д.

Усё гаварыла аб тым, што Яўген Скурко і Мікалай Сіцько – актыўныя камсамольцы!

Крамольныя паперы, напісаныя (зноў жа на думку Д. Пятроўскага!) Яўгенам Скурко, сведчылі пра час і колькасць разасланых адозваў, як і сведчылі пра тое, што Яўген Скурко разам з Серафімам Лаворам з сярэдзіны снежня 1931 года кіраваў выпускам падпольных матэрыялаў...

3-ці крымінальны аддзел Віленскага акруговага суда (старшыня – Сянкевіч, суддзі – Жанеўскі і Драц, пратакаліст – Гжымкоўскі ў прысутнасці віцэ-пракурора Д. Пятроўскага) засядаў два дні – 6 і 7 лістапада 1933 года.

На лаве падсудных апынуліся – Серафім Лавор (21 год), Ян Гарэлічонак (27 гадоў), Сяргей Скурко (22 гады), Уладзімір Хвалько (30 гадоў), яго брат Міхал Хвалько (28 гадоў), Мікалай Сіцько (19 гадоў) і Яўген Скурко (21 год).

Маладых беларусаў судзілі за ўдзел у змове пад назвай "Камуністычная партыя Заходняй Беларусі".

Абвінавачанне па тым часе, можна сказаць, трафарэтнае!

Віну самага старэйшага Уладзіміра Хвалько суд прызнаў недаказанай.

Астатніх засудзілі на розныя тэрміны турэмнага зняволення, на восем гадоў пазбавілі публічных і грамадзянскіх правоў, а таксама ж кожны мусіў быў заплаціць 320 злотых судовых выдаткаў.

Суд за так не судзіў!

Праўда, суд адзначыў: хто без грошай (а без грошай, трэба думаць, былі ўсе!), за таго можа заплаціць са свайго скарбу дзяржава!

Яўген Скурко дастаў шэсць гадоў турмы...

Даследчыкі не раз адзначалі: на Лукішках Максім Танк выпускаў часопіс "Краты" і складаў рыфмаваныя творы.

Нядаўні вучань меліярацыйных тэхнічных курсаў, ён меў добры почырк і ўмеў карыстацца рознымі шрыфтамі, таму турэмны камітэт неаднойчы даручаў яму перапісваць грыпсы.

Паэт называў грыпсамі астрожныя вершы, У. Калеснік – таемную перапіску палітвязняў, Янка Брыль у нарысе "Сэрца камуніста" паведамляў, што грыпсы – гэта шыфраваныя запіскі (аднак жа, заўважу, не заўсёды яны шыфраваліся!), а даследчыкі Т. Барысюк і М. Барташэвіч удакладняюць: гэта запіскі з турмы ці ў турму.

Слова "грыпсы" паўплывала на лёс і творчасць Максіма Танка істотным чынам!

У "Зорным спеве" У. Калесніка чытаю:

"...Чацвёртага лютага 1934 года... лукішскі наглядчык Аляксандр Трухан знайшоў у вентыляцыйных люках 175 камеры тайную перапіску палітвязняў, так званыя "грыпсы". Там былі перапісаныя песні "Мы пожара всемирного пламя", "Слезами залит мир безбрежный" і фрагмент паэмы (правільнасць яе назвы ўдакладню пазней. – *Л. Д.-М.*) "Як бог гуляў на ігрышчы"..."

А вось як пра гэты выпадак напісаў Максіму Танку 4 лістапада 1961 года летувіскі журналіст Ёнас Каросас:

"...1934.2.17. тюремный сторож Трухан Александр в камере 175, в которой сидели студент Фейгенберг Давид и Фейгельман Ицек, в вентиляции под парашкой нашли (так у лісце; вядома ж, трэба чытаць не "нашли", а "нашел". – *Л. Д.-М.*) грипсы..."

У прыведзеных урыўках супадае нумар камеры, імя і прозвішча наглядчыка, і тое, што ён знайшоў, а менавіта – грыпсы, і дзе знайшоў – у вентыляцыі; урэшце, супадае год – 1934-ты, супадае месяц – люты, аднак жа не супадае дзень.

У. Калеснік піша пра 4-га, Ё. Каросас пра 17-га, а грыпсы былі знойдзены 14-га чысла.

Цяжка сказаць, на якія дакументы абапіраўся У. Калеснік, калі пісаў пра 4-га лютага; лягчэй растлумачыць, чаму памыліўся Ё. Каросас.

Ён, пэўна ж, чытаў рапарт начальніка турмы, накіраваны 17 (!) лютага пракурору Віленскага акруговага суда.

Думаю, што дзень адпраўкі рапарту міжвольна быў прыняты летувіскім журналістам за той дзень, калі былі знойдзены злашчасныя паперкі.

Між тым, у рапарце цвёрда гаварылася: грыпсы (усяго пяць) Трухан знайшоў менавіта 14 лютага, за што вязняў камеры 175 на чатыры тыдні пазбавілі права атрымліваць харчовыя пасылкі.

Гэты ж дзень (14 лютага) адзначае ў сваім наказе і Д. Пятроўскі, калі 28 лютага даручыў кіраўніку Віленскага следчага аддзела вывучыць грыпсы і выявіць, хто з'яўляецца іхнім аўтарам.

І ў сваім пазнейшым "узасадненні" (абгрунтаванні), якое злажыў 28 верасня 1934 года, Д. Пятроўскі зноў жа называе 14 лютага як дзень выяўлення ў 175 камеры забароненых рукапісаў...

12 красавіка 1934 года Д. Пятроўскі, паўтарыўшы сваё ранейшае распа-

раджэнне, паставіў перад кіраўніком следчага аддзела больш акрэсленую задачу:

1. Узяць узор почырку Іцка Фейгельмана і Давыда Фейгенберга;

2. Правесці графалагічную экспертызу з мэтай вызначыць аўтара (ці аўтараў) знойдзеных грыпсаў;

3. Дапытаць як сведку Аляксандра Трухана...

У той жа дзень, 12 красавіка, А. Трухан з'явіўся да старшага пастарунковага следчай службы Тадэвуша Пладоўскага.

Карэнны віленчук, трыццацігадовы А. Трухан жыў на вуліцы Вітольдавай, у 42-м доме займаў 9-ю кватэру; пісаўся палякам, хадзіў да касцёла і ніколі не быў пад судом...

Чалавек яшчэ малады, але забыўлівы, і гэта акалічнасць вельмі важная для ўсёй справы!

Дазорац паказаў: у лютым 1934 года аднаго (?) дня ён праводзіў агляд камеры 175...

Заўважу: мінула ўсяго два месяцы, а ён ужо не мог успомніць, што аглядаў названую камеру менавіта 14 лютага...

Паводле А. Трухана: вязняў у камеры не было; Давыд Фейгенберг знаходзіўся ў судзе (запомнім гэта!), а Іцак Фейгельман на шпацыры (таксама запомнім!).

Дык вось, у пустой кутузцы турэмны вартаўнік выпараў з вентыляцыйнай продухі жмут папер і сярод іх знайшоў пяць грыпсаў, а таксама ж картку з надпісам "Давыд Фейгенберг" (такія карткі з прозвішчамі вязняў звычайна ўкладваліся ў кошык з харчамі, якія прыносілі ў турму родныя зняволеных).

У сваім пратаколе Т. Пладоўскі адзначыў, што ў час допыту, каб спраўдзіць, тая картка ці не, ён не паказаў А. Трухану картку з надпісам "Давыд Фейгенберг", бо яна недзе згубілася!

Камічная дэталька!

На паказаныя ж пяць грыпсаў А. Трухан сказаў, што гэта менавіта тыя грыпсы, якія ён выявіў у лютым (!) 1934 года ў камеры Іцка Фейгельмана і Давыда Фейгенберга...

Тады ж, 12 красавіка, узялі ўзор почырку і дапыталі ў якасці падазроных вязняў 175 камеры...

Студэнт Універсітэта Стэфана Баторыя, сын Гірша і Рахілі Давыд Фейгенберг нарадзіўся ў Вільні ў 1910 годзе, жыў на вуліцы Вакзальнай, дом 11, кватэра 10, з'яўляўся памочнікам дырыжора, а ў турме апынуўся згодна знакамітага артыкула 97, параграф 1...

Пра пяць грыпсаў, якія ляжалі на стале Т. Пладоўскага, вязень сказаў, што бачыць іх першы раз!

Даў яшчэ і такое тлумачэнне: гэта сам Трухан паведаміў яму, што знайшоў менавіта ў вентыляцыі нейкія паперы і, хаваючы іх за спінай, спытаўся ў яго: "Гэтыя грыпсы ты пісаў?" – а ён, вязень, адказаў, што ніякіх грыпсаў не пісаў і наогул не мог бачыць, што канкрэтна хавае ад яго дазорац...

Гэта паказанне якраз і выяўляе "арыгінальнасць" памяці Трухана.

Аказваецца, падчасператрусу вязень Д. Фейгенберг знаходзіўся не ў судзе, як сведчыў Трухан, а ў сваёй камеры...

І з І. Фейгельманам Трухан памыліўся!

Пра гэтага вязня даводзіў, што знаходзіўся ён (памятаем!) на шпацыры, аднак жа І. Фейгельман у той час, калі ў камеры быў ператрус, чытаў у судзе акты сваёй справы...

Як і яго таварыш па няшчасці, Іцак Фейгельман таксама ж заявіў Т. Пладоўскаму, што згаданыя пяць грыпсаў не пісаў і не ведае, хто іх напісаў і схаваў у вентылятары...

Чалавек веры Майсеевай, сын Лейбы і Сары Іцак Фейгельман жыў у мястэчку Лужкі Дзісенскага павета – дарэчы, як і доктар Усевалад Шыран.

Нарадзіўся Іцак у 1903 годзе, скончыў тры класы гімназіі, сем гадоў рабіў на бракоўцы лесу, а 22 лютага 1934 года Віленскі акруговы суд засудзіў яго на чатыры гады турмы згодна ўсё таго ж артыкула 97, параграф 1...

У пратаколе ўзору почырку вязень вельмі прастадушна аднатаваў:

"...Был под судом за коммунистическую деятельность... Отсидел до сих пор семь месяцев и... сидеть еще три года и пять месяцев. Отец умер в 1927 году в лесу от болезни склероза сердца. Находясь в тюрьме, никакой деятельности не совершаю... По-польски писать не умею..."

Вядома ж, узяўшы пад увагу, што Фейгельман па-польску не піша, графолаг Ігнацы-Леан Другаль, а 12 красавіка ён быў і пратакалістам, папрасіў вязня накрэсліць у пратаколе ўсе літары расійскага алфавіта, прычым двойчы (вялікія і малыя), а таксама ж усе арабскія лічбы (рымскія лічбы чамусьці не трэ было!), і нават загадаў накрэсліць габрэйскія літары (іхні пісьмовы варыянт).

Д. Фейгенберга, дарэчы, крэсліць габрэйскія пісьмовыя знакі Другаль не прымушаў – толькі расійскія і арабскія лічбы, зноў жа без рымскіх, і прапанаваў па-расійску і па-польску напісаць некалькі біяграфічных радкоў.

Па-свойму цікавы і той факт, што І. Фейгельмана засудзілі 22 лютага – недзе праз тыдзень пасля таго, як Трухан знайшоў грыпсы...

Выконваючы пракурорскае распараджэнне, 27 красавіка супрацоўнікі следчага аддзела дзяржайнай паліцыі места Вільні ўжо вядомы нам Т. Пладоўскі і пратакалістка-машыністка старшы пшадоўнік Яніна Падгайская зрабілі агляд рэчавых доказаў са справы №. XIII. DS. 105/34 (справа І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга), пераклалі грыпсы на польскую мову, падрабязна іх апісалі і склалі пратакол (тры поўныя друкаваныя старонкі і трынаццаць радкоў на чацвёртай старонцы).

Скажу наперад: 15 верасня 1934 года Д. Пятроўскі пастанавіў: апісаныя ў пратаколе прадметы далучыць да справы Яўгена Скурко ў якасці рэчавых доказаў.

Вось гэтыя "прадметы":

1. Рэвалюцыйная песня на расійскай мове "Мы пажару сусветнага полымя..." крэслена атрамантам на кавалачку паперы, узятай з акта абвінавачання Віленскага акруговага суда; апошнія радкі чытаюцца цяжка.

2. Верш на расійскай мове "Слязамі заліты свет бязмежны..." напісаны стылізаваным почыркам на бібуле.

3. Верш па-беларуску "Як бог гуляў на вечарыне" мае падзагаловак: паэма апостала; рукапіс на разлінеенай паперы, узятай, пэўна, з нататніка; на чацвёртай старонцы намаляваны Бог і падпісана: "Бог палошча галіфэ".

4. Польскамоўны тэкст "З газеты. Дварчанін..." выведзены атрамантам на белай паперы ў клетку і завершаны іншымі чарнiламі і рукой: "...з "Кур'ера Віленскага" ад 26 студзеня 1934 г."

Тут заўважу: сапраўды, тэкст спісаны з газеты "Кур'ер Віленскі" (№ 24, пятніца, 26 студзеня 1934 г.).

На 2-й старонцы гэтага нумара змешчаны артыкул "Беларуская трагедыя ў Саветах", падпісаны літарай F.

Гэта крыптанім Францішка Аляхновіча!

Аўтар паведамляе: у Вільні з’явілася камуністычная брашурка, у якой надрукаваны “прызнанні” Дварчаніна, Рака-Міхайлоўскага, Бурсевіча, Кахановіча; беларускія палітыкі “прызналіся” ў тым, што супрацоўнічалі з польскай палітычнай паліцыяй.

Гэтыя “прызнанні” (дзікунская творчасць сталінцаў!) і склалі змест грыпса, мэта якога (і брашуркі наогул) відавочная: у вачах лукішскіх вязняў зганьбіць лідараў беларускага нацыянальнага руху.

Вось, напрыклад, “паказанне” Бурсевіча:

“Я быў тайным агентам польскай дэфензівы ў чэрвені 1926 года. Даваў звесткі аб тым, што робіцца ў “Грамадзе”, а таксама ў КПЗБ. За гэта штомесяц мне плацілі да самага майго арышту ў студзені 1927 года 300 злотых. Дэфензіва абяцала дапамагаць маёй сям’і на працягу майго знаходжання ў турме. І сапраўды, Дварчанін амаль кожны месяц выплачваў маёй сям’і 150-200 злотых. У 1930 годзе ў Вільні падчас нарады пастанавілі: калі паміж Польшчай і СССР пачнецца вайна, а яна планавалася на восень 1933-га або на вясну 1934 года, я разам з Ракам-Міхайлоўскім, Мятлой ды іншымі павінен быў падрыхтаваць у БССР усё, каб вынік вайны быў на карысць Польшчы...”

Ф. Аляхновіч спачувае нашым палітыкам і не верыць, што, напрыклад, выпускнік Пражскага ўніверсітэта, доктар філасофіі Ігнат Дварчанін быў шпіком, аднак жа гэтых спачувальных разваг у грыпсе няма...

Апошнім, пятым “прадметам”, далучаным да справы Яўгена Скурко, быў спіс на расійскай мове турэмнай ежы.

Гэты грыпс на польскую мову не пераклалі і падрабязна не апісалі; у пратаколе сказана толькі, што дакумент накрэслены алоўкам на папяроснай гільзе з двух бакоў.

На адным баку пазначаны стравы на чатырнаццаць дзён з нядзелі да суботы наступнага тыдня, а на другім – названа ежа на дзесяць дзён з нядзелі да аўторка новага тыдня.

Калі ўчытацца ў гэты спіс, то можна даведацца, што на Лукішках у нядзелю кармілі фасоляй і заціркай, у панядзелак – капустай і крупамі, у аўторак – гарохам і морквай, у сераду – гарохам і, здаецца, макаронай, у чацвер – фасоляй і крупамі, у пятніцу – крупамі і капустай, у суботу – гарохам і бручкай.

У наборы страў наступнага тыдня, акрамя вышэй названага, былі яшчэ буракі, селядцы і грэчка.

Але чамусьці нідзе не называлася бульба і нічога не гаварылася пра мяса і хлеб?!

Праўда, не ўсе словы ў невялічкім рукапісе ясныя, нават лупа не памагла разабраць іх, таму, трэба думаць, у нечытэльных радках пісалася якраз пра бульбу, мяса і хлеб...

А тым часам лукішская служба не спала.

У лісце Ё. Каросаса (тым самым, ад 4 лістапада 1961 года) ёсць абзац:

“...1934.4.30 во время обыска в связи с 1 Майем у Лагуна Бр. в кармане был наден грипс...”

Сапраўды, 30 красавіка 1934 года аспірант турэмнай аховы Тадэвуш Бараноўскі, абшукваючы 162 камеру, знайшоў у вязня Браніслава Лагуна грыпс на польскай мове.

Засуджаны на пяць гадоў згодна артыкулаў 97 і 93, Б. Лагун чакаў перагляду сваёй справы ў апеляцыйным судзе...

5 траўня начальнік турмы Ян Чакала паведаміў пра знаходку пракурору Віленскага акруговага суда, адзначыўшы: вязня Б. Лагуна за хаванне грыпса на тры тыдні пазбавілі права мець харчовыя пасылкі...

Параўнаю: за гэткую ж правінку вязняў 175 камеры пакінулі без хатняй яды на чатыры тыдні.

Пэўна, так сталася таму, што ў 175 камеры знайшлі ажно пяць грыпсаў.

А вось раней за такое каралі слабей: так, 20 лютага 1926 года за напісанне трох старонак у справе стварэння турэмнага камітэта вязень Ісер Мільнер быў пазбаўлены спатканняў і хатняга харчу ўсяго толькі на сем дзён...

Б. Лагун сядзеў у адной камеры з Яўгенам Скурко і Янам Гарэлічонкам, а грыпс, выяўлены Бараноўскім (дарэчы, імя і прозвішча аспіранта накрэслена алоўкам наўскос на рапарце Чакалы), – дык вось, грыпс, выяўлены аспірантам Бараноўскім, заклікаў да гвалтоўнай змены палітычнага ладу ў Польшчы і называўся “1-га Мая”.

Цікава, менавіта 1 мая (1 траўня) была перагледжана справа Серафіма Лавора, Яна Гарэлічонка, Сяргея Скурко, Міхала Хвалько, Мікалая Сіцько і Яўгена Скурко.

Паводле У. Калесніка:

“...Віленскі апеляцыйны суд... перагледзеў справу. Танку далі два гады турмы ўмоўна... Праседзеўшы год на Лукішках, 1 мая 1934 года Максім Танк выйшаў на волю...”

Разам з ім выпусцілі і Мікалая Сіцько, які, як высветлілася, быў канфідэнтам!

Аналізуючы гэты факт, Анатоль Сідарэвіч сказаў: такая была практыка, канфідэнта заўсёды выпускалі разам з падпольшчыкам, каб у вачах падполля цень недаверу падаў на іх вызваленага таварыша...

А гісторыя з канфідэнтам вартая асобнага апавядання!

Сын Антона і Марыі Мікалай Сіцько з’яўляўся жыхаром вёскі Малыя Эйсмонты Мала-Бераставіцкай гміны Гродзенскага павета.

У выраку акруговага суда сказана: Сіцько арыштавалі 12 траўня 1933 года, а ў выраку апеляцыйнага суда – 12 траўня 1932 года.

Памылка ці гаворка пра два розныя арышты?

Магло быць і два!

Напрыклад, яго суседа па кватэры на Букавай Яўгена Скурко за гэты час двойчы бралі пад варту; нагадаю: 29 красавіка 1932 года і 27 траўня 1933 года!

Аднак жа калі паверыць у версію, што Сіцько арыштоўвалі два разы, то выходзіць, другі раз яго ўзялі роўна праз год (ну, проста дзень у дзень!) – 12 траўня!

Такое магчыма?

Магчыма.

Аднак жа дакумента, з якога вынікала б, што так і было, у мяне няма, таму думаю: Сіцько бралі ўсё ж такі адзін раз і менавіта 12 траўня 1933 года.

Тут хутчэй за ўсё памыліўся пратакаліст апеляцыйнага суда (нейкі стажор Дабкус), бо інакш выходзіць: канфідэнт паўтара года чакаў у камеры разгляду сваёй “справы” ў акруговым судзе, а калі ўзяць пад увагу разбор у апеляцыйнай інстанцыі, то бедны памочнік паліцыі цярпеў усе два гады!

Нешта не верыцца ў гэта, а больш верыцца ў тое, што па загаду свайго камісара Сіцько адседзеў без двух тыдняў год.

Але як бы там не было, усё адно шкада яго, дзевятнаццацігадовага...

Кажучы тагачаснай судовай мовай, са студзеня 1932-га і Сіцько ўзяў (!) удзел у змове пад назвай “Камуністычная партыя Заходняй Беларусі”, за што й быў пакараны 7 лістапада 1933 года акруговым судом на тры гады турмы.

У сваёй апеляцыйнай скарзе прасіў, каб яго апраўдалі, і прызнаўся, што быў функцыянерам следчага аддзела ў Наваградку і меў заданне ад камісара Лабяка ўвайсці ў давер да камуністаў, а калі атрымаецца, то ўступіць і ў кампартыю.

У яго, вядома ж, спыталіся, чаму раней не прызнаўся ў гэтым?

Бедны Сіцько тлумачыў:

– У акруговым судзе я пра гэта не заявіў, бо тады на разбор не з’явіўся камісар Лабяк!

Наіўнае тлумачэнне!

У акруговым судзе Сіцько ў сваю абарону нічога не сказаў, бо хутчэй за ўсё меў цвёрды загад маўчаць і ў якасці інфарматара заставацца за кратамі.

А калі зрабіў сваю работу і, мусіць жа, удала, тады яго пашкадавалі, – дазволі ў судзе вышэйшай інстанцыі “прызнацца”.

Вось тады й камісар Антоні Лабяк прыйшоў у гэту інстанцыю...

Дарэчы, Янка Брыль у тым жа сваім нарысе “Сэрца камуніста” пісаў пра гэтага камісара, што ён не проста начальнік ваяводскай дэфензівы ў Наваградку, а ён – вядомы кат...

Дык вось, як сведка Антоні Лабяк паказаў: сапраўды, Мікалай Сіцько дапамагаў навагрудскай следчай управе; звесткі, якія здабываў ён, былі каштоўныя; самога ж яго не назавеш зацятым камуністам (велікадушна тлумачыў камісар!), бо Сіцько ўвайшоў у кампартыю з ведама паліцыі, і ў такім сваім званні мог мець і нелегальную літаратуру, якую да свайго арышту проста не паспеў перадаць уладзе...

Мусіць жа, гаворка тут і пра тыя камсамольскія цыркуляры, якія 27 красавіка 1932 года выявіў пшадоўнік Леан Гансяроўскі...

І нейкі Бітнер (таксама сведка) далажыў апеляцыйнаму суду, што Сіцько пачаў супрацоўнічаць з паліцыяй прыблізна з канца 1930 года, і для яго, Бітнера, няма нічога дзіўнага ў тым, што Сіцько як інфарматар належаў да КПЗБ...

А калі так, калі прыналежнасць да КПЗБ несапраўдная, калі няма доказаў адносна ідэйнай далучанасці да партыі камуністаў, то суд пастанавіў: Мікалая Сіцько апраўдаць!

Не лішне заўважыць: сістэма польскага суда не заўсёды была накіравана на абвінаваўчы прысуд!

Тут яшчэ цікава і тое, што пасяджэнне вялося адкрыта, і ўсе такім чынам даведаліся, хто ён такі – Мікалай Сіцько!

Але няўжо дэфензіва не магла нішкам вызваліць свайго агента, каб і надалей скарыстоўваць яго ў аператыўнай рабоце?

Вядома ж, магла, але мэту мела іншую, а менавіта: выставіць з нядобрага боку Яўгена Скурко – то-бок, апраўдаць яго разам са сваім памагатым і разам выпусціць з турмы ў адзін і той жа дзень!

Няхай зласліўцы паціраюць рукі: ага, дык жа выпусцілі разам з дэфензіўшчыкам!

Тады, 1 траўня 1934 года, 1-шы крымінальны аддзел Віленскага апеляцыйнага суда засядаў у такім складзе: старшыня – Ядзевіч, суддзі – Ілын

і Матусевіч, а пратакаліст, імя якога ўжо згадвалася, – стажор-юрыст Дабкус.

Пасяджэнне адбывалася ў прысутнасці віцэ-пракурора Гвірыні...

Удакладню пастанову ў дачыненні да Яўгена Скурко: два гады турмы з адтэрміноўкай выканання прысуду на пяць гадоў і 120 злотых судовых выдаткаў.

Пашанцавала юнаку!

З шасці гадоў адседзеў толькі год, што дакументальна не зусім нават ясна засведчана, але пра гэта пазней...

Сяргею Скурко шэсць гадоў зменшылі да трох, а Серафіму Лавору нічога не зменшылі – пакінулі шэсць; Яну Гарэлічонку і Міхалу Хвалько таксама ж пакінулі ранейшы вырак – 5 гадоў...

Так, сябры паэта засталіся за кратамі, і судовай аплаты ім прысудзілі зусім не 120 злотых!

Кошты ўзраслі!

За дзве інстанцыі (акруговую і апеляцыйную) з Сяргея Скурко спаганялі 240 злотых, а з М. Хвалько, С. Лавора і Я. Гарэлічонка па 960 злотых з кожнага!

Грошы вельмі вялікія!

Адначасова суд пастанавіў: названыя асуджаныя (у тым ліку і адпушчаны Яўген Скурко!) абавязаны супольна аплаціць усе судовыя выдаткі...

Словам, у каго якая доля...

Дык вось, паэт пакінуў крэпасць 1 траўня 1934 года, а праз два тыдні, 13 чысла, яго аднакамернік Ян Гарэлічонак (зноў жа ахвяра 97 артыкула) падаў пракурору XIII раёна пры акруговым судзе ў Вільні (усё таму ж Д. Пятроўскаму!) заяву, у якой прасіў дазволіць яму падпісацца на газету “Слова” або на “Газету Варшаўску”.

Заяву сваю Я. Гарэлічонак пісаў ужо не ў 162 камеры, а ў 188-й, якая знаходзілася ў першым лукішскім “павільёне”...

У “Лістках календара” ёсць пра сябра спачувальныя радкі, занатаваныя 20 лютага 1935 года:

“...Вечарам пайшоў да Мажуцаў. Сустрэў у іх бацьку І. Гарэлічонка. Стары бедаваў, што сына яго на Лукішках зусім скавала экзэма. Ходзіць, казаў, увесь абкручаны бінтамі, толькі вочы блішчаць. З І. Гарэлічонкам я некалькі месяцаў сядзеў у 89-й камеры. Ён ужо тады быў цяжкахворы. Ад сырых і сцюдзёных астрожных муроў у нас ва ўсіх балелі і пухлі суставы пальцаў...”

Дык вось, вязень Гарэлічонак падаў заяву віцэ-пракурору Д. Пятроўскаму.

Аналагічнае прашэнне Максім Танк пісаў (памятаем!) на імя судовага следчага, і ўжо той перасылаў яго Д. Пятроўскаму.

На адвароце заявы Я. Гарэлічонка начальнік турмы, як мае быць, прыпісаў, што вязень салідарызуецца з камуністамі, і 16 траўня дакумент апынуўся ў віцэ-пракурора...

А перад гэтым, 14 траўня 1934 года, Д. Пятроўскі даручыў кіраўніку Віленскага следчага аддзела расследаваць справу №.XIII.DS.279/34 – справу Браніслава Лагуна і Яўгена Скурко.

Грыпс, выяўлены ў Б. Лагуна, віцэ-пракурор адразу ж звязаў з асобай паэта і загадаў: 1. Дапытаць у якасці сведкі стражніка, які знайшоў грыпс; 2. Даследаваць грыпс; 3. Узяць узор почырку ў падазраванага Яўгена Скурко;

4. Правесці графалагічную экспертызу, каб вызначыць, ці напісаны гэты грыпс Яўгенам Скурко...

Каб ход экспертызы зрабіць лягчэйшым, Д. Пятроўскі прыклаў да свайго распараджэння заяву ад 16 ліпеня 1933 года – так, тую самую, у якой паэт прасіў дазволіць яму выпісаць “Глос Вільна”.

Пракурорская выснова была простая: калі падазрэнне пацвердзіцца, тады Яўгена Скурко затрымаць, даставіць да судовага следчага 2-й Віленскай акругі, дапытаць і ўжыць меру стрымання – часовы арышт на два месяцы...

Такія клопаты былі ў віцэ-пракурора 14 траўня, калі ён пачынаў справу №.XIII.DS.279/34.

А праз два дні, 16 чысла, Д. Пятроўскі, як ужо адзначалася, атрымаў заяву Я. Гарэлічонка.

Настрой у санацыйнага зубра відавочна змяніўся; ён пасылае кіраўніку Віленскага следчага аддзела новы ліст, якім часткова скасоўвае сваё распараджэнне адносна затрымання Яўгена Скурко і пераключае ўвагу следчага аддзела на вязня Я. Гарэлічонка.

Д. Пятроўскі загадвае ўзяць узор почырку ў Я. Гарэлічонка і правесці графалагічную экспертызу, каб даведацца, ці не ён аўтар рукапісу “1-га мая”; да свайго загаду, зноў жа дзеля паскарэння ходу экспертызы, віцэ-пракурор прыклаў вышэйзгаданую заяву Я. Гарэлічонка.

Мяркуючы па ўсім, Д. Пятроўскі не шкадаваў ні сябе, ні свайго часу!

Згодна анкеты: сын Дамініка і Анэлі, каталік, несудзімы (!), жыхар дома 2, што на віленскім пляцы Магдалены, а перш за ўсё ён – нястомны служка закону і майстар апавядаць...

У сакавіку 1928 года, маючы адно 28 гадоў, быў кіраўніком аддзела бяспекі Віленскага ваяводства і ў якасці сведкі выступаў на “Працэсе 56-ці”.

На сёмы дзень гэтага знакамітага разбору, у панядзелак, 12 сакавіка, заявіў:

“...Праграма “Грамады” заклікае да сацыяльных бітваў... “Грамада” – з’ява камуністычная і мае міжнародны характар... Паміж статутамі кампартыі і “Грамады” шмат агульнага! Скарыстоўваючы лозунг Камінтэрна і Крэстінтэрна “Тварам да вёскі!”, трэці з’езд польскай кампартыі пастанавіў арганізаваць беларускі вызваленчы рух! А КПЗБ усё зрабіла, каб знішчыць групу Ярэміча і Рагулі і падтрымаць “Грамаду”...”

Паясню пра згаданую групу.

Беларускія палітыкі дэпутаты польскага сейма Фабіян Ярэміч і Васіль Рагуля ў 1925 годзе стварылі антыкамуністычную партыю “Беларускі сялянскі саюз”.

Вядома, новая партыя была варожа ўспрынята камуністамі, а таксама грамадоўцамі, якія, на жаль, у большасці сваёй знаходзіліся пад уплывам чырвонага Менска.

Ці не кожны дзень чытаючы агентурныя звесткі, Д. Пятроўскі шмат ведаў пра дзейнасць беларускіх арганізацый і з нейкага моманту тады, 12 сакавіка 1928 года, выступаў ужо як эксперт.

На гэта звярнуў увагу адвакат Смяроўскі; ён так і заявіў суду, што сведка Д. Пятроўскі прамаўляе менавіта як эксперт, а не як сведка, і што абарона сама здатная прааналізаваць праграму “Грамады”.

Суд, параіўшыся, не прыняў пратэст адваката, і Д. Пятроўскі працягваў:

“...Рост “Грамады” – гэта рост злачынства... У пяці паветах Віленскага

ваяводства за бандытызм узята пад варту 257 асоб. Цэнтральны Камітэт "Грамады" тлумачыў павятовым сваім камітэтам, што злачынствы патрэбны дзеля справы!.. А яшчэ "Грамада" засылала сваіх агітатараў у войска і тым самым спрабавала дэмаралізаваць армію..."

Не баючыся інтэлігенцкіх папрокаў у юдафобіі, Д. Пятроўскі страшыў публіку і тым, што ў акцыях "Грамады" бралі ўдзел габрэі.

З вуснаў кіраўніка аддзела бяспекі ляцела:

"...На мітынгу ў віленскім кінатэатры "Геліёс" 8 жніўня 1926 года пасол Тарашкевіч выступіў з антыдзяржаўнай прамовай. Жыды-камсамольцы зладзілі Тарашкевічу авацыю і рушылі ў калоне па Вільні, спяваючы парасійску "Інтэрнацыянал"..."

Д. Пятроўскі паспяваў скрозь.

Ён, дарэчы, першы дапытаў у шпіталі "Святога Якуба" Сяргея Прытыцкага.

Як вядома, 27 студзеня 1936 года С. Прытыцкі страляў у Віленскім судзе ў правакатара Стральчука, пры ўцёках быў цяжка паранены паліцыяй, і як толькі хірург Ахматовіч зрабіў яму аперацыю, то ў шпіталь тут жа прыехаў Д. Пятроўскі разам з судовым следчым па справах выключнай важнасці Скіндарам.

Д. Пятроўскі ўмеў нагнаць страху, і, мяркую, Максім Танк зусім невыпадкова згадаў яго ў самым пачатку (!) "Лісткоў календара":

"Мне і сённяшні дзень трэба было б вырваць і знішчыць, хоць і шкада, бо ён быў запоўнены незвычайнымі сустрэчамі, думкамі, марамі. Але каб усё гэта не паслужыла пачаткам для новага опуса пана пракурора Д. Пятроўскага..."

Гэтыя радкі паэт натаваў 7 студзеня 1935 года, а 27 траўня 1934 года Д. Пятроўскі ў прысутнасці Т. Пладоўскага ўзяў у паэта, зноў падазраванага, узор почырку.

Пратакол вёў Т. Пладоўскі.

Пасля біяграфічных звестак Яўген Скурко ўласнаручна аднатаваў, што ніколі не належаў да гуртка Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры (гурток дзейнічаў у Вілейскім павеце), а таксама ж ніколі не быў у мястэчках таго павета Параф'янаве і Даўгінаве.

Пэўна ж, ведалі, што падазраваны не ўваходзіў у гурток згаданага інстытута (антыкамуністычнай арганізацыі!), аднак жа спыталі – для выгляду і з мэтай папоўніць калекцыю ўзораў почырку!

А што да названых мястэчак, то заўважу: восенню 1932 года паблізу Даўгінава Яўген Скурко перайшоў польска-беларускую мяжу, а Параф'янава на той час было не ў Вілейскім, а ў Дзісенскім павеце...

Д. Пятроўскі падключыў да работы і пшадоўніка П. Блесмановіча.

Нагадаю: 8 сакавіка 1932 года старшы пастарунковы следчай службы П. Блесмановіч дакладваў па камандзе пра камсамольства Яўгена Скурко.

І вось П. Блесмановіч, ужо пшадоўнік следчага аддзела, выконваючы пракурорскае даручэнне, паклікаў графолага Ігнацы-Леана Другаля і даў яму на вывучэнне ананімныя рукапісы – "Дзень 1-га Мая", "З газеты. Дварчанін..." і "Як бог гуляў на вечарыне".

У пратаколе падкрэслена, што грыпс "Дзень 1-га Мая" (напомню: канфіскаваны ў вязня Б. Лагуна) напісаны па-польску чорным атрамантам на шматку паперы ў клетку.

У сваёй "апініі" Другаль адзначыў: грыпсы накрэслены вопытнай у

пісарстве рукой, якая аднолькава ўпэўнена можа чытэльна і прыгожа выводзіць лацінскія і кірыліцкія літары.

Почырк старанна стылізаваны.

Тэмп крэслення вольны, графіка пісьмовых знакаў своеасаблівая, бо націск у пісьме "скача", ён даволі нераўнамерны – асобныя літары пісаны слабым націскам пяра, іншыя – нечакана моцным!

Другаль звярнуў увагу і на такую асаблівасць: гарызантальныя рыскі ў рукапісах добра пазначаны, а рыскі вертыкальныя і кропкі ледзьве бачныя; літары ж выведзены не адным неадрыўным рухам, а некалькімі рухамі – з адрывам пяра ад паперы.

Параўнаўшы графіку турэмных запісак з рукой Яўгена Скурко, графолаг выснаваў: тэхніка, дынаміка, такт почырку і напісанне асобных літар – аднолькавыя!

Нахіл почырку, частотнасць пропускаў паміж радкамі, структура і памер літар таксама аднолькавыя!

У якасці прыкладу падаў пісьмёны "M", "d", "D", "K", "k", "N", "W", а таксама доўгія літары "g", "y", "p", літары з гарызантальнымі рыскамі "Ɨ", "t" і форму акругленняў у пісьмёнах "o", "a", "d".

Як бачна, паэту не пашанцавала – паэта злавілі на гарачым!

Шчыра шкадуючы яго, не магу не здзівіцца майстэрству і нейтральнасці, бесстароннасці Ігнацы-Леана Другаля!

Графолаг з вуліцы Кошыкавай (у Вільні жыў на Кошыкавай, 14, кв. 1) трымаўся дакладнасці!

Скажам, калі Ян Гарэлічонак не пісаў грыпсаў, то Другаль у яго почырку ўбачыў толькі прыблізнае падабенства з почыркам грыпсаў.

А такое падабенства можна было ўбачыць у манеры пісьма любога вязня, бо грыпсы свядома стылізаваліся пад нейкую агульнаканцылярскую графіку!

Каб у яго заказчыкаў (Д. Пятроўскага і П. Блесмановіча) канчаткова адпалі сумненні адносна ўдзелу Я. Гарэлічонка ў стварэнні падрыўной літаратуры, Другаль давёў, што ў ананімных рукапісах "Дзень 1-га Мая", "З газеты. Дварчанін...", "Як бог гуляў на вечарыне" і ў аўтографах Яўгена Скурко напісанне літар "a", "o", "d" пачынаецца пераважна з левага боку знака, а ў Я. Гарэлічонка пераважна з правага!

Дык вось, 2 ліпеня 1934 года графолаг заключыў: прапанаваныя яму на экспертызу рукапісы накрэслены рукой не Я. Гарэлічонка, а Яўгена Скурко, і ў той жа дзень на імя Д. Пятроўскага падаў заяву, у якой прасіў заплаціць яму за работу дванаццаць злотых.

Назаўтра, 3 ліпеня, П. Блесмановіч папрасіў даследаваць пяць рукапісаў са справы №.XIII.DS.105/34 (справа І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга).

Прысутнічала пратакалістка Я. Падгайская.

Параўнаўшы пяць рукапісаў з пробамі пісьма згаданых вязняў, Другаль выснаваў: грыпсы крэсліў не адзін чалавек!

У песні "Мы пажару сусветнага полымя..." і ў вершы "Слязамі заліты свет бязмежны..." эксперт убачыў адну руку.

Паэма "Як бог гуляў на вечарыне" і тэкст "З газеты. Дварчанін..." (адмысловец яшчэ раз пераканаўся) маюць характар почырку Яўгена Скурко.

А набор турэмных страў (графолаг зрабіў дапушчэнне) занатаваны Д. Фейгенбергам.

Другаль заўважыў: пісьмо І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга вольнае

ад стылізацыі, ад наўмыснага перакручвання літар; вязням уласцівы той вуглаваты почырк, які ад прыроды ўласцівы габрэям...

І гэтым разам Ігнацы-Леан Другаль адпрацаваў як мае быць і ў той жа дзень, 3 ліпеня, склаў прашэнне на дзесяць злотых.

Дзве ягоныя просьбы Д. Пятроўскі разгледзеў 13 верасня (праз два месяцы і дзесяць дзён) і пастанавіў: за экспертызу па справе №.XIII.DS.279/34 заплаціць восем злотых (Другаль хацеў атрымаць дванаццаць!), а за экспертызу па справе №.XIII.DS.105/34 – дзесяць злотых; у той жа пастанове Д. Пятроўскі прасіў старшыню Віленскага акруговага суда распарадзіцца адносна аплаты...

Дарэчы, калегі Другаля мелі самыя розныя ганарары.

Віленскі графолаг Нікадэм Качор (з вуліцы Даміниканскай, 8) займаўся мікрафатаграфіяй, а ў сферы графалогіі і экспертыз з'яўляўся прысяжным судовым экспертам.

Дык вось, 16 красавіка 1932 года пан Качор даследаваў почырк Б. Тарашкевіча і за дзве гадзіны працы папрасіў у суддзі Я. Булгака чатыры злотыя...

А 10 ліпеня 1934 года...

Заўважу, прыкметная дата – у гэты дзень Сталін пераніцаваў АДПУ ў НКУС.

Пакуль яшчэ не ведаючы такой "слаўнай" навіны, 10 ліпеня 1934 года старшы пастарунковы следчага аддзела дзяржаўнай паліцыі места Вільні Язэп Пясецкі (Якуб Міско таксама яго згадвае ў сваёй аповесці!) і, як сведкі, супрацоўнікі следчага аддзела Апалінары Мальчэўскі і Ігнацы Бучкоўскі...

Да слова сказаць, Бучкоўскі разам з паліцыянтам Дайноўскім страляў і цяжка параніў С. Прытыцкага, калі той уцякаў па судовых лабірынтах тады, 27 студзеня 1936 года...

Дык вось, Мальчэўскі і Бучкоўскі даследавалі грыпс "Дзень 1-га Мая".

Толькі адзін гэты грыпс.

Можна падумаць: такім выбарачным кантролем правяралася праца Другаля!

Зрэшты, ні Я. Пясецкі, ні ягоныя функцыянеры графолагамі не былі, іхняя "экспертыза" толькі да таго й звялася, што тэкст лістоўкі (камуністычны і з гэтай прычыны антыдзяржаўны!) быў акуратна без ніякіх каментарыяў перанатаваны ў пратакол ад першага сказа да апошняга.

Выйшла ад рукі тры старонкі і яшчэ на чацвёртай – чатырнаццаць радкоў.

Вось пачатак: "Дзень 1-га Мая, як дзень міжнароднага змагання пралетарыяту і салідарнасці, быў упершыню абвешчаны на 1-ым кангрэсе 2-га Інтэрнацыянала ў Парыжы ў 1889 годзе..."

А вось апошнія радкі: "Супраць фашыстоўскай дыктатуры! За Польскую Савецкую Рэспубліку! ...Пад такімі лозунгамі будзе змагацца пралетарыят усёй краіны пад сцягамі Кам. Партыі..."

Такая палітграмата, пэўна ж, стварала вязням святочны настрой.

Цікава адзначыць: на першай старонцы лістоўкі ў правым ніжнім кутку рука невядомага чыноўніка вывела алоўкам прозвішча "Лагун" – як напамін аб тым, у каго быў знойдзены недазволены тэкст...

*18 снежня 2012 г, аўторак, 23 г. 54 хв.; Менск.*

*Працяг будзе.*

Юрка Голуб



...Не стане здзек правадыром,
Не будзе ласкаю пагарда...

# Дыярыюш

***ДРАМА***

Ішоў насуперак нячаста,
У служках роздум не трымаў,
Ахвяра ўласнага няшчасця,
А шчасця ўвогуле – трунар.

Адбеглых дзён зусім не шкода.
Наступных, мабыць, не шкада.
Не душыць сны адчаю коўдра,
Як пойму чорная вада.

Пляцак паклажы нехлямяжы.
На плешы пара – будзь здароў!
Ніхто вытокі не адмажа
Таму, хто вынік запароў.

Наглуха весніцы задрайма,
Дзе павуціну век віе.

Саўдзельнік жорсткі нашай драмы
І наглядальнік для свае.

### ФАРБА

Бы святочным аплаткам,
Час аблокам знікаць.
Іх нябеснаму статку –
Грэх – з зямлі замінаць.

Да падвоблачнай столі
Ці дапнецца крыло...
Трону, тоесна стойлу,
Рады голы кароль.

Дзе зарок караніцца
У курганнай траве,
Скамянела крыніца
І наўрад ажыве.

У прадонне падання,
Як у бездань нябёс,
Ападалі не здані –
Лёсы метчык атрос.

Паслядоўнікі змовы,
Далакопы крыніц.
Статус іх адмысловы:
Абсякаць карані.

І на шарых абшарах
Здзірванелых эпох
Сам сябе абцяжарыў
Той, хто зло перамог.

Жытку, з бровара быццам,
Павялі пад вянец.
Як на тое забыцца...
Быццам свету канец...

### УРОКІ

Натоўпу з’ехала страха,
Калі штыкамі зблізу гразілі.
Хапаў каменне нарасхват
І драў і глотку, і грудзіну.

Таптала роспач тратуар,
Дзе сцяг абвуглены зацяўся.
І крыжавала жахам твар,
А шкло хрумсцела пад абцасам.

Не стане здзек правадыром,
Не будзе ласкаю пагарда.
А час, абліччам не здароў,
Злавесна бліскае кукардай.

Заве да бунту недарод,
А бунт ахвочы біць – не ладзіць.
Найлепш хавацца за народ,
Калі бярэ народ уладу.

На скрыжаванні злых эпох
Стаяла помнікам дубіна,
І хілы кланяўся, як мог,
Каб, Бог бароніць, не дабіла.

І пастулатаў справавод,
І дырыжор усіх граматык
Вучылі паству з года ў год
На мове шаблі і гарматы.

Паўстала памяць на дыбы.
Трашчыць зняверу мост гарбаты.
Зямлю бароняць не дубы –
Пад імі злеглыя салдаты.

У малалецтва ў ружах дні.
Над дзецьмі гіцаль не галёкаў.
Яшчэ з-за партаў не відны
Іх белалобыя галоўкі.

## *НЯБЫТ*

На ўздыме дня, зыходзе ночы
Раку закручвае нябыт,
Забыць пра збеглае ахвочы
І здатны прышлае набыць.

Не патураючы нябыту,
І мніх якраз дае наказ:
Куды аднойчы лез капытам,
Не пніся зноўку, багамаз.

Бо там не чутны люду пошум,
Заўчасна знішчаны дызайн.
Дарэмна крыж шукае Богша,
Як паратунку партызан.

Наставіў морду прасцірадлам:
Жандар піхае ў склеп ахвяр,
Дзе гвалт арудуе прыкладам
І слепне ў роспачы ліхтар.

За непадступным частаколам,
Як пёс з галоднае буды,
Калі і зыркае хто-кольвек,
Дык яўна, з выгляду, бандыт.

Там не відаць сяйва на полі.
У небе птахі не чуваць.
Калі і п’юць, дык побач з пойлам
Пад плотам прагнуць начаваць.

А здасца ўлезці ў лёх пячорны
І звесці вока ў той надзел:
Там лезе чорнае па чорным
І толькі белага – нідзе...

А племя наскага – набіта!..
Жыло – не верыцца – на збыт...
...На шпулю нітачка навіта:
Яе – што плюнуць – перабіць...

## *БУРКУН*

Да рыштоку піхае
Час аздобы парэшткі.
Бэсцяць, значыцца, брэшуць:
Бэста – рух эпахальны.

Да крыніц накірунак
Пазасмечвалі. Потым
Вунь сумёты самоты
Растапталі на руні.

Фанабэрыста рады
(Ён жа – творца, прабачце!)
Выкраў крыжык прабабчын
На аблуду, як здраднік.

Дзе званы паскідалі,
Звоніць ціша нямая.
Дых раптоўна займае:
Словы мрояць складамі.

Марна ўвышкі дапяцца
З вокамерам прыдольным:
З праўдай знацца няздольны.
Глотку гвалцяць паяцы.

Бісер поту не высах:
Знойдуць маршалы шанцы?
З іхным жэзлам у ранцы
Свішча голубу вісус.

***ПЕРАЗОВЫ****

Тэлефануе Мальдзісу Караткевіч
(і намёку няма на веліч)
Ды пытае: – Аднак, стары,
Бог Адама з чаго стварыў
З пагалоскай, што ён – твой цёзка?
Не скрану з пагалоскі й коску!

Тэлефануе Караткевічу Мальдзіс,
Запыт той каб грунтоўна спраўдзіць:
– Як... перш-наперш... чаму... навошта?
(Пераходзіць пасля на пошапт)
На кавалкі мяне парэж –
Але высветлю, ў рэшце рэшт!

Тэлефануе Мальдзісу Караткевіч:
– Кінь драбноту, якое безліч.
Бач, твой цёзка на пару з Евай
Сталі роўненькія пад дрэвам.
Змей прамовіў: “Вам яблык дам,
Выбар твой наступіў, Адам!”

Тэлефануе Караткевічу Мальдзіс,
Як баец з брыгад Гарыбальдзі,
Сам рашучы з рашучай нотай:
– Быць найпершым няма ахвоты!

---

* *Верш спісаны з адвольных здагадак аўтарапаводле кнігі Адама Мальдзіса “Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча”.*

Першаісны Адам!.. Вігвам...
Мне з Завосся бліжэй Адам.

Тэлефануе Мальдзісу Караткевіч:
– От дзівак жа ты, Мальдзісевіч!
Нам – не леташнім снегам стаць –
Трэба міфамі абрастаць!
...Ды раптоўна засмягла ў роце,
Як абрыў на жывучым дроце...

## ВЯСКОВЫ ДЫЯРЫЮШ

Згубіла след віхлясты плётка:
Няма, маўляў, святла з вакон.
Вунь вяз распесціўся ля плота –
Амаль тутэйшы фараон.

А там, дзе кузня край красала,
Падкову гнуў у крук метал,
Цяпер прыезджаму карсару
Падносяць чэрці капітал.

Захраз гарбуз на агародах.
Сквірчыць свірэпай далягляд.
Бывала: бусел быў гаротным...
Непажаданым? Дык наўрад!

Дзе для Тадоркі і Адаркі
Давала ніва ўсмак дары,
Кароў цураюцца даяркі,
Даярак – збаўце – даяры.

Панчоху, поўную грашыма,
Жады рука не зберагла.
Звялі традыцыю на шыла,
А шылле носяць на рагах.

Пад'юдзяць: Бач! Паскудзіць вёску
Хвалёнай рыфмы паслугач.
А сам ля смачнага кіёска
Не ёй на любасць прысягаў?

Калі спакусам і прыкусам
Хапала водару ад град,
Дык ён з хаўрусам, як распуснік,
Не раз здзяйсняў туды напад.

Але, сястрыцы і братове,
Былое спрахла. І пасля
Вунь вёска зноў напагатове
Саломку ніцым падаслаць.

### ***КАЮК***

Наверх заглядваў верхагляд
І ніца жмурыўся відушчы,
Калі лупіў у бубны лад,
Што неўзабаве стаў задушным.

Загналі шпаркага нашчэнт,
А валацугу расцуглялі.
Змагліся рупары вішчэць,
Каб пыл паўстаў, як мур цагляны.

Сагнулі волатаў у крук
І распрамілі рэк вясёлкі.
А чмут з мянушкаю Каюк
Урэзаў маршык на свісцёлцы!

## Макс Шчур



...верагодна, сапраўднае каханне
ёсць толькі формай нянавісці
да ўсіх астатніх людзей,
апрача аднаго-адзінага чалавека...

# Газетчык

***Аповесць****

Паўлу Х.

*Ahora desprŭcieme.*
*Borges, "La forma de la espada"*[1]

С е р а д а

**I.**

Цела на падлозе было ўжо нічыйным. Прыклеенае да яе густым сургучом чырвонай лужыны на выпадак, што надумаецца ўстаць, яно выдавала апошнюю праўду аб сабе — смурод, які сведчыў, што раней яно належала не багіні, а жанчыне. Дзіўна было бачыць яго тут, незапатрабаваным — здавалася, хтосьці вось-вось мусіць па яго прыйсці і забраць да анёлаў. Пры жыцці цела зарабляла мільёны. Відавочна, не раней за некалькі гадзінаў таму

* *Часопісны варыянт.*

[1] Цяпер — пагарджайце мною *(ісп.)*. Борхес, "Форма шаблі".

пачаўся нястрымны захад яго кар'еры, якому наканавана працягвацца яшчэ некалькі месяцаў. Невядома, хто насервіраваў яго тут для вачэй на чырвонай сурвэтцы, нібы ў дарагой рэстарацыі — але зрабіў ён гэта з пэўным густам, без здзеку. Позірк шырокіх вачэй спыніўся на разгалістай жырандолі з таннага шкла на пяць паверхаў вышэй — дзякуючы ёй у апошнія імгненні ахвяра зноў магла паражыць Каляды. Ейныя вочы яшчэ плакалі ад такога шчасця. Бэнгта палохала не цела, а шахматная падлога ў шэра-белую клетку, якая адпавядала ўзору на спадніцы нябожчыцы — такую ж падлогу ён паспеў вобмільгам пабачыць у сваім сённяшнім сне, які быў яшчэ карацейшым, чым звычайна.

— Кава, Бэнгт, — сунуў яму ў руку цёплы зялёна-белы пластык паліцыянт. — Бедная Вікі.

— Твая знаёмая? — здзівіўся Бэнгт.

— Жартуеш? — скасавурыўся на яго паліцыянт. — Гэта Вікі Родзіч. Не глядзіш рэкламу?

Бэнгт падцяў вусны, нібы пакрыўджанае дзіця.

— Бачыў той білборд на ўездзе ў горад? Жаночая бялізна?

— Я ўжо даўно нікуды не выязджаў.

— Яна, можна сказаць, уратавала мой шлюб.

— Ага. Тады віншую.

Нягледзячы на ранні час, дом быў на нагах. З калізея лесвічнага прахону ўніз на крывавую арэну глядзела некалькі заспаных твараў. Бэнгт баяўся, каб якую жанчыну не званітавала згары проста на рэчавы доказ. Вось высунулася ў шчыліну дзвярэй, упрыгожаных іменнай шыльдачкай, спадарыня Ёнсан з першага паверха — не паспела яна паздароўкацца й задаць адзінае магчымае ў такой сітуацыі пытанне, як Бэнгт звярнуўся да ўсіх:

— Шаноўныя, просьба вярнуцца ў свае кватэры і нікуды не выходзіць, — нечакана моцнае рэха ўласнага голасу падалося яму камічным. — Неўзабаве мы прыйдзем да вас пагутарыць і адкажам на ўсе вашыя пытанні, а вы, спадзяюся, — на нашыя. Дзякуй.

— Бэнгт, мы адамкнулі кватэру. Хочаш зірнуць?

— Іду. Ласэ, пакуль я не вярнуся — нікога не выпускай, зараз прыедзе экспертыза. Хай агледзяць таксама парэнчы на ўсіх паверхах.

— Калі ўжо ў гэтых старых дамах усталююць ліфты... — паскардзіўся на задышку стары паліцыянт, Элмар.

— Тут не так даўно душы ўсталявалі, — сказаў Бэнгт.

— Хадзіць на такіх абцасах пешкі пяць паверхаў уніз-угару — нядзіва, што паслізнулася, — выказаў асцярожнае меркаванне паліцыянт-каванош, Драган.

— Ты галоўнае да парэнчаў не дакранайся, — параіў яму Бэнгт, якому не надта хацелася верыць, што яго ўспёрлі з ложка дзеля гэтага здарэння.

Кватэра ў старым доме была абсталяваная, як і варта было чакаць, звышсучасна. Асаблівага парадку ў ёй не было, але на ўварванне чужынца не выглядала: штосьці падобнае Бэнгт быў звыклы бачыць штодня ў пакоі дачкі, калі тая была шчэ тынейджэркай. Некалькі вялізных фотаздымкаў на сценах нагадалі яму, што ён сапраўды бачыў гэты твар раней, у нейкім жончыным часопісе. Ложак у спальні быў неразасланы — ахвяра дома не начавала.

— Нічога цікавага, — падсумаваў Бэнгт. — Хадзем апячатваць.

— А вось гэта? — паказаў пальцам Драган у кухню, на мноства пустых пляшак з-пад розных гатункаў віскі.

— Відаць, наведнікаў мужчынскага полу тут хапала, — пацiснуў плячыма Бэнгт.

— Можа й так, але таксама можа быць, што таблоіды не хлусяць — яна сапраўды піла.

— Ты што, нейкі ейны фанат? — раздражніўся Бэнгт. — Тады варта даручыць гэтую справу табе.

— Ты сур'ёзна, шэф? Мне толькі скажы! Расследаваць смерць такой знакамітасці ды яшчэ й такой красуні... Хто б адмовіўся?

— Тады пачні з апытання суседзяў. Што, калі, чулі, не чулі... І галоўнае — даведайся, хто з іх тэлефанаваў.

— Добра, — без энтузіязму азваўся Драган.

— Насупраць знаходзяцца металічныя дзверы, што вядуць на страху. Забойца мог уцячы праз іх — можа, варта было б далучыць сабаку...

— Я іх адразу праверыў, шэф — запэўніў Драган. — Яны замкнёныя на ключ з гэтага боку — тырчыць у дзвярах. Значыць, забойца ўсё-ткі выйшаў праз першы паверх... Калі, вядома, наагул быў нейкі забойца.

— А, яшчэ... — перарваў яго Бэнгт. — Выглядае, што яна жыла адна — але нейкі сталы партнёр у яе быў?

— Вядома, — буркнуў Драган. — Свэн Эклюнд, гоншчык.

— А, гэтага я ведаю. Дзякуй.

## 1.

Я працую ўначы не таму, што мне не падабаецца жыць удзень ці што я не магу спаць па начах, як той таксі-драйвер, а проста таму, што на момант свайго працаўладкавання яшчэ дрэнна быў ведаў тутэйшую мову, каб займацца якой іншай працай, апроч фізічнай. Пасля — проста прызвычаіўся. Да майго пераезду сюды я непрацяглы час вучыўся ва ўніверсітэце, на адной малапрыдатнай у замежжы гуманітарнай спецыяльнасці. Тры гады таму мне прапанавалі выехаць на заробкі знаёмцы — з маёй біяграфіяй знайсці працу дома было амаль немагчыма. Нават з выездам былі праблемы. Назад я ўжо не вярнуўся. Памятаю, мне з першага погляду спадабаўся горад. Такім я калісьці, у ранейшым жыцці, уяўляў сабе Нью-Ёрк: простыя вуліцы, высокія дамы, шмат рознакаляровага люду ў цэнтры.

Сам горад утвараюць, па сутнасці, дзве скрыжаваныя вуліцы: вуліца Караля й вуліца Каралевы, асвянчанае лютаранскай царквою сужожжа, з якога паходзіць усё астатняе. За стагоддзі гэты крыж аброс архітэктурным мохам, але так і не стаў “каменнымі джунглямі”. Цяпер горад узяты ў аблогу раскватараваных наўкол тэрцыяў эмігранцкіх раёнаў, наёмных ваякаў капіталізму, якія час ад часу любяць паўставаць — праз падземныя хады метро, падобнага да сеткі дагістарычных пячораў, у цэнтр падвозіцца выбухоўка. Горад хутка капітулюе, але штосьці яшчэ трымае яго пры жыцці. У яго, як і ў кожнага цэнтру былой імперыі, толькі двое хаўруснікаў — мора і неба. Неба, апісанае мясцовымі класікамі і, паводле іх жа, заселенае анёламі, і мора, канцэнтрычна апісванае й засеранае чайкамі. Пасярод затокі ўзвышаецца карабель, які ніколі яе не пакідаў — антытэза “лятучаму галандцу” й напамін пра божую кару тым, хто будзе мець неасцярожнасць вырачыся пацыфізму.

Як чалавек з сухапутнай краіны, я заўжды марыў жыць у горадзе каля мора. Скрыжаванне мора і неба, яшчэ адна сістэма тутэйшых каардынатаў, у выніку дае не толькі прыемны клімат, але і штосьці накшталт ілюзіі бясконцасці, нібыта калі адно люстэрка паставіць насупраць другога. Праз гэта ўзнікае адчуванне, што мора і неба папросту зашмат: усё, што збудаванае чалавекам, выглядае на іхнім тле драбнавата, павярхоўна, пляската. З іншага боку, праз усёпрысутнае засілле прыроды ейнае хараство неяк абясцэньваецца, і яго перастаюць заўважаць. Людзі пачынаюць залішне цікавіцца сваімі пляскатымі, залішне чалавечымі праблемамі.

Калі калегі па працы пытаюцца ў мяне, чаму я так і не вярнуўся ў сваю краіну, я адказваю, што з-за сваёй нелюбові да падарожжаў. У кожным падарожжы ёсць два непрыемныя моманты: зборы й вяртанне. Я не люблю вяртацца дамоў, пераязджаць з месца на месца, стаяць у чэргах па амбасадах і ў міграцыйных канторах... Пры гэтым, я заўсёды ведаў, што жыць без чужых краінаў я б ніколі не змог. Дакладней, не змог бы жыць увесь час у адной краіне, якую па-ранейшаму вымушаны называць сваёй з-за чыстага непаразумення. Але ў глыбіні душы я чым далей, тым болей пэўны, што з’ехаў насамрэч дзеля таго, каб не бачыць разбурэння сваіх ілюзіяў наконт дарагіх мне людзей ды іхніх ілюзіяў наконт мяне. Напэўна, пагадзіцца са сваім уласным старэннем лягчэй, чым са старэннем аднакласніц, сяброў, бацькоў. Я ўцёк са сваёй краіны, каб гэтага не бачыць. А магчыма, што я папросту заўсёды хацеў быць чужынцам. Жыць у чужым асяроддзі, дзе размовы людзей цябе не датычацца, дзе не трэба паварочвацца на кожны голас, баючыся, што цябе нехта пакліча.

Прызнаюся, прыгажосць і лагічнасць гэтай краіны, а таксама абгрунтаванасць майго тут знаходжання часта палохаюць мяне. Часам мне здаецца, што я патрапіў у рай яшчэ пры жыцці, асудзіўшы самога сябе да правізорнае смерці ў ранняе маладосці — менавіта гэтага я заўжды так баяўся. Цяпер у тым, што вонкава нагадвае рай, мне ўсё часцей мроіцца толькі больш вытанчаны варыянт пекла. Натуральна, пекла — гэта тое, да чаго мы ў любым выпадку асуджаем сябе самі, свядома ці несвядома. Праблема палягае ў тым, што, пераехаўшы сюды, я, так бы мовіць, памёр не да канца — прывёз з сабою кантрабандай залішне шмат непатрэбнага тут тавару, і цяпер не ведаю, каму збыць яго з рук.

Такім чынам, я працую ўначы — разносчыкам газетаў. На першы погляд, гэта ўсяго толькі тры гадзіны. Працаваць тры гадзіны з дваццаці чатырох — здаецца, лепшага занятку для прыроджанага гультая немагчыма прыдумаць. Бадай, шмат хто хацеў бы заканчваць працу ўжо а шостай раніцы, калі ўсе толькі пачынаюць уставаць, каб рэшту часу мець для сябе. Але штука ў тым, што гэтую рэшту часу вы праводзіце, асабліва спачатку, у дзіўным стане паміж сном і сапраўднасцю: ніколі не бываеце да канца прытомныя й ніколі цалкам не засынаеце. Вашыя вечары пераўтвараюцца ў ранкі, штодня вы прачынаецеся, нібы пасля нейкае бурнае папойкі. Чытаць паспяваеце толькі ўчорашнія газеты, прынесеныя з працы, якія з кожным годам робяцца ўсё больш тоўстымі і ўсё больш каляровымі — магчыма, наўмысна, каб у людзей не заставалася часу на кнігі. Зрэшты, такое бяздумнае чытанне — найлепшы сродак ад пахмелля.

Рэдакцыі нашых газетаў зіхцяць каляровымі літарамі на другім беразе

затокі, нібыта наглядаючы за працай разносчыкаў замест цівуноў. Час ад часу я пазіраю ў той бок з удзячнасцю, часам — з нянавісцю, паводле настрою. Але ніколі не зайздрошчу тым, што ў іх засядаюць.

Галоўнае ў маёй працы, як і ў любой іншай — прызвычаіцца. Напачатку гэта азначае адмовіцца ад выходных: адпачынак тоіць у сабе небяспеку таго, што пасля яго вы ўжо можаце ніколі не вярнуцца да ранейшага жыццёвага рытму, то навошта яго перабіваць? Пазней, калі мяжа між вольным і працоўным часам пачне спакваля сцірацца, вы заўважыце, што пачалі ўрэшце даваць рады сваім абавязкам. Насамрэч, мяне здзіўляе, што такі род заняткаў, як разнос газетаў, яшчэ не скасавалі. Відаць, з гуманных меркаванняў — каб знайсці працу такім, як я, і не парушаць кансерватыўных звычак тых усё больш і больш нешматлікіх, хто прывык зазіраць у яшчэ смярдзючы ад друкарскай фарбы стос таннай паперы штораніцы пры сняданку. Магчыма, друкарская фарба ёсць для іх не атрутай, а чымсьці накшталт вітаміну, харчовай дабаўкі, якая паляпшае працу страўніка. Я дзесьці чытаў, што нацыянальны друк быў важным фактарам фармавання сучаснага буржуазнага грамадства. Але цяпер па ўсёй Еўропе людзі чым далей, тым болей адмаўляюцца ад чытання папяровых газетаў, масава сыходзячы ў вір віртуальнай рэчаіснасці, што можа быць яшчэ адным ускосным сведчаннем дэфармавання вышэйзгаданага грамадства — не ведаю. У любым разе, хай кожны выконвае свой абавязак: мы, прыкладам, штораніцы прыкрываем гэты папяровы бастыён традыцыйнай культуры сваімі спрытнымі, як у матросаў, далёка не віртуальнымі целамі. Паспрабуйце толькі забыцца прынесці якому сумленнаму падпісчыку-падаткаплатніку ягоную газету ці прынесці несвоечасова! Адразу пачнуцца скаргі, быццам вы зрабілі гэта наўмысна... Адказнасць за бездакорнае функцыянаванне грамадства, дасканаласць якога залежыць ад кожнага вашага кроку, ляжыць асабіста на вас, таму — не паслізніцеся!

У гэтым мне бачыцца пэўны парадокс: калі наша праца такая важная, то як патлумачыць, што разнос газетаў — адзін з нешматлікіх фізічных заняткаў, якія дасюль не аўтаматызаваныя? Адзіны дапаможны механізм — вынаходка з назвай ліфт. Але ж у цэнтры места, дзе працую я, у самых прывабных і старых дамах, няма ліфтоў — толькі пакручастыя лесвіцы, па якіх трэба лётаць туды-сюды, каб усё паспець. Насамрэч, выдатны сродак падтрымання фізічнай кандыцыі, рэкамендую. Што да кандыцыі ментальнай, дык яна не цікавіць, па сутнасці, нікога — дый і мяне самога ўжо цікавіць перастае. Практычна, адзінае, што я раблю для яе падтрымання — пішу вось гэты дзённік, хаця й не ўпэўнены, дапамагае мне гэта, ці, наадварот, толькі ўсё пагаршае.

## II.

— Ну, што мы маем? — запытаўся кіраўнік следчага бюро цэнтральнага, так званага “малога” Стакгольма Оке Карлсан, адкідаючыся ў скураным фатэлі. Твары прысутных на ранішняй нарадзе-планёрцы павярнуліся да Бэнгта.

— А чацвёртай гадзіне раніцы ў паліцыю патэлефанаваў невядомы й паінфармаваў, што па адрасе Б’ёрнгордсготан, сямнаццаць, Сёдэрмальм, адбылося забойства, — Бэнгт старанна пераказваў факты з чужых словаў, нібы на іспыце па нелюбімым прадмеце. — Паліцыя прыехала праз двац-

цаць хвілінаў, я быў на месцы яшчэ праз дваццаць. Паводле папярэдняга агляду, падобна на смерць ад падзення ў лесвічны прахон.

— З каторага паверха? — удакладніла практыкантка Бэрта, без пяці хвілінаў выпускніца акадэміі.

— Мяркуючы паводле фатальных наступстваў падзення — напэўна, з пятага, апошняга, на якім і жыла ахвяра. Імя — Вікторыя Родзіч, прафесія — фотамадэль.

— Акторка, — засумняваўся хтосьці.

— Я б не сказаў, — скептычна пакруціў галавою Улаф Рунэбэрг, Бэнгтаў сябра й галоўны канкурэнт. — Вы бачылі яе ў гэтым серыяле, “Надзея памірае апошняй”? Не? Шчаслівыя...

— Не будзь ксенафобам, — павучальна зацеміла Бэрта.

— Каго яна там іграла? — пацікавіўся Оке.

— Надзею.

— Ага, вось як... — Бэнгт, шчыра кажучы, не разумеў, чаму гэтую справу даручылі менавіта яму, калі ўсе астатнія ведалі пра ахвяру значна болей. Трэба будзе ў жонкі спытацца, што за серыял...

— Цікава, як яны будуць цяпер яго заканчваць... Відаць, прыдумаюць, што Надзея з’ехала кудысьці вельмі далёка. А можа й зусім згорнуць, — уголас разважаў Улаф.

— Ці проста пераймянуюць, — прапанаваў вынаходлівы Калле, шэфаў улюбёнец і пратэжэ, які дагэтуль маўчаў. — Калі ўжо Надзея памерла першай... Страшная страта для тэлекампаніі... Можа, за гэтым стаіць канкурэнцыя?

Ніхто не засмяяўся.

— Гэта яна, здаецца, збіралася выйсці за Свэна Эклюнда? — прыгадала Бэрта.

— Так, — заспяшаўся запэўніць яе Бэнгт.

— Ну, хопіць, — перарваў іх шэф. — Да справы. Якія ў цябе версіі, Бэнгт?

— Некалькі... Калі не лічыць няшчаснага здарэння — то самагубства, забойства з мэтай рабунку, забойства з пакуль няясных асабістых матываў, магчыма — з рэўнасці...

— Правыя экстрэмісты, — падказала Бэрта. — Яна нядаўна натуралізавалася...

— І што? — запярэчыў Улаф. — Хочаш сказаць, што яе забілі за ейны акцэнт? Ты яшчэ скажы — мужчынскія шавіністы, сэксісты...

— І скажу, — пакрыўдзілася Бэрта. — Гледзячы на вас...

— Помста мафіі! — увярнуў Калле, якога Бэнгт на дух не трываў. — Яна ж была з Усходу. Варта праверыць ейныя сувязі ў асяроддзі землякоў.

— Вось і правер, — падхапіў ягоную ідэю галоўны. — А што кажуць жыхары дома?

— Жыхары дома... — Бэнгт зазірнуў у паперы, зніштожаныя каравым почыркам малапісьменнага Драгана. — Адна жанчына не спала й чула на лесвіцы нейкія галасы, якім не прыдала значэння, бо гэта, паводле яе, была апошнім часам звычайная з’ява... Пасля пачула грукат, хутчэй за ўсё, ад удару цела, у раёне чацвёртай гадзіны — але пабаялася выходзіць. Астатніх пабудзіў ужо наш прыезд.

— То бок нехта нешта чуў, але ніхто нічога не бачыў.

— Менавіта. Усе сцвярджаюць, што ніхто з іх нам не тэлефанаваў.

— Тыповыя жыхары цэнтру. Бог паслаў такі гаўняны раён... — уздыхнуў Калле.

— Ну, гэта лепш, чым працаваць у якой Салентуне, — заўважыў Улаф.

— Нумар тэлефона, з якога званілі, праверылі? — гнуў сваё шэф.

— Ён у нас чамусьці не зафіксаваўся, — паціснуў плячыма Бэнгт, — тэлефанаваць маглі з паблізнага аўтамата, але ніякіх адбіткаў пальцаў там не знайшлі.

— Магчыма, знойдуць сліну на слухаўцы, хай зробяць аналіз ДНК, — выпендрылася разумніца Бэрта.

— А запісы вулічных камер? — дзеля парадку спытаўся Калле.

— Я яшчэ іх не праглядаў, — Бэнгт адчуў, як чырванее — насамрэч, ён нават не заўважыў там камеры, дый не падумаў пра яе, будучы прадстаўніком таго, што называецца "старой школай".

— Там ёсць адна паблізу, якая здымае якраз тэлефон-аўтамат, праўда, з вялікай адлегласці... — параіў яму Улаф.

— Не разумею, навошта забойцу было самому паведамляць пра забойства ў паліцыю? — падзівілася Бэрта. — Ён так і сказаў — "адбылося забойства"?

— Так і сказаў.

— Што ж, ёсць над чым працаваць, — падсумаваў Оке. — Бэнгт, размяркуй абавязкі. Да вяселля прынцэсы справу трэба раскрыць.

— Не думаю, што да вяселля паспеем... Хіба толькі яго перанясуць...

Усе рагатнулі, апроч Оке, якому было не да жартаў.

— Ну, прынамсі — нейтралізаваць магчымых падазраваных... І папярэджваю: чым менш даведаецца прэса, тым лепш.

## 2.

Апошнім часам я пішу толькі тады, калі папярэдне моцна нап'юся (спадзяюся, вы гэта заўважылі). Кампутар як створаны для людзей з адпітымі мазгамі — нават словы падказвае сам. Балазе, паводле почырку не відаць, у якім стане знаходзілася душа "мысляра".

Памятаеце, як Чыко Маркс іграў на піяніна? Вось гэтак і я пішу на кампутары — адным пальцам, затое вельмі хутка. Раней я пісаў ад рукі, але нядоўга: ужо праз якіх паўгода працы я здолеў набыць сабе ноўтбук. З таго часу я сам ёсць толькі яго прыдаткам, хай некаму можа наіўна здавацца, што ўсё наадварот.

Пра што я магу пісаць? Ці — аб чым? Пытанне, як бачыце, рытарычнае. З гледзішча прыватнага чалавека — гэта шчасце, што ў маім тутэйшым жыцці не адбываецца нічога, вартага занатавання. Зрэшты, і ў астатнім я ад гэтага не асабліва пакутую: як і для кожнага графамана, для мяне важнейшы сам працэс пісаніны, чым яго вынік.

Магчыма, варта запыніцца на гэтай тэме падрабязней? Любы капрыз. Рэч у тым, што з маладых гадоў я заўважыў за сабою схільнасць да ўсялякага кшталту залежнасцяў — залежнасць заўсёды ёсць нейкім алібі, якім мы тлумачым свае жыццёвыя няўдачы, таму пасля трыццаці мець нейкую залежнасць — вельмі практычна, папросту неабходна. Паводле маіх назіранняў, бальшыня людзей пасля трыццаці падзяляецца на тых, хто залежны ад сэксу (так званых паспяховых), і тых, хто залежны

ад алкаголю. Мой выпадак — другі. Гэтай залежнасцю я тлумачу свае жыццёвыя няўдачы для іншых, тым часам як для сябе самога імкнуся апраўдаць свой алкагалізм з дапамогай графаманіі. Паколькі алкаголь тут вельмі дарагі, я трачу на яго ладную частку свайго заробку. Гэта, бадай, самае дрэннае ў гэтай краіне, калі не лічыць нядаўна ўведзенай забароны на паленне ў барах. Не магу не ўзняць свайго абуранага голасу супраць гэтага парушэння маіх грамадзянскіх правоў. Перакананы, што сапраўдная прычына найвышэйшага ў свеце ўзроўню самагубстваў сярод нас, тутэйшых жыхароў — менавіта дарагоўля алкаголю, а зусім не малая колькасць сонечнага святла. Але ж і ў дзяржаўнай манаполіі на жлопель ёсць свае плюсы: дзякуючы ёй, я маю падставу час ад часу ездзіць на поўдзень, як тут кажуць (паводле брытанскай моды), — “на кантынент”, альбо на ўсход, на недалёкія выспы, каб затарыцца: нават з улікам кошту падарожжа купляць алкаголь за мяжой больш выгадна, не кажучы пра беспадаткавыя крамы на караблях.

Алкаголік — таксама грамадскі статус, свайго кшталту нават прафесія. Раю ўсім такім жа, як я, нязначным людзям, што не могуць знайсці сабе месца ў жыцці, стаць алкаголікамі. Тады вы адразу выклічаце да сябе не толькі прафесійную цікавасць спецыялістаў, дабрачынных арганізацыяў, сацыяльных праектаў, уладаў, але ж і пэўнае шкадаванне, увагу з боку бліжніх і г.д. Гэтак вы здабудзеце для сябе насамрэч трывалае месца ў грамадстве — неістотна, што не самае прэстыжнае. Вядома, можна прыдумаць сабе яшчэ якую хваробу, крыху менш распаўсюджаную — але ў такім разе нашмат меней шанцаў, што хтосьці вам паверыць.

У выпадку алкагалізму лёгка ўбачыць той момант, калі вы яго ўрэшце дасягнулі: ён пачынаецца тады, калі вашая агіда да ўласнага жыцця дасягае такой ступені, што нават пахмелле здаецца лепшым за так званы “нармалёвы” стан. Бачылі б вы, з якой лёгкасцю я лячу на працу пасля таго, як увечары (ці для мяне ўласна — зранку, а чацвёртай гадзіне дня: даўжэй чакаць я звычайна не магу) закіну ў сябе пару кілішкаў! Думаю, іначай наўрад ці я здолеў бы вытрымліваць жахлівую шторанішнюю аднастайнасць прыгожага тутэйшага краявіду. Ільга сказаць, такім чынам, што мой працоўны дзень пачынаецца задоўга да выхаду на працу. Хадзіць у бары й “разнявольвацца” — усяго толькі адзін з маіх працоўных абавязкаў. Мне пашанцавала, што мой шэф, былы левы прафсаюзны актывіст, таксама лічыць, што капіталізм і залежнасць — два бакі адной і той самай манеты.

Сярод маіх калег, можна сказаць, няма цалкам нармалёвых людзей, але алкаголік з іх толькі я як наймалодшы й найменей пашкуматаны жыццём — здароўе пакуль дазваляе. На пару гадоў старэйшы за мяне даўгалыгі Б’ёрн выглядае так, быццам ужо прайшоў курс рэабілітацыі і цяпер паспяхова перасеў з бутэлькі на таблеткі: уявіце сабе барона Мюнхгаўзена, які плаўна перасеў з рулі гарматы на ядро. Пагатоў, я не ўпэўнены, што гэта тыя таблеткі, якія прапісаў яму лекар. Зрэшты, лёгкія антыдэпрэсанты тут прадаюць і без рэцэпту. Б’ёрнавай мараю ёсць стварыць металёвы гурт і даць шматтысячны канцэрт у “Глоўбе” — маецца на ўвазе не шэкспіраўскі тэатр у Лондане, а белая бетонная паветраная паўкуля, якая была састрэленая мясцовай ПВА пры спробе ўзняць горад у неба, гэткі аналаг драўлянага карабля пасярэдзіне затокі, пухліна сярод кварталу, у цяню якой Б’ёрн нарадзіўся і вырас. Як бачыце, іншай славы, апроч

лакальнай, яму не патрэбна. Наркотыкам старога самотніка Ёгана ёсць кафеін — невядома, ці то ён п’е столькі кавы, каб магчы працаваць уначы, ці то наадварот, пайшоў разносіць газеты, каб знайсці сваёй залежнасці нейкае рацыянальнае выкарыстанне. Ягоная аднагодка, самотная маці й бабуля Лінда, залежная ад фізічнай дзейнасці як такой, з ласкі чаго ў яе і ў пяцьдзясят гадоў захавалася спартовая фігура — як па мне, дык даволі брутальны сродак дасягнуць вечнае маладосці. Хтосьці казаў, што яна ашчаджае грошы на пластычную аперацыю — то бок амаль не есць, што таксама спрыяе ейнае выпраўцы. Іронія ў тым, што калі яна будзе так маладзец далей, то на момант дасягнення патрэбнай сумы пластычная аперацыя ёй ужо не спатрэбіцца. Сяк-так нармалёвымі можна было б назваць двух мусульманаў, Ахмеда і Салема — яны нічога не ўжываюць, праз што і найлепш працуюць: ім усё адно трэба ўставаць на малітву разам з сонцам. Відаць, асабліва апантана яны моляцца цягам так званых белых начэй; магчымасці пераехаць за палярнае кола яны, паводле ўласнага прызнання, ніколі не разглядалі. Як бачыце, насуперак усім чаканням, разносам газетаў тут займаюцца і карэнныя жыхары сталага веку, а не толькі маладыя перасяленцы накшталт мяне: для такіх зарэзерваваныя ўсе астатнія, яшчэ менш інтэлектуальныя заняткі. <...>

Дзякуючы свайму роду заняткаў, я няблага знаюся з мясцовымі жабракамі, ведаю, у якіх дамах знаходзяцца іхнія начлежкі — яны спяць звычайна на апошнім паверсе, каля ўваходу на страху, каб паспець тудою ўцячы, як што якое: пра іхную прысутнасць можна здагадацца ўжо на першым паверсе паводле тыповага смуроду, які, мабыць, нагадвае астатнім, то бок нежабракам, пэўны кшталт французскага сыру. Я часта вымушаны іх пераступаць, каб укінуць газету ў шчыліну дзвярэй, якія яны нібыта вартуюць на ўласную ініцыятыву: гэта досыць нязручна, але я яшчэ ні разу з імі не канфліктаваў і не выклікаў на іх паліцыю. Бяздомныя таксама ведаюць мяне: яны заўважылі, што часам, ідучы пасля працы з “Сэвэн-ілэвэн”, я наўмысна пакідаю на адным і тым самым месцы недапітую каву й кавалак печыва, якія яны пасля забіраюць. Але я не бачу ў гэтым ніякае дабрачыннасці: магчыма, гэта толькі мой спосаб адкладаць сабе на пенсію — хто ведае, ці не апынуся я рана ці позна сярод іх.

## III.

Дзень быў пахмурны, і змаганне са сном, безуважна да аб’ёму выпітай кавы, каштавала Бэнгту значных высілкаў. Трэба было чакаць, пакуль прыйдуць вынікі экспертызы, пакуль апрацуюць відэа з камераў. Бэнгт пастанавіў тым часам запоўніць прабелы ў сваёй адукацыі й спраўдзіць ува ўсяведным інтэрнэце як мага больш пра ахвяру, але і сам не заўважыў, як спакваля пераключыўся на ейнага партнёра-гоншчыка (трэба будзе ўзяць у яго аўтограф пасля допыту, падумаў ён), а неўзабаве злавіў сябе на тым, што праглядае спартовыя вынікі папярэдняга дня. Намаганнем волі ён прымусіў сябе зноў задаць у пошукавік “Вікі Родзіч”, гэтым разам у раздзеле “карцінкі” — прыгожая дзеўка была, гэта факт, і з такімі даўжэзнымі нагамі... А ў нашых жанчын чамусьці кароткія ногі, як у кітаянак. Усе гэтыя фоткі варта было б аздобіць цяпер чорнай стужкай... Відаць, Оке даручыў яму гэтую справу, каб зрабіць яму ласку — урэшце даць шанец на падвышэнне. І насамрэч, справа выглядае лёгкай. У выпадку

такой публічнай асобы дакапацца да праўды будзе няцяжка. Галоўнае — дачакацца вынікаў экспертызы...

— Не спіш, Бэнгт? — пажартаваў Улаф, кладучы яму на стол раздрукоўкі. — Падобна, што версія з рабункам адпадае — у кайстрачцы знайшлі даволі вялікую суму грошай і крэдытную картку.

— А адбіткі пальцаў?

— Толькі ейныя — на кайстрачцы і паўсюль. У тым ліку на парэнчах пятага паверха.

— Усё ясна. Смяротная вышыня.

— Відэа ўжо бачыў?

— Чакаю.

— Свэн Эклюнд апазнаў цела. Ён просіць, каб ты прыняў яго як мага раней...

— А дзе ён? Тут? — да такой хуткай сустрэчы са сваім кумірам Бэнгт быў зусім не гатовы. — Ну то давай, кліч...

Свэн Эклюнд выглядаў вельмі ўзрушана, нават бадзёра. Бэнгт узняўся яму насустрач і ўклаў у поціск рукі ўсё сваё захапленне ягоным талентам:

— Мае спачуванні, Свэн. Як маецеся? — амаль з бацькоўскай пяшчотай спытаўся ён.

— Ну як я магу “мецца”? — няветла адказаў Свэн. — Я бачыў мерцвякоў на гонках, але гэта зусім іншае... Зусім як жывая... Прыкра, што мы з ёю так не па-людску развіталіся...

— Не па-людску? — затурбаваўся Бэнгт.

— Вы не чытаеце газетаў? Слушна робіце... Гэтая бульварная дрэнь... Жыцця ёй не давалі. Адным словам, мы скасавалі заручыны месяц таму.

— З якой прычыны, калі магу спытацца?

— З розных. Між намі былі непаразуменні... Я не хацеў, каб яна брала ролю ў тым ідыёцкім серыяле... праз яго мы амаль перасталі бачыцца. Праца надта яе вычэрпвала — яна і раней была не падарунак, ведаеце, усходні характар, — а тут зрабілася папросту невыноснай... Апрача ўсяго, у мяне з’явілася падазрэнне, што яна сустракаецца з кімсьці яшчэ.

— З кім?

— Без паняцця. Можа, з кімсьці з тэлевізіі, з калегаў па серыяле... З кім звычайна спяць акторкі? Зрэшты, мяне гэта ўжо нейкі час не цікавіць, у мяне цяпер іншая партнёрка.

— Такое адчуванне, што Вікі вас моцна пакрыўдзіла...

— Ну, як я магу цяпер на яе злаваць... Але злаваў, гэта праўда. Таму і шкадую, што ўсё так выйшла.

— Да расстання вы жылі разам?

— Не, ніколі... Наведвалі адно аднаго.

— Значыць, вы бывалі ў ейнай кватэры?

— Я ж і кажу, што бываў.

— Як часта?

— Даволі часта. Хаця збольшага мы сустракаліся ў мяне — ейная кватэра была хутчэй яе асабістай схованкай, ці як сказаць... Бог ведае, што там адбывалася апошнім часам.

— То бок ключэй ад яе ў вас не было.

— Не, не было. Як і ад самой Вікі, калі можна так сказаць.

— Гэта праўда, што яна шмат піла?

— Шмат? Ну як вам сказаць... Дакладна больш за мяне. Я ж спартовец, мне нельга. Так бы мовіць, за рулём... — усміхнуўся Свэн.

— У яе былі нейкія праблемы на працы? Ці нейкія інтымныя праблемы, даруйце за цікаўнасць?

— Як вам сказаць... У яе дакладна было адчуванне, што яе ўвесь час нехта пераследуе. Прыхільнікі, журналісты, папарацы, злы лёс, усё такое... Але думаю, што гэта было хутчэй наступства перанапружанасці.

— Разумею... Ну і апошняе пытанне — што вы рабілі сёння ўначы?

— Адсыпаўся пасля вечарыны ў клубе "Камфорт". У сябе дома.

— Хто гэта можа пацвердзіць?

— Мая цяперашняя дзяўчына.

— Што ж, выдатна, — уздыхнуў Бэнгт. — Пакіньце мне толькі ейны тэлефон, для парадку... Ну і калі б вы раптам прыгадалі нешта важнае — калі ласка, кантактуйце мяне.

— Не сумнявайцеся.

— А, яшчэ такая рэч... — Бэнгт, павагаўшыся, працягнуў-такі руку да прынтэра і ўзяў загадзя раздрукаваны каляровы фотаздымак Эклюнда. — Можна папрасіць у вас подпіс? Даруйце, што не маю пры сабе лепшай фоткі...

— Калі ласка, — усміхнуўся Свэн дакладна гэтак, як на здымку.

— Бэнгту Мальміюсу, — запознена прадставіўся следчы, падаючы госцю асадку. — Я ваш вялікі фанат.

## 3.

Раніцай места дзейнічае безадмоўна і замяняе мне гадзіннік. Я выходжу з офіса на вуліцу не пазней за 3 гадзіны 10 хвілінаў і ўжо ведаю, — так бы мовіць, з заплюшчанымі вачыма, часам у літаральным сэнсе, — каго сустрэну па дарозе. Калі я заходжу за рог і сустракаюся з яшчэ маладой жанчынай бездакорнага выгляду — я спазніўся, калі не — іду зарана. Я штурхаю вазок з газетамі, жанчына цягне за спінай валізку на колцах. У дзяцінстве я цягаў за сабою самазвал на матузку, яна, мабыць, штурхала перад сабой каляску з лялькай — цяпер мы памяняліся ролямі. Гэта сцюардэса, што спяшаецца ў чарговую далёкую краіну. Няўклюдна спрабуючы размінуцца са мною на вузкім ходніку, яна штоThere разу робіць незадаволены выгляд. З яшчэ адной, гэтым разам пажылой жанчынай, я павінен размінуцца каля тэатра, дзе вось ужо некалькі гадоў запар даюць "Рычарда III", дзесьці ў 3:57. Калі я сутыкаюся з маладой дзяўчынай артыстычнага выгляду ў пяці метрах ад рогу ейнага дома, гэта азначае, што зараз — без пяці пяць. Думаю, што ўсе яны таксама заўважылі гэтую заканамернасць. Мы рухаемся, як нябесныя целы, у якіх няма часу запыніцца, каб паздароўкацца. Ці ім проста гонар не дазваляе размаўляць з п'яным газетчыкам. Мяне здзіўляе, што ў карагодзе агульных паўтарэнняў я заўсёды трапляю вачыма на адныя й тыя ж самыя месцы: не толькі рукі й ногі, але і вочы прывучыліся да тых самых штодзённых рухаў. Тое самае, калі я чытаю кнігу: погляд аўтаматычна знаходзіць — адразу — тое месца на старонцы, дзе запыніўся гадзіну, дзень, часам і тыдзень таму.

У астатнім мая праца ёсць досыць самотнай. Са спісам чытачоў газетаў і іхніх адрасоў у руках я абыходжу дамы, нібы начны лекар сваіх пацыентаў. Іхнія імёны выбітыя на вузенькіх шыльдачках, прымацаваных

да дзвярэй пад вуглом, для прасцейшага чытання: яны нагадваюць мне надпісы на шырокіх магільных плітах. Адчыняю ім рот, як упартаму дзіцяці, і запіхваю туды нясмачную газету, папера якой тхніць сапсаванай гароднінай. Брызентавая накрыўка на вазку нагадвае мне штось накшталт пахавальнага савану, які я адкідаю, каб апазнаць цела, ці хутчэй целы. Так і ёсць, бо ў маім чарадзейным вазку штодня месцяцца ўсе самыя свежыя ахвяры і ўсе славутыя нябожчыкі свету, што адзначаюць сёння нейкія ўгодкі, гэтаксама як месцiцца ў ім і бальшыня ўмоўна жывых людзей. Усё гэта ў некалькіх сотнях экзэмпляраў — на большае вазка не хапае. Дзякуючы вазку, я адчуваю сябе гэткім артыстам-лялькаводам з казкі пра Пінок'ё. Я прыношу святло жыцця й культуры паасобным грамадзянам, якія мірна спяць і не ведаюць, што рыхтуе ім гэты свет на сняданак у якасці сюрпрызу. Адзіны чалавек, для якога сюрпрызаў не існуе — я сам. <...>

Ч а ц в е р

**IV.**

— Вось табе маеш, — пляснуў аб стол газетамі Оке Карлсан. — Зрабілі з гэтага "справу дзесяцігоддзя". Што ты ім нагаварыла, Бэрта?

— Як і дамаўляліся — што пакуль нічога не вядома, разглядаем некалькі версіяў, магчыма, што няшчасны выпадак... — сканфужана пералічвала дзяўчына.

— І ўсё? А адкуль у іх фотаздымак цела?

— Без паняцця.

— Фотаздымак не наш, — уступіўся за яе Бэнгт. — Прычым якасць такая, што ён мог быць зроблены і мабільным тэлефонам. У рэдакцыі сцвярджаюць, што ім яго даслалі мэйлам, хутчэй за ўсё з нейкай інтэрнэт-кавярні... Не выключана, што ім даслаў яго той, хто знайшоў цела.

— Ці забойца, — уставіў Калле.

— Ці забойца, — пагадзіўся Бэнгт.

— Каб зарабіць на сваім злачынстве за кошт таго, што рызыкуе сябе выдаць? Абсурд... — пакруціў галавою Улаф.

— Нібыта ён на ім нічога і не зарабіў — яны нікому нічога не плацілі... Гэта быў проста падарунак нейкага "дабрадзея".

— А можа, нейкае знакавае паведамленне? — прашаптала Бэрта.

— "Каля дома Вікі збіраюцца яе адданыя прыхільнікі, кладуць кветкі, гараць тысячы свечак..." — з замілаваннем цытаваў Оке нацыянальны друк. — Спадзяюся, што ўсе доказы паспелі сабраць раней.

— Упэўнены, што ў гэтым натоўпе адданых прыхільнікаў быў і забойца, — разважыў Калле. — Яны ж вяртаюцца на месца злачынства...

— Ты што, прапаноўваеш усіх іх арыштаваць? — пакпіў Улаф.

— У кожным разе, у дом мы нікога не пускаем... Жыхароў вось толькі шкада.

— Добра. Што мы за ўчора спраўдзілі?

— Я гаварыў з Свэнам Эклюндам, — не без гонару адзначыў Бэнгт.

— Нават аўтограф узяў, — увярнуў Калле.

— Гэта хто? — выдаў у сабе спартовага невука Оке.

— Гэта гоншчык... Ейны былы партнёр. Здаецца, ён ні пры чым.

— Мафія таксама ні пры чым, — паспяшаўся пахваліцца Калле. — Прынамсі, паводле маіх інфарматараў.

— Рабунак выключаны — асабістыя рэчы былі пры ёй... — павёў рэй Бэнгт. — Паводле экспертызы, смерць настала прыблізна а чацвёртай гадзіне, як мы і меркавалі, ад чэрапна-мазгавой траўмы. У крыві было некалькі праміле алкаголю і, што самае галоўнае — экстазі.

— Ну, гэта мяне не здзіўляе... — уздыхнуў Оке.

— Відаць, усю ноч недзе пратанчыла, — амаль з зайздрасцю адзначыла Бэрта.

— Падобна да няшчаснага выпадку, — запытальна агледзеў прысутных Улаф.

— Але ж у іх тут чорным па белым стаіць: “Забойства”! — зноў абурыўся Оке. — Хтосьці мусіў ім сказаць, што нам тэлефанавалі... — і зноў зірнуў з недаверам на Бэрту.

— Яны самі маглі гэта спраўдзіць, з той жа крыніцы, з якой узялі фотаздымак, — не пагадзіўся Улаф.

— То бок фотку ён зрабіў мабілай, а тэлефанаваў з будкі? Ну ясна, не хацеў, каб мы ідэнтыфікавалі нумар... — задумалася напаўголаса Бэрта.

— На жаль, не з будкі, — ласкава паправіў яе Бэнгт. — На відэа ў момант тэлефанавання ў будцы нікога не відаць.

— На халеру тады гэтыя камеры... — раздражніўся Оке.

— Дзевяць з дзесяці шанцаў, што тэлефанавалі з ейнага мабільнага, — урачыста абвясціў Бэнгт, — якога сярод рэчаў забітай якраз і не было. Не магу паверыць, што яна выходзіла ў горад уначы без тэлефона. Я паслухаў яшчэ раз запіс — голас маладога мужчыны. З акцэнтам.

— Якая дзёрзкасць! — не вытрымаў Улаф. — Залезці ў кайстрачку ахвяры...

— Чужынец... — пакруціў галавой Оке. — Гэта выпадковасць? Ці звязана з ейным паходжаннем? Хто мог тэлефанаваць?

— Думаю, што я ведаю, — удаючы абыякавасць, пракінуў Бэнгт.

Усе паглядзелі на яго, не тоячы свайго здзіўлення.

— У паказаннях суседзяў была адна агульная дэталь: ніхто з іх, апрача спадарыні Ёнсан з першага паверха, не атрымаў у той дзень газеты. Звычайна іх разносяць уначы, між трэцяй і шостай-сёмай раніцы, у залежнасці ад спрыту газетчыка... Праўда, ніхто ў доме не ведае, а якой дакладна гадзіне яны атрымліваюць газету. Але што важна: у газетчыка ёсць ключ ці код ад усіх дамоў у ягоным раёне...

Бэнгт трыумфаваў: пасаромленае маўчанне ягоных калегаў яго цешыла. Як яны адразу пра гэта не падумалі?

— Дык вось, ад дзвярэй спадарыні Ёнсан не відаць таго месца, дзе ляжала цела. Гэта значыць, што газетчык заўважыў яго пасля таго, як укінуў першую газету, а да астатніх паверхаў так і не дайшоў. На ейнай кайстрачцы былі знойдзеныя часцінкі друкарскае фарбы — з пальчатак, гэта тлумачыць адсутнасць адбіткаў пальцаў... Карацей, я пазваніў у кантору, што займаецца распаўсюдам друку, спраўдзіў, хто быў адказны за той раён у раніцу здарэння. Вось ягоны здымак: Алекс ...скі, год нараджэння семдзесят пяты, што цікава — зямляк Вікі Родзіч, паводле калегаў — размаўляе з акцэнтам. Між іншым, на працу сёння ўначы не з’явіўся, без папярэджання.

— У нас ёсць падазраваны, — пераможна грукнуў кулаком па стале Оке. — З гэтага й варта было пачаць.

— Неабавязкова падазраваны, — какетліва зацеміў Бэнгт, — але з ім дакладна будзе карысна паразмаўляць. Напрыклад, чаму ён званіў з ейнага мабільнага, а не са свайго...

— Можа, у яго папросту няма мабільнага, — выказаў здогад Улаф.

— Не верыцца, — парыраваў Калле. — За такую дурную працу няблага плацяць.

— Хопіць, спадарства, усё ясна, — падсумаваў Оке. — Спадзяюся, Бэнгт, ты ўжо выклікаў гэтага ...скага на допыт?

— Яму не дазваніцца.

— Паспрабуй нумар ахвяры, — пажартаваў Калле.

— Спрабаваў, — сур'ёзна запэўніў яго Бэнгт. — Не адказвае. Зараз жа збіраюся яго наведаць.

— Толькі адзін туды не хадзі, зрабі ласку, — параіў Оке. — Ці мала чаго... Калі яго не будзе дома — даю вам дазвол адамкнуць дзверы. Афармім задняю датай...

## 4.

Апрача пісаніны й піцця, у мяне ёсць і іншыя хобі, звязаныя з маёй працай — напрыклад, збіранне газетных выразак. Гэтае захапленне я ўспадкаваў ад свайго бацькі, але ў адрозненне ад мяне бацька збіраў выразкі з сур'ёзных газетаў, і тычыліся яны значных падзеяў тагачаснасці. Думаю, з часавай перспектывы бацькавы выразкі здаюцца не меней смешнымі за тыя, якія я тут прыводжу без указання крыніцы й якіх-кольвечы правак у мове ці стылі арыгіналу, у той паслядоўнасці, у якой яны траплялі ў маю падшыўку.

### Асцярожна, елка

У суботу на галоўнай плошчы горада В. прыблізна аб 11-й гадзіне ўпала калядная елка, параніўшы пры гэтым чатырох чалавек, якія былі адвезеныя ў шпіталь з паламанымі канцавінамі. Калос вышынёю ў трыццаць адзін метр грымнуўся проста на людзей, якія сышліся на традыцыйны калядны кірмаш. Вершаліна яліны зачапіла шапік з цукровымі ласункамі й знішчыла многія калядныя аздобы, улучна з батлейкай, што ўвасабляла сцэну нараджэння Хрыстова. Паводле сведкаў, прычынай падзення дрэва стаў моцны вецер. Гандляры прызналіся, што парывы ветру прыўздымалі нават іхнія шапікі.

На месца падзеі прыехаў таксама мэр В. са сваім першым намеснікам. Пасля дэталёвага агляду месца здарэння яны абвясцілі, што інцыдэнт павінен быць належным чынам расследаваны. Акрамя таго, на іхнюю думку, варта скантраляваць усе астатнія навагоднія елкі ў горадзе. Мэр папрасіў прабачэння ў пацярпелых і выказаў надзею, што на плошчы ўсё-ткі неўзабаве з'явіцца новая елка, гэтым разам — меншых памераў.

### Безуважнасць мільёнаў

Цела мёртвага, прыблізна 70-гадовага мужчыны праляжала цэлых два месяцы ў гандлёвым квартале Осакі, другога па велічыні японскага горада, без усялякай увагі з боку мінакоў. Пра нябожчыка ўлады паінфармаваў

у снежні мясцовы таксіст. Паліцыя паведаміла, што труп знаходзіўся ў напаўраскладзеным стане. Пакуль няясна, як магло здарыцца, што ў квартале, дзе штодня праходзіць агромністая колькасць людзей, цела так доўга не заўважалі нават супрацоўнікі паблізнага гандлёвага цэнтру — здаецца, што смурод мерцвячыны нікому не перашкаджаў. Паводле прыблізных падлікаў, міма месца здарэння штодня праходзіць каля мільёну чалавек. Прэс-сакратар паліцыі заявіў, што прычына смерці мужчыны невядомая, але наўрад ці была гвалтоўнай.

## Пакуль вы спалі

Маладая пара з паўночна-італьянскага Трэвіза настолькі перашкаджала суседзям сваімі гучнымі крыкамі ў часе полавага акту, што навакольныя жыхары падалі на сужэнцаў у суд. Той, пасля двухмесячнага разгляду справы, нарэшце вынес кур'ёзны вырак, які забараняе пары гучна стагнаць і крычаць у начную пару.

Суседзі паскардзіліся, што маладыя штоночы суправаджаюць свае мілаванні галаснымі гукамі, якія не даюць спаць усяму наваколлю. Для пачатку суддзя вынес каханкам папярэджанне і даў ім два тыдні выпрабавальнага тэрміну. Калі ж гэта не дапамагло, а скаргі суседзяў працягваліся, суддзя страціў цярпенне. Яго не кранула нават прызнанне мужа, што ён здольны ўзбудзіцца толькі ад жончыных крыкаў. Прысуд гучыць: “Забараняецца крык ад 23:00 да 7:00 гадзіны”. Як напісала газета “La Repubblica”, цяпер маладая спадарыня крычыць сярод белага дня. <...>

## Кава з крэматорыя

Дзіўнае здарэнне з прысмакам чорнага гумару адбылося ў адной з вёсак Трансільваніі. Якуб Г. з сябрамі паехаў да яго на лецішча. Калі гаспадар кудысьці адышоўся, гасцям захацелася кавы. Яны знайшлі на паліцы бляшанку з чымсьці, што нагадвала класічную распушчальную каву, насыпалі сумесь у кубкі й залілі яе кіпенем. “Мы ўзялі першую бляшанку, што трапілася пад руку. Напой быў хоць і не асабліва смачны, але мы палічылі прычынай гэтага тое, што кава была ўжо даволі старая”. Іхнюю памылку заўважыў сам Якуб, які, аднак, вярнуўся залішне позна. Убачыўшы бляшанку, ён закрычаў: “Ідыёты, вы выпілі попел майго дзядулі!” Аднак неўзабаве ўнук супакоіўся: “У дзядулі было выдатнае пачуццё гумару. Думаю, што ён бы смяяўся разам з намі”. І сапраўды, Якубавых гасцей тут жа апанаваў істэрычны рогат, ад якога ў іх разбалеліся жываты.

## За чытанне “Гары Потэра” дзяўчына заплаціла жыццём

Дваццацігадовае дзяўчо з Ф. загінула ў чацвер аб 11-й гадзіне падчас чытання прыгодаў Гары Потэра. Гісторыю малога чарадзея яна чытала ўголас у машыне свайму 22-гадоваму партнёру, які сядзеў за рулём — той перастаў сачыць за рухам на дарозе і трапіў у аварыю. Хлопец не заўважыў знаку “стоп” і ўехаў на галоўную шашу насустрач грузавіку “Вольва”, кіроўца якога ўжо не здолеў запабегчы сутыкнення, хаця след колаў сведчыць аб тым, што ён спрабаваў затармазіць. Ад удару дзяўчына вылецела з легка-

віка праз лабавое шкло. “Дзяўчына загінула на месцы, яе партнёр трапіў у шпіталь”, – паведаміла прэсавая сакратарка паліцыі. Яна не пацвердзіла версіі выпадковых сведкаў наконт таго, што ахвяра нібыта чытала “Гары Потэра”. Аднак мясцовыя жыхары перакананыя, што прычынай няшчаснага здарэння была менавіта кніга. “Рух ейных вуснаў ясна сведчыў, што яна чытае ўголас, кіроўца ўважліва яе слухаў”, – кажуць яны.

## Гары Потэр — нармалёвы хлопец

Навучэнец школы чарадзеяў Гары Потэр, які стаў улюбёнцам дзяцей, а часта і іхніх бацькоў — зусім не гей. Так сцвярджае стваральніца гэтага літаратурнага персанажа, брытанская пісьменніца Джоан Кэтлін Роўлінг, якую вельмі абурыла адваротнае меркаванне амерыканскага літаратурнага крытыка Майкла Бронскага, апублікаванае ў часопісе “Бостан Фінікс”. Бронскі прыйшоў да высновы аб гомасэксуальнай арыентацыі Гары на падставе ўскосных алюзіяў, утрыманых у пяці першых кнігах запланаванай гепталогіі. Паводле яго, у кнізе поўна намёкаў на гомасэксуальнасць героя. Іначай навошта было б сваякам хлопчыка зачыняць яго ў каморцы пад лесвіцай? “Шмат маіх знаёмых геяў успрыняла кнігу падобным чынам: яна насамрэч адлюстроўвае іхны ўласны досвед”, – кажа Бронскі. За адзін з галоўных доказаў арыентацыі Гары крытык уважае ягоны чарадзейны кіёк, які з’яўляецца фалічным сімвалам. Падазроным, аднак, ёсць і тое, што ніхто з выкладчыкаў чарадзейніцкай школы не жанаты. Сама Роўлінг не хоча шырэй каментаваць меркаванняў Бронскага, але, паводле крыніцы з ейнага атачэння, пісьменніца здзіўленая тым, “колькі ўсяго там людзі пазнаходзяць”.

## Рацынгер супраць Потэра

Нямецкі кардынал Ёзэф Рацынгер скрытыкаваў “Ордэн Фенікса”, найноўшую кнігу Джоан Роўлінг з сагі пра навучэнца школы чарадзеяў Гары Потэра. Паводле кардынала, кніга ўтрымлівае “субтыльныя моманты спакушэння, якія незаўважна, але тым больш паслядоўна руйнуюць хрысціянства ў дзіцячай душы”. Гэтак ён напісаў у лісце да адной баварскай публіцысткі, якая ўжо раней заявіла, што “Гары Потэр” падрывае традыцыйныя каштоўнасці: пад уплывам кнігі дзеці нібыта страчваюць здольнасць адрозніваць дабро ад зла.

Рацынгер, шэф ватыканскай Кангрэгацыі ў пытаннях веры (былой інквізіцыі), вядомы сваімі скрайне кансерватыўнымі поглядамі. Разам з тым, яго лічаць адным з найбольш верагодных кандыдатаў на пасаду будучага рымскага папы. <...>

## Замест касы — драбіны

Дзевятнаццацігадовая прыбіральшчыца загінула ў пятніцу ў ліфце студэнцкага інтэрната ў З. У кабіне адкрытага ліфта драбіны сталі стаймя так недарэчна, што прыціснулі дзяўчыне шыю, і яна задушылася. Першапачатковa паліцыя паведамляла, што дзяўчына загінула ў выніку таго, што ліфт абарваўся.

“Трагедыя здарылася ў другой палове дня. Дзяўчына памерла, нягледзячы на хуткую дапамогу дактароў”, – сказаў афіцыйны прадстаўнік паліцыі ў З. Паводле непацверджанай інфармацыі, у пятніцу быў апошні працоўны дзень маладзіцы. <...>

## Ані грошай, ані гумы

У пятніцу нямецкі суд адмовіў Гельмуту Г., які дамагаўся таго, каб служба сацыяльнага забеспячэння штомесяц выдавала яму пэўную суму на наведванне публічных дамоў і прастытутак. Сваю заяву ён абгрунтоўваў тым, што пасля ад’езду сваёй сталай партнёркі на заробкі адчувае недахоп сэксу. Таму 35-гадовы мужчына патрабаваў ад дзяржавы матэрыяльнай дапамогі ў памеры 125 еўра ў месяц для таго, каб магчы рэгулярна наведваць адзін нюрнбергскі бардэль. Аднак, паводле пастановы суддзі, Гельмут Г. мае “дастатковыя фінансавыя сродкі, каб задавальняць свае сэксуальныя патрэбы”, бо дзяржава ўжо аказвае яму сацыяльную дапамогу ў памеры 287 еўра ў месяц. “Я вымушаны наведваць бардэлі, каб адчуваць сябе ў форме, псіхічна і фізічна”, – даводзіў Гельмут Г., аднак марна. У мінулым ён ужо звяртаўся ў службу сацыяльнай дапамогі з просьбай набыць яму “гумавую жанчыну”, аднак і тады ягоная прэтэнзія была прызнаная беспадстаўнай.

## Урэшце вядома, колькі каштуе дзявоцтва

18-гадовая студэнтка з Лондана, якая ў студзені прапанавала на продаж сваё дзявоцтва, ужо знайшла пакупніка. Гэта — разведзены 42-гадовы мужчына, бацька дваіх дзяцей, які пагадзіўся заплаціць за сэксуальны акт з нявінніцай 8 400 фунтаў. Дзяўчына лесбійскай арыентацыі, напазычаўшы шмат грошай, якіх не магла вярнуць, пастанавіла прадаць сваё дзявоцтва таму, хто прапануе за яго найбольшую суму. У інтэрнэтавым аўкцыёне ўзялі ўдзел блізу дзвюх тысячаў мужчын. <...>

## Спачуванне-забойца

Трагічна скончылася ў аўторак раніцай спроба маладога мужчыны аказаць дапамогу пры лёгкай аварыі на Д-скай шашы, адзінай ахвярай якой у выніку стаўся ён сам. Заўважыўшы пашкоджаны легкавік, што стаяў на ўзбочыне дарогі, кіроўца спыніўся і выйшаў з машыны, каб дапамагчы пацярпелым. У гэты момант ён убачыў, што проста на яго нясецца грузавік. Малады чалавек інстынктыўна адскочыў убок, пераскочыўшы металічны бампер уздоўж дарогі, аднак трапіў у незабетанаваны пралёт моста і праваліўся ўніз. Ад падзення ён атрымаў траўмы, не спалучальныя з жыццём. “За смерць мужчыны не нясе адказнасці ніякая староння асоба, бо сутыкнення з грузавіком не адбылося”, – сказала нашаму выданню прэсавая сакратарка дарожнай паліцыі.

## Оргія з прысмакам міжнароднага скандалу

Значныя тэрміны зняволення атрымалі ў сераду ад кітайскага суда японскія турысты, супрацоўнікі вядомай будаўнічай фірмы, якія сёлета ў

верасні ўзялі ўдзел у масавай сэксуальнай оргіі ў Пекіне. Двое галоўных арганізатараў мерапрыемства былі асуджаныя да пажыццёвага астрогу, яшчэ дванаццаць атрымалі розныя тэрміны пакарання, самы меншы з якіх — 10 гадоў. Усяго перад судом стала 14 чалавек, абвінавачаных у арганізацыі оргіі, у якой удзельнічалі 380 японскіх турыстаў і прыблізна паўтысячы кітайскіх прастытутак. Строгасць прысуду матываваная і тым, што оргія адыгралася на ўгодкі японскай акупацыі Кітая, што справакавала новую хвалю шматлюдных антыяпонскіх маніфестацый у Пекіне. Нягледзячы на тое, што прастытуцыя ў Кітаі забароненая, яна належыць да штодзённых элементаў тамтэйшага жыцця. <...>

## На сёмым небе пад адкрытым небам

Двое беспрытульных, мужчына й жанчына, абралі нетрадыцыйны спосаб змагання за страху над галавой, зладзіўшы ў панядзелак публічнае суложжа проста ў цэнтры Стакгольма. Каханкі паставілі на адной з найбольш людных вуліцаў ложак і займаліся каханнем каля 90 хвілінаў, пакуль іх не разняла паліцыя. “Да ложка яны прымацавалі транспарант з надпісам: “І беспрытульныя хочуць займацца сэксам”, пасля чаго заняліся сэксам”, – апісала сітуацыю прэсавая сакратарка паліцыі Караліна Свэнсан. “Яны нават прывязалі да ложка сабаку, каб той іх ахоўваў, аднак сабака быў хутчэй напалоханы вялікай колькасцю людзей, што сабраліся вакол”, – дадала яна.

Паліцыя затрымала пару й адвезла яе ў Цэнтр дапамогі сацыяльна слабым грамадзянам. Стала вядома, што эратычную вулічную забаву арганізавала Згуртаванне стакгольмскіх беспрытульных, чые сябры дакументавалі акцыю на фотастужку. Паводле іх, яны збіраюцца разаслаць фотаздымкі гарадскім чыноўнікам і грамадскім арганізацыям, каб прадэманстраваць, да якой роспачы яны даведзеныя сваім становішчам. <...>

## Як у мадам Цюсо

Шасцідзесяцігадовы галоўны інспектар Хельсінкскай падатковай управы два дні сядзеў мёртвы за сталом у сваім кабінеце, не заўважаны нікім з калегаў. Інфармацыю фінскіх газетаў у панядзелак пацвердзіла і само кіраўніцтва падатковай управы. Прычына смерці службоўцы не паведамляецца. Паводле лекараў, ён памёр на мінулым тыдні, у ноч з панядзелка на аўторак. Жыццё ў ягоным наваколлі, аднак, працягвалася далей, а нябожчыка знайшлі толькі ў чацвер. Прадстаўнік управы патлумачыў гэта тым, што галоўны інспектар жыў адзін, працаваў самастойна і з прычыны працоўных абавязкаў, што выплываюць з ягонай пасады, часта адлучаўся з працы, таму ніхто з падначаленых і не падумаў займацца пошукамі шэфа. Калегі, з якімі ён звычайна хадзіў на абед, былі ў тыя дні ў камандзіроўцы.

## Свабоду тэатру!

Нямецкая паліцыя завяла крымінальную справу супраць іспанскай тэатральнай трупы, чые сябры паказалі ў гамбургскім тэатры “Кампнагель”

скандальны спектакль, у якім мелі месца сцэны згвалтавання, лесбійскага сэксу й мастурбацыі. Акрамя гэтага, падчас спектаклю быў прадэманстраваны відэазапіс, на якім жанчына займаецца сэксам з аслом. Іншая жанчына ў рамках пастаноўкі замест маналогу “ад спектатарам” выканала проста на сцэне малую патрэбу. Аднак такая рэалізацыя мастацкай задумы не знайшла разумення ў гледачоў. Вялікая частка публікі пакінула залу, не дачакаўшыся канца 105-хвіліннай п’есы. Рэшта гледачоў патрабуе, каб ім вярнулі грошы за квіткі. Паліцыя таксама не глядзіць на заафілію на сцэне залішне прыхільна: “Гэта з’яўляецца крымінальным злачынствам, за якое гастралёрам пагражае ажно пяць гадоў пазбаўлення волі”, – сказаў яе афіцыйны прадстаўнік. <...>

## Праглыні горкую пігулку

Аксэн Улін са шведскай партыі “Памяркоўных” выступае за хімічную кастрацыю сэксуальных гвалтаўнікоў. “Дзейнічае на 100 адсоткаў!”, – натхнёна пераконвае яна сваіх калегаў у парламенце. Паводле яе прапановы, калі злачынца, асуджаны за згвалтаванне, сэксуальнае абцяжарванне ці педафілію, адмовіцца прымаць адмысловыя таблеткі, якія будуць падаўляць ягоную полавую актыўнасць, яму давядзецца пайсці ў астрог. Аднак бальшыня спецыялістаў не падзяляе энтузіязму дэпутаткі: маўляў, для мужчыны кастрацыя, у тым ліку хімічная, горшая за самагубства, а не тое што за астрог, таму новаму метаду выпраўлення сэксуальных дэвіянтаў прадракаюць не самую бліскучую будучыню.

## V.

Разносчык газетаў жыў на другім канцы Сёдэрмальма, і дома яго сапраўды не было. Калі Бэнгт пераступіў парог, у нос яму шыбануў застаялы смурод цыгарэтнага дыму, якога ён не трываў з таго часу, як пару гадоў таму на раду доктара кінуў паліць. У яго ўзнікла неадчэпнае адчуванне, што ў доме схаванае яшчэ адно мёртвае цела. У кватэры было цёмна — здавалася, што фіранак яшчэ ніколі не расхіналі, — відаць, таму, што газетчык вёў начны лад жыцця і адсыпаўся ўдзень. У куце вітальні грувасціліся газеты за якія паўгода, абавязковы бонус для распаўсюднікаў, і выглядалі, як падалося Бэнгту, непрачытанымі. Раскіданыя боты й іншыя рэчы на падлозе сведчылі пра тое, што кватэра была пакінутая ў вялікім спеху. Бэнгт зазірнуў спачатку ў кухню — там ягоныя здогады пацвердзілі парэшткі недаедзенага абеду (ці вячэры), поўныя попельніца й сметніца, непамыты посуд, батарэя пустых піўных бляшанак і бутэлек з-пад віна. Карацей, звычайная халасцяцкая аднапакаёўка. Было ўражанне, што гаспадар павінен вось-вось вярнуцца, аднак Бэнгту ў гэта не надта верылася.

— Шэф, зірніце на гэта! — гукнуў яго з пакоя Ласэ. — Вам спадабаецца.

Бэнгт зайшоў у пакой, дзе Ласэ паспеў расцягнуць фіранкі, і ўбачыў незасланы ложак, маленькі тэлевізар, невялічкую шафу з іншамоўнымі кнігамі, пісьмовы стол, на якім у гурбе нейкіх папераў і выразак залёг, нібы рыхтуючыся да скачку, не самы новы лэптоп, далучаны да яшчэ старэйшага прынтэра. Аднак Ласэ меў на ўвазе перадусім вялікі чорна-белы фотаздымак над ложкам, на якім у аб’ектыў усміхалася юная красуня з

моднай хуліганскай фрызурай. Бэнгт не мог не пазнаць гэтых чарнявых броваў і белазубай усмешкі. Паляпаўшы Ласэ па плячы (маладзёну гэта не спадабалася — ён адчуў сябе быццам сабачка, што паслухмяна прынёс у зубах кіёк), ён выцягнуў з кішэні мабільны.

— Оке? Ты меў рацыю. Не, не наконт “Д’юргордан”. Здаецца, мы насамрэч маем падазраванага. Папрасі Улафа разаслаць ягоны здымак ува ўсе пастарункі. Добра, пастаўлю назіранне за домам... Давай. Слухай, Ласэ, — звярнуўся ён да падначаленага, — трэба правесці грунтоўны вобшук. Нас цікавіць усё, што можа быць неяк звязанае са справай... Нейкія дакументы, лісты, паштоўкі, іншыя ўзоры почырку... Лэптоп я забіраю, занясу ў Ай-Ці... Зараз прыедуць эксперты — хай сфатаграфуюць кватэру. Асабліва гэты шэдэўр над ложкам — паглядзі, ці няма ў шуфлядах альбо яшчэ недзе падобных фотак... Тэлефоны, камеры, усё такое — забірай... Калі яны былі асабіста знаёмыя, то ахвяра магла яго наведваць — там непамыты посуд у кухні, здымі адбіткі пальцаў з келіхаў... Ну, карацей, ты сам ведаеш.

— Не турбуйцеся, шэф. Толькі пастаўце некага ўнізе, каля дома — раптам гэты збачэнец надумае вярнуцца...

— Збачэнец? — перапытаў Бэнгт. — Чаму ты так лічыш?

— Не ведаю, але падобна, што ён ад яе фанацеў... Зірніце на гэтыя відэакасеты. Там усе серыі гэтага ейнага дэбільнага серыялу... Таксама фоткі з газетаў...

— Класічны сталкер? Убачым. Эклюнд штосьці казаў пра пераслед...

— Касеты таксама забіраць? Можа, на іх яшчэ якія іншыя здымкі — прыватнага характару, ці што...

— Забірай. Даю табе на ўсё пару гадзінаў.

## 5.

Перакананы, што сустрэча са мною была для Вікі адной з самых вызначальных. Як мінімум, яна прынесла ёй удачу ў жыцці, калі не ў асабістым, дык у грамадскім — дакладна: не прайшло і году пасля нашага адноўленага знаёмства, як яна з малаэкзатычнага кур’ёзу паспела стаць сапраўднай тутэйшай знакамітасцю. Што ўжо казаць пра мяне, для якога праз адсутнасць усякіх іншых падзей ейнае нечаканае з’яўленне ў гэтай краіне стала падзеяй нумар адзін, ува ўсіх сэнсах адзінкавай і адзінай. А пачалося ўсё з выпадковасці: ідучы з працы раніцай, я заўважыў, што ў да болю знаёмым мне выглядзе галоўнай вуліцы нашага раёна, непадалёк ад метро, штосьці змянілася. Спачатку я не мог зразумець, што, але потым дацяміў: старую цырульню ўрэшце рэканструявалі й адкрылі на ейным месцы новую, з памытымі вокнамі й лепшым абсталяваннем. У адным з гэтых вокнаў красаваў чорна-белы фотаздымак дзяўча ў акулярах, які меўся рэкламаваць ці то гэтыя акуляры, ці то нейкую чарговую модную фрызуру — але з такім жа поспехам гэта магла быць і рэклама ювелірнай працы нейкага дантыста ці, прынамсі, кампутарнага графіка: дзяўчо ўсміхалася шырокай белазубай усмешкай. Я адразу пазнаў Віку, толькі не паводле зубоў, а паводле вачэй, нават у акулярах, якіх яна раней ніколі не насіла. Ці трэба казаць, што я адразу ж паспяшаўся пераканаць сябе ў тым, што гэта зусім не яна. Сапраўды, ці мала існуе падобных твараў? Тыпаў красуняў (а пра тое, што Віка — красуня, сведчыць ужо той факт,

што ейны фотаздымак выставілі ў вітрыне цырульні) існуе не так і шмат, гэтаксама, як і тыпаў сюжэту ў прозе, і асобных прадстаўніцаў аднаго тыпу лёгка пераблытаць — але кажуць, што ў дачыненні да сваіх сваякоў і, мажліва, землякоў, дзейнічае нейкі інстынкт: сёмым ці восьмым пачуццём чалавек здольны пазнаць, прыкладам, сваю сястру на адлегласці нават ста метраў. Гэтак і я тады нутром адчуў, што гэта яна — іначай бы я так не спалохаўся, зірнуўшы ў ейныя вочы і ўбачыўшы тую шчырую, нязмушаную ўсмешку, у якой не было ані следу тае штучнасці, што характэрная стандартным усмешкам фотамадэляў. “Віка Родзіч! Ты ўжо родзіш?” — прыгадаў я не самую дасціпную школьную дражнілку, якая нашмат больш, чым яе, раздражняла мяне, ейнага тайнага залётніка яшчэ з нулявога класа. Пра тое, што я калісьці быў у яе платанічна закаханы, я не згадваў даўным-даўно, затое ў той момант згадаў амаль адразу, і адразу ж гэтага засаромеўся, дакладна, як тады, калі нас дражнілі. <...>

Але ж убачыць тут Віку Родзіч! Ну скажы каму! Вядома, што казаць пра гэта мне якраз і не было каму — я і не казаў. Дый пра што, уласна, было казаць, пагатоў што я не меў пэўнасці, што гэта была яна, а не вынік маёй схільнасці выдаваць жаданае за сапраўднае? Калі б у гэтай цырульні, прынамсі, выпісвалі газеты, у мяне была б падстава зайсці туды і нібы мімаходзь спытацца, хто гэтая дзяўчына на фотаздымку, але сумняюся, што я даведаўся б нешта іншае, апрача назову рэкламаванай ёю фрызуры. У такой салодкай няпэўнасці я пражыў які месяц, пакуль фотаздымак у вітрыне не замянілі на іншы, ужо не “ейны”. Мушу сказаць, што я адчуў амаль палёгку, калі аднае раніцы яго там не ўбачыў. Затое практычна на наступны дзень, гартаючы ў звычайным паўгіпнатычным стане свежыя, для мяне ўжо безнадзейна ўчарашнія газеты, я наткнуўся на фотаздымкі нейкага моднага паказу ці чаго, дзе апрача ейнага твару змог яшчэ ацаніць і ейную фігуру. З таго часу прывід Вікі пачаў рэгулярна міргаць у мяне ўваччу ў тутэйшых медыях, пакуль у адным з дамскіх часопісаў на першай старонцы не з’явілася інтэрв’ю з “новапрыбылай красуняй з Усходу” за подпісам: “Вікі Родзіч: каралева ўнутранай прыгажосці”.

Ваганне, ці варта мне выпраўляцца ва ўсясветнае павуцінне на пошукі асабістага кантакту з ёю, заняло ў мяне яшчэ які месяц. Пражыўшы за мяжой два гады, я ніколі дагэтуль не цікавіўся сваімі былымі суайчыннікамі, якіх навокал — як нярэзаных ведаеце каго, і гэта яшчэ калі не ўлічваць турыстаў. <...>

Урэшце я здолеў пераканаць сябе, што не бывае правілаў без выключэнняў, пра што цяпер, як і ў бальшыні такіх выпадкаў, вельмі шкадую. Пераадолеўшы-такі сваю нелюбоў да ўсялякага кшталту сацыяльных сетак, чыё сіло ў свой час пралящела міма мяне са свістам увушшу, я завёў сабе старонку на фэйсбуку: парушэнне майго інфармацыйнага цэлібату выклікала ў хутка знойдзенай суполцы маіх былых аднакласнікаў кароткачасовы фурор, у чымсьці параўнальны са штучна створанай панікай у медыях, які неўзабаве змяніўся заканамерным расчараваннем. Затое вынікам маёй крывадушна ўдаванай цікаўнасці да лёсаў аднагодкаў стала тое, што неўзабаве я атрымаў ад Вікі мэйл з абавязковымі смайлікамі і нават фотаздымкам — як ні смешна, тым самым, што я бачыў у вітрыне — а таксама тэлефонным нумарам і прапановай сустрэцца: маўляў, што ж ты даўней не азываўся! Так, гэта была старая добрая Вікі — зорка класа, душа кампаніі. Усё-ткі статкавы інстынкт — магутная штука, задушыць

яго ў сабе практычна немагчыма, таму перад колішнім чальцом сваёй сацыяльнай ці ўзроставай групы непазбежна адчуваеш нешта накшталт абавязку — нягледзячы на тое, што гэтая прыязнасць ёсць ірацыянальнай і наўпрост супрацьлеглай таму, што называецца "сваяцтвам паводле выбару". Адсюль гэты непераадольны, падсвядомы давер з боку нашых старых знаёмых, які ратуе нас ад іхняй пагарды.

Пятніца

## VI.

Уначы (калі можна так назваць кароткі перапынак між вячэрняй і ранішняй заранкай, антракт між двума аддзяленнямі, у якім ёсць магчымасць дасканала вывучыць стракатую й рознакаляровую заслону балтыйскага тэатра мірнай бяздзейнасці) у Бэнгта зноў не атрымалася як след выспацца: мала таго, што ён не мог заплюшчыць вачэй ад пастаўленага ў вакне на паўзу чырвонага водбліску несупынна заходзячага сонца, што магло б быць эмблемай ягонай краіны, дык яшчэ гадзіне а шостай яго пабудзіў званок гэтага адмарозка Калле.

— Бэнгт? Радуйся: маем твайго падазраванага. Затрымалі ў бары, на пароме да Оляндскіх выспаў, п'янага ў зюзю.

— Цудоўна. Дзякуй.

— Віншую з раскрытай справай.

— Не кажы "гоп"... Я хутка буду.

Праз усё гэта ў Бэнгта з раніцы балела галава, усыпальнае дзеянне таблетак змагалася ў ягоным арганізме з дзеяннем кафеіну — аднак як толькі прывялі падазраванага, выкід жывёльнага адрэналіну ў супрацы з чыста чалавечай цікаўнасцю канчаткова яго раскатурхаў.

Алекс ...скі, разносчык газетаў і верагодны забойца Вікі Родзіч, выглядаў яшчэ горш за Бэнгта — яму так і не далі праспацца пасля ўчарашняй папойкі на караблі. Стома толькі падкрэслівала нявετласць ягонага невыразнага, тыпова ўсходняга твару, і рабіла яго значна старэйшым за ягоныя гады.

— Алекс ...скі? — паводле колішняй завядзёнкі запытаўся Бэнгт, хаця асаблівай неабходнасці ў гэтым і не было, як што ён ужо зверыў тоеснасць падазраванага з ягоным асабістым файлам і фотаздымкам. — Вы ведаеце, чаму вас затрымалі?

— За асацыяльныя паводзіны, — паспрабаваў усміхнуцца той. — Я сапраўды перабраў. Але нікога не пакрыўдзіў, можаце спытацца ў сведкаў...

— Не, гэта тут ні пры чым. Чаму вы не з'явіліся ўчора на працу?

— Мяне задзяўбла мая праца, — нечакана злосна адказаў "асацыял". — Я даўно хацеў сысці. Учора адчуў, што больш не магу.

— Добра. Але пазаўчора вы былі на працы, так?

— Быў.

— То бок разносілі газеты ў сёдэрмальмскай акрузе нумар чатыры, ад трэцяй ночы да шостай раніцы.

— Так.

— Вы, магчыма, чулі, што на вашым працоўным участку ў тую ноч здарылася забойства.

— Чуў.

Не дачакаўшыся ад яго развіцця фразы, Бэнгт вырашыў яму падказаць.

— У нас ёсць падставы меркаваць, што вы маеце да яго дачыненне.

Алекс зірнуў на следчага так сур'ёзна, быццам той на выгадных умовах прапаноўваў яму ўдзел у нейкай самагубчай баявой місіі кшталту налёту камікадзэ.

— Ага... А якія падставы?

— Ну, можна пачаць са знойдзенага ў вашай кватэры мабільнага тэлефону ахвяры, з якога вы патэлефанавалі ў тую ноч у паліцыю і сказалі, што там і там адбылося забойства.

Алекс усміхнуўся ўжо больш рашуча:

— Дзякуй за адведкі... Так, я тэлефанаваў. А вы б не патэлефанавалі?

— Ну так, але, мабыць, са свайго тэлефона.

— У мяне не было пры сабе тэлефона.

— Як так?

— Ну так. Ён акурат разбіўся пару дзён таму, я не паспеў набыць новы.

— Што ж, чаму тады вы... не пакінулі тэлефон на месцы?

— З маімі адбіткамі пальцаў? Вы жартуеце... Паспрабуйце набраць нумар на дамскім мабільніку ў пальчатках.

Бэнгту не спадабаўся ягоны адказ.

— Тады варта было пазваніць з аўтамата...

— У мяне не было пры сабе манетаў.

— Чаму вы не засталіся на месцы й не пачакалі прыезду паліцыі?

— Таму што мусіў разнесці рэшту газетаў. У вас свая праца, у мяне — свая.

Бэнгт адчуў, як ягоны лоб пакрываецца потам.

— Чаму вы, прынамсі, адразу ж не сказалі пра тое, што бачылі, на працы?

— Хіба недастаткова таго, што я сказаў усё паліцыі? Па шчырасці, я мала з кім размаўляю на працы. Па-першае, таму, што звычайна вяртаюся з абходу апошнім, калі там ужо нікога няма, а па-другое...

— Колькі часу вы там працуеце... працавалі?

— Тры гады.

— А дагэтуль што рабілі?

— Нічога. Тры гады таму мяне тут не было.

— Добра, — Бэнгт устаў з крэсла, каб крыху размяць ногі, дый пры хадзе яму думалася лепш. — Чаму вы сказалі па тэлефоне, што гэта забойства? Адкуль такая ўпэўненасць?

— Ну... таму што мне так здалося.

Бэнгт абапёрся рукамі на стол.

— Спадар ...скі, паспрабуйце адказваць сур'ёзна і не думайце, што размаўляеце з дурнем. Вы ведалі ахвяру?

— Яе ўсе ведалі. Гэта Вікі Родзіч, фотамадэль.

— Вашая суайчынніца.

— Так, гонар нацыі.

— Цікавае супадзенне, праўда?

— Не разумею. Хіба тут мала маіх суайчыннікаў?

— І самая вядомая з іх, як наўмысна, жыла акурат у раёне і ў доме, дзе вы бываеце штоноч!

— Сапраўды, цікавае супадзенне.

Бэнгт зірнуў на яго з ушчувальнай усмешкай.

— Я не веру, што вы пра гэта не ведалі, спадар ...скі. Вы ведалі пра яе так шмат, што паверыць вам у гэтым мне асабліва цяжка.

— А, вы ж былі ў маёй хаце... Яна мне падабалася, гэта факт. Але я ведаў пра яе толькі тое, што вычытаў з газетаў. Апрача, вядома, даты смерці.

Бэнгту раптам падалося, што падазраваны, можа, і не хлусіць, але ён як найхутчэй адагнаў ад сябе гэтую думку.

— Як даўно вы пачалі збіраць выразкі пра яе? — строга запытаўся ён.

— Можа, які год таму... Калі выпадкова ўбачыў яе фотаздымак... Потым у тэлевізіі...

— У вас ёсць партнёрка?

— Няма.

— Вы выкарыстоўвалі выявы Вікі Родзіч для... самазадавальнення?

— Што за думкі, дэтэктыў? — пакпіў з яго ...скі. — Але прыемна, што не аднаму мне прыйшла ў галаву гэтая ідэя. Мяркую, што пасля ейнае смерці такіх, як мы з вамі, зробіцца яшчэ болей.

Ці то ад злосці, ці то ад сораму следчы злёгку пачырванеў.

— Вы ведаеце, што сёння яе пахаваюць?

— Цяпер — так.

— Але гэта не замінае вам разглядаць нябожчыцу як сэксуальны аб’ект?

— Кіньце, які аб’ект... — пакруціў галавою ...скі, нібы не ўхваляючы ягонага пытання. — Калі шчыра, мне было прыкра бачыць яе ў такім... стане... У крыві, на падлозе... Нібы пасля спарону... Але ў чымсьці яна была яшчэ прыгажэйшая, чым пры жыцці.

— Вы маеце на ўвазе, чым на фотаздымку над вашым ложкам? Не сказаў бы... Дык вы сцвярджаеце, што не былі з ёю знаёмы? Нават не спрабавалі пазнаёміцца? Вы ж усё-ткі з адной краіны... Ці, прынамсі, скажам, атрымаць аўтограф?

— Не, аўтографы — гэта так, для дзівакоў...

Бэнгт памаўчаў. Што ж, прыйдзецца скарыстаць з ім іншыя метады.

— Ведаеце, спадар ...скі, змест вашага лэптопу пераконвае мяне, што вы са мною не зусім шчыры.

— Змест майго лэптопу? Вы лазілі ў мае рэчы?

— Не будзьце смешны. Яго цяпер аналізуюць. Наколькі я ведаю, у ім былі не толькі ейныя фотаздымкі, пірацкія фільмы й крадзеныя кампутарныя гульні. Там быў і адзін даволі вялікі тэкставы файл з назвай “Вікі”. Што ў ім?

— Гэта... гэта вас не тычыцца. Гэта мая асабістая справа.

Бэнгт нервова засмяяўся.

— Ну, як хочаце, спадар ...скі. Так ці іначай, яго змест стане нам вядомы — перакладчыкі ўжо працуюць. Можа, лепей сказаць усё самому?

— Магу толькі пажадаць поспехаў вам і перакладчыкам, — абыякава паціснуў плячыма ...скі. — Магу я ісці?

Бэнгт зірнуў на яго так, быццам хацеў спраўдзіць, ці ўсё ў яго ў парадку з мазгамі.

— На жаль, не, спадар ...скі. Нам прыйдзецца патрымаць вас, прынамсі, да панядзелка.

— Да панядзелка? — шчыра здзівіўся Алекс. — Але, здаецца, мяне

могуць трымаць толькі да заўтра? Я думаў, мы жывем у прававой дзяржаве...

“Зусім знахабнелі гэтыя прыхадні”, – міжволі падумаў Бэнгт, які меў на гэты конт ад Оке — згода, не зусім законныя, але тым не менш — цалкам недвухсэнсоўныя інструкцыі: пытанне нацыянальнай бяспекі!

— Заўтра ў нас выходныя. Пацярпіце да панядзелка. Калі што, можаце паглядзець вяселле прынцэсы па тэлевізіі.

**6.**

Ідучы на першую сустрэчу з Вікай, я раптоўна спалохаўся, што мне не будзе чым яе зацікавіць і чаго распавесці, апрача нуднай гісторыі майго дэзерцірства з бацькаўшчыны, якая мне самому абрыдла настолькі, што я зрабіў усё магчымае, каб яе забыць. Ненавіджу гэты абавязковы пачатковы абмен інфармацыяй, якая праз сваю агульнасць чамусьці лічыцца “падставовай” — магчыма, якраз гэта найбольш стрымлівае мяне ад завядзення новых знаёмстваў. Але дзеля старога знаёмства з Вікай я быў абавязаны сцярпець і не такое. Я нават набыў сабе з гэтай нагоды не самы танны, хоць і не самы модны штруксавы пінжак (на гальштук я не наважыўся — гэта было б ужо залішне цырымонна і смешна) і пагаліўся, каб, прынамсі, знешне максімальна наблізіцца да таго маладзёна з выпускнога вечара, якога яна магла памятаць. Нічога не выйшла — мой лад жыцця апошніх гадоў унёс у мае рысы схематычнасць маскі “кабукі”: пасталець азначае яшчэ й зацвярдзець не толькі ў звычках, але і ў знешніх праявах эмоцый, ператварыцца ў бегла накіданую нейкім нядобразычліўцам карыкатуру самога сябе — то бок сталенне азначае пачатак акалення, на шляху да якога я ўжо значна прасунуўся наперад. Ад думкі набыць ёй нейкі дробны прэзент я адмовіўся — не хацелася з самага пачатку выдаваць сваю безгустоўнасць і неспрактыкаванасць у падобных рэчах.

Мы сустрэліся ў бары, найлепшай характарыстыкай якога ёсць той факт, што мы з Вікай былі ў ім найстарэйшымі наведнікамі: акунуліся, так бы мовіць, у маладзільны (ці ў нашым выпадку — ужо маразільны?) эліксір сучаснай папсовай музыкі й мігатлівага каляровага асвятлення (я маю на ўвазе, што ў сваім пінжаку я выглядаў там, мякка кажучы, па-ідыёцку). Пакуль яна наганяла даравальнае для дамы спазненне, я дзеля смеласці паспеў кульнуць у сябе свае абавязковыя два кілішкі, гэтым разам (гуляць дык гуляць!) каньяку, таму рады ейнаму прыходу быў папросту нечувана: багіня з фотаздымку спусцілася на каляровых промнях проста за мой столік, як марыянетка на нітках. Маўляў, адразу са спіны пазнала маю згорбленую пастаць самотнага рыцара — то бок з першага погляду пачала ўжо мяне шкадаваць? Ну, дзівіцца я гэтаму не мог, пагатоў што я і сам, калі ўжо шчыра, прыйшоў сюды не проста так, а каб падзяліцца хоць з кімсьці сваім самашкадаваннем — хай нават і не хацеў сабе ў гэтым прызнавацца. Дзякуй ужо за тое, што яна не пагладзіла мяне па спіне, як беспрытульнага сабачку. Такім чынам, мне ад пачатку прыйшлося змагацца з гэтым апрыёрным вобразам сябе як нейкага просьбіта — з тым большым імпэтам я пачаў удаваць нязмушанасць самага бестурботнага, шчаслівага й незалежнага чалавека калі не ў свеце, дык у гэтай краіне дакладна. У нейкім сэнсе так і было — я адчуваў гонар за тое, што я, мясцовы пралетар, сяджу ў сваім нягеглым пінжаку за адным

сталом з, магчыма, найпрыгажэйшай жанчынай у горадзе! (Камплімент, які я наважыўся сказаць уголас, — а чаго бянтэжыцца? Свае людзі...) Нават стаўленне афіцыянткі, што кагадзе так неахвоча ставіла перад мною на стол кілішкі, пасля Вікінага прыходу змянілася на супрацьлеглае.

Колькі ж гадоў мы не бачыліся? Дзесяць? Не можа быць! Шэсць... Не, сем! З часу вяселля Ані Б.! (На жаль, на вяселлі Ані Б. быў замест мяне хтосьці іншы, хоць мяне туды й запрашалі, але я пагадзіўся з ёю ў гэтым, як і ўва ўсім астатнім, каб затаіць, наколькі мала насамрэч памятаю тую пару. Падзеі між згаданым вяселлем і момантам нашай сустрэчы Віку, у адрозненне ад мяне, не цікавілі). Дык а як ты ўсё-ткі апынулася ў вітрыне цырульні? Перамагла ў конкурсе прыгажосці? (Бо было і такое: адна з маіх колішніх знаёмых стала праз пэўны час пасля майго ад'езду міс горада Н.) Не-не, класічны шлях — праз мадэльную агентуру. Агентура! Якое шпіёнскае слова... Клянуся, што я не шпіёнка. (Смайл!) Ну, так я табе і паверыў... Чуў пра каго-небудзь з нашых? Не, не чуў. Але зараз, без сумневу, пачую... Прызнаюся, я быў здзіўлены, калі даведаўся, колькі маіх былых аднакласнікаў жыве цяпер за мяжой! Вядома, з добрай паловай з іх Вікі была ў кантакце (маецца на ўвазе сацыяльная сетка), збольшага з дзеўкамі. Тая ў Амерыцы, тая ў Венесуэле, тая ледзьве не ў Буркіна-Фасо... Масква за замежжа, вядома, не лічыцца — і Вікі, паводле ейных словаў, пачынала ў Маскве, дзе і выйшла замуж за нейкага ахвочага да славянак шведа... Я амаль пачаў саромецца, што толькі я адзін ад'ехаў ад роднага парога ўсяго на нейкую тысячу кіламетраў — фактычна, не пераплыў, а проста пераскочыў лужыну. Аказалася, што мы з Вікаю рванулі на Захад практычна адначасова — нават падзівіліся, што ніколі не перасякаліся ў міграцыйным бюро, — але ўдавацца ў падрабязнасці атрымання віду на жыхарства нікому з нас не хацелася, дый мяне асабіста больш цікавіла цяперашняе, чым мінулае. Віка распавяла, што мадэлінгам ужо амаль не займаецца, усё болей выступае ў тэатры (ну так, у цябе ж з дзяцінства быў талент), але не драматычным, вядома, а музычна-міметычным, так званым "чорным", ходзіць на кастынгі на тэлебачанне, на акторскія курсы... Карацей, пільная, адказная пчолка, якою была заўсёды — у гэтым таксама амаль не змянілася, не толькі знешне. Перыядычна бывае "дома" (так называюць краіну паходжання ўсе эмігранты), але апошнім часам усё радзей — не атрымліваецца, шмат абавязкаў... А як ты — дадому ездзіш? Не, не езджу. Можа, хоць лісты пішаш? Не, не пішу. Але ж тэлефаную раз на паўгода. Так рэдка? Часцей няма як і каму — дык ты была замужам? Была, але нядоўга. Развялася пасля таго, як легалізавалася — класіка... А чым ТЫ наогул жывеш? Ды так... Як і ўсе. Працую, п'ю. Пішу. Тры "пэ". Ну, магу дадаць яшчэ чацвёртае — захапленне парнаграфіяй. Яна засмяялася — падумала, што я жартую. У цябе няма дзяўчыны? "Што ты, Вікі, – адказаў я, – для мяне існуеш толькі ты. Ты такая файная лэдзі". Яна зірнула на мяне неяк залішне сур'ёзна, з дакорам, быццам і не глядзела працытаванага мною аскараноснага фільма братоў Коэнаў з часоў нашага даспявання. Гэта мяне здзівіла — няўжо пакрыўдзілася? Так хутка? Не можа ж яна сур'ёзна думаць, што я праз столькі гадоў захоўваю да яе нейкія пачуцці? Як бачыце, жаночая інтуіцыя яе не падвяла. <...>

"Дарэчы, дзяцей не плануеш?", – меў неасцярожнасць пацікавіцца я, разумеючы, што не спытацца пра гэта жанчыну ў ейным веку — значыць, даць ёй зразумець, што яна непрывабная вам сэксуальна, а гэта ўжо, па-

гадзіцеся, хамства. Віка адказала штосьці дзяжурна-банальнае ў тым сэнсе, што на Захадзе нараджаць да трыццаці лічыцца зарана, што ў яе цяпер іншыя планы, датычныя ейнай кар'еры (па сакрэце яна прызналася мне, што спадзяецца атрымаць ролю імігранткі з Усходу ў адным найноўшым серыяле на камерцыйнай тэлевізіі), і што калі яна ўрэшце надумаецца стаць маці, то толькі тады пачне шукаць партнёра, які адпавядаў бы ейным уявам пра бацьку ейнага дзіцяці... Натуральна, я ёй не паверыў, але не падаў выгляду. Хутчэй за ўсё, калі б яна магла мець дзяцей, то даўно б іх мела — мае суайчынніцы рана нараджаюць, у якім бы канцы свету яны ні жылі, бо такія рэчы звычайна запраграмоўваюцца самім выхаваннем. "Ідэальная партнёрка для мяне", – злавіў я сябе на думцы — мець дзяцей ніколі не ўваходзіла ў маё разуменне ўласнае кармы. Да таго ж, з ніводнай тутэйшай жанчынай я не меў такой адкрытай размовы на самыя інтымныя й актуальныя для нашага ўзросту тэмы. Напрыканцы ўжо здавалася, што мы з Вікай ведаем адно аднаго самае меншае чвэрць стагоддзя — ураджанне ўзаемнага паразумення было такім дасканалым, што я й забыўся, што, уласна, так яно і было.

## VII.

Бэнгт заўжды хадзіў на пахаванні з абавязку, але яшчэ ніколі — службовага. Шчыра кажучы, іначай бы ён туды не патрапіў: запрошанае было толькі "вузкае" (калі пяцьдзясят чалавек можна лічыць вузкім) кола знаёмых загінулай, каб абараніцца ад усюдыпрысутных журналістаў і, перадусім, — ад тэлевізіі. Зрэшты, такі камерны характар імпрэзы можна было зразумець: арганізатары, напэўна, баяліся, каб хаўтуры Вікі не кінулі інфармацыйны цень на пазаўтрашняе вяселле прынцэсы. Аднак усюдыісная тэлевізія там і так прысутнічала, у асобах калегаў Вікі па серыяле, якія ў звыклым для сябе амплуа ўдзельнікаў масоўкі занялі большую частку залы. Сярод гасцей Бэнгт пазнаў, апрача Свэна Эклюнда з ягонай новай, увабранай у сэксі-жалобныя строі пасіяй, яшчэ некалькі знакамітасцяў — гэта былі мадэлі, мадэлькі, мадэльеры ды іншыя карыфеі шоў-бізнэсу. Нікога са сваякоў ахвяры на цырыманіяле не было — "не паспелі прыехаць", паведамілі Бэнгту. Як і ніякіх загадкавых суайчыннікаў з залатымі ланцугамі, у цёмных акулярах і з яшчэ цямнейшым мінулым, якія ўсё мроіліся Калле: гэта ён настаяў на тым, каб Бэнгт з'явіўся на пахаванні, некрытычна спадзеючыся на ягоную абазнанасць у фізіягноміі. Страта часу: бальшыні з прысутных ужо і так былі даслалі позвы на гутарку, некаторых ужо й дапыталі. Нічым важным ці дагэтуль невядомым яны пакуль падзяліцца са следствам не здолелі: так, піла, бо жоўтая прэса не давала ёй спакою, так, складаная асоба, але ж усё-ткі надзвычайна, ах, надзвычайна таленавітая (гэта паўтараў амаль кожны, нібы загадзя ведаў і на ўсякі выпадак рэпетаваў тэкст развітальнай прамовы), якая страта для нашай культуры! Імя Алекс ...скі нікому нічога не казала. Карацей, Бэнгт пачуваўся між астатніх надзвычай няёмка, пагатоў шмат хто пазіраў у ягоны бок з нямым пытаннем у сухіх вачах — праз гэта ён яшчэ больш шкадаваў, што прыйшоў на чужое "свята", ды яшчэ ў якасці шпіёна, апрануты гэткім Джэймсам Бондам. Затое пасля, калі ўсё скончылася, ён нечакана для сябе стаў галоўнай дзейнай асобай урачыстасці, бо да яго тут жа кінуліся бессаромныя журналісты,

што накрылі ўсю кампанію проста на прыступках крэматорыя з вартай зайздрасці аператыўнасцю:

— Спадар Мальміюс, вы ўжо ведаеце імя забойцы? Яго злавілі? Ці гэта ўсё-ткі было няшчаснае здарэнне? Ці праўда, што ў крыві Вікі былі знойдзеныя наркотыкі? Гэта было самагубства?

З баявымі выгукамі “ноў комэнтс”, прыкрываючы твар рукамі, Бэнгт прадзіраўся да машыны і ўжо ўяўляў сябе ў вечаровай тэлепраграме. “Трэба закрыць гэтую справу як мага раней, – віравала ў ягонай галаве. – Я больш гэтага не вытрымаю”.

## 7.

У адну з нашых (апошніх) сустрэч я прынёс пачытаць Віцы пару старонак са свайго дзённіка, напісаных яшчэ тры гады таму. Яна сама пра гэта папрасіла, даведаўшыся, што я нешта там пішу, і нават паабяцала (нягледзячы на мае пратэсты) паказаць іх ці то свайму знаёмаму рэжысёру, ці то выдаўцу. Наўрад ці, аднак, да гэтага дайшло — хаця магчыма, што яна іх і чытала. Не ведаю, чаму я выбраў для яе менавіта гэтыя старонкі — мабыць, хацеў яе шакаваць (як быццам сёння гэта яшчэ магчыма). Калі вы не пагрэбуеце неабавязковым азнаямленнем з гэтым плёнам юначага максімалізму, які я так і не наважыўся нідзе надрукаваць, то зразумееце, што ў яе былі ўсе падставы ўхіляцца ад сяброўства са мною.

“У гэтай краіне ўсё ідзе наадварот, як за Люстэркам у дзіцячай кніжцы — ці, кажучы словамі нашага мудрага народу, “не па-людску”. Як быццам жывеш сярод чыстых антыподаў у першапачатковым сэнсе гэтага слова, на супрацьлеглым баку зямной кулі — нават ключы і банкаўскія карткі вымушаны ўстаўляць дагары нагамі. Пры гэтым да былой, ужо няіснай краіны твайго нараджэння, насамрэч “рукой падаць”, ейныя берагі можна нават разгледзець пры добрым надвор’і з усходніх выспаў, а адтуль недалёка і да калісьці “малой”, цяпер ужо — проста радзімы.

Бадай, усё, што я хачу ад жыцця — гэта быць тут пахаваным, бо могілкі — найлепшае, што ёсць у гэтай краіне. Яны лепш за ўсё астатняе адлюстроўваюць філасофію тутэйшага люду: смерць тут — не трагедыя, а хутчэй свята вызвалення ад бессэнсоўнасці. У нас на могілках чалавек пачувае сябе, як у абгароджанай дзідамі адзіночнай камеры ці каля ложка каматознага пацыента, які, прынамсі, паводле дыягназу лекараў у чорных рызах, у любы момант можа прачнуцца — ніякаватае адчуванне, пагадзіцеся. Тут цвінтары ўдаюць сабой штосьці накшталт букету кветак, дзе ўсе магілкі густоўна падабраныя адна пад адну. Балазе, у гэтай краіне з найменшай у Еўропе канцэнтрацыяй насельніцтва на квадратны кіламетр недахопу ў тэрыторыі няма: не толькі людзі, але й магілы трымаюцца адна ад адной на значнай адлегласці, як экспанаты ў музеі, чым ствараюць адчуванне прасторавай разняволенасці. Могілкі — такі кшталт нашага парку культуры, дзе спакойна гуляюць дзеці, дзе жывыя й памерлыя пачуваюцца аднолькава дома: адпачываюць. Еднасць пакаленняў, такі сабе кішэнны Апошні — а не Страшны, як у нас, — суд нон-стоп. Жывыя ходзяць у адведкі да мёртвых, як на агляд новай кватэры ў суправаджэнні гандляра нерухомасцю... Карацей, ніякай містыкі. Зрэшты, гэта цалкам адпавядае маім уласным атэістычным перакананням. Ледзь не забыўся: між магіламі

вядомых і невядомых людзей няма ніякага адрознення — відаць, гэта тое, што мне падабаецца больш за ўсё.

Што да жыцця, то, пры ўсіх яго выгодах, яно здаецца мне зусім не прыдатным для чалавека — прынамсі, такога, як я. Як алкаголік-пачатковец, я магу толькі шкадаваць, што людзі тут калектыўна пагадзіліся абмяняць колішні ўсенародны алкагалізм на найвышэйшы ў свеце жыццёвы ўзровень — хто ведае, можа, калі б яны гэтага не зрабілі, то маглі б быць цяпер падобнымі да нас. Менавіта таму, мы, усходнікі, вылучаемся на тле мясцовага насельніцтва нашмат болей за іншых прадстаўнікоў трэцяга свету. Ці мы ўсё-ткі па-ранейшаму прадстаўляем нейкі забыты ў мінулым стагоддзі "другі", кірылічны свет, пра які ўжо даўно ніхто не гаворыць? Тым не менш, я перакананы, што ягонае існаванне лёгка эксперыментальна даказаць ва ўмовах канфрантацыі з гарманічным альянсам першага й трэцяга светаў, які я маю шчасце тут назіраць. <...>

Перасяленцы наогул належаць да самых шчаслівых людзей у гэтай краіне. Калі ў першай генерацыі прычына іхняга шчасця палягае ў сялянскай непатрабавальнасці, то ў другой — ва ўсведамленні гонару за тое, што яны, будучы ў меншыні, як і колішнія еўрапейскія каланізатары, здолелі прыстасаваць функцыянаванне гэтай часткі свету да сваіх патрэбаў, самі амаль ні да чаго не прыстасоўваючыся. Часам бывае цяжка ўцяміць, што да гэтай сацыяльнай катэгорыі належу і я. Што ні кажы, прыемна, што да імігрантаў тут ставяцца як да галоўнага нацыянальнага багацця — перадусім, да тых, каго лёгка падкупіць і абавязаць да сякой-такой лаяльнасці з дапамогай адноснага дабрабыту. Мой недахоп палягае ў тым, што ў адрозненне ад бальшыні з іх, я шукаў сабе тут не толькі й не столькі кавалак хлеба, які мне маглі кінуць і на радзіме. Таму бальшыня тутэйшых імігрантаў глядзіць на мяне ў пэўнай ступені як на паразіта: еўрапеец? Якой трасцы прыехаў? Згодны, жыць у любой краіне Еўропы — прывілей, выдадзены табе воляй выпадку на адносна прыстойнае жыццё, якое немагчыма мець у "трэцім свеце". Бач ты, мне гэтага прывілею было мала — я не хацеў жыць "у любой" краіне, бо лічыў, што жыццё павінна быць не толькі адносна прыстойным, але і годным. Зноў-такі, павёў сябе эгаістычна, не ўлічыў інтарэсаў глабальнага чалавечага калектыву, не пашкадаваў больш абяздоленых за сябе. Каюся. Калі б я насамрэч быў сумленным еўрапейцам, то застаўся б дома ці рынуўся б не на Захад, а, відаць, кудысьці на Поўдзень, раздаваць гуманітарную дапамогу і шырыць оптавую любоў, займацца свецкім місіянерствам, прыхапіўшы з сабою пад пахай не Ніцшэ, а Гандзі ці Талстога... Добра, дамовіліся — у наступным жыцці". <...>

С у б о т а

## VIII.

За абедам Бэнгт паведаміў жонцы, што да вечара хацеў бы папрацаваць, таму просіць яго не турбаваць — калі што, ён будзе на верандзе з выглядам на мора. Тая хацела нагадаць яму ягонае абяцанне адрамантаваць дзверы ў склеп і насячы дроваў, аднак перадумала — толькі ўваччу ў яе з'явіўся ледзьве чытэльны папрок: маўляў, што гэта за адпачынак, мы ж дамаўляліся, што тут, на выспе, будзем жыць зусім па-іншаму, чым у горадзе, і не будзем цягаць сюды нічога, што нагадвала б пра тыднёвы шум сталіцы... Нават у

прыватны рай нельга браць з сабою зямных набыткаў — аднак Бэнгт зноў знайшоў падставу, каб парушыць гэтае сямейнае правіла. Магчыма, яму, вырасламу ў лясной глыбінцы, не падабаецца ейная спадчынная выспа, дзе яна правяла сваё бясхмарнае дзяцінства? Задаваць гэтае пытанне ўголас жонка не хацела, бо, відаць, баялася пачуць адказ. Быць жонкай следчага азначае быць крыху злачынкай — прынамсі, не гаварыць нічога, што магло б быць скарыстанае супраць вас. Яна толькі нагадала яму, што ўвечары прыедзе дачка, прыбрала посуд і сышла ў свой пакой, адпачыць перад гатаваннем вячэры. Бэнгт быў ёй надзвычай удзячны за адсутнасць усякіх роспытаў. Уладкаваўшыся ў фатэлі на верандзе, ён доўга не мог прымусіць сябе адарваць вочы ад марскога краявіду, які перасякаў лайнер: быццам творца карціны вырашыў перапісаць яе нанова, ад пачатку, а папярэднюю версію парэзаць нажом яшчэ на мальберце. Дарэмна: наўрад ці ў яго атрымаецца дасягнуць большае дасканаласці.

Пераклад файла з лэптопу падазраванага, які той з такой літасцю да следчых пайменаваў “Вікі”, налічваў каля сотні паўстаронак дробнага шрыфту — іх трэба было прачытаць і прааналізаваць да панядзелка. Спачатку Бэнгт хацеў засяродзіцца толькі на тых месцах, дзе згадвалася імя ахвяры, аднак убачыў, што яму не зусім ясныя сувязі між эпізодамі з яе ўдзелам і зразумеў, што яму прыйдзецца чытаць адпачатку. Пашкадаваўшы сябе і жонку, ён сербануў кавы (гэтым разам жонка, на шчасце, не памылілася і не зварыла яе ў салёнай марской вадзе, як кагадзе) і занурыўся ў як мага больш павольнае, засяроджанае чытанне, выгаворваючы пра сябе і ўзважваючы на языку ці не кожнае слова дзённіка.

Пасля першых старонак Бэнгт, хоць і не без шкадавання, канчаткова адкінуў думку, што гэты тэкст можа быць шыфраваным паведамленнем. Як на ягоны густ, у ім было зашмат лірыкі і замала інфармацыі. Неўзабаве яму адкрылася прычына ўсіх стылістычных заганаў аўтара: той сам прызнаваўся, што пісаў збольшага нецвярозы. “Дадатковы аргумент на карысць ягонай шчырасці, – падумаў Бэнгт, – што ў п’янага ў мазгах — тое і на кампутары”. Ён узяў аловак і накрэмзаў у раскрытым нататніку слова “алкаголік”, праз якую гадзіну прыпісаў туды “расіст і ксенафоб”, яшчэ праз гадзіну — “мізагін”, пасля чаго падвёў пад гэтым усім рысу і ўдакладніў свой дыягназ: “асацыял”. Вядома, вызначэнне псіхічнага тыпу падазраванага не ўваходзіла ў ягоныя абавязкі, гэтым зоймецца пазней турэмны (спадзяваймася) псіхолаг — хутчэй, сведчыла пра ягоную асабістую зацікаўленасць справай. Зрэшты, каб не гэтая зацікаўленасць, ён не займаўся б вывучэннем доказных матэрыялаў у выходны дзень.

Чытаць далей яму ўсё болей заміналі ўласныя думкі, дыктаваныя абурэннем, якое нарастала ў ім ад старонкі да старонкі. “Дык ты кажаш, мы больш не ўмеем ненавідзець, – усміхаўся Бэнгт. – Глядзі, каб не пераканацца ў адваротным, дружа”. Хаця... напэўна, такі чалавек сапраўды не варты нават нянавісці, яго можна толькі пашкадаваць... Калі яму тут настолькі не падабаецца, то навошта ездзіць сюды, каб пасля скардзіцца, наракаць, ачарняць? Хай вяртаецца ўва ўласную краіну і разбіраецца з тамтэйшымі праблемамі, хай хоць спрабуе балатавацца на прэзідэнта... Шкада, што праз ягоны статус яго не могуць дэпартаваць. Толькі лішні цяжар падаткаплатнікам... Ён злавіў сябе на думцы, што гэтак аднойчы пачаў разважаць уголас у адным бары ягоны былы калега, стары Рутберг — у выніку гэта каштавала яму працы, бо неўзабаве выявілася, што ён

яшчэ з саракавых гадоў уваходзіць у нейкую праварадыкальную арганізацыю. Ніхто не паглядзеў ні на ягоныя заслугі, ні на тое, што ў той дзень ён святкаваў свае народзіны.

За чытаннем Бэнгт і не заўважыў, як мінулі тры гадзіны. Клікала жонка: прыехала дачка са сваім хлопцам. Бэнгт памятаў, што хлопца зваць Алі, але ніколі дагэтуль яго не бачыў і ніякай асаблівай цікаўнасці да яго, як і да папярэдніх доччыных сімпатыяў, не меў — ён стаміўся ўжо завучваць на памяць іхнія імёны і паслядоўнасць. З неахвотай ён узняўся, адклаў напалову прачытаную раздрукоўку, прыціснуўшы яе нататнікам, каб не аднесла ветрам у мора, і скіраваў да прычала выконваць ролю добрага бацькі. Невядома чаму, але гэтым разам ён унікнуў ад абдымкаў з незнаёмым смуглявым хлопцам з залатым ланцужком на шыі, абмежаваўшыся паданнем рукі — з тым большай, амаль паказной ласкавасцю ён прытуліў дачку й запрасіў іх прайсці ў дом — выпіць рытуальную шклянку перад вячэрай. Аказалася, што хлопец дачкі не толькі не п’е алкаголю, як можна было здагадацца, а яшчэ й не гаворыць па-шведску, што Бэнгта вельмі пацешыла — не прыйдзецца ўдаваць сваю цікаўнасць да яго, седзячы з ім каля каміна з кілішкам віскі і распытваючы яго пра звыклыя ў такіх сітуацыях рэчы. Ён пастанавіў, што сёння нізавошта не будзе размаўляць па-ангельску, зробіць выгляд, быццам не хоча ганьбіцца перад госцем сваім вымаўленнем. Цікава будзе зірнуць на рэакцыю жонкі з дачкой — тыя тым часам пайшлі паказваць замежнаму госцю выспу, па-над якой лунаў абавязковы сіні сцяг з жоўтым крыжам, што мусіў нагадваць чужынцу тут адначасова рэгіё і рэлігіё — хаця хто ведае, мажліва, аднойчы выспа ўсё адно будзе належаць яму.

Застаўшыся сам-насам з пляшкай віскі, Бэнгт ніяк не мог пераключыцца з думак пра сваю справу на думкі пра сваю сям’ю — і тыя, і тыя не прыносілі яму асаблівага суцяшэння. “Магчыма, варта паспрабаваць чытаць пісаніну гэтага алкаголіка ў падпітым стане, каб лепш яго зразумець?”, – усміхнуўся ён сам сабе, пашкадаваўшы, што ніхто не можа ацаніць ягонага досціпу. Але не, у ягоную задачу не ўваходзіла яго “зразумець” — Бэнгта цікавілі толькі наўпроставыя, альбо, прынамсі, ускосныя сведчанні вінаватасці (ці, згода, невінаватасці, раз ужо такая прэзумпцыя) аўтара тэксту, на некаторыя з якіх, як яму здавалася, ён ужо натрапіў — дакумент павінен скласці аснову будучага прызнання. “Добра было б, каб ...скі мог падпісаць проста гэты тэкст”, – зноў усміхнуўся Бэнгт.

Пасля вячэры дачка скіравалася са сваім абраннікам у лазню (“Выбачайце, што не турэцкую”, – пажартаваў Бэнгт, але Алі яго не зразумеў), а гаспадар тым часам узяў на сябе пачэсны абавязак мыцця посуду. Ягоны настрой значна палепшаў: ён ганарыўся, што стрымаў дадзенае сабе абяцанне не размаўляць па-ангельску. Калі госць паспрабаваў быў да яго звярнуцца, Бэнгт адказаў яму не наўпрост, а праз дачку, нездарма ж тая вучылася на перакладчыцу — пасля чаго маладзён зусім перастаў на яго зважаць, праз што Бэнгт быў, парадаксальна, надзвычай рады. Смакаваць ежу і сітуацыю яму не заміналі нават здзіўленыя погляды жонкі і дачкі, поўныя дакору. “Што гэта са мною? – сам дзівіўся сабе Бэнгт, жуючы біфштэкс. – Раней я б сабе такога ніколі не дазволіў”. Затое цяпер ён адчуваў сябе не толькі гаспадаром становішча, але й гаспадаром выспы, дзе яшчэ не ступала нага ніводнага замежнага заваёўніка (апрача расейцаў, што ўзімку 1809 года прыйшлі сюды па лёдзе проста з Фінляндыі). “Хай вучыць шведскую, калі

мае сур’ёзныя намеры, — а як не, то і не”, – у думках пракручваў ён адказ на пытанне жонкі, якое яна, здаецца, абавязкова задасць перад сном. Ці ўсё-ткі, як заўжды, не задасць? Яму чамусьці закарцела, каб яна яго задала — каб хоць раз яны адкрыта прызналіся сабе, што ў чымсьці не пагаджаюцца, проста каб не пагадзіцца, з чыстага сужэнскага азарту. “Шлюб без сварак — як вяселле без слёз”, – прыгадаў ён прымаўку — дарэчы, нібыта турэцкую? Што ж, мяркуючы паводле прымаўкі, дачка мае ўсе перспектывы на болей цікавае сужыццё, чым ён сам... Прымаўку Бэнгт ведаў з крыжаванкі, яшчэ аднаго вынаходніцтва дзеля забіцця часу, што ў замежжы называюць шведскім, разам з сям’ёй, сценкай, сталом... “Не хацелася б застацца ў гісторыі перадусім мэбляй”, – падумаў Бэнгт. Сяк-так адагнаўшы ад сябе ўяву таго, чым займаецца цяпер у суседнім пакоі дачка, ён заснуў. Думкі пра тое, чым займаецца ў камеры падазраваны, у яго не ўзнікла.

## 8.

Вы ведалі, што ў гэтым горадзе памёр заснавальнік сучаснага рацыяналізму Дэкарт? Раней лічылася, што ад передозу нейкімі лекамі, цяпер я ўпэўнены, што ён памёр ад суму — таго самага “суму”, каторы “когіто, эрго”: хутчэй за ўсё, яго дабіў сам ягоны рацыяналізм. Цяпер, пасля канчатковага расстання з Вікай, ад занесенай сюды Дэкартам эпідэміі рацыяналізму ў гэтым горадзе паміраю я.

У пятніцу ўвечары для тутэйшых прыгонных буржуа (у добрым сэнсе слова) настае ВОЛЯ! Усе забываюцца на працу і супольна ідуць нажырацца, на чале са мною (нягледзячы на тое, што я працую і ў суботу-нядзелю, натуральна — за даплату). У буржуа прачынаюцца пралетарыі, і наадварот. Вынік узаемнай культурнай асіміляцыі: рабочая класа тут не бухае, як у нас, пакідаючы гэта фрустраваным япі, а ласуецца далікатэсамі і гуляе ў гольф. Гэта, здаецца, і называецца сацыялізмам. <...>

Ідучы па вуліцы, я прадзіраюся праз мноства жаночых твараў, перабіраючы іх, як бульбу, не паводле прынцыпу “прывабны/непрывабны”, а хутчэй — “цікавы/нецікавы”. Нецікавыя мне й нічым не адметныя твары я адкідаю так лёгка, як пінгпонгавыя мячыкі, што выпадкова падкаціліся да вашых ног у парку — за маёю спінаю расце цэлая гурба такіх ананімных мячыкаў, якая пагражае мяне заваліць. Вось, прыкладам, яскравая бландынка гадоў сарака пяці з на дваццаць гадоў старэйшым мужам. У ейных вачох адразу відаць, што яна хоча, каб з ёю рабіў я ці хтосьці іншы. не трэба мець вялікага розуму, патрэбнага, парадаксальным чынам, каб спакусіць тупую малалетку. Пры неабходнасці яна сама прыдумала б, як нейтралізаваць мужа, аднак відавочна, што ёй бракуе ў гэтым найменшага досведу, — а значыць, розуму, — інакш яна не выглядала б так трагічна. Каб схаваць сваю жыццёвую няўдачу, яна час ад часу выдае нервовы смяшок. Па ейным твары бачна, як балюча ёй робяць чужыя позіркі, у тым ліку і мой — прычына маёй ціхай радасці. Відаць, яна ўжо нейкі час жыве не надзеяй на чарговы сэкс, а ўспамінам пра апошні — як паэт, няздольны напісаць новага верша.

Калі хочаце, можаце лічыць мяне мізагінам — я магу з гэтым нават пагадзіцца без асаблівай пакуты, пагатоў што да мужчын я стаўлюся не лепей. <...>

Натуральна, што як мужчыну мне самому падабаюцца жанчыны “новага

ўзору", я нават хачу быць, як яны, і не болей: не саромецца самога сябе (што нашмат прасцей дэклараваць, чым ажыццявіць — насамрэч, мужчын без сораму я заўжды найбольш ненавідзеў). Я не хачу хаваць ад жанчын вочы, душачы ў сабе "небяспечнага агрэсара", якім, мабыць, ім і падаюся. Ну і няхай: я не хачу падавацца ім лепшым, чым я ёсць, толькі для таго, каб чагосьці ад іх дамагчыся. Я, наагул, дэмакрат — гэта мой пеніс скінхэд ад прыроды. Таму не трэба мне болей показак пра каханне й жаночую чысціню. Усё, што мне патрэбна цяпер ад жанчыны, — гэта наркотык, сэкс, за які я гатовы плаціць, як плачу за алкаголь. Яшчэ й таму мяне гэтак абражае адсутнасць у гэтай краіне прастытутак. Нягледзячы на тое, што ў сучаснай курвы мне насамрэч не хацелася б купляць нічога, нават спачування, лепш усё-ткі пайсці з ёю, чым з гумавай барбі з "Сэксу й места"... На жаль, прафесійны ўзровень прастытуцыі ў апошнім стагоддзі катастрафічна знізіўся: нельга не бачыць тут сувязі з яе крыміналізацыяй. Упэўнены, што такая з'ява, як постмадэрнізм, абавязаная сваім узнікненнем перадусім таму факту, што ў 1946 годзе былі зачыненыя парыжскія бардэлі: у гэтым сапраўдная прычына з'яўлення ўсіх гэтых субверсіўных Бадрыяраў, Дэлёзаў, Дэрыдоў і астатніх. Лозунгам рэвалюцыі 1968 года павінна было быць не "Патрабуйце немагчымага", а — "Адчыніце бардэлі!" (Згода, пра опіумныя прытоны сціпла прамаўчу.) Нагадаю, што менавіта бардэль быў калісьці родным домам заходняй культуры і яе найвялікшых прадстаўнікоў. У ім чыстая, несублімаваная жывёльнасць мела сваё трывалае, адведзенае ёй месца — сёння яна выйшла з-пад кантролю, і ў выніку ў бардэль, гэткі кірмаш, дзе гандлююць ці хутчэй абменьваюцца асалодай, ператварылася ўсё грамадства. Дакладней, не ў бардэль, а ў дыскатэку — нездарма з антыканцэпцыяй у 60-х так вырасла значнасць папсы.

Балазе, праз якіх гадоў дваццаць мужчынская патрэба ў бардэлі была па-свойму задаволеная: з'явіўся інтэрнэт. Вялікі сімулякр пляцу Пігаль, лек душы, бальзам на раны сэрца, сябра ў найвялікшым горы — цэлібаце! (Не разумею, чаму ўсе так баяцца гэтага цэлібату — з майго досведу выплывае, што ў цэлібаце чалавек сторазова лепшы за залежнага ад сэксу шымпанзэ. Бадай, адзіная ягоная загана — тое, што ён занадта шмат разважае пра сэкс.) Лагічна: калі твой кампутар робіць за цябе столькі іншых рэчаў — то хіба не цудоўна, што ён здольны замест цябе і займацца сэксам? Ён уступае ў кантакт з астатнімі кампутарамі, стогне за цябе ад перагрузкі, заражаецца нейкімі вірусамі... У эпоху СНІД гэта вельмі практычна. Ты сам патрэбны толькі ў якасці вуаёра, назіральніка за сваім кампутарам. Ананімнасць інтэрнэту ёсць новым разуменнем свабоды: яна ні да чаго не абавязвае. Гэта зручна. З дапамогай інтэрнэту жанчына можа "належаць" усім, і ўсе (пакуль яшчэ не ўсе, але многія) жанчыны могуць "належаць" аднаму. Што можа быць бліжэй да боскага ўсяведання? Візуалізацыя, якая распаўсюджваецца і на ўсё астатняе: ніякіх табу, датычных колішняй "найвялікшай таямніцы быцця", не засталося — засталіся толькі ўзроставыя абмежаванні. Таму не думайце, што я буду забаўляць вас скандальнымі падрабязнасцямі, якія вы і гэтак ведаеце. У сэксе няма больш нічога цікавага ці забароненага, усе робяць усё тое самае — які, наогул, сэнс паранейшаму хаваць гэта адзін ад аднаго? Уседаступнасць колішняй таямніцы ператварае яе ў фарс, у камедыю: і сапраўды, парнаграфія ўзбагаціла сэкс элементам гумару, які дагэтуль быў яму абсалютна чужы.

Карацей, мужчыны ў чарговы раз перамаглі прыроду зброяй самой

прыроды: стварылі яе дасканалы сімулякр, сімулятар. Прыдумалі яшчэ адну гульню, каб падмануць саміх сябе — і зноў ім гэта ўдалося. Калі праміскуітэт быў формай сэксуальнай “эмансіпацыі” жанчыны, то вуаерызм — такая ж “эмансіпацыя” (то бок у сапраўднасці — форма падпарадкавання) мужчынаў. Падпарадкавання чаму? — мабыць жа, уласнай жывёльнасці, якая нібыта эвалюцыянуе разам з чалавекам, па-ранейшаму застаючыся (на жаль?) самым цікавым для яго самога.

Што да кахання, то яно сёння — не жыццёвая патрэба, як раней, а ўзроставы атавізм, лецішча са статусам музея, на якое прыемна з’ездзіць ці ўцячы, як у таго Замяціна, каб апынуцца ў іншым часе, сродак рэлаксацыі — як і ўтылізаваная ды ўтаймаваная “культура”: нешта, што ніхто не ўспрымае сур’ёзна. У гэтым ёсць свая рацыя: паміраючы, у параўнанні з папярэднімі эпохамі, вельмі старымі, мы ўсё-ткі жывем непараўнальна хутчэй, і на нейкае там каханне (ці “культуру”) у нас няма часу (хіба што на пенсіі). Нездарма каханне называюць раманам: гэта доўгая гісторыя пакутаў, прызначаная мазахістам (здаецца, гэта я ўзяў з Кундэравай “Запаволенасці” — як бачыце, я не толькі пішу, але час ад часу й нешта чытаю, апрача газетаў), якая часта заканчваецца нічым, тым часам як сэкс у чыстым выглядзе — гэта смс-паведамленне, відэакліп, анекдот, чыя смешнасць неадкладна пацвярджаецца (ці часта не пацвярджаецца) фінальнай рэплікай. Наш суцэльна прагматычны й функцыянальны свет — гэта свет такіх анекдотаў. У “Кама-сутры” жанчыны дзеляцца на розныя кшталты “жывёлаў” паводле памераў іхнае похвы — думаю, больш справядліва было б падзяляць людзей паводле іхнага спосабу размнажэння: калі раней яны часцей былі “сланамі”, што з цяжкасцю знаходзяць партнёра і выношваюць дзіця некалькі гадоў, то цяпер здрабнелі і ўсё больш нагадваюць трусоў. Як вы і падумалі: якасць замянілася колькасцю.

Не, я, зноў-такі, ні да чаго не заклікаю, асабліва не ў атаку — гэта проста апошняя спроба рэшты ўшчэнт разбітага войска абараніць свае пазіцыі. Калі шчыра, я сам не хацеў бы “жыць каханнем”, нават калі б мог: кахаць ільга да пэўнай мяжы. Чалавек сем у жыцці, не болей. Па адной на кожны дзень тыдня — для гарэму зноў дастаткова. Часам здаецца, што жанчын у свеце папросту зашмат. Нездарма, калі кахаеш у дзяцінстве, усе дзяўчаты раптам робяцца на адзін твар — твар тваёй абранай. Нават калі нехта апранаецца аднолькава з ёю, гэта пачынае раздражняць. Да сёння ўсе цікавыя мне жанчыны нагадваюць кагосьці з маіх былых каханак: мяне злуе тое, што яны нагадваюць іх недасканала, іншымі словамі — тое, што гэта не яны. Часта, калі я бачу, як на вуліцы цалуюцца, мне хочацца проста бляваць. Верагодна, сапраўднае каханне ёсць толькі формай нянавісці да ўсіх астатніх людзей, апрача аднаго-адзінага чалавека.

Нядзеля

**IX.**

Ужо другі дзень Бэнгт ніяк не мог дабрацца да канца нататкаў ...скага. Яму ўвесь час нешта замінала: ад’езд дачкі, хатнія абавязкі і рытуалы ды ўсякі іншы галаўны боль, у тым ліку ад лёгкага пахмелля. Агульная карціна пачала ўжо сяк-так вымалёўвацца, але ж тут, як наўмысна, жонка зноў яго паклікала, гэтым разам да тэлевізіі, глядзець вяселле прын-

цэсы. Пагадзіўшыся ў думках са сваёй паразай, Бэнгт адкаркаваў піва і паслухмяна ўтаропіўся ў жывую трансляцыю падзеі, прапускаць якую, трэба прызнацца, яму не хацелася: не дзеля таго ён цэлы год разам з усёй краінай сачыў за яе падрыхтоўкай, каб заўтра выставіць сябе перад калегамі поўным дзіваком. Не, варта ўсё-ткі вытрымаць яшчэ дзень-два ажыятажу, потым ад яго не застанецца й знаку. Пагатоў, павінны ж быць у яго з жонкай нейкія супольныя інтарэсы. На экране ганаровая варта ў касках кайзераўскіх жандараў праводзіла арыштаваную пару ў апошні шлях — столькі людзей калісьці сыходзілася паглядзець на смяротнае пакаранне. Недзе там павінна быць і дачка, падумаў Бэнгт — ён заўжды вышукваў твары знаёмых заўзятараў у часе паказу хакейнага матча, — але ў натоўпе яму так і не ўдалося яе разгледзець. Відовішча і насамрэч нагадвала нейкую спартовую трансляцыю, хіба што тут усе, незалежна ад паходжання, заўзелі за адну і тую ж каманду, махаючы аднолькавымі сцяжкамі. Пад руку з новаабвешчаным мужам прынцэса сышла па амаль што эйзенштэйнаўскай лесвіцы да гандолы й выправілася ў сваё першае вясельнае падарожжа — турыстычную паездку па родным горадзе пад аховаю баявога крэйсера. Гандола, нібы перанесеная казачным джынам з паўднёвай Венецыі ў паўночную, боўталася ад берага да берага, не раўнаючы ўсярэдзіне сувенірнай асадкі, напоўненай алеем (Бэнгт прывёз такую з той самай Венецыі гадоў дваццаць таму), нідзе не знаходзячы месца для прыстання, як паром перавозчыка Харона. Напятых усмешак здрабнелай прынцэсы й ейнага абранніка было амаль не відаць: з такой перспектывы яны ператварыліся ў маленькія пластыкавыя фігуркі на вясельным торце, які чакаў іх увечары, хіба з той розніцай, што час ад часу варушыліся — можна было падумаць, быццам іхнія жыццё і смерць залежаць цяпер ад спагады вакольнага амфітэатра, што сабраўся паглядзець на рэканструкцыю якойсьці старажытнай марской бітвы... Бітва была няроўнай: гандола выглядала на тле сучаснага крэйсера анахранічна і бездапаможна, нібы шчанюк побач са шчаслівай маткай. Шмат гадоў таму ў нейкім апавяданні Букоўскага Бэнгт чытаў пра двух маленькіх чалавечкаў, якіх прымусілі займацца сэксам на стойцы бара, такі сабе блышыны цырк — падобнае адчуванне ўзнікла ў яго і цяпер, быццам ён нахабна назіраў за інтымнасцю двух прадстаўнікоў іншага, хаця й вельмі блізкага біялагічнага кшталту, і яму зрабілася сорамна — ён нават пашкадаваў маладых, якім у гэты момант зайздросціў ці не ўвесь свет... Невядома, як на месцы прынцэсы, але на месцы ейнага жаніха ён дакладна б паспрабаваў уцячы, скочыў у ваду і паплыў да берага — відаць, яго адразу ж кінуліся б "ратаваць" галагаловыя бамбізы ў марацкіх уніформах, калі толькі не пачалі б па ім страляць як па здрадніку айчыны й парушальніку этыкету... Дык вось дзеля чаго спатрэбіўся крэйсер... Шкада, што Вікі Родзіч не дажыла да гэтай урачыстай падзеі — яна дакладна ўбачыла б у ёй праабраз уласнага вяселля, калі б тое не было скасаванае...

Бэнгт раптоўна згадаў яшчэ адну падобную справу: выпадак забойства, што здарыўся не так даўно ў Мальмё, дзе ў часе вяселля іншай прынцэсы, гэтым разам іспанскай, адзін бадзяга з надпісам "Беларусь" у пашпарце ад няма чаго рабіць забіў нейкага былога бадзягу з надпісам "Беларусь" на пакеце. І пасля такога гэты графаман мае нахабства сцвярджаць, што гэта мы тут вар'яты? Падобна, што турызм з мэтай забойства суайчыннікаў — гэта насамрэч іхні нацыянальны спорт. Цікава толькі, чаму яны абіраюць

у якасці пляцоўкі для сваіх крывавых рандэву менавіта нашую краіну? Таму што ў нас самае гуманнае заканадаўства? Ці мы папросту залішне ліберальна ставімся да ўсіх гэтых “ахвяраў” тамтэйшай палітычнай сістэмы, створанай іхнімі ўласнымі рукамі? Не, яны і насамрэч бадзягі, уломкі, жабракі (у найлепшым выпадку, усяго толькі духу), якія пад прыкрыццём балбатні наконт спачування й чалавечае салідарнасці, падтрымкі дэмакратычных каштоўнасцяў і павярхоўных культурных падабенстваў — ім няма чаго губляць, апроч сваіх ланцугоў, таму яны не цураюцца ніякай хлусні — вымольваюць у нас дапамогі ў развязанні сваіх чыста прыватных, збольшага матэрыяльных праблемаў, да якіх нам у сапраўднасці не павінна быць ніякага клопату... Паспрабуйце адмовіць гэтым заезджым пабіракам — яны папракнуць вас у чэрствасці, негуманнасці, праклянуць, абгавораць, сурочаць! Маўляў, мы, запанелыя й разбэшчаныя заходнікі, халодныя скандынавы, не разумеем іхняй шырокай душы... Ды якая душа! Што ім насамрэч ад нас патрэбна — дык гэта ніякая не культура, а мора, мора, за якое яны з намі так доўга ваявалі — калі не ў мэтах палітычных ці эканамічных, дык, прынамсі, эстэтычных: дайце нам зірнуць на мора, плюнуць туды, намачыць у ім ногі й памерці! — ці, прынамсі, каго-небудзь замачыць... А мо яны папросту ласыя да нашых жанчын? Эмансіпаваным, напэўна, лягчэй задурыць мазгі... Няўжо праз тое, што мы калісьці зваявалі іхнюю краіну й пакінулі там пару нейкіх курганоў, руінаў і геаграфічных назоваў, а яшчэ раней разбурылі нейкую там Аркону, мы павінны адчуваць цяпер перад імі нейкую віну? Ды мы гэтую іхнюю краіну заснавалі! Без нас бы іх наогул не было! Скажыце яшчэ, што мы мусім вярнуць трафейныя каштоўнасці рэшце Еўропы!..

Бэнгт адчуў, што ўжо захмялеў ад піва, жонка пачала на яго касавурыцца, нібы здагадалася, што ён не глядзіць на цырымонію, а лунае ў думках дзесьці яшчэ — ён вінавата папрасіў у яе прабачэння і сказаў, што пойдзе класціся, каб не праспаць ранішні карабель — а можа, вернецца дамоў марскою таксоўкай, каб паспець на працу, яшчэ невядома... У кожным разе, заўтра ён збіраўся паставіць у гэтай справе кропку.

## 9.

Да пачатку гэтага года мы сустракаліся з Вікаю хай сабе не часта, але рэгулярна: бачыць яе раз на месяц-два зрабілася для мяне неабходнасцю. Калі падумаць — гэта нямала, бо ў вялікіх гарадах людзі могуць жыць амаль побач і не бачыцца гадамі, пры гэтым згадваючы адно пра аднаго ледзь не кожны дзень. Аднак наўрад ці яна гэта, у адрозненне ад мяне, рабіла. Цяжка было не заўважыць, што пасля таго, як я паведаміў ёй, што перавёўся працаваць у ейны раён, яна пачала мяне пазбягаць і ўсё часцей начавала ў Свэна. Думаю, што з моманту, калі пра яе са Свэнам пачалі пісаць у газетах, яна стала саромецца майго таварыства, таму заходзіла цяпер са мною толькі ў тыя кавярні й бары, дзе ў яе не было знаёмых і куды сама яна не пайшла б нізавошта — прынамсі, так выплывала з маіх роспытаў абслугі. Супольных тэмаў для гутаркі ў нас з ёю было ўсё меней, калі не лічыць абмеркавання новых галівудскіх фільмаў — гэтай апошняй выспы ўсіх адчужаных суразмоўцаў. Зрэшты, у нашым наваколлі кіно абмяркоўвалі ўсе — здаецца, нават сляпыя, да якіх мы, памятаю, аднойчы выпадкова падселі ў кавярні, што да сёння застаецца для мяне

невытлумачальным. Загаварыць з ёю пра тое, што мне карцела найбольш, я, у адрозненне ад першай сустрэчы, ужо не мог. На жаль, я залішне позна зразумеў, што сябраваць з жанчынаю, асабліва такою, папросту немагчыма — хтосьці адзін з дваіх заўжды першым паспрабуе парушыць сяброўства. У нашым выпадку, натуральна, гэта быў я — калі вы бачылі Вікі Родзіч прынамсі на фотаздымку, вы не знойдзеце ў гэтым нічога дзіўнага, — з тою розніцай, што згаданая спроба адбылася выключна ў маёй фантазіі. Палітыка неўмяшання ў асабістае жыццё адно аднаго стала між намі маўклівай дамовай, якую я са свайго боку раўніва датрымліваў — з ейнага боку мяшацца не было ўва што. За ўвесь час толькі аднойчы ці двойчы ініцыятыва сустрэчы зыходзіла ад яе: калі, насуперак нашым дамоўленасцям, ёй трэба было паскардзіцца на Свэна, а найлепшай сяброўкі не аказалася пад рукой; і толькі аднойчы я сам пастанавіў, што абвяшчу на нашыя сустрэчы часовы (як я спадзяваўся) мараторый — пасля таго, як прачытаў пра ейныя афіцыйныя заручыны. Чаму яна, прынамсі, не сказала мне гэтага асабіста, чаму я мусіў даведвацца пра гэта з жоўтай газеты, чытанне якой дагэтуль заўжды лічыў ніжэйшым за свой узровень? На працягу якога месяца я папросту фізічна не мог з ёю бачыцца: на жаль, я не здагадаўся, колькі ўсяго можа змяніцца за такі кароткі час. Калі я ўрэшце пазваніў ёй з прапановай сустрэцца, яна адказала, што вельмі цяпер занятая, і дадала нешта ў тым сэнсе, што з таго часу, як Свэн сам перастаў бегаць па курвах, нашыя з ёю сустрэчы зрабіліся хлопчыку не даспадобы — будучы жаніх пачаў раўнаваць, хаця й наўрад ці ведаў пра мяне нешта канкрэтнае, бо калі б ведаў, то, ясна, не раўнаваў бы, ён жа не ідыёт.

За паўгода, цягам якога мы не бачыліся, я, як і варта было чакаць, яшчэ больш прызвычаіўся да алкаголю і настальгічных экскурсій па старонках інтымнага летапісу саваёй заўчасна пакінутай бацькаўшчыны. Дзякуючы гэтаму, аднаго чароўнага дня мае віртуальныя пошукі дасягнулі найвялікшага магчымага поспеху — той не да канца ўсвядомленай мэты, з якой я і даследаваў гэты бок міжчалавечых стасункаў з такой утрапёнасцю. У выпадкова адкрытай мною порна-Вікі-педыі я ўбачыў усё тое, што яшчэ нядаўна спадзяваўся ўбачыць жыўцом і ў чым сам наіўна марыў удзельнічаць. Дзіўна: рэч, якая ёсць аб'ектам вашых патаемных жаданняў, ператвараецца ў ваш найгоршы кашмар, як толькі вы ўбачыце ейнае здзяйсненне збоку. Хаця: думаеце, калі вы ўдзельнічаеце ў гэтым самі, яна выглядае лепей? Не ведаю, чаму гэта мусіла стацца менавіта са мной, чаму нейкі нягоднік пры пасіўнай (хаця месцамі й досыць актыўнай) Вікінай згодзе мусіў пасмяяцца ў твар менавіта мне. А можа — наадварот, я павінен быў быць гэтаму мярзотніку ўдзячны? За тое, што ён расплюшчыў мне вочы? Можа, у будучыні кожная жанчына павінна мець сваю інтымную вэб-старонку, каб мужчына ведаў, што купляе? І наадварот? Дык вось, значыць, адкуль выраслі ногі — то бок узяліся грошы й падстава для ўцёкаў з краіны... Што дзівіцца, магчыма, бальшыня жанчын на Захадзе — гэткія Соні Мармеладавы, чыё "жаночае шчасце" заробленае калі не прастытуцыяй, то іншай падобнаю працай. Але я не чакаў, што Віка акажацца не толькі не лепшай, але й горшай за тых маіх суайчынніц, што выстаўляюць сябе ў сеціве ў пошуках замежнага прынца. А можа, гэта проста практычна й зусім не ганебна?

Не, не думайце, я не адчуў да яе агіды, як можа здацца — калі і адчуў,

то не адразу. Можа быць, першым адчуваннем, наадварот, было штосьці накшталт палёгкі. Ейны твар здаўся мне на тых фотаздымках нават нейкім асабліва прыгожым. Магчыма, і ў такой сітуацыі мы чакаем, што пабачым у жаночым абліччы пацверджанне не гульні, а сапраўднасці, не ўдаванай жывёльнасці, а праўдзівай чалавецкасці. Мы хочам, каб жанчына, прынамсі, выглядала закаханай, бо закаханая жанчына пры любых абставінах — гэта ўвасабленне чысціні. У кожным разе, іншай магчымасці пабачыць яе такой у мяне, як вы разумееце, не было — і цяпер ужо не будзе.

Ці трэба казаць, што пасля гэтага "адкрыцця" маё стаўленне да Вікі змянілася — на нейкае ўсеабдымнае, бліжэй неакрэсленае шкадаванне, якое не пакідала мяне ні на хвіліну, як быццам яна на маіх вачах скончыла жыццё самагубствам, канчаткова перайшоўшы ў катэгорыю віртуальных небажыхарак, а я не здолеў гэтага прадухіліць. У адрозненне ад Арфея, я не меў намеру спускацца ў Аід па сваю Эўрыдыку. Цяпер пры сустрэчы з ёю я, бадай, не здолеў бы нават зірнуць ёй у вочы, не тое што на вусны, як хлопчык, што сам вінаваты ў падглядванні за дарослымі, таму баяўся пра такую сустрэчу і думаць; ды што там, я не мог глядзець нават на ейныя выявы на білбордах і ў сваіх газетных выразках — здавалася, мне было сорамна не столькі за яе, колькі за сябе, за сваю цікаўнасць да ейнага мінулага. Апрача таго, я не мог дараваць сабе таго, што пры ўсёй сваёй фрустраванасці гэтымі выявамі я рэгулярна, асабліва ў падпітым стане, вяртаўся да іх — чым больш яны былі мне агіднымі, тым больш мяне ўзбуджалі. Менавіта ў адзін з такіх момантаў мне прыйшла ў галаву ідэя помсты — мне захацелася падзяліцца сваім расчараваннем у Віцы з кімсьці яшчэ, бо сам я яго вытрымліваць больш не мог. А можа, гэта было не расчараванне, а толькі новая форма майго захаплення...

Выбар адрасата быў надзвычай просты — дасылаць здымкі Віцы не мела сэнсу, яна іх і так мусіла добра ведаць, а вось таго дурня, што збіраўся з ёю ажаніцца, можна было яшчэ ўратаваць ад гэтага непрадуманага кроку. Мне здавалася, што прайграць я ў гэтай сітуацыі не магу: калі б мне нават не ўдалося запабегчы ейнаму шлюбу, пакінуўшы адкрытай магчымасць аднаўлення нашых стасункаў, я, прынамсі, адпомсціў бы ёй за тое, што яна аддала перавагу гэтаму ёлупню. Цяпер я разумею, што насамрэч хацеў адпомсціць ёй за сваю ўласную недалужнасць, наіўнасць, нятдольнасць па-сапраўднаму з ёю зблізіцца — вярнуць ёй тую міласціну, якая ў ідэале прызначалася ўсім, але па-сапраўднаму абразіла толькі мяне. Нягледзячы на ўсе гэтыя нібыта лагічныя тлумачэнні, я пэўны, што ў цвярозым стане ніколі б такой дурасці не зрабіў... Я згадаў, што год таму, дзеля таго, каб знайсці Віку, завёў сабе старонку ў фэйсбуку — натуральна, была свая старонка і ў Свэна Эклюнда. Праз яе я і адправіў яму загадзя падрыхтаванае прыватнае паведамленне — пасля стварэння чарговага фіктыўнага акаўнту дастаткова было раз клікнуць. Магчыма, для такіх, як я выпівохаў варта замыкаць кампутары, як гэта робяць з мабільнымі тэлефонамі: варта адмыслова ўсталяванаму датчыку распазнаць алкаголь у дыханні гаспадара, як пэўныя нумары — цешчы, каханкі, жонкі, бацькоў, былых сяброў — блакуюцца... Але які сэнс казаць пра гэта цяпер... Можа, цяпер такі датчык патрэбны на маім кампутары яшчэ болей.

Вынік не прымусіў доўга сябе чакаць: неўзабаве ва ўсё тых жа бульварных газетах з'явілася паведамленне пра разрыў Вікі з Эклюндам, сапраўдную прычыну якога — адзначыў я для сябе не без асалоды —

ведалі толькі тры чалавекі. Гэтая асалода была імгненнай і на доўгі час для мяне апошняй. З таго моманту я, замест таго, каб ганарыцца, што стаў закулісным персанажам свецкае хронікі, напружана чакаў, што Віка вось-вось пазвоніць мне, прапануе сустрэцца, каб, прынамсі, у чарговы раз пажаліцца на гаротны лёс. Аднак яна па-ранейшаму працягвала мяне ігнараваць, а званіць ёй пасля паўгадавога маўчання сам я не наважваўся, баючыся сябе выдаць. Найбольш я перажываў, калі пераконваў сябе, што яна ўжо ведае пра тое, хто адправіў фотаздымкі, і пастанавіла больш ніколі са мною не сустракацца. Можа быць, я мушу яшчэ й папрасіць у яе прабачэння за тое, што гэта я, а не яна сама, скурвіў ейнае жыццё? Што ж, у такім разе я быў да гэтага гатовы. У мяне яшчэ заставалася цьмяная надзея на цуд, на тое, што, убачыўшы яе, я раптоўна зразумею, што на тых фотаздымках была зусім не яна, а хтосьці іншы, проста падобны да яе — як здалося мне тады, калі я ўпершыню ўбачыў яе фотку ў вітрыне цырульні... Я наўмысна не напісаў ёй папярэдне ніякай смс-кі і не дамагаўся дазволу сустрэцца, баючыся адмовы: урэшце, дзе шукаць Віку, я ведаў.

Панядзелак

## X.

— Паслухай, Бэнгт, — нясмела сказаў Улаф, які з раніцы падпільноўваў напарніка каля дзвярэй ягонага кабінета, — я тут высвятляў сёе-тое... Мне здаецца, рана мы выключылі з ліку падазраваных Эклюнда. Ён не сказаў нам, што ў вечар перад смерцю Вікі бачыўся з ёю ў клубе "Камфорт". Прынамсі, абое былі там заўважаныя сведкамі...

— Улаф, тое, што яны былі ў адным клубе, нічога не азначае. Ці мала хто туды ходзіць. Яны маглі нават не прыкмеціць адно аднаго ў натоўпе... Магчыма, яна бачыла яго, іх бачылі, але ён яе — не...

— Ты сам у гэта верыш? Што яны выпадкова там апынуліся абое?

— Ну чаму — выпадкова... Яны, відаць, да той пары хадзілі туды разам, пасля — паасобку... У цябе асабіста было б шмат жадання сустракацца з былой партнёркай праз месяц пасля разыходу? Ды яшчэ прылюдна, на вечарынцы...

— А што тут такога? Мы з Крыстэн — добрыя сябры, сустракаемся, як і раней...

— Добра, гэта вашая справа...

— Апрача таго, у Эклюнда мог быць матыў.

— Матыў?

— Так. Мы знайшлі яшчэ сёе-тое ў лэптопе...

Улаф клікнуў мышкай, і перад Бэнгтам на экране закрасавала галерэя актаў.

— Дык вось чым ты займаешся ў працоўны час, — пажартаваў ён.

— Гэта Вікі Родзіч, — на ўсялякі выпадак нагадаў Улаф. — Невядомыя раннія творы. Можна сказаць, ювеніліі. Як табе? Можна было б прышыць яму і распаўсюд парнаграфіі...

— Я ведаю пра гэтыя фотаздымкі.

— Ведаеш?

— Так. Праўда, я сапсаваў сабе ўвесь уікэнд, але сёе-тое вычытаў...

Магу табе сказаць, Улаф, што я ўпэўнены... не, не на дзевяноста, а на сто дзевяноста працэнтаў, што наш чалавек — Алекс ...скі.

— Ну што ж, — уздыхнуў Улаф. — Калі так... Значыць, фотаздымкамі я цябе не здзівіў — а так хацеў зрабіць табе падарунак...

— Годзе, я не некрафіл.

— Дык ты ведаеш, што крыху больш за месяц таму яны былі адасланыя з лэптопу ...скага Свэну Эклюнду?

— Ведаю. Таму ты лічыш, што ў Эклюнда быў матыў?

— Я так не сказаў, — удакладніў Улаф. — Матыў мог быць і іншы, але гэта, прынамсі, сведчанне таго, што Эклюнд не сказаў нам усёй праўды. Ён разышоўся з ёю практычна адразу пасля азнаямлення з гэтымі здымкамі. Наўрад ці гэта супадзенне.

— Ну, няма дзіва, што ён гэтага не сказаў... — паціснуў плячыма Бэнгт. — Што б гэта дало? Навошта абгаворваць нябожчыцу? Разыход — іхная прыватная справа. Зрэшты, ён казаў, што ў іх былі непаразуменні. А тое, што ён скасаваў заручыны з былой порнаакторкай — ну, я асабіста здольны гэта зразумець... Галоўнае іншае: у дзённіку ...скі сцвярджае, што дзейнічаў у стане афекту, і я яму веру. Калі б ён хацеў атрымаць з гэтага нейкую выгаду, ён адправіў бы фотаздымкі ёй, а не яму, мог бы яе шантажаваць... Аднак ён хацеў менавіта адпомсціць, бо кахаў Віку Родзіч. Выглядае, што гэтая помста здалася яму недастатковай. Пасля прачытання дзённіка я схільны лічыць, што ён забіў яе з рэўнасці.

Улаф вылупіў вочы:

— Там так і напісана, у гэтым дзённіку?

— Не зусім... Але такая выснова напрошваецца сама. Калі коратка, яны былі знаёмыя здаўна, перыядычна сустракаліся з ...скім, той акурат збіраўся прызнацца ёй у каханні, калі даведаўся, што Віκі выходзіць замуж... Пасля ейнага расстання з Эклюндам ...скі спадзяваўся на нейкі працяг адносінаў, аднак дасягнуты ім эфект быў цалкам адваротны, што і давяло яго да поўнага шалу. Зрэшты, я не ведаю ўсяго, але думаю, што неўзабаве даведаюся — спадзяюся, што сёння ...скі будзе вымушаны гаварыць. Надта шмат падазроных супадзенняў... Ён мусіць іх альбо абвергнуць, альбо пацвердзіць.

— Поспехаў... — пажадаў яму Улаф. — Дарэчы, фотаздымкі цела ў рэдакцыі газетаў даслаў Лассэ. Яго ўжо звольнілі з службы.

— От дурань... Шкада.

## XI.

— Вітаю, спадар ...скі, — Бэнгт паказаў рукою на крэсла. — Сядайце. Нас чакае доўгая размова. А можа быць, і нядоўгая — залежыць ад вас...

— А потым мяне ўрэшце адпусцяць? — з настойлівасцю ў голасе спытаўся газетчык, але гэта была настойлівасць просьбы, а не патрабавання. Трохдзённае знаходжанне ў камеры папярэдняга ўтрымання відавочна адбіла ў яго ахвоту да жартаў.

— Давайце шчыра, Алекс. Я вельмі хацеў бы вас абнадзеіць, але пасля прачытання вашага дзённіка я не магу быць надта аптымістычным на гэты конт.

— Майго дзённіка? Вы пра файл “Вікі”? Хутка вы пераклалі...

— У параўнанні з чытаннем гэта было няцяжка. Мушу вам падзякаваць

за тое, што вы забяспечылі мне забаву на выходныя, калі гэта можна так назваць... І апрача таго далі ключ для развязання гэтае справы.

— Можна мне закурыць?

— У нас не кураць, — заўважыў Бэнгт, — але калі вы іначай не можаце... Курыце, каб не казалі, што я вас закатаваў...

— Дзякуй.

— Такім чынам, Алекс, вы асабіста ведалі Вікі Родзіч. Прычым даўно, яшчэ да таго, як прыехалі ў Швецыю — вы паходзіце з аднаго горада. Здаецца, ужо ў школе вы адчувалі платанічнае каханне да яе. У эміграцыі вы выпадкова натрапілі на ейны след і зрабілі ўсё, каб аднавіць знаёмства. Аднак Вікі вас пазбягала, бо не хацела вяртацца ў мінулае... Вы пачалі яе пераследаваць. Нават пераехалі ў Сёдэрмальм і напрасіліся працаваць у той раён, дзе яна жыла. Такім чынам, у вас з’явіўся хоць нейкі шанец калі не бачыцца з ёю, то, прынамсі, быць побач, адсочваць ейнае жыццё, асабліва начное, якім яна гэтак славілася... Аднак пасля заручынаў Вікі недвухсэнсоўна намякнула вам, каб вы пакінулі яе ў спакоі, бо вашыя сустрэчы не падабаюцца ейнаму жаніху. Гэта вас раз’юшыла, і вы адправілі ейнаму нарачонаму Свэну Эклюнду даволі пікантныя фотаздымкі з вашай прыватнай калекцыі... Вам удалося дамагчыся свайго — раўнівы Свэн скасаваў заручыны. Пасля гэтага Вікі пачала не проста грэбаваць, а пагарджаць вамі й ненавідзець вас. Вы перасталі для яе існаваць. Гэта было апошняй кропляй — у момант, калі да здзяйснення вашай даўняй мары, на вашую думку, заставалася пару крокаў, аб’ект вашай увагі перарваў з вамі ўсе стасункі... Вы не здолелі ёй гэтага дараваць, — гэтаксама як, мабыць жа, і ейнага імклівага пасоўвання па сацыяльнай лесвіцы, не крыўдуйце — і забілі яе, падпільнаваўшы ля ейнай кватэры. Наўмысна ці ненаўмысна — не ведаю, гэта яшчэ пытанне, але дакладна дапамаглі ёй упасці ў лесвічны пралёт... Пасля чаго адразу ж пашкадавалі пра свой учынак і пазванілі ў паліцыю... Аднак спалохаліся адказнасці і зніклі з месца здарэння.

— Брава, — нягучна заапладаваў ...скі, якому ўзняла настрой цыгарэта. — Вы таленавіты псіхолаг. І ў драматычным пачуцці вам не адмовіш. Проста нейкі дэтэктыў выходзіць. Злачынства й пакаранне...

— Я не чытаю дэтэктываў, — скрывіўся Бэнгт. — Вось ужо дваццаць гадоў, з таго часу, як тут працую. Але тут вядзецца не пра мяне, а пра вас. Ведайце, што калі вы дапаможаце следству, гэта будзе разглядацца на судзе як фактар палёгкі. Тады, магчыма, гаворка пойдзе толькі пра ненаўмыснае забойства ў стане афекту. Зрэшты, адвакат параіць вам, што і як казаць — ён ужо ў дарозе. У такім разе вы маглі б атрымаць меней за пяць гадоў зняволення і нават быць вызвалены раней за добрыя паводзіны. У адваротным выпадку, калі вы не будзеце супрацоўнічаць і нам прыйдзецца самім даказваць вашую віну — а мы яе дакажам — вы атрымаеце не меней за пяць гадоў, а, магчыма, і болей — за планаванае й асабліва жорсткае забойства... Так што я параіў бы вам не ўпарціцца, а падпісаць прызнанне.

Алекс ...скі дапаліў цыгарэту, патушыў яе аб крэсла й кінуў у сметніцу, але не патрапіў — ён хацеў устаць, каб дамагчыся, прынамсі, двух пунктаў за кідок, але Бэнгт яго спыніў:

— Сядзіце, мы самі прыбярэм... Засяродзьцеся на тым, што я вам сказаў. Вы мяне зразумелі?

Алекс сядзеў нерухома, сашчапіўшы рукі і ўтаропіўшыся ў дробкі попелу на падлозе. Калі ён прамовіў, здавалася, што голас зыходзіць не ад яго.

— Зразумеў. Калі я падпішу прызнанне, мяне хутчэй выпусцяць.

— Менавіта. Але я, натуральна, не патрабую ад вас, каб вы прызнаваліся ў чымсьці, чаго не ўчынялі, крый бог. Я гатовы выслухаць і вашую версію, калі яна ў вас ёсць.

Газетчык пацінуў плячыма:

— Няма.

— Значыць, усё так і было, як я вам апісаў? — Бэнгтаў голас крыху затрымцеў ад хвалявання.

Алекс ...скі маўчаў.

— Не ведаю, наколькі вы знаёмыя з нашай пенітэнцыйнай сістэмай, — парушыў цішыню Бэнгт. — Ходзяць чуткі, быццам яна ў нас тут вельмі ліберальная — але шмат залежыць ад таго, у якую турму вы патрапіце... Так што думайце — сёння я азнаёмлю вашага адваката з абвінавачаннем, далейшым будзе займацца галоўны следчы. Наўрад ці нейкая дамова будзе потым магчымая... Дык колькі часу вам патрэбна на роздум?

— У мяне былі на роздум тры дні, — нагадаў яму Алекс.

— Ага, дык вы рыхтаваліся да гэтай гутаркі, — задаволена зацеміў Бэнгт. — І што вы надумалі?

— Я згодны.

Нягледзячы на ўпэўненасць у сваёй рацыі, Бэнгт не мог даць веры сваім вушам.

— Ну і цудоўна, — ён быў ледзьве здольны схаваць сваю радасць. — Такім чынам, справа закрытая, тэкст прызнання вам надыктуюць, суд будзе самае большае праз месяц. Можа быць, у вас ёсць да мяне нейкія просьбы ці пажаданні?

На момант ...скі прахапіўся з сваёй летаргіі:

— Вы кажаце, што пераклалі мой дзённік?

— Ну, не я — у нас на гэта ёсць людзі...

— Можна мне яго... пачытаць?

Бэнгт сумеўся — ён не зусім зразумеў пытанне:

— Пачытаць? Хіба вы яго не чыталі?

— Ну так, але не ў перакладзе... Мог бы ў турме падцягнуць сваю мову... Да суда...

— Калі захочаце, на судзе ў вас будзе перакладчык, — строга адзначыў Бэнгт.

— Спадар следчы, вельмі вас прашу...

Бэнгт пакруціў галавой.

— Тэкст далучаны да матэрыялаў следства, вас з ім азнаёмяць у свой час, не цяпер...

— Але гэта абсурд! — абурыўся ...скі. — Урэшце, гэта мая інтэлектуальная ўласнасць! Прынамсі, раздрукуйце — што, калі ў перакладзе нейкія недакладнасці... Хіба гэта так цяжка? Я пагадзіўся падпісаць прызнанне ці не? Я ж не прашу, каб мне вярнулі мой ноўтбук...

Бэнгт на імгненне задумаўся:

— Добра, я раздрукую вам тэкст. Наконт ноўтбука: пасля суда напішаце заяву, і вам выдадуць іншы, турэмны... Я паклапачуся, каб вы атрымалі копію файла. Нагадайце пра гэта свайму адвакату.

— Дзякуй вам, спадар следчы.

“Дзіўная справа”, – падумаў Бэнгт пасля таго, як ...скага забраў канвой. Ён мусіў прызнаць, што ніводны злачынца не пагаджаўся яшчэ так хутка на ягоныя ўмовы й не выклікаў да сябе, нягледзячы ні на што, нейкай незразумелай сімпатыі. “Старэю, – уздыхнуў Бэнгт, падбіраючы з падлогі недапалак. – Не ведаю, як дапрацую да пенсіі... Магчыма, варта падаць у адстаўку раней? Хаця цяпер мяне, відаць, дакладна павысяць, як і хацеў Оке — абы толькі прыбраць з аддзелу, каб Калле мог заняць маё месца... Можа, лепей адмовіцца? Напісаць заяву на звальненне?” Ён згадаў свой сапсаваны ўікэнд, і яму зрабілася зноў шкада жонкі — яна ўжо так доўга не можа дачакацца, калі яны ўрэшце знойдуць час пажыць для сябе, а не для дачкі ці працы... Нешта падказвала яму, што неўзабаве яна дачакаецца.

А ў т о р а к

## XII.

Сярод вязняў ...скай турмы было ўжо некалькі знакамітасцяў (Бэнгт стрымаў сваё абяцанне), але ўсе яны трапілі туды толькі пасля таго, як зрабіліся знакамітасцямі — збольшага, за наркотыкі, хатні гвалт і карыстанне паслугамі прастытутак. З Алексам ...скім было наадварот, але ён ужо прывык да наведванняў журналістаў, таму зусім не здзівіўся, калі і сёння раніцай яго выклікалі на пазачарговае спатканне. Праўда, ён зусім не чакаў, што замест газетнага пісакі ўбачыць перад сабою Бэнгта.

— Прывітанне, Алекс, — як мага больш ветла ўсміхнуўся той.

— А, спадар следчы... Які сюрпрыз...

— Маё імя Бэнгт, калі не памятаеце... Прыйшоў вас павіншаваць.

— З чым? З кніжкай?

— Ну, і з гэтым таксама... Але перадусім — з пераглядам вашае справы.

— Што, знайшлі новыя факты?

— Знайшлі. Свэна Эклюнда ўчора арыштавалі за трыманне й распаўсюд наркотыкаў. А вось наколькі ён меў дачыненне да смерці Вікі — гэта яшчэ пытанне... У кожным разе, вас яшчэ выклічуць на допыт.

— А гэта што — не допыт?

— Ды не, я проста прыйшоў пагутарыць... Так бы мовіць, прыватна.

— То бок справу ведзяце не вы?

— Не, дзе там... Яе вядзе Калле — пакуль што нібыта распрацоўвае новую версію, забойства з рэлігійных матываў... Зрэшты, па-свойму ён мае рацыю... Што да мяне, то я ўжо звольніўся, неўзабаве пасля выхаду вашай кніжкі, цяпер на пенсіі, пра што ні на каліва не шкадую... Ускосна таксама мушу вам за гэта падзякаваць.

— А што так — звольніліся? — спрактыкавана ўставіў у куток рота цыгарэту ...скі. — І пры чым тут я?

— Ды так... Можна сказаць, сам сябе звольніў за неадпаведнасць займанай пасадзе... — усміхнуўся Бэнгт. — Калі канкрэтна, то пасля прачытання вашай кнігі ў мяне ўзніклі сумневы ў вашае вінаватасці ў смерці Вікі Родзіч.

На нейкі момант запанавала маўчанне: ...скага, здаецца, зусім не закранула Бэнгтава заўвага, замест адказу ён толькі моўчкі выпусціў дым у столь.

— Цыгарэты ўсё даражэюць, — заўважыў ён. — Здаецца, турма — адзінае месца, дзе яшчэ не забаранілі паліць.

— Мушу аддаць вам належнае: вы па-свойму няблага скарысталі з гэтай, так бы мовіць, свабоды ў арэхавай шкарлупіне, якую, як ні парадаксальна, дала вам турма за грошы нашых падаткаплатнікаў, — узяў на сябе адказнасць за працяг размовы Бэнгт. — Вашая кніжка досыць папулярная... Я, нягледзячы на... згрызоты сумлення... у глыбіні душы нават рады, што ўскосна дапамог вам зрабіцца вядомым — хай сабе мімаволі...

— Ну, не рабіце з мяне Альберціны Сарразэн... — усміхнуўся Алекс. — Тут пішацца не горш і не лепш, чым яшчэ недзе. Дзякуй, што захавалі мой файл.

— Не ведаю, я ніколі й нідзе нічога не пісаў... Але, скажам шчыра, хто б цікавіўся вашай кнігай, калі б яе аўтарам не быў чалавек, асуджаны на пяць гадоў за забойства суайчынніцы? Яе не тое што не выдалі — нават не пераклалі б... А мне асабіста было б шкада... Вядома, вашая кніга шмат у чым зыходзіць з вашага дзённіка, але вы ўсё-ткі змянілі шмат момантаў, згусцілі фарбы... Што тычыцца мяне — месцамі нават залішне, я б сказаў.

— Бачу, на пенсіі з вас атрымаўся літаратурны крытык, — пакпіў ...скі. — Выбачайце, што не дагадзіў. Але я лічу, што нічога не згушчаў — проста тут было больш часу, каб знайсці адпаведныя словы.

— Не скажыце — здаецца, вы ўсё-ткі крыху перастараліся, у параўнанні з першым варыянтам... — пакруціў галавою Бэнгт. — Мне больш падабалася ранейшая версія, але гэта суб’ектыўна — проста ўсе людзі кансерватыўныя ў густах... Першы — лепшы, так сказаць... Як бы там ні было, менавіта параўнанне двух тэкстаў навяло мяне на думку, што вы зусім не забівалі Вікі Родзіч, і што першы варыянт кнігі, ваш дзённік, быў не меншай фікцыяй за другі.

Алекс ...скі зарагатаў.

— Вы што, да канца не дачыталі? За што я, па-вашаму, сяджу тут ужо дзявяты месяц? За свой літаратурны талент? Не смяшыце...

— Перадусім, праз маю чытацкую даверлівасць. Але былі і іншыя суб’ектыўныя фактары, якія я ўсвядоміў толькі дзякуючы вам і за якія мне цяпер сорамна...

— Мне не патрэбна вашых прабачэнняў, Бэнгт. Не варта й няма за што выбачацца.

— Ну, я й не прыйшоў выбачацца. Я прыйшоў зірнуць вам у вочы й пераканацца, што маю рацыю.

— Як патэтычна... Як у тым кіно пра серыйнага забойцу...

— Ну, што да пафасу, мне з вамі цягацца цяжка... Але дзякуючы вам я крыху разабраўся ў тым, што ў нас называецца “славянскай душой”...

— Божухна, якое клішэ. Вы мяне расчароўваеце, Бэнгт.

— Прашу вас, набярыцеся цярпення. Прачытаўшы вашу кніжку, я ўзгадаў нашу з вамі апошнюю размову ў маім кабінеце. Пасля таго, як я выклаў вам сваю версію падзеяў, вы пакпілі з мяне — маўляў, у мяне ёсць талент да драматызацыі, і што мая версія нагадала вам “Злачынства й пакаранне”... Перачытаўшы Дастаеўскага, я пераканаўся, што між дзвюма сітуацыямі існуе адно, хай сабе і павярхоўнае, падабенства, на якое, відаць, і была намінка — у рамане следчы робіць выснову пра вінаватасць Раскольнікава на падставе ягонага артыкула ў газеце... Мне чамусьці адразу зрабілася

ясна, што гэты следчы — я сам. Будзеце смяяцца, але пасля гэтага я ўрэшце прымусіў сябе дачытаць да канца і “Братоў Карамазавых” — там адзін з іх адчувае сябе вінаватым у забойстве бацькі, якога насамрэч не ўчыняў, а быў толькі ягоным натхняльнікам...

— Я рады, што мая пісаніна дапамагла вам вярнуцца да класікі, — перабіў яго ...скі. — Ведаеце, калі я толькі сюды прыехаў, у мяне спыталіся, якімі вялікімі людзьмі славутая мая краіна. Прызнаюся, гэтае пытанне крыху мяне абурыла, і я назваў Дастаеўскага. Поспех быў неймаверны. Вы ведалі, што мы з ім — землякі?

— Не, не ведаў, — амаль пачырванеў Бэнгт.

— Слушна, — усміхнуўся ...скі. — Бо гэта няпраўда.

— Так ці іначай, дзякуючы Дастаеўскаму я звярнуў увагу на тое, што, па-першае, наўпроставых фактаў вашых найноўшых дачыненняў з Вікі Родзіч зусім няшмат — прынамсі, дакладна, што вы ніводнага разу не былі ў яе ў гасцях, а яна ў вас, што даволі дзіўна для людзей вашага паходжання. Магчыма, вы і сустракаліся з ёю колькі разоў, але дакладна не займалі ў ейным жыцці таго месца, якое хацелі б займаць і якое прыпісваеце сабе ў кнізе. Па-другое, саму думку пра тое, што гэта забойства, а не самагубства, падкінулі нам вы, пазваніўшы па тэлефоне ў паліцыю. Чаму вы гэта зрабілі? Перакананы, што ў той момант, калі вы натрапілі на ейнае цела, вы з нейкай прычыны адчулі сябе вінаватым у ейнае смерці і асудзілі сябе да ўсяго, што адбылося пазней — з ахвочай дапамогаю з майго боку... Што магло прымусіць вас адчуць такую віну за ейную смерць? У вашым дзённіку я знайшоў толькі адзін такі момант: тое, што за месяц да Вікінай смерці ейны жаніх, Свэн, з вашай падачы, азнаёміўся з парнаграфічнымі здымкамі, якія не маглі не прывесці да скандалу й да разрыву з Вікі... Вы адаслалі яму іх, як самі пішаце, у нецвярозым стане, пасля чаго адразу ж пачалі пра гэта шкадаваць. Насамрэч, каб натрапіць на тыя здымкі, неабавязкова было быць асабіста знаёмым з Вікі Родзіч — усё астатняе таксама мог зрабіць хто заўгодна. Але ж усё-ткі гэта зрабілі вы! Галоўнае пытанне для мяне тут — не тое, ці сябравалі вы з ёю насамрэч, а ці кахалі вы яе альбо не, хай сабе на адлегласці? Думаю, што калі б не кахалі, то ніколі, як ні парадаксальна, не зрабілі б такой подласці... Магчыма, вы пакахалі яе паступова, такую, якую стварылі ў сваім уяўленні, і з часам настолькі ўвайшлі ў ролю адрынутага каханка, што перасталі адрозніваць рэчаіснасць ад фікцыі — магчыма, так бывае ў пісьменнікаў... Калі ж убачылі на падлозе ейнае цела, адчулі штосьці накшталт містычнай адказнасці за тое, што адбылося.

— Падобна, вы лічыце мяне вар’ятам, — пакруціў галавою ...скі, тушачы цыгарэту. — Вам не здаецца, што вы залішне захапіліся гэтай справай? Ці, хутчэй, маёй кнігай?

— Яшчэ большым вар’яцтвам было б забіваць блізкую сяброўку толькі за тое, што вы былі не ў ейным гусце і што ейная мінуўшчына не адпавядала вашым уявам...

— Думаеце? Па-мойму, такое здараецца досыць часта.

— Пагаджуся, але настолькі банальная развязка больш пасуе да крымінальнай хронікі, чым да мастацкай кнігі.

— Зноў вы мяне крытыкуеце... Выбачайце, што не задаволіў вашага густу. Я не вінаваты, што жыццё больш празаічнае за вашыя ўяўленні...

— Я не магу з вамі пагадзіцца — дый вы добра ведаеце, што гэта не так.

“Празаічнае жыццё” — таксама клішэ. Я сам сустракаўся ў сваёй практыцы з такімі дзіўнымі выпадкамі, якія маглі б выдаць на серыю раманаў... Ведаеце, у маім юнацтве быў такі эпізод: калі я яшчэ быў студэнтам, мне трэба было неяк прагуляць заняткі — для таго, каб лішні дзень застацца са сваёй каханай дзяўчынай... Тая ноч была для нас першай, і мне так не хацелася, каб яна скончалася... У нейкі момант я злавіў сябе на думцы, што для таго, каб адпрасіцца з заняткаў на наступны дзень, я быў бы здольны да любой хлусні — напрыклад, сказаў бы, што ў мяне дома нехта памёр і я мушу на пахаванне... Я нават сказаў ёй пра гэта ўголас, палічыўшы гэта добрым жартам... Уявіце сабе, што на наступную раніцу мне патэлефанавалі й паведамілі, што ў сям’і сапраўды здарылася няшчасце... Уяўляеце, як я сябе адчуваў? Я ведаю, я быў малады й дурны, але сам факт таго, што ў той момант, калі я падумаў пра смерць кагосьці са сваякоў, гэтая смерць акурат здарылася, ледзьве не давёў мяне да кляштара ці вар’ятні... Мне каштавала агромністых высілкаў не распавесці пра ўсё гэта проста на пахаванні — настолькі я сябе вінаваціў... Лішне казаць, што я больш не мог сустракацца з той дзяўчынай, пра што, магчыма, шкадую яшчэ й цяпер, праз столькі гадоў...

— Магчыма, гэта вам варта пісаць раманы, — сказаў вязень.

— Я падумаю над вашай парадай, вашае меркаванне цэннае для мяне як для пачаткоўца, — усміхнуўся Бэнгт. — Але я вярнуся да ролі крытыка. У святле сваёй новай гіпотэзы я перачытаў вашае апісанне так званага “забойства” Вікі, і яно здалося мне, даруйце ўжо, надзвычай неправаканаўчым. Гэта канчаткова схіліла мяне да думкі, што, у адрозненне ад вашай фіктыўнай версіі, смерць Вікі Родзіч была самагубствам, у якім вы дарэмна сябе звінавацілі: сапраўднай прычынай маглі быць ейныя адносіны са Свэнам, залежнасць ад наркотыкаў, пра якую вы, хутчэй за ўсё, не ведалі дый ці мала чаго яшчэ... Што да вас, то вы папросту апынуліся не ў той час не на тым месцы — а пасля атрыманага ад мяне трохдзённага роздуму прыйшлі да высновы, што можаце паспрабаваць з гэтага скарыстаць, каб вашае існаванне хоць такім чынам набыло тую значнасць, якой яму бракавала. У кожным разе, ейная смерць адыграла ў вашым жыцці большую ролю, чым вы ў ейнае смерці, не кажучы пра жыццё.

— Цікавая версія, — ухвальна паківаў галавою ...скі. — Прынамсі, цікавейшая за вашую папярэднюю... Аднак што, па-вашаму, замінала мне, седзячы ў турме, напісаць усё, як было насамрэч, каб, прынамсі, у кнізе паспрабаваць ачысціць сваё імя?

— Думаю, што гэтага вам папросту не дазволілі абставіны. Праўда была крыху заскладанай, а вы хацелі, каб вашая кніга чыталася менавіта як споведзь забойцы. Інакш бы яна не прадавалася, дый у тыповыя апраўданні асуджанага злачынцы ўсё адно б ніхто не паверыў. Таму вы гулялі сваю ролю да канца: забілі Вікі — але толькі на паперы, то бок, у ноўтбуку, як, магчыма, і планавалі яшчэ на самым пачатку сваёй фікцыі. Творцы часам прадбачаць развіццё падзеяў чыста інтуітыўна...

— Не ведаю, ці шчыра вы ўва ўсё гэта верыце, але я не пазбаўляю вас гэтага права... Застаецца толькі пажадаць вашым калегам поспеху ў пераглядзе справы. Шкада, што вы не былі маім суаўтарам — канцоўка атрымалася б цікавейшай. Хаця, у пэўным сэнсе, вы ім усё-ткі былі.

— Дзякуй на добрым слове, — ніякавата ўсміхнуўся Бэнгт. — Дарэчы, ці не маглі б вы мне ў такім разе, як суаўтару, падпісаць кніжку? Ведаеце,

я збіраю аўтографы... Бэнгту Мальміюсу. Я ваш вялікі фанат, — амаль сур'ёзна дадаў ён, аднак Алекс нічога яму на гэта не адказаў, моўчкі чыркануўшы асадкай. — Спадзяюся, што хутка вы ўсё-ткі выйдзеце на волю, — працягваў Бэнгт. — Думаю, вы дастаткова ўжо назбіралі тут матэрыялу для далейшай творчасці? Можа, нават пачалі пісаць штосьці новае?

— Не думаю, што я яшчэ нешта напішу, — расчараваў яго Алекс. — Я сказаў усё, што хацеў.

Гэта прагучала як намёк, што ...скі сапраўды не хоча працягваць размову, і Бэнгт яго зразумеў. Падзякаваўшы за аўтограф, ён ужо развярнуўся да выхаду, калі газетчык адчуў невытлумачальную патрэбу злітавацца з яго.

— Бэнгт, вы насамрэч ужо на пенсіі? — гукнуў ён наўздагон свайму "фанату", пачуваючыся досыць няёмка, як у штучнай сітуацыі заканчэння нейкага галівудскага фільма.

Былы следчы не зусім зразумеў пытанне.

— Ну так — навошта мне вам хлусіць?

— Што я ведаю, якія ў вас метады... Я проста падумаў — можа, вам цікава, хто насамрэч забіў Вікі Родзіч.

Бэнгт адчуў, што пакрыўся потам, — магчыма, ад таго, што баяўся пачуць залішне чаканы адказ.

— Эклюнд? — прамовіў ён у роспачы.

— Не, што вы... — усміхнуўся Алекс. — Ён жа не вар'ят. У адрозненне ад мяне... — Яму відавочна падабалася гуляць з самалюбствам колішняга дэтэктыва. — Ведаеце, калі я ў тую раніцу ўвайшоў у дом Вікі, то першым, што я адчуў, быў той самы тыповы смурод, які сведчыць, што жабракіператварылі пад'езд у начлежку — хіба што ў гэты дом яны ніяк не маглі трапіць, не ведаючы коду... Памятаю, я звярнуў яшчэ ўвагу на тое, што дзверы былі адамкнутыя — іх як быццам наўмысна не прычынялі. Кінуўшы ў першую шчыліну газету спадарыні Ёнсан, я пачуў згары жаночы крык, а таксама мужчынскі голас — ён быў мне знаёмы, бо належаў аднаму з тых беспрытульных блазнаў, якіх я сустракаў на вуліцах штодня... Здаецца, яны з Вікі біліся за ейную кайстрачку — магчыма, яна сама пусціла яго ў пад'езд, ці то з неабачлівасці, ці то з лішняй сардэчнасці, — вы ж ведаеце, яна была нападпітку, відаць, — вярталася з клуба... Мяне самога так аднойчы пусцілі пераначаваць, калі яшчэ да прыезду ў Стакгольм я бадзяўся па вуліцах Мальмё... Не ведаю, магчыма, ён разлічваў, скарыстаўшы момант, гвалтам патрапіць да яе ў кватэру, але Віка, напэўна, западозрыла небяспеку й пастанавіла не адмыкаць — тады ён, мабыць, вырашыў забраць, прынамсі, кайстрачку, цяжка сказаць... Я паспеў яшчэ гукнуць яе па імені: нібы адклікнуўшыся на мой голас, Віка паляцела ўніз... Я ўбачыў на свае вочы ўласны кашмар: колькі разоў я сам баяўся ўпасці з таго паверха... Грукат жалезных дзвярэй наверсе сведчыў пра тое, што нападнік уцёк праз страху. Я тут жа кінуўся за ім бегчы, але, натуральна, было позна. На жаль, разносчык газет з мяне не самы спрытны... Хто ведае, магчыма, калі б замест гэтага я застаўся ўнізе і паспрабаваў дапамагчы Віцы, яе можна было б уратаваць...

— Але ж дзверы на страху былі замкнутыя на ключ! — здзіўлена запярэчыў Бэнгт.

— Так, гэта я іх замкнуў — прызнаюся, што наўмысна. На страсе я крыху ачомаўся ад свежага паветра, і мне стала папросту шкада таго блаз-

на... Больш, чым сябе ці нават Вікі. Калі я спусціўся ўніз, яна не дыхала. Тады я патэлефанаваў у паліцыю. Рэшту вы ведаеце.

— Гэты смурод... — прыкрыў вочы даланёю Бэнгт. — Як я адразу не падумаў... Але чаму вы ўвесь час пакрывалі гэтага жабрака? Напасці на безабаронную жанчыну! Яго варта знайсці, дапытаць! Магчыма, ён дзейнічаў паводле нейчай падказкі ці на замову...

— Чыю — нейкіх папарацы? Ці вашага ўлюбёнага Эклюнда? — усміхнуўся Алекс. — Калі шчыра, у мяне была ідэя спіхнуць у кнізе ўсё на яго — па-мойму, ён гэтага заслугоўвае... Але я адмовіўся ад такой канцоўкі. Што да жабрака, то, ведаеце, наўрад ці ён штурхнуў яе наўмысна. Я ведаў яго — абрабаваць кагосьці ён мог, але забіваць... Ягоную гісторыю я распавяду вам іншым разам. Але я лічу, што ягонай віны ў гэтым няма. Зрэшты, як і нічыёй віны. Можа быць, віна — проста больш шырокі панятак. Хаця... калі б я загадзя ведаў, што ў вашай турме большы камфорт, чым на вуліцы, я, можа, і назваў бы вам ягонае імя — дакладней, мянушку. Цяпер ужо, бадай, позна — хай усё застаецца, як ёсць.

— Дарэчы, цела Вікі нядаўна перавезлі на радзіму, — разгублена вымавіў агаломшаны Бэнгт, проста каб нешта сказаць.

— Так, я ведаю. Чытаў у газетах.

*2004-2011*

Васіль Жуковіч



...Я рады, што не давялося
Мне шмат пра што ў цябе прасіць,
Няшчодры мой, спакойны лёсе....

# Моваю кветак і траў

***Вершы розных гадоў***

### *ЛЁС МАКСІМА БАГДАНОВІЧА*

...У хлопца – невылечныя сухоты,
Прычына для нуды, самоты.
Але ў яго здароўе ідэальнае
Патрыятычнае, маральнае,
Сябе ў чужыне ён стварае,
Аб шыраце духоўнай дбаючы;
Ён не самотны – кнігу мае –
Усведамляе, паміраючы...

Жыццёвы лёс – такі трагічны!
Але шчаслівы – паэтычны,
Перамагае дух ствральны:
Сын Беларусі – геніяльны!

*13 снежня 2011*

### У ДЗЕНЬ, ТРАГІЧНЫ ДЛЯ КУПАЛЫ

Вы кажаце, загадка – смерць Купалы.
Хіба загадкавы трагічны скон?
Улада бунтару не даравала:
За Беларусь калісь так біўся ён!

Бальшавікі злачынстваў цьму чынілі.
Дурная слава іх расце, расце.
Калі ў паэце Генія забілі,
У прорву цела скінуць шмат прасцей.

*28.06.2012*

### ЗАМІЖ СВЯТА – БАЗАР

Чарговы юбілей Купалы.
Базар у Вязынку вязуць.
Прамовяць хто і што папала,
І цёткі станьчаць і спяюць.

Ну і гандляркі пашчыруюць,
Як на звычайным кірмашы.
Кагосьці й рух такі счаруе...
Ды дзе ж ты, свята для душы?!

Мне свята хочацца такога,
Каб радавацца мог да слёз,
Каб веры прыбывала многа
У шчасны Бацькаўшчыны лёс!

Бо не ў хаосе тым, вядома,
Не ў мястэчковай мітусні
Наблізіцца Прарок, якому
Аб Беларусі сняцца сны!

Убогая мая краіна,
Хай бы не ведаў я таго,
З якім размахам Украіна
Святкуе генія свайго...

Хоць не па свяце ў часе клятым
Душа Купалава баліць –
Па волі, без якой і свята
Сапраўднага не можа быць.

Баліць яна, як і балела,
Калі над краем ноч была,

Калі змагар адкрыта, смела
Народ зваў з цемры да святла;

Маўчыць народ.
Расчараваны
Высокі бронзавы пясняр.
І як адчэпнае – мяшчане
Вязуць у Вязынку базар.

*7.07.2012*

### ПІСАКАМ, ШТО БЕЗ ПРЫМУСУ ПЕРАБЕГЛІ…

Калі ніхто вас не купляў,
Што вас так лёгка падкупіла?
Вас узяла не спакваля
Якая д'ябальская сіла?

Карціць вам выдацца хутчэй.
Глыбей жа думалі няхай бы!
Вам славы хочацца яшчэ,
Ды славу блытаеце з ганьбай.

Вам прэмій хочацца, ага,
Халера аж бярэ з карастай.
Вам незнаёмая туга,
Народная туга ды роспач!

Ды поруч з вамі ёсць арлы,
Яны ўсе з вамі выпадкова...
Хоць гэты лік такі малы,
Для боскай справы – дастатковы.

Мы іх сумеем апраўдаць
На будучым судзе на грозным.
А вам не ўцекчы ад суда –
Ён будзе рана а ці позна!..

Жыццё пражыць – не перайсці
На поле з поля дый не збегчы –
Ісці за праўду й волю
ці
Пад іх хоць бы ў падмурак легчы.

*Ліпень 2012*

## НЕЗВЫЧАЙНЫ СОН

Прыснілася, нібыта ў нейкай залі
Ішоў адкрыты незвычайны суд,
Дзе быў падсудны Джугашвілі (Сталін),
Суддзя – народ, звычайны самы люд.

Народ ішоў бясконцаю калонай,
Дакор і гнеў кідаў у твар таму,
Хто адпраўляў на здзек і смерць мільёны,
Цаніў рэжым крывавы і турму.

Абуджаныя існаю свабодай,
Судзілі людзі вырадка таго,
Шукаючы хто "ворагаў народа",
Стаў самым жорсткім ворагам яго.

*1986-1987*

## У КУРАПАТАХ

Ах, Курапаты, Курапаты!
Народны боль і гнеў народны.
Тут, "чорным воранам" узяты,
Забіты чыйсьці бацька родны,
А чыйсьці брат, а чыйсьці любы.
О, колькі тысяч абылганых
І тайна звозімых на згубу
Закатавана, закапана!

Не ўцёк ніхто з жывых ахвяраў
Ад інквізітараў чырвоных.
Чаму ж няма забойцам кары?!
І дзе паклёпнікаў імёны?
Маўчаць суды, маўчаць архівы
І следчыя, хоць сведкаў – мноства.
І дажываюць век шчасліва
Арганізатары забойстваў.

*1988*

## З РАДАСНА-ШЧЫМЛІВЫМ ПАЧУЦЦЁМ

У маім запаветным горадзе Берасці
Я сустрэўся з Калесніка вуліцай,
Прафесара і пісьменніка, аўтара
Узрушальнае кнігі "Доўг памяці",
Патрыёта чароўнай зямлі,
Які юнаком ваяваў за яе ў партызанах,

Быў паранены цяжка, страціў многа крыві
І сяброў баявых,
Страціў любую, невыказную,
Што яму часта снілася
У бялюткай сукенцы з крыламі вэлюма,
З таямнічаю мілаю ўсмешкаю...
Я сустрэўся з Калесніка вуліцай,
Чалавека, які праз сухоты, шмат іншых бедаў
Прыйшоў да вяршыняў навукі...
Я сустрэўся з Калесніка вуліцай
Адначасна ў радасці й смутку,
Бо яна, тая вуліца, – на ўскраіне места,
А не там, дзе ён жыў,
Дзе штодня ў альма матэр хадзіў,
Бо, як бачыце, там ёсць Чапаева вуліца,
А яшчэ недарэчная вуліца імя Крупскае...
Я сустрэўся з Калесніка вуліцай
Не ў тым месцы, бо ў часе не тым...

*18.06, 30.07.2012*

### *БЕЛАРУСКАЯ МОВА*

Табою, бачу, пагарджаюць,
Табе знішчэннем пагражаюць...
Каму і чым не дагадзіла?
Ты свету геніяў дарыла,
О маці-мова! Твае слова –
Паветра для душы жывой,
Заўсёды мне, славянка-мова,
Такі гаючы гоман твой.
А ты сама – душа народа,
Яго краса, яго прырода;
Народ, насіллем катаваны,
Праз навальніцы, ураганы
Цябе, адвечную, пранёс.
Ты неахопная – як воля,
Ты неацэнная – як доля,
Ты неад'емная – як лёс.

*1985*

### *БЯЗМОЎНАЕ СІРОЦТВА*

Народ працавіты, адораны, ўмелы
Сябе не згубіў праз вякі,
І мне ганарыцца б, о свеце мой белы,
Няквольм народам такім,

Ды родная мова ў загоне.
А дзеці –
Сіроткі кругом без яе.
Мне сорамна, белы мой свеце!
Апушчаны вочы мае.

*1988*

## ТАКІЯ ПЕРАМЕНЫ

Калі ўлады раёна,
Дагаджаючы ўладным вярхам,
Зачынялі клас беларускі
Ў сто сорак восьмай школе сталіцы,
Мілы хлопчык Алёша
Да настаўніцы шчыра звяртаўся:
– А давайце мы выкупім клас наш!..

Час прайшоў,
хлопчык вырас
І цяпер
пры сустрэчы з настаўніцай
Кажа: “Здрасьце!”

*21.02.2012*

## РЭАГУЮ НА ЗЛО

Калісьці я ў тунэлях і ў вагонах
Дарыў музыкам грошы й спевакам,
Ніколькі не зважаючы на тое,
Што граюць і спяваюць што яны.

На хвалі адраджэння Беларусі
Я ў найцудоўнай эйфарыі быў,
Упэўнены: дзяржаўнай нашай мове
Ніштo не пагражае і ніхто...

Цяпер, калі святую нашу мову
Скрозь гоняць, б’юць, каб вынішчыць яе,
З вачэй сыдзіце, спевакі й музыкі,
З чужою мовай разам. Прэч!

*22.02.2012*

## ГОРКІЯ ПАДЗЕІ

Год кнігі,
Тыдзень мовы,

Дзень пісьменства...
Застаецца прыдумаць:
Гадзіна беларускага патрыятызму.

*10.03.2012*

## АДЗІНАЯ ПРОСЬБА ДА ЛЁСУ

Сумленню не хачу схлусіць:
Я рады, што не давялося
Мне шмат пра што ў цябе прасіць,
Няшчодры мой, спакойны лёсе.

Адно даводзіцца прасіць
З упартасцю неверагоднай:
Дай мне Радзіме паслужыць
Абеларушанай, свабоднай!

*1991*

## ШЧЫРАЕ ШКАДАВАННЕ

Быў я ў Парыжы і ў Парыжы не быў,
Калі не наведаў куток,
Дзе сном вечным спяць
Мой самы любімы
З усіх Нобелеўскіх лаўрэатаў –
Празаік Іван Бунін
І мой самы любімы
З усіх чэмпіёнаў свету па шахматах –
Аляксандр Алёхін.

Хоць і ведаю я:
Не так важна –
Пакланяцца праху,
Калі пакланяешся духу,
Аднак жа...

Калі перад сном узгадаю,
Што быў я ў Парыжы
І ў Парыжы не быў
(Бо не наведаў куток,
Дзе сном вечным спяць...),

То й сон не бярэ мяне.

*26.08.11*

## ДАРУНАК ДЛЯ ЛЮБАЙ

Французы лепшыя кветкі
Ахвяравалі сабой,
Каб да цябе як данесці
Водар загадкавы свой.

Водар цудоўны, ласкавы,
Што ён табе прашаптаў
Тою чароўнаю мовай,
Моваю кветак і траў?

*26.09.2003*

## КРАСА

Беларуская зорка-дзяўчына:
Мілы твар,
Вочы поўныя чар,
Чараціна-пастаць...
О, такую красу апяяць немагчыма,
Мо яе толькі можна на скрыпцы сыграць!

*Лістапад 2011*

## ДЗЯВОЧЫЯ ВОЧЫ

Такіх не бачыў я вачэй:
Агонь і лёд, зеніт і яма...
Не знаеш ты сама яшчэ,
Якая тоіцца ў іх драма.

*30.07.2012*

## ТОЛЬКІ СЭРЦАМ ЗАКАХАНЫМ...

Калі ў сэрцы маім рана,
Цяжка рану залячыць.
Толькі сэрцам закаханым
Мне ты зможаш памагчы.

Ты да раны прытуліся
Чыстым сэрцайкам сваім,
Чуцці нашы каб зліліся
У настроі маладым.

## ЯКІ ТВОЙ ПРАСТОР?

Мару, каб позірк ты свой адрывала
Ад вечаровай зямлі як часцей,

Каб сярод зор ты пасланні чытала
З промнем маіх закаханых вачэй.

Ні адзінока не будзе, ні сумна,
Ведаць бы, што ў нас адзіны прастор,
Што і з мабільнічкам модным у сумцы
Ты свой скіроўваеш позірк да зор.

*27.07.12*

## НІНЕ МАЦЯШ – У ІНШАСВЕТ

Прыпазнілася наша вясна –
Надышла яна летам,
З ім злілася, з гарачым, высокім,
З летам нашых спатканняў, расстанняў,
Спатканняў, расстанняў,
спатканняў, расстанняў,
З летам сонечных ночак,
Якім наталяліся мы і якое
Межы восені гэтак адсунула лёгка!
Зрэшты, й нашая восень нагадвала лета,
Вераснёвая восень...

Навальніца зімы навалілася хутка, знянацку
І маланкаю сэрца працяла тваё,
А мяне аглушыла надоўга...

Разумею цяпер: ты не ў цемру пайшла,
Бо абраная небам.
Я застаўся на грэшнай зямлі.
Я адзін апынаюся часта
Між табой і Ўсявышнім.
Трымаю ў руках і чытаю вачыма і сэрцам
Твае запаветы –
“Паміж усмешкай і слязой”,
“Душою з небам гаварыць”.

*Верасень 2012*



Лідзія Арабей



...паміраць цікава, шкада толькі,
што пра гэта нікому не раскажаш
і не напішаш...

# Пошукі ісціны

*Абразкі*

## БІЗНЭС

З групаю турыстаў я ляцела ў самалёце з Ванкувера ў Сан-Францыска. Побач са мною сядзеў даволі малады амерыканец і заляцаўся да маладой амерыканкі. Тая спытала ў яго, чым ён займаецца, і ён адказаў, што ў яго свой бізнэс, і ў доказ адчыніў кейс і пачаў паказваць нейкія паперкі.

Я, савецкі чалавек, падумала: як яму не сорамна прызнавацца дзяўчыне, што ў яго нейкі бізнэс. Для мяне слова "бізнэс" асацыявалася са словам махлярства. А цяпер я жыву ў краіне, на сваёй радзіме, дзе шмат хто мае свой бізнэс і гэтага слова не саромеецца, гэтым словам ганарыцца.

## ЗНАЁМЫЯ

Я выпісваю "ЛіМ", чытаю. Сярод аўтараў ніводнага знаёмага прозвішча. Знаёмыя прозвішчы толькі ў некралогах.

## АДНАКУРСНІКІ

Адбылася сустрэча нашых аднакурснікаў, шэсцьдзесят гадоў пасля сканчэння ўніверсітэта. Прыйшло дзесяць чалавек, некаторыя нават прыехалі з іншых гарадоў. Адны жанчыны. Нашы мужчыны даўно ўжо адышлі ў іншы свет.

Я сказала:

– Падніміце рукі, хто гэтыя шэсцьдзесят гадоў пражыў шчасліва.

З дзесяці жанчын рукі паднялі тры.

І дзякуй Богу, хоць трое з нас жылі гэты час шчасліва.

## ШТО РАБІЦЬ?

ДНК паказала, што дзяўчынка – не яго дачка. Але ёй ужо пяць гадоў, яна заве яго татам, і ён прывык да яе. Што рабіць? Ці выгнаць хлуслівую жонку, якая невядома з кім прыжыла дзіця, ці зрабіць выгляд, што ён нічога не ведае, і жыць далей?

## СТРАХ

Некалі і палітыкі, і народ страшэнна баяліся Сталіна. Цяпер кожны, хто не лянуецца, б'е яго ботам. Не страшны мёртвы сабака. Цяпер дрыжаць перад жывымі дэспатамі.

## СЯБРОЎКІ

Дом на дзевяць паверхаў, чатыры пад'езды. Удзень з кожнага пад'езда, як мурашкі, выпаўзаюць бабулькі, якая з кіёчкам, якая так, скручаная ў тры пагібелі. Садзяцца на лавачку. Яны знаёмыя колькі гадоў па тым сядзенні на лавачцы, і пачынаюць гаварыць.

Яны глухія, як цяцеры. Але гавораць.

## ЖАБЫ

Гэта быў яе першы бізнес. Жылі яны насупраць медінстытута, а там прымалі жабак для вопытаў і нешта за гэта плацілі. І вось яна вырашыла зарабіць. Пайшла на сажалку, налавіла жабак – цэлы мяшэчак. Прынесла дадому, бо несці ў інстытут было позна. Жабкі павыскоквалі з мяшэчка, параспаўзаліся па кватэры. А тут госці прыйшлі. Бацька раззлаваўся, павымятаў жабак венікам з хаты.

Так яна зарабіла, але не грошай, а плескачоў.

## МІЛЬЁН

Удзельніца вайны і бізнэсменка апынуліся ў адной палаце ў бальніцы. Удзельніцы вайны выпаў ложак каля самага тэлевізара, які бізнесменка не выключала з раніцы да вечара. Старэнькая хворая ўдзельніца вайны папрасіла бізнэсменку выключыць тэлевізар, і тая заявіла:

– Вас тут задарма лечаць, а я, каб легчы ў гэту бальніцу, заплаціла мільёны і буду глядзець тэлевізар на ўсе свае грошы.

## МУЖЧЫНА

Старэнькі дзядок з кіёчкам ходзіць па бальнічным калідоры, заглядае ў палаты. Сястрычка кажа яму:

– Мужчына, вы чаго ў жаночыя палаты падглядаеце:

– А там хіба жаночыя? – дзівіцца дзядок

Ён кепска бачыць, кепска чуе, яго даўно не цікавяць жанчыны, ён даўно ўжо не мужчына, а ў палату падглядаў з простай чалавечай цікаўнасці.

## ХЛОПЧЫК

Нарадзіўся хлопчык – малюсенькі, бездапаможны, з маленькімі ружовымі пальчыкамі і заплакаў, як плачуць усе дзеці, што ўпершыню прыйшлі ў гэты свет.

І хто б мог прадказаць, што гэты малюсенькі хлопчык – будучы вялікі Пушкін.

## ПОШУКІ ДАБРА

Спрадвеку чалавецтва шукае спосабу жыцця, каб усім было добра. Адсюль рэлігійныя казкі і міфы, адсюль рэвалюцыі, войны, жыццёвыя ўклады – дыктатура, камунізм, дэмакратыя, капіталізм. Але ўсё разбіваецца аб прыроду чалавечую з яе зайздрасцю, сквапнасцю, амбіцыяй, агрэсіўнасцю і канчаецца крывёю, і ўсім робіцца вельмі дрэнна.

## ЗОРКІ

Калі ў мяне была дача, я любіла познім вечарам выйсці з доміка і пагляддзець на неба. Яно было чорнае, і на ім ярка свяціліся буйныя залацістыя зоркі, і здавалася, што яны так блізка, ледзь за комін не чапляюцца.

Цяпер у мяне дачы няма, і я хачу ўбачыць зоркі ў горадзе. Я выходжу на балкон і гляджу на неба. Але яно шэрае, і на ім не відаць ніводнай зоркі. Няма на гарадскім небе зорак.

## ЗАЙЗДРАСЦЬ

Адна з паганых рысаў чалавека – зайздрасць. А вучоныя скажуць, што зайздрасць – рухавік прагрэсу.

Каб жа гаспадар, убачыўшы, што яго сусед багацейшы, пастараўся б і сваю гаспадарку зрабіць больш эканамічнай, выгаднай. Дык жа не. Ад зайздрасці ён пойдзе і падпаліць хату суседа.

Які ж тут рухавік?

## АДЗІНОТА

Адзінота кепская тым, што калі раніцаю прачынаешся, няма каму расказваць, што табе прыснілася.

А бываюць такія цікавыя сны...

## САМ САБЕ...

Па дарозе з могілак сівенькі дзядок разгаварыўся са сваёю спадарожніцаю, немаладой жанчынай. Кажа ёй:

– Закажу сабе труну, пастаўлю ў кладоўку, няхай стаіць.

Памаўчаў і гаварыў далей:

– І помнік сабе закажу... Толькі другую дату пісаць не буду, пастаўлю толькі першую – я не ведаю, калі памру... Дзецям менш клопату будзе.

## БАЦЬКА

Ён быў ужо вельмі стары, кепска чуў і кепска бачыў, часам капрызнічаў, і яны сварыліся на яго. Дзецям было з ім вельмі цяжка. І вось ён памёр, і зрабілася яго вельмі шкада, быццам памерла дзіця, якое крыўдзілі. І падступала адчуванне віны.

## ІМГНЕННЕ

Паўнацэннага жыцця адведзена чалавеку гадоў трыццаць, ад дваццаці да пяцідзесяці. А трыццаць гадоў – гэта так мала, адно імгненне, не паспееш азірнуцца.

## ЦЭНЫ

Цэны так падскочылі, што мне трэба падскочыць некалькі разоў, каб іх дагнаць.

## РАЗУМНАЯ ЦЁТКА

Мая цётка Маня з Нізка некалі казала:

– Камуністам добра быць, ён і подласць зробіць, дык яго пакрыюць.

Я тады спрачалася з ёю, казала, што за подласць і камуністаў караюць. А потым пераканалася, што мая непісьменная цётка разумела тое жыццё лепш за мяне. Хутка я сутыкнулася з камуністамі, якія рабілі вялікія подласці, і іх пакрывалі.

## НЕЦІКАВЫ ГОСЦЬ

Сёння для мяне тэлевізар як нецікавы госць, які гаворыць, гаворыць абы што ды яшчэ хлусіць. Толькі нецікаваму госцю няёмка сказаць, што

ён ужо надакучыў, а на пульце ёсць, дзякуй Богу, кнопка, якую варта націснуць, і балбатун знікне.

## ШЭРАЧКА З МАШЭРАЧКАЙ

Нядаўна скончылася вайна, краіна ляжала ў руінах, жылося голадна і холадна і даводзілася шмат працаваць, каб вярнуцца да прыстойнага жыцця. А душа прасіла радасці, свята і яшчэ на нешта спадзявалася.

У парку Чалюскінцаў вечарамі іграў духавы аркестр, на ўтрамбаванай, як ток, пляцоўцы наладжваліся танцы. Пасля работы тут збіраўся даволі маладжавы народ. Найбольш жанчыны. Мужчынаў панішчыла вайна, і мала якой кабеце ўдавалася патанчыць з кавалерам. А танцаваць так хацелася... і танцавалі жанчына з жанчынаю. Пра іх казалі: танцуюць шэрачка з машэрачкай.

## ПЕРАВЫХАВАННЕ

Некаторыя дзяўчаты, сустракаючыся з хлопцамі і спадзеючыся на нейкую перспектыву, хочуць таго хлопца “перавыхаваць”, перарабіць на свой капыл. А той хоць бы і рады перавыхавацца, ды не можа, бо такім ён ужо ўрадзіўся. І ўзнікаюць канфлікты, а далей і разрыў.

Не разумеюць дзяўчаты, што трэба любіць чалавека такім, які ён ёсць, альбо зусім не любіць.

## ДАВЯЛІ

Забылася дома акуляры і папрасіла прадавачку ў магазіне паглядзець, колькі каштуе пакецік бульбы “фры”. Тая паглядзела сваімі маладымі вочкамі і вылаялася нецэнзурным словам – так абурыла яе цана, якую яна прачытала на тым пакеціку.

– Хто ж яе будзе купляць? – з абурэннем сказала яна, кідаючы той пакецік назад у маразілку.

## ШЧАСЛІВАЯ КОШКА

Хадзіла па Камароўцы між радоў, дзе прадаваліся кілбасы. Сасіскі, выбірала – што б купіць. Вочы спыніліся на кілбасцы, якую раней не каштавала. І цана нібы прастойная. Вырашыла купіць. А перада мной кабета акурат такую кілбаску купляла. Я спыталася ў яе:

– Гэта кілбаска смачная?

– Не ведаю, – адказала жанчына. – Я яе кошцы купляю.

“Шчаслівая кошка”, – падумала я і ад той кілбасы адмовілася. Няхай яе ўжо кошка есць.

## А РАПТАМ?..

Яна выйшла замуж за чалавека, маючы дачку ад першага шлюбу. Ён

хацеў, каб яна і яму нарадзіла дзіця, але яна пабаялася. А раптам ён будзе любіць сваё дзіця больш, чым маё...

І не нарадзіла, усё жыццё нейкія таблеткі глытала.

## НАІЎНЫ ПРАРОК

Антон Паўлавіч Чэхаў у апавяданні "Выпадак з практыкі" прарочыў, што праз пяцьдзясят гадоў у Расіі запануюць справядлівасць і прыстойнае жыццё. А праз пяцьдзясят гадоў пасля таго прароцтва ў Расіі запрацаваў махавік рэпрэсій, падмінаючы пад сябе мільёны жыццяў, калектывізацыя прынесла голад, эпоха Чэхава ў параўнанні з гэтай выглядала вішнёвым садам.

І цяпер, больш чым праз сто гадоў з таго часу, зямля паліваецца крывёю, а пра нейкую справядлівасць і прыстойнае жыццё могуць гаварыць толькі наіўныя пракорокі.

## ІЛЬВЫ І МЫШКІ

У былой лечкамісіі некалі лячыліся ветэраны вайны ды заслужаныя людзі краіны. Ветэраны паўміралі, заслужаных людзей павыганялі, і лечаць там свае хваробы цяперашнія высокія чыноўнікі ды бізнесмены, якія добра плоцяць. А рэштка старэнькіх кліентаў, што засталіся яшчэ прыпісаныя да той лякарні з даўніх часоў, адчуваюць сябе сярод іх шэранькімі мышкамі і баяцца, каб каторы з іх не наступіў на іх незнарок ды не раздушыў.

## ЖАНЧЫНА

Пазнаёмілася з пажылою кабетаю, па ўсім было відаць, што ёй шмат гадоў, але галава ясная, і даглядае сябе – ходзіць у прыгожай блюзачцы, з манікюрам. Я спытала ў яе:

– Колькі вам гадоў?

– Не ведаю, – адказала яна.

– Не памятаеце?

– Не ведаць і не памятаць – розныя паняцці. Я не ведаю.

Так і не адказала на маё пытанне.

І яшчэ сказала, як афарызм:

– Будзе так, як трэба...

## НА РАДУ НАПІСАНА

Здаецца, дактары ў бальніцах перакананыя, што чалавек пражыве столькі, колькі адпушчана яму прыродаю. А з хваробаю павінен змагацца сам арганізм. А каб апраўдаць сваё званне доктара ды яшчэ і зарплату, то яны лечаць хворых, але ўсіх па адным шаблоне. Дапаможа, дык дапаможа, а не дапаможа, значыць, хвораму так на раду напісана.

## ДЗІВА

Купіла ў магазіне прадукты, ідучы дадому, яшчэ пагуляла па двары, паглядзела, як дзядзька траву косіць. Дома пераапранулася і ўзялася разбіраць торбу. Прадукты на месцы, а кашалька няма. Дзе ж кашалёк? У мяне ж там і важныя дакументы, і даволі вялікія грошы.

У магазіне расплачвалася за прадукты, значыць, там ён у мяне быў. Няйнакш пакінула недзе каля касы.

Пабегла ў магазін. Так і чую наперад голас касіркі: "Які кашалёк, я ніякага кашалька не бачыла...".

Забягаю ў магазін, і што б вы думалі – ляжыць той кашалёк на століку, на які стаўляюць пустыя кошыкі. А народу ў магазіне – цьма, найбольш студэнты. І прайшло з таго часу, як я была ў магазіне, хвілінаў сорак. І ніхто майго кашалька не ўзяў! Вось дзіва!

Кажуць, найбольш радуецца чалавек, калі знаходзіць згубленае.

## УСПАМІНЫ

Чалавек піша ўспаміны, расказвае пра сваю эпоху, пра людзей, з якімі зводзіў яго лёс, пра сваіх калег. Але з усяго, пра што ён расказвае, найперш паўстае вобраз яго самога. Ён выдае сябе па тым, як гаворыць пра людзей – ці спагадліва, ці зласліва і як бы ён ні хаваў сябе за размовамі пра іншых, найбольш мы бачым самога аўтара, ён малюе іншых, а мы бачым ягоны партрэт.

## У АДЗІН ДЗЕНЬ

У казках для закаханых лічыцца шчасцем пражыць разам доўгае жыццё і памерці ў адзін дзень.

Цяпер казкі часта праўдзяцца. У катастрофах самалётаў, караблёў ды і ў звычайных аўтамабільных аварыях бывае, што разам гінуць і жонка, і муж, у адзін дзень. Вось такое ў іх шчасце.

## ДЫСЦЫПЛІНА

У інстытуце літаратуры пры Акадэміі навук ішоў сход. Нейкі не вельмі важны, абмяркоўваўся план работы ці што. Вёў сход дырэктар інстытута Васіль Барысенка. І раптам у кабінет забягае сакратарка, з хваляваннем паведамляе:

– Наша аспірантка павесілася!..

Прысутныя заварушыліся, некаторыя паўскоквалі з месца.

– Сход працягваецца! – строга загадаў Барысенка.

І ўсе паслухмяна селі на месцы.

Што значыла Барысенку чалавечае жыццё ў параўнанні з рабочаю дысцыплінаю.

## АНЕКДОТ

Ідзе цікавы працэс – беларуская літаратура ствараецца на рускай

мове. Нават назву прыдумалі такому ўнікуму: рускамоўныя беларускія пісьменнікі.

Якіх толькі анекдотаў не ствараюць жыццё і людзі.

## ТАЯМНІЦА

Самая вялікая таямніца чалавека – яго мазгі. У іх хаваюцца падзеі, што былі 60, 70 гадоў назад ды раптам выплываюць і кроіць душу чалавека.

У мазгах нараджаюцца самыя каварныя задумы, а потым пераходзяць у жыццё і робяць сваю агідную справу.

Калі чалавек спіць, мазгі фантазіруюць і выдаюць карцінкі-сны, невядома кім і з чаго склееныя.

Мазгі часам затуманьваюцца, і чалавек дурнее.

Мазгі паміраюць апошнімі, пасля таго, як перастае біцца сэрца.

## КАРОТКАЯ ПАМЯЦЬ

Смяецца прэса з таго, як карэйцы ўзвышаюць свайго Кім-Ір-Сэна, называючы яго і сонцам, і бацькам, і правадыром, адзінаю зоркаю і іншымі ласкавымі імёнам, забываючы, што не так даўно беларуская прэса таксама ўзвышала Сталіна, а беларускія паэты ад імя беларускага народа пісалі Сталіну ліст, называючы яго і бацькам, і настаўнікам, і сонейкам. А ў канцы пісалі:

Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць,
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход,
Прымі прывітанне, якое прыносіць
Табе, правадыр, беларускі народ!

## НЯЎЖО?

У Бібліі сказана, што Бог стварыў чалавека па вобразу і падабенству свайму. Але чалавек такі недасканалы – ён сквапны, зайздросны, амбіцыйны, агрэсіўны.

То няўжо і Бог такі?

## ПАВІНЕН АДДЗЯЧЫЦЬ

Прайшла інфармацыя – мужчына загінуў, ратуючы двухгадовага хлопчыка. Ён выкінуў дзіця праз вакно з ахопленага полымем дома, а сам не паспеў уратавацца.

Якім жа высакародным чалавекам павінен вырасці той хлопчык, каб аддзячыць свайму ратаванцу, каб недзе значылася, што ўратавалі дзіця не дарэмна.

## ПЫЛ

І трыста, і пяцьсот гадоў таму назад жылі людзі, а сёння ад іх застаўся адзін пыл, ды і той, мусібыць, развеяў вецер. А яны ж хваляваліся, перажывалі, нечага дабіваліся.

І сёння, калі на мяне навальваецца якая бяда, непрыемнасць, я кажу сама сабе:

– Супакойся, не перажывай, пройдзе якіх пяцьсот гадоў і ад цябе, ад тваіх праблем не застанецца і пылу.

## ЖЫЦЦЁ І СМЕРЦЬ

Кожнае дзіцянё выклікае замілаванне. Мы з прыемнасцю глядзім на кацянятка, на шчанючка, на цялятка.

Старасць выклікае сум і ў лепшым выпадку – спачуванне.

А смерць выклікае страх.

Успомніце – у Льва Талстога жанчына з дзіцем на руках падышла да труны, у якой ляжала яе пані. Дзіця глянула на нябожчыцу, і ў жаху закрычала.

Дзіця не ведала, не разумела, што такое смерць, але нейкім пачуццём адчула, што гэта вельмі страшна, і закрычала.

## ЛАД ЖЫЦЦЯ

Сталін хацеў з Амерыкаю ваяваць. Хрушчоў хацеў Амерыку дагнаць і перагнаць, абодва даводзілі, што лад жыцця савецкі куды лепшы за лад жыцця амерыканскі.

А ў выніку – дачка Сталіна Святлана жыла ў Амерыцы, сын Хрушчова Сяргей таксама. Ім лад жыцця амерыканскі спадабаўся больш, чым лад жыцця савецкі.

***

*На вайне не бывае атэістаў...*
Як гэта праўдзіва сказана...

## ВІЗІТЫ

Прэзідэнт раз'язджае па рэгіёнах, аглядае гаспадаркі. І вельмі баяцца тых візітаў вертыкальшчыкі, каб не зарабіць часам ад бацькі папругі. Затое вельмі радуюцца тым візітам кароўкі, бо перад прыездам прэзідэнта вычышчаецца, прыбіраецца іхняе жытло, а ў кармушкі накладаецца шмат свежай, сакавітай травы.

## СЛАБЫ ПОЛ

Пісьменнікі-мужчыны да твораў пісьменніц-жанчын ставяцца скептыч-

на, не верац, што тыя могуць стварыць нешта людскае. І нават крытыкі, таксама пераважна мужчыны, берагуць сваю энергію, каб ухваліць опус, створаны прадстаўніком дужага полу, хоць ён, можа, і нашмат саступае напісанаму жанчынаю.

## АДУКАЦЫЯ

У адным сваім вершы Якуб Колас пісаў, як бацька, выпраўляючы сына ў школку, казаў яму:

А старанны будзеш,
Да навукі здатны,
Я прадам кароўку
І кажух астатні.

І сёння, выпраўляючы сына ў навуку, бацька мусіць няйнакш як прадаць кажух.

Вельмі дарага бяруць цяпер за вышэйшую адукацыю.

## ПАМЫЛІЎСЯ

Нейкі Грышкавец (кажуць, паэт) абрынуўся на мяне ў інтэрнеце за тое, быццам я абразіла ўсіх членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі. Грышкавец спасылаўся на мой абразок “Перабежчыкі”. Але ў тым абразку я цытую словы Аляксандра Лукашэнкі і зусім з іншай нагоды. Гэта не маё выказванне.

Так што, шаноўны калега, трэба ведаць тое, пра што пішаш.

## СВАРА

Бывала, калі муж здраджваў жонцы ды ішоў да другой, ды быў пры гэтым членам камуністычнай партыі, то жонка пісала заяву ў партыйную арганізацыю, апісвала ўсе мужавы грахі – і такі ён, і сякі, але патрабавала ў партыйцаў, каб мужа ў сям’ю вярнулі. І партыйная арганізацыя ставіла перад тым мужам пытанне: ці пакладзі партыйны білет, ці ў сям’ю вяртайся.

І адны вярталіся ў сям’ю, другія клалі білет, тым самым ставячы крыж на кар’еры.

Цяпер пакрыўджаныя жонкі ідуць не ў партком, а на праграму “Няхай гавораць” Андрэя Малахава. І тут перад усім светам трасуць брудную бялізнаю, дзеляць грошы, кватэры, дзяцей.

## ГЕНІІ

Якім трэба было быць геніем, каб зразумець і абвясціць усяму свету, што зямля круціцца.

Якім трэба было быць геніем, каб зразумець закон прыцяжэння.

Якім трэба было быць геніем, каб змайстраваць ракету, што далярцела да месяца, высадзіла на ім людзей і вярнулася на зямлю.

І не нарадзіўся яшчэ геній, які спыніў бы войны на зямлі.

***

Трохгадовага хлопчыка ўпершыню прывезлі да мора. Ён паглядзеў на тое мора і сказаў:

– Так шмат вады мне не трэба...

## МАЦНЕЙШАЯ СІЛА

Знакаміты кінарэжысёр. Вакол яго прыгожыя маладыя жанчыны. А жонка рэжысёра – сівая, не маладая, не сказаць, каб прыгожая. Мусібыць, ёсць у жанчын сілы, мацнейшыя за прыгажосць.

## ЗНІШЧЭННЕ

Мінулі семдзесят, восемдзесят гадоў, і перад намі раскрылася сапраўдная карціна, якую так старанна некалі ад нас хавалі – эпоха калектывізацыі, калі знішчалася сялянства, эпоха рэпрэсій, калі знішчаўся цвет нацыі.

Можа, пройдзе яшчэ семдзесят ці восемдзесят гадоў, і нашы нашчадкі даведаюцца пра наш сённяшні дзень – як знішчаецца беларуская мова, як знішчаюцца лепшыя беларускія пісьменнікі.

Не, сёння пісьменнікаў не забіваюць, іх проста не друкуюць у дзяржаўных часопісах і газетах, не ўпамінаюць у гэтых выданнях іх імён, быццам іх няма, быццам яны самі даўно памерлі.

## АПРАНАХА

Калі маці, бывала, апранала на мяне нейкую апранаху, і я не хацела яе насіць, казала, што гэта апранаха непрыгожая, яна мне не падабаецца, то маці казала:

– Ніхто гэту не скіне і лепшую не дасць.

І сапраўды, за ўсё маё жыццё ніхто не скінуў з мяне не прыгожую апранаху і не даў лепшую.

## ІНШЫ СВЕТ

Прымаю таблетку, кладуся спаць, засынаю і трапляю ў іншы свет, у іншае жыццё. Хаджу па горадзе, у якім на яве ніколі не была, трапляю ў пустыню – вакол мяне яркі жоўты пясок, а праз імгненне хаджу берагам мора, якое цягнецца да гарызонту. А далей – не знаходжу дзвярэй у трамваі, а мне конча трэба даехаць да вакзала, пытаюся ў людзей – дзе ў трамваі дзверы, але ніхто не ведае, і я не ведаю тых людзей.

Адкуль гэта ўсё ў маёй галаве, адкуль вобразы, якіх на яве ніколі не бачыла, дзе ўсё гэта хавалася і чаму ў сне аднекуль выпаўзае?

***

Яна была студэнтка, амаль заўсёды хадзіла галодная, не мела чаго людскага апрануць.

І была шчаслівая.

Сёння ў яе выдатная кватэра, торба грошай, можа есці што захоча і апранацца як захоча.

А шчасця няма.

Яно засталося недзе там, у далёкім мінулым.

## ВІРУС

Жылі муж і жонка, і быццам шчасліва, у ладзе. Ды раптам захварэла жончына маці, убіўся ў яе нейкі вірус. А маці жыла адна ды ў далёкім горадзе. І прыйшлося дачцэ забраць матку да сябе, і ляжала яна хворая і год, і два.

А мужу з хвораю цешчаю зрабілася ў хаце некамфортна, і пачаў ён часта не стыкацца дома, бавіў час у кампаніях.

У адной такой кампаніі сустрэў кабету – маладую, прыгожую, узнік раман, і муж пакінуў жонку з хвораю маткаю.

Так нябачным вокам вірус разбурыў сям'ю.

## ЦІКАВА

Некалі цяжка хворы мастак Левітан казаў:

– Як страшна паміраць...

А мне здаецца – паміраць цікава, шкада толькі, што пра гэта нікому не раскажаш і не напішаш.

***

Госці мне робяць прыемнае двойчы – калі прыходзяць і калі адыходзяць.



Наталля Русецкая



...у кожнай з нас
свой бераг...

# Прага размовы

* * *

узгоркі,
рудое іржышча,
руіны замкаў,
касцёлаў вежы,
скразнякі
на гарышчах,
дажджу мярэжы
з неба
выбеленага,
на скрыжаванні дарог
крыжы
раскрыленыя...

* * *

ці дождж,
ці пагода

пакліча
дарога,
паклічуць
прыгоды:
усходы,
заходы,
мяжы
пераходы.
не трэба
нагоды –
вядуць
карагоды
шляхоў
і дарог
ад парога
ў парог:
мяне
да цябе
на яве
і ў сне.

* * *

Свечка
маёй
малітвы
нясмелай
успыхне
і гасне,
здзмухнутая
сумневам.
Скажы:
і Табе
так
балела
першае
слова –
уздоўж
усяго
цела?

* * *

сустрэчы
наканаваныя
фастрыгай
прашыты
па долі.

развітанні
вышыты
крыжыкамі
юдолі.
сцежкі
зблытаны
рыскамі
на далоні.
вязьмо
падзей
трымае
мяне
ў палоне.

* * *

лісты
галоднымі
птушкамі
кормяцца
з рук маіх
крошывам
думак,
лятуць
і нясуць
у дзюбах
мёртвыя
словы –
не наталіць ім
нашае
прагі
размовы.

* * *

восень лісце
раскінула веерам,
нібы карты,
наваражыла мне тое,
чаго я не вартая,
і хоць я зусім не паверыла
ёй спачатку,
пачалі збывацца
яе прадказанні
ўсе па парадку:
я прывозіла
ўражанняў

поўныя жмені
з усіх падарожжаў,
перабірала,
нібыта каштаны ў кішэні,
падоўгу кожнае,
а вочы свяціліся
дзіўнай забытай радасцю –
у мяне ажывала крыло,
перабітае сталасцю.

* * *

разбіваецца сонца
аб шыбы
вокнаў насупраць,
і сцякае
густая чырвань
доўга і млява.
я адчуваю
салёны смак ржы
на вуснах,
залізваю,
быццам сабака,
раны
і зноў валакуся
па бітых дарогах
восені:
як хутка зіма?
павісае пытанне
туманамі.
у зімовых снах
перадых манецца,
бо ў замеці
знікае,
губляецца шлях,
нібы нітка
памяці.

* * *

горад
заснежаны
у надвячорку
сінім,
на дрэвах
іней.
хто

будзе памятаць,
як называлі
другія?
я наракла
яго
новым
нязнаным
імем,
снегам
калючым
на вуснах
яно
стыне...

* * *

свет,
зацыраваны
завірухай,
спіць
і не спяшаецца
ані
падлічыць,
як згубленыя
вочкі
у вязанні,
страчаныя
дні.

* * *

думак маіх
уначы
сноўдаюць
павукі,
ткуць
звычаем старым
той самы
узор-матыў:
на паляванні
ты
будзеш зверам,
а я
лаўцом.

* * *

колькі
было
такіх
зімаў,
бясконца
даўгіх.
снег
засыпаў,
марозіла,
на паваротах
заносіла,
накірункі
ў замеці
блытала,
выбівалася
з сілаў,
выла
і
вусны
шорсткія,
сіверам
зацалаваныя,
у рукаў
хавала я.

* * *

*Н.*

ёсць
насамрэч
толькі адна
рака,
з якой
я выйшла,
але ўступіла
яна.
у кожнай з нас
свой бераг,
а броду няма,
і паміж намі
заўсёды
плыве рака.

ёсць
насамрэч
шлях,
але ён па вадзе.
нязручнасць у тым,
што яго
не відаць нідзе,
і трэба адно –
паверыць
і крок зрабіць,
не глядзець
пад ногі,
дзе плынь
глыбінёй
звініць,
тады
пасярод ракі,
дзе вада нічыя,
мы нарэшце
сустрэцца зможам,
яна
і я.

Уладзімір Міхно



...фарбаваць валуны –

здзекавацца з даўніны сівой...

# Валун

***Апавяданне***

На ўзмежку, ля дарогі, ляжаў Валун. Дарога бойкая, бегла яна кудысьці ўдалеч, і хто скажа, дзе мела свой пачатак, дзе прасцяг? Адно пэўна – вяла дарога не кудысьці ў беспрасветную далеч: не ў лес цёмны, не ў дол глухі, не ў тупік канцавы – дарога бегла да свету, да жыцця, мо ў вёску, а мо і ў горад які вялікі. Узмежак, даволі стромы, быў межанем між дарогаю і велізарным, як вокам кінуць, полем. Поле пуставала. Колісь, мусіць, пастараліся тут меліяратары: асушылі балота, пакалечылі зямельку канавамі. Д***а***ўна тут нешта сеялі. А цяпер, ведама якое жыццё, зарасло поле тое палыном ды шчаўлюком конскім, закажанела, месцамі выжарыла яго спякотнае сонца, месцамі паўзвярнулі зямельку краты ды мышы-палёўкі. Зусім іншым выглядаў узмежак. Трава тут расла густая і шаўкавістая, сонечныя пякучыя промні не надта даставалі-дакучалі

схілу і ў засені ды зацішку кусціліся дыванком палявыя кветкі – рамонкі, валошкі, купалкі, люцікі, анюціны вочкі.

Вось у гэтым featured рознакаляровым суквецці і ляжаў сабе Валун. Хто ведае, колькі ён тут ляжаў, хто скажа, колькі яшчэ праляжыць. Можна было падумаць, што ён тут быў заўсёды. Адзінока і горда ўзвышаўся ён над дарогаю, над узмежкам і над полем – гэтакая велізарная каменная глыба. Не звярнуць яе, ні знесці, хіба што аб'ехаць і абысці. Дарога і сапраўды ля Валуна рабіла круты віраж. Людзі, не здолеўшы прыбраць да рук гэты ўпарты сівы лежань ледніковае эпохі, палічылі за лепшае абысці ды зрабіць выгляд, быццам яго й не існуе. Пасіверaны на ветравеях, замшэлы ад часу, месцамі воглы, дзе-кольвек жарсцвяна-гостры і калючы, Валун нязручны быў людзям. Ні прысесці на ім, каб адпачыць здарожанаму чалавеку – надта ж высока ўзбірацца. Ні прыхінуцца да яго, каб пагрэцца. Халодны камень, здавалася, век свой не адчуваў, што такое цеплыня чалавечага шчасця. Ён не ведаў жыцця і кахання. І таго простага, звычайнага шчасця, якое маюць людзі, ён ніколі-ніколі не мог бы нікому падарыць, бо не меў яго, бо сам быў Богам створаны і асуджаны на вечную адзіноту і вусцішны холад.

Ніхто не ведаў, як жыў Валун, бо не цікавіўся яго жыццём. Каго хвалюе чужы лёс! Ніхто нават і не здагадваўся, што пад тоўшчаю каменнага футаралу цепліцца і адчайна б'ецца гарачае Валунова сэрца. Эх! Калі б камяні маглі гаварыць!.. Але яны маўчаць. Яны сціплыя і цярплівыя.

Усё, што заставалася Валуну – пазіраць на чужыя жыцці, радавацца, плакаць, перажываць па чужых лёсах, навучыцца быць вясёлым, калі сонейка ўстае. Балазе, ён тут на ўзгорку першым сустракаў узыход сонца; навучыцца быць рамантычным, калі першая зорачка нясмела ўспаўзае на неба, асцерагаючыся, каб не ўбачылі, не дагналі яе зорныя брацікі і сястрычкі. Вельмі ж хочацца быць першай!

***Лёгка быць першым на небе, цяжка – на зямлі.***

Валун на зямлі быў апошнім, нікуды не вартым, нікому не патрэбным. Што рабіць – такім яго стварыў Бог. Ва ўсякім разе, так здавалася Валуну – недавярак-няздольнік. Ні цела яму Бог не даў – якое ж гэта цела: расплыўся па ўсім абмежку – адно для насмешак, ні рук не даў, ні ног, ляжы і маркоцься, пакуль іншыя бегаюць, стараюцца, хаты будуюць, сем'і ствараюць, пра нашчадкаў дбаюць. Пашкадаваў Бог яму спрыту і кемлівасці, ад нараджэння ўваткнуў у зямельку гострым краем. Дзеля таго, каб іншыя ўсселі на яго і не злазілі? Каб таўкліся па ім, наступалі на яго бруднымі ботамі і выціралі аб яго ногі? Больш за тое, тыя, хто праходзіў паўз яго, нават і не падазравалі, што Валуну яшчэ нешта трэба ў гэтым жыцці, што ён на штосьці спадзяецца. Так – ляжыць пад нагамі памылка прыроды і хай сабе ляжыць.

Праўда, Бог шчодра адпусціў яму розуму і душы. Але навошта?

***Каму сёння патрэбны душа і розум!***

А радавацца ён умеў. Праз чорнае покрыва асабістага смутку, што з гадамі заслаў яго, як туманом яр, схаваў-аддаліў ад людзей, ад жыцця, нене ды і праступала сонейка. Ён радаваўся, калі па бойкай дарозе, з якой суседнічаў, хтосьці праходзіў.

Здавалася б, чаму тут радавацца? Суседка-дарога жыла сваім жыццём. Во ёй клопату пра нейкі камень-нявывалак, што ўлёгся побач, як корч стары, ды засланяе тут аптымістычныя краявіды. Ды і не павінен быў ён

радавацца людзям, а павінен быў зайздросціць ім, хаця б за тое, што яму не дасталося ад Бога таго, чаго атрымалі яны.

***А хто зайздросціць, той не радуецца, бо немагчыма ў адначассі і радавацца і зайздросціць.***

Але ж не было ў Валуна зайздрасці да шчаслівейшых, ён наадварот ім спрыяў – такое ў яго сэрца.

Людзі па дарозе праходзілі розныя. Неяк ішла бабулька, несла за плячыма клунак. Пляцак, відаць, быў даволі важкім, муляў плечы, цягнуў да зямлі. А што там было муляць! Тры воглыя косткі, якія выпнуліся ды тырчэлі ўразнабой – і давядзе ж Бог чалавека, пакуль забярэ да сябе! Бабулька нечакана ўзрадавалася Валуну. Урэшце можна калі не прысесці, не адпачыць, хоць дух перавесці. Збочыла з дарогі, падышла да каменя. Спрытна ўхапіла пляцак абедзвюма рукамі, рукі худзюшчыя, як шчэпкі, але сілы ў іх яшчэ хапала. Хапала, ды не настолькі, каб клунак паставіць на камень. Тут сіла не жаночая патрэбная. Старалася-старалася, ляшчэла-грукала нечым у плецаку, быццам бы туды жалеза наклалі, бабуля аж успацела, а ўсё не кідала надзеі падняць цяжкую ношу на вяршыню каменнае глыбы. Валун здагадаўся: старой будзе цяжка потым падняць пляцак з зямлі, каб закінуць на плечы, з каменя – прасцей, таму і стараецца. Ён так перахваляваўся за бабульку, імкнуўся ёй дапамагчы, напінаў кожную часцінку, кожны драбочак каменнага цела свайго, намагаючыся асесці глыбей у зямлю, каб хоць на той момант стаць не такім высокім, не такім непадступным. Але дзе ж ты асядзеш, калі і так мо на некалькі метраў схаваўся ў зямлю. Пляцак не слухаўся, спаўзаў з каменя, павіхнулася рука, і жалеззе раптам грымнула вобзем, высыпалася з клунку. Добра, старая надзіва спрытна адскочыла – ледзьве паспела. Бо засталася б без ног.

***Не загарайся на непасільнае, каб не застацца з нічым.***

Бабуля неяк раптам асунулася, абыякава-бездапаможна апусціла рукі, як да роднага, прыхінулася да Валуна, заплакала. Плакала горка і надрыўна. Слёзы не саромеючыся, градам каціліся з вачэй, падалі на сагрэты пякельным сонцам камень і тут жа высыхалі. Сэрца ў Валуна разрывалася ад шкадобы. Каб меў ён рукі, дапамог бы бабульцы справіцца з цяжкою ношаю, абняў бы няшчасную, прытуліў да сябе, каб мог казаць, суцешыў бы яе ў горы.

І навошта было ёй тое жалеззе: кавалак спрацаванага лемяха, заржавелы ланцуг, звяно ад гусенічнага трактара, велізарны гаечны ключ. Пахадзі тут па полі – яшчэ й не тое знойдзеш. Хаця і не знойдзеш ужо – толькі й робяць, што ходзяць, шукаюць усё – і на конях прыязджалі, і носяць, і возяць. Валун дзівіўся – куды нясуць людзі тое ламачча, што гадамі тут валялася і ніхто не браў? Навошта яно ім спатрэбілася раптам!

Бабулька ў асалоду выплакала Валуну сваё гора, затым поўзала на каленнях, збірала свае набыткі ў заплечнік. І Валуну было сорамна, быццам бы гэта перад ім прыніжалася, укленчыўшы, старая. Горыч на сэрцы засталася і пасля таго, калі бабуля, стоячы на каленнейках, закінула пляцак на сухі хрыбетнік, натужна паднялася, паплялася далей.

Валун адчуў раптоўнае душэўнае спусташэнне. Душа пуставала ад адчаю, бо немагчыма мінуць таго, што наканавана, немагчыма адолець неадольнага, і хто б там ні казаў, што мы гаспадары свайго лёсу, насамрэч ўсё не так, усё фатальна. Што табе наканавана, таго не мінеш. Думаеш пра іншых, а прымяраеш да сябе. Яму, можна сказаць, і так яшчэ

пашанцавала. Іншыя вунь камяні каўшамі экскаватараў павыварочвалі з роднай зямелькі, пассоўвалі бульдозерамі з наседжаных месцаў, гвалтам пазвозілі ў гарады, пафарбавалі – каго ружовым зрабілі, каго блакітным, парасстаўлялі ля дарог бойкіх, як скамарохаў, прымусілі служыць таму, каму не служыцца і быць тым, кім сівому камяню не да твару прыкідвацца. А ён пакуль дома, у роднай зямельцы, глыбока ў ёй асеў-закапаўся. Таму і не кранулі, відаць, што надта ж глыбока ён заземлены ды нефарматны. Які з яго скамарох! Там, ля бойкіх дарог, абчэсваюць ды фарбуюць прыгожых, статных, здатных.

***Фарбаваць валуны – здзекавацца з даўніны сівой.***

А што наканаванага не пераскочыш – чыстая праўда! Валун памятае адзін выпадак. Ішоў па бойкай дарозе, ці з працы вяртаўся, ці з крамы мужык. Не мужык, можна сказаць, хлопец малады. Цяжка перастаўляў ён ногі! Зіма была, дарогу перамяло крыху, ды не надта каб, акурат быў той час зімовага бясснежжа, які апошнімі гадамі здараецца часта. То дажджом пальe зямельку, то маразам ціскане. Дарога коўзкая была.

***Дарога заўсёды коўзкая таму, хто цвёрда на ёй стаяць не здольны.***

Заплятаў хлапец нагамі косы, футболіў шар зямны, як мячык, нібыта збіраўся, добра адштурхнуўшыся, у космас стартаваць. Але небачка яго не прымала, а зямелька не адпускала. І смешна, і горка былоназіраць Валуну за тою хадою. Ды раптам калі гакнецца небарака аб воглае мерзлае глыжэўе, ды галавой неразумнай-мутнай аб глебачку. Тут ужо не да смеху стала Валуну – заб'ецца. І пацякла, расцякалася па бялюткім снезе крывава-бурая пляма. Жахнуўся Валун – чалавек паміраe. Забіўся! Тым часам увесь крывёю сыдзе, а ён, стары пярдун, разлёгся ля дарогі і нічым чалавеку не дапаможа. Згніў бы ад роспачы Валун, калі б раптам той хлопец не падняў галавы ды рукамі не пачаў грэбаць. Вяслуючы да жыцця, роспачна азіраўся вакол. Брыдка вылаяўся нягоднік. Не любіў Валун, калі людзі языкі распускалі без патрэбы.

***Лепей не мець языка ўвогуле, чым мець распушчаны.***

Азіраецца, нешта шукае. Што ж ён шукае, нябога? Авоечкі! Па кішэні лапае. Выняў аскялепкі – усё, што ад бутэлькі засталося, ды са злосці іх – аб глебу. Дык вось якая кроўка ў яго пацякла! А другую бутэльку ў кішэні намацаў – цэлая. Укленчыўшы стаяў і смяяўся, як дзіця. Што чалавек па прыродзе сваёй дзіця, Валун пераканаўся даўно, вось толькі ніяк даўмецца не мог, чаму дзеці, вырастаючы, не набіраюцца розуму, а наадварот – губляюць яго.

***Губляць розум, набіраючыся жыццёвых сілаў, ніводная зямная істота не дадумалася, толькі чалавек.***

Засунуў поўную бутэльку глыбей у кішэню, спакваля ўзгробся, пастаяў крыху і пасунуўся далей. Але ж не па дарозе сунуўся, а збочыў да каменя, ішоў напрасткі, па неглыбокім снезе – ледзьве перастаўляў ногі. Божачкі, куды ж ён, спалохаўся Валун. Ішоў бы сваёй дарогаю. Дома ж, няго, чакаюць жонка, дзеці...

Чалавек прыхінуўся спінаю да Валуна, дрыготкімі рукамі адкаркаваў бутэльку, што ніяк не хацела слухацца, прыклаўся і ўмомант апусташыў яе. Пастаяў яшчэ крыху, няўцямна лыпаючы вачыма і – асунуўся на мерзлую воглую зямлю.

Як кіпнем абдало Валуна, ён раптам зразумеў, што гэта – канец. Смерць

схілілася над прыблудам. Яе пошум Валун адчуваў усімі фібрамі свайго каменнага арганізма. У шалёным адчаі калацілася сэрца сівога лежаня. Не дай Бог бачыць, як на вачах тваіх памірае чалавек, а ты нічога не можаш зрабіць. Вечарэла. Згушчалася цемра. Крапчэў мароз. Па бойкай дарозе зрэдзьчас праязджалі машыны, асвятляючы фарамі шлях сабе. Але нікому не было справы да чалавека, які замярзаў ля Валуна...

***Чужая смерць бывае страшней, чым думкі пра сваю. Бо пра сваю думаеш, а чужую – бачыш.***

Думаў Валун не столькі пра смерць, тым болей, пра сваю, якая здавалася далёкай і нерэальнай. Ды яно ўжо і стаміўся жыць. І сапраўды, ці ён калі памрэ? Ляжаць яшчэ ды ляжаць. Вядома ж, рассыплецца некалі. Усё некалі рассыпаецца, бо няма нічога на свеце вечнага. Думаў ён болей пра жыццё, якое хоць і не задалося, але ж і не адменіш – трэба жыць, як набяжыць. Думаў – людзі кахаюць. Але што такое – каханне. Чужое – не памацаеш, не адчуеш, не прымераеш, а свайго – ніколі і не было. Ён ведаў, што такое спачуваць, перажываць-хваляваца, спагадаць, радавацца, сумаваць, але кахаць... Толькі аднойчы пашчасціла Валуну дакрануцца да таго, што жывыя назвалі гэткім трапяткім і адно ім зразумелым словам, толькі аднойчы яму давялося сустрэцца з каханнем, зазірнуць яму ў вочы. Вочы былі чужыя і не пазналі яго, але ж і ён упершыню не адчуваў сябе ў тыя шчаслівыя імгненні лішнім, непатрэбным на гэтым свеце.

Стаяла слаўная жнівеньская ноч. Такія ночы бываюць толькі ў жніўні і толькі ў раі. На зямлю, яшчэ не астыглую ад ліпеньскай спёкі, спусціўся рай. Сонца, стомленае за дзень, даўно сышло на спачын. Адпачынак у яго кароткі летам, толькі забудзешся хвілінай салодкага сну, а ўжо будзіць певень, а ўжо птушачкі ў лясным гушчары нецярпліва цвілінькаюць на ўсе лады. У кожнага свая песенька, а ўсё пра адно – сонейка чакаюць. Трэба падымацца. Лёгка падымацца сонейку, бо ведае, што ўсе яго чакаюць, што для ўсіх яно жаданае.

Сонца даўно адпачывала. Але неба на захадзе ўсю ноч грала, пералівалася, яго заходні акрайчык не здаваўся ў палон цемры. Белым лебедзем плыў па небе месяц, гожа любуючыся пацеркамі шчодра рассыпаных зорак, якія мігцелі-пераліваліся, што залацінкі ў росах.

І не спякотна было, і не зябка – камфортна. Двое, юнак і дзяўчына, няспешна ішлі бойкай дарогаю праз ноч. Вярталіся з гульбішча. Убачылі Валун пры дарозе, спыніліся здзіўленыя.

– Ого! – захоплена ўсклікнула дзяўчына.— Ты бачыў калі падобныя камяні, мой Мішка-таптыжка? Глыбішча!

– Гара! – згадзіўся хлопец. – Хочаш, Светлячок, я падару табе гэты камень...

– Хачу, вядома. Але дзе я буду захоўваць такі вялілі і прыгожы падарунак? – засмяялася дзяўчына.

– А мы пабудуем для яго вялікі-вялікі дом.

– Ну, пакуль яшчэ пабудуем...

– Добра, я падару табе гэты Валун на наша залатое вяселле. Згодна?

Яны весела засмяяліся, хлопец далікатна, злёгку абняў дзяўчыну, і яны доўга-доўга не маглі адвесці вачэй, не маглі налюбавацца адно адным, вочы іх быццам бы сышліся ў люстэрку недасяжнае мары. Урэшце хлапец не вытрымаў і асцярожна пацалаваў дзяўчыну – у шчочку. Тая раптам вырвалася з абдымкаў і, смеючыся – бягом да каменя:

– А я ўсё Валуну раскажу!

– Не атрымаецца. Ён жа – нежывы.

Ён – нежывы?! – дзяўчына шырока расставіла рукі, наколькі магла абхапіць каменную глыбу, – жывы, жывы ён, – гладзіла абымшэла-шчацiністы камень. – Ну, скажы, Валунчык, што ты жывы. Ён проста гаварыць не можа. Зірні, ён цёпленькі!

Валун здзівіўся – адкуль яна ведае? На пачатку насцярожаны, ён з кожнай хвілінаю пранікаўся ўсё большым даверам да юных рамантыкаў. Бывае вось так: бачыш чалавека ўпершыню, а здаецца, нібыта ведаеш усё жыццё. Не толькі даверам, ён пранікаўся бацькоўскай пяшчотаю да двух прадаўжальнікаў роду чалавечага, што прыблукалі сюды праз вечнасць, загарэліся, як дзве яркія знічкі, каб у вечнасці ж і растварыцца-згаснуць.

***Такая бясконцая яна – вечнасць, і такі кароткі век людскі, але людзі не думаюць пра гэта, яны жывуць і кахаюць, і іх каханне робіць іх неўміручымі.***

– І праўда – цёплы. Я дзесьці чытаў, што камяні – жывыя. Некалі яны былі такімі ж, як і мы, людзьмі. Іх проста зачаравалі і заклялі. Яны скамянелі, але пад тоўстым каменным саркафагам, як у вязніцы, маркоціцца іх гарачае сэрца і шчырая душа. І зараз мусяць цэлую вечнасць чакаць, пакуль сыдуць чары ды растане праклён.

– Мішка-таптыжка, а я хачу наверх, на камень!

– No problem! Калі б ты нават захацела ў госці да тога грацыёзнага лебедзя, – хлопец кіўнуў на месяц, які цікаўна падслухоўваў іх, гушкаючыся на дымчатым гамаку туманнасці Андрамеды, – я падкінуў бы цябе і да зорак.

Хлопец спрытна аберуч ухапіў каханку, лёгка падняў яе на вяршыню Валуна.

– А ты! Я не хачу без цябе!

– А я вылятаю да зорак бліжэйшым рэйсам.

Сказаўшы так, хлопец імгненна на дужых руках падцягнуўся і разам, як каніску, асядлаў Валуна.

Не быў ніколі Валун зайздроснікам, а тут мо ўпершыню саграшыў: калі б яму хоць грамулечку таго падлеткавага спрыту!

Ім было хораша разам – гарэзлівым дзецям і старому сівому бацьку. Валун быў надта задаволены, што захаваў для дзяцей сваё дзённае сонечнае цяпло. Наверсе яго мяккае імшыстае ложа было як стол роўнае і шырокае, тут было ўтульна і хораша – бы на дыване.

– Вось тут мы і будзем жыць! – заявіла дзяўчына.

– Прынамсі, да ўзыходу сонца, – пагадзіўся хлапец.

– Ты гэта сур'ёзна, Мішка-таптыжка? А што ж мы будзем рабіць, пакуль сонца не ўзыдзе?

Дзівачка – падумаў Валун. Нават ён, стары лежань, і то ведае, што робяць закаханыя, пакуль не ўзыдзе сонца. Падумаў – і тут жа застыдаўся сваіх, Божа ж мой, нявартых гэтай райскай начы грэшных думак.

– Табе не холадна? – заміж адказу спытаўся хлопец. Бяры во, схавайся, – ён расшпіліў свой цёплы швэдар, ускінуў на плечы дзяўчыне. Сонца яшчэ не хутка. Змерзнеш.

– А ты як, Мішка-таптыжка?

– Я – каменны. Мяне ніякі холад не прайме.

– Ты верыш у чараўнікоў? Раптам ён возьме і ператворыць нас з табою

ў камяні – калі скамяніў яго, чаму б і не нас? Не забывайся, мы парушылі межы яго ўладанняў, прыйшлі да яго самі, ён нас не клікаў.

– Не бойся, не ператворыць. Мы ж разам, так? Напэўна, ён, небарака, не паспеў знайсці сваёй палавінкі, і таму так лёгка паддаўся чарам. Вось замахнецца чараўнік на майго Светлячка сваёю ледзяною лапаю, а я вазьму цябе і пацалую. Вось так, – ён раптам прытуліў каханку да грудзей. І ты адразу растанеш.

– Хітрэц! Чаму ты вырашыў, што я адразу растану? – адхіснулася дзяўчына. – А давай лепей пашукаем у Валуна сэрца. Мо і сапраўды яно ёсць?

Няго ж не! Сэрца ў старога Валуна пры гэтых словах загрукала так часта, што, здавалася выскачыць, прабіўшы аковы каменнага саркафагу. Засціла дыхаць. А хвіліны чакання ператварыліся ў вечнасць.

***Хвіліны заўсёды становяцца вечнасцю, калі мы чагосьці чакаем ды на штосьці спадзяемся, і мізарнеюць да імгненняў, калі чаканае настае.***

– Ты ўсё пра яго ды пра яго, – роблена пакрыўдзіўся хлопец. – Магу і прыраўнаваць?

– Да каменя?

Яны засмяяліся і пачалі шукаць валунова сэрца. Поўзалі ўкленчыўшы, як дзеці, не зважаючы на тое, што было каленям балюча – камень усё ж. Дзяўчына прыклала вуха на Валуна, прыслухалася:

– Б’ецца!

– Дзівачка! Калі моцна прыцiснуцца, вось паспрабуй, рукою нават, адчуваеш біццё ўласнага пульсу.

– Б’ецца, кажу табе! Вось сам паслухай. Хіба так моцна можа біцца пульс?!

Хлопец таксама схіліўся да Валуна, надзіва цёплага, ну, далібог, жывога. Хвіліну яны абодва прыслухоўваліся, іх шчокі казытала імшыстая Валунова шчаціна, іх вусны набліжаліся, пакуль не судакрануліся,іх сэрцы, зліўшыся ў адным гарачым пакненні, калаціліся ўсё мацней, і ўжо не гэтак важна было ім ведаць, як б’ецца сэрца ў старога Валуна.

Той здагадаўся, але не пакрыўдзіўся. Маладым – маладое. Ды і ці мае ён права спадзявацца на чужое шчасце, тым болей ці мае права на яго прэтэндаваць?

Не пакрыўдзіўся, наадварот, як мага спрыяў чужому шчасцю, радаваўся яму. І мо ўпершыню за стагоддзі свайго пустэльніцтва быў па-сапраўднаму шчаслівы. Толькі б не спяшалася ўзыходзіць сонца, толькі б доўжылася бясконца чароўная ноч юных рамантыкаў.

Але ўсё, на жаль, заканчваецца. Калі раніцой Валун зноў застаўся сам-насам з адзіноцтвам, тое ўжо не здавалася старому лежаню такім пакутліва бясконцым, бо ён спазнаў сапраўднае шчасце, хай сабе і чужое, згадка пра якое будзе доўга саграваць яго камянёвае сэрца.

***Чужое шчасце таксама бывае сваім.***

*2011-2012 гг.*

Віктар Слінка



...лава
абцякла
скалу...

# Абертоны

* * *

Зірні туды, у шкельца блякла-шэрых,
Але – празрыстых лістападных дрэў.
Трухлявы дзень, як бачыш, не згарэў,
Але – дыміць, як пень; яшчэ не шэрань
У курчах лісця ў вогнішчах вячэрніх, –
Раса згасае. Полымя – парэз.

Мілей макрыц, мілей істот бязногіх
Душа нам здратаваная, свая.
Мой почырк нечытэльны, але многіх
Я распазнаў, старэйшых удвая.

Навошта лярвам чыстае паветра?
Але імкнуцца, бачыш, да яго.
Пераўзыдзі – няведама каго! –
І сцеражыся нерату. Карэта

Вантробы караля вязе паэту.
Пакуль нас лічаць цераз аднаго.

Ляціць сюды, да сэрца на распорках,
Здагадлівай лагоды чарада.
Бы матылькі, лісты, званкі... Ды створкі
Імгненна адсякаюць цень куста.

Патыліцамі шчэ не сталі ў шэраг,
А тварамі – дзе шнар траншэйных ям,
Але ўжо дыхае: “На іх жыццё і шэлег
Паставіць рызыкоўна... Лепш – ніяк
Не меркаваць: хто ёсць, каго няма...
Патрэбныя яны – як стогадовай вэлюм.”

На нашым слове непрабіты капсуль,
І ад таго на ўліку тэлефон.
Навошта гаварыць фальцэту басам?
Лепш – не зважаць на шум, абрыдлы фон.

Сапраўднасць – значыць: жыць без успамінаў.
Не траціць час на росчыркі пяра.
Спаліць усё? Бог зберажэ нявінных?
На сонечным баку цяплей кара.
Але, каб выбавіцца ад сваіх правінаў,
Не трэба мець сабе гаспадара.

Шагала дзень – і цень, і цень шакала,
І кожны жэст захутаны ў туман.
Мы – рамы для карцін. Ніякага кімвала
Не можна чуць, калі глухі васпан.

Аматарка шасэйных аўтагонак
Без станіка ўзыходзіць на Парнас.
Хто жыць прывыкнуў для такіх акрас,
Няроўна дыхаць да пустых старонак
Яму цяжэй, – ды ў час звярыны гону
Прыходзіць рыфма – хваля на баркас.

Да змроку – крок, а да святла – палова
Такога ж кроку, толькі цераз змрок.
У беспасажнай – з волава карона.
Падпалены будан свяціў здалёк.

Па брукаванцы тракамі танкетка
Праедзе, трушчачы ў чырвоны пыл
Цагліну выпадковую. Дзе быў
Стары пісьменнік, там цяпер німфетка.

Лунае прывіднасць майстэрства; сведка –
Сухая цеціва, што я не сніў.

Зірні туды, у шкельца блякла-шэрых...
Гугнявіць ноч, спявае ясны дзень.
Ідзе дзяўчынка ў школку, клічу – Вера.
Мая дачка, мой ранішні прамень.

*14-15 кастрычніка 2011*

* * *

Лава
абцякла
скалу
і рушыла
далей,
на два
падзеленая языкі.

Зялёная трава,
кузуркі ў ёй, –
зямлі маленькі лапік ля падножжа
шырэе, распасцёрты ўдалеч.
Усё – цвіце наўкол, буяе і сакоча,
пяе – і на зямлі, і над зямлёй,

і над скалой
халоднай, мёртвай.

Інакш –
відзежа:
сонечнае кола
у кропку звузілася,
кропка – знікла.

А лава
абцякла
скалу
і рушыла
далей.

*26 жніўня 2011*

* * *

Выведзены ўзровень нулявы
і цокальны паверх з травой нароўні
з бетонных пліт навокал агароджа

і мы ўнутры з табой.
На двух ражончыках над вогнішчам мы смажым
там сала й хлеб і на вуголле тлушч спадае
буйнымі кроплямі й шыпіць на ім нядоўга.
І снег на ўсім які ёсць толькі снег
ні больш ні менш чым снег і ён не скажа
як я ці ты
“я ёсць не я а хто стаіць за мной”.
І вось тады
узважыць хвалю сэрца зможа Бог
на вагах тых (яны не для святых)
далей – медбрат
абгрызеным алоўкам нам цыдулку
накрэмзае і прачытае кожны з нас
групу невядомую крыві.
І вось тады захочаш ты захочаш
мяне ўпусціць
у дзверы ўнізе жывата о дзякуй не
не першы я і нават не другі
і быць апошнім хочацца не надта
каб Мёртвым бачным на далонях
вуснах
час прамінулы выступіць не змог.
Лепш паглядзі як снег
адмерыць мерай
сваёю незаслужанае нам.

< ... >

* * *

За рысай рыфмы чалавечы рым,
Як баягуз, гандлюецца з Нічым.
Яно з кішэняў рук не дастае,
Пярсцёнкі іншых лічыць за свае.
Скрозь зубы цэдзіць слоўцы не для ўсіх.
А рым стаіць, а рым зусім прыціх,
І, вусны затуляючы рукой,
Ён прапануе: “Праўду за Спакой”.

А спелы плод з ушчэнт гнілой галіны,
А той каўчэг, які збудуе Ной,
Канюшні Аўгія, – ніхто не вінны
Прад ім ні ў чым, але прыйшоў герой
Ачысціць іх ад гною, – твой

Інакшы выбар? ...Ды марудзіў штось
Рым чалавечы: прэнт? зямная вось?

*2012*

* * *

Нешта рабі, Раввi,
Але – не стой і маўчы.
Мы бачым – Ты перад намі
І сціснутыя ключы
Ад замкоў, а дзверы – замкнёны.
Вярні нам нашы імёны.
З вухам адсечаным раб
І – каралева Маб,
Ды многа іншых палонных
Часу й жыцця ядваб.
Усе мы – вось тут! Што доўжыш?
Ты хочаш, каб нас магніт
Хвіліны прыцягваў кожнай,
Як на спінах валовых вошай
Гарачы і мутны Ніл?
Збаў Ты нас ад такога.
Скажы нам, што дараваў.
Не вартыя? Дык Ліхога
Прышлі для апошніх спраў.

*6 верасня 2011*

* * *

Гасподзь адводзіць вільгаць ад карэння
Смяротнага і плыткага ўва мне.
Гасподзь прасіў: “Не бойся ў сутарэнні
Крыж вугалем пакінуць на сцяне”.
Ды знаю, што жыву я з ласкі Божай
І Ён маёй рукой мне дапаможа.

Каб – не “навошта ўсё”, а ўсё-ткі – дзякуй.
Змяёю быў я, злым я быў сабакам,
Які кусаў ласкавую руку,
Хоць не яна давала поўху шчанюку.
Ды не жадаю я абноўленую скуру
І цела новае, – Хрыстос на лодцы ў буру

Каб быў са мной: і будзе, будзе так.

*14 ліпеня 2012, Берасце*

* * *

*Юрыю Шаўчуку*

Я знаю смерць – яна саплівым дзецям
З ініцыяламі насоўку падае,

Цыруе штонікі падлеткам. Неапетым
Нікому не застацца без яе.

Мы дзюбай выб’ем корак у шпакоўні, –
Якісь гарэза ім адтуліну заткнуў.
Нічога мы не знаем, толькі – помнім:
Свет – ёсць. Ён не памёр – і не заснуў.

*17 жніўня 2012*

### ПАЭЗІЯ-2

Не, я не хацеў такога, як ёсць.
Неяк яно само.
Хлебам счарсцвелым частую,
астылай гарбатай
г а с ц е й.

Чытаю,
як быццам на памяць, верш,
які толькі прыйшоў, адразу,
не ведаючы з радка, што падступае,
ні слова наперад.

Няўжо так, як ёсць,
павінна быць? –
нібыта сабака, што ловіць
зубамі блыху, прыціскаючы
лапай да снегу зайца
з перакушанай шыяй,
замру,
выцягваю галаву: лаўлю ў паветры
змяшаныя

чысціню і смурод.

*2009*

* * *

У паркавых шатах
Гнёздам утульней.
Ды амаль што наверсе
Камяніц гарадскіх
Вырастае малеча
Цікаўнейшая
Ды храбрэйшая

Удвая за астатніх.

*30 чэрвеня 2011*

## *АЛЕСЬ РАЗАНАЎ*

Каб золата Кашчэева забраць,
Самім сабой гаціць патрэбна гаць.
Камусьці ж будзе трэба твой цвінтар,
Калі ты здольны не адпрэчыць дар.
Сябе – на цэціву, нібы стралу.
Зямлю ўяві, падобную сталу,
Што пад табой імкліва адляціць.
Але душа папросіць есці й піць.
Ды скіне жолуд камячок руды –
Ваверчаня – дзе пасвяцца гады.
Што з тых навінаў? Проста перастань
Ступаць, дзе цвёрда, – і туды, дзе твань.
Ляці стралой! Працятая імгла
Нікога шчэ адолець не змагла.

*22 жніўня 2012*

## * * *

са столі звісае ўніз павучок
а хтосьці ўключае сіні агеньчык фаеркі
брат мой!
хай табе пашанцуе ўпасці
міма агню

а вас – якія стаяць і глядзяць –
ненавіджу

< ... >

## *УРЫВАК*

...Ты зразумей, што неба для зямлі –
Дарунак на дзіравым караблі!
...Ты зразумей, што птушкі ля магіл
Пяюць не смутак, а вясельны гімн!
...Ты зразумей, што баявой стралой
На качак не палююць, браце мой!

І пад прагнілаю рыпучаю стралой
Начнога крана хоць крыху пастой.

*Кастрычнік 2012*

### *ЭЛЕГІЯ ЗВАРОТУ*

Што, ненатольны – значыць неадольны?
На тым жа месцы камбінат камвольны,
Усё туды ж ідзе тралейбус пяты.
Ты, як заўжды, ні ў чым не вінаваты,
Але – бяжыш, бы хто падмазаў пяты,
Далей адтуль, дзе дом стаіць пракляты.
Ля кронаў Лошыцкага парку – варты.

Дзе ты кахаў – і дзе цябе кахалі,
Нічога лішняга ніколі не пыталі.
Ты не змаўчаў, дзе мусіў бы змаўчаць, –
Тады цябе працягвалі б кахаць.
Але – цана!.. Нічога не адняць,
Але таксама й болей не дадаць
Ні каліва – сказаў, што меў сказаць.

Далей каб жыць, знаходзіцца апора
Назе – стаяць, руцэ – трымацца. Шпора
Параніць бок каня. Адлегласць – хвалі
Хацелі паглынуць, і спрабавалі,
Ды не змаглі. А хто прарос скрозь камень
Дапытлівым наівам першым – знае:
Тады мы ёсць, калі нас не бывае.

*31 жніўня 2012*

### *Post scriptum*

*На дадзены момант пяты тралейбус зняты з гэтага маршрута і на яве там не праходзіць.*

* * *

...А потым ён сышоў. Згарэў, мажліва,
Альбо ўваскрос пад стрэшкай бякла-сініх
Нябёс, дзе Караткевіч грушу апяваў,
Што каля самага Дняпра калісь цвіла.

Ці прыйдзе ён цяпер? Над каласамі
Заўсёды серп, ды з косамі, цапамі, –
На белых світках кроў! – сялян гурма.
Яны – узняліся, паўсталі. Нас – няма.

Калі спадуць замкі й адкрыюцца архівы,
Працяг – о Кніга! – выбавіць з магілы
Мяне, цябе, – замкі зламаць бы сілай! –

Альбо юнак агонь свой перальe, наўзрыд
Далей працягне, што не даказаў Стары?

Адно я знаю – нам не дапаможа
Ні тое, ні другое, як не зможам
Душу трымаць са спінаю прамой.
Алесь Загорскі ля магілы – твой.

*4 верасня 2012*

* * *

Транслэйтар сну для перамешчаных асоб!
Маё нетранспартабельнае цела
На карку цягне малады цыклоп.
Афелія! Чаму заўсёды ў белым?
Ці мае шчырасць хоць адну са спроб?
Сягоння дзень – ён ранішнія перлы
Не разгубіў, не знаў і не бярог, –
Плячо паразам, горб для перамог.

рукамі ворагаў маіх
наставіш мяне
на шлях праўды
калі ў тым будзе
воля Твая

*2012*

* * *

Калі ступілі мы на глыбіню,
“Купі мяне на гэту чысціню”, –
Так ейны твар казаў, казаў, казаў,
Бы нож рукі старонкі разразаў.
І дваццаць шостага кастрычніка злятаў
Той самы снег, што нас не запытаў;
Але ў малітвы многа ўласных спраў.
Хто раз на год сумленне даглядаў,
Той знае гэта. Голас падаваў
Насустрач, – Хто Нікога Не Абраў.
Ім запачаткаваны кожны з нас,
А мы прыдумалі трупярню ды атлас,
Ампір ды іншае. Ідзем, ідзем, ідзем,
То семкі, то марозіва грызем.
Хоць што набытае ці зглумлена? – а н і.

Прыходзяць з доўбняй радасныя дні.

*26 кастрычніка 2012*

* * *

Я ветразі ўзняў – і наперад пайшоў,
Кожны раз мяняючы галс.
Бо насустрач – норд-ост. Я дарогу знайшоў,
Зорны ламаючы наст.

Калі я прычаліў, востраў-скала
Пазнаў мяне ў твар, сказаў:
"На мне не ўзыходзяць ні квет, ні трава,
Бо вольны заўжды ад спраў.
Скуру маю
Не рве барана,
І глыбей не праходзіць плуг.
Я цвёрды, як памяць, чыя віна
Адна, – не помніць разлук".

І мне падалося: смяяўся груган,
Што на камені дзюбу вастрыў.
Я жывы і здаровы, я цэлы ад ран,
Ды сябе я не падарыў.

Ля ахвярніка сына заменіць ягнём
Бог гасподзь, – і адхіліць прымус.
Але ўсё-ткі павінен дым да нябёс
Кроў данесці тваіх спакус.

*22 кастрычніка 2012*

## АБЕРТОНЫ

– Цвілі гарлачыкі, й цяжарная жанчына
У кожным спала. Растлумач,
Увечары – аб чым ты просіш помніць сына,
Звініш, бы радыёпрымач?

– Восень – вечар,
Зіма – ноч,
Вясна – раніца,
Лета – дзень.

І праз усё праходзім
Серпантынам спіралі
Мы,
Адчужаныя ад
Замыкання, –
Гэта табе,
Прамы й пераменны ток.

*4 лістапада 2012*

проза

Алег Аблажэй



...сапраўднае мастацтва –
не што іншае,
як кантраляванае вар'яцтва...

# Русалачка

***Апавяданне***

У Вільні адбывалася нешта незвычайнае – сухі гарачы вецер уздымаў пыл, сек пяском у твар, бы ў якой Сахары.

Увагнуўшы галаву, нізка насунуўшы на лоб бейсболку і прымружыўшы вочы, Ромас шпарка ішоў пакручастым перавулкам. Нечакана ён сутыкнуўся з чымсьці мяккім – расплюшчыў вочы і ўбачыў перад сабой маладую жанчыну, у якой не адразу пазнаў сваю былую аднакурсніцу Раймонду. І не дзіўна – цяпер яна мела куды больш пульхныя аб'ёмы, чым тады, калі вучылася ў мастацкім інстытуце і была падобная да хлопчыка – падлетка. Зрэшты, твар амаль не змяніўся, калі не лічыць выразу ўпэўненасці ў сабе, чаго раней ніколі не было.

Цяпер яна нагадвала паспяховую "бізнэсвумэн", хоць, як неўзабаве вынікла з размовы, займалася толькі жывапісам і якраз спяшалася ва ўласную майстэрню.

Калі скончыліся ўзаемныя охі ды ахі, абмяняліся тэлефонамі. “Антыкварыят збіраеш? – спыталася Раймонда, убачыўшы дапатопную ромасаву “мабілу” з нягеглай чорнай антэнай. – Прыходзь праз пару гадзінаў да мяне ў майстэрню – якраз будуць амаль усе нашы. І будзе сам Жыльвінас Асоціс – ён жа ў нас цяпер геній!”

Ромас паабяцаў прыйсці, і на гэтым развіталіся.

Ідучы далей, ён намагаўся падлічыць, колькі ж часу ён не бачыў Раймонду? Выходзіла – гадоў дзесяць, а мо й болей...

У іхняй групе Раймонда была адной з самых здольных, аднак яе пастаянна мучыла незадаволенасць сабою, – яна вечна перарабляла і дасканаліла свае малюнкі і эцюды, часта беспаваротна псуючы зробленае, і з гэтай прычыны мела хранічныя канфлікты з выкладчыкамі.

Аднаго разу Ромаса паклікала да тэлефона цётка, у якой ён жыў. Тэлефанавала Раймонда – роспачным голасам яна прасіла зайсці да яе і паправіць малюнак, бо заўтра прагляд, а ў яе нічога не атрымліваецца. Што было рабіць, не пакідаць жа чалавека ў бядзе, і Ромас, хоць з незадаволенай ухмылкай, але пайшоў.

Раймонда сядзела перад мальбертам у цесным пакойчыку, які наймала ў нейкай бабці, і на твары яе была такая роспач, бы ад малюнка, прыколатага да дошкі, залежалі ейныя жыццё і смерць. На ёй быў незашпілены выцвілы халат, з-пад якога віднелася не першай свежасці камбінацыя, чаго даўно ўжо ніхто не насіў. Валасы былі ўскудлачаны, вочы прыпухлыя. Відовішча было малаапетытнае, як, зрэшты, і малюнак, у літаральным сэнсе працёрты да дзір ад бясконцых паправак.

Ромас і са сваім малюнкам намучыўся нямала – натуршчык, азызлы пузаты дзядзька, выклікаў толькі адно жаданне, – адвесці вочы ўбок і забыцца пра ягонае існаванне. Што рабіць, такі быў увесь “кантынгент” мадэляў, якія за нэндзны заробак пагаджаліся пазіраваць студэнтам, – выпетраныя або, наадварот, разлезлыя дзядзькі, спітыя жанчыны з адвіслымі цыцкамі...

Сяк-так давёўшы да ладу малюнак Раймонды, Ромас хуценька развітаўся, адмовіўшыся ад кавы, і ўцёк дахаты. Баяўся патрапіць у двухсэнсоўную сітуацыю. Дарэмна, думаў ён цяпер, прыгадваючы той эпізод, – Раймонда была тады такой знясіленай, што ёй было не да эратычных гульняў.

Ягоныя думкі перарваў рэзкі званок уласнага мабільніка – Раймонда прасіла: “Вазьмі па дарозе штось да гарбаты, а то “бухла” нанеслі, а больш нічога й няма!”

Ромас скіраваў крокі ў бок супермаркета, якія навыперадкі сталі будавацца ў Вільні. У кандытарскім аддзеле Ромас доўга прыглядваўся да розных булак, тартоў, печыва – салодкага ён не любіў, да таго ж, у кішэні было пуставата. Урэшце спыніў позірк на нязвыклым, бы вялізны абаранак, згорнуты з танюсенькіх слаёў амаль празрыстага цеста, пірагу, балазе і цана на бляклым цэтліку была невялікай – усяго 1.80 лт.

Нарэшце падыйшла ягоная чарга да касы. Касірка, маладая дзяўчына, наблізіла цэтлік да апарата, які, коратка піскнуўшы, імгненна выбіў цану – 18 лт. “А...” – пачаў было Ромас.

“Васямнаццаць літаў!” – вымавіла касірка. Ромас меў у кашальку толькі дзясятку. Адчуўшы, што пакутліва чырванее, пачаў выграбаць з кішэняў дробныя манеты, жоўтыя і белыя цэнты.

Касірка цярпліва лічыла, гэтак жа моўчкі чакала ззаду чарга. На шчасце, хапіла, і Ромас, з палёгкай уздыхнуўшы, пайшоў сваёй дарогай.

Да майстэрні Раймонды было далекавата, і, пакуль Ромас дабраўся, усе ўжо былі ў зборы. Ромасу спешна падставілі крэсла, усунулі ў руку шклянку з тоўстым дном, у якой плюхалася пахнючая вадкасць і кубік лёду.

Усе слухалі светлавалосага мажнога чалавека з модным трохдзённым шчаціннем на ружовым твары. Гэта і быў славуты Жыльвінас Асоціс, які калісь вучыўся разам з імі, то некуды знікаючы, то з'яўляючыся зноў. Цяпер жа, паводле чутак, рабіў ашаламляльную кар'еру на Захадзе.

– Нездарма мастацтва называлі “аплявухай грамадскаму густу”, – упэўненым голасам прамаўляў Асоціс. – Мастацтва ёсць адмаўленне ўсіх і ўсялякіх табу і забаронаў. Калі яно не абурае, не выклікае пратэстаў у натоўпу, то гэта не мастацтва ўвогуле, а занятак для паненак з “института благородных девиц”! Сапраўднае мастацтва – не што іншае, як кантраляванае вар'яцтва!

Ніхто не пярэчыў. Ромас прыглядаўся да прамоўцы. Час змяніў Асоціса не менш, чым Раймонду – з шустрага хлопчыка, які не мог уседзець на месцы, зрабіўся салідны мэтр, у прадумана працёртых джынсах, фірмовай майцы. Уся поза, паводзіны, рухі сведчылі, што гэты чалавек ведае сабе цану і цвёрда стаіць на нагах.

– Розныя партрэцікі, краявідзікі ды ўвогуле жывапіс, – працягваў Асоціс, – гэта безнадзейная старызна, якая не прамаўляе да сучаснага чалавека. Цяпер – час сінтэзу, эпоха новых сродкаў выразу, адпаведных нашаму часу, у рэшце рэшт, XX стагоддзе хутка скончыцца, наступіць новае, XXI-ае, сябры!

Далей Асоціс апавядаў пра свой найноўшы праект, які меў назву “Попел вандраванняў”. Сутнасць яго была такая – Жыльвінас будзе вандраваць па многіх краінах свету, рабіць здымкі славутых месцаў, а потым, вярнуўшыся ў Вільню, урачыста іх спаліць, а попел развее з самалёта над горадам.

Сустрэча працягвалася яшчэ досыць доўга. У пэўны момант Жыльвінас Асоціс падсеў да Ромаса, шчодра плюхнуў яму ў шклянку з канцыстай бутэлькі.

– Ну што, Ромка, усё свае акварэлі малюеш? – І, не чакаючы адказу, працягваў. – Слухай, добра, што ты прыйшоў: тут для цябе халтурка ёсць адна. Ты ж, здаецца, і кнігі ілюструеш? Так? Вось і цудоўна – тут адны цёткі задумалі выдаваць Андэрсэна, звярнуліся да мяне, а я, як бачыш, іншымі справамі займаюся. А табе лішняя капейка не пашкодзіць. Згода? Ну вось і цудоўна, трымай іхнюю візітоўку. Далекавата, недзе ў Сантарышках, але знойдзеш.

І памкнуўся ўставаць. Але Ромас затрымаў яго. У галаве шумела ад выпітага, язык быў непаслухмяны, але ён выціснуў пытанне:

– Слухай, Жыльвінас, вось гэты спонсар, што фінансуе твой праект... Якая яму з гэтага карысць? Што яму з развеянага попелу? А грошы, я так разумею, немалыя!..

На твары Асоціса з'явілася паблажлівая ўсмешка.

– Я, можа, не буду раскрываць усе механізмы, залішне складана. Але павер мне – карысць ён будзе мець, і немалую! Такія людзі грошай на вецер не кідаюць!

Паляпаў Ромаса па плячы і адыйшоў.

***

– А вы иллюстратор, да? Как замечательно! Извините, что мы не

говорим по-литовски! – радасна затараторыла пульхная кабета сярэдніх гадоў. Побач была іншая, гэткіх жа самых формаў, толькі цемнавалосая. – А мы вот, понимаете, ресторанчик хотим здесь открыть, но пока завезем оборудование, мебель, решили издательским делом заняться. А что время терять, и так, говорят, в двухтысячном году конец света будет!

З далейшай размовы вынікала, што яны хочуць выдаць “Русалачку” Андэрсэна “как можно быстрей и как можно красивей”.

Ромас з усім пагадзіўся – і са сціслымі тэрмінамі, і з куртатым ганарарам, выбіраць не было з чаго. І так ужо жыў на пазычаныя грошы.

“Як добра, што мы з Рытай не пасьпяшаліся завесці дзяцей”, – часта думаў Ромас. Пра сваё няўдалае сямейнае жыццё ён цяпер успамінаў усё менш. Пажар пачуццяў, які прывёў іх да алтара, згас нечакана хутка, і ўжо праз год кожны з іх задаваў сабе пытанне – навошта я жыву з гэтым чужым мне чалавекам? Так цягнулася да таго моманту, пакуль у адной з бясконцых сварак Рыта не папракнула Ромаса, што ён ажаніўся з ёю толькі дзеля кватэры. Ромас увесь сцяўся, як ад удару, настолькі гэта было несправядліва. Нічога не сказаў, але на другі дзень, пакуль Рыта была на працы, выклікаў грузавую таксоўку і перавёз усе свае рэчы ва ўласную майстэрню, пакінуўшы кароткую запіску. Развяліся хутка і без шкадобы. Потым Ромас чуў, што Рыта зноў выйшла замуж, мае дзіця і задаволена новым мужам.

Становішча Ромаса цяжка было назваць шчаслівым, але ён быў не з тых, што скардзяцца на жыццё ўсім сустрэчным-папярэчным. Майстэрня ягоная месцілася ў былым бамбасховішчы, пад старым, яшчэ сталінскім домам. Дасталася яна яму толькі таму, што ніхто не ведаў, як гэтыя лёхі выкарыстаць. Нейкая фірма нават хацела там вырошчваць шампіньёны, але хутка змяніла планы, і Ромаса ніхто не трывожыў – дый плаціў ён толькі за камунальныя паслугі, ну, і час ад часу паіў каменданта дома, зрэшты, напіваючыся разам з ім у той жа майстэрні.

Вядома, там не было ніводнага вакна, але Ромас усталяваў сістэму розных лямпаў, набыў тапчан, стол, мальберт, – жыццё сяк-так наладзілася. А неўзабаве яму і праўда пашанцавала – уласніца кавярні, дзе ён выстаўляў свае акварэлі, так іх упадабала, што набыла адразу ўсе. Ромас аж разгубіўся ад такіх вялікіх для яго грошай. І тут ягоная цётка прапанавала купіць у яе ж садовую дзялку з невялічкім дамком непадалёк ад Вільні, – сама яна ўжо старая займацца агародам, а дзеці і ўнукі і глядзець у той бок не хочуць. Такім чынам, нечакана для самога сябе Ромас стаў уласнікам лапіка зямлі з некалькімі старымі яблынямі і замшэлымі кустамі парэчак. Сябры былі ў захапленні і часта збіраліся ў яго на шашлыкі. Зімой рабілася горш – домік быў залішне марны, каб жыць у ім у маразы. Даводзілася вяртацца ў падзямелле, у горад. Як ні дзіўна, у гэтым цесным і нізкім памяшканні Ромасу цудоўна працавалася.

Часам, набыўшы ежы ў запас, ён па некалькі дзён не выходзіў на паверхню, бы крот. Маляваў, слухаў сваю любімую музыку або проста думаў. Нішто не перашкаджала, не адцягвала ўвагі. Можа, гэта і было ягонае сціплае шчасце?..

Ромас любіў акварэль – капрызлівыя пераліўы празрыстых фарбаў на беласнежнай паперы. Яму запомніліся словы аднаго калегі з Беларусі – “З акварэллю трэба абыходзіцца, як з жанчынай, – далікатна, але рашуча!” Нават хацеў іх напісаць вялікімі літарамі ды павесіць над рабочым ста-

лом, ды ўсё рукі не даходзілі. Жыццё, між тым, мянялася, за выставы ў прыватных галерэях трэба было плаціць немалыя грошы, якіх Ромас больш ніколі не меў. Усімі іншымі пляцоўкамі завалодала іншае мастацтва, якое сябе звала "сучасным", і дзе як рыба ў вадзе вольна пачуваў сябе Жыльвінас Асоціс.

І Ромас усё больш і больш замыкаўся ў сабе, паступова траціў кантакты нават з сябрамі, не гаворачы ўжо пра жанчын. "Ты зусім здзічэў!" – казалі яму. А ён толькі сарамліва ўсміхаўся ды думаў толькі пра свае творы. Новыя акварэлі нараджаліся амаль заўсёды нечакана для яго самога – як бы яго падхоплівала нейкая нябачная хваля, і тады атрымлівалася ўсё: рука была цвёрдай і ўпэўненай, фарба, заўсёды такая наравістая і непрадказальная, быццам сама клалася ў патрэбныя месцы. Часам было цяжка паверыць потым, што менавіта ён стварыў штось такое.

На жаль, такіх твораў было надзвычай мала. Ромас трымаў іх у асаблівай папцы – каб пераглядзець іх у цяжкія, роспачныя моманты, калі здавалася, што ён ужо нічога больш не дасягне, калі прыгнятала пачуццё ўласнай нікчэмнасці і няздарнасці. А тыя нешматлікія малюнкі сведчылі – не, ты не такі, ты здольны да нязвыклага палёту, проста трэба перачакаць, пераадолець чорную паласу. Ромас не паказваў гэтыя творы нават калекцыянерам – яны адразу ж кідаліся з прапановай іх купіць, а напаткаўшы адмову, не хацелі ніякіх іншых. А ён даражыў імі, як Кашчэй сваім яйкам з сакрэтам несмяротнасці.

Тым не менш, ён набыў сякую-такую вядомасць у колах аматараў мастацтва, і час ад часу нешта прадавалася. Да таго ж, сяды-тады ён браўся за ілюстраванне дзіцячых кніжак, і ўсё гэта давала магчымасць прынамсі не памерці з голаду.

Так ён і жыў – ціха і незаўважна. Ніякіх пераменаў не прадбачылася.

***

Да працы над "Русалачкай" Ромас прыступіў з вялікім запалам – не толькі з-за грошай, невялікіх, як ужо было заўважана. Але гэта ўрэшце была не проста "халтура", а такая ж творчасць, як і ўласныя акварэлі. І Ромас стараўся. Казку Андэрсэна ён вывучыў ледзь не на памяць, прадумваў усе дэталі. Нечакана ўзнікла непрадбачаная цяжкасць – ён ніяк не мог уявіць сабе твар Русалачкі. Хацелася нечага незвычайнага, цёплага, а з-пад рукі выходзіла нешта банальнае, сто разоў бачанае. Праца застапарылася. Ромас то сядзеў нерухома ў сваёй майстэрні, то бадзяўся па горадзе, углядаючыся ў твары сустрэчных, – усё дарэмна. І неяк паступова, бы з туману, стаў прыгадвацца канкрэтны вобраз – круглы мілы тварык, прысыпаны лёгкім рабаціннем, – дзе ён мог яго бачыць?

Дык гэта ж касірка з супермаркета! – урэшце мільгнула здагадка. Было часу прыгледзецца, пакуль тая лічыла ягоныя цэнты.

Ромас не мог надзівіцца сам сабе – ён, такі баязлівы ў адносінах з жанчынамі, тым больш з маладымі дзяўчатамі, так нечакана лёгка і напорыста пазнаёміўся з Эміліяй (так звалі касірку), так хутка ўгаварыў яе пазіраваць... Зрэшты, пераконваць не было складана, для дзяўчыны гэта была такая нечаканая прыгода сярод шэрага будзённага жыцця, што яна згадзілася з ахвотай. Ромас, не верачы свайму поспеху, удакладніў, што гэта малюнак да "Русалачкі", а, значыць, трэба пазіраваць аголенай...

– А чаго мне саромецца, я ж не тоўстая, я ўсё разумею, буду для вас, як гэта, во – музай! Для мяне гэта вялікі гонар!

Для поўнага падабенства Ромас раздабыў бліскучай фальгі, захутаў Эміліі ногі і зрабіў русалчын хвост. Ён быў на сёмым небе ад шчасця – гэта быў той вобраз, які няўлоўна лунаў у ягонай свядомасці, але цяпер стаўся рэальным, намацвальным.

Здаецца, ніколі дагэтуль ён не працаваў з такім натхненнем і ўздымам. Эцюды нараджаліся адзін за другім, Эмілія толькі войкала ад захаплення – як жа яна абярэ найлепшы ў якасці ўзнагароды, як было дамоўлена – усе цудоўныя!

Але Ромас быў не зусім задаволены, хоць і сам бачыў, што праца ідзе добра. Хацелася дасягнуць дасканаласці, пераўзысці самога сябе. І ён зноў і зноў заходзіў у супермаркет па Эмілію, і супрацоўніцы з зайздрасцю праводзілі яе позіркам, – яна, вядома ж, усім пахвалілася.

Урэшце, здаецца, Ромас дасягнуў мэты – з ліста паперы глядзела трохі сумная, трохі разгубленая задуменная круглатварая дзяўчына з носікам, прысыпаным рабацiннем. У яе вачах застыла і цікаўнасць да жыцця, і трывога, і каханне. Ромас быў задаволены. Яшчэ адзін, апошні штрышок...

І тут раптоўна згасла святло. Поўная глухая цемра і гэткая ж цішыня. Мабыць, здарылася нейкая аварыя там, наверсе.

– Я... я недзе меў свечкі... – пачаў мармытаць Ромас.

– Не трэба свечак, лепш дапамажы мне пазбавіцца ад хваста!

***

Праца ўрэшце была скончана. Эмілія, папіскваючы ад захаплення, выбрала сабе эскіз, узнагародзіла Ромаса кароткім пацалункам і знікла.

Пра тое, што здарылася паміж імі ў нечаканай і такой гарачай цемры, яна не ўзгадала ні словам.

Эмілія больш не прыходзіла, і Ромас адчуў у сабе пустэчу. Дзяўчына па-ранейшаму стаяла ў ягоных вачах, прыходзіла ў сны, – з хвастом і без хваста, кругліліся маленькія пругкія грудзі... І Ромас зноў скіраваўся ў знаёмы супермаркет. Эмілія з невядомых прычынаў не пагадзілася паведаміць яму нумар свайго тэлефона. Аднак яе не было, мабыць, была не ейная змена. Ромас вырашыў, аднак, зайсці ў залу ды набыць сабе штосьці на абед. Вольных месцаў у камеры захоўвання не было, і Ромас пакінуў заплечнік на сабе. Людзей было поўна, прабіцца да паліцаў было няпроста. Ромаса раз-пораз штурхалі, ён у сваю чаргу на кагосьці натыкаўся і прасіў прабачэння. Сярод натоўпу праходжваліся ахоўнікі з нерухомымі, бы драўлянымі, тварамі. Адзін такі здаравенны ягамосць у чорнай уніформе ледзь размінуўся з Ромасам у вузкім прамежку, запоўненым наведвальнікамі.

Ромас разлічыўся ў касе за свой сціплы набытак і памкнуўся да выхаду, але дарогу яму перагарадзіў той самы бамбіза ахоўнік. “Магу спраўдзіць ваш заплечнік?” І, не чакаючы згоды, зазірнуў туды, балазе той быў незашпілены. “Так, так, радыёпрыёмнік! Чэк маеце?” Ромасу ад нечаканасці заняло дух. “Пройдзем, грамадзянін!” – жалезнай рукой ахоўнік ухапіў Ромаса за локаць. Зрэшты, той ад разгубленасці зусім не супраціўляўся, пакорліва ішоў сярод абыякавай публікі. Было невыносна душна, не хапала паветра. Ахоўнік вёў Ромаса праз нейкія даўгія калідоры паўз адсекі, у якіх сядзелі

працаўнікі крамы. Некаторыя абедалі, паставіўшы талеркі проста на клавіятуру кампутараў. Службовец увапхнуў Ромаса ў цесную бакоўку, пасадзіў на крэсла. Той сядзеў нерухома, як скамянелы, і цяжка дыхаў.

– Та-ак!... Паліцыю выклікаць будзем? – сурова пачаў ахоўнік.

Раптоўна Ромас адчуў, што нешта гарачае капнула яму на майку, потым на штаны. Уваччу паплыў туман, ён паспеў заўважыць, як разгубіўся ахоўнік, і праваліўся ў цемру.

Ачомаўся ён у тым жа катуху, але ўжо на лаўцы і без майкі. Побач разгублена мітусіўся ахоўнік з ягонай акрываўленай адзежынай. Кроў з носу больш не лілася, толькі адчуваліся ўсярэдзіне мярзотныя закарэлыя згусткі. На пераноссі была вільготная сурвэтка.

– Ну як ты?.. Жывы?.. – голас ахоўніка быў ужо зусім іншы, бы не таго самага чалавека. Відаць было, што ён разгубіўся не менш за Ромаса.

Ахоўнік палез у шафку, выцягнуў дзве шклянкі і лінуў у іх з вялікай цёмнай бутэлькі.

– Во, вазьмі, выпі! – працягнуў ён адну Ромасу. – Бля, табе ж, мабыць, нельга, у цябе ж ціск! – але Ромас ужо прагна праглынуў змесціва. У галаве раптоўна пасвятлела, але ён па-ранейшаму нічога не цяміў.

– Ты, гэта... мяне прабач... разумееш, гэта я сам падкінуў табе гэты прыёмнік, – мармытаў ахоўнік. – Мяне Артурас зваць, і мы, гэта, як бы... таго, з Эміліяй, ну, разумееш, – я жаніцца на ёй хачу... а тут ты са сваімі малюнкамі. А хто я – просты выкідала, а ты мастак, вялікі чалавек... вось я і прыдумаў, як адвучыць цябе сюды хадзіць... Вып’еш яшчэ?

***

– Как замечательно! Вы просто пунктуальны – неужели удалось всё сделать точно в срок?

Зноў гаварыла толькі светлавалосая таўстушка, чорная маўчала.

Ромас расклаў малюнкі, яшчэ раз пераканаўшыся, – ён дасягнуў таго, чаго хацеў, і быў перапоўнены гонарам.

Кабеты моўчкі разглядалі ілюстрацыі. Усмешкі паступова сышлі з іхніх твараў.

– Как вас зовут, Ромас, да? Ромочка, милый, но это же не то, не то! Какая же это русалочка? Это же девица с улицы, а та ведь была принцессой, да? Вот вы, например, куклу Барби когда-нибудь видели? Я понимаю, может быть, с точки зрения искусства, это и хорошо, но мы ведь коммерсанты, нам эту книгу продать надо!

– Нет, нет и нет!

***

Ромас сядзеў у паўпустым аўтобусе, прыціскаючы да сябе папку з малюнкамі і тупа гледзячы праз вакно. У галаве было пуста, ляніва скрэблася думка, – як выкруціцца без страчанага заробку. Але нават гэта яго ўжо не хвалявала. Неяк жа будзе. Не першы раз.

На аблупленых дзвярах свайго бамбасховішча Ромас заўважыў прылепленую пластрам згорнутую паперчыну. Гэта была запіска: “Я выходжу замуж і выязджаю з Вільні. Не шукай мяне. Эмілія. Ты быў цудоўны!”

Ромас перачытаў гэтыя словы некалькі разоў, потым выбраў мабільнік і выстукаў нумар Раймонды. Праз якую гадзіну ён ужо быў каля дзвярэй яе майстэрні. У руках была ўсё тая ж папка і белы пакет з бутэльчынай.

Раймонда мела ўрачысты выгляд – у доўгай, да падлогі, квяцістай сукенцы максі яна выглядала нашмат страйнейшай, чым тады, у завулку.

– Нешта здарылася? – кінуўшы позірк на твар Ромаса, спытала Раймонда.

У некалькіх словах Ромас растлумачыў.

– Паказаць можаш?

Раймонда ўважліва і сур'ёзна разглядала малюнкі. Доўга прыглядалася моўчкі.

– Ну, Ромка, ты даеш! Нават параўнаць няма з чым! Твая русалачка, яна... яна проста – жывая! Ведаю, прафесіяналы так не гавораць, але ж іншага слова не падабраць!

І Раймонда нечакана, як дзяўчынка, гучна чмокнула Ромаса ў шчаку.

– Я ніколі не мог зразумець, – гаварыў Ромас, калі яны ўжо прыселі да нізенькага стала і зрабілі па глытку чырвонага віна, – чаму людзі так варожа сустракаюць новую прыгажосць? Што там я – амаль усе вялікія майстры сутыкаліся з гэтым, ад Рэмбрандта да Уістлера. У чым небяспека прыгажосці? Бо калі б не чулася ніякай пагрозы, ці ж бы так сустракалі новыя яе формы? Але ў чым пагроза? Здавалася б, толькі радавацца трэба, калі яе, прыгажосці, стала больш?

– Мне здаецца, прычын многа, – задуменна адказвала Раймонда. – Новая форма прыгажосці ўносіць непакой, нешта разбурае, а людзі гэтага падсвядома баяцца. Увогуле, так званыя "масы" інертныя, яны імкнуцца да стабільнасці, ім утульна ў звыклым, будзённым, шэрым. Я ж на сабе гэта адчуваю – чым лепш я выглядаю і чым больш выдзяляюся з натоўпу, тым больш адчуваю на сабе касых позіркаў. Захапленне і зайздрасць нездарма пачынаюцца з той самай літары. Пагэтаму большасць намагаецца ўсё жыццё быць "як усе", шэрымі мышамі. Але ж гэта шлях не для нас, ці ж не так? Толькі за іншы трэба плаціць – вось табе сёння гэта зрабіць і давялося...

– Зразумець гэта можна, а вось прымірыцца цяжка. А з іншага боку, калі знарок ламаць стэрэатыпы, раздаваць направа і налева аплявухі традыцыйным густам, – ці гэта выйсце? Апошнім часам я шмат пра гэта думаю. Мне прыйшло ў галаву такое параўнанне – мастак, бы Калумб, – ён адкрывае Амерыку, новы кантынент, але шукаючы Індыю...

Разбурае стэрэатыпы, сам гэтага не ўсведамляючы, бо кіруецца да свайго ідэалу. Рэвалюцыя, вэрхал, скандал не могуць быць мэтай мастацтва. Як бы наш Жыльвінас не даказваў адваротнае. Дарэчы, як ён маецца?

– О, наш Жыльвінукас узлятае ўсё вышэй і вышэй! Ты што, зусім нічога не чуеш і не бачыш са свайго падзямелля? Яго ж вылучылі на Нацыянальную прэмію Літвы! Асабліва апошні праект нарабіў шуму!

– А, "Попел вандраванняў"?

– Які "попел", той даўно развеяны і забыты. Не, на гэты раз Жыльвінас зрабіў у Парыжы такую выставу – былі паказаны адна побач з другой фатаграфіі людзей, якія скончылі жыццё самагубствам – адна прыжыццёвая, другая ў пятлі ці ў ванне з крывёю... А пасярод залы, у шкляным саркафагу, ляжала аголеная дзяўчына пад наркозам, як мёртвая. І называлася ўсё "Сімфонія "Танатос". Асаблівы скандал узнік пасля таго, як адна з дзевак (яны мяняліся) ледзь не выпруцілася ад перадазіроўкі наркозу. Здаецца, быў суд, але гэта толькі дадало Асоцісу папулярнасці. У ягоную абарону выступіла сама Марына Абрамовіч, якая назвала яго

адным з найцікавейшых мастакоў сучаснасці, адбываліся пікеты ў абарону свабоды творчасці... Словам, Асоціс у чарговы раз выйшаў сухім з вады, і не проста цэлым, а, як кажуць, з рыбай у зубах!

Раймонда паставіла на столік новую бутэльку замест апусцелай.

– Ну, а ты як жывеш? Я ж нічога пра цябе не ведаю! – спытаў Ромас.

– А ў мяне якраз усё банальна, сярэднестатыстычна. Была замужам, цяпер адна, маю дачку. “Як усе”, амаль.

– У мяне падобная гісторыя, толькі размножыцца мы не паспелі, разбегліся занадта хутка. І, ведаеш, з часам я прыходжу да высновы, што ў такіх рэчах нікога не трэба вінаваціць, шукаць нейкай прычыны. Пачуцці – амаль фізіялогія, нараджаюцца і знікаюць без нашай волі. А тыя, што жывуць дзесяцігоддзямі разам, – яны або прыцярпеліся, прызвычаіліся, або... або ім страшэнна пашанцавала. Зрэшты, мы ўсе любім гаварыць такія фразы: вы – “усе мужыкі казлы”, мы – “усе жанчыны...” – сама ведаеш, хто.

Але недзе там, у самым-самым патаемным закутку душы кожны з нас спадзяецца сустрэць таго ці тую “сапраўдных”, назаўсёды. А, можа, я памыляюся, і не ўсе гэтага хочуць?

– Я дзесьці згодна з тваімі разважаннямі пра натуральную смерць пачуццяў – толькі ад гэтага не весялей.

Памаўчалі. Кожны думаў пра сваё.

– Так, гэта праўда, пачуцці астылі, – парушыла маўчанне Раймонда. – Але мой знайшоў іншую зачэпку – я, маўляў, не буду жыць з такой бочкай! А што я магла зрабіць, у нашай радні ўсе кабеты такія – я ж раней была, як хлопчык, думала, мяне пранясе, а як нарадзіла... Але няўжо я такая тоўстая?

Ромасу ўжо зусім так не здавалася – ці то ад выпітага, ці з другой прычыны, але постаць Раймонды здавалася яму зусім прывабнай. Наогул, яму зрабілася незвычайна ўтульна і спакойна. Усе змрочныя думкі, што ціснулі галаву яшчэ гадзіну таму, некуды зніклі, бы выпарыліся. Ён сядзеў, адкінуўшыся ў крэсьле, прыгубліваў віно і ўсміхаўся. “Мабыць, я маю ідыёцкі выгляд, – прамільгнула думка, – ну і няхай.”

– Памятаеш, як ты прыходзіў да мяне правіць малюнак? Калі ты выйшаў, я паглядзела на сябе ў люстра як бы чужымі вачыма і жахнулася – божа, якое чмо! Як так можна?

І дала сабе зарок – ніколі, ніколі больш так не апускацца! Цела можа быць, якое ёсць, але “упакоўка”... І, ведаеш, мае справы пасля гэтага палепшыліся, пачалі прадавацца творы... І дагэтуль, пастукаўшы па немаляваным, каб не сурочыць, – Раймонда, не знайшоўшы адпаведнай паверхні, стукнула сябе па гладкім пукатым ілбе. – То цяпер і маю за што набыць любы “Трыумф”! Хочаш паглядзець, што на мне цяпер?

– Хачу! – адказаў Ромас.

***

Яны ляжалі побач моўчкі. На стале мігацеў водбліск ад вулічнага ліхтара.

– Але ж ты... і шалёны! – перарвала маўчанне Раймонда. – Згаладаўся, бедненькі, у сваім падзямеллі, – пагладзіла руку Ромаса. – Зрэшты, я ж табе падабалася яшчэ ў студэнцкія часы, ці не так?

– Але я не...

– Мы, жанчыны, гэта адчуваем і так... Можа, якія флюіды, хвалі? Шостым пачуццём?

– А вось я з твайго боку ніякіх флюідаў не адчуваў, наадварот, ты была заўсёды, бы ў якой капсуле, за шклом...

– Так, гэта праўда. Я тады ні да кога не гарнулася – марыла толькі быць вялікай мастачкай, смешна ўзгадваць...

Зноў запанавала маўчанне.

– Ведаеш, – ціха прамовіла Раймонда. – Усё праўда, што мы гаварылі перад гэтым, пра фізіялогію, пра смерць пачуццяў... Але мне так добра цяпер, і хочацца, каб гэта ноч не канчалася... А што будзе потым, давай пра гэта не будзем думаць, добра?..

***

Ромас злавіў сябе на тым, што яму не хочацца вяртацца ў свае лёхі. Паехаў у свой занядбаны домік, пазграбаў пажоўклыя лісці, сабраў яблыкі, паліў у грубцы, і думаў, думаў.

Ён адчуваў, што ў ягоным жыцці нешта беспаваротна скончылася, і адначасна і цешыўся і пабойваўся гэтых пераменаў. “Як крот, што вылез на паверхню”, – здзекліва думаў пра сябе.

Раймонды не было ў горадзе – паехала ў Панявежыс забіраць ад бацькоў сваю малую. Ромас увесь час намерваўся патэлефанаваць, але застываў з апаратам у руках – не знаходзіў адпаведных словаў.

Раймонда пазваніла сама.

– Ты куды прапаў? – як ні ў чым ні бывала, шчабятала ў трубку. – Прыходзь сёння вечарам, зноў зборышча, зноў сустракаемся з нашым геніем!

Ромаса ўзрадавала, што ён можа пабачыць Раймонду, але не быць з ёю сам-на сам, – адчуваў перад ёю нейкую неакрэсленую віну, хоць не разумеў, у чым.

І зноў ён прыйшоў, калі кампанія была ў зборы. Раймонда паводзіла сябе, як звычайна, але ўсё ж Ромас зразумеў з яе позірку, што менавіта ён цяпер тут асаблівы госць, хоць гэта і павінна застацца ў сакрэце.

Ромаса ўразіла на гэты раз не “еўрапейскасць” Жыльвінаса Асоціса, а ягоная сяброўка. Цяжка было паверыць, што такія існуюць увогуле – дзяўчына з досыць мілавідным тварам была такой неверагоднай таўшчыні, што займала сабой ледзь не ўсю канапу. Цяжка было зразумець выбар Жыльвінаса, вядомага лавеласа, каля якога заўсёды былі паненкі часопісна-вокладачнага выгляду.

Таямніца неўзабаве высветлілася.

– Сябры! – урачыста пачаў Жыльвінас. – Вы ведаеце, як у наш час цяжка зрабіць штосьці новае, нябачанае, звярнуць на сябе ўвагу. Вялікі Эндзі Ўорхал казаў, што ўсе будуць мець магчымасць атрымаць свае пятнаццаць хвілінаў славы. Але ж гэтага мала, мне, ва ўсякім разе! Слава павінна быць магутнай, як цунамі, ламаць усе бар’еры, усе перашкоды! А для гэтага трэба зрабіць нешта такое, што пераверне дагары нагамі ўсе ранейшыя ўяўленні пра мараль, дабро і зло, прыстойнасць, прыгажосць і брыдоту!

І я паспрабую гэтага дамагчыся сваім наступным праектам! Як вядома, неўзабаве я буду рабіць выставу ў Лондане, у галерэі Чарльза Саатчы – хіба што вам не трэба тлумачыць, хто гэта такі.

Праект мае назву “Зняволеная прыгажосць”. Я ўжо знайшоў дванаццаць жанчын, трынаццатая перад вамі – воплескі Інэсе! Тым больш, што яе роля няпростая. Яна будзе галюсенькая распята на крыжы пасярод залы. Ужо зроблены салідны дубовы крыж, Інэса, як бачыце, не Дзюймовачка! А астатнія будуць побач прывязаны хто да металічнага ложка, хто да крэсла, хто да драўляных казлоў. І гэта будуць не нейкія там топ-мадэлі, не! Старыя, або зацяганыя і спітыя бамжыхі – гарбатыя, некаторыя бязногія ці аднавокія.

Вядома ж, таксама голыя, як бізун. А пад крыжам... пад крыжам буду сядзець я і мастурбаваць!

Ніхто не змог сказаць ні слова.

– Крута, праўда? Скандал будзе на ўвесь свет – абурацца святошы, розныя гуманісты і феміністкі, уся гэта добрапарадачная кодла! Думаю, зноў не абыйдзецца без суда, але я ўжо маю добрых адвакатаў. То давайце ж вып’ем за поспех, за сапраўднае, сапраўды актуальнае мастацтва!

І Асоціс урачыста ўзняў шклянку і паспрабаваў аблапіць сваю неабдымную сяброўку.

Аднак усе адчувалі сябе неяк няёмка, і толькі пасля некалькіх чарак загаманілі, зашумелі.

– Я павінна сёння вярнуцца дахаты... – у адказ на запытальны позірк Ромаса шапнула Раймонда. – На жаль...

Разыходзіліся позна.

Асоціс пасадзіў сваю шматпудовую сяброўку на таксоўку, а сам нечакана падыйшоў да Ромаса і прапанаваў зайсці яшчэ кудысь на піва.

Ромас не меў на гэта аніякага жадання, але адчуў – Жыльвінас запрашае не проста так. Тым больш, што Ромас ніколі не ўваходзіў у кола Асоцісавых прыхільнікаў, а тым больш сяброў.

Знайсці адпаведную ўстанову ў такі позні час у Вільні было нескладана.

– Я буду гаварыць проста з моста. Думаю, ты адчуў, што я запрасіў цябе не проста папляткарыць, – ва ўпор гледзячы на Ромаса сваімі вадзяністымі вачыма, пачаў Асоціс. – Дзела ёсць, і сур’ёзнае. Так бы мовіць, прапанова, ад якой цяжка адмовіцца. На Захадзе здзівіць чым-небудзь публіку надзвычай цяжка – яна бачыла літаральна ўсё, да ўсяго прызвычаілася. Гэта нашы во аслупянелі ад маёй задумкі, а там... кінуць позірк і пойдуць далей. А трэба, каб усё шумела, крыкі, пагрозы, эмоцыі! Я першапачаткова меў яшчэ лепшую ідэю – там, на крыжы, голай, мела быць мая маці, – ды старая нізавошта не згадзілася. Ведаеш, савецкае выхаванне, не ўязджае ў тэму! Во тады то быў бы розгалас, але... Значыць, патрэбен нейкі іншы ход, – каб грымелі, захліпаліся ўсе СМІ! Тым больш, што знайшоўся новы мецэнат, кароль фармацэўтыкі, мільярдэр Фулер, – і заснаваў сваю прэмію. Ведаеш, колькі? Мільён, і не якіхсьці там амерыканскіх рублёў, а важкіх англійскіх фунтаў! І я павінен гэту прэмію атрымаць. І атрымаю! Калі ты мне дапаможаш.

– Што я павінен зрабіць? – нягнуткім языком прамовіў Ромас. Галава была нібыта напхана ватай, і ён дзівіўся, што яшчэ разумее ўсё, што гаворыць Жыльвінас.

– Слухай уважліва. Калі ўсё будзе ОК, чвэрць фулераўскага бабла будзе твая. Ты павінен прыйсці на выставу з каністрай бензіну ці якога спірту, абліць гэтых прывязаных бабздыраў, мяне, і з крыкам “Я пратэстую”

намагацца нас падпаліць. Вядома ж, ахова цябе тут жа скруціць – будзе суд, але цябе абароняць адвакаты, і ідэя, што гэта была твая мастацкая канцэпцыя, творчы жэст. Асудзіць цябе – значыць затыкаць рот вольнаму мастацтву, на Захадзе гэта непрымальна. Такім чынам ты не толькі не пацерпіш, а станеш вядомым, пазнавальным, зацікавяцца тваёй творчасцю, тваёй асобай! Ты станеш зоркай, у цябе будуць браць інтэрв'ю, прасіць аўтографы! А то сядзіш тут у сваёй нары, як...

Ромас адчуў, як да горла падступае агідны камяк. Моўчкі ўстаў, адсунуў непачаты бакал піва, не развітваючыся выйшаў з бара і не досыць пэўным, але хуткім крокам пашыбаваў прэч. Ён чуў, што Жыльвінас нешта крычаў услед, але не мог разабраць што.

Дабраўшыся да свайго падземнага прыстанішча, Ромас упаў, не распранаючыся, на тапчан і заснуў мёртвым і цяжкім, як гліна, сном.

*2012*



Юрась Шамецька



...Паэзія –

гэта як выйгрыш у казіно...

# Шукаем шчасця, як маленства...

## *ЗАХОД*

Сталіца... Снежань за вакном...
Цямнее рана...
Якога колеру вада
ракі Атава?
Заход сустрэнем, нібы сон
непрадказальны,
дзе сонца ўскалыхне прастор
невычарпальны.
І ў разнастайнасці шляхоў
мы будзем разам –
шукаць, не лічачы вякоў,
што нам падкажуць,
што там далей... А дзён старых
безвыніковасць
не зломіць шчасця на дваіх
невыпадковасць...

І заставацца у жыцці
не так складана,
бо нам с табой святло яго
наканавана...

### *ЧЫТАЮЧЫ ЧЭСЛАВА МІЛАША*

Чытаю Чэслава Мілаша
ў перакладзе Хадановіча
ў “Дзеяслове”...
Гэта як апынуцца ў горадзе,
які без запросінаў
і папярэдніх умоваў
аднойчы прыходзіць да цябе...
А ты думаў, што з’ехаў з яго назаўсёды...
Але вось ён вітаецца
і проста заходзіць
без пошукаў пэўнай нагоды.

З’яўляецца нечакана...
Ты ніколі не ведаеш,
калі гэта адбываецца.
І ў першы момант не верыш,
ці ўсё гэта праўда...
Ён не спяшаецца,
чакае,
дае час, каб ты зразумеў, што гэта ён...
І на правах зоркі
ён дакладна пакажа месца,
што завецца Залатой Горкай.

І твая разгубленасць будзе існаваць толькі хвіліну...
Потым ты зразумееш,
што яго з’яўленне – праўда.
І, галоўнае, што
табе ў гэтым горадзе ёсць месца,
бо ты сапраўдны,
і памятаеш кароткі праход дварамі,
каб хутка выйсці на суседнюю вуліцу,
нечакана сустрэцца з заходзячым сонцам
і ад асалоды зажмурыцца.

Ты ўбачыш, што Палац спорту на тым жа месцы...
Падумаеш: “Падманка...”
Бо выглядаць ён будзе так,
як на цукерках фабрыкі “Камунарка”.
А потым скажаш:

“Дзякуй, мой горад,
што надаеш натхненне здзіўляцца,
адважна рабіць доўгія крокі
і, па магчымасці, не памыляцца”.

Пазней ты будзеш ісці і чытаць,
слова за словам, выпадковыя назвы...
Гэта будзе ўвечары...
Лёгкім цяплом ахінуты праспект
пакажа, што будучыня
заўсёды малюецца ў тонах светлых і чыстых,
як суседка Марынка,
што жыла на пятым паверсе
і лепш выглядала за іншых.

А надзея, паводле Мілаша, заўсёды спяшаецца,
каб нешта светлае ў жыццё дадаць,
а калі не дадаць нічога –
пакінуць як ёсць, а потым не шкадаваць.

## *КАЛЯДНАЯ ЗОРКА*

Радасці боскага свята
светлая зорка шукала,
ў шчырым каханні нябёсаў
песні дзяцінства спявала.

Ёй немагчыма прапасці
і немагчыма спыніцца,
трэба у пошуках шчасця
боскім Ісусам з’явіцца...

Зорка свяціла ў нябёсах
срэбрам кароны на свята,
шчырасць Раства абяцала
ў светлую ноч на Каляды...

## *ГЛЕДЗЯЧЫ НА КАРЦІНУ П. ПІКАСА «ДЗЯЎЧЫНКА НА ШАРЫ»*

Палілі лісце на двары,
як абясцэненыя грошы...
Мы іх з табой не берaглі,
вясну чакаючы ўвосень.

Агню амаль што не было...
Настрой паветраны і чысты...

Жаданне моўчкі надышло,
ад адчуванняў непахісных.

Да гледачоў сядзеў спіной,
на шары ты стаяць хацела,
і называлі мы гульнёй
агонь, што йшоў праз нашы целы.

Чакальны лёс маўкліва стыў,
а явары шукалі выйсця.
Спакою дым па небе плыў...
Мы на двары палілі лісце.

### *ТАНГА*

Танга Піяцолы – ёсць умова
мімалётнай вечнасці дыхання,
гэта і надзея, і выснова
у натхненні боскага кахання.

Зноў шукаем шчасця, як маленства...
Музыку пакутліва складаем,
з захапленнем узрываем сэрцы,
крылы ў неабсяжнасці вяртаем.

Адчуваем лёгкую вясёласць...
Як вада, пакорліва застынем...
І непадуладную бадзёрасць
наваколлю зорнаму пакінем.

Целы, што ў адно спляліся – побач...
Музыка нам новае даруе...
Танга, што жыцця здымае горыч,
дасць надзею – значыць, уратуе.

* * *

Жыццю майму не дастае прасторы.
Нібыта Стывенс*, я шукаю мора,
каб дом пабудаваць не на пяску,
прайсці на луг па зведаным мастку,
адчуць дзяцінства подых палыновы.

Маіх жаданняў ліст ушчэнт парву...
І дзесьці павалюся у траву, –
яе адчую шэпты я і гукі,

---

* Уолес Стывенс – амерыканскі паэт, мадэрніст.

каб росы да мяне цягнулі рукі,
давалі разуменне, што жыву.
І доўга б я ляжаў у той траве...
І не было б шчаслівей за мяне,
як хлопчыка, што марыў, спадзяваўся,
калі прыйшла пара, то закахаўся
у парасткі, што не жадалі сну.

Я б адчуваў павеў травы без мукі,
жадаў бы вывучыць яе навуку –
жыць праўдай і расці далей,
каб зразумець сваю душу лягчэй,
і шэпты адчуваць яе, і гукі.

* * *

Я стану тым, што ёсць мая душа,
пад небам неспакойным не астыну,
на хуткасці не спыніцца шаша,
калі свой лёс у вечары пакіну.

І палячу ў нязведаны прастор,
скрозь памяць, скрозь імгненні ратавання,
ў празрыстасці невычарпальных зор
знайду адказ на вечныя пытанні.

Па небе вельмі лёгка паляцець,
Шагал так пралічыў, а я пацверджу,
што вышыня заўсёды толькі смерць,
калі шукаем адчування цвердзі.

* * *

Каб стаць паэтам, трэба з’ехаць далей ад месца, дзе ты нарадзіўся...
Нават калі спазніўся, трэба з’ехаць далей, чым гара Галгофа,
і ў складаных абставінах паэзія дапаможа знайсці выйсце
на сто адсоткаў лепей, чым дыханне метадам Грофа*.

Жыццё, блізкае да родных мясцін, не дадае сэнсу і рыфмаў,
нават пасля праглядаў фільмаў Бернарда Берталучы.
Паэзія – гэта як выйгрыш у казіно, выйграць складана...
Яна для выбраных ці тых, каму больш шанцуе.

---

* Станіслаў Гроф – знакаміты чэшскі псіхолаг. Заснавальнік трансперсанальнай псіхалогіі.

Магніт не працуе ў космасе... Толькі там, дзе мы жывём...
І не трэба турбавацца аб кніжным накладзе...
Паэт Роберт Фрост верыў, што паэзія –
гэта тое, што губляецца пры перакладзе...

І я пагаджаюся... Бо гэта – праўда... Можа, і я з'ехаў далёка,
каб адчуць сваю мову на адлегласці... Нібыта ў моры,
пачуць яе, як сігнал SOS у неабмежаваным эфіры.
І спадзяюся, што ратаванне прыйдзе і будзе скорым...

## *ПРА РЫМ, ШТО БЫЎ ЗАСНАВАНЫ НА СЯМІ ПАГОРКАХ*

*З італьянскага дзённіка*

Глыбей за Рым бывае толькі мора,
аб ім я мару кожны раз уранку,
калі, як птушка, вырвецца прастора
з натхненнем паспяваць са мной на ганку.

І прыгажэй за Рым бывае восень –
ад фарбаў, што рыхтуюцца да свята,
тут вечнасць дапамогі не папросіць,
паверыць шчасцю, не палічыць страты.

Тут людзі не спяшаюцца дахаты,
і пра радзіму зноў ідзе гаворка,
пра Рым, які быў бедны і багаты,
але застаўся на сямі пагорках.

Сяджу на Палаціне... Вечар цёплы...
Вячэра простая:
віно, кавалак хлеба...
Лятуць машыны, я ж кажу ўзнёсла –
вышэй за Рым бывае толькі неба.

Павел Анціпаў



...дзеля прыгажосці
добра было б прыплесці,
што гэта была апошняя вясна СССР...

# Аднолькава шчаслівыя

***Тры апавяданні***

## Птушкам

Гэта было на сконе "саўка", калі я яшчэ не ведаў, што такое "савок" і не мог адчуваць, што ён канае. На бульвары, што і цяпер носіць імя Шаўчэнкі, бліжэй да кінатэатра "Кіеў" стаяў фанерны кіёск з надпісам "Спрынт". Ён працаваў некалькі разоў на месяц, калі завозілі тыраж аднайменнай імгненнай латарэі – рубель за білецік.

Чым быў тады гэты рубель? О, я мог бы многа расказаць вам пра тыя кошты. Яны ўрэзаліся ў маю памяць, як ніякія іншыя ўжо не здолеюць.

Марозіва – 20 кап.,
шклянка газіроўкі з аўтамата – 3,
кіно – не даражэй за марозіва,
на аўтобусе пакатацца – 5 (або бясплатна),
а піpожнае? Піpожнае "Карзіначка" з такім бялковым

*Пераклад з рускай Уладзя ЛЯНКЕВІЧА.*

крэмам, што снілася, як ты хаваешся перад закрыццём крамы ў кандытарскім аддзеле, і потым цэлую ноч лопаеш толькі гэты крэм, а пясочныя асновы з плюхамі яблычнага джэму і салодкага гідкага масла – выкідваеш, – 22 капейкі!

І вось майму найлепшаму сябру Андрэю падаравалі на дзень народзінаў 3 рублі. Была ранняя вясна (Андрэй нарадзіўся на пачатку сакавіка), брудна раставаў снег, і мы ўбачылі, што пад кіёскам паназбіралася народу.

– Я куплю толькі адзін спрынт, – супакоіў мяне Андрэй, – і калі не пашанцуе, то ў нас застанецца яшчэ 2 рублі.

Няма пэўнасці, што мы тады ведалі слова “азарт”, але чарга была яго неблагой ілюстрацыяй. Купіўшы і раскрыўшы білет, чалавек не супакойваўся, а станавіўся ў канец, дабіраўся да ваконца, ад якога адыходзіў з новай порцыяй латарэек, пасля чаго ўсё паўтаралася наноў. У такое “кола” ўціснуліся мы з Андрэем.

Цяпер бы я, напэўна, здзівіўся, што за шклом кіёска акрамя касіркі і латарэйных білетаў нічога не было. Касірка, латарэйныя білеты і пустэча. Але тады гэта абсалютна рыфмавался з наваколлем: бязлюдны бульвар, дрэвы без лісця, зрэдчас праедзе “Жыгуль” або “Запарожац”, чорныя пыркі ад якога нават не даляцяць да чаргі, і адзіны рух, што адбываецца ў гэтым свеце – гэта рух чаргі, якая соўвае ў ваконца кіёска рублі, а наўзамен атрымлівае латарэйныя білеты. Дзеля прыгажосці добра было б прыплесці, што гэта была апошняя вясна СССР, але тут я баюся схібіць.

Андрэй распакаваў білет з “выйгрышам” 1 рубель. Мы сталі ў хвост, каб памяняць яго на другую латарэйку, якая зноўку прынесла нам рубель. Тут бы нам і забраць грошы ды кінуць выпрабоўваць аднастайны лёс, але манатоннасць чаргі аказалася такой прыцягальнай, што мы гатовыя былі наразаць колы, пакуль не скончыцца “Спрынт” у прадавачкі.

З трэцім білетам Андрэй на нейкі момант застыў.

– Што, прайграў, нарэшце? – запытаў я, спрабуючы забраць у яго спрынт.

– 25 рублёў, – ціха сказаў Андрэй, моцна сціскаючы ў руках латарэйку.

Чарга неяк дачулася пра гэтую навіну і часова збілася з рытму. Людзі падыходзілі да нас, упэўніваліся, што сапраўды, 25, і хуценька вярталіся назад. З атрыманых грошай мы купілі адразу некалькі латарэек. Час пабег шпарчэй, хтосьці выйграў дзясятку, некалькі траякоў, прадавачка выдавала грошы або абменьвала выйгрышныя білеты на запакаваныя, але нявыйгрышныя, скрыня з латарэйкамі пусцела, скрыня з грашыма напаўнялася.

У нейкі момант перад маімі вачыма ўсё часцей пачаў з’яўляцца надпіс “без выйгрышу”. Мы пералічылі грошы. Калі выйшла 13 рублёў, я сілком адцягнуў Андрэя ад чаргі. Цяпер я амаль упэўнены, што гэта быў адзіны 25-рублёвы выйгрыш у той скрыні.

Калі мы праз некалькі гадзінаў праходзілі каля зачыненага кіёска, то мокры асфальт вакол быў усеяны тысячай фанцікаў ад спрынта.

Мінуў яшчэ час, і ў кіёску разбілі шыбіну, а надпіс “Спрынт” пабляк ад сонца. Пазней замест разбітага шкла ўставілі адломак агітацыйнай таблічкі з надпісам

1917 СЛ
1987 КАСТ

А ў кіёску мы куплялі жуйкі, але гэта было ўжо зусім іншае жыццё, дзе пустэча паволі зморшчвалася да памераў кіёска, каб знікнуць разам з ім.

А з таго шэрага дня я памятаю, як мы з Андрэем сядзім у коле адсырэлых хрушчовак, у двары, што сёння (я там нядаўна праходзіў) больш нагадвае аўтастаянку; і вось мы з Андрэем сядзім тварам адзін да аднаго пасярод таго двара на лаўцы без спінкі, а паміж намі на вялізным кавалку абгортачнай паперы выстаўлена незлічона піроражных "Карзіначка". Мы лопаем бялковы крэм, а самі пясочныя кошыкі з плюхамі джэму і масла кідаем за спіну, вымаўляючы толькі адно слова:

– Птушкам!

## Віталік

Ён з ёй ажаніўся, і цяпер ён ейны муж. Гэта я пра Віталіка. Заходжу да яе аднойчы, а ён сядзіць увесь лысы, хамаваты, груба жартуе і сам жа рагоча. Яна: "Пазнаёмся, гэта Віталік". Што яшчэ за Віталік? Пасля гэтага я перастаў да яе хадзіць.

Праз пару месяцаў стрыечная сястра прыйшла сама. З Віталікам. "Мы ажаніліся", — кажа, і пайшла да мамы на кухню, а я застаўся з ім. Хвіліну памаўчалі.

— Ты сабак любіш? — запытаў ён.

— Не ведаю, у нас увогуле коткі дома.

— У мяне ў Паставах бультэр'еры былі, разумныя псіны.

Ягоныя псіны перамагалі суседскіх сабак, душылі вулічных котак, аднаго мужыка пакусалі. Той, натуральна, сам быў вінаваты. Потым нейкая свалата аднаго бультэр'ера атруціла, другога збіла машына. Разумныя былі псіны.

— Ага.

У школе Віталік кінуў у завуча партай, за што яму атэстат не адразу выдалі. Сябры ў Паставах былі добрыя, ды многіх пасадзілі. Сам ён на свабодзе толькі таму, што ў Мінск з'ехаў. Але цяпер з мінулым скончана, ён любіць сваю жонку і паступіў у эканамічны каледж — бацькі сястры ўгаварылі.

— На гітары граеш? — запытаў Віталік.

У куце пакоя сапраўды стаяла гітара.

— Трохі.

— Я таксама ў школе граў. У мяне быў гурт. Я лідарам быў, натуральна. Спяваў і на сола-гітары падыгрываў. У віцебскім абласным конкурсе ўдзельнічалі, на рэспубліку прайшлі. Але я ў Мінск з'ехаў.

— Хочаш пайграць?

— Не. У мяне прынцып. Альбо сур'ёзна займацца, альбо ніяк не займацца, а брынькаць я не хачу.

— Я на іх прыемнае ўражанне зрабіў, — казаў Віталік сястры па дарозе дахаты.

Я зноў пачаў заходзіць у госці да сястры.

— Ты не крыўдуй, што я так паводзіў сябе першы раз, — Віталік варыў каву, — я ж не ведаў, што ты ейны брат. Сам падумай, заходжу я да будучай

жонкі, а ў яе пацан нейкі сядзіць. Ты яшчэ скажы дзякуй, што па пысе табе не надаваў. Я не люблю, калі да маіх дзяўчат чапляюцца. Памятаю, у Паставах прывяла сястра сяброўку дадому. Ну, я яе... Карацей, не важна. Цяпер я жанаты і шчаслівы, вельмі люблю сваю жонку.

Віталік акуратна зняў з пліты турку. У туркі была адламаная ручка.

— Твая сястра тады на спатканне ішла. А я бачу: ідзе прыгожая дзеўка. Так і пазнаёміліся. Да таго лоха на спатканне яна так і не дайшла. Я ёй найлепшы букет у горадзе падараваў. Сумую па ёй, калі яе доўга няма, на вакзале з самымі дарагімі кветкамі сустракаю. Усе навокал на нас азіраюцца. Зайздросцяць. Добрая кава?

— Добрая, дзякуй.

— Я га...на не п’ю. Ненавіджу, калі некаторыя ў кубку запарваюць, а потым гэтая фігня яшчэ зверху плавае. Я люблю, каб усё па-сапраўднаму.

Віталік любіў паўтараць, што знаёмства з сястрой рэзка памяняла ягонае жыццё. Ён цяпер вучыцца, прычым найлепшы ў групе, безумоўна. Кінуў піць, і паліць кінуў: “Гэты ж лох не разумее, што людзям непрыемна. Ён калі ў аўтобус заходзіць, на ўвесь салон тытунём смярдзіць”. Цешча з цесцем на яго не нарадуюцца, заўсёды ў госці клічуць. “Найлепшы зяць, не тое што гэты дахадзяга”. Кніжкі пачаў чытаць. Збольшага гістарычныя або біяграфіі. Часам, зрэшты, і мастацкія. “Але гэтую кніжку я дачытваць не буду. Кніжка добрая, ды ён там жонцы здраджвае. А я цярпець не магу нявернасці. Сам не здраджваю, і жонку заб’ю, калі што”.

Мінула яшчэ колькі часу — і надышоў у жыцці сястры і Віталіка матэрыяльны дабрабыт. Віталік заняўся продажам мабільных тэлефонаў. Яму ўдавалася нават зламаныя апараты збыць па кошце новых. “А што я магу зрабіць, калі яны лохі? Я іх на тэлефонах надурваю, яны мяне потым на шмотках”. Сапраўды, Віталікаў гардэроб зрабіўся даволі вялікім. З дапамогай сястры Віталік купляў “найлепшы рэчы”, ніводнага разу я не бачыў, каб ён два дні запар хадзіў у адным і тым. Пад ейным жа ўплывам лысіна Віталіка схавалася пад цудоўным меліраваным бобрыкам. “Свой колер я не люблю, таму і стрыгся пад нуль”.

— Хочаш падзарабіць? — шырока ўсміхаючыся, спытаў Віталік. Усмешка ўжо некалькі месяцаў не сыходзіла з ягонага твару.

— Як?

— Даеш мне грошы, потым вярну з працэнтамі.

Віталік ехаў у Польшчу па мабільныя тэлефоны. Грошай яму трэба было шмат.

Прайшоў месяц.

— Памежнікі такія лохі. Я тэлефоны распіхаў па аўтобусе, яны нават не правяралі. Трымай грошы, а хочаш — можаш пакінуць, праз месяц яшчэ больш вярну.

Я і пакінуў.

Так і жылі: Віталік вазіў тэлефоны, прадаваў нават самыя безнадзейныя, спраўна плаціў мне адсоткі, купляў сабе новыя рэчы, кахаў жонку. Пакуль аднойчы на дзяжурства не заступіў атрад памежнікаў-не-лохаў.

— Сёння не магу табе аддаць ні працэнтаў, ні грошай. У мяне нічога не засталося. Усю партыю канфіскавалі. Я прапаноўваў памежніку ўзяць любыя апараты, а ён — ну ніяк.

І, відаць, такіх крэдытораў, як я, у Віталіка было некалькі. Ён усё ра-

дзей адказваў на званкі, усё часцей змяняў нумары. Пачаў паліць і піць. Здрадзіў жонцы.

Праз год сястра развялася з Віталікам. Ён яшчэ падпрацоўваў недзе. Зрэдку мы бачыліся, і ён неахвотна вяртаў мне пакрысе грошы. Потым ён яшчэ на нечым папаўся. На яго завялі справу. Быў нават суд, па-мойму. Цяпер Віталік жыве ў Паставах.

Зрэдку ён бывае ў Мінску, заходзіць да мяне на працу папіць наспех запаранай кавы, у якой зверху плавае фігня.

— У мяне ўсё добра. Працую на пілараме, плацяць прыстойна. У цябе не будзе грошай на квіточак? А то дробязі няма.

## Аднолькава шчаслівыя

*Іне Заікінай*

Да невялікага вакзала прычальвае цягнік, з якога выходзіць ён і акідвае ўсё перадузятым учэпістым поглядам, быццам не быў тут дзесяць год...

Сонца толькі ўскараскалася на трубы завода і падсмажвае бледна-жоўты будынак, дзясяткі са два сонных пасажыраў, што ідуць да прыпынку, сабак, якія ляжаць у іх на дарозе і захапляюцца апошнімі імгненнямі прахалоды, захаванай асфальтам, са спецыяльнымі, нібы прадугледжанымі праектам, паглыбленнямі для лужынаў, якія (у сваю чаргу) некалькі тыдняў ужо не функцыянавалі і колерам былі не цямнейшыя за астатняе дарожнае пакрыццё, якое суха шорхае пад коламі маршрутных таксовак – адзінай навіны, зацемленай ім у пейзажы прывакзальнай плошчы.

З акна маршруткі ён глядзіць на звыклую з маленства дарогу. Праплываючы міма, выцвілыя плакаты ўсімі сваімі арнаментамі і народнымі строямі паведамляюць аб тым, што ён любіць сваю краіну і гэтае мястэчка, у якім не быў ужо дзесяць гадоў. Стараючыся для аднаго са шчытоў, фатограф ажно прысеў, і цяпер у ніжнім правым куце кампазіцыі відаць клумбу, побач з якой прайшла цэнтральная вуліца горада і ўперлася на гарызонце ў царкву з гіпертрафіяй залатых купалоў. Злева асноўную частку здымка займае трохпавярховая хрушчоўка, паўз яе ўжо які год у краму ідзе бабулька, сумна боўтаецца торба. На балконе апошняга паверха ягоная цётка... алаізапашкевіч – sa tante, былая выкладчыца замежных моваў, развешвае ўнукавы пялюшкі і не падазрае аб тым, колькі гадоў ім яшчэ сохнуць. “Квітней, мой любы горад!” Якому-небудзь не вялікаму знаўцу славянскіх моваў можа падацца, што “квітнець” значыць “занепадаць”.

Ён едзе далей. Разглядае напаўразбураную аўтабазу – маленькую індустрыяльную сядзібу: палац адміністрацыі з дрэвамі, што растуць скрозь сарваны дах, гаспадарчыя пабудовы гаражоў з разбітымі квадрацікамі шклоблокаў. Унутры навідавоку вы абавязкова знойдзеце састарэлае з высахлым пахам чалавечае га...но, піўныя бутэлькі, чыпсавыя пакеты.

Маршрут праходзіць паўз двухпавярховую сталоўку мясакамбіната. Яна стаіць з забітымі вокнамі, цалкам пафарбаваная ў салатавы колер. Дзесяць гадоў таму сталоўка, як і камбінат, яшчэ працавала, яшчэ разыходзіўся крэпкі пах мясной сыравіны, ахутваў гарадскія пагоркі, слаўся па іх схілах і асядаў у яры. І строгія вытворцы каўбасаў выстройваліся ў буднія дні чаргой уздоўж раздачы, а па выходных тут гулялі вяселлі. Тады

ў белай сукенцы незахаванага памяццю фасону ролю нявесты разгублена прымярала на сябе стрыечная сястра. Баючыся парушыць наказы гаваркога чалавека з баянам на плячах, яна па першым патрабаванні цалавала маладога, напаўняла кілішкі, выпівала, падымалася танцаваць на другі паверх, дзе гаваркі здымаў баян, але толькі для таго, каб стаць за сінтэзатар і праспяваць песню пра “обручальное кольцо”. Выйшаўшы на двор, можна было натыкнуцца на размову з лысаватым мужам, які з купецкай упэўненасцю расказваў, што тутэйшы каледж дае такую ж адукацыю, як той сталічны інстытут, што кар’ерных магчымасцяў у гэтым горадзе нашмат болей, бо там спецыялістаў тысячы, а тут застаюцца адзінкі. І тады студэнт сталічнага інстытута недаверліва гядзеў на сястру, спадзеючыся, што зараз яна развеіць гэтае мужава трызненне, але тая толькі ніякавата ўсміхалася.

Госці рабілі выгляд, што іхняя любоў да маладых у дзень рэгістрацыі шлюбу здольная прыняць матэрыяльную форму. Хтосьці любіў так моцна, што атрымліваўся пыласос, іншыя вырасцілі ў сабе кухонны камбайн, гарачая прывязанасць абярталася мікрахвалёўкай, распаленая да мяжы – лядоўняй, хто кахаў без памяці, абмяжоўваўся фотаапаратам, чысціня пачуццяў перадавалася пральнай машынай і канверты, канверты, канверты.

Бацькі жаніха з бліскучымі ад шчодрага пачастунку тварамі, з падабрэлымі ад алкаголю вачыма, вырываюць адно ў аднаго аўтамабільныя ключы. “Мы дорым вам Чатыры колы!” – радасна абвяшчаюць яны, і бразгат крышталёвага посуду паглынаецца аглушальным тушам. Граючы яго, баяніст так радасна лупіць па клавішах, быццам гэты аўтамабіль станецца платай за музычнае суправаджэнне.

Аднак sa tante не дарэмна паўжыцця аддала выкладанню ў школе. Моцным голасам яна спыняе гэтую вакханалію, каб дадаць да Чатырох колаў літаральна драбніцу – усяго толькі Дах над галавой. Калі надыходзіць цішыня, яна падымае звязку, што пабразгвае над сталом. Крыху збянтэжаны родныя з боку стрыечнай сястры, якія яшчэ не да канца падзялілі ўсё, што адчыняецца гэтымі ключамі. Чуваць недаверлівае перашэптванне гасцей па лініі маладога: жыхары мястэчка ў курсе ўсіх маёмасных спрэчак наваколля. Акурат дарэчы прыходзяцца некалькі баянных залпаў – хрумсцяць пад пальцамі клавішы, запрошаныя зноў хмялеюць, чаркуюцца і пакідаюць вырашэнне праблемы да горшых часоў.

А як мінулі ўсе часы, ён стаіць у вітальні, абстаўленай па апошняй модзе трыццацігадовае даўніны. Sa tante і son oncle змораныя спёкай. Ну і надвор’е, прыгаворваюць яны, не саромеючыся сваіх састарэлых друзлых целаў.

– Як дабраліся, малады чалавек, ці надоўга да нас? – цісне руку son oncle.

– Павел Сцяпанавіч, ты тактоўны, як заўсёды, – з папрокам вымаўляе sa tante і ідзе паказваць госцю ягоны пакой.

– А што я такога сказаў, Іна Іванна? – абураецца son oncle і вяртаецца да тэлевізара.

**3.**

Вада ў горадзе адключана да 23 гадзіны – у гэткую спёку ёю лепш пальюць палі, а не вымыюць нязванага госця.

4.

Дом стрыечнай сястры. Адчуванне таго, што сад паменшыўся, можна спісаць на выродлівую прыбудову. Там месціцца гараж, прыбіральня, кухня і вітальня, падлога якой пакрыта слоем з маленькіх сандаляў, красовак, туфлікаў, якія валяюцца ўва ўсіх магчымых становішчах, апроч натуральнага. Гаспадары туфлікаў і красовак вельмі радыя новаму чалавеку. Сын стрыечнай сястры з пластырам на скроні і ў карэктуючых акулярах вітаецца за руку, як тата навучыў. Дачка хаваецца за матчыну спадніцу, але так, каб адным вокам бачыць госця, які расчышчае на падлозе месца для свайго абутку.

Ад цемры ў вітальні і рэзкай змены тэмпературы – улетку ў старым доме заўжды прахалодна – мітусіцца ў вачах. У гэтым танцы броўнаўскіх часцінак падлога, усеяная абуткам, становіцца падлогай, пакрытай дзіцячымі цацкамі. Цяпер уся кампанія знаходзіцца ў вялікім пакоі: тэлевізар, ложак і канапа, на якой разлеглася дзіцячае адзенне. Каб яго не турбаваць, ніхто не сядае.

Стрыечная сястра. Рысы твару яе крыху паплылі, часткі цела сталі буйнейшымі. Яна расказвае яму сваё жыццё так, нібыта ён патрабуе ад яе справаздачы, або не заўважае пераменаў у ейным поглядзе, што адбыліся за гэтыя гады, быццам яна думае, што яго цікавяць умовы працы мужа, на якую той ездзіць у іншы горад, і трэба абавязкова дачакацца ягонага вяртання.

Ваня, так зваць сына, выкарыстоўвае ўсе вядомыя яму спосабы, каб прыцягнуць увагу дарослых: залазіць пад дзіцячы ложак з нечым падобным да пісталета, сабранага з дэталяў канструктара, страляе, але ўсё міма. Тады Ваня кідае “пісталет” на падлогу, і дробныя дэталі ляцяць ва ўсе бакі. “Ды-дыж! Граната!” – лямантуе дзіця.

Стрыечная сястра скардзіцца, наракае: не ўсё так гладка. Вельмі хочацца займацца дзецьмі, але ёсць агарод, і яго нікуды не падзенеш, ён займае многа сіл і часу, а так хочацца займацца дзецьмі.

Ваня знаходзіць яшчэ некалькі гранатаў, але пасля таго, як артабстрэл пакідае родных абякавымі, ён уцякае, а вяртаецца ўжо з трохногім зэдлікам. З яго дапамогай Ваня залазіць на падваконне.

Стрыечная сястра паведамляе, маўляў, добра, што дзядуля з бабуляй побач, заўжды дапамагаюць, адвязу ім дзяцей, а сама займаюся гародам.

Ваня адчыняе вакно і становіцца з адваротнага боку, робіць адтуль грымасы, але ўсё дарэмна. Свет згаварыўся і не глядзіць на яго, хаця стрыечная сястра і расказвае пра тое, адкуль у Вані на лобе пластыр. Праўда, з размовы цяжка зразумець, што Ваня – гэта нешта адушаўлёнае, што прыкладае свой нос да шкла і можа зваліцца ў агарод, памяць агуркі.

Кухня. Ён сядзе за стол і будзе глядзець, як стрыечная сястра шаткуе ў салату капусту. Ён пагартае Ванеў фотаальбом, дзе з усёй дзіцячай няздарнасцю намаляваны толькі аўтамабілі. Некалькі крыва злучаных ліній на кожнай старонцы. Паглядзіць Верыну размалёўку. Прынцэса, карэта, мышка – будзе шаптаць Вера, павольна водзячы пальцам па тых месцах, дзе раней прайшоўся фламастар. А з-пад кухоннай шафы прагучыць аглушальнае “мяя-я!”

Гэта Ваня намагаецца выцягнуць кацяня за заднія лапы.

“Ваня! Зусім здурнеў?!” – звяртае ўвагу стрыечная сястра.

Госць і Вера кідаюцца на дапамогу кацяняці. Ваню даводзіцца нехаця

расціснуць пальцы. Пасля яны раскладаюць каля шчыліны пад шафай кавалачкі сухога корму, якія кацяня заграбае спачатку лапай, хрумкаючы ў цемры, а пасмялеўшы высоўвае пыску. Што ж казаць пра Ваню, калі нават Вера забылася, што ёй трэба саромецца, быццам побач нікога няма. Стрыечная сястра зноў занураецца ў шаткаванне.

Мужа, які з прычыны перспектыўнасці працуе ў іншым горадзе (ці сапраўды гэта так перспектыўна, нам дазнацца не выпадае), дык вось, мужа госць не дачакаецца, напэўна адчуўшы ад гэтага палёгку.

**5.**

Нейкі час ён жыве ў sa tante.

Ён ужо прызвычаіўся да іхніх дыялогаў:

– Павел Сцяпанавіч, ты не бачыў маю кніжку?

– Якую?

– Мастацкую.

– Ну ясна, што не ашчадную.

Канцэнтрацыя раздражнення заўжды аднолькавая, таму сварак з крыкамі не бывае ніколі.

– Ты ведаеш, хто гэтую краму на мікра будуе?

– А нашто мне гэта? – І пасля, усё ж такі не вытрымаўшы, – ну і хто?

– Пятроўскага дачку ведаеш?

– Не ведаю, і ведаць не хачу, – цікавіцца son oncle.

Гутарка працягваецца ў такім духу.

Раніцамі, калі яшчэ не занадта горача, ён ходзіць на рэчку. Перайшоўшы цэнтральную вуліцу, трэба паглыбіцца ў прыватны сектар, каля паварота не кіравацца дарогай, а даць нырца ў кусты, дзе між пагнілай мэблі, старых шынаў і кучак смецця ўецца сцежка. Мінаючы звалачны пасаж, ён выходзіць на луг, які ў горадзе замест пляжа. Так рана толькі гуска з гусянятамі плавае ў рацэ, потым выходзіць на бераг карміць дзяцей. Яна глядзіць удалечыню шкляным вокам, гусяняты павольна шчыплюць траву. "Гусей пасвіш?" – пытаецца дэфармаваны накшталт пытальніка мужычок няпэўнага веку.

Днём горад блякне ад сонца. У цень выцягваюцца коткі, зусім не брэшуць сабакі. Дамы амаль усе драўляныя, рассыпаныя па пагорках, не ўтвараюць кварталаў, толькі нейкае падабенства вуліцаў цячэ па дне равоў. На закінутых вокнах вісяць белыя карункавыя фіранкі. Такое ўражанне, што іх вымылі зусім нядаўна.

З весніцаў выходзіць мясцовы жыхар – скура ў алкагольным загары. Ён выварочвае вядро на схіл глыбокага яру, сядае на лаву, закурвае.

Людзей у гарадскім парку зусім мала, роўна столькі, каб было зразумела, што яны тут ёсць. Цяжка сказаць, калі спыніліся атракцыёны, тым не менш, на тых лодачках ён гушкаўся, калі быў дзіцем. Побач іржавай арматурынай стаіць аўтадром. Крыху далей – выразаныя стоды. Гэтыя драўляныя гномы з абыякавымі зморшчынымі тварамі акупавалі горад за апошнія дзесяць гадоў.

Вечарам у ярах збіраецца прахалода. На адным з пагоркаў, дзе дагэтуль душна, бачныя могілкі: з аднаго боку разбітыя надгробкі з надпісамі на іўрыце, з другога – праваслаўны граніт, аблямаваны падзелкамі з каляровай пластмасы.

Апоўначы даюць ваду. Sa tante запальвае газавую калонку. Памыўшыся, ён кладзецца спаць, а мясцовыя сабакі распачынаюць пераклічку. Яна цягнецца так доўга, што ягоны слых нават адрознівае некаторыя сабачыя партыі, і калі ўжо здаецца, што араторыя гэтая не мае канца, сабакі змаўкаюць і засынаюць разам з ім.

**7.**

Ваду даюць удзень. Вырашыўшы не чакаць tante, ён спрабуе ўспомніць, як уключаецца калонка. Адкрывае вентыль, чыркае запалкай, але пакуль не здагадаецца, што трэба націснуць кнопку-засцерагальнік, агонь не загарыцца. Запалка гасне, а газ працягвае запаўняць калонку. Ён траціць яшчэ дзве-тры запалкі, але выніку ніякага. І калі цяпер ён перадумае мыцца або заглядзіцца ў вакно на раку, то газ працягне нябачнымі клубамі выходзіць з калонкі, запаўняючы па чарзе спачатку кухню з добра наладжанай сістэмай захавання ежы ў дзвюх лядоўнях, пагладжваючы тысячы слоікаў, напоўненых лекавымі зёлкамі з аптэк і побач размешчаных лясоў, толькі не гарбатай, газ пранікне ў калідор і запоўніць іржавую ад нарыхтовак – колькі брагі тут выцекла – ванну, хлыне цераз край на падлогу, паступова пранікаючы ў туалет, дзе на квадратных плітках усё тыя ж вечныя пераводныя карцінкі. Газ ужо ахутаў кніжныя паліцы з бібліятэчкай «Дружбы народаў» і зборам кружэлак фірмы «Мелодыя», піяніна «Беларусь» і круглы вінтавы зэдлік, праз адчыненыя вокны трэцяга паверха газ расцякаецца па горадзе, на які з захаду ідзе першая за два месяцы навальніца – вось чаму сёння не паліваюць палі. Газ прыбывае ў парк з каруселямі, што спыніліся назаўсёды, ён сцелецца па-над ракой, з усіх бакоў наступае на пагоркі і равы, змешваючыся з пахам мясакамбіната, які далятае дасюль з мінулага, каб зліцца ў гэтай кропцы акурат у той момант, калі ўгары сутыкнуцца дзве хмарыны, а ён усё-ткі націсне на кнопку-засцерагальнік і паднясе запаленую серрнічку да адтуліны.

Хлапок газа шматкроць узмоцнены громам прыводзіць у дзеянне калонку, пачынае награвацца вада. Ён стаіць з апаленымі вейкамі, бо газ перапоўніў жалезны кораб. З неба падаюць першыя кроплі.

Тры жанчыны, што ідуць праз гарадскі парк з розных бакоў, застываюць на дарожках пад галінамі дрэваў, ад гэтага робяцца падобнымі да драўляных стодаў. Яны спрабуюць зразумець, ці паспеюць дабегчы да дому, ці лепей схавацца пад дахам закінутага клуба.

Паўз прысады на выездзе з горада вецер амаль напалам нахіляе бярозы, і з'яўляецца жаданне, каб хаця б адна зламалася на памяць.

Стрыечная сястра, ці то ўсвядоміўшы, ці то пасварыўшыся з мужам, палаяўшыся з бацькамі, кідае слухаўку, змахвае са стала тазік з пашаткаванай капустай, хапае дзяцей і бяжыць на вакзал. Мокрымі яны заходзяць у першы ж прыгарадны цягнік і едуць прэч з гэтага мястэчка. Ваня рады прыгодзе, глядзіць праз карэктуючыя акуляры на чыгуначны пейзаж, што пралятае міма, Вера адчувае матчыну трывогу, ціснецца да яе, але не плача. Гэта не ўцёкі і нават не спроба звярнуць на сябе ўвагу, у стрыечнай сястры няма ніякага плану, проста змена абстаноўкі, яна ж бо думае, што нельга ж вось так усё жыццё. Зрэшты, неўзабаве выявіцца, што можна. Гэта здарыцца, калі муж сарвецца з працы, сядзе ў машыну і дагоніць дызель-электрапоезд на станцыі, напрыклад, ... ці

... – назвы перабіраць так жа сама бессэнсоўна, як чарговы раз везці дахаты трох уцекачоў.

**8.**

Неба бясхмарнае зноў. Па равах цякуць вясёлыя рэчкі дажджавое вады. Адна са зламаных бярозаў пашкодзіла лінію электраперадач, і цяпер у мястэчку няма электрычнасці. Ён збіраецца на вуліцу, каб падыхаць свежым паветрам пасля тыдняў задухі, але дамоў вяртаецца ўсхваляваная tante, якая вельмі падрабязна і ў асобах пераказвае гісторыю стрыечнай сястры, паказвае, як менавіта на падлогу ляцеў тазік з капустай і якімі мокрымі былі малыя, калі стрыечная сястра пасадзіла іх на лаву дызеля. Некалькі няўхвальных словаў пра лысаватага гаспадара маладой сям'і, ягоных бацькоў, і размова непрыкметна пераходзіць спачатку на блізкіх сваякоў, потым на сваякоў далёкіх, а тады на трагічныя лёсы тых, хто павесіўся ці трапіў пад матацыкл, быў незнарок застрэлены на выпускным, скраў трафейны залаты пярсцёнак, патануў у рацэ, купіў наш сямейны гараж, і, нарэшце, мы даходзім да фінальнага маналогу, дзеля якога было напісана і прачытана ўсё папярэдняе і які цяпер не падаецца такім ужо абавязковым.

– Павел Сцяпанавіч? Я і падумаць не магла, што ён. Я ж з дзяцінства яго ведала, са школы. Ну канечне, камунікабельны быў, прыстойны, вясёлы, але каб муж.

Калі паступіла ў інстытут, то бачыліся толькі на канікулах і заўжды ў вялікіх кампаніях. Усё прасіў яму нявесту знайсці. І я Святлану яму сватала, якая са мной вучылася. Але яны нядоўга гулялі.

І раптам 8 сакавіка праціраю вокны і бачу – ідзе ўвесь такі пры парадзе, у пінжаку-гульштуку, з татам і маці. Селі на кухні з маімі бацькамі, а я ў пакоі з гэтай анучай у руках, і так мне смешна, не ведаю, што рабіць. Паклікалі мяне, ці згодная, пытаюцца. Я анучу ў ракавіну паклала і кажу: ладна. А сама думаю, цяпер неяк няёмка, адмовіцца заўсёды паспею.

І вось ідзем мы заяву падаваць, а я ўсё сказаць не наважуся. Падыходзім да ЗАГСу, а там – выходны. Я ўзрадавалася. Давай, кажу, лепей у кавярні пасядзім і разыдземся – усё супраць нас.

Бач ты, якая я гаваркая сёння, давай мне ціск памераем.

Андрэй Сцепанюк



...быць сабою сярод чужых,
быць чужым сярод сваіх...

# Не забываць сваё імя

## *ВЕРА*

Не плач, Айчына, вялікі Бог
Магіл тваіх палечыць раны
І зноў на твой святы парог
Прыйдуць Алесі
Цішкі
Ды Іваны

А ты як маці прымеш іх
І зноў абдымеш сваім лонам
Яны з крывавых горкіх слёз
Дадуць жыццё тваім загонам

І будзе свята
Будзе баль
Зноў кліч Пагоні дзесь над намі
Няхай жыве наш карнавал
Пад беларускімі сцягамі

Няхай у свет ляціць прывет
Усім народам у свабодзе
Ад шчырай нашае душы
Заўсёды будзем жыць у згодзе

* * *

калі забываешся
сваё імя
гэта нічога

станеш іксам
або кімсьці іншым
а на могілках будзеш NN

і гэта нічога

кожнага ранку
нараджайся
як новая персона

калі забываешся навошта
нарадзіўся
таксама нічога

не забудзь толькі што
у ранейшым жыцці
ты быў вярблюдам

і дагэтуль не ведаеш
чаму
ты стаў чалавекам

* * *

на пажаўцелай картцы
спісваў сваё
жыццё
ад пачатку

здарэнні якія
запамяталіся
і сталі хвілінай
нейкай гісторыі

нямнога

картка чыстымі
месцамі
з увагай чакала

што я
запоўню яе
да канца

не дачакаўшыся
скрунулася ў рулонік
і ператварылася
у трубку для тытуню

* * *

не было цябе
не будзе мяне
свет абыйдзецца
без нас

дрэвы вырастуць
не ведаўшы
што мы не хацелі быць

рэкі зарастуць
не разумеючы
што робяць гэта
без нашага дазволу

значэнне слоў
не выявіць
нашай непрысутнасці

паглядзі як гэта
проста

без цябе
і без мяне

* * *

на паперы
не відаць
літар

яны не крычаць
позіркам свайго
сэнсу

здзяйсняецца
нябачнае

непрыкметнасць
якая больш кажа
чым напісана

* * *

калі скажу табе
найважнейшае слова
мабыць памру

выляціць з мяне
неабходнасць
далейшага
існавання

звіняць ува мне куранты
гадзіннай
трывожнасці

добра што забыў
здаецца мне
найважнейшае слова
не памятаю яго

* * *

паварот

я ніколі ад цябе
не адыходзіў
як ніколі
не пераставаў пісаць
вершаў

яны трывалі ўва мне
пашыраліся
кожнага ранку
штораз мацней
заціскалі на шыі
сваю пятлю

ад цябе няма
адвароту
ты як паралізатар
які прыносіць подых
смерці

я кахаю цябе

* * *

не глядзі на мяне
з-за фіранак

твой позірк баліць
паліць агнём
пакідае пустэчу

ты калісь была воблакам
ласкавым сном яркасці
ценем з якім не хацелася
расставацца

ты была нябачнасцю
хвілінаю шчасця
і чаканнем удачы

таму дагтуль не ведаю
хто глядзіць на мяне
з-за фіранак
і чаму там нікога няма

* * *

ніхто ніколі
не прыйшоў
да мяне
каб пастаяць
і нічога
не сказаць

адны
словы
словы
словы

тратуары слоў
незразумелых гукаў
выкінутых з сініх
вуснаў

а так проста
было б затрымацца
і маўчаць
ідыліяй цішыні

* * *

дрэва

амярцвелае
забытае
зганьбаванае
з нясвежым пахам
з вуснаў

а лісточкі яшчэ
пышнеюць
а дзетачкі падбягаюць
і гуляюць у хованачкі

пражэртае чарвякамі
спарахнелае
са звярыным
воблікам сукоў-вачэй

а верабейчыкі прысядаюць
і цірлікаюць
ласкальна-любоўныя
песенькі

а ў час буры
адвернецца
і не заўважыць
вострай атакі ветру

і ўпадзе
і зваліцца
і на лавачку
і маляваную ў чырвані
і грымне на маладзенькіх
якія хаваюцца ад дожджыку

і заб’е іх

* * *

памятай бацька
быў
добрым чалавекам

трыццаць (больш)
гадоў
мэмэнто

быць
чалавекам

памятаць
верыць
трываць

памятай бацька
быў

* * *

пасля пераходу
мяжы
няма ўжо нават
размовы

ёсць толькі самотнасць
і смерць

чужыя сабе
бацька з сынам
кожны паасобку
глядзяць у вокны
якія выходзяць
на панадворак

свята ўваскрасення
з радаснымі тварамі
гэта іншая планета

у вачах толькі далечыня
таго што нябачанае
і непрадчувальнае

пачуцці засталіся звонку

* * *

заўсёды бывае
не так
не тыя
словы
не такія
жэсты
не той
крык

каляіны
поўныя
лістападаўскіх
ападкаў
гавораць
сваім
забытым
вадаліўем

калі паверыш
што ўсё
усё не так

* * *

дзіця з крэслам
упала

плача
дзіця з крэсла

упала

крэсла плача

* * *

чорнабеласць
чорнашэрасць
чорначырвонасць

колеры

а блакіт
у небе

а трава
у зялёнасці

а сінясць
у моры
а морасць
у сінечы

колеры

а вочы твае
фатамаргана
вясёлкі

* * *

чорная чорная
чорнасцю чорная
чырвань

яблыка з чорным
месцам пасля выхаду
чарвякоў

чорная чарнейшая
самая чорная
зямля
накінутая на плечы
і рукі і ногі

чорнасцю чорная
яркасць

* * *

тры словы

слова першае
непачутае

слова другое
забытае

слова трэцяе
неадгаданае
запісанае крывёю
на пергаменце

тры словы

* * *

неакрэслены сэнс
бяссэнсіца
як сенсацыя

варожае слова
ходзіць па сваёй
дарозе
і пытаецца
пра дарогу
якая вядзе

у далейшую
дарогу на
дарозе слова

* * *

зноў вечар
дзень адышоў
у нябыт

гісторыя не сцвердзіць
ці ты адпаведна
напоўніў яго
зместам

толькі ноччу
задумаешся
над яго
велічнасцю

як жанчына
у золаце валасоў

такі дзень

яшчэ адзін
такі дзень

* * *

начны горад

сыходзяцца сцены
начны горад
спаглядае на
новапаўсталую
цемру

белыя галубы
як цені
узлятаюць
над чарнатою

пані і сабачаня
выйшлі на шпацыр

яно бяжыць
па акіяне свежых каляінаў

а яна
ідзе старым следам
успамінаў

* * *

*Надзі*
*верш другі*

гады не
ходзяць
яны затрымаліся
у калюжах
на бельскай вуліцы
Казіміра
святога ці караля

яна вядзе
сваім успамінам
праз горад
на могілкі

там маці з бацькам
пачынаюць вячэраць

з-за вакна пах
свежых кветак
або лякарстваў
і кароткая
ледзь чутная
размова

трэба вяртацца

## ДЗЯЎЧЫНЕ З ПЛОШЧЫ

ты не плач дзяўчынка
не плач
яны слёз тваіх не зразумеюць

але боль твой будзе як сталь
ад яго яны ашалеюць

*19 снежня 2010 года*

## ЛІСТАПАД

Няспешны аўтобус Бельск-Нараў
вязе мяне ў Кленікі
на могілкі

Трэба наведаць бабулю і Сярожу

У аўтобусе трое пасажыраў
і вадзіцель
Ён аматар беларускай папсы
якая лезе ўсім у вушы

Ніхто нічога не гаворыць

Вось дарога ў Трэшчуткі
Прыстанак
Нас пасажыраў застаецца двое
Я
жанчына
і вадзіцель

Калі аўтобус набліжаецца да царквы
я іду да выхаду
На аўтобусе не даедзеш у рай
гаворыць жанчына

Я маўчу
І вадзіцель таксама

На аўтобусе не даедзеш у рай
паўтарае жанчына

### *МАРА*

Прызаві мяне Айчына ў далёкую дарогу
Дзе ўсё што немагчыма
будзе даравана Богам

Ранкам летнім
ноччу цёмнай
Светласцю святочных дзён
Прызаві мяне Айчына
пакажы мой дом

Вокны яго няхай будуць з соснаў
і бяроз
Дзверы моцна ззяюць дубам
Альховы парог

Сон хай скончыцца ў хвіліну
Калі стане дом
Прызаві мяне Айчына
Я табе чалом



Віталь Воранаў



...першы раз слова “Чарнобыль” пачынае азначаць штосьці канкрэтнае...

# Мой фотаальбом незалежнасці

***Апавяданне***

Калі б хтосьці сказаў мне: “Вось уяві сабе, што напачатку 90-х, у перыяд атрымання незалежнасці, у цябе ёсць лічбавы фотаапарат, але ты можаш зрабіць толькі дваццаць адну выразную і ўнікальную фотакартку, што б ты зняў?” – “Гм...” – падумаў бы я. У розныя часы гэтага перыяду мне было прыблізна ад сямі да дванаццаці гадоў. Кіравацца матэматычнай логікай і раўнамерна дзяліць дваццаць адну дазволеную фотакартку на чатыры, ці то пяць, ці хай нават шэсць я б не стаў, бо натуральную лічбу ўсё адно атрымаць не ўдалося б, а дробы мы ў той час, калі не памыляюся, яшчэ не праходзілі. Філасафічны падыход і пытанне: “А чаму менавіта дваццаць адна фотакартка?” – я, мяркую, таксама б адкінуў. Думаю, што кіраваўся б нейкай зусім іншай, магчыма, зразумелай толькі мне ў той час логікай.

Пачатак 90-х я сустракаю ў апошняй групе ненавіснага дзіцячага садка. Фатаграфаваць у ім я не наважваюся. Па-першае, неўраўнаважаная выхавацелька магла б разбіць фотаапарат, не дазволіўшы зрабіць нават другі здымак, не кажучы ўжо пра астатнія дзевятнаццаць. Па-другое, навошта захоўваць успаміны гэтай маленькай метафары канца вялікай імперыі, што, здаецца, толькі сілай нейкага шалёнага імпэту ўварвалася ў чужы для сябе пачатак дзевяностых. Адно выключэнне я раблю для Волечкі, якая стаіць на прыступках дзіцячага садка і шчарбатым ротам, але вельмі прарэзліва, як для такой малюпасенькай істоткі, крычыць мне ўслед: “Віталя, ты ўсё адно са мной жэнішся!” Тры, два, адзін, сыр. Згараючы ад сораму, крочу за мамай, якая чамусьці таямніча ўсміхаецца. Дзіцячы садок, на шчасце, ужо толькі жахлівы ўспамін, а наперадзе школа і яшчэ дваццаць здымкаў.

Стаім на лінейцы, стандартны набор рытуалаў, якія падаецца абсалютна ўнікальным. Я ўпершыню шкадую, што ў мяне лічбавы фотаапарат, а не стужкавая камера. Ну што ж, калі з тысячы трэба выразаць толькі адзін момант, я прымружваю правае вока і пстрыкаю ў момант, калі вучань апошняга класа нясе, пасадзіўшы на плячо, першакласніцу, а яна звоніць званочкам. Сімвал пачатку і канца, паміж якімі раз поўны, а раз глухі звон – гэта на сённяшні розум, а тады мне проста думалася пра штосьці іншае, пра што я не магу згадаць цяпер. Я проста націскаю на кнопку фотаапарата, але, спазніўшыся, лаўлю кадр, калі не зусім сур’ёзны старшакласнік здымае занадта дарослую з выгляду дзяўчынку з пляча. Як частка выпадковых здымкаў, гэты здымак удалы. Перад вачыма трохі дзіўная, даволі чужая мне па сённяшні дзень эстэтыка.

Трэці здымак я зраблю Любачцы. Яна сядзіць спераду і яшчэ зусім не здагадваецца, што праз нейкі час я папрашу бацьку, каб той, у сваю чаргу, папрасіў настаўніцу пасадзіць Любачку са мной за адной партай. Пазней, калі мы ўжо будзем сядзець разам, яна ці то здагадаецца, ці то я сам ёй пра гэтую просьбу прызнаюся... Раблю здымак, калі мы сядзім яшчэ асобна, умомант яна адварочваецца і пазірае на мяне сваімі арэхавымі вачыма.

Сядзім у чужым класе. Нас перамяшалі з класам “Б”, бо нашая настаўніца захварэла. Я рызыкую жыццём, але, відаць, праз адчуванне грамадскага абавязку прыхавана раблю здымак, калі настаўніца Скіпская, яе прозвішча я не змяняю адмыслова, хапае вучня свайго ж класа за патыліцу. Тое, як ягоная галава адскоквае ад парты, у кадр ужо, на жаль, не трапляе. Усе да аднаго вучні ў нашым класе моляцца, кожны свайму ўласнаму богу, за здароўе нашай захварэлай настаўніцы. Пра што моляцца вучні класа “Б”, мы можам толькі здагадвацца. У канцы дзевяностых і ў пачатку двухтысячных такія рэчы, прынамсі ў нас, ужо, мабыць, не здараліся.

Адна тэхнічка трымае мяне за левую руку, другая за правую. На жаль, зняць ні іх, ні тым больш сябе ў той момант магчымасці няма. У гэты дзень, не зважаючы на шматлікія пагрозы, я ў чарговы раз не прыношу абутак на змену. Гэта выклікала цэлую пагоню і валтузню. Мне свярбяць надраныя вушы, і я са злосцю раблю даволі бессэнсоўны здымак тэхнічак ззаду.

Дарэчы, калі я ўжо загаварыў пра пагоню... Перад вачыма дзівосная кніга з вершнікам на кані. “Мая радзіма Беларусь” – чытаем мы, але не надта яшчэ ўсведамляем, што гэта азначае. Трэба зняць для гісторыі, бо часта ў нас такое не здараецца. Уражанне, быццам Пагоня ўпэўнена застыла, каб я мог спакойна зрабіць здымак. Раблю. Цяпер адрываюся ад уяўленняў і праглядаю свае рэальныя здымкі. Бачу, што фатограф зрабіў

здымак так, што вершнік застаўся без галавы. “Няўмека”, – думаю сам сабе, або “мастак візіянер”. “Паправіць яго ці не?” – думаю, вярнуўшыся ў летуценні. “Хай лепш так, як яно папраўдзе было”, – вырашаю. Мне яшчэ нямала чаго трэба будзе сфатаграфаваць.

Карагод. Круцімся, як на каруселі. Спяваем нейкую бязглуздзіцу. А ў думках толькі адно: “Ці адзін я тут толькі разумны?” Кола аднак не пакідаю. Ужо трохі навучыўся, як трэба пазбягаць настаўніцкага гневу. Затое незаўважна, на міг адарваўшы руку, раблю хуценька здымак, каб на ўсё жыццё запомніць адчуванне карагоднай млоснасці.

Цяпер я ў заапарку. Перада мною напханае ці то саломай, ці то сенам пудзіла казулі. За нейкую драбязу фатограф прапануе зрабіць здымак вярхом на мёртвай жывёліне. Я не пагаджаюся, але бацька не супраць. Перад тым, як злезці з казулі, я раблю здымак фатографа. Хай будзе на памяць, бо ў заапарк я больш ніколі ў жыцці не пайду.

Музычная школа. Я плачу, бо настаўніца, хаця і надзвычай прыгожая, як мне падаецца з дарослай перспектывы, жанчына, не адпускае мяне дадому і прымушае іграць менуэт, слова, якое гучыць для мяне цалкам абстрактна і не выклікае яшчэ ніякіх асацыяцый. Я кепска адчуваю рытміку твора, і настаўніца загадвае мне ўстаць, бярэ за рукі і пачынае вучыць таму, як трэба адчуваць музыку праз танец. Я няўклюдна саромеюся, але падчас кароткай паўзы на перадышку вырашаю пакінуць фотаапарат на піяніна, наладзіўшы яго на аўтарэакцыю. Магчыма, менавіта тады ўва мне, яшчэ бадай несвядома, пачынае нараджацца пачуццё эстэтыкі. Хто яго ведае, але ў сваёй дзіўнаце здымак атрымаўся надзвычай прыгожы.

Па дарозе з музыкалкі праходжу праз парк. Спінай да мяне, на пастаменце, стаіць нейкі дзядзька з крывымі нагамі. Перад ім сабралася купка людзей. Нейкая жанчына з чырвонай стужкай ускараскалася на пастамент і мые срэбную галаву дзіўнай фігуры. Астатнія набожна стаяць перад ім, як струны гітары, гукі якой даносяцца яшчэ з музычнай школы. Калі наступнага дня з цікавасці буду праходзіць з іншага боку помніка, я прачытаю на ім пустое пакуль што слова “Ленін”. Але ў кішэні на ўсё жыццё застанецца здымак той купкі людзей, якія глядзяць на яго зусім іншым, здаецца недасяжным, позіркам.

Стаю каля турэмнай агароджы. Я тут жыву паблізу, бо тата працуе ў турме. Кожны дзень угаворваю яго, каб ён звадзіў мяне ў турму на экскурсію. Ён толькі ўсміхаецца. Цяпер, маючы фотаапарат, я папрашу яго, каб ён зрабіў на працы хаця б адзін здымачак. Ён, на жаль, адмаўляецца, таму раблю здымак з адлегласці. З закратаванага вакна махае рукой вязень. Для гэтай турмы, якая даўным-даўно была кляштарам, а адносна нядаўна лагерам смерці, не хапіла б не тое, што здымка, а цэлай кінастужкі. Але лепш хаця б штосьці, чым зусім нічога – здаецца мне тады, хаця цяпер пачынаю ў гэтым сумнявацца.

Разам з сябрамі, схаваўшыся на полі за хмызамі, распальваем вогнішча. Туды мы плануем кінуць новенькі патрон, які знайшлі сёння на стрэльбішчы. Застыўшы ў чаканні, мы заляжам за невялічкім пагоркам. Самы адважны падбяжыць і кіне патрон у вогнішча, а пасля хутка дабяжыць да пагорка і, пераскочыўшы праз яго, далучыцца да нас. Баюся вылезці, таму выцягваю руку з фотаапаратам і здымаю наўздагад. Патрон на дзіва доўга не страляе. Праз пару хвілінаў ізноў той, самы адважны, памалу набліжаецца і пачынае шукаць патрон.

“Гаўно нейкае”, – выкрыквае ён, а я цешуюся, што зрабіў яго здымак. Такія людзі доўга не жывуць.

Смерці, як на мірны час, наўздзіў нямала. Спярша перастае хадзіць у школу і неўзабаве памірае аднакласніца Наталля. Усім класам мы, анямеўшы, стаім у ейнай хаце і з недаўменнем і жахам пазіраем на яе не па гадах выцягнутае цела. Першы раз чуем слова “рак”, і першы раз слова “Чарнобыль” пачынае азначаць штосьці канкрэтнае. Усё яшчэ не магу паверыць сваім вачам, як цела аднакласніцы магло выцягнуцца да такіх памераў. Настройваю фотаапарат на чорна-белы рэжым.

Цяпер я на стадыёне. Б’юся з нейкім хлопцам. Калі б не здымак, зроблены сябрам з дапамогай майго лічбавага фотаапарата, даўно б ужо на гэты выпадак забыўся. Я наглядзеўся фільмаў пра Бруса Лі і Ван Дама і пычаў уводзіць гэты досвед у практыку. Перад тым, як зрабіць вяртушку, паказваю свайму сябру дамоўлены знак. Мой супернік гэтых фільмаў, мабыць, не бачыў. Відаць, таму я ўпэўнена перамагаю. Праз пару месяцаў мы паўторым наш паядынак. У гэты раз, нарэшце паглядзеўшы неабходныя фільмы, ён пераможа. Даю сябру знак, што здымкаў не трэба.

Пачатак лета. Я ў вёсцы. Не магу дачакацца, калі дзед прынясе касу, адмыслова зробленую для мяне. Калі ў цябе ёсць свая каса, значыць, ты дарослы. Гэтага не можа аспрэчыць ніхто. Не дачакаўшыся дзеда, іду за хату і, падымаючыся на дыбачкі, пачынаю здымаць з цвіка дзедаву касу. Губляю раўнавагу, каса выслізгвае ў мяне з рук і падае на зямлю, лязом прасвістаўшы каля майго вуха. Падымаюся і раблю сабе здымак з рукі. Вярнуўшыся дадому, дзед кажа, што з маёй касой прыйдзецца яшчэ пачакаць. Відаць, убачыў мой здымак, думаецца мне.

Здымак з касой не апошні. Назаўтра разам з бацькамі едзем агітаваць. У краіне першыя выбары прэзідэнта. Верагодна, толькі ў маладой дэмакратыі агітаваць маюць права нават найменшыя малакасосы. Мы агітуем за найлепшага, як мне падаецца, кандыдата. Гэтае меркаванне падзяляюць не ўсе, да каго мы заходзім у панадворкі і каму раздаем нашыя сціплыя, але змястоўныя ўлёткі. Адлучыўшыся ад бацькоў, смела крочу на панадворак незнаёмага чалавека. Раптам, зайшоўшы задалёка, каб адступаць, заўважаю, што чалавек трымае ў руках касу. Не падаючы выгляду, што перапалохаўся, з удаванай адвагай крочу наперад і суну яму пад нос улётку. Ён таксама, відаць, супраць сваёй волі, лістоўку прымае. Я хутка адварочваюся, але іду памалу. Ужо зачыніўшы за сабой веснічкі, пачынаю бегчы. Услед чую шэраг мацюкоў. На рэштках дзіцячай нахабнасці выцягваю з кішэні фотаапарат і здымаю злога дзядзьку. У левай руцэ ўлётка, у правай руцэ каса.

Наш кандыдат прайграе, але, тым часам, паспяваю зрабіць яшчэ два здымкі. На адным з іх мы разам з сябрам пераконваем рэшту класа, што наш кандыдат лепшы. Перад намі ўсе астатнія, якія нашую думку чамусьці не падзяляюць. Люблю гэты здымак, бо ён паказвае сапраўдныя настроі сярод дарослых. Калі хочаш даведацца пра палітычныя погляды бацькоў, спытай, каго падтрымліваюць дзеці.

На другім здымку мой дзед ставіць галачку каля прозвішча нашага сямейнага кандыдата. Ён ведае, што выбары ў асноўным справа маладых, але, здаецца, найперш дзеля памяці старанна пазначае свой выбар.

Усхвалявана падлічваю, колькі здымкаў у мяне ёсць. Налічваю дзевятнаццаць. Значыць, засталося ўсяго толькі два. Я ў летніку. Упершыню да-

лёка ад дому. Вучуся танчыць, курыць, заводзіць раманы. Адна дзяўчынка, імя ўжо не памятаю, просіць зрабіць ёй партрэт. Я ведаю, што здымкаў у мяне засталося мала, а кампутара, з дапамогай якога можна было б пачысціць картку памяці і пачаць наноў, яшчэ няма і доўга не будзе. І ўсё ж пагаджаюся, бо нельга адмаўляць таму, хто навучыў цябе цалавацца. Пстрыкаю з флэшам, бо на двары ўжо цёмна. Яе вочы атрымліваюцца чырвонага колеру. Яшчэ не здагадваюся, што такія рэчы праз гады можна будзе выпраўляць у фаташопе.

Вось і ўсё. Саджуся разам з бацькамі ў машыну, і мы выпраўляемся ў дарогу. Машына – “Форд” карычневага колеру. Па дарозе заязджаем у Менск, ці то ў Мінск. Начуем у знаёмых і з хваляваннем у сэрцы пакідаем краіну. У той час, а была гэта ўжо хутчэй другая, чым першая палова 90-х, чаго тады я яшчэ не ведаў, можна было б зняць шмат чаго сумнага і вясёлага, дзіўнага і штодзённага, але я зняў дарогу праз шкло задняй шыбы нашага аўто. Той здымак, здаецца, рабіўся ў рэжыме “сепія”. Дакладна я ўжо не памятаю, бо ў канцы я знішчыў усе зробленыя мною дваццаць здымкаў, адзін з іх, насуперак умове, наіўна спрабуючы захаваць на потым. Знішчыў не таму, што пачатак дзевяностых прыгажэй за ўсё выглядае на фотакартках, знятых на фотастужку, а таму, што з-за няўмення карыстацца лічбавым фотаапаратам я выпадкова націснуў “delete all”.

Ярына Дашына



...У гэтай краіне — нібы ў труне.
Насупраць дзяржаўны сцяг у вакне...

# Часовыя пірамідкі шчасця

### *КВЕТКА*

Ты ведаеш, мама, у гэтым вянку
я кветка, зламаная ў пазванку, —
схіляюся долу
                    пакорліва.
Повязь усіх і ўсяго —
мы нейтралізуем адно аднаго
і робім бясполымі...
                            Мама!
Здаецца, тут бачыцца дно,
здаецца, што мы памерлі даўно
ў гэтым спляценні.
Здаецца,
            мяне ў купальскім вянку
спусцілі, зламанай у пазванку,
уніз па цячэнні...

### *ДАНЯ*

Даня няўцешна плача,
у Дані рэжуцца зубы,
праразаюцца словы —
рэдукцыя ненаціскных
малочных.
                    Арганізатар
масавага непарадку —
зжаваў у фаршмак Сартра,
намацаў костачкі слоў.

Гульня ў “Макулатуру”.

Мамай смяецца, татам
яршыцца. Маленькі мімік
сёння змяшчае ў заўтра,
учора ў пазаўчора —
часовыя пірамідкі
                              шчасця...

* * *

Сёлета — лета.
Варыш варэнне
(нібыта з агрэсту,
а насамрэч —
з успамінаў
                    і страт)...
Цукру паболей.
                           Па болю,
па самым краі,
перапаўзеш
на той бераг адва-
ротнага
              болю...

Пераканаеш сумленне.
Перагнаіш успаміны.
Пераломіш сябе.

Перапішаш вершы...

* * *

Апастылыя словы
й нянавісць ціхмяную
ты хаваеш увачча.

Я з табою няўдала
зарыфмаваная,
ад таго — не гучу.

Ад таго — глуха-нема...

І сны нежаданыя
ў халоднай начы.
Мы з табою няўдала
зарыфмаваныя,
ад таго — не гучым.

* * *

Ты сказаў, што нарэшце я абстрагавалася ад
усялякіх пачуццяў, паэтызавана-інтымных,
што, нарэшце, я стала глядзець на жыццё аб'ектыўна
і на гэты багемна-пісьменніцкі сурагат.
Вершаваны кідала ў полымя металалом,
напаляліся словы і раздражнялі рэцэптар
шчасця, якое цяпер па рэцэпту
я прымаю з чайнай лыжачкі перад сном.
Раскулачаная на пачуцці, нібы і жыву
ў банальным тваім, пад заказ напісаным творы.
І цячэ алкаголь па міжклеткавае прасторы,
і ўсё — дэжавю...

* * *

У гэтай краіне — нібы ў труне.
Насупраць дзяржаўны сцяг у вакне
з нагоды дзяржаўнага свята.
Сумнеўна усё:
і каханак Том Круз,
і ракурс жыцця,
і Сусвету курс.

І думак паўфабрыкаты...

* * *

Чакаю цябе... як хуткую дапамогу ў перыяд вострай
інтаксікацыі. Сшытая з дэрмаціну ці іншага таннага
матэрыялу, у безлімітных пачуццях
глыбакаводных згубіла арыентацыю. Калі ты не
прыйдзеш — я прапала.
Чакаю цябе... і гэтае падсвядомасці абязводжванне не

мае імунітэту супраць жорсткасці-прымітывізму. Спатыкаюся словамі. Пагалоўнае абязБожванне пакідае прыкметы ідыятызму. Чакаю цябе... усёй сваёй дэрмацінавай сапсаванаю сутнасцю, разыходжуся па шву думкамі акуратна. Я табой пражавелая, ілжою з'едзеная, адданая іншаму і калі прыйдзе ён — стану яго прыватнай. Чакаю цябе... наскрозь праз цябе галаграмаю праходжу, накладзеная на зямное тваё існаванне. Яно вымяраецца сантыментамі і сантыграмамі. Кропля за кропляй у глянцы малочным світання
чакаю...

* * *

ты
мой
допінг
кантроль
мой
дослед
кахання
маё
днішча
мой
дзярж
страх
і
банк
дзяржава
мая
маё
папялішча
ты
мой
дар
слова
давер
і
доказ
патрыятызму
мой
доктар
мая
дактрына
дубль
драматызму
ў
лёсе

маім
дыягназ
кахання
клетак
дзяленне
допіс
нябёсам
рада
воднае

дрэва
яго
карэнне
мой
дрэйф
і
драйв
джаз
і
хадж
дзекання
джала
датчык
дыхання
доза
жыцця
безналам

***В.***

Верыш, людзі прымаюць усё на веру. Асабліва калі жывуць па першым разе. Так непрыхавана і ў тваёй манеры — складаць Жыццё з пазлаў. Часам палохае толькі твая нічыйнасць, не адасобленасць нават, не чужароднасць, а прыналежнасць нікому і вершаправоднасць праз пазванок спіны з аддачай у шыйны. Вера, юродзівых столькі, што хочацца плакаць, скінуць усё шалупінне з душы агрубелай. Гэта сваяцтва нямое пяра і наждаку — адшліфаванае сэрца да сцёртасці белай. Проста да болю шкада разбураных гнёздаў, лялечных гнёздаў тваіх пасівелых анёлаў. Людзі на іх глядзяць панура і злосна, ты ж — са слязьмі выцягваеш іх з-пад колаў. Рыфмы праходзяць наскрозь, як бронхаскапія. Мы распранаем словы, сэнсы гвалтуем. Песенькі “ню” і шэдэўры кулінарыі зноў анулююць сябе і час анулююць.

Ведаеш, што бывае з тым, хто не верыць? Вершы
бясконцых жыццяпісаў і назваў, запламбаваныя
ў нямую паперу — насмерць. Цішэй! Бог
ёсць, толькі Ён па-за веравызнаннем, Вера.
Веравыгнаннем...

* * *

Жыцця пераклад сінхронны...
Кахання зрэз.
Усе пасядзелкі начныя з гарэлкай і без.
Паўзком у нябёсы, але вершаваны пратэз
не дапамагае.
І клейстар сяброўства,
і прымусовы лікбез...
Каму гэта трэба —
пачуцці за грошы і без,
за слёзы, за здраду, за душа-
шчыпальны надрэз
адчаю.

* * *

Вясна. ВРІ. Краіна на каранціне.
У гэтай краіне даўно не можацца жыць.
Зламанае сэрца лопнула ў спружыне.
Баліць...

І хто адшукае яго ў шолаху слова,
зламаным і хворым, у дадатак яшчэ і б/у.
У тым перадсэрдзі — аскепак Айчыны свінцовы,
у гэтым — табу

на цябе. Запішы на вясенні рахунак
банальныя рыфмы — капежны рэчытатыў...
Сягоння мяне твой кантрольны ў лоб пацалунак
забіў.



Кацярына Сянкевіч



...чакаю чагосьці, што потым
буду называць успамінам...

# Рэха маўчання

***ТУГА***

сыходзіць праз столь
каналамі павекаў
стварае дождж
налівае збаны горла
запаланяе крэсла пад сабою
стаецца іншай асобай
табою

* * *

гляджу ў рэха маўчання
бясконцае цела ценю
плод яго рве галіну
з ізаляцыі дрэва
што ёсць
чаго няма
пачынаю ведаць

* * *

прашу пра дапамогу ў казцы-пуху
мараў
хто калі не ты зразумее і наладзіць
замком веяў зачыняю маўчанне
сляза захоўвае апошнюю заяўку

* * *

чорная кроў вачэй
тэлефонам змоўчана

згасае стомленага агню
апошні досвед
апошнія слёзы
пахнуць табой

* * *

даведацца праўду цяжэй чым збіраць яблыкі
піць чужую шыю
кранаць цябе вуснамі

* * *

з неба істоты снежныя
кажуць ісці
страх думаць легкадумна
скараюся ім
аракула шукаю
не давяраю вуснам

* * *

я растаптала кветку што бегла
за пакрыўджаным тварам
сівых валасоў.
(хто можа ў насычаных колерах
абвінавачваць галаву існаваннем
адзіноты дрэў?)

калі ўцяку паткнешся
не хачу аплакваць прахалодныя рукі
мае валасы вырастуць ды толькі
калі перастануць рваць іх пальцы гора

* * *

Праверыла ці магу спыніць цябе
бачыць
хаваючы попел фатаграфій
букет завялых месяцаў.

Відавочная адсутнасць твайго твару ў сэрцы
дазволіла пражыць
адзін дзень
без слёз.

* * *

хто з'еў папяровую галаву праўды
калі размаўляем пра нешта
лягчэйшае за паветра?

* * *

Чакаю чагосьці, што потым
буду называць успамінам,
доўга пакутую, таму не можа быць
інакш.
Ядвабная надзея высцілае ўжо
маю галаву ўнутры,
упэўнівае мяне, што хачу дабра,
наіўная.

* * *

адчуваю да цябе
дарэмнае вечнае каханне
без прычыны
таму рань
маю радасць быцця
абсмейвай
наіўную ўсмешку
ламі сэрца як
кубікі лега

* * *

адчуваю вялікую прорву
паміж успамінамі
аграмадную прорву сну

час ад часу адчуваю гэта

вызіраюць даўнія вочы змроку,
як яго вусны цешацца
маім плачам
маёй крохкай шыяй

ледзь трымаюся цела,
што адлятае туды, дзе
няма болю, кудысьці над луг,
пасярод хмар

* * *

я бачыла цябе ў згнілым святле
некалькіх саржавелых
планет
я была тваёй далонню
такою самай у абодвух блісках
яшчэ ўчора быў поўдзень
і мы хацелі аб ім размаўляць

### *КАЛІ БАЛЯЦЬ ДУМКІ*

не рабі мне на злосць
гэта небяспечна
я прыцягваю праклятці і чорных катоў

я жыла з чорным коцікам
я чараўніца
праклятая

раней абразілася на
свет выдумала лепшы

не бачыць мяне зблізку
калі баляць думкі

### *ДУХ І ЛЮСТРА*

чакаеш што перапрануся
і надзену скуру
у якой я магла б адчуваць сябе
сабою

не жыву
ты якраз спазнаў
мой найбольшы сакрэт

калі я жыла
насіла сукенкі
ў кветкі
хачу іх табе паказаць
хаця гэта кавалак анучы
я была ў іх прыгожай
кажуць

дай мне толькі некалькі хвілін
таго зямнога
смешнага часу

* * *

голая бессаромная цёплая
для іншых неабгрунтаваная
першабытная

накручваецца як музычны куфэрак
калі адчуваем сваю прысутнасць
грае калі праходзім побач
застывае на кароткую вечнасць
настолькі каб мы паспелі захапіцца
думаючы:
якія ў цябе прыгожыя вочы
Бога

Юля Сплюшка



...ты доўгая
песня Бога...

# Знак пад сэрцам

* * *

калі ты прыйдзеш з маўклівай вайны
да нашых самотных пакояў
у сонечных промнях аблашчаны ветрам
і морам
я разарваным сэрцам
з уколам між цёмных броваў
пабуджу ўсе птушкі
адкапаю зброю
стану вышэйшай за дрэвы
адрасту сярод голага поля
абрэжу свае валасы
каб болей не чуць
твайго голасу горкага
нібы карэнне палыну
час прайшоў і мы ў маім сэрцы
згубіліся й загінулі

рукі ўгару з прабітай дзіркай у целе
ты йдзеш да мяне ты ведаеш я ў тэме
дастань бінты й троху паменшы гора
а я не магу спыніць кроў якая ідзе праз горла
прадам маёмасць і перасялюся да мора
залячу тваю ціш тугою свянцонаю куляй
адкапаю трываласць знішчу сардэчнае гора
толькі выберы не мяне
збягай пакуль я не чую

## *ПРА МОВУ*

*М. Баярыну*

згук горкі нібы корань аеру
свет быве* і не помніць смакаў
мы захлынаемся ад даверу
зямля расце дагары нагамі

абсягам дотыкаў мераю вечнасць
і вынішчаю абрубкі трызненняў
гляджу ўвысі бачу як мерлыя словы
падаюць лісцем і не лятуць на нераст

* * *

агорай сябе апоўначы
вось жа ты на чужых
і гарачых далонях

тонкі зімовы

рэкі моры сальюцца
да берагоў тваіх
моўч разрывае горла

гулкія звоны

зоры бягуць направа
дарога згінае ўлева
указальнік не дапаможа

блукацьмеш

ты доўгая песня Бога

---

* быве – ад быць (форма, як у жыве).

снег на святой гары
ўстань і ідзі і глядзі як

замыкаецца свет

### *20.12.2011*

задушыла б ваўка ў сэрцы,
але як можна забіць
народжанага на золку
тваім неспакойным
словам?

забіла б змяю на шыі –
але ж не знішчыць
смяротнай змяінай вады,
што цячэ ў целе і вядзе
адну мяне да халоднай ракі
ў спёку

спраўджваецца дзень па дні
прагавітая і хіжая праўда:
не ўцячы ў бяссонне ад дзікага
звера,
калі носіш пад сэрцам ягоны знак

** * **

крок ідучы за крокам –
маё павяртанне
назаўжды не пазбыцца
салодкай памяці
не можна ніяк зведаць
дарогу ночы:
ці ападзе на зямлю
без думак
пра цёплыя зоры?

малітва сон разрывае
развіднела
год ляціць наўздагон
суседняму
а хто я такі без лісця?
хто ж я такі без кораня?
кім жа тады мне стаць
у гэтым свеце пачаткаў?
кім жа тады?



# Анталогія сучаснай украінскай літаратуры

***Часопіс “Дзеяслоў” прапануе сваім чытачам кароткае знаёмства з сучаснай украінскай літаратурай. Яно не можа быць поўным і ўсеахопным, бо за аснову ўзятыя толькі малыя жанры. Насамрэч ва ўкраінскай літаратуры за гады незалежнасці з’явілася шмат новых цікавых аўтараў і твораў, прадставіць усю разнастайнасць якіх у невялікай часопіснай публікацыі немагчыма. Плённа працавалі ў гэты час старэйшыя ўкраінскія літаратары і моладзь. Будзем спадзявацца аднак, што першае знаёмства не будзе апошнім і ў межах нашага супрацоўніцтва з Нацыянальнай спілкай пісьменнікаў Украіны будуць новыя публікацыі, а таксама ва ўкраінскіх выданнях з’явяцца пераклады сучасных беларускіх творцаў.***

## Наталка БЕЛАЦАРКІВЕЦ

### *ЛЮТЫ*

*Над берагамі вечнае ракі.*
Ліна Кастэнка.

Апошні месяц доўгае зімы
пераживем. Бо ўсё ж такі і мы
у нечым вінаваты. І нямы
выходзіць нож, і месяц. І гітара
набрыньквае пра трупы і лясы,
і на касетах нашы галасы.

Ці менш віны – ці болей. Скразнякі...
Ці больш віны – ці меней. А з рукі

паўзуць гады, нібыта чарвякі.
І ўсё ж такі за ўсё прыходзіць кара.
Зямля няшчасных паднявольных сноў!
Гідотных слоў, адсечаных галоў,
абпаленае кіслатою ліры!
Твой салаўіны выдраны язык,
і тольк мат, і свіст, і п'яны крык
даносяцца з-пад княскае парфіры.
Мая княгіня, жонка рыб і жаб!
Твой кожны сын – нягоднік альбо раб!
Каму аддацца, жыць з кім у каханні?
Над берагамі вечнае ракі –
бухгалтары, іх жонкі, сваякі...
І дзеці за мяжой на навучанні.

Што вырасце з раскіданых калоссяў?
Нам бачыць голым поле давялося.
Ды хтось жніва пачуе шматгалоссе.
І пройдзе серп хадою супастата.
І замалоцяць цэпам на таку.
І хлеб на вышываным ручніку
Ляжацьме, нібы галава адцята.

## ГУЛЬНЯ Ў ШАХМАТЫ

Увечары ў чацвер, здаецца, восені
мы селі граць у шахматы ля мора.
Было штосьць невыразнае, бы сны,
у вераснёва-летняе прасторы,

калі мы гралі ў шахматы ля мора
ў чацвер увечары, здаецца, восені,
і трэці, невыразны, нібы сны,
зайшоў да нас у месячным паўзмроку.

Яго рука, аголеная трохі,
нам зблытала фігуры, словы, дні,
а голас быў халодны, незямны
у вераснёва-летняе прасторы.

А можа, проста сум ёсць у віне,
нібы рука, аголеная трохі,
паветра голае, віно прасторы
віно жыцця – так вабіла мяне?

Але тады – за невыразнасць сноў,
за трэцяга у месячным паўзмроку,
за голас той, халодны, незямны,–

я зблытала фігуры, словы, дні,
калі мы гралі ў шахматы ля мора
ў чацвер увечары, здаецца, восені.

* * *

Трымціць вада, у шклянцы, а трымціць
ад холаду. Дрыготкаю жаночай –
ад холаду. Так хутка стынуць ночы,
імгненне – лісце першае ляціць.

Так, год кахання нашага мінуў,
а ўсё, здаецца, той жа водар лісця,
вада нібыта тая ж. Блізка выйсце
да года, што, як лісце, прамінуў.

І чаравік, што адляцеў убок,
і вопратка на крэсле. І да ранку
якісь тунэльны вецер пеніць шклянку:
імгненне – і з яе імкне паток.

Дык што тады стагоддзі? Можа, крок,
калі гарыць тунэль чарнашаўковы,
і верасень – як выгук выпадковы,
і ўсё жыццё – паток або каўток.

## *ГАТЭЛЬ ЦЭНТРАЛЬ*

у пэўным месцы дзе ў няпэўны час
і кон і доля прывітаюць нас
дзе вечарамі ў рэстаранах джаз
уранку – звоны з-пад гатычных арак
лілеі на каналах там цвітуць
там каву п’юць а потым піва п’юць
і зграямі ў салодкі шлях лятуць
і валасы, і ровары шкалярак

заплечнікі не маюць іх вагі
як доўгі лёс іх лінія нагі
такія ж мы былі нібы багі
пакуль не адчувалі час і стому
але пакінь свой беспрытульны жаль
у кожным месцы ёсць Гатэль Цэнтраль –
для тых хто як і ты ніхто нікому

тут раскладзеш набытак просты свой
кантактных лінзаў скончыцца канвой
абмыеш цела вып’еш свой напой

націснеш кнопку платнага канала –
і ўсё што хочаш і як хочаш там;
заплюшчыш вочы, зойдзеш, возьмеш сам
і музыка на межы лье бальзам
у камерах твайго Гатэль Цэнтраля
уночы калі ў небе зорны баль
Бог нібы Босх наведае Цэнтраль
з інсектамі што граюць на кларнетах
з маскітамі што п’юць рахманых кроў
і з жабамі і слімакамі; зноў
і з рыбамі; і ўся твая любоў –
нібы ікра ў пякельных кабінетах

нібы раскоўзаная цалкам барацьба
слабога і няшчаснага раба
асобы – і пакутлівага Духу
ён тваё цела лепіць ля вакна
а потым закідае ў чан лайна
і пальцамі двума бярэ са дна
абтрэсвае каб са здзіўленнем слухаць

як першы погляд на сваю зямлю
як першы дотык, сумнае “люблю”
як сполах сонца ў сцішаным “малю” –
Гатэль Цэнтраль страчае новы ранак

і кожны дзень – як у апошні раз
і ноч што прыйдзе – бы апошні сказ
і над лілейнымі каналамі лятуць
і валасы і ровары шкалярак

*Пераклала Аксана СПРЫНЧАН.*

## Васыль ГЕРАСІМ’ЮК

* * *

*Ігару Рымаруку*

Прыйшлі ўначы. “Твой, дзеду, сын, памёр.
Упаў са стромы на вірлівым бродзе.
Не змог уцекчы – атачылі з гор”.
Стары змаўчаў, не запрасіў заходзіць.

Ён іх не знаў, а можа, не пазнаў.
Але ўвайшлі у хату, бо намоклі
на бродзе тым. Паселі і замоўклі.
“Вы з Касмача ці з Брустур?”* –
“Мы з аблаў”.

“У печ усё, што бачыў, замуруй.
Ва ўласным сэрцы замуруй праклёны.
Прабач за сына нам, за скон ягоны.
Паплач, сябе бязмоўем не катуй”.

Паслаліся, паклаліся хто дзе –
на лаве, на падлозе, у запечку...
Стары маўчаў, пасля зацепліў свечку,
паклікаў сына і у ноч глядзеў...

Паснулі ўсе. Пакуль на белы свет
не выйшаў веташок на небасхіле,
варочаўся на мулкай печы дзед,
нібы пераварочваўся ў магіле.

Не, не ў магіле, ён з апошніх сіл
на строму лез і, кволы, падаў долу
туды, дзе ў плыні спяць хлапцы-саколы.
Пад імі – сын. А ў іх няма магіл.

З вірлівай плыні паднялі і ў лес...
Ніхто слязой скупою не заплача,
бо там сляза не змочыць жаўтапес,
дзе ты пераварочваўся, Касмачу.

---

* Касмач, Брустуры – паселішчы на Івана-Франкоўшчыне, якія ўваходзілі ў зону ўплыву УПА *(заўвага перакладчыка)*.

* * *

Мы на камень паклалі мячы
і ў рацэ нашых коней купалі,
а чужынцы прыйшлі уначы
і на беразе табарам сталі.

Хваляў сумных супыньваўся бег.
Ой нам з прыхаднем будзе не ўжыцца.
Мы шукалі стары абярэг,
нас шукала знявага чужынцаў.

Мы сваё бераглі, як маглі,
а навалы чужой прычакалі.
Хто ж тут вінны – ўзялі і прыйшлі
і на беразе табарам сталі.

Не чакалі мы рай на зямлі –
згаладнелая першая сотня.
Чужакі на наш бераг прыйшлі,
і мы схопімся з імі сягоння.

Коні косяцца, чуючы спуд.
Мы шчыты на каменне паклалі.
Давядзецца памерці, бо тут
чужакоў сёння мы не чакалі.

Чырванее над рэчкай раса,
коней купаных неба гайдае...
І прабегла рудая ліса
паміж хмараў з паўночнага краю.

* * *

Я жыў у пні, затуленым травой,
як вуж, жывіўся малаком авечым.
Бязвусы, паміраў ад ранаў вой –
мой жаль спавіў яго грудзіну й плечы.

І я згарнуўся ў колца і панік.
А скалы ў цемрыве крышыцца сталі.
З праломy выглядаў мой светлы лік,
пакуль звяры спрасоння заспявалі.

* * *

не тыя што мецілі ў спіну
не тыя што быццам – святыя
а потым сваю Украіну
хавалі як далей не тыя

што зналі як воі ўміралі
шукалі ў нябыце спакою
на плошчы бо сурмы зайгралі
не тыя не тыя не тое

а толькі ў чужацкай мішэні
пабачылі дзіркі-прарэхі
заціснулі попел у жмені
і зброю схавалі пад стрэхі.

* * *

Не зло, не зламанае ў пушчы крыло
аслабіла ў веры,
а тое, што ўзнесла, пасля ж увайшло
марозам у вены.

Хай скончыўся бой, наступіў супастат
на грудзі нагою,

а памяць стаіць, як астатні салдат,
не кідае зброю.

Там – жонка чакае і паліцца печ,
тут – скончана сеча.
Да зраненых рук, што не кінулі меч,
прылашчыцца свечка.

Схіляецца долу трава-татарва
гірляндавай славай.
Не плачце па мне, бо сівая трава
узыйдзе атавай.

А ты, хто ізноў свой паранены род
падняў, як сякеру,
ты будзеш паўзці да бацькоўскіх варот
з вайны, што за веру.

Наўколенцы станеш, сякі і такі,
над родным парогам.
Пракляўшы цябе, паўміралі бацькі,
што мовілі: з Богам.

Каб ты не хіснуўся у веры сваёй,
змаганец наш чынны,
мы род свой загубім – мы выйдзем на бой
пад крык крумкачыны.

*Пераклаў Міхась СКОБЛА.*

## Сяргій ЖАДАН

### *Вершы з кнігі “Агнястрэльныя й нажавыя”*

* * *

Яны селі за стол, накрыты на ўсіх,
паскідаўшы скуранкі і пінжакі.
Адрубілі мабілы, паклаўшы іх
на стале, між бутэлек, бліжэй да рукі.

Яны селі за стол. Іх ахова сышла.
Да аконнага шкла вечаровы туман
дакранаўся вільготным дыханнем цяпла,
нібы пальцы жанчын – да адкрытых ран.

Ён усім наліваў, хто сядзеў за сталом.
Як самому сабе, усё, што было.
І такайскія віны, ямайскі ром
адбівалі блакітнага неба святло.

Наліваў і думаў: “Калі мы яшчэ
збярамося вось так без ніякіх спраў?
Ўсе жывыя, і кроў яшчэ не цячэ.
Я іх сам знаходзіў і выбіраў.

Я іх сам крышаваў, нібы родных сваіх,
я іх вёў за сабою скрозь цемру і страх,
я трымаўся за іх, я помніў пра іх
і запальваў сонца на іхных сцягах.

Як адзін, няголеныя, але
яны светам кіруюць, як я іх вучыў.
Я іх ведаю ўсіх, хто пры гэтым стале
глушыць ром і мадэру, якая гарчыць.

Я натхняю кожнага словам адным,
я даю ім надзею, веру і жарсць,
я кармлю іх, я наліваю ім.
Але хто з іх усіх мяне здасць?

Хто з іх сука, якая мяне закладзе?
Хто на вечныя клятвы плюнуць гатоў?
Хто таварыша кіне й пакіне ў бядзе
і ўсіх нас падвядзе пад валыны мянтоў?”

...Наймалодшы, што меў на шчацэ рубцы
й джынам паленым запіваў какаін,
нерваваўся так, як усе курцы,
што курыць не могуць свой нікацін.

І крычаў яму: “Бос, ну што за базар?
Мы парвем іх, нам дапаможа лёс,
наша зброя і наш малады азарт,
і ўсе кулі, што маем у целах, бос!”

Але ён наліваў яму й гаварыў:
“Наш фартовы лёс – не на ўсе часы.
Ты ім першы сальеш, як націснуць згары,
ўсе рахункі, імёны і адрасы”.

Малады маўчаў, не маючы слоў,
апусціўшы вочы ніжэй зямлі,

забываючы ўсё, што ён тут наплёў
і што іншыя перад тым наплялі.

...За акном унізе цякла рака,
аддаляючы іхнія спеў і плач.
І агонь ад далёкага маяка
пазалочваў дахі суседніх дач,

пазалочваў галіны дрэваў здаля,
пазалочваў машын танаванае шкло,
пазалочваў усё, што дала зямля,
пазалочваў усё, што будзе й было,

пазалочваў пакой, дзе была братва,
іх пагляды, словы і ўсё ў жыцці.
Бо нічога не зменіцца й толькі трава
будзе кожны год іначай расці.

Іх ахова стаяла каля дзвярэй,
усю ноч стаяла, крыху наўзбоч,
разумеючы, хто вядзе тут рэй
і каго яны вартавалі ўсю ноч.

А яны ўсё, што ў іх на стале было,
дапілі дарэшты – сабе наздзіў.
Потым кожны з іх уключыў мабло
і лічыў званкі, што за ноч прапусціў.

І над кожным паволі, паўзверх плячэй,
праступалі німбы, нібы агні
аварыйныя, каб іх бачыць лягчэй
было ў цішы, у цемры, на глыбіні.

* * *

На Паўднёва-Заходняй чыгунцы
а трэцяй ночы рознае сніцца.
Спяць забойцы і самагубцы.
На два вагоны адна праваднiца:

паўз паліцы, як Маці Тэрэза,
ходзіць стомленая, п’яная,
разганяе без інтарэсу
сны, якія на памяць знае.

Я ляжу ў глыбіні вагона,
прырэчана, як шахцёр у забоі,

вязу пакет з галавою Пітона –
чорнага хіміка з Лазавое.

Калісьці ён быў каралём гідраўлік,
маючы пастаўшчыкоў за кардонам,
жыў як мог, кантралюючы трафік
між Тыраспалем і Краснадонам.

Труціў атамным сурагатам
малдаванаў ды розных узбекаў,
нават некалі дэпутатам,
па мажарытарным, быў ад эсдэкаў.

І вось я цяпер а трэцяй гадзіне,
хоць тройчы прыходзілі сны і кашмары,
не сплю і слухаю, як шчаціна
далей расце на ягоным твары.

– Ну як ты, брат? – пытаю. – Праспаўся?
Дзесь цыгарэты падзеліся, курва!
– Ды ладна, – адказвае ён, – не парся –
з маімі праблемамі не да курыва.

– Страшна, – пытаю, – там, на свабодзе?
– Не страшна. Проста нешта нязвычнае.
Страшна было ў мінулым годзе,
калі ў Растове спалілі шашлычную.

Проста чагось не вярнулі як быццам,
і парашутам памяць валочыцца,
і забываеш, хоць нельга забыцца,
і памятаеш, хоць помніць не хочацца.

Ды адчуваеш апошнім нервам,
агнястрэльнымі й нажавымі –
тонкую рысу недзе пад небам
між жывымі і нежывымі.

Так што вязі мяне, браце, дадому
ў гэтым ціхім, як спеў, вагоне,
вязі маю бясконцую стому,
памяць маю, што баліць і па сконе.

Аддай мяне сябрукам па зброі,
сумным, п’яным і яшчэ не забітым,
хай вырашаюць паміж сабою,
што з галавою маёй рабіць ім.

Хай помняць мой выгляд і ўсе пав*а*дкі,
словаў маіх ледзяныя азёры,
лёгкія – чорныя, як пальчаткі
пабітага безнадзейна баксёра.

Скажы, калі стрэнешся з тою кабетай:
шчасце мінае і гора сыходзіць,
ўсё, што я мог даць ёй добрага, – гэта
загінуць далёка і ёй не нашкодзіць.

Мой цягнік больш не можа спыніцца.
Прыкуры, не магу больш трымацца.
Смерць, як нашая праваднiца –
ёй гэта проста сумленная праца.

Цёплыя сны, выпадковыя лёсы.
Усё, што бачыць і чуць давялося,
усё, што запомніў у тыя часы,
жыве і па смерці, як валасы.

Пагавары са мной яшчэ, братка.
Палены “найк”, твая арафатка.
Ноч плыве, сутонне хістаецца.
Паветра ўдыхаецца,
выдыхаецца.

* * *

Тую жанчыну з чорнымі, як зямля, валасамі,
ведаю столькі год – нават пазнаю крокі:
паміж мною ды іншымі адрасамі
ходзіць сабе, не турбуючыся ні трохі.

Ходзіць паміж святла й гарачага лісця,
ходзіць паміж муроў і птушыных крыкаў,
паміж ручаёў падземных, якія перапляліся,
паміж усіх сваіх сноў і фрыкаў.

Ходзіць сабе на стадыёны і рынкі,
хаваючы ў куртцы тэлефон і біклагу.
І я гатовы паліць у ейным квартале будынкі,
каб яна на мяне звярнула ўвагу.

Я гатовы бамбіць урад і навалач абласную,
ператвараць у партвейн ваду ў азёрах і рэчках,
толькі б яна, згадаўшы, што я існую,
часам пісала лісты аб надвор’і ды іншых рэчах.

Я ладзіць гатовы на ейнай вуліцы страйкі,
каб толькі быць з ейнай лютасцю і пяшчотай,
каб толькі слухаць яе надрыўныя байкі
пра тое, з кім яна спіць, па кім памірае ўпотай.

Я вынайду новыя літары, выраблю новы голас,
заб'ю ўсіх старых паэтаў, якія штось яшчэ пішуць,
каб яна забывала ўсё, што ведала колісь, –
проста глядзела ў цемру, проста слухала цішу.

Ейную памяць заглушыць музыка дажджавая.
Неба за ейнымі вокнамі будзе стаяць парожнім.
Хай забывае пра ўсё.
Хай нават мяне забывае.
Толькі мяне хай забывае апошнім.

* * *

І калі адліга спыніцца на лугах,
калі дрэвы будуць стаяць у цёмных снягах,
свежы сцішаны вецер, сарваўшыся з узбярэжжа,
дакранецца й адчуе цяпло на яе губах.

Яе скура святлейшая за серабро ў малацэ,
нібы стома нябачнай слязой замрэ на шчацэ,
нібы рэчышча ўзімку засыпле зорамі й снегам,
і адбіткі памерлых стаяць у халоднай рацэ.

Бо даўно прамінуў п'янкі лістападаўскі фэст,
скавышы і завеі ўшываюцца ў кожны пад'езд,
покуль мовай паветра й вады на паўночных прычалах
неадчэпнай прастуды яшчэ фармулюецца змест.

Гэта потым, калі тум*а*ны дойдуць сюды,
затапіўшы масты і прыгарадныя сады,
яна будзе штосьці казаць аб чорных прытоках
і заснежаных чоўнах, цяжкіх ад сцюжы й вады.

Бо ўсе словы, якія былі між ёй і табой,
пераплеценыя між сабой вераснёвай травой,
паглядзі, як сказанае вамі ўжо праступае
збітым подыхам вільгаці, музыкай гарлавой.

Захавай гэты рух у паветраных ямах цяпла,
паняверку, якая ўпарта яе вяла, –
і калі яна спынялася й замірала,
і калі яе не было,
і калі была.

*Пераклаў Андрэй ХАДАНОВІЧ.*

## Ліна КАСТЭНКА

### *ВАН-ГОГ*

Добрай раніцы, адзінота!
Холад холаду. Цішы ціш.
Як цыклоп аднавокі ў лёце,
неба дзівіцца на Парыж.
Мая мука, ты ходзіш па лёзах!
Яшчэ ўчора я быў каралём.
А сягоння попел бялёсы
асядае на жоўты дом.
Змерлі барвы.
О рукі-хмары!
На мальбертах распяты свет.
Я – жалобны камень цвінтарны.
Кіпарысавы хвост камет.
Неба ў негадзь, бы ноч, глухое.
Гнуцца пэндзлі, як чараты.
Чорным рэхам палеазою
паламаныя гор хрыбты.
Прамяніцца маё скляпенне.
Я пастух. Я сад стары пасу.
Ў кішэнях дня,
залапленых цярпеннем,
я кулакі да смерці данясу.
Самавіты – несамавіты –
Не Сезан – не Гаген – не Манэ –
Але што мне рабіць, скажы ты,,
Як мяне багата ў мяне?!
Ён бажавольны, кажуць. Бажавольны!
Магчыма й так. Ён – гэта значыць я.
Божа – вольны...
Божа, я – вольны!
Дык дабранач, Свабода мая!

* * *

Зіхціць між ружаў золатам калыска.
Блакіт павекаў хата прыўзняла.
Свет неаглядны здалечы і зблізку.
Пачатак ёсць. А слоў яшчэ няма.
І дзіўны дым, і хаты выгляд новы,
І яшчэ ніяк нічога не завуць.
І хмары не прывязаны да слова,
А проста так – плывуць сабе й плывуць.
І кожны пальчык сам сабе Бетховен.
І ўся мая на свеце прыгажосць.

І свеціць сонца вокам каляровым.
Шчэ слоў няма. Паэзія ўжо ёсць.

* * *

Баюся слоў, калі яны маўчаць,
калі яны дыханне затаілі,
калі не знаеш, як табе пачаць,
бо словы ўсе былі ужо чыімісь.

Хтось імі плакаў, кленчыў да багоў,
з іх пачынаў і знік за небакраем.
Людзей мільярды і мільярды слоў,
а ты упершыню іх вымаўляеш.

Усё паўторыцца: краса і шматкалёрнасць.
Усё было: асфальт і спарышы.
Паэзія ж – заўсёды непаўторнасць,
як бессмяротны дотык да душы.

* * *

Прадвесне засмяялася: – Пара! –
за Чорным Шляхам, за Вялікім Лугам –
гляджу: мой прадзед, і пра-пра, пра-пра –
ідуць за часам, як за плугам.

Губляецца бясконцы караван,
за Чорным Шляхам, за Вялікім Лугам,
яны ужо ў тумане – як туман –
усе ўжо йдуць за часам, як за плугам.

Як вол стамлёны, вечнасць ледзь ступае! –
за Чорным Шляхам, за Вялікім Лугам.
Свавольная, як вецер, маладая –
няўжо і я іду ўжо, як за плугам?!

І што ўзару? Засею чым свой лан?
за Чорным Шляхам, за Вялікім Лугам.
Няўжо і я ў тумане – як туман –
І ўсё ж іду за часам, як за плугам?..

* * *

Шукайце цэнзара ў сабе.
Ён там жыве з біблейскае эпохі.
Ён там сядзіць, як д’ябал у трубе,
Сумленне з вас выдушвае патрохі..

З сярэдзіны, па кроплі, не за раз
Пакіне без апошняе іконкі...
І незаўважна выме вас ён з вас,
Застанецца пустая абалонка.

Пялёсткі старасвецкага раманса
Той клавесін і плакаў, і гукаў
Тугу чужую. Свечкі тлелі квола.
Стары спявак спяваў, як пелікан,
Працэджваючы музыку праз горла.

Ён быў стары і плакаў не пра нас.
А голас быў, як часу адгалосак,
Але лунаў пад люстрамі раманс,
Спадалі слоў пажоўклыя пялёсткі

На голавы, дзе быццам салаўі,
Сваё гняздо штодня звіваюць справы,
Упаў раманс, як ён яе любіў
І словы незабыўныя казаў ёй.

Ён свой вакал узносіў, як бакал,
Сеў матылёк яму на апранаху...
І Хараство, насуперак вякам,
йшло да яго па Месячнаму Шляху.

А потым знікла музыка. Антракт.
Мужчыны перайшлі чамусь на прозу.
Жанчыны змоўклі. Стала ўсё не так.
Згарчэла піва. Аплыло марозіва.

Стары спяваў без грыму і грымас.
Сягоння так спяваць больш не умеем мы.
Затое, як гучаў яго раманс –
Жанчыны расцвіталі архідэямі...

* * *

Выходжу ў сад, ён чорны і худы,
І толькі ў снах сваіх ён пладаносіць.
Шаўковы шум балетнае хады
Яму на згадку пакідае восень.

Я ў садзе гэтым вырасла, і ён
Мяне пазнаў, хоць доўга прыглядаўся.
У кругаверці незваротных дзён
Ён быў стары і гэтакім застаўся.

І ён спытаў: – Чаму ты не прыйшла
У час, калі не спіцца ў пойме рэкам?
А я сказала: – Я ў цябе адна
Сягоння й заўтра, і да скону веку.

І я прыйшла не струшваць твой рэнклод
І не рабіць з пладоў тваіх цыкуту.
Для чужаніцаў кроў твая – віно.
А для мяне – мой недапіты смутак.

Ну вось і ўсё, але усё не тое.
Ужо і сонца знікла за стагамі.
Сад прашаптаў сасмяглымі губамі
На развітанне штосьці... штосьці залатое...

* * *

Зноў тое самае
і зноўку за сваё
стаміўся дух лунаць
між хмар крылата
не ведаю
Хрыстос
мо дзе і ёсць
куды ж ні глянь – паўсюль адны Пілаты.

*Пераклаў Эдуард АКУЛІН.*

## Валадзімір ДАНІЛЕНКА

### Кіеўскі мальчык

Аўтамабільны затор спаралізаваў Вялікую Житомірскую. Сто клаксонаў, бы тая чарада звар’яцелых кароў, раўлі ад Львоўскай плошчы да Валадзімірскай. Аўтамабілі збіліся вакол катафалка з нікеляваным анёлам на капоце. Хавалі Бальбузу, караля крымінальнага свету, якога забілі ў разборках з хлопцамі Саламахі. Сто руляў, хаваючы смерць, панура маўчалі ў гарнітурах ад Вароніна. Суровы картэж з жывымі кветкамі ад “Нарыты” ды журботнымі надпісамі “Ад Кабінета Міністраў”, “Ад федэрацыі кікбоксінга”, і проста “Ад верных сяброў” і “Ад кахаючай сяброўкі” захрас каля будынка з вымытым дажджамі і ветрам бязлікім сцягам, у якім ледзьве ўгадваліся колеры сонца і неба. Міліцыянт спалохана прыставіў да скроні далонь у белых пальчатках і дрыгатлівым жазлом паказваў на Байкавыя могілкі.

“Крута, – падумаў Мальчык, зачараваны працэсіяю, – мяне так хараніць не будуць. Не тая вясавая кацягорыя”.

У яго вушах яшчэ стаяў роў аўтамабільных сірэн, калі ён паварочваў

на Залатавароцкую. Каля ржавага бака для смецця ён убачыў дзеда ў інтэлігентным барэце і плашчы колеру хакі, які нешта выцягваў з лушпіння і еў, паглыблены ў сябе. З дзедавай кайстры тырчэлі жаночыя боты часоў Цэнтральнай Рады і томік Грушэўскага.

“Ап’яць невязуха, – падумаў Мальчык, – няўдалы паход з блышынага базару”.

– Жаласць какая! – голасна сказаў дзеду.

Дзед спалохана вынырнуў з сябе, дажаваў кавалак цвілой булкі і раздражнёна глянуў на незнаёмца.

– Падкрапляемся, дзядуля? – весела гукнуў Мальчык. – Вазьмі грыўню на пончык.

– Дзякуй, – сказаў дзед і з годнасцю схаваў грошы ў кішэню.

Мальчык звярнуў на Яраславаў вал і зайшоў у кафэ “Яраслава”. Ужо болей за месяц працаваў ён у рэкламнам агенцтве, куды ўлаштаваў яго старэйшы брат, падатковы інспектар. Штодзень гарбеў за тэлефонам, вызвоньваючы багатыя канторы. Яго выслухоўвалі стомленыя дырэктары і шчабятлівыя дзяўчаты-менеджэры, даўганогія кіеўскія дзевачкі, уладкаваныя папамі ды мамамі, і ўсе яму адмаўлялі або варылі з Мальчыка ваду. У яго ўжо быў доўгі спіс вадавараў, якія ніколі не казалі “так” ці “не”, але нязменна прасілі праз тыдзень або два нагадаць пра сябе, калі нібыта чакаецца новая партыя тавару і, можа, яны запусцяць рэкламу.

А быў яшчэ ў агенцтве Віталік, сэрцаед менеджэраў і зубр выцыганьвання грошай.

– Ты хаця б голас памяняў, – соп Віталік Мальчыку, – чысты дзецкі сад. На такі голас не клюне ніводзін кліент. Вучыся вось у дзядзі, – набіраў ён нумар. – А гдзе эты нігадзяй? – лагодна пытаўся ў трубку. – Прывяжыце яго да дроту. Ну, здрастуй, нігоднік. Што ж ты міне падводзіш, га? Ды не... Ну да... Канешна! Ну дуй сюды, закроім вапрос, – і клаў трубку. – Бачыў, як нада работаць? – паварочваўся да Мальчыка. – Толькі што дамовіўся наконт пяці тысяч баксаў.

– Клас! – вырвалася ў Мальчыка, і ён ледзьве не трэснуў ад зайздрасці.

Мальчык прайшоў курс НЛП, як с помашчу пастраенія фраз і вапшчэ языка забраць дзеньгі ў кліента, за які Сямён Барысавіч садраў з яго трыста баксаў. Грошы, звычайна ж, заплаціў старэйшы брат.

– Я здзелаю вас багатымі і шчаслівымі, вы будзеце долга помніць Сямёна Барысавіча з Адэсы, – сказаў той на развітанне дзевачкам і мальчыкам, што слухалі яго з разяўленымі ратамі.

Мальчык часта згадваў Сямёна Барысавіча і думаў, што галоўнага сакрэту ён так і не выдаў, бо чаму ж тады Віталік робіць усё наадварот і ў яго выходзіць, а ён гаворыць па схемах Сямёна Барысавіча, і ў яго нічога не атрымліваецца? Хіба таму, што Віталік паспеў пабыць у апараце камсамола і яму далі за гэта трохпакаёўку ля Шакаладнага будынка? Выходзіць, камсамол – лепшая за НЛП школа, – думаў Мальчык.

– Нэ расстраівайся, – супакоіў Віталік, – наясіся марожанага і палучыцца.

Калі Віталік хадзіў у прыбіральню, Мальчык украў у яго візітку менеджэра фірмы “Грэнуй”, якая гандлюе французскай касметыкай.

У “Яраславе” Мальчык замовіў двайную порцыю марожанага і пяцьдзясят грамаў таннага каньяку, прыкончыў гэта за столікам з мініяцюрнаю жанчынай, падобнай на балонку, і весела рушыў да рэкламнага агенцтва,

памятаючы ўстаноўкі Віталіка, што лепей расколваць кліента пасля абеда, калі страх і злосць пераходзяць у страўнік.

“У панядзелак кліент з перапою, ён не гатовы да разгавору, – прыгадаў тэзісы Віталікавых сентэнцый, – а ў пятніцу яго цела яшчэ ў офісе, а душа ўжо ў начным клубе ці ў жаночай пазусе, пагэтаму не дразні звера”.

Мальчык зірнуў на гадзіннік. Была серада. Без чвэрткі тры, найлепшы час для дзелавых перамоваў. Калі пераступіў парог рэкламнага агенцтва, дастаў з кейса візітку фірмы “Грэнуй”, пракруціў у галаве магчымыя сцэнарыі размовы з менеджэрам і набраў нумар. У трубцы свістаў факс. Мальчык вылаяўся і набраў яшчэ адзін нумар.

– Алё, гэта Алёна Харахандзюк? – завуркатаў у трубку Мальчык.

– Гаў! – адказала Дзевачка.

І ў Мальчыка выляцела з галавы ўсё, чаму вучыў Сямён Барысавіч.

– А-а... – сказаў Мальчык, збіраючыся з думкамі.

– А-адпусціце меня ў Гімалаі, – праспявала на тым канцы дроту.

І Мальчык здагадаўся, што гэта Дзевачка з мячты.

– Ты Дзевачка з мячты? – гукнуў ён.

– Эвс! – цмокнула тая трубку.

– Сайдзі са шланга, – зазірнуў у офіс Віталік. – Дай пагаварыць з чалавекам.

У іх былі спараныя апараты.

Мальчык пасварыўся на яго пальчыкам і расслабіў вузлы гальштука.

– Алё, – прапеў ён зноў у трубку і расказаў анекдот пра Вовачку, з якога сам доўга і гучна смяяўся. – Кагда мы перасячомся? – спытаў Мальчык.

Дзевачка замуркала.

– Безабразіе, – замуркаў і Мальчык, – жаласць такая. Прэдлагаю ў шэсць у “Яраславе”. На Ярвалу.

Дзевачка зноў замуркала.

– Нікак-нікак? – перапытаў Мальчык і ледзь не расплакаўся.

– Ак-кэй! – неспадзявана для сябе і яго адказала яна.

– То біш?.. – разгубіўся Мальчык.

– Па-па! – праспявала Дзевачка і паклала трубку.

Дзевачка прыйшла па саўдэпаўскаму этыкету, роўна на паўгадзіны пазней.

– Па цібе можна звяраць меснае ўрэм’я, – зрабіў ёй камплімент Мальчык.

– Ха! – сказала Дзевачка, умошчваючыся за сталом.

– А как ты міня ўзнала? – здзівіўся ён.

– На цібе напісана – Мальчык, – склала губкі банцікам Дзевачка.

– Я Мальчык, каторы іграет у крутыя ігры, – удакладніў Мальчык і разліў віно “Чорны доктар”. – Дзінь-дзінь!

– Дзінь-дзінь! – сказала Дзевачка, чокаючыся з Мальчыкам.

Паўтары гадзіны набракалі яны віном, размовамі пра рэкламу і адно адным. Мальчык падсоўваў Дзевачцы апельсіны, шакаладкі і прайсы свайго тэлеканала. Яны выжлукцілі яшчэ па сто грамаў каньяку і вырашылі працягнуць перамовы на хаце ў Дзевачкі. У кіёску Мальчык купіў шампанскае, зладзіў таксі, і яны паехалі на левы бераг, дзе каля станцыі метро жыла Дзевачка.

На хаце выпілі пляшку шампанскага, і Мальчыку стала ўжо зусім добра.

– Класна! – выгукнуў Мальчык і пачаў здзіраць з Дзевачкі трусікі.
– Т-ты крутой Мальчык! – вырывалася яна.
Дзевачцы было нядобра, рэзала ў жываце і хацелася ў прыбіральню.
– Я здзелаю цібя багатай і шчаслівай, – соп Мальчык, блытаючыся ў яе апліках і шлейках.
З яго кашулі паадляталі гузікі, гальштук заблытаўся ў станіку Дзевачкі, а візіткі параскідаліся па ўсім ложку.
– Бясстыжы Мальчык, – супраціўлялася Дзевачка.
І неспадзявана для сябе яны заснулі.
Сярод ночы Мальчыка занудзіла, ён вобмацкам дабраўся да прыбіральні, абняў унітаз і доўга ванітаваў, а потым умываўся і мыў заванітаваны гальштук. Досвета Мальчык аблапіў Дзевачку, але адчуў, што ў яго там нічога не варушыцца, пацалаваў яе аголеную шыю і на дыбачках рушыў да дзвярэй.
– Па-па... – сонна прашаптала яна.
Ён штосьці невыразна буркнуў і зачыніў за сабою дзверы.
Каля таксафона Мальчык доўга калупаўся ў кішэнях, шукаючы тэлефонную картку і хвілінаў дзесяць вызвоньваў брата.
– Бодзя! – гукнуў у трубку. – Пазыч сто баксаў. Учора раскруціл Дзевачку з фірмы “Грэнуй”. Зараблю – аддам.
– Ты дзе? – спыталі на тым канцы дроту.
– На “Чарнігаўскай”.
У трубцы маўчалі.
– Праз гадзіну пад Залатымі варотамі.
– Ак-кэй! – павесіў трубку Мальчык і спусціўся ў метро.
У вагоне былі вольныя месцы. Ад шуму электрапоезда пазакладала вушы, Мальчык баяўся праспаць сваю станцыю і шчыпаў нагу. Насупраць драмаў чалавек у акулярах. На падлозе качаліся лупіны арахісу.
Праз гадзіну ён узяў братавы грошы і пасунуўся на працу.
З тэлефона Дзевачкі доўга адказваў аўтамат, а потым пачуўся яе голас.
– Алё! – абрадаваўся Мальчык. – Как дзіла?
– Ак-кэй, – адказала Дзевачка.
– Перасячомся? – прапанаваў Мальчык. – Как у ціб’я нашчот урэмені?
Дзевачка муркала ў трубку і збіралася з думкамі. Пасля ночы ў яе была запаволеная рэакцыя.
– У п’яць з прайсамі ў офісе, – мурканула Дзевачка і назвала адрас.
– Ак-кэй, – пасміхнуўся Мальчык і паклаў трубку.
За пяць да пятай ён стаяў ля чорных браніраваных дзвярэй і ціснуў званок. Дзверы адчыніў мужчына ў шэрым гарнітуры, з-пад палы якога натапырвалася кабура.
– Я к Алёне Харахандзюк, – сказаў ахоўніку.
Мужчына набраў нумар і паведаміў пра Мальчыка. Яго правялі ў офіс, дзе за кампутарам сядзеў лысы мужчына, а другі размаўляў па тэлефоне.
– Гэта так, – сказаў размоўца ў трубку. – Маем шэсцьдзесят ролікаў у праймтайм. Так, на другім канале... А пакуль даруйце. Хай.
Мальчык заслухаўся і не заўважыў, як ля яго з’явілася Дзевачка.
– Гавары па-украінскі, – ціха сказала. – Шэф не любіт... – і голасна спытала:

– Чай ці каву?

– Каву, – адказаў Мальчык і спалохана азірнуўся.

Калі размешваў цукар і прыгубіў кубачак, ля яго з’явілася Дзевачка з чалавекам сярэдняга ўзросту, які адрэкамендаваўся і даў візітку. Мальчык мітусліва пачаў шукаць сваю, працягнуў чалавеку, візітка была пакамечаная, і Мальчык адчуў, як прыліпае да цела кашуля.

– Гэты пан, – пластмасавым голасам сказала Дзевачка, – мае рэкламную прапанову, якая можа мець для нас інтарэс.

Чалавек завучана ўсміхнуўся і паглядзеў на Мальчыка, што даставаў з папкі свой прайс. Ён чытаў прайс і запытваў, а Мальчык адказваў, як на ўроку ўкраінскай мовы. Экзекуцыя працягвалася доўга. Мальчык паспеў выпіць два кубкі кавы, яго насоўка ў руцэ была мокрая ад поту.

– Добра, – сказаў чалавек, – ваша прапанова можа быць цікаваю. Трэба падумаць. Патэлефануйце ў сераду.

Яго правялі да дзвярэй. Па дарозе Дзевачка паспела шапнуць:

– Пазвані ў срэду утрам.

– Можэт, заўтра перасячомся? – шапнуў Мальчык.

– Па-па, – выштурхнула яго ў спіну Дзевачка.

Дома Мальчык застаў заплаканую маму.

– Дзе ты ходзіш? Тут такое гора. Арыштавалі Багдана. Што ж мы будзем цяпер рабіць?

У Мальчыка адвісла сківаца, ён замітусіўся, схапіў тэлефон, пачаў набіраць нумар.

– Шчас мы рэшым этат вапрос, – разгарачыўся ён. – Улад Казленка – ўліяцельны чалавек. У него дзенег – не пугана.

– Чаго ты скубешся? – узлавалася мама. – Ды скінь ты з сябе гэтую маску кіеўскага мальчыка. Хоць раз пагавары з маці па-чалавечаскі.

– Трэба наняць адваката, – узяў сябе ў рукі Мальчык. – Грошы я зараблю на рэкламе, а трохі ў кагось пазычым. Усё будзе добра, пабачыш.

Да канца пятніцы яны знайшлі адваката. Адвакат быў стары, з тварам сушанае грушы.

– Дзяла паганыя, – памяў адвакат зарослае шчэццю вуха, – яго падставілі. Падаслалі чалавека з запісанымі нумарамі банкнотаў і адразу ж іх у яго знайшлі. Пяцьсот грывень.

– Навошта ім маё дзіця? – заплакала мама. – Толькі ж вывучыўся. Навошта было йсці на гэткую работу?! Пайшоў бы ў школу, настаўнічаў, а я б дзетак глядзела. Двое ж у яго.

– Мам, – раззлаваўся Мальчык, – ты ведаеш, чаго бастуюць настаўнікі?

– Ды яно ж так... Не даюць грошай, а што тыя грошы, як вунь турма, – заплакала мама.

– Бачу я, што жывяце сціпла, – захрусцеў пальцамі адвакат, – я з вас многа не вазьму, бо мала чым памагу. У вашага сына такая праца, што там бяруць усе і бяруць многа, а яго падставілі, бо няма падтрымкі. Трэба было ім ахвярнае ягнё, вось яго і выбралі. Такая цяпер наша жызнь, – прыцмокнуў дуплістым зубам і пачаў збірацца.

Усю ноч слухаў Мальчык, як рыпіць у кватэры паркет і шэпча малітвы мама. У сераду ранкам ён вызваніў Дзевачку. Яны дамовіліся сустрэцца на Падоле ў гандэліку “У цёці Соні”.

На Верхнім вале ўбачыў, як загарэліся адначасна тры святлафорныя вокі. “Гэта напамінае сённяшні дзень, – весела падумаў Мальчык, – беспрэдзел”.

“У цёці Соні” ён замовіў дзве шклянкі віна “Вянок Дунаю” і апельсінаў.

– Как там нашi обшчiе праекты? – пацікавіўся Мальчык.

– Будзем с вамi сатруднiчаць, – адказала Дзевачка.

На твары Мальчыка расцвіла пасмешка, ён пацалаваў Дзевачку і ўзяў яшчэ па лікёру. Дзевачка адмаўлялася, але ён змусіў яе выпіць, і яны выйшлі ў вячэрні горад.

Цёплы вечар выбавіў прыгожых жанчын. Яны стаялі на залітых электрычным святлом прыпынках, таямніча маўчалі, і толькі голыя ногі клікалі ў цёмную ноч.

– Я правяду, – пацёрся ля вушка Дзевачкі.

– Да, но ў дом цiб’я не пушчу.

– Ак-кэй! – крануўся яе носіка.

Каля пад’езда пацалаваў Дзевачку ўзасос, а яна адштурхнула яго ад сябе, але яе рукі абмяклі, і Дзевачка падстаўляла доўгую шыю пад гарачыя губы Мальчыка.

– Толька на п’яць мiнут, – зашаптала Дзевачка і пацягнула Мальчыка цёмнымі прыступкамі.

На парозе яны пачалі здзіраць з сябе адзенне і пападалі ў ложак, блытаючыся ў яе рассыпаных валасах і расшпіленых сарочках, і тут зазваніў тэлефон.

– Алё! – схапіла Дзевачка трубку, цяжка дыхаючы. – Адна. А што? – перайшла на ўкраінскую. – Праз дваццаць хвілінаў? Прыязджай.

Дзевачка сарвалася з ложка і забегала, падцягваючы на сабе калготкі і трусікі.

– Ухадзi! Быстра! – гукнула Мальчыку ў напаўспушчаных штанах, што сядзеў у ўскалмачаным ложку.

Дзевачка падвяла вусны, сцягнула з ложка Мальчыка і выштурхала ў калідор.

– Шэф? – адчуў, як перасохла ў горле.

– Цмок па-па! – падала кейс Дзевачка.

– У цiб’я с нiм?.. – спрабаваў падшукаць далікатнае слова Мальчык, але так і не знайшоў.

– Ты проста Мальчык, – уздыхнула яна, – а он мушчiна, каторы мiня садзержыт, iдзi, – пацалавала і выпхнула яго за дзверы.

Без капейкі ў кішэні пасунуўся Мальчык праз мост. Над Дняпром вісеў малады месяц, падобны на скібку дыні. Па рацэ павольна плыў асветлены кацер. Каля рачнога палаца, нібы заснулыя тараканы, стаялі аўтамабілі. Вільготны вецер качаў на асфальце парожнюю піўную бляшанку. На званіцах сабораў гарэлі сігнальныя агні, праносіліся вячэрнія аўтамабілі, і наўсцяж трасы стаялі выпітыя пляшкі з-пад шампанскага...

Ранкам пазваніла Дзевачка. Яна чакала яго каля галерэі “Атэлье Карася”.

– У меня выгаднае дзельцэ, – узяла пад руку Мальчыка. – Прэдлагаю нал пад дваццацiпрацэнтную скiдку.

– Чорны нал? – яхідненька скрывіўся Мальчык. – Ён не мог прабачыць ёй учарашняга вечара. – А налогавая?

– Не тваi праблемы, – буркнула Дзевачка.

– Ак-кэй, – сказаў Мальчык, – я перагавару з Уладам Казленкам.

– Эта твой шэф?

– Да! – злосна засоп Мальчык. – Но он не лазiт к дзевачкам у пасцель.

– Фу, праціўны, – пстрыкнула яго Дзевачка. – Па-па! У п’яць з мяшком у офісе.

– Какім мяшком?..

– Какой непанятлівы Мальчык, – паказала язык Дзевачка, – для дзенег каторы.

У Мальчыка адразу ўзнік план. Ён скажа Уладу пра наяўныя пад дваццаць пяць адсоткаў. Улад пагодзіцца, яго апетыты растуць, а рэкламнае агенцтва за ім не паспявае.

У офісе Мальчык патрэніраваўся перад люстрам, каб не бегалі вочы, калі будзе гаварыць пра адсоткі, галоўнае – не мітусіцца.

Улад ажыў, павесялеў, закрактаў.

– Жду з грашамі, – паляпаў Мальчыка, – зразу і расшчытаюся.

У фірме “Грэнуй” яму ўручылі канверт з грашамі і бэтэкамаўскую касету з ролікам. Мальчык нагадаў графік выхаду рэкламы і выйшаў з офіса. У батанічным садзе ён пералічыў грошы, выцягнуў з пачка дзвесце долараў, зайшоў у “Эдэм”, выпіў яблычнага соку і падаўся ў рэкламнае агенцтва.

Калі Улад пералічваў грошы, яго пухлыя рукі дрыжэлі.

– Гэта табе, – працягнуў Мальчыку.

Дома Мальчык аддаў маме пяцьсот грывень, а трыста пакінуў сабе. За гэтыя два дні мама змарнела, яна надоўга адыходзіла з дому, размаўляла з адвакатам, сноўдалася па кватэры, перабіла шмат посуду і спаліла чайнік.

У Мальчыка ўжо выветрыўся смак першай рэкламнай здзелкі, калі пасля работы Улад прапанаваў падвезці яго дадому. Мальчык сеў на задняе сядзенне між двума незнаёмымі мужчынамі, і перламутравы “Опель” колеру згусцелай крыві памчаў праз увесь горад. Мальчык расказваў Уладу, як весела было ў дзеда ў Жалезным Хутары, як лазіў па яблыкі ў чужы сад і сабака здзёр з яго штаны.

– А дзвесце долараў з канверта ты выцягнуў таксама весела? – спытаў Улад.

Мальчык залепятаў штосьці няскладнае і папрасіўся выйсці, але цвёрды локаць штурхнуў пад дых, ён закашляўся і заплакаў.

Улад Казленка сядзеў ля шафёра спінаю да Мальчыка і курыў цыгару.

– Дзела не ў двох сотнях баксаў, – сказаў Улад, – дзела ў прынцыпе. Ты аказаўся нячэсным Мальчыкам, а я такога не прашчаю. Ты ж зарабіў сваі дзвесце п’яцьдесят баксаў на працэнты, але хацеў надуць мяне яшчэ на дзвесце.

Двое качкоў у скуранках моцна трымалі яго за рукі. Яны выехалі на мост. Аўтамабіль сцішыў ход і прыціснуўся да пешаходнае броўкі. Мальчык укусіў мужыка, які сядзеў злева, і спрабаваў адчыніць дзверы. Барукаючыся, яны выбілі ва Улада цыгару.

– Укіньце этага дзелавара ў воду, – гаркнуў Улад, – хай ахалоне!

Мацакі ўхапілі яго за рукі, за ногі, разгайдалі і перакінулі цераз парэнчы. У паветры Мальчык перавярнуўся і цяжка ўдарыўся аб ваду, але апёк не так удар, як ледзяная вада. Халодныя іголачкі ўпіліся ў цела. Ён вынырнуў, хапаючы ротам паветра, і па-сабачы загроб да берага. Недзе побач плюхнуў у ваду кейс, і з маста ўчуўся крык Улада:

– Слыш, ты! Як выплывеш, дык не прыходзь! Я цябе ўволіў!

Кейса Мальчык не шукаў, вада была цёмнаю. Ён гроб пад мостам, падобны на спуджаную мокрую мышку, паўз бетонныя апоры да асветленага рачнога палаца, адкуль далятала музыка. Ад холаду і роспачы цокалі зубы,

гусла кроў, мокрыя валасы залеплівалі вочы. Грэбці ставала ўсё цяжэй, цела ўжо ледзьве слухалася. Мальчык адчуваў, што не даплыве да берага, і паспрабаваў крычаць. На мосце нехта п'яна вылаяўся і голасна зарагатаў. На набярэжнай, абапёршыся локцямі на парэнчы, стаяла светлакосая дзяўчына і самотна курыла. Завостраны зрок улавіў вугольчык яе цыгарэты і доўгія ногі. Дзяўчына была ўжо блізка, голасна білася аб ваду музыка начнога клуба, прагрукатаў на мосце электрацягнік, і тады цела скурчыла сутарга, правую нагу скруціла, ён зноў крыкнуў, захлынуўся вадою, грабануў рукамі, паглядзеў на асветлены рачны палац, на недасягальную дзяўчыну, на аўтамабілі, што праляталі ў разлівах электрычнага святла, на шалёны вячэрні горад, на ўсеянае зоркамі красавіцкае неба і адчуў, як стала лёгка і абыякава, і вада ўжо не пекла холадам. Чародка рыбак праплыла над ім, кранаючыся валасоў, што гайдаліся, нібыта багавінне. З рота вырвалася паветра, а адна вялікая бурбалка здзімалася і надзімалася. У бурбалцы ён пабачыў азызлы твар Улада, пачуў смех Дзевачкі; маладая мама несла яго на руках, а ён трымаў блакітную кульку і глядзеў на святочных людзей, на яшчэ жывога тату, на Бодзю ў школьнай форме і з шакаладным марожаным на палачцы, на партрэты сур'ёзных мужчынаў над калонаю; чуў узнёслыя маршы, радасны смех і падмоцнены дынамікам урачысты голас; бачыў цесную гасцінку на Ветраных Гарах, сваю маленькую калыску, маму, якая з усмешкай працягвае да яго рукі, такую маладую і падобную на Дзевачку, тата, што абдымае маму і спрабуе адабраць у яго пустышку; але цёмная рыба варухнула губамі, і вялікая далікатная бурбалка трэснула, распырскваючы на тысячы кропель яго маленькае і грэшнае жыццё.

## Багдан ЖАЛДАК

### Свінапас

Абнаўлялася лісцейка. А Мегедзь сядзеў і так глыбока думаў, што тройчы забываў, пра што. О: пра красу роднага краю. Ды была францужанка адна, чамусь не ставіла яна сваю закавычку. Да залікоўкі. А ў гэты момант чамусьці глядзела далёка-далёка. Ведаць бы – куды.

Вось якраз пра яе і думаў ён, седзячы сярод шоргату юнага вецця: яе шэрыя вочы наогул ніколі не засяроджваліся на блізкіх прадметах, гэта ён дакладна прыкмеціў. Калі цягнуў "шпору". Такая маладая сабою, тварам далікатная, целам мажная – пракляццем яна стала для Мегедзя, проста пракляццем...

І носам шморгаў пакорліва, і пацёпваўся, і моргаў – яна не хацела гэтага бачыць, імкнучыся вачыма ў далечыню.

"Каб яны табе павылазілі".

Ён сядзеў і так салодка ненавідзеў яе і нечакана ўбачыў побач у трыццаць восьмым аўтобусе. Нічога дзіўнага – кватэры выкладчыкаў межавалі з інтэрнатам.

Ды так блізка, у-у, ненавісная. І адступіцца няма куды. І пагляд яе ненавісны, кінуты ўдалеч. Тут, не ў аўдыторыі, ён мог вольна яе не баяцца. Усе трыццаць хвілінаў вылупліваўся на яе. Бессаромна – погляд яе шэры лунаў недзе там, за праплываннем пабудоў, за мігценнем вецця. Аўтобус пакалыхваў яе поўныя грудзі пад стракатым шоўкам блузкі, і Мегедзь цераз пасажыраў глядзеў туды.

І пакуль тросся ў аўтобусе, да яго прыйшло каханне.

Гарабенка сядзеў за абшарпаным ім жа сталом, бяссільна ўціскаючы ў яго акурак.

Калі Мегедзь адчыніў дзверы і ўвайшоў у пакой, там пахла дарагой парфумай. Гарабенка зноў запаліў акурак, які стырчэў у роце, тытунём перабыў парфумы. І захадзіўся яшчэ раз перапісваць верш. Старшакурснік. Нос яго дыміць. Пыхкаючы натхненнем.

Мегедзь трымаў у руках пляшку, аднак не наважваўся перапыняць Гарабенку, хоць у галаве калацілася гайдальная мелодыя, якая так нечакана ўвайшла ў яго жыццё, уварваўшыся ў рытмічнае пахістванне трыццаць восьмага аўтобуса...

Калі Гарабенка паступіў ва ўніверсітэт, ён стаў на ўсю моц піць. Хто пытаўся, ён тлумачыў, чаму: за яго нядоўгі век гарэлка пяць разоў падскоквала ў цане, і, як толькі ў рукі пападалі грошы, трывога сціскала яго, што будзе і шосты. І тады ён чытаў усім свае вершы, адразу іх лаючы, маўляў, я быў дужым, прыгожым, разумным хлопцам. І вось такога цудоўнага хлапца я загубіў.

Мегедзь яшчэ раз рыпнуў дзвярыма, кашлянуў.

– Гарэлка – сіла, а спорт – магіла! – крыкнуў ён, працягваючы наперад пляшку і спрабуючы як наймацней бліснуць вачыма.

Гарабенка ж нават не глядзіць, не падымае вачэй ад стала, а доўга і ўважліва ставіць кропку.

– Піць не буду, – варушыцца яго верхняя губа.

Мегедзь стаіць ля дзвярэй, прытуліўшыся да пляшкі, і не верыць.

– Хоць крышачку, ну, сімвалічна...

Яго бянтэжыць такая метамарфоза. Што здарылася з сябрам?

– Вось ува што я тут ператварыўся! О! – Ён тыркае Мегедзю аркуш з радкамі.

Той бярэ, але не чытае.

– Пляваў я на гэты, – крыўляецца, – кееўскі вялікадзяржаўны ўніверсітэт! Разумееш, дружа, я ўжо забываю словы.

Мегедзь затрос галавою, што разумее, пасоўваючы па сталу бутэльчыну.

– Хутка ўжо занава буду іх вучыць, бы нейкія чужыя. Ды мёртвую мову, аказваецца, прасцей зберагчы, разумееш? І не малі. Не буду.

“Я ж закахаўся”, – хацеў прызнацца Мегедзь.

– Хоць кілішак, – настойваў ён.

– Сталіца! Пляваў я на гэткую сталіцу.

Ён выцірае губы і доўга яшчэ кпіць са сталіцы, вяжучы на шыі дарагі гальштук. Мегедзь стаіць і нічога не разумее.

– Хоць кропельку... – нудзіць ён, бо сплывае тое музычнае калыханне ў трыццацьвасьмёрцы.

На гэта Гарабенка нічога не адказвае. У яго з’явілася іншая мэта. Якая – ён не раскрывае. Ён хапае верш, пхае ў кішэню і разам са сваімі каштоўнымі пахамі ўцякае цвярозы.

Тады Мегедзь грукнуў аб стол, утаропіўся ў сцяну і пачаў прыгадваць дэталі, якія адбыліся ў аўтобусе.

Раніцою ён прачнуўся ў сваім ложку ў пінжаку і штанах. У іх жа ён пайшоў у агароднінную. Там ён стаў з празрыстым мяшочкам ля квашаных агуркоў, і, злавіўшы момант, падняў свае вочы на прадаўшчыцу. Тая не вытрымала доўга. Ён ведаў.

Дык вось, пахмяліўшыся паўмяшочкам расолу, ён яшчэ крыху адышоў, далей пачакаў, покуль адпусціць. І паехаў на залік.

Ягонае страшэннае вымаўленне змусіла нарэшце францужанку на яго глянуць. Яе позірк вярнуўся для гэтага з далечыні і сфакусаваўся на Мегедзе. Яна ўбачыла юнака, але ён быў для яе толькі кароткагаловым студэнтам.

– Ну, ну. Альон.

У галаве яго так сцялася, што ўсё вылецела прэч. Мегедзь засаромеўся і пачырванеў мацней за Кіеўскі ўніверсітэт. Яе погляд зноў павярнуўся кудысьці за вакно, рука з ланцужком падперла завостраны профіль. Мегедзь маўчаў, як сала ў пасылцы. Вакно клятчаста адбівалася ў яе зрэнках і іскрыла рудаватыя кучары над чалом...

Потым францужанка сказала:

– Бон. Скажыце, я ж ад вас не патрабую многа? Ну вывучыце хаця б авуар і савуар. Тады і прыходзьце. Арэвуар.

А на букет яго так і не глянула.

Мегедзь яшчэ доўга сядзеў і адчуваў, як універсітэт пусцее. Ён нёс букет парожнімі калідорамі. Сесія канчалася, кожная аўдыторыя была застаўлена кветкамі, у такую пару ўніверсітэт перапоўнены неўласцівымі пахамі.

Ён заходзіў у кожныя дзверы, вымаў са слоікаў расліны, прыгортваў іх. Яго букецік загубіўся недзе паміж іншых кветак. Пахучы, ён выйшаў на свежае паветра. Так дайшоў да крытага рынку, дзе ўсё гэта оптам прадаў перакупшчыцы.

Ён зноў ступіў на той навошчаны паркет. Некалькі год таму на першым уступным іспыце атрымаў двойку. З экзаменацыйным лісточкам у руцэ ён зняў у калідоры чаравікі і ўвайшоў да дэкана, адчуўшы пальцамі гладзенькі холад. Потым абачхаў дэкану ўвесь стол і расплакаўся, працягваючы экзаменацыйны лісток. Дэкан трохі паўзіраўся ў яго постаць, потым выклікаў старшыню экзаменацыйнай камісіі.

– Дапамажыце хлапчыне.

Босых ён тут не бачыў ніколі.

Мегедзь падшмаргнуў сваю зялёную сопліну і апынуўся ва ўніверсітэце. А дэкан яшчэ даўгавата сядзеў, думаючы, гледзячы на бліскучы шарык на ручцы ўласных дзвярэй, якія зачыніліся за бялявым хлопцам...

Цяпер жа Мегедзь слухаў словы дэкана, не разумеючы, адно ўхопліваючы сэнс: стыпендыя накрылася.

Прыкрасць расла паволі – яго ганіць чалавек, якога ён лічыў за роднага бацьку, і ён з дакорам глянуў на дэкана. Не ведаў ён, што перад гэтым тут была францужанка і гутарылі яны доўга, і яна, аднак, не хацела нічога разумець, а на паўслове яго абарвала, грукнуўшы дзвярыма. Дэкан доўга разглядваў іх, дэрмацінавыя, бо на чарнаце іхняй пазначыўся непакорны рух яе бліскотных кучараў...

Мегедзь, умомант страціўшы адзінага чалавека старэйшага пакалення, якога шанаваў, кінуўся ў запаветнае месцейка ў яблыневым садзе пад інтэрнатам.

Ён блукае ў скопішчы дрэў. Лётае ветрык, выдзьмухваючы з веццяў пахі квету. Мегедзь, высмаркаўшыся, уцягвае ў сябе пахкае паветра. Нетрыветры ахутваюць яго, ён валэндаецца сярод іх да забыцця, палохаючы афрыканцаў, якія цалуюць бялявых старшакурсніц...

Дрэвы, здаецца, расступіліся перад яе вакном. Гэта ж трэба, якраз тады, калі яе дужыя пальцы ўзялі акорд і над славянскімі садамі залунала даў-

няя французская песня. Тая, што нарадзілася для Мегедзя ў трыццаць восьмым аўтобусе...

Мегедзь застыў. Сеў.

Упершыню раяль граў так блізка. Кожны гук гэтага чорна-блішчастага інструмента пацаляў усярэдзіне Мегедзя ў адпаведны званочак! Яны ціхенька дзынкалі там, дзе знаходзіцца душа.

Ён зразумеў, што ўсё, што было дагэтуль, – адно толькі раяль, і ўсё ў ім расступілася перад мелодыяю, якая ахоплівала, а потым напаўняла. Ужо той раяль калаціўся замест сэрца – і там, за вакном, таксама! А голас яе французскі, неспадзявана моцны, злятаў над усімі сполахамі струн і рассыпаўся незразумелымі да болю іншаземнымі словамі. Быццам шалёным яблыневым кветам абсыпаўшы Мегедзя, чаго ўжо чалавек вытрымаць не здольны.

Паветра знізу было пахкае, а ўгары ў ім грувасціліся хмаркі – гэта першае, што ён уцяміў, калі песня сціхла.

Грукнула крышка раяля, усё прапала. Ён адарваўся ад зямлі і паляцеў туды, дзе пахнуць пялёстачкі. Ён кідаўся ў яблыні, нібы ў марскую пену. А потым зноў прыходзіў пад яе вакно і падаў там. Потым сядаў. Далей зноў узнімаўся ў пахі, зноў і зноў у густы яблыневы вір. Ён стрэне, стрэне яе ў гэтым садзе. Яна ўбачыць у ім Гамера. Вось. Потым яны гаварыцьмуць аб красе роднай прыроды, доўга, покуль прачнецца тая прырода ў іх...

Шал наляціць на іх, маладых, і – панясе, памчыць, нібы магутны эскалатар, абоіх... ой, не, нельга, ніяк нельга думаць пра такое!

Шубухнуў дождж. Павеяла зямлёю. Вакно зачынілася.

Гарабенка штораз кудысьці таямніча знікае і штораз не прызнаецца... Чамусь ён беражэ цвярозасць, хаця студэнты раз'ехаліся на канікулы, негры паехалі гуляць у Англію, а іх бяляўкі – на Чарнамор'е.

Мегедзь застаўся ў інтэрнаце, адчуваючы сябе Рабінзонам Круза, якога ён тут спазнаў і палюбіў. Ён не паехаў у вёску, каб не бачыць яе цяпер наогул.

– Кожнае сяло мае свайго ідыёта, – прыгаворваў старшыня сельрады, выпісваючы яму пашпарт, – дык наша нарэшце пазбавілася.

Аднагодкі Мегедзя з войска ўжо папрыходзілі, яго ж туды не ўзялі з прычыны бяльма. Тады ён і вырашыў, што час. Тады і падаўся ў Кіеў, каб перамагчы гэты горад, бо быў адзіны на ўсю вёску, хто пісаў вершы.

Калі ён паступіў, адразу ж выпрасіў у метадысткі фірмовы бланк з пячаткаю і напісаў свайму колішняму старшыні пачціва: маўляў, жывыздаровы, навучаюся ў ВНУ, чаго і вам жадаю.

На лета ўлаштаваўся правяраць квіткі ў транспарце і тым харчаваўся. "Жэ сэ, цю авэ", – штурхаў ён пасажыраў нібы незнарок. Вечарамі вецер гуляў парожнім інтэрнатам, кожны пакой свяціўся аголеным ложкам; гэтае месца, здавалася, і не было ніколі заселеным. Асабліва, калі ажываў у Мегедзі спеў з таго запаветнага вакна...

Аднойчы ў пустэчы Мегедзь выразна пачуў крокі. Ён праз шчыліну вызірнуў – у калідор з таго канца заходзіў Гарабенка.

Мегедзь абрадаваўся надзвычайна і залез у пылюку пад ложак. Дзверы адчыніліся ключом, і зайшлі дзве нагі. А далей – яшчэ дзве нагі зайшло, жаночыя, на высачэнных абцасах.

"Гаў!" – ужо амаль жартануў Мегедзь і тут пачуў раптам:

– Жё нэ савэ па, кэ цю эцюды франсэ.

Паркеціны пад ім распаўзліся, бэлькі і перакрыцці разышліся – Мегедзь паляцеў у чорную глыбіню – ГЭТА БЫЎ ЯЕ ГОЛАС!

– Не, – адказаў, быццам нічога не здарылася, Гарабенка, – гэтую кніжку вывучае мой сябра.

Сябра ляжаў за паўметра і ўжо пачаў стагнаць з адчаю – ён аддаў бы ўсё на свеце – і пашпарт аддаў бы! – толькі б выскачыць з пасткі...

– Во як жывуць паэты, – радавалася далей яна.

– Я вывучаю гэтую весь кнігу. Амір – гэта...

– Твой кумір, – смяялася яна.

Потым Гарабенка загаварыў пра сляпцоў-кабзароў, і Мегедзь паволі разумеў, што йшлося пра Гамера.

У яблыні пайду, каб шчыра
На волі вывучаць Аміра, –

цытаваў сябе Гарабенка, тупаючы падборамі аб паркет.

“Вось яна зараз, вось-вось, нахіліцца і зазірне пад ложак, – пакутаваў Мегедзь. Якія вочы будуць у яе, Госпадзе, і якія вочы, Госпадзе, будуць у мяне”, – скурчваўся ён у мыш пад тым ложкам. Але яны селі-такі на ложак, і Мегедзь адсунуўся ў куток. У іх там чмокнуў корак і зацурчала па шклянках віно.

Размовы іхняй Мегедзь ужо не цяміў:

– ...гекзаметр, ...бустрафеддон...

“Толькі б не зазірнула, толькі б не зазірнула... – маліў пад ложкам Мегедзь. – Я памру”.

Тут у паветры пылішчы было болей, чым паветра, – ухапіўшыся за нос, ён нема ляжаў на падлозе.

Знянацку галасы на паўслове абарваліся. У гэтай надзвычай напружанай цішы Мегедзь адчуў надзею. Аднак тут ён убачыў ля сваго аблічча краватку й кашулю Гарабенкі. Купа вопраткі хутка расла – стукнулі аб падлогу яе імпартныя туфлі, а зверху ўсё гэта накрыла яскравая чырванашоўкавая блузка...

– О-о-о! – прастагнаў нарэшце Мегедзь, калі матрац вельмі ўвагнуўся, спружыны загрымелі, нібы разладжаны раяль, заглушыўшы яго енкі і іхнія пацалункі.

Ён рыпеў зубамі, каб не вырвалася слова, а вібрацыя ложка пыліла й пыліла, аддаючы балюча ў галаву, ён штосілы прыціснуўся да паркецін – дрыжэла ўсё ў ім, ён адчуваў ціск невыказны, быццам на яго накаціўся той чорны раяль... Адзіная думка, якую ён запомніў, была: “Але ж Гарабенка вывучае не французскую, ён жа ў англійскай групе...”

Спружыны напіналіся і напіналіся над ім, знясільваючы яго, ложак, тузаючыся, паступова адпаўзаў ад сцяны, услед за ім поўз на спіне і Мегедзь. А потым усё зноў пайшло да сцяны, а голас Мегедзя адчайна скуголіў яму, што гэта не яна, што гэта не яна, што гэта не яна, што гэта не я...

Лежачы ноч пад ложкам, ён страціў свайго сябра, страціў сваё каханне.

Зноў пачаўся навучальны год.

Быў вечар. Яна выйшла на вуліцу пасля кафедры і сказала:

– Цьху.

Там яе прапясочылі, бо яна цягне ўсю кафедру назад – у яе выявіўся найніжэйшы сярэдні бал, плюс вонкавы выгляд выкладчыка ўніверсітэта, зняважа да калег і нецярпімасць.

Чырвоныя водсветы ўніверсітэта знябарвілі яе стракатую блузку.

Потым яна абаперлася аб дрэва і так стаяла, пакуль прыехаў аўтобус, па-змяінаму засычэўшы дзвярыма. Вобмацкам увайшла і паехала слепа. Абраза душыла, і яна горка зморшчылася, калі пачула над самым вухам:

– А ваш?

– Мой?

– Так, ваш.

Яна прыжмурыла вочы і, здзіўленая, пабачыла імі Мегедзя.

– Бон суар, Мегедзь.

– Квіточак ваш, калі ласка.

– А...

Яна выняла талон з сумкі. Ён хвільку ўзважваў яго ў руцэ, бы якую дзівосу, зыркнуў на яе з-пад ілба. І раптам кінуўся наперад, штурхаючы і бянтэжачы людзей у аўтобусе.

Потым хуценька вярнуўся з прабітым лісцікам паперы.

– Арыфметыку, грамадзянка пасажырка, у школе, мабыць, вывучалі?

Ёй здалося, што яна вісіць у паветры.

– Вывучалі, я пытаю вас?

Аўтобус глядзеў на іх. Яна глядзела на Мегедзя.

– Я арыфметыку вывучала, Мегедзь.

– Тут я вам не Мегедзь, я на працы. Дык вось, – ён выразна памахаў прадзіраўленаю паперкаю, – кантрольная прабіўка. А гэта вось – ваш талон. Ну што, колькасць дзірак аднолькавая?

Ён упершыню не заікаўся.

– Божа мой, я зараз праб'ю... – пачырванела яна яшчэ болей.

– Не, дзіркі не аднолькавыя, – заўважыў лысаваты пасажыр.

– Вы едзеце даўно, я прымеціў – ад універсітэта, і вы падманваеце кантралёра, вось, – Мегедзь высока задраў талончык, – так што давайце штраф плаціце, а не "зараз праб'ю", – гучаў яго голас.

– Так, ад самага ўніверсітэта і села, – дадаў пажылы ў салатным.

Яна ўспыхнула чырваннаю мацней за сваю кофціну, а ён голас свой падымаў, пакуль не давёў яго да крыку:

– Не затрымлівайце кантралёра, штраф плаціце!

– Як вы так можаце, Мегедзь...

І вось нарэшце яны сустрэліся поглядамі.

Ён удыхнуў. Але вытрымаў.

– Тры рублі.

– Тры. Вось. Тут. Бярыце.

Яна тыцнула яму кішэньку. Ён няспехам, пальчыкам, расшпіліў, вытрас. Доўга лічыў медзякі. Хоць і слаба іх бачыў. Але:

– Два дзевяноста восем! – аб'явіў ён. – Вось так!

Яна зноў і зноў перакопвала сумачку сваю, рухі ў яе былі паспешныя, імклівыя, а такія прыгожыя.

– Ну?

Перакапаўшы ўсё і не знайшоўшы там нічога, яна доўга глядзела на Мегедзя.

А потым усміхнулася аднымі вачыма сваімі, хіснула густымі кучарамі і прамовіла:

– Свінапас.

## Аляксандр ЖОЎНА

### Удоўка

Яна, пэўна, і сёння вісіць у той жа пазалочанай раме, на той жа сцяне, злева ад дзвярэй у суседні пакой музея. Мы не бачыліся ўжо шмат гадоў. Цяпер я жыву ў маленькім глухім мястэчку, далёка ад Кіева, даўно не юнак, і мне нават складана ўявіць, якою б магла быць нашая сустрэча калі-небудзь. Ці пазнала б ты мяне, мая ўдоўка, сярод незлічонасці твараў? За гэтыя гады паўз цябе прамільгнула іх тысячы, і я ведаю, большасць з іх, адчуваючы, як замірае ўласнае сэрца, схваляванае пяшчотаю і журбою, прыгажосцю і вечным смуткам, маўклівым паслухмяным поглядам прызнаваліся табе ў таемным каханні, выяўлялі свае збянтэжанасць і шчасце бачыць цябе. О, я ведаю...

Тады быў я зусім юнаком. Першы курс Кіеўскага ўніверсітэта. Не дастаўся мне інтэрнат і давялося наймаць кватэру.

Роза Ісакаўна, так звалі ўладальніцу двухпакаёўкі ў старым пяціпавярховым будынку, у двары, па вуліцы Саксаганскага. Калі я згадваю сямідзесяцідзевяцігадовую, маленькую і амаль круглую яўрэйку, у маіх вушах заўжды чуецца глухое шорганне. Бадзяючыся па кватэры, яна не падымала ног і шоргала растоптанымі, у лапіках пантофлях па старому паркету. Да таго шоргання далучаўся скрып рассохлае падлогі, важкае гартаннае дыханне старой жанчыны, і ўсё гэта, змешваючыся, гучала агіднаю, брыдкаю мелодыяй. Паўтараючыся з дня ў дзень, яна рабілася нязноснай, скрабла па сэрцы, выводзіла з цярпення. Мяне нудзіла ад яе, ад высокіх панурых пакояў, у якіх ніколі не бывала сонца, ад затхлага паветра, старога адзення, паху цвілі, нафталіну і яшчэ нечага такога, што бывае толькі ў старым будынку са старой уладальніцай. Найнязносна рабілася тады, калі горад ахутваў змрок і Роза Ісакаўна зацята нагадвала, што час класціся спаць. Яна спачывала ў вялікім пакоі, на шырокім драўляным ложку, над якім вісеў жоўты спарахнелы дыван. Галаву яе абцягваў вылінялы з карункамі каптурык, і бабуля была настолькі падобная на гогалеўскую Каробачку, што мяне ахоплівала непрыемнае пачуццё. Штовечар я вельмі баяўся, каб яна не прыснілася мне ноччу. Накрыўшыся коўдрай з галавою, каб адгарадзіцца ад яе цяжкага дыхання з суседняга пакою, я дажываў да світанку.

Дык вось можаце сабе ўявіць, колькі было ў мяне жадання ісці дамоў, калі канчаліся заняткі. Я выходзіў з чырвоных пахмурых сцен універсітэта, пераходзіў дарогу і цягнуўся да сквера, дзе высіўся помнік Шаўчэнку. Стары стаяў на высокім пастаменце з непакрытаю галавою і сурова глядзеў на прахожых. З паднятымі каўнярамі, з раскрытымі парасонамі, яны мітусіліся навокал, бы пчолы, і ўсе кудысьці спяшалі. Ужо амаль тыдзень над горадам вісела цёмнае металёвае неба, у паветры насіўся дробны дажджавы пыл, і ў большасці людзей на душы пераважалі пачуцці скаванасці і брыды. Я мінаў сквер і крутымі каменнымі сходамі спускаўся да вуліцы Рэпіна. Там у адным з утульных колішніх будынкаў і месціўся музей расейскага мастацтва. Каб адтэрмінаваць пасля заняткаў вяртанне ў сваё непрыветнае жытло, я прыходзіў сюды амаль штодзень, і мяне ўжо пазнавала музейны вахцёр. Я падымаўся на другі паверх і крочыў у залу, дзе побач з многімі вісеў адзін партрэт. Не буду таіць, я хадзіў сюды так часта, вось ужо працягам усяго апошняга месяца восені, толькі дзеля яго.

І калі б у суседняй зале вісеў партрэт Моны Лізы, я ўсё роўна прыходзіў бы менавіта да гэтага партрэта.

Святло і цень, белае і чорнае, нічога лішняга, амаль скупы сум і глыбокая пяшчота. З чорнага мораку свяцілі дзве плямы: жаночы твар і рука, змучана аслаблыя пальцы, да якіх мімаволі цягнешся, каб падтрымаць, безыменны скавалі два заручальныя пярсцёнкі. Хваравіта бледнае, амаль празрыстае аблічча, праз якое праходзіць погляд і заглыбляецца глыбока-глыбока ў небыццё, на якое нельга наглядзецца, колькі б ні прыходзіў сюды. Маленькая медная таблічка ўнізе на раме: "Я.Ф. Капкоў, "Удоўка". З самага першага дня я наткнуўся на партрэт вачыма і адарваў іх толькі тады, калі адчуў на сваім плячы дотык, і старэнькая цётачка – музейная назіральніца, сумна пасміхнуўшыся, спавясціла, што музей зачыняецца. Калі я выйшаў на вуліцу, горад быў у вячэрніх агнях. Гэта быў дзень, калі я захварэў. На хваробу, якая не лечыцца таблеткамі, і ад якой не хочацца папраўляцца нават пад страхам фатальнага канца. Чым больш я ўглядваўся ў гэтае аблічча, тым больш мяне вабіла ў музей. І я ўжо не мог дачакацца канца заняткаў, каб бегчы туды. Чацвер стаў маім найцяжэйшым днём – не працаваў музей у гэты дзень.

І вось аднойчы, у той самы слотны асенні дзень, калі па-асабліваму настроена душа і хочацца сумаваць, я стаяў насупраць партрэта і слухаў, як за вакном свішча вецер, сыплючы ў шыбы дажджавым пылам. І раптам у нейкі момант адчуў, як да майго пляча дакранулася чыясьці рука. Я азірнуўся. Але тое, што я гэта зрабіў, зразумеў толькі з часам. Толькі з часам я ўсвядоміў, што гляджу ўжо не на партрэт, а на рэальна існуючае аблічча, такое ж хваравіта бледнае і празрыстае, хаця пад вачыма, здаецца, было болей сінізны, а на валасах блішчэлі кропелькі дажджу. Ад неспадзяванкі я адкрыў рот, відаць, з намерам нешта вымавіць.

– Ціха! – перасцераглі мяне незнаёмыя жаночыя вусны, – не трэба... Я ведаю... Хадземце...

Не ўсведамляючы, што да чаго, я, бы ачмурэлы, пайшоў поруч з незнаёмкай. І толькі калі мы ступілі за парог музея, асмеліўся спытаць, куды мы ідзем, і яшчэ раз глянуў на яе аблічча. Тут, на вуліцы, я заўважыў, што яно было не так падобнае на партрэт, і паспеў падумаць, што тады проста быў у такім стане, калі пасля працяглага назірання адлюстраванне пэўны час застаецца пазначаным у мазгу.

Жанчыне было недзе каля трыццаці. Цяжка было вызначыць яе ўзрост больш дакладна, бо твар яе, як я сказаў ужо, здаваўся надта стомленым і хваравітым.

– Я ведаю, вас цікавіць "Удоўка"... Ці не хацелі б вы мець яе копію? – спытала яна.

Твар мой заззяў.

– Ну што ж, – працягвала незнаёмка, – у мяне ёсць копія, і я магу вам яе даць.

Гледзячы перад сабою, яна йшла хуткім крокам так, што я ледзьве паспяваў за ёю.

Такім чынам, я не заўважыў, як мы апынуліся ў пад'ездзе шэрага будынка з дапатопным, абшарпаным ліфтам у металёвай клетцы. Мы падняліся на апошні паверх. Жанчына выцягнула з кішэні ключ і адамкнула дзверы кватэры. Яна ўключыла святло, і пад столлю загарэўся цьмяна-чырвоны абажур. Гэта быў даволі прасторны пакой з двума невялікімі ваконцамі на скошанай сцяне, якая адначасна служыла дахам будынка, ад чаго складва-

лася ўражанне, што мы трапілі на паддашак. У той жа час пакой здаўся мне прыветлівым. Хаця на жытло ён быў падобны мала, хутчэй на мастацкую майстэрню. Вельмі пахла фарбамі, у кутку ля шафы стаялі securitiesрознага памеру багетныя рамы, пакой амаль увесь быў завешаны карцінамі, малюнкамі; пасярэдзіне, павернутая да вакна, стаяла драўляная канструкцыя, на якую было нацягнутае белае палатно. Каля дальняе сцяны віднеўся ложак, над якім навісала яшчэ нейкая мудрагелістая надбудова з багетам бронзавага колеру, і ложак знаходзіўся, нібы ў цёмнай нішы.

– Праходзьце. Можаце агледзецца. Я мастачка... – мовіла незнаёмка.

Я ўвайшоў у пакой і стаў разглядваць малюнкі, што віселі на сценах. Раней мне ўжо даводзілася бачыць нешта падобнае. Але такі жывапіс мала вабіў мяне. Шчыра кажучы, я не разумеў яго і лічыў, што разумець у ім няма чаго. Гэта былі абстракцыі з рознакаляровымі, хаатычна расхрыстанымі нервовымі штрыхамі, з трохкутнікамі ды паралелаграмамі, з якіх глядзелі чырвоныя вочы, з шалёнымі незямнымі пейзажамі, разарванымі хмарамі, часткамі чалавечага цела і зноў тымі ж чырвонымі вачыма і яшчэ шмат дзіўнага і незразумелага.

– Мяркую, яны вам не спадабаюцца. Толькі не змушайце сябе гаварыць мілыя рэчы, – сказала гаспадыня, і голас яе падаўся мне крыху раздражнёным.

Я прамаўчаў.

– Разумею, гэта не зусім тое, чаго вы чакалі, – працягвала яна. – Хіба не так?

Я павярнуўся да незнаёмкі і, здаецца, зразу адвёў погляд, захапіўшы з сабою той імгненны трывожны бляск яе вялікіх цёмных вачэй, што глядзелі на мяне так смела і шчыра. Сапраўды, дзіўнымі, надта дзіўнымі былі яе вочы.

У пакоі павісла нейкая асаблівая ціша, і толькі пошум дажджу па ваконных шыбах напамінаў мне, што я ў пакоі, а не ў магіле. Мы абодва маўчалі, і я не ведаў, што рабіць далей. Мне хацелася спытаць пра “Удоўку”, але язык мой бы наліўся свінцом, а губы склеіліся і высахлі. Здаецца, быццам не я, а хтосьці іншы падняў мае вочы, і той жа час яны зноў сутыкнуліся з адкрытым непрыхаваным паглядам, поўным шчырасці і цвёрдай адчайнай жарсці.

– Я ведаю, аб чым ты хочаш спытацца, – неспадзявана звярнулася жанчына, – чакай... чакай... я не падманула цябе. Ты ўбачыш сваю “Удоўку”, што б там ні было.

Я глядзеў у яе аблічча і не разумеў, пра што яна, чаго хоча ад мяне. Увогуле, што адбылося? Адкуль і навошта ўзялося? Але з кожнай хвілінай я праймаўся пачуццем, прыроду якога не мог вызначыць, якое прыцягвала, зближала яе са мною, а чырвонае паўсвятло яе пакоя падымала ва мне штосьці лагоднае, інтымнае, што прымушае, бы ад марозу, здрыгацца ўсё цела. Напружанасць расла. Ціша і жывое святло пакою працягвала хваляваць. І тут я раптам задыхнуўся. О, як гэта было нечакана.

– Глядзі! – галасна зашаптала яна, скідаючы з сябе паліто.

І ў той жа міг я ўбачыў, як у чырвоным прыцемку перада мною калыхнуліся вялікія жаночыя грудзі. О, як тое было нечакана.

– Не хавай вачэй. Ты чакаў не такую “Удоўку”, я ведаю... Глядзі, не саромейся.

Яна гаварыла хутка, усхвалявана, і адчувалася, як пад яе вялікімі грудзямі білася такое ж вялікае гарачае сэрца.

– Я таксама сягоння ўдава, хоць згубіла я не мужа, не мужчыну, у мяне іх было насамрэч не так многа. Я аўдавела большым, больш важным. Мяне пакінула маё мастацтва, зразумей, якое я любіла болей, чым якога-сьці мужчыну, а разам з ім – і розум, нармальны сэнс. Цяпер я ўцякла з вар'ятні, так-так, у якой знаходжуся болей двух тыдняў па ўласным жаданні, і заўтра павінна вярнуцца назад. Я атрымала волю ўсяго на адзін дзень, каб зайсці ў музей. Я была пэўна, што ўбачу цябе каля яе. Я назірала за табою раней. Ты штодзень ходзіш да яе. Чаму? Што можна выглядзець за столькі дзён на яе простым абліччы, банальнай пляме святла?

На імгненне яе губы скрывіліся, быццам ад вострага болю, а вочы звузіліся, мне здалося, яна пасміхнулася.

– Усю сябе, гарэнне душы, думкі я прысвяціла поўнай свабодзе, сапраўднай жарсці фарбаў, новаму выяўленню, якое б бянтэжыла, уражвала, збівала з ног, разрывала душу і сэрца. І што ж? Усё, што ты тут бачыш – абсалютны нуль. Ды я яшчэ не зусім страчаная. Ты не разумееш мяне. Але ты з тых, я ведаю, што могуць разумець глыбіннае і па-сапраўднаму хварэць на мастацтва. Але чаму ўсё ж "Удоўка"? Скажы мне, чаму? Чаму каля яе стаяць зачараванымі ўжо некалькі пакаленняў? Чаму я бачу іх узрушаныя вочы? Чаму ты ідзеш толькі да яе і любіш толькі яе? Не адводзь вачэй. І не думай цяпер пра яе. Табе ж хочацца бачыць маё цела. Яно і сапраўды прыемнае і зразумелае. Што ж, будзем рэалістамі, але глыбокімі, да самага дна. Будзем рэалістамі, але на вастрыі рэальнасці.

Чым далей яна гаварыла, тым складанейшаю рабілася яе мова. Я бачыў, як плакалі яе вочы, і было ў іх нешта ад вар'яцтва. Яна стаяла перада мною зусім без адзення, і ў мораку па яе абліччы каціліся слёзы.

– Я разумею, табе зараз цяжка стрымліваць сябе, – працягвала яна з ранейшай жарсцю, – не праціўся сабе, рабі, што табе хочацца... Усё, што захочаш... І не спрабуй зразумець, навошта я гэта раблю. Я сама таго не ведаю, ды то ўжо не я, то мая жывёльная сутнасць, то ўсё, што засталося ад мяне. Распранайся і ні аб чым не думай.

Яна рушыла да мяне.

– Скажы, табе ж не хочацца ісці сёння дамоў?

– Не, не хочацца, – дрыготкім голасам адказаў я.

Мне сапраўды не хацелася вяртацца ў свой пакой, прапахлы цвіллю і нафталінам, і слухаць дакучлівую мелодыю старога жытла старой уладальніцы. У вакно працягваў сыпаць дождж, а ў пакоі было ціха і цёпла. Каля мяне ўпершыню так блізка было непрыкрытае жаночае цела.

"Хто яна? Чаму менавіта я? Не, яна не прастытутка, гэта бясспрэчна. Хворая? Так. Але яна сама аб тым сказала, значыць, кантралюе сябе. Хто яна? Хто?" – працягвалі снавацца ў маёй галаве пытанні, аднак яны не былі ўжо настолькі важнымі для мяне. Я адчуваў, што паволі яны страчвалі сваю актуальнасць, і нарэшце мне ўжо было ўсё роўна: хто яна? Чаму? Навошта? Мне хацелася яе, яе жаночага цела, і ўсё навокал было схавана барвовым туманам.

– Заставайся, іншага дня не будзе, – зноў пачуўся яе ціхі, пяшчотны голас, і я адчуў на сваіх плячах яе лёгкія рукі.

– Хай святкуе рэалізм! Хай гэта будзе і мая эпоха адраджэння.

Здаецца, упершыню за сёння пасміхнуліся яе вочы, вялікія, цёмныя.

Пахла фарбамі, свежаю пасцеллю і яшчэ нечым непаўторным, але, здавалася, такім знаёмым, родным, цёплым, адчайна блізкім. Пахла целам, вуснамі, каханнем, пахла ўпершыню. А за вакном стагнаў вецер і сыпаў

дождж, і ў пакоі было ўтульна, і побач на ложку, пад мудрагелістаю сценкаю з багетам, ляжалі два стомленыя целы.

– Табе было хораша?

– Так, як ніколі!

– Табе ўпершыню было так хораша?

– Так! І як ніколі!

Я глядзеў у цёмную столь, што здаваўся начным небам, і сам я нібы распластаўся на яго ватных аблоках, і было тое ўсё незвычайна, нечпадзявана. Кончыкі тонкіх жаночых пальцаў лагодна песціліся ў маіх валасах.

– Хочаш, заставайся. Хочаш, заставайся тут назаўсёды.

– Сапраўды, мне б хацелася застацца тут назаўсёды.

– Ты не шкадуеш, што прыйшоў сюды? І табе болей не хочацца "Удоўкі"?

– Цяпер мне хочацца толькі цябе і нікога іншага.

– Ты абяцаеш мне, што болей не будзеш хадзіць у музей?

– Абяцаю.

Яна заціхла на імгненне. І раптам нечакана, неяк дзіка, нервова засмяялася. І ў смеху тым чулася ці то ўрачыстасць здабытае перамогі, ці то адчай нейкага цяжкага паражэння. Памятаю, мне стала не па сабе ад таго смеху, і я зноў адчуў нейкую ўнутраную насцярожанасць. У пакоі павісла маўчанне. Мы доўга ляжалі нерухома, не размаўляючы. І раптам мне здалося... Я зірнуў і зноў убачыў на яе вачах слёзы. Яна імкліва паднялася.

– А цяпер апранайся! Апранайся! Мне цяпер... Мне трэба ісці, – рашуча, неспадзявана рэзка і нават груба загаварыла яна.

– Як жа гэта? – разгубіўся я.

– Некалі, некалі. Заўтра... Заўтра, калі захочаш, я чакацьму на цябе. Зараз мне патрэбна... Неабходна гэта здзейсніць... Так, мне што б там ні было трэба здзейсніць яе. Нарэшце... Цяпер я ведаю! Ведаю! – працягвала яна, нібы ў забыцці, і я бачыў у чырвоных прыцемках яе ўтрапёныя вочы. На нейкі момант яна быццам вярнулася да памяці і неяк ціха, ціха і лагодна пасміхнулася мне.

– Не крыўдуй, але цяпер мне неабходна пабыць адной. Ідзі, апранайся. Ідзі хутчэй, хутчэй! – загаварыла яна з надрывам, і вочы яе зноў наліліся няпэўным агнём, а твар скрывіла цяжкая нервовая грымаса. Яна амаль выпхала мяне з пакою і замкнула за сабою дзверы.

Хутка я апынуўся на вуліцы і быў нямала збіты з панталыку. Я падняў галаву. Вакно на самым версе шэрага будынку жэўрала цьмяна-чырвоным святлом. Зірнуў на гадзіннік. Да світання заставалася не так ужо й многа. Турбаваць у гэткі час Розу Ісакаўну было б болей чым неразумна. З-пад лаўкі выкаціўся цёмны клубок, бліснуў на мяне зеленаватымі вачыма і яўкнуў. Я падняў каўнер і паплёўся начным горадам.

На другі дзень пасля заняткаў я без асаблівых цяжкасцяў адшукаў шэры будынак. Цяпер, пры дзённым святле, выявілася, што дах будынку быў бура-чырвоны, пакрыты фігурнаю чарапіцаю. Я падняўся на апошні паверх і пазваніў у дзверы. Настрой у мяне быў прыўзняты. Я прадчуваў радасць. Мне было няпоўных васемнаццаць.

Аднак ніхто не адгукнуўся, і я сышоў уніз.

"А можа, мне проста не захацелі адчыніць", – думаў я.

Я прыходзіў сюды яшчэ вечарам, потым назаўтра, але дзвярэй ніхто не адчыняў.

Мінула некалькі дзён. Я не заходзіў у шэры будынак, але нешта моцнае

і нястрымнае цягнула мяне туды. І вось аднойчы, калі я зноў стаяў каля дзвярэй яе кватэры ўжо без асаблівай надзеі і хацеў было павярнуць назад, рыпнулі і адчыніліся дзверы насупраць. У іх стаяла якаясь бабуленцыя, падобная на стэпавага сусліка, калі той становіцца на заднія лапкі.

– Вам каго? – спыталася яна хрыпла.

– Мне... я прыйшоў...

І толькі тут я сцяміў, што нават не ведаю яе імя.

– Я да мастачкі.

Старая здзіўлена абгледзела мяне.

– А вы што, хіба не ведаеце?

Яна глядзела на мяне, нібы ў чымсьці хацела пераканацца.

– Што... не ведаю?

– Каці болей няма. Яна ў бальніцы была... Вы сапраўды нічога не ведаеце?

– Не... А што здарылася?

– Яна зарэзала сябе. Там у бальніцы, уначы, калі ўсе спалі. Раніцай кінуліся, а з яе ўся кроў выйшла... Сама сябе... Пры ёй запіску знайшлі, каб яе пахавалі каля бацькі. Яны ўсе мастакамі былі. Месца там каля іх не засталося, дык яе спалілі... Скрыначка такая, а ў ёй попел. Каб умясцілася.

Я слухаў старую, і мне здавалася, што я трызню, што ўсё гэта адбываецца ў сне, ад якога хацелася спешна прачнуцца. Але старая працягвала гаварыць і была абсалютна рэальнай.

– А вы хто ёй будзеце? – ледзьве пачуў я пытанне, якое старая, відаць, задавала ўжо паўторна.

– Я?.. Я знаёмы... Я ёй карціну заказваў, – наштосьці зманіў я і, здаецца, пачырванеў.

– У мяне ключ ёсць, – абыякава мовіла старая, – хочаце, я адамкну, паглядзіце? Можа, і знойдзецца ваша карціна. Цяпер яны ўсе нічые. Каму яны трэба?

Я пацісную плячыма, бо і сапраўды не ведаў, ці варта мне туды заходзіць.

– Хадземце, – запрасіла старая, выцягваючы з-за пазухі ключы, – тыдзень таму заходзіць да мяне ранкам, кажа, няхай у вас будуць. А браць там, апроч карцін, няма чаго. А куды іх? Яны ж нікому не патрэбныя, – буркатала яна, – а па ключ ніхто не йдзе... Павінна ж ці міліцыя, ці нейкая ўласць... А мы не свайго нічога браць не будзем, праўда ж?

Старая адчыніла дзверы. Як і тады, у пакоі пахла фарбамі. Усё было на сваіх месцах. Нават коўдра на ложку, як і ў той вечар, была нядбала змятая і спаўзла на падлогу. У ціхім пакоі віселі яе дзівосныя карціны з чырвонымі вачыма, якія, здавалася цяпер, апусцілі свае пагляды. Няўжо гэта насамрэч было? Няўжо са мной? І раптам я зірнуў, і мароз прабег у мяне па спіне. Мы сустрэліся поглядамі. З раней белага палатна, што было нацягнута на драўляную канструкцыю, закаванае, аблытанае, з нейкіх разнамасных штрыхоў, бязладных палосак, вяровак, калючага дроту, ланцужкоў, на мяне глядзела велізарнае вока, скрыўленае ў цяжкай грымасе. Жахлівым было тое вока. І мне ўраз убачыўся той вечар і яе скрыўленае ў такой жа хваравіта-нервовай грымасе бледнае аблічча. Страшнае, незвычайнае, агіднае вока глядзела цяпер на мяне яе вачыма, і была ў ім ці то дзікая ўсмешка, ці гнеў, ці неасяжная бясконцая туга і пустэча. Цяпер мне здавалася, што з цёмных сценаў, з кожнай карціны

падняліся і ўтаропіліся ў мяне іх крывава-чырвоныя вочы. На хвілю ў мяне памутнела ў галаве, і я пахіснуўся.

– Ну што, знайшлі? – пачуў я хрыпкі насцярожаны голас.

– Што? – не зразумеў я.

– Ну, карціну сваю.

– А... Не, не-не, – рашуча адказаў я. – Яе тут няма... Скажыце, а як яе прозвішча? Калі б я захацеў адшукаць яе магілу...

– Каці? Яны – Капковы. Бацьку яе так звалі, гэта дакладна, а ў Каці ўжо іншае было... І не скажу вам.

– Капковы? – здзівіўся я. – Як жа? Як жа Капковы?..

– Капковы, а што? – таксама здзівілася яна.

– Не, нічога... Проста... Хто ведае... Але няўжо... Даруйце, што патурбаваў вас. Мне час ісці.

– Нічога-нічога, – адказала старая, няма за што. Ідзіце з Богам. Шкада, што карціна ваша не знайшлася.

Мы развіталіся.

Калі я выйшаў на вуліцу, у твар мне дыхнула свежае вячэрняе паветра з першым у гэтым годзе марозам. Я брыў па вуліцы, і пад маімі чаравікамі патрэсквала і ламалася нядаўна народжаная тоненькая і кволая ледзяная скарынка дробных лужынаў. Я завярнуў за рог. І толькі з часам зразумеў, куды цяпер ішоў. Перада мною былі прыступкі музея. Я прачыніў дзверы і ўвайшоў. Як і раней, чыстае, празрыстае аблічча зноў асвятляла ў той дзень мае вочы. Але было цяпер у ім нешта новае, незнаёмае, што рабіла новым і незнаёмым маё адчуванне, незразумелым і нявызначаным, здавалася, амаль нерэальным, а набытым у даўно пачутым сне чужога жыцця, што з гадамі, цяпер я ведаю, будзе забывацца, адыходзіць у небыццё, пакідаючы аднак вечны прыхаваны смутак і загадкавую тугу.

## Яўгенія КАНАНЕНКА

### Шлюбная ноч

Лепшыя хвіліны начэй кахання – шчырыя размовы пасля. Калі гаворыцца пра тое, пра што маўчыцца ў другія разы. Калі яно так для абоіх, значыць, іх сапраўды шмат што яднае. Гэтыя двое былі разам больш за два гады. А потым яны вырашылі, што здольныя стварыць сям'ю. Узялі шлюб і адмовіліся ад кантрацэптываў. Яму крыху за пяцьдзесят, ёй крыху за трыццаць. Цяпер яны ў падарожжы, у гасцініцы, куды прыляцелі адразу пасля рэгістрацыі шлюбу. За вакном мігцяць агні незнаёмага горада. На стале – два келіхі і недапітая пляшка дарагога шампанскага. Над ложкам – мяккі свяцільнік. Магчыма, толькі што яны зачалі дзіця.

– У мяне двое дарослых дзяцей. Але ўпершыню я рабіў гэта свядома, – кажа ён.

– У мяне ў мінулым толькі ненароджаныя дзеці, – адказвае яна.

Яе рэпліка правісае без адказу. Гэта – быццам абвінавачанне ўсім мужчынам свету, што цяпер неяк недарэчна. Каб вярнуць каштоўныя хвіліны гармоніі, яна весела дадае:

– Але ж мяне мая мама ўсё-такі нарадзіла.

– А мая мама, – нясмела пачынае ён, – мая мама... Ты ж бачыла яе. Яна была яшчэ жывая, калі мы пазнаёміліся, дык ты, мабыць, помніш, якою яна была...

– Яна была вельмі старэнькая, – асцярожна кажа яна.

– Але і маладзейшаю яна была... страшненькая. Яна была гарбаценькаю, а над брывом выпнулася пухліна, якая яе зусім унікчэмлівала... Але людзі любілі яе, бо яна была незвычайна прыветнаю. Проста звышнатуральна лагоднаю. Сапраўдная сястра міласэрнасці. Хаця па бальніцах усё жыццё прапрацавала не медсястрою, а санітаркай... Я ніколі не пытаўся яе пра бацька. Не ў тым, зрэшты, быў трагізм майго дзяцінства. У нашым мястэчку амаль ні ў кога з маіх равеснікаў не было бацькі. А ў каго быў, дык нейкае п'янае пудзіла... Але я не пра тое... Калі я ўжо быў дарослым, мама расказала мне, што на пачатку пяцідзясятых некалькі год працавала ў Карэліі ў будынку інвалідаў вайны.

– Я чула пра такіх. Туды іх усіх пазвозілі з базараў, дзе яны жабрачылі адразу па вайне.

– Там былі і такія, хто нават жабрачыць не мог. Зусім страшныя калекі, потым я сустракаў у кнігах іх назву – basket-baby. Гэта пра інвалідаў без рук ды без ног...

– І я чула такую назву. У адной амерыканскай кнізе...

– Дык вось, мама расказала, што выявіла асаблівую ўвагу да аднаго з такіх. Прыходзіла да яго пагутарыць уночы. У яго не было ні рук, ні ног. Але мужчынскае ўсё ў яго было. І яно, пэўна, мучыла яго. І мама сказала: "Я яго спачатку рукою супакойвала, а потым і ты заклюнуўся..."

– Як жа яны сумелі, што і ты заклюнуўся? – з пакутаю ў голасе спыталася маладая жонка.

– Я і сам пасля тае размовы часам пра гэта думаю... Гэта адзінае, што маці апавядала мне пра майго бацьку. А можа, усё было зусім не так, і мама расказвала нешта такое, чаго насамрэч і не было.

– Навошта ёй было хлусіць?

– Яна не хлусіла. Але магла нешта выдумаць і паверыць у сваю выдумку. Пашкадавала хлопца-калеку з прыгожым тварам. А я з'явіўся ад чагосьці больш банальнага.

– Лічу, што твая мама сказала праўду.

– Мажліва. Але гэта цяпер не вызначыш. Мінулае знікае без следу.

– Ты і ёсць след.

– Не ведаю. Адзінае, што праўда, – бачыў запіс у яе працоўнай кніжцы. Яна сапраўды працавала ў Карэліі ў прытулку для інвалідаў тае вайны. Звольнілася за некалькі месяцаў да майго нараджэння. Выходзіць, месца майго нараджэння менавіта там... А месца нараджэння – тое мястэчка, дзе мы з ёю жылі, пакуль я не паехаў на вучобу ва ўніверсітэт.

У пакоі гасцініцы стала ціха. А хацелася гаварыць яшчэ. Гаварыць і слухаць. Але слоў не было. Нарэшце ён зноў парушыў маўчанне:

– Нават калі гэта і выдумка... гэта, мабыць, яшчэ адна народная гісторыя пра ўкраінскі сэкс... ці пра ўкраінскае каханне...

– А чаму пра ўкраінскае? У тым страшным будынку... былі ўсе... народы.

– Мама казала, што праявіла асаблівую ўвагу менавіта да таго basket-baby, таму што калі ў яго гнаіліся абрубкі, ён трызніў па-ўкраінску. Яна нават не сказала "па-ўкраінску". Сказала: "па-нашаму".

За вакном мігцелі агні чужога горада. Над ложкам у нумары пяшчотна трымцеў свяцільнік. Муж і жонка моцна абняліся ў горычы салодкае шлюбнае ночы.

## Любоў ПАНАМАРЭНКА

### Дзікун

Лёгкім туманам-смугой пакрыта раніцою вада. Яна даходзіць да самага гарода, і Ніну ласкочуць яе пахі – пахі каранёў, цвілога голля і свежасці. Бульба толькі вытыркаецца і яшчэ нічым не пахне, матычыць яе – чыстая марока: там кусцік узышоў, а там не. Ніна схіляецца нізка, выполвае пустазелле і плача. Плача, бо муж падаўся на заробкі, два месяцы ад яго няма і почуту. А ёй – і гэты гарод, пятнаццаць сотак, і кватэра, і лецішча, і праца, і дзеці. Адпачынак яшчэ не брала, прадпрыемства ледзьве дыхае, і ходзіць яна туды час ад часу.

Калісьці яны з мужам працавалі ў адным калектыве, а як пачаліся перабоі з зарплатаю, ён звольніўся і падаўся вандраваць. Вяртаўся дамоў раз на некалькі месяцаў і не прасыхаў ад гарэлкі.

Ніна толькі што адвезла дзяцей да маці на канікулы, а сама засталася ў Лубнах, хадзіла на працу, даглядала гарод, жыць жа неяк трэба.

Матычыць яна бульбу і раптам чуе:

– Добрай раніцы, маладзічка!

Адказала, але галаву не падняла. Па голасу – нехта чужы.

– Рыбкі не хочаце?

– Не.

– А на чаўне пакатацца?

– Не.

– А з мужчынам пагутарыць?

– Адчапіцеся, няма калі мне!

Разагнулася і пабачыла ў чаўне чалавека – кудлатага і з барадою, босага і ў шортах. Ён глядзеў на яе і ўсміхаўся. Ніна ўхапіла матычку і кінулася ў хату. Грушы, яблыні і абрыкосы абступілі будынак, бы варта. Ніна забегла ў пакой, упала на ложак і ляжала, уткнуўшыся поглядам у столь. Не цярпела, каб чапалі, калі яна не хоча гэтага.

Па абедзе сабралася ў горад, а калі села на веласіпед, убачыла на вішні сваю хусцінку. Забыла яе на гародзе, а той, з чаўна, прынёс. Ды вяртацца, каб забраць хусцінку, не стала.

Зноў прыехала на лецішча праз два дні, досвіткам выйшла на гарод і – абамлела. Увесь гарод быў выпалаты. Яна села на мяжы, агледзелася: можа, суседка, цётка Галька? За тое, што памагла ёй чараду адпасвіць. Ужо схапілася ісці да цёткі, як бачыць – плыве той, на чаўне, пад бераг да кустоўя правіць.

– І для мяне мо' цяпер хвілінку знойдзеце?

– Дык гэта вы тут гаспадарылі? А якое вы мелі права, хто вас прасіў? Я ў сельраду заяўлю.

– О, можаце хоць бы й зараз. Вунь старшыня на “бобіку” коціць.

Па дарозе і сапраўды ехаў старшыня сельрады, ён так утаропіўся на іх, што затуліў тварам усё бакавое шкло.

– Што вам ад мяне трэба?

– Якая ж вы тугадумка. Ды заляцаюся я да вас, хачу завесці з вамі раман.

– У мяне, да ведама, муж і дзеці!

– Муж на заробках. А хутчэй – недзе бадзяецца, п'янствуе. Дзяцей вы адправілі да родзічаў, выходзіць, перапон няма.

– Хам, валацуга! І вам не сорамна?

– Хіба крыху. Але прырода бярэ сваё. Я мужык ого-го!

Захлынаючыся ад абурэння, Ніна пабегла ў хату, кінула матычку і – да суседкі. Цётка Галька напекла высокіх пірагоў і якраз вымала з печы.

– Ды хто яго ведае, што за чалавек. Дзеці Дзікуном дражняць. Наш ён, вясковы, але даўно ў Кіеве жыве. Як маці памёрла, пахаваў і два гады не ехаў. А цяпер вось прыбіўся сюды, страху саломаю паднавіў. Перанёс ад мяне тое, што ў хаце засталося. Валерыем яго зваць. Якуюсь інвалідскую пенсію атрымлівае. Ды вунь яго двор, па той бок вады, між альшын.

– Гэта вы яму пра мяне расказалі?

– Я, а хто ж? – цётка Галька глянула шэрым даверлівым поглядам. – Спытаў, я й расказала. Ты вось таксама пытаеш.

Яна дала Ніне гарлач малака і два пірагі.

Калі Ніна ступіла ў свой двор, убачыла Валерыя.

– Што вы тут робіце?

– Як што? Рыхтуюся да штурму цытадэлі. Вунь траву пакасіў у двары.

Тут яна заўважыла, што трава і сапраўды ляжыць роўненька скошаная.

– Хам! – крыкнула Ніна.

– Валацуга! – дадаў ён.

Ён, мабыць, не прызнаваў іншага адзення, апрача шортаў, стаяў босы, барадаты і ўсміхаўся. Яна грукнула дзвярыма так, што пасыпалася крэйда, але штурм працягваўся, працягваўся да вечара. А потым усе яе бастыёны бясслаўна палі. Яна, праўда, праганяла яго, абаранялася, крычала. Розум яшчэ лямантаваў, а душа і цела ўжо здаліся.

І затым надышла тая ноч, ад якое пачаўся іншы адлік часу... Яны разам купаліся, загаралі, гулялі начамі ў стэпе, палілі вогнішчы. Спачатку асцярожнічалі, а потым страцілі пільнасць, і Дзікун вольна гаспадарыў на яе гародзе і ў двары. Насіў ёй з поля абярэмкамі кветкі і высціláў імі падлогу. Неяк пайшоў дамоў і да вечара не было. Ніна ў халаце пераплыла на другі бераг, пайшла да яго хаты. Дзверы былі адчыненыя. Яна ціха зайшла і пабачыла ў ложку Валерыя – ляжаў, абхапіўшы рукамі галаў, і стагнаў, яе крокаў не пачуў. На стале высілася гара таблетак... Аслупянела.

Моўчкі паплыла дадому, а калі ён з'явіўся, спытала:

– Чаму ты бледны, у цябе нічога не баліць?

Нечаспадзявана ён выбухнуў гневам, яна змоўчала, і болей да гэтага не вярталіся.

Неяк яны з Валерыем рвалі абрыкосы. Ён на вершаліне трусіў дрэва, а яна стаяла пад залацістым градам, што сыпаўся на галаву.

Раптам убачыла на супрацьлеглым беразе белы аўтамабіль, які супыніўся, і з яго выйшла бялявая прыгожа апранутая жанчына. Валерый таксама ўбачыў і ўздыхнуў:

– О, глядзі, да валацугі Дзікуна прыбыла ў карэце папялушка!

Потым Ніна бачыла, як ён пераплыў раку, зайшоў у двор і моўчкі выпхаў машыну на вуліцу.

Свята працягвалася. Ён навучыў яе ныраць далёка і глыбока, навучыў абліваццa халоднаю вадою, купацца ў любое надвор'е. Калі пачалі капаць бульбу, Ніна прывезла дзяцей, на яе ўпалі новыя клопаты.

Не забавіўся з візітам і вандроўны адыходнік. Ніна цяпер разрывалася між горадам і сям'ёю, якая атабарылася ў Лубнах. Наведвалася з лецішча, каб наварыць, памыць, прыбраць, Валерый заўсёды прыязджаў з ёю, чакаў за некалькі будынкаў.

Мужу данеслі менавіта тады, як яна выйшла на працу. Той з'явіўся падвыпілы, упаў у калідоры на калені перад калегамі і зарыдаў.

– Здрадзіць мне, і з кім – з Дзікуном! Які жах, якая ганьба!

Пасля таго штораз ездзіў з ёю ў сяло і нават насіў з агарода бульбу.

Нечакана звалілася восень. Задажджыла. Аднойчы яна стаяла ў цэху каля вакна і ўбачыла Валерыя. Ён паволі ехаў на веласіпедзе, да багажніка была прывязаная скрынка. Швэдар і кірзавыя боты яму, здавалася, замiналі. Ён раптам так паглядзеў у яе бок, што Ніне захацелася прайсці скрозь сцяну. Такім яна і запомніла яго навек: едзе проставалосы барадаты чалавек, паварочваецца да яе і глядзіць, быццам праломвае сцены.

Лецішча прадалі ў лістападзе, а ў снежні муж зноў падаўся на заробкі. Ніна павезла аддаць ключы новым гаспадарам. Вада замёрзла, нібыта ніколі там не кацілася зялёная хваля, не йграла ранішняе сонца. Яна прайшла цераз лёд, да хаты Валерыя не было ніводнай сцежкі. Здалёк убачыла на ручцы ўваходных дзвярэй нешта белае. Гэта была калісьці забытая ёю хусцінка.

Цётка Галька сказала, што Валерый паехаў у Кіеў на аперацыю, вясною абяцаў вярнуцца. Але ён не вярнуўся. Хата павалілася, не дачакаўшыся гаспадара. Можа, ён памірыўся са сваёю жонкаю, гора часта збліжае людзей. А можа, палюбіў нейкую іншую.

Праз год Ніна развялася з мужам, перабралася ў суседні раён да маці. Часам яна бывае ў Кіеве, прадае малако, тварог ды смятану. І доўгім трывожным поглядам праводзіць прахожых.

## Васыль ПАРЦЯК

### У нядзелю рана

– Ніка, Анна, вы спіце яшчэ?

– Нашае, Дзмі, даўно ўжо адаспалася.

– Гэта... Прысніў я такое штосьці... Быццам усе чацвёра мы яшчэ маладыя, недзе нават да вянчання... Дый нібыта гэтак жа, як цяпер вось, разам усе. І такое, скажу вам, паміж намі здарылася!.. Расказаў бы, ды баюся, што Яўдоха ўжо прачумкалася...

– Я чую-чую, стары сараматнік!

– О, відзіце...

– Не бойцеся, Еўда! Адно язык у яго салёны, а сны даўно ўжо прэсныя.

– Не судзі, Ніка, па сабе. Ранічкою бываю йшчэ цёплым!

– Лепш бы нехта, чым малоць пустэчу, устаў ды запаліў лямпу. На дварэ дзесьці ўжо дзень белы.

– Зараз, горачка, за-а, ліха яго, во цемра!.. О! – Ёсць! З дзяньком Божым вас!

– Дзякуй! І вас, Змітрочку!.. А ты, Ніка, падняў бы крыху накрыўку, упусціў паветра свежага, бо ад гэтага душку звон у галаве...

– Дый вызірні, братка, як там... Отча наш, іжэ есі на небесі...

– Гасподзіку, прымі шчырую малітву за Йванку дый Федзьку, абарані маіх дзетачак ад злое напасці, ад кулі, аблавы ды няволі...

– Багародзіца Дзева, радуйся...

– Матухна Божая, заступніца, укрый слядочкі нашага Васілька ад нядобрага вока...

– ...і Сына, і Святога Духа – Амінь!

– Мяце – свету не відно.

– Вецер? Са снегам?

– Уго... Тут, у хмызняках, яшчэ трохі гасне, а па вярхах аж свішча.

– Хм... Добра мяце... Як думаеш?

– Лічу, сёння можна.

– Ніка, я не дазволю!

– Супакойцеся, Ганна! Мы ж не дзеткі малыя.

– Дый так, Ганначка, хай сходзяць. Можа, у свеце якія змены, а мы тут закапаліся, як мышы...

– Адным словам, ладзьце хуценька есці, а пакуль снегавей, мы з Ніколкам раз-два і абернемся.

– Можа б, тое, Дзмі, забеглі да нашае Парасkі ды воўны прыхапілі? Яна мне вінная. Бо гэтую ўжо дапрадаем.

– Ты, жонка, звар'яцела?! За тою хатаю дзесьці вока ды вока. Калі Параска з Лесем яшчэ не ў Сібіры...

***

– ...а як быў ў чацвёртай клясе і вазілі іх, – помніце, летам? – лепшых вучанікоў да Варшавы...

– Як не помніць! Наш Іванка таксама тады ездзіў.

– Ну. Дык, чуеце, з'эканоміў з тых грошыкаў (Божухна, што там – на лёды з цукеркамі меў пару злотых!) і купіў мне такую доўгую вузенькую хвустачку...

– Ану, ціха!.. Не, здалося.

– Нешта доўга іх няма. Госпадзе, збаў і памілуй!

– Не бойцеся, Анна! Такое мяце, што ні стрэць кагосьці, ні следу пакінуць.

– Божухна, мы тут хоць неяк сядзім, а як там нашым хлопчыкам...

– Што паробіш, мужчынам так спрадвеку. Добра хоць дзяды нашы – пры нас... Але ж сапраўды нешта доўга няма іх...

– Нікола хоць і лае мяне, я пэўна, што ўсё тая навука іх звабіла. Тыя сечы ды прасветы, ды чытальні...

– Пабойцеся Бога, Анна, не пазбаўляць жа было іх свету!

– Свету!!! А цяпер во толькі й свету, што ў нетрах цёмных у хованкі гуляюць, а мы тут у дзірцы гібеем за тое, што іх нарадзілі.

– На ўсё воля Госпада. Я не наракаю...

– Такі ж дурная баба!

– ???

– Ды пра сябе я. Колькі сядзім тут, а я ўсё вуха да вакна хілю.

– Дзмітро гэта прыдумаў, як рабілі з Міколам падзямелле. І навошта,

кажу яму, лішняя валтузня? – Няхай, кажа, хоць крыху будзе здавацца, што ў хаце сядзім, а не ў яме. Нават фіранку сам павесіў, абы гліны не відно.

– А вось цяпер такі ідуць!..

– ...ды й у Федзевай хата згарэла.

– Вой! Зусім?

– Ушчэнт. Адны галавешкі пад снегам тлеюць.

– Нядаўна... А Грацунякова?

– Цэлая. У ёй саветы кварціруюць. Затое Палавічукову сельрада нейкаму падаляку прадала, ужо разабралі...

– ...

– ...

– Што думаеш, стары? Пакуль цэлая стаіць...

– Галава даражэй. Ты як, Ніка?

– Рыхтык!

– Но...

– Вось ногі, халера б яго...

– Дый мае знямелі.

– Што т-ты!.. Гады нашы...

– Але...

– Вывучыліся, бедакі...

– А што ж, калі па хмызняках ды сумётах.

– Дый да сяла ці блізкі свет!

– Бярыце кажух, кіньце на Міколу, бо нешта яго трусіць.

– Абы яшчэ не злёг, маё дзіцятка. Лягу каля яго, хоць крыху сагрэю.

– Дый я тое...

– А пра хлопцаў нічога...

– Дзе б то яны распыталі!.. Але ціха, збудзім.

– Ага, хай паспяць.

– Ну, ціха...

– Ужо ж...

***

– Дзмітрыку, а каторая ўжо гадзіна?

– Без чвэрткі дванаццаць.

– Апоўдні ці апоўначы?

– О! Ці не сказаў я вам, бабы, спім згодна з рэжымам. Цяпер пераблыталі час, дык што ноччу рабіцьмем?

– Вось так, Анна. Яго жалей, а яно будзе яшчэ выгаворваць... Ці ўжо ноч, пытаю?

– Ноч-ноч, Доця. Дай мне разак, дзве зарубкі зраблю. Бо гэтая кароткая ўжо шостая, трэ яшчэ адну доўгую, на заўтра.

– Лепш доўгую, Дзмі, зрабі заўтра пасля поўначы, інакш заблытаемся.

– Нікога я, Ніка, не заблытаю. А зраблю цяпер, бо нядзельку трэба не да поўначы, а да зорак шанаваць...

– ...

– Каторая там ужо, Дзмітрыку?

– Дваццаць і трэці дзень лістапада.

– Божа!

– Нічога, Анна, не сумуйце, яшчэ шэсць доўгіх зарубак – і будзем калядаваць.

– Як датуль нам не закалядуюць...
– Анна!
– Ды я што...
– А тое!., заткніся!
– Вой... напужаў.
– Кіньце, Ніка, што вы, далібог, як дзеці абодва?!
– А хай не каркае!
– Паводзьцеся, Ніколка і Анначка, ціха, бо прыйдуць жаўнеры з вялікімі псамі дый вас хопнуць.
– Вам яшчэ, Еўда, да жартаў...

***

– Агу, суседзі!
– Агу! Як спалася, Дзмітрыку?!
– Нічога, а як вы?! З нядзелькаю вас!
– Дзякуй! І вас таксама!
– Слухайце, што я насніў...
– Вой, ты зноў?
– Не замінай, старая. Сніў я, чуеце, што быццам узняўся ўраз вецер, недзе тут узняўся, і фіранку адхіліў, а за вакном бела-бела...
– Гэта на слабасць.
– У цябе, Анна, усё на слабасць. Лепш слухай!
– Дый такое тое святло белае ды глыбокае, ажно дрыжыць, такое глыбокае... І нейкая такая трывога, такая, чуеце... Яўдошка, Доцька, ты чаго?
– Дзмітрыку-у-у!
– О-о! Дык ты ж яшчэ не даслухала!..
– Дайце ёй, Дзмі, паплакаць. Тут такое, што як насядзе, само не адпусціць.
– Мне што... Святло паліць?

***

...сабе кажы, а я адно ведаю – добра, калі яшчэ зіму перабудуць, а вясною іх тут і следу...
– Чакай, баран, вясны – трава будзе!
– Кажу ж табе, Лондан яшчэ ў мінулым годзе...
– Здаліся мы, Ніка, Еўропе. Напомні сабе, як было па Першай сусветнай...
– Цяпер не той рой...
– Той саменькі! Што было па першай, будзе і па другой, ужо ёсць!
– Гэй, палітыкі! Аб іншым нечым, ад вашага крыку галава трашчыць.
– Так вось, Ніка, і тут брак свабоды. А, ліха яму, давай карты.
– Ды-ы... Абрыдлі ўжо карты.
– Маеце рацыю, Ніколка. Ты б лепш, стары, чым за карты, слова Божае пачытаў у нядзелю...

***

– А след-то, судя по всему, вчерашний?
– Да, если на чистое выйдет, наверняка замело, знатный был дуйник...
– На то и рассчитывали. Обычно след в след идут, а тут, вишь, беспечно...
– Разговорчики!

***

– “...бо з поўначы зло прывяду і вялікае няшчасце. Леў выходзіць са свайго гушчару, і той, хто нішчыць народы, вырушае з месца свайго, каб той край ператварыць на руіну, і спустошаны будуць гарады твае...”.

– Дзмі, там наверсе... Быццам нешта хруснула.

– Табе здалося, старэнькая. “Дык вось, падперажыцеся раднамі, плачце і галасіце...”

***

– А может, все же, товарищ капитан?..

– К чертям собачьим, лейтенант! Прошлый раз я двух бойцов положил, да трое раненых, а они под конец перестрелялись, бляди, в своем бункере... Приготовить гранаты! Сидоров, придержи собаку!..

***

– Дзмітрыку, чаго ты змоўк?.. Дзмі, я баюся, што ты чуеш?!

– Вецер з голых вершалін. Не бойся, Доцька, дай мне руку...

## Васыль ТУРБАЙ

### Яма

Не ведаю, у які момант абарвецца маё апавяданне, таму даруйце, калі яно будзе паспешлівым і блытаным – у мяне няма часу падбіраць словы. Хіба хто мог падумаць, што за нейкія двое сутак... Не, гэта нешта жудаснае, гэтага не ў стане спасцігнуць чалавечы розум...

У скверыку, на плошчы, гарадскія ўлады вырашылі ўзвесці новы будынак. Спілавалі дрэвы, пазвозілі матэрыялы, паставілі вагончыкі для будаўнікоў і сталі забіваць у зямлю бетонныя палі. Не магу зараз паведаць, чаму гарадская ўправа вырашыла ставіць будынак менавіта тут, у скверы, на цэнтральнай плошчы. Але якое ўжо гэта мае значэнне? Адным словам, прыцягнулі доўгашыюю смярдзючую машыну, якая чадзіла едкім дымам і безупынна бухала цяжкаю чыгуннаю бабаю ў жалезабетонныя стрыжні. Шэсць дзён звінелі шыбкі ў сумежных будынках ды ўздрыгвала пад нагамі зямля. Калі ж палі былі ўвагнаныя, машыну супынілі, будаўнікі паразыходзіліся, а на пляцоўцы застаўся толькі вартаўнік.

Стаяла восень. Вечарамі было ўжо халаднавата, і старэнькі дзядок, развёўшы цяпельца, грэўся каля яго ды слухаў, як падалі з высокага дуба жалуды. Аж раптам адтуль, дзе тырчэлі канцы паляў, пачуліся нейкія дзіўныя гукі. Быццам бы нехта соп і пакрэктваў, падымаючы нешта цяжкое. Стары падумаў, што на пляцоўку забрыў злодзей, каб нешта ўкрасці. Ён абышоў усё вакол, але нічога не заўважыў, хаця гукі працягвалі чуцца і далей. Стары напружыў слых і нарэшце зразумеў, што сапуць і крэкчуць недзе ўнізе, нібыта пад зямлёй. Тады ён пільней разгледзеўся і такі знайшоў тое месца, адкуль чуліся гукі: то была круглая дзірка, якая немаведама калі і як з’явілася на месцы адной з паляў. Адтуль і разносілася крактанне, быццам там нехта важдаўся. Дзядок уцяміў, што туды, мабыць, нехта шухнуў. Ён хацеў было аклікнуць бедака і спытацца, ці не трэба яму дапамагчы, але раптам убачыў, што з ямы высоўваецца

на паверхню парэнчы жалезнай драбіны... Стары перад гэтым крыху ўзяў дзеля сугрэву, але ж не столькі, каб такое падалося. Ён хацеў ужо схавацца за смярдзючаю машынаю, якая стаяла воддаль, ды не паспеў, бо з-пад зямлі вылезла высокая сухая постаць у доўгім плашчы і захадзілася атрасаць крысо. Твар прыбыльца нельга было разгледзець, бо ўжо добра сцямнела, аднак водбліск цяпельца на хвільку высвеціў вялікія чорныя вочы, якія трывожна бліснулі, убачыўшы чалавека. У дзеда ўсё адубела з жаху, ён не мог скрануцца з месца. А той, у чорным плашчы, атросшы гліну, мовіў: “Нічога тут не чапай. Я хутка вярнуся”. Сказаў і падаўся праз сквер у горад. Знік вельмі хутка, бы растаў у цемры. Ачуўшыся, стары зірнуў у яму, пакратаў рукою парэнчы драбіны, каб пераканацца, што яна сапраўды перад ім, і пабег да вагончыка тэлефанаваць у будаўнічае ўпраўленне. Там спрасоння выслухалі ўсхваляванага вартаўніка і параілі меней піць гарэлкі.

Раніцою брыгада будаўнікоў вартаўніка на месцы не заспела. Дый не да яго ім было, бо, убачыўшы замест адной з паляў дзірку, сабраліся ля яе і сталі меркаваць – адкуль яна ўзялася? Нарэшце сышліся на тым, што пад зямлёю была нейкая пустата, і паля туды правалілася. Гэта выглядала б вельмі праўдападобна, калі б не драбіна, што звісала ўніз і канец якой губіўся ў цемры. Хто паставіў у яму драбіну і хто па ёй спускаўся – сказаць не маглі. Тады ўспомнілі пра вартаўніка. Вырашылі, што гэта ён туды лазіў. Невядома толькі па што. Пазней з’явілася яшчэ адна версія: вартаўнік палез ноччу ў дзірку, і там з ім штосьці здарылася. Можа, страціў прытомнасць ці ўпаў ды забіўся. Паклікалі. Але з ямы ніхто не адказаў. Адзін будаўнік зняў фуфайку і хацеў спусціцца ўніз, ці няма там дзеда, аднак брыгадзір яму не дазволіў. З часам, яшчэ раз параіўшыся, вырашылі, што трэба такі палезці. Калі ў яме стаіць драбіна, то хтось жа па ёй спусціўся. Тады нікому і ў галаву не прыйшло, што па драбіне можна не толькі спускацца, а й падымацца ўгару... І той будаўнік палез. Калі знік у яме, зверху пачулі, як ён сказаў: “Тут нічога не бачна і холадна, бы ў лёху”. І ўсё. Як ні клікалі яго, ён болей не адказваў. Праз некалькі хвілінаў брыгадзір прынёс ліхтарык і палез услед. Зверху бачылі, як праменьчык святла слізгаў па сценах ямы, шугаў сюды-туды, а потым недзе прапаў. Брыгадзіра таксама не дачакаліся і, перапуджаныя, пабеглі тэлефанаваць ва ўпраўленне. Тады прыехаў начальнік і ўспомніў, як дзяжурная расказвала, што ноччу ёй тэлефанаваў вартаўнік. Падаліся да яго дамоў. Той ляжаў у ложку ў ботах ды фуфайцы і, нацягнуўшы да носа прасціradла, глядзеў на людзей звар’яцелымі вачыма. Хацелі ў яго штосьці выпытаць, але дзед толькі сварыўся пальцам: “Не чапайце там нічога. Ён хутка вернецца!”

У той жа дзень у цэнтральную аптэку горада зайшоў высокі мужчына ў чорным плашчы і папрасіў лекі для сваёй хворай дачушкі.

– Гэта вельмі дарагія лекі, – адказала яму аптэкарка. – Яны каштуюць дзвесце грыўняў.

Мужчына сумеўся, пераступаючы з нагі на нагу.

– Будзеце браць? – спытала жанчына.

– Ведаеце, – мовіў мужчына, і было бачна, што яму вельмі няёмка, – у мяне няма грошай. Але мне надта патрэбны гэтыя лекі... Без іх можа памерці мая дачушка.

– Я вас разумею, але ж...

– А без грошай вы мне не дасцё? – цалкам сур’ёзна спытаў мужчына.

– Не, без грошай нельга, – адказала тая і хутка схавала лекі.

Мужчына з аптэкі не выйшаў.

– А дзе мне ўзяць гэтыя дзвесце грывень? – спытаўся ён.

Жанчына змерала яго здзіўленым поглядам.

– Вы што, нідзе не працуеце?

Мужчына хітнуў галавою.

– Ну, не ведаю, – мовіла яна. – Схадзіце ў гарсавет, можа, дадуць вам нейкую дапамогу.

Мужчына пастаяў яшчэ трохі і выйшаў.

А каля ямы ўжо сабраліся людзі. Прыбыла "хуткая дапамога", пажарныя, міліцыя... Ніхто не ведаў, што рабіць. Пад зямлю лезці баяліся, добраахвотнікаў не было, а змушаць кагосьці спускацца ўніз ніхто не наважваўся, не хацелі браць на сябе такую адказнасць. Хадзілі вакол ямы, кідалі туды каменьчыкі, лічылі, за колькі яны даляцяць да дна, і дзівіліся, што не далятаюць. Ці было так глыбока, ці падалі яны на целы тых, хто знік у яме. Пад вечар, так ні да якога рашэння і не прыйшоўшы, гарадскі старшыня вырашыў патэлефанаваць у Кіеў. Расказаў усё, як было, і папрасіў дапамогі. Яго ўважліва выслухалі і паабяцалі назаўтра прыслаць ратавальную брыгаду.

Старшыня сядзеў пасля тэлефоннай размовы і, гледзячы ў вакно, думаў, што мала яму перад зімою клопату, дык тут яшчэ гэтая бяда... Аж раптам дзверы прачыніліся, і ў пакой зайшоў дзіўны мужчына ў доўгім плашчы.

– Ці не дасцё мне дзвесце грывень? – спытаў проста з парога.

Старшыня не адразу адказаў. Вельмі ж нахабным было запытанне. А калі схамянуўся, то не ведаў, як рэагаваць: засмяяцца, абурыцца ці проста выперці гэтага хамулу за дзверы. Аднак павёў сябе стрымана, як і належыць гарадскому старшыні, дый не ведаў, што гэта за тып і чаго ад яго можна чакаць.

– Вы хто? – спытаў праз паўзу, разглядваючы мужчыну. На крутога не падобны: плашч з пацёртым каўняром, твар змучаны, ажно пачарнелы, на чаравіках гліна... Пэўна, бомж нейкі. Але ж вочы не спітыя. Дый глядзеў ён адкрыта і з гонарам, быццам не прасіць прыйшоў, а забіраць сваё.

– Гэта не мае значэння, – адказаў дзіўны чалавек. – Вы можаце даць мне дзвесце грывень?

– Што, проста так вось – выцягнуць з кішэні і даць? – ледзьве стрымаў эмоцыі старшыня.

– Я не ведаю, як у вас гэта робіцца, але мне трэба грошы для лячэння дачушкі.

– А-а-а-а, – зразумеў нарэшце старшыня. – На жаль, нічым не магу дапамагчы.

– Тысячы год я ў вас нічога не прасіў і не прыйшоў бы да канца веку, калі б у мяне цяжка не захварэла дачушка... – спакойна мовіў мужчына ў чорным плашчы. – Мы ніколі не карысталіся лекамі. Гэта ўпершыню, з тых пор як жыву, у нас хтосьці захварэў. А жыву я, паверце, нямала...

– Ну, я б не сказаў, што вы гэткі ўжо стары... А вось што не хварэеце... Кожнаму б так.

– Дык вы дасцё мне дзвесце грывень?

– А дзе я іх вазьму? Я што, мільянер? І хто вы такі, урэшце?

– Мне сказалі, што вы можаце даць якую-небудзь дапамогу.

– Вы дзе жывяце?

– Я тут не жыву.

– Ну, дык чаго вы сюды прыйшлі? Звяртайцеся па месцы жыхарства.

– Я бы з задавальненнем, але там у нас... няма грошай.

– А ў мяне ёсць? Вунь з фінаддзела справаздача ляжыць – казна парожняя!

– Тады скажыце, хто можа мне даць гэтыя грошы?

– А я ведаю? Звяртайцеся да тых, у каго яны ёсць.

– А ў каго яны ёсць?

– Паслухайце, што вы ад мяне хочаце? – не сцярпеў гарадскі старшыня.

– Ну, вы ж усе тут карыстаецеся грашыма, значыць, у кагосьці яны ёсць?

Старшыня ўздыхнуў. Ён мог бы, пэўна, выштурхнуць гэтага назолу прэч, але здаровы глузд перамог і ён сказаў, абы той адчапіўся:

– Схадзіце вунь у той будынак насупраць, бачыце, “Алімп” напісана, – кіўнуў у вакно. То багатая фірма, можа, там дапамогуць.

Мужчына глянуў праз шыбу.

– У той?

– Але. Толькі там ужо, мабыць, зачынена. Падыдзіце заўтра ўранні.

Мужчына ў плашчы падзякаваў і выйшаў.

Следам за ім выскачыў у прыёмную і старшыня.

– Навошта прапусцілі да мяне гэтага вар’ята?! – закрычаў на сакратарку.

– Якога вар’ята?

– Які толькі што выйшаў!

– А хто выйшаў? – мовіла здзіўленая сакратарка.

– Спіце тут, ці што?! – грукнуў дзвярыма старшыня і зачыніўся ў сябе ў кабінеце.

Назаўтра зранку ратаўнічая брыгада з чатырох чалавек пры поўнай экіпіроўцы прыбыла на месца падзеяў: кіслародныя балоны, маскі, ліхтары, рацыі... Спускаліся ў звязку па два. Яма аказалася і сапраўды глыбокаю, бо, прайшоўшы метраў трыццаць, першая група перадала па рацыі, што дна яшчэ не бачаць. Але й пустот ніякіх у зямлі не выявілі, проста дзірка і драбіна. Можа, бункер нейкі падчас вайны быў... На гэтым сувязь з ратаўнікамі абарвалася, а яшчэ праз некалькі секунд страхавальныя ліны, якімі былі прывязаныя хлопцы, рэзка вышмаргнуліся з рук тых, хто трымаў іх наверсе, звіліся гадзюччам і зніклі ў яме. Ратаўнічую брыгаду чакалі болей за гадзіну, ды ўгору яны так і не падняліся. Тады зноў сталі тэлефанаваць у Кіеў, тлумачыць сітуацыю, казаць пра драбіну, якая немаведама-адкуль узялася ў той яме, пра тое, што з-пад зямлі ўжо не вярнулася шэсць чалавек і што трэба нешта рабіць, бо тут усе ў роспачы. Са сталіцы перадалі, каб яму накрылі і заўтра чакалі ўрадавую камісію.

Пасля гэтага будаўнікі падагналі кран, застрапілі шасціметровую пліту і накрылі ёю гарлавіну дзіркі. Работы болей не было, таму ўсе разышліся, пакінуўшы двух хлопцаў вартаваць.

Тым жа часам да будынка з шыльдаю “Алімп” падышоў высокі сухі мужчына ў доўгім плашчы. Твар яго быў яшчэ болей змораным, чымся ўчора, а каля вачэй з’явіліся цёмныя плямы. Ён правёў бяссонную ноч каля дачушкі, якая памірала ў яго на руках. Трымаў яе маленькую гарачую далоньку ў сваёй і расказваў дзіўныя гісторыі пра сатварэнне

свету. “Тата, а канец свету будзе?” – пыталася яна ціхім голасам, і ён пераконваў, што пакуль яна ў яго ёсць, канца свету не будзе. Тады яна пасміхалася шурпатымі губамі і прасіла, каб бацька расказаў ёй пра людзей. “Людзі вельмі дзіўныя, – казаў ён, прытульваючы яе руку да сваёй шчакі. – Яны дагэтуль яшчэ моляцца Богу, які стварыў свет і даўно забыўся пра яго. І праклінаюць мяне, які не зрабіў ім ніякага ліха, але ад якога залежыць, калі гэты свет згіне. Здавалася б, павінна быць наадварот – маліцца трэба мне і прасіць, каб я не разбурыў усё... Таму яны вельмі дзіўныя”.

Мужчына адкрыў цяжкія дубовыя дзверы і зайшоў у офіс.

– Мне трэба пагаварыць з дырэктарам фірмы, – звярнуўся да маладзенькай сакратаркі.

– Аб чым? – падняла тая нафарбаваныя вочы.

– У мяне надзвычай важнае пытанне. Так яму і перадайце.

Сакратарка зайшла да шэфа.

– Тут нейкі мужчына. Кажа – вельмі важнае пытанне.

– Што ён хоча? – пачулася з кабінета.

– Не ведаю, – пацiснула тая плячыма.

– Няхай зойдзе.

Дырэктар фірмы “Алімп”, нешта дапісаўшы, падняў вочы на худога мужчыну, які зайшоў у кабінет.

– Я хачу папрасіць у вас трохі грошай, – мовіў мужчына, прычыніўшы за сабою дзверы.

– І ўсё?

– Усё.

– Я жабракам не падаю! – рэзка адказаў шэф, заўважыўшы на просьбіце старэнькі, забруджаны зямлёю плашч.

– Справа ў тым, што я далёка не жабрак, але ў мяне... няма грошай.

– Хм, не жабрак, але грошай няма... Ну, клас! – дырэктар “Алімпа” прымружыў вочы. – А давай я табе пазычу? Пад працэнты... А?

– Разумееце, я ніяк не змагу аддаць вам ні грошай, якія прашу, ні адсоткаў, – адказаў той. – Але мне шмат не трэба – усяго дзвесце грывень. У мяне захварэла дачушка, яна можа памерці. А гэта вельмі страшна, калі яна памрэ. Паверце, будзе вельмі страшна...

– У кожнага сваё гора, але грошай я вам не дам. У нас не дабрачынная арганізацыя. Я зарабляю іх вось гэтым гарбом, – паляпаў ён сябе па патыліцы, – і раздаваць абы-каму не магу.

– Парайце тады, дзе мне ўзяць дзвесце грывень?

– Зарабіць.

– Я не ўмею зарабляць грошы.

– А што ты ўмееш?

Чалавек сумеўся.

– Тое, што я ўмею, людзям не патрэбна.

– Ну, тады здыхай, – мовіў шэф “Алімпа” і ўстаў з-за стала. – Даруй, што я так груба, але зараз такое жыццё... Усё! У мяне няма часу.

– І што, у гэтым горадзе мне ніхто не дасць дзвесце грывень? – здзівіўся мужчына.

– Ідзі ў царкву. Там падаюць...

Чалавек у доўгім плашчы пакінуў офіс. Ён ніколі не думаў, што яму калісьці спатрэбіцца пайсці ў царкву. Дый чаго яшчэ – прасіць! Гэта магло быць смешна, ён бы проста зарагатаў у вочы таму, хто б такое сказаў...

але дома памірала яго маленькая дачушка, і толькі дзеля яе ён зміраў ганарлівасць.

Бацюшка стрэў яго ў царкоўным двары.

– Што прывяло цябе сюды, сыне?

– У мяне няма грошай, – адказаў той. – Ці не дасцё вы мне дзвесце грывень на лячэнне маёй дачушкі?

– Эх, сыне, сыне, – уздыхнуў бацюшка. – Я і рад бы даць, ды дзе іх узяць? Калісьці было, што і мы раздавалі бедным ды ўбогім, а цяпер самі ў людзей просім. Па капеечцы, па капеечцы ды так і жывём.

– Але ж вам памагае Бог.

– На яго толькі і спадзяёмся, – адказаў святы айцец, падняў з грудзей залаты крыж і пацалаваў распяцце.

Чалавек у чорным плашчы пасміхнуўся крыва і пайшоў прэч.

– Ідзі з Богам, сыне мой, – мовіў бацюшка, перахрысціўшы яго ў спіну. І ў тое ж імненне чалавек знік, нібыта яго й не было. – Божа! Нячыстая сіла! – прашаптаў настаяцель, асяніўшы сябе крыжом. Потым кінуўся ў храм, упаў на калені і захадзіўся натхнёна маліцца перад абразамі.

Вечарам двое хлапцоў, якіх пакінулі пільнаваць, добра павячэралі, пакурылі каля цяпельца, пагутарылі, а калі стала цямнець і пачаў прабіраць асенні марозік, – пахаваліся ў вагончык. Там яшчэ нейкую часіну парасказвалі адзін аднаму анекдоты дый задрамалі, прыгрэўшыся ля электракаміна.

Было ўжо далёка за поўнач, калі іх разбудзілі чыесьці цяжкія крокі пад вакном. Паспелі заўважыць проці месяца высокага чалавека ў чорным плашчы, які хутка пайшоў да ямы. Хлопцы прыхапілі з сабою жалезны ломік і выскачылі на двор. Хацелі гукнуць таго чалавека, але калі ўбачылі, як ён нахіліўся, узяў за край шасціметровую бетонную пліту і, мовіўшы: “Я ж прасіў тут нічога не чапаць!”, – са злосцю адкінуў яе ўбок, – гукаць яго хлопцам перахацелася. Так і застылі з ломікам у руках, не паверыўшы сваім вачам. А чалавек падабраў полы плашча, стаў на драбіну і знік у яме. Хлопцы доўга не маглі ачомацца, а потым асцярожна падышлі і зазірнулі ўніз: драбіны там ужо не было. Абоіх ахапіў жах. Яны развялі агромністы агонь, пакідаўшы туды ўсё, што магло гарэць, і да раніцы не сплюшчылі вачэй. Вырашылі пра начное здарэнне нікому не расказваць – усё адно не павераць, дык навошта выстаўляцца на смех.

Ранкам за мітуснёю ніхто й не прыкмеціў, што пліта, якою накрывалі дзірку, адным канцом змешчана ўбок. Хлопцы маўчалі. І, магчыма, ім бы і сышло ўсё з рук, калі б не драбіна. Напужаныя да смерці вартаўнікі не маглі патлумачыць брыгадзіру, дзе яна. Толькі пераглядваліся і ў адзін голас запэўнівалі, што яны яе не бралі. Іх, мабыць, ніхто і не вінаваціў, бо выцягнуць такі цяжар можна было хіба кранам, а таму вырашылі, што ноччу яма правалілася яшчэ глыбей, сарваўшы драбіну. На гэтым і скончылі, а тое, што адбылося ноччу, нібыта засталося таямніцаю. Аднак ужо да паўдня ўвесь горад толькі і гаварыў аб нейкім чалавеку, што прыйшоў сярод ночы да ямы, адкінуў рукамі шасціметровую бетонную пліту і спусціўся пад зямлю. А ці не той гэта чалавек у доўгім плашчы, што ўчора хадзіў па базару, выпрошваючы ў людзей грошы, а позна вечарам званіў і стукаў у дзверы кожнай кватэры і таксама прасіў быццам бы на лячэнне сваёй дачушкі? Ніхто яму, праўда, так нічога і не даў...

Горад гудзеў, нібы растрывожаны вулей. На плошчу пачалі сыходзіцца людзі. З кожнай хвілінай іх усё болей і болей сцякалася да ямы. А калі

з Кіева прыехаў ланцуг машынаў з генераламі, дэпутатамі, намеснікамі міністраў, акадэмікамі – людзей стала столькі, што давялося выклікаць міліцыю, каб адціснуць іх з плошчы.

Параіўшыся з паўгадзіны ў кабінеце гарадскога старшыні, прыезджае начальства пасунулася на будаўнічую пляцоўку. Сталі абследаваць упадзіну. Словаў пра начны званок вартаўніка, які сп'яну малоў нешта пра дзіўнага чалавека, які быццам бы вылез з ямы і прасіў нічога не чапаць, да ўвагі не бралі. Акадэмікі адразу ж сказалі, што ўсё на свеце мае сваё тлумачэнне і не трэба дурыць іх усякаю містыкай.

Узяліся апускаць у дзірку тэлекамеру з магутным пражэктарам, але яна, прайшоўшы адлегласць, наколькі дазваляў кабель, паказала на экране роўныя гліняныя сцены і толькі. Не было ніякіх прыкметаў таго, што там калісьці стаяла драбіна, не пабачыла тэлекамера і дна. Тады над ямаю паставілі эхалот і сталі пасылаць туды сігналы, каб вызначыць хаця б яе глыбіню. Пасля некалькіх хвілінаў такога зандавання спецыяліст, які сачыў за прыборам, пахітаў галавой і мовіў: "Ці ў мяне ў галаве тырса, ці тут... няма дна".

– Можа, прыбор сапсаваны? – спытаўся нехта з камісіі.

– Гэтым прыборам тыдзень таму зандавалі Марыянскую ўпадзіну! – адказаў абражаны і трохі спанталычаны спецыяліст.

Зноў усе пайшлі да гарадской управы на нараду. Але аб тым, каб неяк ратаваць тых, хто застаўся пад зямлёю, ці хоць бы падняць іх целы, размовы ўжо не было. Усе змірыліся, што там ім ужо й будзе брацкая магіла.

Думалі, што рабіць з ямаю. Пасля некалькіх гадзінаў абмеркавання генералы запрапанавалі закласці туды дынаміт і правесці выбух. Іншага выхаду яны не бачылі. Засыпаць зямлёю дзірку, глыбіні якой ніхто не ведаў, было нерэальна. Забетанаваць яе таксама не наважыліся, бо бетон у абы-які час мог праваліцца, як правалілася ноччу драбіна. Таму вырашылі падарваць.

А трэцяй гадзіне дня глуха вухнуў пад зямлёю выбух, аддаўшы штуршком у навакольных будынках. Хвіліну стаяла звонкая ціша... А яшчэ праз хвіліну пасунулася пад зямлю цэнтральная плошча горада. Пасунулася разам з вучонымі, генераламі, чыноўнікамі, дэпутатамі, міністрамі, разам са старшынёю, яго намеснікамі дый усімі іншымі, хто меў ці не меў дачыненне да гэтай падзеі. Пайшлі пад зямлю жылыя будынкі, фірма "Алімп", цэнтральнае паштовае аддзяленне, кінатэатр, палац культуры, краязнаўчы музей з бібліятэкаю; зніклі фінаддзел, рэстаран, магазіны, гасцініца "Світанак", школа. Усё знікла разам, бязгучна і бясследна, быццам нічога ніколі тут і не было. Мінула вельмі мала часу, і зноў абваліліся краі прорвы, захапіўшы з сабою частку старога горада з яго хатамі і гародамі, з людзьмі і жывёламі, з аўтастанцыяй і вялікім возерам. Зніклі пад зямлёю банк, друкарня, гарадская ўправа, аддзяленне міліцыі, суд і пракуратура. Правалілася царква з крыжамі ды званамі, прасела і знікла Підзіна гара, з-пад якое грэблі гліну для цагельні, абурыўся ў невядомасць дзіцячы садок разам з дзеткамі і цацкамі, упалі ў яму Слепакоўскія могілкі з помнікамі, стэламі і надмагільнымі плітамі... І кожны раз, калі абломваўся кавалак зямлі, высока ў неба ўздымаўся слуп пылу, на некалькі хвілінаў зацямняў сонца, а далей закручваўся віхурай і, бы ў велізарнай лейцы, знікаў пад зямлёй. Яма дыхала, уздыхала, нібы паранены звер, то выхаркваючы са сваіх лёгкіх рэшткі горада, то зноў захлынаючыся імі.

І ўсё гэта адбылося так хутка, што людзі нават не зразумелі, што здарылася. Ніхто не ўцякаў, не крычаў, ніхто нават не паспеў спалохацца. Гэта ўжо цяпер, калі з вакна чатырнаццатага паверха я бачу, як сталі правальвацца ў зямлю новыя кварталы горада, калі асядаюць, нібыта хто вышморгвае з-пад іх глебу, шматпавярховыя будынкі, калі глыбокія і доўгія трэшчыны расколваюць вуліцы – толькі цяпер у горадзе ўчынілася паніка. Кідаючы ўсё, людзі шмыгаюць у аўтамабілі і на шалёнай хуткасці ляцяць як мага далей ад гэтага страхоцця ці проста бягуць за свет, прыціснуўшы да грудзей маленькіх дзетак.

У вакно ўжо бачныя краі тае жахлівае прорвы, якая не мае дна, якая ўжо падыходзіць да нашага квартала. Яма пашыраецца з кожнаю хвілінаю, і чым далей, тым усё большыя і большыя пласты асядаюць у яе чэраве.

Чутна, як крычыць на дзіцячай пляцоўцы нейкая жанчына. Яна стаіць на каленях і, закінуўшы галаву ў неба, раўма раве: "Госпадзе, ну, зрабі ж Ты што-небудз-з-зь!!!" Але што ён ужо можа зрабіць?

Мне здаецца, што гэтага ўжо ніхто не супыніць, гэтаму ніколі не будзе канца: яма пракаўтне наш горад і будзе разрастацца далей і далей, аж пакуль не праглыне ўвесь свет.

Вось адваліўся яшчэ вялікі кавалак зямлі і забраў з сабою ранішні базар, малаказавод, аўтастаянку і дзіцячую пляцоўку разам з тою жанчынаю, што благала да Госпада, каб ён памог... Гэта ўжо зусім побач з маім будынкам. Калі будзе наступны абвал, то ўжо пада мною. Трэба бегчы. Унізе каля пад'езда стаіць мой аўтамабіль. Праз хвіліну-дзве, дапісаўшы апошнія радкі, я сяду ў яго і пакіну гэты горад. Я буду ўцякаць кудысьці, калі магчыма ад гэтага яшчэ некуды ўцячы. Аднак, не ведаю, ці ўдасца, бо ён гэтай ноччу прыходзіў і да мяне...

*Пераклаў Валер СТРАЛКО.*

## Коратка пра аўтараў:



**Наталка Белацарківец** – нарадзілася 8 лістапада 1954 года ў сяле Куяніўка Белапольскага раёна Сумскай вобласці. Скончыла Кіеўскі ўніверсітэт імя Тараса Шаўчэнкі. Аўтарка паэтычных зборнікаў "У краіне майго сэрца", "Падземны агонь", "Лістапад", "Алергія" і інш. Лаўрэатка Міжнароднага паэтычнага фестываля ў Славеніі "Крышталь Віленіцы". Яе паэзія напружаная і метафарычная, а перажыванні і рэфлексіі лірычнай гераіні пазначаныя рамантычным нонканфармізмам.



**Васыль Герасім'юк** – нарадзіўся 18 жніўня 1956 г. у Карагандзе ў сям'і рэпрэсаваных. Закончыў Кіеўскі ўніверсітэт. Аўтар паэтычных зборнікаў "Жнівень па старым стылі", "Асеннія псы Карпатаў", "Паэт у паветры" ды інш. Лаўрэат Нацыянальнай прэміі Украіны імя Тараса Шаўчэнкі. Для яго паэзіі характэрны стрыманы, суровы стыль. Працягвае традыцыі рыцарскай паэзіі, у якой жыццё – гэта барацьба і служэнне Богу, Украіне і даме сэрца.



**Валадзімір Даніленка** – нарадзіўся 13 верасня 1959 года ў сяле Туравец Жытомірскага раёна Жытомірскай вобласці. Закончыў Жытомірскі дзяржаўны педагагічны інстытут і аспірантуру Інстытута літаратуры НАН Украіны. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг апавяданняў і аповесцей "Горад Цiравiван", "Сон з дзюбы стрыжа", "Ценi ў маёнтку Тарноўскiх", кнігі крытыкі і эсэістыкі "Лесаруб у пустыні", раманаў "Газелі беднага Рэмзі", "Каханне ў стылі барока", "Капялюш Сікорскага". Лаўрэат Літаратурнага конкурсу гумару і сатыры, літаратурных прэмій "Благавест", імя Івана Агіенкі, Усеўкраінскага конкурсу сучаснае радыёп'есы. Творы перакладаліся на нямецкую, італьянскую, польскую, японскую мовы. У прозе пісьменніка адначасова аб'ядноўваюцца тры стыхіі: сатырычная, лірычная, магічная. Украінскія крытыкі адносяць яго да пострамантыкаў.



**Сяргій Жадан** – нарадзіўся 23 жніўня 1974 г. у Старабельску (Луганская вобласць). Скончыў Харкаўскі нацыянальны педагагічны ўніверсітэт імя Рыгора Скаварады. Кандыдат філалагічных навук. Перакладае паэзію з нямецкай, ангельскай, беларускай, рускай моў. Аўтар кніг паэзіі: "Цитатник", "Генерал Юда", "Пепсі", "Балади про війну і відбудову", "Історія культури початку століття", "Марадона", "Вогнепальні й ножові" і інш., прозы: "Біґ Мак", "Депеш мод", "Anarchy in the UKR", "Гімн демократичної молоді", "Ворошиловград" і інш. У яго творчасці бунтарскія традыцыі ўкраінскай паэзіі арганічна паяднаныя са светапоглядам еўрапейскіх левых і іхнымі сімпатыямі да радыкальных палітычных рухаў. Жыве і працуе ў Харкаве. Рэгулярна выступае са сваімі творамі ў розных гарадах Украіны і Заходняй Еўропы – у тым ліку ў суправаджэнні ўкраінскіх музыкаў (у прыватнасці, гурта "Сабакі ў космасе").



**Багдан Жалдак** – нарадзіўся 13 лютага 1948 года ў Кіеве. Закончыў філалагічны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі. Аўтар кніг апавяданняў "Спакусы", "Як сабака пад танк", "Бог бывае", "Тапінамбур, сыне", "Шызатэрапія", "Калі геніі плачуць", "Музычныя войны", "Гарачая Арктыка" ды іншыя. Творы перакладаліся на англійскую, нямецкую, японскую, харвацкую мовы. Па сцэнарыях пісьменніка знятыя мастацкія фільмы "Запарожац за Дунаем", "Ведзьма", "Казакі ідуць", "Дарога на Сеч". Аўтар мюзікла "Канатопская ведзьма" ў пастаноўцы кіеўскага Маладога тэатра. Для яго твораў характэрныя камічны сюжэт, парадаксальнасць канфлікту, выкарыстанне прыёмаў кінастылістыкі, праз якія бачыцца трагікамічная прырода чалавека.



**Аляксандр Жоўна** – нарадзіўся 15 лютага 1960 года ў Навамiргарадзе Кiраваградскай вобласці. Закончыў Кіеўскі педагагічны інстытут. Аўтар кніг прозы "Партытура на магільным камені", "Удоўка", "Эксперымент", "Маленькае жыццё", "Яе цела пахла зімовымі яблыкамі". Лаўрэат літаратурных прэмій "Благавест", імя Яўгена Маланюка, "У свічадзе слова". Заслужаны дзяяч мастацтваў Украіны. Па яго творах пастаўлены мастацкія фільмы "Партытура на магільным камені", "Светлая ноч", "Маленькае жыццё", "Second hand". У сваёй творчасці працягвае традыцыі псіхалагічнай школы ўкраінскай класічнай прозы, рэпрэзентаванай Васілём Стэфанікам, Міхайлам Кацюбінскім, Валяр'янам Підмагільным.



**Яўгенія Кананенка** – нарадзілася 17 лютага 1959 года ў Кіеве. Закончыла механіка-матэматычны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта і факультэт французскай філалогіі Кіеўскага ўніверсітэта іншаземных моў. Аўтарка паэтычнага зборніка “Вальс першага снегу”, кніг прозы “Каласальны сюжэт”, “Прастытуткі таксама выходзяць замуж”, “Без мужыка”, “Кнігарня “Шок”. Лаўрэат літаратурных прэмій “Гранаслоў”, імя Міколы Зэрава, часопіса “Сучаснасць”. Творы пісьменніцы перакладаліся на англійскую, французскую, чешскую, харвацкую, польскую, рускую, японскую мовы. Гераіні яе мастацкага свету – неўлаштаваныя жанчыны сярэдняга ўзросту, якія перабываюць у бесконцым пошуку кахання.



**Ліна Кастэнка** – нарадзілася 19 сакавіка 1930 года ў Ржышчыве на Кіеўшчыне. Ганаровы прафесар Кіева-Магілянскай акадэміі, ганаровы доктар Львоўскага і Чарнігаўскага ўніверсітэтаў. Аўтар кніг паэзіі: “Промні зямлі”, “Пілігрымкі сэрца”, “Зорны інтэграл” , “Князева гара”, “Над берагамі вечнай ракі”, рамана ў вершах “Маруся Чурай” і інш. Яе паэзія шляхетная і бескампрамісная. Жыве ў Кіеве.



**Любоў Панамарэнка** – нарадзілася 25 траўня 1955 года ў сяле Іванкіўцы Срыбнянскага раёна Чарнігаўскай вобласці. Закончыла Нежынскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя Мікалая Гогаля. Аўтар зборнікаў апавяданняў і аповесцей “Толькі свету”, “Дрэва аблiччаў”, “Ноч у кавярні самотных душ”, “Партрэт жанчыны ў профіль са стрэльбаю”, “Памры са мною”. Творы перакладаліся на нямецкую, японскую, сербскую мовы. Лаўрэат літаратурных прэмій “Благавест”, імя Алеся Ганчара, імя Панаса Мірнага. У цэнтры яе мастацкага свету – жыццё жанчыны ў сучасным украінскім мястэчку і сяле. Яе проза вызначаецца прастатою, спрасаванай фабулай, увагай да дэталяў.



**Васыль Парцяк** – нарадзіўся 31 сакавіка 1952 года ў сяле Крываполе Верхавінскага раёна Івана-Франкоўскай вобласці. Закончыў Кіеўскі ўніверсітэт імя Тараса Шаўчэнкі. Аўтар зборнікаў апавяданняў “Крыслачы”, “Навелы”, “Чацвёра за сталом”, “У снягах”. Па яго сцэнарыях знятыя мастацкія фільмы “Меланхалічны вальс”, “Санаторная зона”, “Вішнёвыя ночы”. Лаўрэат прэмій “Благавест”, імя Паўла Усэнкі, Нестара Летапісца, Міжнароднай літаратурнай прэміі “Карона Карпат”. Творы пісьменніка перакладаліся на англійскую, венгерскую, славацкую, японскую мовы. Апавядальная манера пісьменніка адзначаецца лаканізмам, спрасаванасцю фабулы, рэалістычнай дакладнасцю размоўных інтанацый.



**Васыль Турбай** – нарадзіўся 6 чэрвеня 1952 года ў сяле Яблуніўка Кагарлыцкага раёна Кіеўскай вобласці. Закончыў Мурманскае вышэйшае інжынерна-марское вучылішча. Аўтар кніг апавяданняў “Канец света”, “Усё проста”, зборніка паэзіі “Згвалтаваная рэальнасць”. Па яго сцэнарыях пастаўлены мастацкія фільмы “Падарунак для Маргарэт Тэтчар” і “Наперад, за скарбамі гецьмана!” Уладальнік Гран-пры нацыянальнага літаратурнага конкурсу “Каранацыя слова”. Творы пісьменніка перакладаліся на англійскую, нямецкую, чэшскую, сербскую мовы. Сюжэты яго празаічных твораў – гэта разгорнутыя метафары, якія вытлумачваюць прыроду любові, дабра і зла ды іншых фундаментальных ісцін чалавечае душы.

Рышард Крыніцкі



...куды ты так ірвешся, маё сэрца,
быццам і далей шукаеш
сабе цела?..

# Пасмяротнае падарожжа

### *КАЛІ КАХАННЕ*

Калі каханне перарастае нас,
разлука – як родная мова,
раптам пачутая на незнаёмым вакзале.
Толькі здзіўленне, якое ахоплівае знянацку,
калі чытаеш парваны любоўны ліст,

толькі разлука, што выклікае вусціш,
бо не з кахання родзіцца, а з нянавісці,
для якой адыходзіць – значыць вяртацца.

*(Верасень 1969)*

### *НЕ ПЛАЧ*

Не плач – з плачу нараджаюцца фальшывыя
анёлы,
не ўсміхайся – усмешка нараджае фальшывых
дэманаў,

*Пераклад з польскай*
*Андрэя ХАДАНОВІЧА.*

не прагні памерці – сон адлюструе цябе
у сваім бяздонным маўчанні,

і абое будзем маўчаць.

### ***ПАСМЯРОТНАЕ ПАДАРОЖЖА (I)***

светлыя, бясконцыя валасы
расчэсвае перад сівым люстэркам,
быццам бяссонна бяжыць праз сваё –
чужое цела, што ўсё гарыць у сне,
заблуканая
ў белай завеі скуры, што яе атачае,
няволіць і вызваляе

люстэрка, адбітак нябыту, сівое ад жаху
святло згаслых зорак
яе чужымі вачыма глядзіць
і не мінае хвіліна, сляпая й прарочая,
калі ёсць толькі яно – з галоднай пустэчы
з'яўляецца і расце
выдатна адшліфаванай паверхняй
шкла
ці металу

і яна, у разлуцы памерлая двойчы,
спехам, быццам баіцца, што не паспее
на апошні трамвай

расчэсвае валасы

### ***У АДКРЫТУЮ***

Першамайскаю раніцай 1969 году
у купэ хуткага цягніка Варшава-Вена чытаю
"Regio" Тадэвуша Ружэвіча, сучаснага польскага паэта,
чаргуючы яго з кароткім курсам руху цягнікоў
з горшага ўчора ў першае лепшае заўтра,
а дзяўчына, што спіць насупраць мяне,
ніяк не можа даць рады сваім каленям,
якія ўвесь час рассоўваюцца:
змыкае калені, раскрывае вусны,
змыкае вусны, расчыняе калені,
як быццам гаворыць у сне,
змыкае калені, раскрывае вусны,
змыкае вусны, расчыняе калені,
як быццам агаварылася

але гаворка зусім не пра тое, што і жанчыны
робяць нейкія дзеянні машынальна

уяўная брама між намі,
і ўсё лятуць пурпуровыя коні

але агаворка зусім не пра тое,
што й нашыя асацыяцыі машынальныя

(сон у сне і чужая маці, уцёкі, жанчыны і коні,
анёл і таемная мова, якой ён мяне папярэджваў)

мытнік, гледзячы мне ў адкрытую скураную валізку
(з найлепшай свіное скуры,
якая ідзе выключна на экспарт
у краіны трэцяга свету)
знайшоў там чарнавікі
маёй кнігі
і шмат якіх іншых невырашальных справаў

– Не падабаецца мне гэтая свінячая скура, –
сказаў ён рашуча. –
Зараз пабачым, што вы хацелі гэтым сказаць.

## МЫ Й НАПРАЎДУ НЕ ВЕДАЛІ

*Адаму Міхніку*

Можа, мы былі дзецьмі й не мелі досведу,
ведалі толькі, што нас прымушаюць верыць хлусні,
і так напраўду не ведалі, чаго мы хочам, апроч
павагі да праўды і правоў чалавека,
калі, сабраўшыся на невялікім пляцы
ля помніка вялікаму паэту,
што правёў маладосць у зняволеным краі,
а рэшту жыцця на выгнанні,

мы палілі цыгарэты й дзяржаўную прэсу,
цыгарэты, хоць тыя атручвалі нашыя целы,
і газеты, бо тыя атручвалі нашыя душы,
чыталі канстытуцыю і дэкларацыю правоў,
і напраўду не ведалі, што правы чалавека
могуць не супадаць
з правамі грамадзяніна,

і напраўду не ведалі, што так шмат аўтазакаў
можна кінуць супраць бяззбройных,
супраць нас, якія былі яшчэ дзецьмі,

не маючы зброі, апроч ідэяў, якім нас вучылі ў школах,
а потым у тых самых школах ад іх адвучалі,
мы й напраўду не ведалі,
што можна ўсе іх закрэсліць
жорсткай карыкатурай адкормленай сілы,
тыражаванай хлуснёй,
мы й напраўду не ведалі, што дарослыя могуць
верыць не нам, а тыражаванай хлусні,
што можна ўсё перакрэсліць, пра ўсё забыць,
робячы выгляд, што анічога не адбылося,
мы й напраўду не ведалі, што памяць – вораг грамадства,
мы й напраўду не ведалі, што, жывучы тут і цяпер,
трэба ўдаваць, што жывеш дзесь яшчэ, у іншых часах,
а калі паўставаць, то толькі супраць памерлых ценяў

пад жалезнай заслонай аблокаў

## *МАЯ ЖОНКА ЗМАГАЕЦЦА ЗА НАТУРАЛЬНЫЯ ЎМОВЫ ІСНАВАННЯ ЧАЛАВЕКА*

Мая далікатная жонка змагаецца за
натуральныя ўмовы існавання чалавека.
Яе смуглявае цела зранку знікае ў хмарах
сажы і серы, на вуліцах, дзе нараджаюцца
аўтамабілі і голад, у шматкватэрнай роспачы
блокаў, дзе штохвіліны растуць шматдзетныя сем'і,
сярод капальняў і гутаў, у спазматычным іржавым
бетонным чэраве гораду, што нерухома паўзе
шэрым ледавіком. Я шукаю яе, але марна –
і нечакана знаходжу, пакінутай, у цягніку
(сам пакінуты? ад самога сябе ўцякаючы?),
ледзь пазнаю па зярністай двухмернай выяве
яе сарамлівую ўсмешку на групавым фотаздымку
з нуднага рэпартажу пра новыя метады
змагання за натуральныя ўмовы існавання
у правінцыйнай газеце, што зноў абяцае жалеза і вугаль,
аўтамабіль і новую гуту, і нейкую новую Польшчу
кожнай сям'і. Нашай, на жаль, таксама.

## *АДПРАЎСЯ Ў ПАДАРОЖЖА*

*Анджэю Урбановічу*

Адпраўся ў падарожжа – нерухомае, –
што наблізіць да цябе рухомы свет,
прывіднае падарожжа, што зробіць цябе рэальным
у яскрава белым світанку;

у непранікальную цемру – найчысцейшую светліню,
што не мае канца і пачатку,
светліню, што толькі і ёсць;

мінаючы бясконцыя вакзалы, часам адзіны твой сталы адрас,
забываючы твары ўлюбёных ворагаў і найдалейшых сяброў,
забываючы ймя каханай жанчыны – каб лепей яе запомніць,
каб не стала адно адказам
на пытанні, якіх задаваць не мусіш, бо можаш раніць,
перамагаючы сон – чароўную недагаворку смерці,
адмаўляючыся ад чарговых уцёкаў – маленькай метафары
бясконцасці, што хаваецца ў любой чалавечай справе;

у падарожжа – смяротнае, – у якім ты ўваскрэснеш,
у падарожжа да невядомай краіны, сталіцай якое
можа быць таямніца,

а любая жыхарка завецца блюзнерча прыўкрасным імем Марыя,
хай цябе не падмане спакуслівы водбліск ліхіх чалавечых справаў,
хай вядзе за сабою яшчэ не народжаная, безназоўная

зорка

## ВЕРУ

*Анне і Станіславу Бараньчакам*

Прызнаюся шчыра: я часам веру,
што існуе той свет, веру ў прывідаў,
у вампіраў, што смокчуць мозг і кроў,
зрэшты, можа, не столькі веру, колькі баюся
(так ці інакш, у нашы часы: баяцца – значыць верыць).
Тады я стараюся не сядаць спінаю да дзвярэй,
дзверы жывуць уласным жыццём. Больш за тое,
я зрабіўся прымхлівы: я ўжо не кажу ўголас пра свае мроі
і надзеі, каб не сурочыць, імкнуся
не вымаўляць словаў, якія могуць адпомсціць,
выкрэсліваю іх са старых вершаў (зрэшты,
ці я адзін?), але, што граху таіць,
раз-пораз я забываю пра асцярожнасць,
п’ю гарэлку, кахаю жанчыну, еду ў вандроўку, думаю
тэлепатычна, паварочваюся спінай
да дзвярэй – якія жывуць уласным жыццём
і раней ці пазней адчыняцца,
і раней ці пазней да мяне дакранецца
тая халодная рука, можа, толькі падасць мне знак,
а можа, без жалю сцісне сэрца мне на сэрцы,

прызнаюся шчыра: я не веру, што гэта будзе рука
Восіпа Мандэльштама, Георга Тракля
або якога-небудзь яшчэ паэта, што, незалежна ад чалавечай
ці нечалавечай смерці, якая яго напаткала,

усё яшчэ размаўляе з намі жывымі словамі.

* * *

не таму

што ў мяне ёсць толькі адно жыццё
што мяне магло і не быць

што я страціў веру ў далёкім дзяцінстве
што не перастаў быць верным

што з сорамам перачытваю свае нядаўнія вершы
што блукаю ў іх нібы ў трох соснах зарослых снегам

што не хацеў удзельнічаць у хлусні
што не хачу гаварыць паўпраўду

што нябыт зазірае ў мае лісты і паперы
што пакідае на іх адбіткі тлустай рукой

што я ледзь прадчуваю чым ты напраўду ёсць

не таму
я вучуся

маўчаць

### *БЫЦЦАМ І ДАЛЕЙ*

Куды ты так ірвешся, маё сэрца,

быццам і далей шукаеш
сабе цела?

### *ЦІХА*

Ціха, ша, караедзе,

цэнзар піша
пра свабоду слова

### ТЫ

Ты мая адзіная айчына.

Мая адзіная айчына, маўчанне,
у якім схаваныя ўсе
дарэмныя словы;

нямыя аблокі,
уздыхі, пагляды,
паштовы голуб з лістом,
зніклым без весткі;

мая адзіная айчына, цішыня,
ты, што крычыш
мёртвымі мовамі;

як пагарэлец, які
страціў усё, што магло згарэць,
як уцякач,
спайманы ля самага лагеру,

я, хоць ужо не дзіця
і не вязень тваёй турмы,
ведаю, што й на выгнанні
я ў цябе застануся, мова,
а ты застанешся ўва мне,
як апухлы язык – маё сэрца,
што дае мне столькі жыцця,

колькі й забірае

### НЕ ЗАБУДУ

Не забудзь,
я – твой сябра:

мне ты можаш казаць усё.

І ты мне можаш казаць усё.

Я не забуду,
камень.

### І ШТО?

Я маўчаў шмат гадоў.
І што? Нічога не здарылася –

ні добрага,
ні благога.
*(люты 2005)*

### *РУЖА*

Яўная таямніца, просты лабірынт,

бестурботная, бязлітасная,
вечна няўзрушная ружа, я яшчэ не хачу,

я яшчэ не маю права паміраць.
*(28 чэрвеня 1974)*

### *МАЯ ДАЧКА ВУЧЫЦЦА ЧЫТАЦЬ*

Мая дачка, што раней усё рабіла беспамылкова,
вучыцца чытаць і пісаць –
і толькі цяпер пачынае памыляцца.

А я перажываю нанова
свае старыя чалавечыя памылкі.

### *ГАВОРАЧЫ*

Гаворачы: – Як я магу змагацца
за чыесьці правы,
калі ў мяне жонка й дзіця,
ты іх сам выракаеш на кару,
памеру якой не ведаюць

нават каты.

### *МАШТАБ*

Ёсць розны маштаб,
розныя меры няшчасця: вышэй

і ніжэй за нуль.

### *НА ЖАЛЬ*

Дрэнныя вершы
не зробяць тырана лепшым.
На жаль, тое ж датычыць і добрых вершаў.

### *СПІ СПАКОЙНА*

Спі спакойна,
д’ябал не спіць:
падслухоўвае, падглядае
ўсе нашы таемныя страхі і мроі,
каб і ад нас таксама

нечаму навучыцца.

### *ВЫЖЫЛА*

Так, я выжыла.
Цяпер мяне чакаюць не менш
сур’ёзныя задачы: дабрацца
да трамвая,

даехаць да дому.

### *ВЫ СВАБОДНЫЯ*

Вы свабодныя, – кажа вартаўнік, –
і жалезная брама зачыняецца,

цяпер з іншага боку.

### *НА РАДЗІМЕ*

Так, я застаўся на радзіме.
Ёсць розныя віды і месцы
выгнання.

### *АСЦЯРОЖНА, ДЗВЕРЫ!*

Сны, вершы са шклянымі дзвярыма:
можна разбіць сабе аб іх галаву.
Або абудзіцца з другога боку.

### *БЕЗ ЧВЭРЦІ ПОЎНАЧ*

На твой голас у слухаўцы
накладаецца іншы, якога я нават
не спрабую зразумець. Можа, кліча
на дапамогу, прызнаецца ў каханні
аўтаадказніку, пазбаўляецца акцыяў, лаецца
ці рыдае. З верхніх слаёў атмасферы. З дна
Атлантычнага акіяну. Без чвэрці поўнач

нічыйнага часу.

### RUE DE POITIERS

Бярэцца на вечар, цярушыцца снег.
Побач з Музеем д'Арсэ, што сёння страйкуе,
відаць шэры клунак на краі тратуара:
скурчыўшыся ў клубок, клашар (ці ўцякач
з нейкай краіны, ахопленай грамадзянскай вайной)
зноў ляжыць на кратчастай торбе, захутаны ў пледы,
ва ўжываны спальнік і права жыць.
Учора ў яго яшчэ ўключаны быў транзістар.
Сёння халодныя медзякі складаюцца на газеце
у сузор'е няісных месяцаў і планет.

*(Лістапад 1995)*

### ЦІШКОМ

Цішком, асцярожна
я падымаю са сцежкі
свайго старэйшага брата
смаўжа,
каб раптам не растапталі.

Старэйшага, мабыць, на мільёны гадоў.
Брата па бессэнсоўнасці існавання.
Бо мы абодва не ведаем,
нашто нас стварылі.
Абодва пішам свае нямыя пытанні,
кожны – сваім найінтымнейшым почыркам:

потам страху, семенем, сліззю.

*(26 красавіка 2002)*

### ЭФЕКТ АДЧУЖЭННЯ

Мне свае вершы лягчэй чытаць на чужой мове:
асцярожна рухаючы
ў роце каменьчыкі правільнага вымаўлення,

менш адчуваю ганебнасць уласных прызнанняў.

### ЯК ЗАЎСЁДЫ, ІНАКШ

Найперш я мушу згадаць дзіцячы парог,
каб вызначыць слушны кірунак. Наўпрост – усход,
поўдзень – з правага боку, злева – поўнач, а рэшта –
за спінаю. Як заўсёды, інакш,

чым я думаю.

## ШЭРАНЬ

Шэрая шэрань шэпту, скамянелая роспач. Хто пачуе,
як сціхае псалом зямлі, нямое перагукванне
планет, развітанне галактык. Чорныя сонцы
заходзяць адно ў адно
у нечалавечым

маўчанні.

## СЁННЯ ЎНАЧЫ

*...als ein Kranich*
*П.Ц.*

Сёння ўначы я цябе наведаў у сне
жураўлём.

(Ты не будзеш пра гэта помніць, калі прачнешся,
ты не можаш пра гэта помніць –
адзін заўжды памятае штосьці іншае, чым другі,
адзін заўжды адчувае іначай.)

Чаму жураўлём? Я не ведаю.
Але я прагнуў цябе, хоць не ведаю нават,
ці быў мужчынам.
(Ты, зрэшты, мела
свайго.)

Што я рабіў? Нічога, толькі нема крычаў
на досвітку ў тумане

за сямю гарамі,
за сямю лясамі,
што выраслі ў гэты час
між табою і мной,

за сяміплыннымі рэкамі лёсаў –

у тваім, у маім? Я
не ведаю.

Уладзімір Сіўчыкаў



...Шведы
па-сапраўднаму чытаюць...

# Боская зямля

*На Готландзе ў лялечным Вісбу,*
*Дзе крокусы ў красавіку,*
*Я быццам бы нанава выснiў, –*
*Усё, што прыснiў на вяку...*

Уладзімір Някляеў

Верасень для мяне – зазвычай удалы, прадуктыўны і плённы месяц. У ім нарадзілася дачка, у ім надараліся знакавыя публікацыі і цікавыя вандроўкі.

І не першы ўжо раз верасень кліча на Балтыку, у Швецыю.

Сёлетняе пакліканне надарылася на выспу Готланд, а калі яшчэ дакладней – у яе адміністрацыйны цэнтр горад Вісбі. Магчымасць паехаць і месяц папрацаваць творча прыняў ахвотна і амаль што без сумневаў, тым болей, што аднойчы ўжо пашчасціла правесці там некалькі дзён.

Светлае памяці Уладзімір Караткевіч называў Беларусь “Зямлёю пад белымі крыламі”. А тая, не такая ўжо і далёкая выспа, помнілася мне як зямля сярод белых баранчыкаў бал-

тыйскіх хваляў ды белых скульптураў каменных баранчыкаў на вулках як аднаго з сімвалаў горада Вісбі.

***

Рызыкую падацца нясціплым, але ці то выглядаў досыць прэзентабельна, ці то віной таму быў навюткі фірмовы чамадан "Shiner", але службоўцы ў мінскім аэрапорце загаворвалі са мною спачатку па-ангельску.

А вось сцюардэса ў самалёце CRJ-100, набытым, мабыць, у Канадзе, з задавальненнем пераходзіла са мною на беларускую...

Перасадка была ў аэрапорце "Арланда", які сустрэў дажджлівай прахалодаю. У параўнанні з нашым паўсонным, з безаблічнаю назвай "Нацыянальны аэрапорт "Мінск-2", скандынаўскі транспартны вузел выдаваў на разварушаны мурашнік.

Даўнавата ўжо не даводзілася так "лётаць" па аэрапорце, хіба што, калі год таму вяртаўся з калегамі з Гётэборгу з кніжнай выставы. Наш самалёт "Белавія" прыбыў на пяты, міжнародны тэрмінал, а борт мясцовых авіяліній мусіў падняцца ад трэцяга, і на тое, каб атрымаць багаж, дабегчы да месца новай рэгістрацыі, здачы багажу і пасадкі меў я крыху больш за гадзіну. Той, хто бываў у "Арланда", пацвердзіць – адлегласці тут такія, што тамтэйшыя службоўцы, бывае, перамяшчаюцца не толькі на самакатах, але, бывае, і на роварах!

Мімаволі згадваю там такі анекдот.

Ідзе па пясчаных барханах чалавек у плаўках, з ластамі, з трубкаю і маскай на падводнае плаванне. Насустрач – вярблюжы караван.

– Гэй, мальцы! – гукае ён пагоншчыкаў. – Далёка яшчэ да мора?

– Ды кіламетраў з дзвесце будзе...

– Нішто сабе пляж адгрохалі!

***

Да ÖSTERSJÖNS FÖRFATTAR-och ÖVERSÄTTARCENTRUM – The BALTIC CENTER for WRITERS and TRANSLATORS – Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў у Вісбі, які паводле няўцямнай расійскай традыцыі мянуюць і Вісбю, дапяў надвячоркам, а таму па даручэнні добрай феі і нязменнай гаспадыні Цэнтра Лены Пастарнак сустрэла мяне адна са стыпендыятак.

Імя латышскай пісьменніцы Крысціне Улберга з Вентспілса запомніць было лёгка – амаль што такое, як і ў маёй малодшай дачкі Хрысціны. Яна выдала ключ ад майго пакоя, паказала пісьменніцкую гасподу, размешчаную ў двух двухпавярховых карпусах, падзяліла са мною хлеб і ў літаральным сэнсе – куплены ўскладчыну важкі бохан разрэзалі напалам.

Так заведзена, што прыбірацца ў сваім пакоі, а таксама харчавацца – на што ёсць агульная кухня-сталоўка з усім патрэбным начыннем – кожны госць мусіць сам.

Экалогія тут таксама не пусты гук – смецце выкідаецца ў асобныя бачкі і кантэйнеры – на кампост, на пластык, на шкло і бляху. Нават на паперу і кардон адны ёмістасці, а на газеты – іншыя!

***

У маім пакоі нумар тры заінтрыгавала самотная кніга на падваконні. Напачатку падумаў быў, што гэта Біблія, але падмануўся – аказалася, што кніга водгукаў, а хутчэй кніга падзяк літаратараў, якія жылі тут раней.

Адзін мой даўні знаёмец сцвярджае, што калі даводзіцца гартаць нечы сямейны фотаальбом, дык найперш шукаеш, спадзяешся знайсці на картках самога сябе.

Пагартаў старонкі ў спадзяванні ўбачыць запісы па-беларуску.

“Ну дык жа ж не памыліўся!” – як пісаў наш класік.

На старонках з закладкаю “Europejski Poeta Wolnosci. Miasto Gdansk” адшукаў:

“Thanks for your hospitality!

Дзякуй за гасьціннасьць!

Вясёлых Калядаў!

Merry Christmas!

Уладзімер Арлоў зь Беларусі

Uladzimier Arlou from Belarus

22.12.2006”

Запіс аздоблены дзвюма ялінкамі з развешанымі на галінках літарамі, што складалі імя падпісанта ў якасці ёлачных упрыгажэнняў, а таксама зоркамі – каляднымі, але чамусьці падобнымі да зорак Давіда.

Праз паўтары дзясяткі старонак напаткаў яшчэ адзін, з трохгадовай паўзаю, калядны запіс:

“Чужая мова лашчыць мне вуха,

Нібы пірсінг на чужым языку.

8.01.-9.02.2009 г.

Андрэй Хадановіч

(Беларусь)

Тут было вельмі хораша.

Добра жылося і пісалася.

Шчыры дзякуй!”



*Аўтар з каменным баранчыкам – сімвалам Вісбі.*

Ведаў, што Андрэй цяпер у заакіянскім Чыкага, дзе правёў свае апошнія гады незабыўны Ванкарэм Нікіфаровіч, а можа й таму не ўстрымаўся дый адаслаў эсэмэску больш блізкаму мне Уладзю: “Дабранач з вісбійскага пакоя №3!”.

Нараніцу атрымаў адказ: “Дабрыдзень з менскай вальеры!”

А праз некалькі гадзінаў у офісе Балтыйскага цэнтра гартаў гасцявую кнігу і зрабіў, спадзяюся, невялічкае тэксталагічнае адкрыццё:

“Baltic Centr – літаратурны эдэм на зямлі, да якога прычыніліся і беларусы.

Дзякуй вам, мілыя гаспадыні Гунілла і Лена, за тое, што вы ёсьць у благаславенным Visby, без вас ён быў бы бяднейшы, хмурнейшы, халаднейшы.

Добрага вам здароўя і доўгіх гадоў шчасьця на Готландскай зямлі. Дзякуй таксама Шведскаму інстытуту...

Сардэчна і з павагай,

Васіль Быкаў і Ірына.

30.IV.1998”.

Цікава, ці ёсць гэты, хай сабе й караценькі, скапіраваны мною тэкст класіка, у нашых музейшчыкаў ці ў нястомнага даследчыка ягонае творчае спадчыны Сяргея Шапрана?

***

У кабінетна-спальным корпусе Балтыйскага пісьменніцкага цэнтра немагчыма згубіцца, прынамсі, у часе, дэзарыентавацца нават у начной цемрадзі. Кожныя паўгадзіны бомкае за акном звон са званіцы Катэдры. Адзначае ён і кожную гадзіну адпаведнай колькасцю ўдараў, а тройчы на дзень яшчэ і псалмаспеўнай мелодыяй.

Кафедральны сабор святой Марыі ў Вісбі (па-шведску – Visby S:ta Maria

domkyrka) – галоўны храм дыяцэзіі Вісбі Царквы Швецыі. Будаваць яго пачалі ў 1100-я гады як парафіяльны касцёл на грошы нямецкіх маракоў і купцоў. Уяўляў ён сабою раманскую базіліку з апсідай, трансептам і заходняй вежаю. Пазней храм неаднаразова перабудоўваўся, павялічваўся – дадаліся хоры і дзве ўсходнія вежы. Пасля Рэфамацыі, у 1572 годзе, храм атрымаў статус кафедральнага сабора, а сёння з'яўляецца яшчэ і кафедральным саборам Царквы Швецыі за мяжою.

Цяперашні галоўны арган усталяваны ў 1892 годзе. У саборы выдатная акустыка, і досыць часта праходзяць тут канцэрты, да прыкладу, Упсальскага камернага хору пад кіраўніцтвам Эрыка Хелерстэдта ці мясцовай капэлы "Гатландыка", якую ачольвае Марыя Весман-Клінтберг.

Цікава і тое, што ў правым нефе лютэранскага храма размяшчаецца і праваслаўны прыход.

Інтэр'ер падаўся мне досыць эклектычным. Нязвыклаю была выстава скульптуры і графікі, але пачуваўся пад амвонам сцішана і спакойна. На эдэмскі лад настройвалі паліцы са Свяшчэнным Пісаннем, сутонлівыя скляпенні, жырандолі са свечкамі і кошыкі з памінальнымі запіскамі. У адрозненне ад нашых артадаксальных храмаў, аніхто тут не шыкаў, маўляў, не там стаў, не так пераҗагнаўся...

Некаторыя вітражы аказаліся з чыста свецкімі сюжэтамі – з чорнымі варонамі, з краявідамі з палямі, дамамі дый авечкамі на пашы, а некаторыя, чыста дэкаратыўныя, нагадалі мне пра калейдаскоп, які падарыла ў маленстве хросная, цётка Ева. Крыху збянтэжыў алтар, на якім драўляныя скульптуры святых (кабет!) аказаліся з аголенымі грудзьмі.

А пра пратэстанцкі практыцызм сведчыла і тое, што ў адной з вежаў фірме TeliSonera дазволілі размясціць абсталяванне для мабільнай тэлефаніі.

Дапамагаюць шпілі Катэдры арыентавацца ў прасторы і вярнуцца дахаты, калі крыху заблукаеш у вузкіх вулках. Але зрабіць гэта ў межах старога горада праблематычна, бо крапасная сцяна XIII стагоддзя даўжынёю ў тры з паловаю кіламетры – найлепшы арыенцір-абмежавальнік. Часам падаецца, што яе фрагменты, найбліжэйшая да нас Далманская дый іншыя 43 (!) вежы нібыта знарок збудаваныя на здымкі блокбастара пра Сярэднявечча.

Бывае, стары горад, унесены ЮНЭСКА ў спіс сусветнай культурнай спадчыны, выдае казачным, нерэальна пустым ці, хутчэй, паўсонным. Ажыўляюць яго найболей пешыя або веласіпедныя купкі турыстаў на чале з гідамі ў ярка-чырвоных фірмовых камізэльках.

Асабліва нязвыкла і, бывае, пацешна выглядаюць кабеты ў немалым веку на роварах і ў пластыкавых шлемах. Вакол нашага Цэнтра турысты кружляюць, што тыя восы, ахвотна фатаграфуюць Катэдру, дзейны храм і адну з найбольшых ацалелых Сярэднявечных адметнасцяў у горадзе.

А ўвогуле колькасць руінаў храмаў тут – святога Ханса, святога Пэра, святой Катарыны, святога Ларса, святога Олафа, святога Клеменса, святой Гертруды, святога Мікалаўса – не можа не

*Аўтограф Васіля Быкава ў гасцявой кнізе Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў.*

ўражваць. І гэта пры сённяшнім насельніцтве ўсяго ў 22 тысячы чалавек, якое ў Сярэднявеччы было яшчэ меншым!

Подых гісторыі тут ледзь не намацвальны. Спрадвечна змагаліся за Готланд як за стратэгічна важны пункт на Балтыцы датчане, немцы і шведы, але адметны і гістарычны факт, што падчас руска-шведскай вайны 1808-1809 гадоў выспа была на некалькі тыдняў акупаваная расійскімі войскамі і абвешчаная расійскай правінцыяй. Тагачасныя падзеі шведскі пісьменнік Ханс Б'ёркегрэн апісаў у рамане "Аймундскі мост", які выйшаў у рускім перакладзе пад агрэсіўнай назваю "Русские идут".


*Драўляны Лінэй у Батсадзе г. Вісбі.*

***

Пануе ў нас стэрэатып, што Швецыя паўночны, а таму і халодны край.

Насамрэч клімат у гэтай краіне, прынамсі, у паўднёвай яе частцы, мякчэйшы за беларускі.

Але надвор'е можна назваць тыпова балтыйскім – бывае, мяняецца яно па некалькі разоў на дзень, але, як пісаў балгарскі класік: "Што можа быць лепшым за кепскае надвор'е?".

Дрэвы і хмызнякі тут, у адрозненне ад нашых, яшчэ зусім зялёныя, не кранутыя здрадніцкай жаўцінёю. Таму на палітры Вісбі да гэтае зеляніны дадаецца актыўная тэракота дахоўкі, цёплыя шэрыя таны руінаў храмаў і парэшткаў сцяны, складзеных з сілурыйскіх вапнякоў і пясчанікаў і, натуральна, бясконца зменлівыя – ад празрыстых блакітных да насычаных, цяжкіх свінцова-шэрых – адценні неба і мора.

***

Горад Вісбі, назву якога можна было б перакласці са старажытнаскандынаўскай як "культавае месца, месца ахвярапрынашэнняў", дорыць шчаслівую мажлівасць пабыць цэлы месяц ледзь не на самоце. Амаль што як у манастыры, паспавядацца, можа, найперш самому сабе, унікнуць турботаў і мітусні штодзённых спраў, пакласці на паперу ці на флэшку тое, што толькі задумвалася або занатоўвалася похапкам, дый надоўга залежвалася і не даводзілася да фінальнае кропкі.

Працаваць і кантактаваць даводзіцца ў калектыве з адзінаццаці-дванаццаці творцаў, дзе пераважаюць скандынавы, але, зразумела, кожнаму паасобку, кожнаму найперш у сваім пакоі.

Склад гасцей, праўда, увесь час мяняецца, бо хтосьці прыязджае на месяц, а хтосьці толькі на некалькі дзён – на пэўны семінар ці на канферэнцыю.

Сумоўнічаць за каваю найцікавей з літоўкаю Габрыэлай Лабанаўскайтэ.

А з грузінкаю Нінай Сурамелашвілі, з якой знайшліся агульныя знаёмыя з літаратурна-культурніцкіх колаў Тбілісі, як, да прыкладу, паэтка і дырэктарка Музея рукапісаў Іза Арджанікідзе, перамаўляліся яшчэ і на Facebook, калі працавалі познімі вечарамі ў адным будынку, але на розных паверхах! Згадвалі і такія ўнікальныя на свой час структуры, як Рэдакцыйная калегія па літаратурных узаемасувязях і мастацкім перакладзе, кафедра літаратур народаў СССР і мастацкага перакладу Тбіліскага ўніверсітэта, Дом дружбы народаў пры Акадэміі навук Грузіі.

***

Мабыць, у Балтыйскім цэнтры класная энергетыка, бо ўвесь час тут творчыя, пераважна прасветленыя асобы. Прынамсі, фотаздымкі ў яго інтэр’ерах атрымліваюцца проста суперскія!

Bygga broar och bryta barriдrer – Building bridges and breaking barriers – Ладзім масты і руйнуем бар’еры – такім дэвізам ці, як модна цяпер казаць, слоганам кіруюцца гаспадары і госці літаратурнай гасподы.

Адкрытая яна была ў 1993 годзе як вынік пісьменніцкага круіза “Балтыйская хваля” ў годзе папярэднім і прызначалася найперш творцам з Даніі, Ісландыі, Латвіі, Літвы, Нарвегіі, Нямеччыны, Польшчы, Расіі, Фінляндыі, Швецыі, Эстоніі дый, калі магчыма, літаратарам з іншых краін. Месца таксама было абранае не выпадкова – на выспе пасярод Балтыйскага мора.

Умовы працаваць тут практычна ідэальныя. Да паслуг гасцей – гарадская інфраструктура, крамы, банк, пошта, аптэка, а таксама рознага роду тэхніка і сродкі камунікацыі: кампутары, прынтары, ксеракс, факс, тэлевізары, стэрэасістэмы, тэлефоны, бесправадны інтэрнэт. Пры жаданні можна наведацца ў бібліятэкі, у Гістарычны музей Готланда, у Готландскі музей мастацтваў. Можна паехаць на ровары ў супермаркет ці прагуляцца па ўзбярэжжы да прычала, каб падзівіцца памерам парома “Gotland”, а каля прыбою пашукаць на шчасце “птушынага бога” — каменьчык са скразной дзірачкай, якую прасвідравала мора.

Але раз-пораз настальгічна згадваецца колішні наш дом творчасці “Іслач” пад Ракавам.

***

Далёка не адразу ўдалося адшукаць аддзяленне сувязі поруч з букмекерскай канторай, у закуточку камерцыйнага цэнтра “Gallerian”. Набыў там аднолькавым коштам, падпісаў і адправіў дзве віншавальныя, з днём народзінаў паштоўкі імяніннікам канца верасня.

Адну, з выявамі Готландскіх краявідаў, старэйшай дачцэ Алесі, якая цяпер за акіянам, у Нью-Ёрку.

Другую, з рыцарскімі турнірамі ў Вісбі, даўняму сябру і калегу-літаратару Алесю Бяляцкаму, – на Беларусь, у папраўчую калонію №2, што ў Бабруйску. Хочацца верыць, што хоць крышачку эпісталы мае падтрымліваюць мужнага праваабаронцу. Прыемна ўсведамляць, што Алесева намінацыя на Нобелеўскую прэмію міру сталася магчымай дзякуючы і ганароваму сябру Беларускага ПЭН-цэнтра, выдатнаму чэшскаму драматургу і дзяржаўнаму дзеячу Вацлаву Гаўлу.

Божачкі, як жа гэта, мабыць, балюча і прыкра, – сустракаць пяцідзесяцігадовы юбілей за кратамі!

***

Кіраўнік адміністрацыі (Country Governor) лёна Готланд, падчас кадэнцыі якога заснавалі Балтыйскі цэнтр пісьменнікаў і перакладчыкаў, быў мужчына.

Але пасля яго на гэтую пачэсную пасаду выбіраліся выключна жанчыны.

Пяць гадоў таму, калі браў тут удзел у канферэнцыі па дзіцячай культуры і літаратуры краін Балтыйскага рэгіёна, адміністрацыю Готланда ачольвала спадарыня Марыяна Самуэльсан. У сваёй рэзідэнцыі на адной з самых прэстыжных вуліц Вісбі – Standgatan, 1 – ладзіла яна незабыўны прыём у гонар удзельнікаў тае міжнароднае канферэнцыі.

На жаль, як патлумачылі мне ўнікліва, пазней мусіла яна падаць у адстаўку: нібыта, не даравалі ёй тое, што даравалі б мужчыну. Вось табе і знакамітая скандынаўская гендэрная роўнасць!

Але візітоўку спадарыні Самуэльсан буду захоўваць з прыязнасцю і ўдзячнасцю, бо згадваю словы Оскара Уайльда: “Я чуў столькі паклёпніцтва на Ваш адрас, што ня маю сумневу: Вы – цудоўны чалавек!”

***

У бібліятэцы Балтыйскага цэнтра натрапіў на першае выданне хрэстаматыі для дзяцей малодшага школьнага ўзросту “Крынічка”, якую як адзін з аўтараў, як рэдактар і выдавец падпісаў пяць гадоў таму, калі ўдзельнічаў у Вісбі ў міжнароднай канферэнцыі па дзіцячай культуры і літаратуры Балтыйскага рэгіёна.

Сярод выданняў, ахвяраваных бібліятэцы, знайшліся “Кароткая граматыка шведскай мовы” Вольгі Цвіркі, а таксама важкі двухтомнік “Беларуская літаратура і свет” Лявона Баршчэўскага, Пятра Васючэнкі і Міхася Тычыны.

А ўвогуле беларуская паліца робіцца ўсё больш важкай і папаўняецца найперш за кошт кніжак больш чым дваццаці аўтараў, якія тут пабывалі.

***

Асобная тэма – вокны дамоў у старым горадзе. Блукаеш пераважна брукаванымі вулкамі і раптам ловіш сябе на думцы, што мінакі нібыта негалосна ўдзельнічаюць у творчым спаборніцтве – хто густоўней аздобіць свае падваконні або хто завабіць найбольш турыстаў, каб тыя пераканаліся, што і тут жывуць людзі з тонкім густам. Бывае, выбудоўваюцца файныя нацюрморты, а часам гэта вазы, сціплыя падсвечнікі, кранальна-наіўныя кветкі ў вазонах, міні-скульптуры, мадэлі караблёў, стрыманыя вітражы ці мудрагелістыя фіранкі.

Гэтаксама спрачаюцца між сабою ружы – яшчэ адзін з сімвалаў Вісбі. Найчасцей гэта высозныя, большыя за два метры кусты, што горнуцца да сценаў дамоў. Таму месяц на Вісбі можна было б назваць не мядовым, а ружовым.

А вось вожыка – трэці сімвал Вісбі – не згледзеў ані разу ні ў горадзе, ні ў ваколіцах. Хіба што пацешнага, каменнага, на ганку аднаго з дамоў, затуленага мальвамі.

***

Чарадою праляцелі гусі, але Нільса на іх не згледзеў.

А вось на фотапаляванне варта было выправіцца па ўзбярэжжы досыць далёка – за колькі кіламетраў за Visby Beach Club.

Але ў аб’ектывы так і не патрапіў жаданы аб’ект – марская сарока. Затое траплялiся сарокі звычайныя, некалькі відаў мэваў, а ў тым ліку і двухгадовыя, з яшчэ шэрым апярэннем.

На прыбярэжных валунах сядзелі нашатораныя марскія вораны, бакланы, што на лаціне мянуюцца кармаранамі. Знакамітыя яны дзвюма асаблівасцямі. Па-першае, у адрозненне ад іншых марскіх птушак, не маюць тлушчу, які бараніў бы іхняе пер’е, а таму падоўгу сушаць яго, распраніўшы крылы. Па-другое, гуана ў іх настолькі атрутнае, што хвоі, на якіх яны зазвычай гняздуюцца, проста выміраюць. Нежывыя ўчарнелыя сасоннікі, нібыта дэкарацыі да фільмаў жахаў, можна пабачыць у латвійскім нацыянальным парку Кемеры або ў наваколлях літоўскай Ніды на Куршскай касе. Але трэба было б узгадаць і некаторых творцаўсуайчыннікаў, якія мусілі б маляваць на сваіх гербах (калі б мелі іх) кармаранаў, бо, як зазначыў адзін наш публіцыст, замест таго, каб самім памыцца, яны лепш абліюць брудам калегу. Асабліва праз інтэрнэт ды яшчэ ананімна!

З-за мора прыляцеў гелікоптэр, гіганцкаю птушкаю завіс амаль што над галавою, а потым і прызямліўся на пляцоўцы каля шпіталя. Адсюль у Стакгольм дастаўляе ён хворых, якім патрабуецца лекаванне альбо аперацыя ў сталіцы.

Гуманная Швецыя праяўляе сябе і ў тым, што людзей сталага веку або з

парушэннямі рухальнага апарату можна пабачыць на вазках, што працуюць на электрычнасці, і ў тым, што бардзюры на пешаходных пераходах зробленыя скошанымі, каб было зручна іх прамінаць.

Вяртаўся праз даволі сціплы, але ўтульны і сімпатычны батанічны сад, узгадваў паэтычны цыкл Валянціны Аксак, прысвечаны кветкам нашае і шведскае зямлі.



*Надмагілле Бергманаў.*

У батсадзе размешчана крыху карыкатурная, з доляй добрага гумару драўляная скульптура, а непадалёк ад яго ўсталяваны і масянжовы помнік Карлу фон Лінэю, заснавальніку навуковай класіфікацыі жывых арганізмаў, папярэдніку Чарльза Дарвіна. Шведы настолькі ганарацца сваім славутым суайчыннікам, што змясцілі ягоны партрэт на аверсе купюры ў сто шведскіх крон, адной з самых хадавых. (Шведы вельмі шануюць сваю нацыянальную валюту і, падалося, крыху касавурацца не толькі на амерыканскі даляр, але і на еўра! Пры абмене бярэцца немалы камісійны збор і, смех дый годзе, калі захочаш абмяняць пяць даляраў, дык яшчэ і застанешся вінным банку!)

Сярод найбольш знаных у свеце шведаў таксама вынаходнік дынаміту і заснавальнік найпрэстыжнейшай у свеце прэміі Альфрэд Нобель, оперная спявачка Джэні Лінд, драматург Аўгуст Стрынберг, адна з найбольш перакладаных празаікаў Сельма Лагерлёф, генеральны сакратар ААН Даг Хамарск'ёльд, суперзорка нямога кіно Грэта Гарба, дзіцячая пісьменніца Астрыд Ліндгрэн, дыпламат і праваабаронца Паўль Валенберг, прызнаная ў Галівудзе кабетаю поўначы акторка Інгрыд Бергман, палітык Олаф Пальме, пяціразовы пераможца Уімблдону, тэніcіст Б'ёрн Борг, музычны квартэт "ABBA", футбаліст Златан Ібрагімавіч.

***

Пра двух найвядомейшых у свеце творцаў, непасрэдна звязаных з гэтымі мясцінамі, трэба сказаць асобна.

Суседняя, але куды меншая за Готланд выспа Фаро, куды можна патрапіць на пароме, ёсць месцам паломніцтва турыстаў. І найперш не з-за ўнікальнай прыроды са шматлікамі азёрамі, балотамі і прыбярэжнымі скаламі-раўкарамі як пазнакаю ледавіковых эпох.

На ёй жыў, здымаў такія кінематаграфічныя шэдэўры, як "Часіна ваўка", "Жарсць Анны", "Персона", "Сорам", "Сцэны з сямейнага жыцця", "Скрозь цьмянае шкло", а таксама пахаваны шматразовы лаўрэат прэміі Оскар, класік сусветнага кінематографа, рэжысёр і сцэнарыст Эрнст Інгмар Бергман.

Пражыў ён амаль на паўстагоддзя больш за сваю жонку, прызнаную ў Галівудзе "кабетаю поўначы", акторку Інгрыд Бергман, і пераэкыў яе на дванаццаць гадоў. Але агульнае супакаенне знайшлі яны пад сціплым гранітным валуном з лапідарным надпісам:

INGRID BERGMAN
1930-1965
INGMAR BERGMAN
1918-2007

На выспе Фаро, на Готландзе і ў Стакгольме зняў свой апошні, шведска-брытанска-французскі кінафільм, філасофскую драму "Ахвярапрынашэнне" найвыдатнейшы рэжысёр Андрэй Таркоўскі.

***

Шведы па-сапраўднаму чытаюць.

Людзі розных узростаў чытаюць не толькі газеты, але і папяровыя і электронныя кнігі, а ў тым ліку і белетрыстыку. Сведчу гэта, бо бачыў на свае вочы і ў самалётах, і ў аэрапортах, і ў кавярнях, і ў парках, і на гарадскіх вуліцах.

Ну дык і выдаюць жа яны адной толькі дзіцячай літаратуры 1800 кніжных найменняў на год пры 9-мільённым насельніцтве!

Нават буйныя шведскія газеты рэгулярна падаюць крытыку (найперш рэцэнзіі) кніжных навінак, а ў тым ліку і з дзіцячай літаратуры, у якой ацэньваюць найперш не педагагічныя, а мастацкія і эстэтычныя якасці кнігі.

Пра тое, што кніжкі тут сапраўды шануюць, сведчаць не толькі багатыя кнігарні, але і пачэснае месца кніжных паліц нароўні з кветкамі амаль што на ўваходзе ў супермаркеты.

На адзін з найпрэстыжнейшых у свеце кніжных кірмашоў, на якім пашчасціла мне пабываць летась, ведаю, выбіраюцца ў Гётэборг Лена Пастарнак і пісьменнік, актыўны папулярызатар беларускае літаратуры Дзмітры Плакс.

***

Існуе тут, у Балтыйскім цэнтры, добрая, гуманная завядзёнка: калі засталіся прадукты, якія доўга не псуюцца – кава, гарбата, цукар, крупы, алей, – дык пакідаць іх калегам, што прыедуць следам і змогуць спажыць, покуль не агледзяцца ў першыя свае дні ў Вісбі.

Тое самае датычыць паперы на пісьмовым стале, шампуняў у саўне, парасонаў у вітальнях і іншых падобных рэчаў.

***

Гісторыкі і мовазнаўцы падаюць этымалогію найменне Готланд як "зямля готаў", але мне больш да душы варыянт "Боская зямля".

Можа таму прыемна было дазнацца ў свой час і помніць, што Готланд як месца адпачынку і роздуму вельмі цэніць даўні сябра беларусаў і беларускіх творцаў, амбасадар Каралеўства Швецыя ў Рэспубліцы Беларусь Стэфан Эрыксан.

І гэта не дзівіць, бо цяжка ўявіць і літаратара, які сказаў бы: "Мне тут не спадабалася! Пачуваўся кепска і працавалася не вельмі плённа!"

Наадварот, мабыць, кожны, хто з'язджае на радзіму, ідзе да мора кінуць у балтыйскія хвалі манетку, адкрыта або патаемна выказаць спадзеўку зноў пабываць у балтыйскім казачным горадзе.

*4 верасня – 5 кастрычніка 2012 года*

Фота: Крысціне Улберга і з архіва аўтара.



Павел Ляхновіч



...зашчымела-затрымцела сэрца,
я вярнуўся ў свае васямнаццаць...

# Двойчы дзесяць,
## *або Экскурсія ў маладосць*

Якая маленькая Зямля! Я сеў ля пад’езда ў аўто, потым перасеў у самалёт кампаніі “Люфтганза” і праз дзве гадзіны апынуўся ў Франкфурце. У палёце па праходзе шустра бегала вялізная, падобная тварам і рухамі на Верку-Сярдзючку, сцюардэса.

Я глядзеў з ілюмінатара на markdown рознакаляровыя лапікі палеткаў унізе і думаў, што недзе там у сорак чацвертым працаваў тата, вывезены немцамі. Яму было тады васямнаццаць. Працаваў задарма. Потым яго вызвалілі з нямецкага палону і ўзялі ў расейскі, прымусілі валіць тайгу ля Усць-Кулома. Таксама задарма.

Яшчэ я ўспамінаў васямнаццацігадовага сябе – курсанта “Сістэмы”, так для скароту мы называлі наша вышэйшае ваенна-марское вучылішча недалёка ад сталіцы Азербайджана. Мы былі на практыцы, і быў наш першы дальні паход. З Севастопаля ў Балтыйск, з заходам у Гётэборг. У Швецыі цэлых пяць дзён! Гэта тады ўспрымалася амаль як палёт на Месяц.

З таго часу прайшло трыццаць восем гадоў, і мая мэта зноў Гётэборг. Шведы запрасілі некалькіх беларускіх літаратараў на сустрэчу з іх пісьменнікамі, студэнтамі, школьнікамі. Цікавяцца культурай Беларусі, мы ўсё ж суседзі. “Праз адну хату”. Ад таго ж Гётэборга да Беларусі бліжэй, чым да Палярнага круга на тэрыторыі Швецыі. А Франкфурт гэта так, толькі кропка на шляху. Затое потым можна будзе без маны казаць, што быў у Германіі.

Франкфурцкі аэрапорт мігцеў рознакаляровымі агнямі рэкламаў, бліскучымі ўпакоўкамі тавараў, гуў, як вулей, незнаёмымі мовамі, і я ачмурэў. Я хадзіў па доўгіх пераходах, спрабаваў чытаць і разумець надпісы. Урэшце разабраўся. І адразу трапіў – двойчы! – пад “шмон”. Спачатку завялі ў выгардку і абмацалі. Фэ, ненавіджу мужчынскія дотыкі! Потым яшчэ раз – у асобным пакоі – металашукальнікам. Праходзіў жа праз электрамагнітную рамку, дык мала ім. Нешта вельмі “любяць” мяне ўсе гэтыя службы – і нашыя мянты, і тутэйшыя, нямецкія. Няўжо падобны да тэрарыста? Але ўрэшце – “Гут!” – і я ў “шэнгенскай зоне”.

Зь дзёньніка курсанта Лазоўскага.

*2 траўня.*

*Пад’ём у нуль тры нуль-нуль. Павыносілі з роты ложкі і паўтары гадзіны “кімарылі” на падлозе. У сем прыехалі на бакінскі вакзал, пагрузіліся ў вагоны. Ехаць будзем двое сутак.*

*4 траўня.*

*Прыбылі ў Севастопаль. Усё гэтак жа, як і летась. З вагона ўбачылі крэйсер “Адмірал Ушакоў” і вучэбны карабель “Барадзіно” – на ім пойдзем у паход. Каля “Ушакова” прайшлі на катэры. Стаіць на бочках там жа, што і мінулым летам. Мяне не пакідае адчуваньне, што працягваецца леташняя практыка.*

*“Барадзіно”мне спачатку не спадабаўся. Караценькі, тоўсценькі, з высознымі бартамі, нягледзячы на некалькі гармат, увесь нейкі вельмі цывільны. Ня тое, што драпежныя профілі эсмінца, або бэпэка.*

*На прычальнай сьценцы перад намі выступіў начальнік практыкі. У паход выйдзем восьмага траўня. З намі пойдуць курсанты Чарнаморскага вучылішча імя Нахімава.*

*Кубрыкі на “Барадзіно” непараўнальна больш камфортныя, чым на “Ушакове”. У нашым – тры ілюмінатары.*

*Хутчэй бы восьмага! Севастопальская бухта яшчэ летась абрыдла.*

*5 траўня.*

*Сумна. Паднялі а сёмай гадзіне. Схадзілі на прыборку, потым на сьняданак, і сышлі з карабля на сьценку. Да абеду займаліся. Вывучалі падрыхтоўку секстана да назіраньняў.*

*У шаснаццаць заступіў днявальным па кубрыку. Рабіць няма чаго . Пішу дзёньнік.*

*Пайшла чутка, што ідзем не ў Кранштадт, а ў Балтыйск. Значыць – вяртацца ў Сістэму будзем праз Менск. Трэба будзе тэлеграму даць, можа мама з татам прыедуць...*

*Надвор’е спахмурнела. Вада ў бухце сталёвага колеру стала. З белымі баранчыкамі” Прыгожа...*

*6 траўня.*

*Дзявятнаццаць нуль-нуль. Зьмяніўся з днявальства. Апоўначы зноў на вахту. На сігнальны мосцік. Другую ноч ня спаць, “...стойка пераносіць цяжар службы...”. Ну што ж, будзем пераносіць!*

*Цікава, што робіць зараз Ніна? Аб чым думае? Шмат аддаў бы зараз, каб убачыць, адчуць цяпло яе рук, вуснаў. Яна не такая, як усе. Гордая, прыгожая,*

*разумная. Не, ня тое... Яна недасяжная. І з непрадказальнымі ўчынкамі. І гэта прыцягвае...*

*“Барадзіно” яшчэ ўвесь у сурыку, плямісты як леапард. Відаць заўтра нас “кінуць” на афарбоўку корпуса. Іначай не паспець да восьмага.*

*Дома зараз ужо цёмна. Люда рыхтуе хатняе заданне, мама піша планы, тата ля тэлевізара... Добра дома!...*

*7 траўня.*

*Пасьля пад’ёму сьцяга сыгралі трывогу. Як далі адбой, толькі зайшоў у кубрык, сыгралі другую. Пабег на баявы пост, і не пасьпеў – люкі задраілі. Зараз вось сяджу ў кубрыку і пішу. Сабір Бабаеў, ён днявальны, іграе на гітары. Паўзмрок. Ілюмінатары задраены бранявымі заглушкамі.*

*Пасьля адбою два ілюмінатары аддраілі, а ў трэцім заглушка засела. Сабір злуецца і спрабуе выняць. Прыйшоў Буба, днявальны па суседняму кубрыку, кажа – у іх усе тры заселі. “І людзі ўжо дохнуць”.*

З Франкфурта ў Гётэборг таксама “Люфтганза”. Сцюардэса сустракае усмешкай і тоненька пяе: “Гутн абэнд!”.

За ілюмінатарам чорна. Разносяць ежу і пітво. Я не ведаю, як па-нямецку “сок”, таму прашу “васэр” – ваду.

Напярэдадні ад’езду звязаўся праз Інтэрнэт з былымі нашымі курсантамі. Хто ў Петрапаўлаўску-Камчацкім, хто ў Піцеры, Мурманску, Кіеве, Лос-Анджэлесе, Наварасійску, Баку... Пахваліўся – еду пахадзіць па нашых слядах “на Луне”. Прасілі сфатаграфаваць тыя мясціны – дзе быў прышвартаваны карабель, помнік жонкам загінулых маракоў, статую Пасейдона на пляцы паміж музеем мастацтваў і канцэртнай залай, парк атракцыёнаў “Лісэберг”. Я і сам без іхніх просьбаў гэта хачу. Толькі б часу хапіла, праграма даволі насычаная.

Зь дзёньніка курсанта Лазоўскага.

*8 траўня.*

*Усё! Ужо ў моры! У нуль восем дваццаць пяць зьняліся са швартоваў. Перад самым адыходам быў мітынг. Выступаў толькі начальнік Чарнаморскага вучылішча. Пажадаў добрай практыкі. Я ўяўляў мітынг неяк інакш, але хай. Добра, што доўга не балбатаў. Наш клас стаяў першую штурманскую вахту. Зараз мы ўжо ў адкрытым моры. Пасьпеў зрабіць абсервацыю па круйс-пеленгу маяка Херсанэс і двойчы – па радыёнавігацыйнай сістэме. Пачалася невялікая гайданка. Непрыемна, але цярпець можна. Мора смарагдава-зялёнае. Ля борта белая пена на зялёным. Бачнасьць цудоўная. Лінія далягляду відаць ідэальна. Увогуле – прыгажосьць невымоўная! Настрой узвышаны, шалёнай радасьцю расьпірае знутры. Шкада, што ўсяго гэтага ня бачыць мама. Яна за жыцьцё ніколі не была далей мяжы менскай вобласьці.*

*Заўтра раніцою будзем у Басфоры. Кажуць – вельмі прыгожы праліў. Паглядзім. Буду фатаграфаваць. Толькі б не захапіцца, і не спляжыць усю плёнку. Павінна хапіць на ўвесь паход, а асабліва на Гётэборг.*

*Удзень займаліся “астраноміяй”. Трэніраваліся рыхтаваць секстан, “садзіць” Сонца на лінію далягляду, і “качаць” – замяраць яго вышыню. “Садзіць” я навучыўся хутка, а вось “качаць”... Ледзьве варухнеш секстанам, Сонца ўцякае з поля зроку. Не ўяўляю, як гэта можна будзе рабіць пры моцнай гайданцы!*

*9 траўня.*

*Спалі з паўгадзіны, паднялі на вахту. З нуля да чатырох. Вахту здалі – і зноў спаць. А ўжо ў палове на шостую нас зноў паднялі. Ох і лаянка стаяла ў кубрыку!*

*Пашыхтавалі на спардэку. Падыходзім да Басфора. Толькі-толькі ўзышло Сонца. Уперадзе ледзьве бачная цёмная палоска – турэцкі бераг. Як падыйшлі*

*бліжэй, схавалася Сонца і стала халаднавата. Берагі гарыстыя, пакрытыя расьліннасьцю. Увайшлі ў пралійў. Побач з правым бортам прыладкаваўся катэр. Бяз сьцяга. Зь яго нас доўга фатаграфаваў нейкі чалавек. Рознымі фота- і кінакамерамі.*

*Зьлева – Азія, справа – Еўропа. Па берагах шмат будынкаў. Мячэці, мінарэты. Былі дзьве крэпасьці. Як падыйшлі да Стамбула, убачылі вялізны мост праз пралійў, паміж Еўропай і Азіяй. Быццам вісіць у паветры.*

*З моста нам на спардэк скінулі вялізны букет кветак. Першы да яго дапяў кагэбэшнік, пакорпаўся, і буркнуў: "Бярыце."*

*Здалёку відаць, што Стамбул увесь закрыты воблакам дыму.*

*Зараз ідзем Мармуровым морам. Неба завалакло, наша "астраномія" зноў прапала.*

*Дваццаць адна гадзіна. Адстаялі яшчэ адну вахту. Ішлі Дарданэламі. Спазьніліся на вячэру. Усе валяцца з ног. Зараз вячэрняя праверка і адбой. Больш нічога ня хочацца.*

У гётэборгскім аэрапорце "Ландвэттэр" павінен быў сустрэць таксіст з маім прозвішчам на шыльдачцы. Таксістаў з кардонам было шмат. Я падыходзіў, чытаў крывулькі лацінкай, і адмоўна хітаў галавою. Прозвішчы ўсё былі чужыя. Невядома як, але мы не сустрэліся. Добра, што загадзя быў вядомы гатэль. Ад стрэсу з падсвядомасці ўсплылі забытыя ўжо нямецкія словы. І я здолеў імі скарыстацца, і сесці на апошні аўтобус. Ён ішоў якраз паўз гатэль "Gothia Towers". У аўтобусе разжыўся мапай Гётэборга. Тое, што ў Менску каштуе грошай, у Гётэборгу – бяры так. Клапоцяцца аб людзях!

У фае гатэлю мяне чакала счарнелая ад хвалявання Лінда, маладая сімпатычная шведка. "Прымаючы бок". Аддала картку-ключ ад нумару, распавяла планы. З год яна працавала валанцёркай ва Украіне, ля Данецку, там даволі прыстойна засвоіла расейскую.

Падняўся на свой трынаццаты паверх, зайшоў у апартаменты. Халадзільнік у нумары быў шчыльна забіты разнастайнымі напоямі. Ад мінералкі да элітных алкаголяў. Браць адтуль не спытаўшыся пра ўмовы не рашыўся. Узгадаў, што чуў недзе нібыта ў Швецыі можна піць вадаправодную ваду. У санітарным блоку ля са шведскай канструкцыяй душа, памыўся, і заснуў.

Зь дзёньніка курсанта Лазоўскага.

*11 траўня.*

*Сёньня паспалі цэлых пяць гадзінаў. Пасьля сьняданку і прыборкі працавалі на юце. Раскруцілі дзьве ўюшкі капронавага тросу і накруцілі чыстым бокам навонкі. Гэтым часам раптам зьявіўся самалёт зь белай зоркай ў чорным крузе. Два разы прарох нізка над палубай. Потым па трансьляцыі перадалі, што гэта палубны самалёт "Карсар" з авіяносца "Амерыка". Авіяносец гэты зараз у Іянічным моры, мы яго ўчора праходзілі. Самалёт ці то папалохаць хацеў, ці фатаграфаваў.*

*Дні цякуць аднастайна. На вахту, з вахты, на працу, з працы. Ужо прывык спаць па 2-4 гадзіны за суткі. Аказваецца, гэтага дастаткова, каб захоўваць працаздольнасьць. Затое як кладуся, адключаюся за хвіліну, і сплю бяз сноў.*

*Хлопцы нашы спрабуюць праць робы, апусьціўшы іх на капронавым шкерце праз ілюмінатар за борт. У першага ж, хто на гэта адважыўся шкерт парваўся і галандка засталася ў Сяродземным моры. Будзе яму ад кэпа... Цяпер "Татар" сваю ў хвалях палошча. Як бы і яго не напаткаў той жа лёс. Не, я лепей гадзіну ў пазіцыі стартуючага пастаю, але памыю робу рукамі.*

*Усё. Адбой. Зараз выключаць сьвятло. Дабранач мама, Люда, тата. І Ніна.*

*12 траўня.*

*Чысьцілі бульбу. Бульбы было ўсяго 160 кіль, але і нас было мала, трынаццаць чалавек, паўкласа. Астатнія на вахтах. Бачылі двух дэльфінаў, чарапаху і трох акул. Шкада, фотаапарата з сабою не прыхапіў!*

*Вада ярка-блакітная, і вельмі празрыстая. Кінулі манету, дык бліскала, тонучы, можа з хвіліну.*

*Праз двое сутак праходзім Гібралтар.*

*Капітан першага рангу Загорскі выступіў з кароткай прамовай: "Надоечы я выбіў для вас новы сарцір, той, што па левым борце ў раёне дваццаць трэцяга кубрыка. Зрабіць з гэтага гальюна Венецыю! Гэта трэба для конкурсу! Хто выйграе конкурс, атрымае торт..." Дзіцячы садок!*

*Баксіраваў на спардэку з Казьлянковым і з матросам з экіпажу. "Козя" сказаў, што "калі паглядзіш табе ў вочы, ніколі ня скажаш, што ты чэмпіён Азербайджану і можаш балюча ўдарыць". Гэта пасьля таго, як матроса прыйшлося насамрэч добра стукнуць, каб паважаў. А то кідаўся без усялякай асьцярогі. Але і малойца. Толькі ачомаўся, запрасіў на заўтра. Будзе час – яшчэ паганяю.*

*13 траўня.*

*Сёньня зрабіў дванаццаць абсервацый па радыёмаяках.*

*Пасьля вячэры вакол нас лётаў верталёт, варожы. Вісеў недалёка, апускаў гідраакустычную станцыю. Падводную лодку шукаў, якой каля нас няма.*

*У паходзе пяць дзён, а здаецца, што ідзем даўно-даўно. Мора паўсюль аднолькавае, толькі колер вады розны. Нават ня верыцца, што я забраўся халера ведае куды. Збываюцца мары.*

*14 траўня.*

*Усю вахту пеленгаваў па радыёлакацыі мыс Фер, ён на афрыканскім беразе.*

*Трэба тэрмінова зрабіць дваццаць абсервацый па Сонцу, гэта мая запазычанасьць. Зайшоў у кубрык за секстанам і трапіў на камсамольскі сход. Пакуль мянцілі языкамі, Сонца зайшло. Вось і практыкуйся тут!*

*Ніна прасіла, каб я пісаў ёй лісты ў час паходу. А тут ўсьвядоміў – пісаць няма аб чым. Напісаць – якое прыгожае мора, ня здолею. Гэта трэба бачыць. Ды і няма калі.*

*Бачыў статак касатак.*

*Хутка Гібралтар.*

Сняданак. "Шведскі стол". Разнастайныя стравы. Няма ніякіх "порцый", бярэш столькі, колькі хочаш. Калі не наеўся, можна падыйсці і ўзяць яшчэ. Не даесці тое, што набраў на талерку лічыцца не зусім прыстойным. Хоць барані Бог – ніхто нічога не скажа. Першы раз я пабачыў "шведскі стол" у ратушы Гётэборга трыццаць восем год таму. Але я быў тады такі зніякавелы, што не здолеў ацаніць. Добрая прыдумка! Зручная і выгадная.

Японцы далі чалавецтву дзюдо, каратэ, ікэбану...

Кітайцы – порах...

Амерыканцы – кампутар, айфон... Атамную бомбу.

Рускія – аўтамат Калашнікава (хоць злыя языкі кажуць – садралі яго ў немца Шмайсэра).

Што далі свету шведы? Вось – шведскі стол. Яшчэ ёсць шведская сценка. Фізкультурную хаду з лыжнымі палкамі.

А беларусы? Шагала? Гэта, відаць, яўрэі далі, хоць рускія сцвярджаюць, што яны.

Міцкевіча? Так. Але не свету, а палякам. Пржавальскага, Глінку – рускім. Во – Кіта! Каб не ён, магчыма амерыканцы не высадзіліся б на Месяцы. Дык усё ж амерыканцам, ці свету?

Зь дзёньніка курсанта Лазоўскага.

*16 траўня.*

*Галоўная падзея дня – прайшлі праліў Гібралтар і выйшлі ў Атлантыку. У самым вузкім месцы Гібралтар сем міль з “капейкамі”. Надвор’е неблагое, былі відаць абодва берагі – і еўрапейскі, і афрыканскі. Нас абляцеў “Фантом”, я пасьпеў яго сфатаграфаваць. Гэта ўжо пяты аблёт нашага карабля авіяцыяй краін НАТА.*

*Не пасьпяваю выконваць праграму на практыку. Неба заснавана аблокамі. А хутка будзе не да нябесьных сьвяцілаў – пачнецца падрыхтоўка да візіту ў Гётэборг. Ужо адабралі ўсе дакументы. Хутка абяцаюць адабраць грошы. Гэта ў каго больш за “чырвонец”.*

*Як толькі выйшлі ў Атлантыку, пачалася акіянская гайданка. То ўзьлятаем, то падаем. Нельга зрабіць крок з упэўненасьцю, што пад нагой не акажацца правал, палуба уцякае. Усе ходзяць бледна-зялёныя. З ілюмінатараў штурманскага класа абрыганы ўвесь борт. Саша Негавораў скардзіцца ўсім, што вельмі хоча есьці. Пачуў, што ў некаторых людзей (вельмі рэдкіх) рэакцыя на качку – павышэньне апетыту. Відаць яму вельмі кепска, калі так упарта стараецца запэўніць усіх у апетыце. Але і малойца! Мужчына! “Кішы” – як кажуць азербайджанцы.*

*Асабіста я гэтыя акіянскія хвалі пераношу выдатна. У Сяродземцы нас гайдала крыху, і мне было млосна. Зусім нямоцна, цярпіма. Зараз гайдае нашмат амплітудней, а я хоць бы што. Прывык, відаць.*

*17 траўня.*

*Усе як п’яныя, трымаюцца за пераборкі. Усё хістаецца, скрыпіць, падае. На верхнюю палубу не выпускаюць. Кожнае імгненьне цябе можа размазаць, стукнуць...*

*Цікава бегаць па трапах... Чакаеш, калі карабель правальваецца ўніз і цябе проста выкідвае зь люка.*

*Цікава – што зараз дома? Там нуль восем пяцьдзесят, на дзьве гадзіны “старэй” чым тут. Мы ў першым оставым гадзінным поясе. Празь дзесяць хвілінаў па трансляцыі “пракукарэкаюць”: “Камандзе ўставаць, ложкі прыбраць!”. Яшчэ праз тры хвіліны хтосьці заварушыцца, і сакавіта мацюкнецца. А пасьля будзе дзікі лямант, пераходзячы ў хрыпеньне: “Пад’ём! Днявальны! (Гэта мне...) Чаму не падымаеш?! Здыму!!!” Старшына першай стацыі Сямёнаў на сваім кані.*

*20 траўня.*

*З чатырох да васьмі была заліковая пракладка. Зрабіў дзьве абсервацыі па радыёмаяках, і пяць па радыёлакацыі. Ня густа. А потым – іспыт па Карабельным Статуце. Здаецца, няблага адказваў. А ўвогуле мне гэтая практыка вельмі падабаецца. У сэньсе – паход падабаецца. Некаторыя пачалі скуголіць – “Ах, цяжка! Ах, спаць не даюць!, Ах я ў труне бачыў гэтую Швецыю... У Сістэму хачу!” А я хачу ў Гётэборг! (Што праўда – яшчэ больш хачу ў адпачынак, дадому.)*

*Раніцою ўвайшлі ў праліў Па-Дэ-Кале. Але туман, і нічога не відно, апрача хваляў ля борта. А на хвалях – бутэлькі. Шмат.*

*Заэкспаніраваў другую плёнку. Ня церпіцца праявіць. Але тут рызыкоўна. Лепей у Сістэме, або нават дома, у адпачынку.*

*22 траўня.*

*Увесь дзень дрыхну. Стаяў хлебапёкам, усю ноч працаваў у пякарні. Толькі спаць не даюць нямецкія самалёты. Пралятаюць літаральна ў 7-10 метрах ад карабля амаль на ўзроўні палубы. Класныя лётчыкі! Я ўжо разоў пяць прачынаўся ад страшэннага гулу. Але ніякі клас і нахабства ім не дапаможа. Білі іх, і будзем біць!*

*Праз два дні прыходзім у Балтыйск. Там пару дзён нас памуштруюць, падрыхтуем форму адзеньня, і пойдзем у Швецыю. Такія вось чуткі. А як яно насамрэч, ня ведаю...*

*Па заліковай пракладцы паставілі "пяцёрку"! Яшчэ пяцёркі атрымалі "Козя" і "Татар". У ілюмінатар відаць дацкі бераг. Надвор'е сонечнае, але дзьме халодны вецер. Паблізу шмат суднаў. Бачыў тарпедны катэр ФРГ.*

У час сняданку сустрэўся з сябрам, Браніславам. Ён прыехаў яшчэ ўчора. У яго стрыманы позірк, ціхі голас, і рахманыя, вінаватыя вочы. Менавіта гэткім я ўяўляю сабе сапраўднага беларускага інтэлігента. Бронак таксама хоча паглядзець "другую сталіцу Швецыі". Тут пэўны час жыў у выгнанні светлай памяці Васіль Быкаў, і Бронак жадае наведаць рыбны кірмаш, там любіў бываць наш класік. Дамовіліся пайсці разам. Толькі трэба паведаміць гаспадарам літаратурных імпрэзаў.

...Выйшлі з гатэлю, і проста насупраць – уваход у парк "Лісэбэрг"! Самыя прыемныя ўспаміны аб тым, трыццацівасьмігадовай даўніны падарожжы, звязаны з гэтым паркам. Тое, што гатэль аказаўся праз вуліцу здаецца мне містыкай. Гэта ж не проста так! Гэта горад памятае мяне таго, васямнаццацігадовага юнака! І зараз паказвае тыя мясціны, дзе некалі ўжо я ступаў.

Зь дзёньніка курсанта Лазоўскага.

*24 траўня.*

*Зачытвалі, што можна, і чаго нельга ў Швецыі. Нічога нельга. У закусачную, рэстаран нельга. Набываць кружэлкі, часопісы, газеты, паштоўкі з голымі дзеўкамі нельга. Рабіць падарункі, прымаць падарункі – нельга! І яшчэ мноства "нельга", усяго не пералічыць.*

*На мапе ўжо ёсьць лапік савецкага берага. Да Балтыйска зараз 105-110 міль. Хутчэй бы адпачынак...*

*Я ўжо больш сьвету абыйшоў, чым тата! Праўда, бачыў меней, але ж уперадзе яшчэ – Гётэборг!*

*О! Гэбісты казалі, што "з мэтай кампраментацыі савецкіх ваеннаслужачых актыўна дзейнічаюць жанчыны, схіляючы да інтымнай сувязі." Вось бы мяне якая скампраментавала.*

*У дзесяць адзінаццаць ашвартаваліся ў Балтыйску. Рыхтавацца будзем восемдзевяць сутак.*

*26 траўня*

*Амаль ніякіх клопатаў! Толькі форму рыхтуем для візіту ў Швецыю. Учора сам перашыў нагавіцы. І здаецца няблага атрымалася!*

*Увогуле – маракі добрыя мужы. Умеюць усё, і, апрача гэтага, яшчэ ўмеюць падначальвацца. Нехта з нашых выкладчыкаў сказаў.*

*28 траўня.*

*Мяне забралі ў ганаровую варту. Будзем сустракаць амбасадара СССР у Швецыі і Камандуючага шведскімі ВМС. Цяпер кожны дзень па шэсьць гадзінаў муштры з карабінамі. "На кра-Вул!", "на пля-Чо!" З аднаго боку няблага быць рослым, а з іншага – малыя, хто да ста васьмідзесяці, будуць адпачываць. А мы – вось!*

"Лісэбэрг" не працаваў. Ды і намеру наведаць я не меў. Сфатаграфаваўся ля ягонай брамы, потым мы зарыентаваліся па мапе і рушылі ў бок затокі. Я спадзяваўся ідучы берагам знайсці месца, дзе быў ашвартаваны наш карабель. Тады, як я быў зусім малады. Там побач ля прычальнай сценкі стаяла на высознай калоне бронзавая жанчына.

Мы крочылі паўз цагляныя сцены, ад якіх пахла стагоддзямі, побач па веладарожках праносіліся на роварах людзі ўсіх узростаў, шапацелі коламі аўтамабілі і трамваі. Трамваі насамрэч не грымелі, а рухаліся ціха і плаўна.

Дарэчы пра ровары. Усе вуліцы Гётэборга маюць веладарожкі. Для гэтага, аказваецца не трэба вялікіх затратаў. Папросту збоку, у метры ад ходніка намалявана фарбай белая лінія. І знак проста на асфальце – раварыст. Гэты метр ля ходніка і ёсць веладарожка. Сюды не "наступаюць" аўтамабілі. Патрэбна толькі воля гарадскога начальства! Паўсюль – "паркоўкі" для ровараў. І ровараў – сотні! Мяне больш за ўсё ўразіла, што яны не прыкутыя ланцугамі. Не, яшчэ больш уразіла колькасць раварыстаў.

Разышліся аблокі, і горад заўсміхаўся старажытнымі фасадамі. У канцы вуліцы паказаліся партовыя краны. Мы не паспелі яшчэ выйсці на бераг, як злева, далёка, у блакіным вэлюме пабачылі тую калону. Зашчымела-затрымцела сэрца, я вярнуўся ў свае васямнаццаць...

Зь дзёньніка курсанта Лазоўскага.

*29 трайня.*

*...Ішоў дождж, дзьмуў вецер. А мы спачатку на спардэку, а потым на шкафуце стаялі з карабінамі "на кравул". Хвілін па 25-30. Імітатар савецкага амбасадара прайшоўся ля нас, і зьнік у накірунку ГКП. А мы, праклінаючы яго, стаялі... І так чатыры разы. Граў аркестр, страляла салютная гармата. Трэніроўка.*

*Пасьля Гётэборга паедзем з Калінінграда ў Баку празь Менск, Харкаў, Растоў. У Менску будзем 14 чэрвеня, стаянка цягніка пятнаццаць хвілінаў. Тэрмінова трэба даць тэлеграму.*

*31 трайня.*

*Камандзір роты забраў фотаапараты, гадзіньнікі, электрабрытвы. І грошы – у каго болей рубля. Я сабе рублік захаваў, можа ўдасца вырвацца ў матроскую кавярню. Дакументы ўжо даўно забраў кагэбэшнік. Складаная рэч – за мяжу трапіць!*

*Норму па астраноміі я ня выканаў. Але вызначаць каардынаты па Сонцу і зорках навучыўся ўпэўнена. Адну абсервацыю раблю за 45 хвілінаў, гэта шмат, добры штурман за пятнаццаць, але хуткасьць напрацую. Толькі зоры пакуль пазнаваць ня ўмею. Гэта на чацьвертым курсе будзе. Пакуль што ведаю альфа Валапаса, альфа Ліры, Венеру, Юпітэр, Палярную.*

*1 чэрвеня.*

*Ужо лета... Калісьці гэтым часам пачыналіся канікулы. І трэці раз, як яны не пачынаюцца. Сумна крыху, што нашаг дзясятага "Б" больш ніколі ня будзе...*

*...Пакуль трэніраваліся на сьценцы з карабінамі, "Барадзіно" перашвартавалі носам да выхаду з базы.*

*А ўвечары вадзілі нас у кіно. Перад сеансам "чэкісты" зноў чыталі лекцыю – што можна і чаго нельга ў Швецыі... Як даваць адпор, калі будзе антысавецкая "апрацоўка".*

*Аказваецца, тут галоўнае – "не выбіраць выразаў"! Цябе "апрацоўваюць", а ты – мацюкаешся!*

*"Нягледзячы на тое, што Урад Швецыі імкнецца завязаць з намі сяброўскія адносіны, там існуюць арганізацыі, незалежныя ад яго. Яны і выступаюць супраць гэтага сяброўства."*

*Можна быць незалежным ад ураду? Нешта сумнеўна мне.*

*Карацей кажучы, я паслухаў, і зразумеў – як толькі мы сыдзем на шведскі бераг, нас пачнуць выкрадаць, дастаўляць у паліцэйскія пастарункі, арганізоўваць правакацыі, падкідваць антысавецкую літаратуру, парнаграфію, і г.д. "Стра-а-ашна, аж жуць!.."*

*"Швецыя займае першае месца ў сьвеце па разбэшчанасьці, прастытуцыі, парнаграфіі..." – Наконт гэтага таксама прачыталі лекцыю. Было цікава. А пасьля глядзелі фільм "Мяцежная застава".*

*<u>2 чэрвеня.</u>*

*У сямнаццаць гадзін быў мітынг на сьценцы. Прыехаў Камандуючы Балтыйскім флотам. Я сустракаў яго ў складзе ганаровай варты.*

*У дваццаць зьняліся са швартоваў, выйшлі на зьнешні рэйд і сталі на якар.*

*3 чэрвеня.*

*З якара зьняліся ў нуль тры трыццаць. Холадна, і туман. Бачнасьць усяго шэсьцьдзесят метраў.*

*Пасьлязаўтра будзем у Гётэборгу. Нас разьмеркавалі па "пяцёрках". Шостага наша "пяцёрка" будзе на сустрэчы з мэрам Гётэборга. Мэр – гэта галоўны гарадскі начальнік. Відаць, як у нас першы сакратар гарадскога камітэту партыі...*

*Іншыя "пяцёркі" ідуць у рэстаран (А казалі – у рэстаран нельга! Відаць, калі з афіцэрам, то можна...), на судабудаўнічы завод, а адна прымае дзяцей на караблі.*

*Вывучаў падыходы да Гётэборга. Даволі складаныя.*

*<u>5 чэрвеня.</u>*

*Раніцою падыйшлі да Гётэборга. Ён разьмешчаны на берагах вузкай затокі, у якую ўпадае рака Гёта-Эльва. Ганаровую варту пашыхтавалі на спардэку. Хвілінаў сорак трымалі карабіны "на краул". Ажно рукі зьвяло сутаргай. Карабін важыць тры з паловай кілаграмы, спачатку здаецца лёгкім, а як патрымаеш... На караблі страляла гармата, На беразе стралялі таксама. "Салют нацый" называецца. Дваццаць адзін залп.*

*Зайшлі ў затоку. Праз яе мост, гэткі ж, як праз Басфор, толькі карацейшы. Сталі правым бортам да прычальнай сьценкі. Толькі падалі трап, на борт забеглі нашы, з консульства. Адразу папрасілі чорнага хлеба. Нас, ганаровую варту, пашыхтавалі насупраць трапа, і мы сустрэлі нейкага шведскага флоцкага начальніка. Мабыць гэта быў Камандуючы ВМС, якога нам "абяцалі"...*

*Сорак курсантаў, мяне ў іх ліку таксама, на аўтобусах завезьлі ў ратушу. Шырокая лесьвіца. Вялізная зала. На балконе грае нябачны аркестр. Струнны. Калі мы зайшлі, зайгралі страшэнна знаёмую мелодыю. Толькі на сярэдзіне зразумелі, што гэта гімн Савецкага Саюза. Прывыклі чуць яго ў выкананьні духавых, а тут пісклявыя скрыпачкі.*

*На сьценах шмат карцін у бліскучастых багатых рамах.*

*Насупраць дзьвярэй сядзіць мэр з нейкім кіем у руцэ і блакітнай стужкай з золатам цераз плячо. Яшчэ там былі шведскія ваенныя, а таксама жонка мэра, і дачка. Пасярод залы – вялікі стол зь ежай і пітвом. Камандзір роты потым сказаў, што такі стол для самаабслугоўваньня увесь сьвет называе "шведскім".*

*Гэтым разам мы адчувалі сябе страшэнна няёмка. Прынамсі, я так сябе адчуваў. Ня ведаў, куды падзець рукі, дзе стаць, як стаць... Потым нас запрасілі сесьці за сталы (апрача "шведскага" там яшчэ былі сталы і крэслы), і стала крыху вальней. Нават паспрабаваў гутарыць па-нямецку са шведскім мараком, Рольфам. Нашае і шведскае начальства нешта там прамаўляла, але мы ня слухалі. Рольф, як даведаўся, што я "два гады" вывучаю нямецкую (што было яшчэ шэсьць у школе, я не прызнаўся...), зрабіў заўвагу, што за такі час можна было б і лепш навучыцца размаўляць...*

*Пасьля гэтага нас адвезьлі на карабель, і ўвесь наступны дзень я борт не пакідаў. А сёмага выдалі дзесяць шведскіх кронаў, і ў складзе "пяцёркі" звольнілі на бераг. На чатыры гадзіны. Дзесяць кронаў, гэта рубель восемдзесят на нашы грошы. Думаў набыць што-небудзь на памяць, але...*

*...У крамах прадавалі прыгожыя бензінавыя запальнічкі "Зіппо" з малюнкамі аўтамабіляў. Усяго па чатыры з паловай кроны! Я палез у кішэнь – і пахаладзеў. Абмацаў адну кішэнь, другую... І знайшоў маленькую дзірачку. Зусім маленькую. Згубіў!... Варона! Было так крыўдна, што я ледзьве не "страціў твар". Зусім крыху*

*заставалася да сьлёз!. Праглынуў камяк у горле, і супакоіў сябе тым, што памяць захаваецца ў фатаграфіях. Фотаапараты перад звальненьнем з карабля пад роспіс выдаваў старшына роты. Мне мой асабісты “Смена-2” – пад роспіс!*

Месца, дзе ў 74-м стаяў “Барадзіно” змянілася амаль непазнавальна. Знесены пакгаўзы, якія закрывалі тады дамы на шэрых скалах. Замест іх – шырокая прыбярэжная аўтамагістраль. І толькі бронзавая жанчына на калоне ўсё чакае свайго марака. Брыз гуляецца з яе сукенкай, благальна складзеныя рукі, позірк туды – за далягляд. Чакае.

Вось тут, на сценцы, адбываўся антысавецкі мітынг. Нас, па-сутнасці яшчэ дзяцей называлі агрэсарамі. А мы не адчувалі ніякай агрэсіі, мы шчыра верылі, што стаім, ці, прынамсі, будзем стаяць на абароне міру ва ўсім свеце. Ніяк не меней. А нашыя танкі ў Чэхаславакіі? Дык мы ж – флоцкія! Мы да гэтага ніякага дачынення! Па-першае! А па-другое – танкі абараняюць там працоўных ад контррэвалюцыі!

Мы амаль нічога не ведалі.

Па вялікім рахунку нам было “раўнабедрана” – дзе там гэтыя танкі. Нам хацелася быць значнымі і пасьпяховымі, для гэтага – мы лічылі – трэба атрымаць адукацыю.

Нам хацелася дзявочых ласкаў. Ах, як нам хацелася ласкаў! Больш, чым перамогі камунізму.

Нам хацелася пабачыць свет. Проста – пабачыць. Без аніякай мэты. Свет прыцягваў, як прыцягвае немаўля бліскучая цацка.

І мы не ведалі, што ў Чэхаславакіі людзі на знак пратэсту супраць “нашых” танкаў спальваюць сябе. А калі б і ўведалі, то знайшлі б гэтаму нейкае супакойваючае тлумачэнне. Накшталт “адшчапенцаў”, “адмарозкаў”, “пятай калоны”. Ці нам бы знайшлі.

Мы назіралі з борта за мітынгоўцамі без варожасці. Было страшнавата, што адсутнасць яе заўважаць, і гэта магчыма прынясе ў будучым нейкія непрыемнасці. Мітынг пачаўся якраз у час наведвання карабля месцічамі – было прынята рашэнне не адмяняць яго. Толькі на верхняй палубе паўсюль расставілі парамі курсантаў. У выпадку, калі разам з наведвальнікамі на карабель “пранікнуць” “антысаветчыкі”, пачнуць выкрыкваць лозунгі, раскідваць літаратуру або ўлёткі, ці паспрабуюць іншым чынам...,“вахце пільнасці” было прадпісана браць іх пад рукі, падводзіць левым бортам, да трапа і – можна выспяткам – выкідваць з карабля. Калі не было бачна з берага, дзеля гэтага і служыў левы борт, “ворага” можна было стукнуць. Але не па твары, каб не засталося фінгалу.

Дзякуй Богу, выводзіць нікога не прыйшлося. Бо мы выканалі б загад. Без задавальнення, без фанатызму, але выканалі б. І навек бы згубілі права быць гасцямі. І права любіць гэты горад, які стаў той першай бліскучай цацкай у нашым імкненні бачыць свет.

Бронак – не быў бы то пісьменьнік, знаўца чалавекаў! – адразу зразумеў мой стан, што я тут і ня тут, я ў маладосці, і прапанаваў “фотасесію”. Ганяў мяне і туды, і сюды, і да помніка, і на пешаходны мост над вуліцай, і да кнехтаў, за якія тады швартаваліся. На фоне будынку, прылепленага на шэрую скалу, на фоне сталёвай вады ў затоцы, на фоне процілеглага берагу...

...Сонечны зайчык раптам бліснуў мне ў вочы з асфальтавай шчыліны побач з швартоўным палам. Недзе тут ляжаў трап, апушчаны з борта “Барадзіна” на прычальную сценку. Тады, даўно. Я нагнуўся, падняў. Залацістая манета. Дзесяць шведскіх кронаў. Горад вяртаў згубленыя трыццаць восем гадоў таму грошы! Быццам казаў: “Мне не патрэбна чужое... Забірай, і не губляй больш...”

...Насамрэч – горад адкрываўся перада мною. У нас бракавала часу, і ў думках

я змірыўся з тым, што не “пабачуся” з Пасейдонам, мы спяшаліся назад, на чарговую імпрэзу. Толькі пайшлі іншымі вуліцамі – каб больш убачыць. Я кантраляваў па мапе “генеральны курс” да гатэлю. Разлічваў – як падыдзем бліжэй, здолеем арыентавацца па “коле абзору”, якое ўсталявана на гары ў парку “Лісэбэрг”. І за чарговым паваротам вуліцы перад намі нечакана ўзнікла плошча з бронзавым атлетам. Рэльефныя цяглііцы ў апошніх сонечных промнях. Рыбіна ў правай руцэ, чарапашка – у левай.

Ізноў у маіх думках злучыліся гады... Быццам спіраль часу зрабіўшы поўны абарот сціснулася, і замкнула віткі.

Зь дзёньніка курсанта Лазоўскага.

*5 чэрвеня.*

*Прыгожы горад! І чысьцюткі. Людзі прыемныя. Крыўдна толькі, што грошы згубіў... Хацеў тату, маме, сястры хоць якія дробязі набыць...*

*Хадзілі па вуліцах, заходзілі ў крамы. Чаго тут толькі няма! Здаецца ўсё, што можа прыйсьці ў галаву – ёсьць. І ніводнай чаргі. Толькі заходзім, падбягае крамнік і пачынае прапаноўваць. Нават няёмка, што нічога ня можам набыць... З намі хадзіў зампаліт факультэта, капітан другога рангу, ён у адным з шапікаў набыў цэлы пачак паштовак з аголенымі дзяўчатамі. На нашыя зьдзіўленыя позіркі (бо колькі было сказана, што парнаграфію тут набыць можна, але на карабель – тэрыторыю СССР – праносіць нельга, будзе лічыцца крымінальшчынай) коратка прамовіў: “Тэта не парнаграфія, гэта – мастацтва!”. Можа і так, толькі што тады – парнаграфія? Не растлумачылі.*

*Я спытаў нашага “капдва” аб адсутнасьці чэргаў. Маўляў столькі рэчаў, а за імі ніхто ня ломіцца. Палітработнік пацёр пераносьсе, і задуменна адказаў: “Разумееш... Сапраўды, як бачыш – тут шмат рознага. Толькі гэтыя буржуйскія тавары не па кішэні простым людзям, працоўным. Таму і няма чэргаў.”*

*А ўжо восьмага запальнічкі ў краме раптам сталі каштаваць дванаццаць кронаў! Гандляры адрэагавалі на раптоўны попыт. І яшчэ ля карабля быў антысавецкі мітынг.*

*Улады Гётэборга папярэдзілі загадзя, так што мы падрыхтаваліся.*

*Дзіўна – калі ўлады ня хочуць, каб нам штосьці зрабілі непрыемнае, то чаму папросту не пагоняць тых мітынгоўшчыкаў? Папярэдзілі, прыгналі трох паліцэйскіх на матацыкле з вазком – і ўсё! Мне гэта не зразумела...*

*...З-за пакгаўзаў раптам выкаціўся натоўп. Думаю – чалавек з тысячу, мо паўтары. Прынесьлі плакаты на рускай мове: “Советская Армия – вон из Чехословакии!”, “Вы – оружие экспансии и агрессии!”, свастыка=серп+молат, нешта сьпявалі, нешта крычалі ў мегафон. Трымалі партрэты К. Маркса, Сталіна, Мао-Цзэ-дуна.*

*У нас па правым борце ужо былі пастаўлены магутныя калонкі, не раўня іхняму слабенькаму “мацюгальніку”. Так што мы чулі толькі “Течёт река Волга” ў выкананьні Л. Зыкінай. “Чэкісты” потым казалі, што наступным днём газеты выйшлі з кідкімі загалоўкамі на першых старонках: “Руская поп-музыка заглушыла Інтэрнацыянал”.*

*Я ўвогуле не зразумеў, хто гэта быў, і што хацелі. Маркс, Сталін, Мао... Інтэрнацыянал... Каша нейкая... Добра, не падабаецца ім наша прысутнасьць у Чэхаславакіі, а пры чым тут асновапаложнік навуковага камунізму?*

*...Мітынгавалі хвілінаў сорак, а потым хутка разышліся. Засталіся можа чалавек дзесяць. Яны насупраць бака трымалі тыя плакаты. Мяняліся. Яшчэ гадзіны паўтары стаялі... Паліцэйскія праходзілі туды-сюды...*

*Пасьля мітынгу езьдзілі аўтобусамі на экскурсію па горадзе. Мне вельмі спадабалася статуя Пасейдона – атлета з дзіўным тварам і надзвычай прыгожым бронзавым целам. Яшчэ шмат розных помнікаў бачыў, фатаграфаваў, але Пасейдон*

*найбольш у памяці адбіўся. І каля карабля – помнік ці то загінулым маракам, ці то іхнім жонкам. На высознай калоне-стэле наверсе пляцоўка, і жанчына ўглядаецца ў мора, да выхаду з ф'ёрда. Вецер палошча яе сукенку, рукі ў малітоўным жэсьце перад грудзямі, уся там – за даляглядам. Чакае. Спадзяецца. Ня веру я, што такая жанчына, ці тыя, хто стварыў такі помнік "займае першае месца ў сьвеце па разбэшчанасьці, прастытуцыі, парнаграфіі..."*

*Стэла высокая, фатаграфія хутчэй за ўсё будзе вельмі дробнай. Я намаляваў гэтую кабету ў дзёньніку.*

*Яшчэ мы ў футбол са шведскімі маракамі згулялі. Я на варотах стаяў. Надралі яны нас. Тры-два. Потым нехта з нашых казаў, што ў шведаў двое з маладзёвай зборнай краіны гулялі... Відаць зганьбіць не захацелі, ўсяго адзін гол перавагі... Што ж – гасьцінна!*

*А самае лепшае, што было за ўвесь час візіту – экскурсія ў парк атракцыёнаў, "Лісэбэрг". "Тара Лізы" – так,відаць, можна перакласьці. Атракцыёны словамі перадаць немагчыма, можна толькі віскам. Нічога падобнага я ня бачыў нават у Менску ў парку Чалюскінцаў. Шведы нам выдалі кніжкі з талонамі. Падыходзіш да атракцыёна, у цябе вырываюць талон, і катаешся. Няма чаго казаць – талоны імгненна скончыліся. Тады мы пачалі катацца за значкі – усё пайшло ў ход – камсамольскія найперш, потым спартыўныя. Потым – якары з пагонаў. Афіцэры, што з намі былі, гразіліся рознымі захадамі, але ніхто іх ня слухаў. Большасьць потым прыехалі на карабель з пустымі пагонамі, шмат хто – без "галак" на рукавах. А як скончыліся нашы значкі і знакі – нас пачалі пускаць проста так... Нешта я ня веру, каб у парку Чалюскінцаў мяне задарма пусьцілі на "Супер-8"...*

Швецыя – лютэранская краіна, і ў Гётэборгу паўсюль бачныя вострыя шпілі цэркваў, падобных на беларускія касцёлы. Мы зайшлі ў адну з іх, пустую і гулкую. Маладая пара сядзела на дубовай лаве паблізу амбона, ці як гэта ў іх называецца... Драўніна лавы была высакародна сцямнелай ад часу. Твары хлопца і дзяўчыны сур'ёзныя і засяроджаныя.

Бронак зайздросна ўздыхаў: "Ты глянь, якая навокал прыгажосць! Гэтым будынкам не меней трохсот гадоў. Паглядзі – ніводная цаглінка ня выкрышылася! Шведаў прыкладна столькі ж, колькі і нас. Ухіляючыся ад войнаў і маючы выхад да мора, яны здолелі стварыць такую зручную для чалавека краіну! Ды ўлічы яшчэ, што частка краіны за Палярным колам знаходзіцца... Эх! Каб не войны і не Панцеляймон, у нас магло быць гэтак-жа!" – "Які Панцеляймон?" – "Ды Панамарэнка!"

Я не зразумеў наконт Панамарэнкі, і Бронак растлумачыў.

Аказваецца, пасля Другой сусветнай Масква прапаноўвала аддаць Беларусі адабраны ў немцаў анклаў, Каралявец і Усходнюю Прусію. І першы сакратар кампартыі Беларусі адмовіўся ад выхаду да мора! Яму, бачыце, так лягчэй было кіраваць! Што там казалі класікі-марксісты пра аб'ектыўнасць гістарычных законаў? Няма ніякіх такіх законаў! Усё залежыць ад палітычнай волі!

Яшчэ ў час падрыхтоўкі да падарожжа, з мяне ўзяла слова, што завітаю ў госці прыяцелька і былая зямлячка, Яня. Яня ажыццявіла мару многіх беларусак – пабралася са шведам. У Швецыі жыве ўжо шэсць гадоў, засвоіла мову і працуе настаўніцай у школе для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

Мглістым шведскім вечарам Лёш-Эрык, Янін муж, прывёз мяне на ўскраіну Гётэборга ў прасторны аднапавярховы дом. Было ўжо позна. Ганак асвятлялі мігатлівым жывым святлом два ліхтары са свечкамі.

"Візіт" пачаўся з традыцыйнага (што традыцыйнага – са словаў Яні) паказу дома. На сценах разам з прафесійнымі творамі віселі з любоўю забраныя ў рамкі

дзіцячыя малюнкі (Лёш-Эрык растлумачыў, што гэта малюнкі сына і пляменніцы). "Вось гэтая карціна алеем, – казаў Лёш-Эрык, – напісана маёй прабабкай-мастачкай, потым яна перайшла да бабулі, потым да матулі, і ўрэшце – да мяне"." А гэтую акварэль падараваў майму тату яго сябра, вядомы мастак... А гэтую гравюру я набыў на выставе..." На самых "ганаровых" месцах стаялі некалькі куфраў, камода і калаўрот, відавочна вельмі старыя, але ў цудоўным стане. На калаўроце хоць зараз можна было прасці ніткі. Яня паведаміла, што гэта рэчы продкаў Лёш-Эрыка, якія ён асабіста адрэстаўраваў і вельмі імі ганарыцца. Што ў доме захоўваюць (і карыстаюцца імі!) срэбныя сталовыя прыборы, якія належалі не аднаму пакаленню ягонага роду... Што ў шведаў увогуле – культ старажытных рэчаў. І культ продкаў.

Я спытаў у Яні – колькі сваіх продкаў яна ведае? "Ну... Ведаю як дзядоў клікалі. А прадзедаў – не. Ай, навошта гэтае капанне ў радаводзе? Што гэта дасць?" – Адмахнулася.

Хацелася спрачацца з Яняй, але ўзгадаў, што я не нашмат лепшы – толькі прапрадзедаў і здолеў "разведаць", і то не ўсіх. Далей ніхто з радні не ведае нават імёнаў. А хто ведаў, тых няма ўжо. У свой час, калі можна было – не цікавіўся. А калі стала цікава – няма ў каго спытаць. Так і становімся без роду... Маладым трэба веды пра радню перадаваць, нават калі не цікавяцца. Папросту – рабіць запісы. На іх прыйдзе час.

Потым мы сядзелі за масіўным – не раўня нашым "стол-кніжкам" – вялізным сталом, пілі лёгкае віно, елі згатаванага гаспадаром "марскога чорта" і гутарылі. Яня жвава перакладала і часам давала свае каментары. Лёш-Эрыка цікавілі мае ўражаньні ад наведвання Гётэборга ў 74 годзе і зараз, мае думкі аб прычынах і абставінах пасадкі на мель ля Карлскруна савецкай падводнай лодкі С-363 у 81-м годзе. Шкадаваў аб сёлетняй неабдуманай "бамбардзіроўцы" плюшавымі мядзведзікамі Івянца і Мінска шведскімі маладымі хлопцамі, што прывяло да ўзмацнення рэпрэсій у Беларусі і да разрыву дыпламатычных адносінаў.

Муж Яні спадабаўся мне дасведчанасцю і грунтоўнасцю, спакойнымі жэстамі і нетаропкай гаворкай. А найбольш – супадзеннямі нашых поглядаў.

Мы гутарылі аб дзяржаўнай сімволіцы, і Лёш-Эрык выказаў перакананне, што яднаць народ можа толькі сімволіка, асвечаная шматлікімі стагоддзямі, і вельмі здзівіўся, даведаўшыся ад мяне, што чырвона-зялёны з арнаментам сцяг "удуманы" усяго ў 1953 годзе. (Здзівіўся і я – ягонаму няведанню – пры "наяўнасці" жонкі-беларускі.)

Пакідаў я гасцінны дом з дваякім пачуццём – удзячнасці за добры прыём, за цікавую гутарку, і прыкрасцю за абыякавасць да Радзімы і яе святыняў былых нашых суродзічаў. Вось Яня – разумная кабета, мовай мужа авалодала самастойна за год-два, але за сорак гадоў так і не засвоіла беларускую.

Прыкрасць маю развеяла дашчэнту наступным днём маладая кабета з чатырохгадовым сынам, што прыйшлі на літаратурныя чытанні мясцовага літаратурнага клуба, куды запрасілі і нас, беларускіх літаратараў. Родам вялейская. Таксама замужам за шведам. Віцця, Вікторыя. Ах, якой смачнай беларускай мовай Віцця размаўляла! Гэта была проста музыка! А калі загаманіў яе сын, сэрца маё канчаткова растала. Пакуль будуць на свеце такія Віцці – Жыве Беларусь!

Каб абнавіць у памяці той даўні візіт на "Барадзіно", я захапіў з сабою ў падарожжа дзённік, напісаны тады мною – курсантам-другакурснікам. Асабліва ўразіў сказ аб "першым месцы ў свеце па разбэшчанасці і прастытуцыі". Так даводзілі нам "чэкісты". Сведчу: за ўвесь час, праведзены тады і зараз у Гётэборгу (і яшчэ ў Мальмё, Хельсінгборгу, Скурупе) я ні разу не пабачыў ніводнай пары, якая б цалавалася ці "зажымалася" навідавоку! А калі я "скакаў" у нумары гатэлю з тэлевізійнага канала на канал, мне ні разу не трапіліся кадры сукуплення... І ў

Швецыі даўно перамаглі вулічную прастытуцыю – пра гэта мне паведаміў перакладчык – беларус, які ўжо сямнаццаць гадоў жыве ў Стакгольме.

Грамадскую мараль якраз парушылі мы з Бронакам. Неяк ранкам у нас здарыліся чатыры вольныя гадзіны, і мы прашпацыравалі да выхаду з затокі. Прайшлі ў канец набярэжнай, мінулі мост, дайшлі да "дзікага" берага. Ад бліжэйшых вокнаў нас закрывалі хмызы з неапалай яшчэ лістотай. На пяску былі бачныя сляды і "семкі" казуль. Казулі – ў горадзе! Неверагодна! Лёш-Эрык у час майго "візіту" казаў, што казулі аб'ядаюць пад яго вокнамі кветкі, ды я не вельмі даў веры, вырашыў, што Яня няўдала пераклала. А тут упэўніўся – сапраўды ў горадзе жывуць гэтыя маленькія алені.

Па пляжы раз-пораз праходзілі – самотна і групамі – людзі з лыжнымі палкамі. Такія шпацыроўкі даюць нагрузку не толькі на ногі і ўнутраныя органы, а і на плечавы пояс.

– Браніслаў! Я пяць разоў праходзіў на караблях балтыйскімі пралівамі, перасякаў Балтыку ад Фінскай затокі да выхаду і назад, але ні разу не купаўся ў Балтыйскім моры. А ты?

– Не, мне таксама не прыходзілася. – Бронак адмоўна пахітаў галавой.

– Дык давай зараз акунемся!? Невядома, ці падарыць лёс яшчэ магчымасць!..

– А раптам – паліцыя? Прышыюць "амаралку". – засумняваўся Браніслаў.

– Якая паліцыя? Ты ж не дома, дзе мент за кожным хмызом. Давай! Бачыш – няма зараз нікога!

Толькі залезлі ў ваду, на беразе паказалася чарговая група.

...Вось яшчэ чым мне спадабаліся шведы – "хадакі" з палкамі не выказалі ні каліва здзіўлення, ці абурэння, калі двое мужчынаў распрануліся нагаляка і ў сярэдзіне лістападу палезлі ў мора. Лезуць – іх справы. Паважаю! І ўяўляю, колькі кпінаў і досціпаў, а то і праклёнаў, пачулі б яны, калі б аказаліся са сваімі палкамі да прыкладу на набярэжнай Піны.

Павінен прызнацца, што вялікага гераізму ў лістападаўскім "хрышчэнні" водамі Балтыкі не было. Вада нават не апякла, як гэта бывае, да прыкладу, калі на Вадохрышча людзі акунаюцца ў палонку. Адчуваецца галіна Гальфстыму. А і чысцюткая ж! Ніякага намёку на нафтавую плёнку, хоць затока забіта суднамі.

Зь дзёньніка курсанта Лазоўскага

*10 чэрвеня.*

*Сёньня а дзявятай па мясцовым часе пакінулі чароўную Швецыю. Прастаялі пяць дзён. Пакідаю гэты горад закаханым у яго. Нас гасьцінна прымалі і да нас цудоўна ставіліся!*

*Зьняліся са швартоваў і буксіры разьвярнулі "Барадзіно" носам да выхаду з ф'ёрда. На беразе невялікі натоўп. Дзяўчынка, тоненькая і прыгожая, як Асоль, доўга бяжыць за намі па прычалу. Не пасьпявае. Спынілася, махае рукой. Бывай, Гётэборг!*

Развітаўшыся з Гётэборгам, электрычкай даехаў да Мальмё. Перасеў на іншую і праз дваццаць хвілінаў быў у Даніі. Пад пралівам Эрэсунн аказаўся чыгуначны тунэль. Там проста ад перона эскалатар узнёс мяне ў аэрапорт Капенгагена.

Мы ляцелі над аблокамі. Зверху яны падобныя на заснежаную тундру. Толькі над Карпатамі было вакно ў хмарах і пасажыры любаваліся выглядам вяршыняў.

"Мэссэр" Аўстрыйскіх авіяліній прабіў хмары, плюхнуўся на бетон, збочыў з паласы, падвёз нас да будынку аэрапорта. Над Беларуссю панаваў змрок.

*2 траўня – 10 чэрвеня 1974 г., 11-17 лістапада 2012 г.*

Аляксей Каўка



...прачытаеш-перачытаеш,
і знову захочацца жыць
ды цешыцца з жыцця...

# У палоне высокай тугі,

## *або Крывіцкае пакліканне Уладзіміра Жылкі*

*О, Крыўская зямля!*
*О, волатаў нашчадкі!*
В. Ластоўскі. ("О, Крыўская зямля", 1923).

*Ўсемагутны! Вось сэрца паэты –*
*За народ Твой крывіцкі ахвяра.*
Ул. Жылка.
("Я грамнічная свечка прад Богам...", 1925).

Песняром нашага нацыянальнага самавыяўлення назваў Уладзіміра Жылку адзін з першых, найпраніклівейшых яго крытыкаў [1]. Да гэтае характарыстыкі стасуюцца і пададзеныя вышэй эпіграфы – вызначальныя ідэі, апорныя мастацкія тропы ў стылістыцы абодвух аўтараў. З тым што Ластоўскі, на слушную думку другога адметнага літаратуразнаўцы, ёсць пачынальнікам новай у беларускай славеснасці "ажыўленска-ўзвышэнскай" плыні – адразу ж падтрыманае яе маладзейшымі прадстаўнікамі: Дубоўкам, Пушчам "а нават Жыл-

кам” [2]. Слова “нават” рызыкнуў бы я перайначыць на “перадусім”. Прынамсі, глыбінёй, палкасцю нацыянальнага перажывання, неадольнасцю эстэтычнага ўздзеяння на чытача творца паэмы “Уяўленне”, “Вершаў аб Вільні” нікольки не саступае, калі не апярэджвае згаданых калегаў па пяры. Хаця справа не ў ранжыроўцы паэтаў, хутчэй – у індывідуальнай непаўторнасці кожнага з іх.

Уласна ў сваім непаўторным лірычна крывіцкім пафасе Жылка глядзіцца асабліва прыкметна, захапляльна – будзячы й палонячы неспатольнай тугой аб чымсьці высокім, прыгожым, непрамінальным. З нейкім дзіўным узрушэннем праслухоўваеш яго трапяткое слова – нібы працінальныя гукі шчымлівае драматычнае музыкі. Наколькі сам ён, стваральнік “Тэстаменту”, інтанацыйна наўздзіў меладыйны, патрапіў сваёй пакутна ўзнёслай істотай адолець горкую дысгармонію быцця, чароўнай прагай жыццялюбства й хараства, прачула паўнагучным акордам устрапянуць чуйны слых і сэрца беларуса, варухнуць інтымныя струны прыдраманае людскoе душы:

Няхай жыве крывіцкі люд!
Няхай квітнее люд крывіцкі,
Я гэты свет пабачыў тут,
Дзіцём ля матчынае цыцкі,
І рос, вясёлы шалапут,
З дзядоў, прадзядаў сын мужыцкі
На еміне яго палёў,
Дабытай з працы з мазалёў.
<...>
Я пакідаю з дзіўным сумам
Сваю дабродзейку зямлю.
Я голад знаў, душыўся глумам,
Ды імі сэрца не кармлю...
*(“Тэстамент”, 1932-33) [3]*

З такой вось развітальнай споведдзю сышоў Паэт-выгнаннік у іншы свет, у несмяротнасць. Давяршыўшы балесна светланосным, хрысціянскім гучаннем сваю паэтычную сімфонію, твораную ў няпростых абставінах асабістага й грамадскага лёсу – “на зломе дзвюх эпох злавесных”.

* * *

Крывіцкі матыў – скразны і дамінуючы ў жылкавай паэтычнай легендзе – у многім абумовіў адметнасць яго паэтыкі, стылёвай манеры, зроджаных з выразнага нацыянальнага перакананні й мастацкага вычулення Майстра. “Так – я крывіч, і хачу, каб была на свеце крывіцкая нацыя”. У гэтым “Хачу” мая нязломная воля”, – чытаем у дзённікавай нататцы паэта падчас яго навучання ў Карлавым універсітэце Чэхіі. Але Жылка, у адрозненне ад Ластоўскага, своеасаблівага заснавальніка “крыўскай” тэорыі [4], схільны не супрацьпастаўляць, хутчэй спалучаць этнонімы “крывіч” і “беларус”. Аднак у гістарычнай перспектыве таксама аддае перавагу першаму панятку над другім, як, паводле яго разумення, вышэйшай ідэальнай праяве беларускае тоеснасці й самасцвярджання: “Крыўю мы мусім вітаць, – працягвае ў тым жа дзённіку, – як новы крок у нацыянальным самаўсведамленні. Нацыянальнае “Я”, адраджаючыся, паглыбляецца ў самапазнанні. [...] Так усвядомленая Беларусь можа быць толькі Крыўяй”. Адсюль – і творчасць у самых разнастайных праявах і формах, і зместам, і сутнасцю “ёсць Крыўя”.

У кантэксце сказанага глыбей і выразней успрымаюцца тыя новыя словы і сэнсы, якімі разам з новымі творамі прырасціў разлеглы палетак прыгожага пісьменства палымяны Крывіч-Беларус, наш “новы Багдановіч” [5]. Успоены сокамі роднае “дабродзейкі зямлі”, авеяны, загартаваны вятрамі-сцюжамі суворае

эпохі, Паэт-рамантык з тайніц боскага дару, з вышыні ("высачыні") уласнага натхнення выспавядаў сучаснікам і нашчадкам прасветлую існасць свайго скарацечнага шляху жыццёвага і творчае крэда на ім:

Усім найдрожшым прысягаю –
Сваіх грахоў не утаю,
І любасць гэтую да краю,
І гнеў, і ненавісць сваю,
І што набыў, усё, што маю –
І скарбы, ўсе свае багацці,
І песні ўсе – крывіцкай хаце.
*("Тэстамент")*

Адносна новых словаў і сэнсаў. Удакладняючы, правільней было б казаць пра новыя камбінацыі даўнінных, шырока распаўсюдных словаў і вобразаў; напаўненне іх новым разуменнем жыцця і вызначае поступ у паэзіі, несупыннасць мастацкага руху – ад прошласці ў прышласць, ад побытавае прыземленасці ў надчасавую, бязмежную быційнасць. У гэтым ракурсе і жылкавы словавобразы "Крывія", "Беларусь", "Бацькаўшчына", "неба", "сонца", "раніца", "вясна", "курган", "доля", "шлях" і г. д. у агульным паэтычным суплёце здольныя нечакананова заварожваць чытацкую фантазію, хваляваць свежасцю й празрыстасцю, асацыятыўнасцю лірычнага малюнка, аздобленага прывабнымі пацеркамі мастацкай сінанімікі й метафорыкі: "вясняная пралеска", "яснавейнае ранне", "ранак срэбраросы", "дзень яснакетны", "салодкі лятунак", "і шчокі – яркія півоні", "і ў сэрцы холад пустаты".

Тое ж самае і яшчэ ўражлівей – трапна разгорнутыя, амаль афарыстычныя вершасказы: "Беларусь – край замчышч, курганоў"; "Беларусь, Беларусь – гэты зык паліць душу маю, як агнём"; "О, як соладка сэрцу маліцца: Беларусь, Беларусь, Беларусь"; "На мапу Еўропы ўзышоў Беларус"; "Пад гэтым небам, так каханым..."; "Валей жабрачы лёс, але не лёс раба"; "О, Вільня, крывіцкая Мекка". Здавалася б – ні зіхоткіх метафар, ні эфектыўнай сімволікі (хіба што ў апошнім "віленскім" прыкладзе), ні іншых, кідка выяўленчых акрас. Але – адно, другое, як жа знаёмае слова "Беларусь", "беларус", "крывіцкі", зладжанае ў пэўным мастацка сэнсавым радзе, працятаае, бы электрычным токам, трапяткім пачуццём, стварае новы запамінальны вобраз Радзімы, яе змагарнае долі і волі:

Не відна йшчэ у завірусе,
Куды ляжыць ягоны шлях,
Але дух творчы Беларусі
Жыве й змагае долі жах.
*("Мы любім даўнія паданні", 1923)*

Такім жа радзімалюбным сюжэтам пазней давяршыць Паэт мілагучную песню любай Бацькаўшчыне, прымусова незваротная ростань з якой надасць таму спеву працінальна лебядзінае гучанне, а яе лірычнаму герою – трагічна мужнае, неадольнае хараство:

О мой Край ў яснавейнае ранне,
Калі твой нахапляў я намер,
Быў ты першым дзіцячым каханнем,
Мне й апошнім застанься цяпер.
<...>
Але не... Хмуры твар майго люду
Кажа зноў аб нядобрай сяўбе,
І мяне, як злачынца-прыблуду,
Павядуць сумаваць без цябе.

<...>
Дык бывай жа здаровы каханы,
Зацвітай і красуй у вякох!
Скажуць людзі: як ліст адарваны
Па табе я ў чужыне засох.
*(“Верш развітання”, 1931)*

І ўсё ж. Не на фізічным сконе, не на ўласнай жыццёвай драме апошняя кропка творцы. Уваскрашальнай жыццявечнай актавай дагучваецца яго развітальная песня і кінутая на вагі Вялікага Часу лірычнае “Я”. Таемныя роздумы-хваляванні стаюцца ўвасабленнем нацыянальнага агулу, тае высокае ідэі, якой ахвярна слугаваў Паэт і якую ўрокам і зарокам завяшчае наступнікам:

Увесь я не памру. Нятленнымі дарамі
Найлепшае мяне запэўніць мой працяг,
Пакуль Пагоні меч зіхціць на Вострай Браме
І рух нясе наш бел-чырвона-белы сцяг...
*(“Наследаванне Гарацыя – “Помнік”)*

Расчулены переразовамі меладыйна-лірычных і рытмічных інтанацый Купалы, Багдановіча, рускіх класікаў Лермантава, Блока, – Уладзімір Жылка стварыў уласную ў беларускай паэтычнай прасторы непаўторную гармонію пачуццяў думкі і вобраза. Эмацыйнае ўзрушэнне з пачуццёвай расколіны паэтавай душы таёмнымі токамі працінае і іншае сэрца – няхай і яно ўстрапянецца-ўсцешыцца, спазірнуўшы на “свет і харошы і любы”, хаця й азмрочаны жыццёвай гаркатой. Гэтая гармонія перажывання гранічнай шчырасцю выказана як у агульным, вышэй пазначаным вобразатворчым малюнку Радзімы, народа, так і ў паасобных гісторыка-філасофскіх, пейзажных ды іншых выявах.

Перачытайма, прыкладам, верш “Раніца” (1922) – дзівосны шэдэўр мастацкае харашыні, высокай прасветлай тугі, здатнай чараваць, хвалявацць-узвышаць над панылай мітульгой чалавечую думку і сэрца:

Бывайце! Ізноў мне ўсміхаюцца далі
І сонца ў крыві і пястуе валоссе.
Забыўся я дома нудоту і жалі,
І ў свеце мне сніцца – ліхое звялося.
Чароўнасцю веюць хмурынак румянцы
І з цішаю звонкасць цалуецца ў губы.
О, ветрыку свежы, скажы там каханцы –
Які гэты свет і салодкі, і любы!.
Іду я па росным зялёным каберцы,
І песня ад шчасця ў знямозе нямее,
І сэрца, як сонца і сонца, як сэрца,
Сусветнае сонца гарыць, палымнее.

Як жа ўражвае, палонячы маё, чытача, вобразнае ўяўленне гэтая святлынь-акварэлька роднага краявіду, з яе “хмурынак румянцаў”, “зялёным каберцам”, варухаючы ў памяці другую класічную выяву – “цвяток радзімы васілька”. Трапяткія незнарочыстыя радкі запыняюць увагу і на асобе летуценніка-паэта – жывога ўвасаблення тых сонечных промняў цудадзейнага свету, якія ласкавым цяпельцам ацярушваюць усё жывое, лякуючы зняможаныя плоць і дух. А “душу тужлівую”, “сэрца кволае” Мастака, пэўна, і чытача, наталяючы эліксірам жыццялюбства й харства. Прачытаеш-перачытаеш, і знову захочацца жыць ды цешыцца з жыцця. Нават калі ў хваравітай істоце раптам адчуецца ледзяны подых “смерці-збавіцелькі” (вершы “Божа, не шмат засталося...”, “Прытулі, сястра, слабога...”, “Хвораму”, “Не кляні, о, анёл – абаронца...”), а неадпрэчнае “Memento” яшчэ раз нагадае пра непазбежную прыстань зямным

радасцям і смутку. Урэшце, і гэтую трагічную мяжу на крэсе сваіх апошніх дзён Паэт пераступіць з узнятым чалом – з балюча кранальнай прыстойнасцю: "Спявай, зямля, упіся сонцам. Абмыйся чэрвеньскім дажджом...". Пакінуўшы па сабе сапраўдны ўзор мастацкага й маральнага ўзвышэнства, пра якое згадана на пачатку.

Нельга таксама не запыніцца яшчэ на адным лірыка-эпічным вобразе Беларусі, бліскуча ўвасобленым у паэтычнай нізцы "Вершаў аб Вільні" (1924).

Тэма легендарнага места над Вяллёю, дзе за сівой даўніной прашчуры беларусаў – крывічы і ліцьвіны (апошнія – у трактоўцы гісторыка Міколы Ермаловіча) залажылі падваліны "Крывога горада" – прапаганіста сучаснага Вільнюса – здавён прапісана ў айчынным літаратурным летапісе нятускнымі радкамі Скарыны, братоў Мамонічаў, Кіркора, Сыракомлі, Багушэвіча, братоў Луцкевічаў, Багдановіча, Купалы, Ф. Аляхновіча, М. Гарэцкага... Сюды, на пакланенне "калысцы Волі і Адраджэння" (Л. Родзевіч) вякамі гарнуліся, горнуцца новыя а новыя пакаленні. Жылкава рамантычная муза таксама дазнала на сабе захапляльнае ўздзеянне неспасціжнае аўры "Беларускага Сыёну" або тае ж "Крывіцкае Меккі":

А там па-над мурамі даўнімі,
Дзе места ўсенькае відно,
Руіна думамі дзяржаўнымі
Гадае там: чыё яно?

Пакідаючы за чытачом адказ на пастаўленае пытанне, аўтар канкрэтнымі ці метафарычнымі дэталямі нагадвае нам аб featuresнапляменным складзе горада – паляках, літоўцах, габрэях, татарах. А што з беларусамі? Тых, быццам, не чутно й не відно. Хіба што на руіне іх былога дзяржаўніцкага тут-быцця панавання і можна ўявіць тую прысутнасць. Менавіта гістарычная традыцыя абуджае-ўзмацняе ў свядомасці паэта новае дзеятворчае наканаванне ў лёсе яго суродзічаў і "места роднага каханага".

Але ўжо лёс рукой няўхільнаю
Загад вызначвае з вякоў:
Усё магутней б'е над Вільняю
Прыбой нямоўкнучы з палёў.
Усё пераможней нестрыманае
Стыхіі шум і бурны круг...
О, места роднае каханае,
Цябе залье крывіцкі рух!
*("Вільні")*

Сэнсавае ўшчыльненне, рытмічная імпульсацыя паэтычнага радка надзвычай узмацняецца згушчэннем, вобразнай "беларусізацыяй" ісламскай сакральнай сімволікі (Каран, мінарэт, Рамадан, Мекка, Кааба), што асабліва напружвае выяўленчую энергетыку твора, паглыбляе й паліфанізуе яго нацыянальнае й інтэрнацыянальнае гучанне:

Ім кажуць прапасці са свету,
У парожнасць развеяцца ў дым,
Ды думкай, бы выш мінарэту,
Стаяць яны ў ветрыску злым.

Трапная высокамастацкая сімвалізацыя нацыянальных парыванняў (мабыць, толькі з непаразумення або ідэалагічнае перадузятасці ў застойна-падцэнзурным часе патрактаваная праявай фанатычнага месіянства [6]), яна наўрад ці пакіне абыякавым таго ж паляка, літоўца, габрэя, татарына ў свабодавалявым імкненні

кожнага з іх. Як і беларускае сэрца не перастане хваляваць трубны прарочы покліч да вызвольнага рушання пад скрыжалямі адвечных святынь:

Ім доля дала паніжэнне,
Ды Бога крым Бога няма;
І Бог ім адзін – вызваленне
І зненавісць іх да ярма.
<...>
І ты ці чакаеш пад здзекам,
Што бомкне ўрачыстая медзь?..
О, Вільня, крывіцкая Мекка!
Ці варта прарока ты стрэць?

А. Луцкевіч (Навіна) успрыняў жылкаву паэтычную версію "Вільні будучыні" з яе беларускім чыннікам як ірацыянальную, хаця і не адмовіў летуценням паэта пэўнае гістарычнае логікі ў поглядзе на "места, збудаванае потам і крывёй беларускага і літоўскага народаў" [7]. Так, Жылка прадставіў нам уласную, адрозную ад гістарыёграфаў вобразна-ідэальную гісторыю горада, наколькі мастацкая праекцыя апошняй можа падсілкоўваць рэальныя, найшляхетнейшыя мроі-парыванні чалавека. Таму й спавядальна развітальныя радкі Паэта, скіраваныя да таго ж самага месцадзеяння, здольныя выклікаць у чытацкай душы адно светлы жаль й несуцешнае спачуванне:

На могілках зацішных Росы
Хачу спачыць ад каламут.
Сачыцьмуць мой спакой найпільней
Муры старой каханай Вільні.
*("Тэстамент")*

І – тыя ж радкі – магчыма ўзварушаць практычныя высілкі віленчукоў, менчукоў у здзяйсненні запаветнага жадання Творцы трагічнага лёсу. Каб у пантэоне слынных віленскіх беларусаў на сакральных Росах абок імёнаў Сыракомлі, братоў Луцкевічаў, Лявіцкага (Ядвігіна Ш.) свяцілася й імя Уладзіміра Жылкі. Наколькі горад над Вяллёй – Вільня-Wilno-Wilnus [8] у гарманійным спалучэнні палітыкі і культуры здатны вяртаць у Айчыну прарокаў, ушаноўваць іхні прах.

Тамаш Грыб, знаны дзеяч беларускае эміграцыі ў Празе, адгукаючыся лістом да А. Луцкевіча (жнівень 1923) на творчасць новапрыбылага з Заходняй Беларусі студэнта-паэта, празарліва заўважыў: "Гэты малады пясняр творыць вялікія вартасці. Я з Вамі згодзен – за ім вялікая будучыня" [9]. Процілегла сатанінскімі меркаваннямі кіраваліся інспіратары, выканаўцы крымінальнага дзейства ў БССР супроць так званае "нацдэмаўшчыны" (справа міфічнага "Саюза вызвалення Беларусі" 1930-1931), асудзіўшы на выгнанне, фактычна на самотнае скананне ў далёкім расійскім Уржуме хворага на сухоты Паэта –

*Уладзіміра, сына Адамава Жылку – "па волі лёсу" Беларуса...*

Чыё прамяністае, непадуладнае змрочнай паліцэйшчыне Слова – "жарсць і дух асілка" – натрывала прапісана ў аналах беларускага культурадуховага развіцця й супраціву. Прапісана на так доўга, пакуль ***"дух творчы Беларусі жыве й змагае долі жах".***

З а ў в а г і:

1. Навіна А. (Луцкевіч А.). Адбітае жыццё. Кн.1. Вільня, 1928. С. 131.
2. Склют Р. (Адамовіч Ант.). Званар адраджэння (Вацлаў Ластоўскі) // Бацькаўшчына. 1947. № 47-48. Цыт.: Скарыніч. Вып. 3. 1997. С. 51.

3. Жылка Ул. Творы. Укладанне, прадмова, каментар М. Скоблы. Мн., "Беларускі кнігазбор", 2000. С. 142 (Далей спасылкі на гэтае выданне, курсіў цытаваных радкоў усюды мой – *А.К.*).

4. Ластоўскі В. Аб назовах "Крывіч" і "Беларус", "Патрыятычны малітвеннік" // Ластоўскі В. Выбраныя творы. Укладанне, прадмова, каментар Я. Янушкевіча. Мн., "Беларускі кнігазбор", 1997. С. 193. Пераемнасць крывіцкага радаводу ў этнасупольнасці беларусаў яшчэ раней закранался так ці іначай папярэднікамі Власта – у працах Я. Чачота, М. Без-Карніловіча, І. Насовіча, М. Доўнар-Запольскага, Я. Карскага, іншых. Ластоўскі надаў гэтай "крывіцкай" ідэі адмыслова самадастатковае абгрунтаванне. На яго думку, найменні "Крывія", "крывічы" як першасныя, найбольш адэкватныя выявы нашае нацыянальнае ідэнтычнасці павінны заступіць назовы "Беларусь", "беларусы" – маўляў, накінутыя звонку ў выніку асіміляцыйнае (русіфікатарскае) палітыкі самадзяржаўнай Расіі. Падобнага "крывіцкага" погляду трымаўся пэўны час філолаг і гісторык Ян Станкевіч, пазней аддаўшы перавагу другому ў дачыненні да беларусаў – "Вялікаліцьвінскаму" найменню.

5. Сьветазар Яз. Новы Багдановіч (літаратурны нарыс) // Сялянская ніва. 1926. 17 студз. Цыт.: Адамовіч Ант. Творы. Нью-Ёрк, 2003. С. 409.

6. Калеснік У.А. Лёсу наперакор // Жылка У. Творы. Мн. "Мастацкая літаратура", 1996. С. 19.

7. Навіна А. (Луцкевіч А.). Адбітае жыццё... С. 136 137.

8. Дубавец С. Русская книга. Мн., 1998. С. 154.

9. Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Складальнік С.Шупа. Т.1. Кн. 2. Вільня. – Нью – Ёрк – Менск 1998. С. 430.

*2006*



Святлана Раманава



...Засцілайма зямлю ручнікамі даверу!
Спавівайма зямлю дыванамі цяпла!..

# Калі думка лунае высока

***Гутарка з мастачкай Людмілай ПЯТРУЛЬ***

***Першае маё знаёмства з фантастычна чароўнай творчасцю таленавітай спадарыні Людмілы адбылося, можа, з дзясятак гадоў таму на адной з мастацкіх рэспубліканскіх выстаў. Мяне тады вельмі ўразіў партрэт Марыны Цвятаевай, выкананы ў тэхніцы габелену з ужываннем нітак сізалю.***
***А потым, вясной 2012 года, я наведала юбілейную выставу Людмілы Пятруль і яе вучняў "Повязь". Тут было прадстаўлена арганічнае спалучэнне сялянскай тэмы "Сказ пра бульбу" з рэмейкамі на карціны слынных Марка Шагала "Спакуса" і Казіміра Малевіча "Галава сялянскай дзяўчыны" і не толькі. А яшчэ прыемна ўразіла тое, што яна піша вершы, апошнім часам – пераважна хайку.***

***Наша размова адбываецца ў майстэрні Людмілы Іванаўны, якая месціцца недалёка ад сталічнага чыгуначнага вакзала.***

## Першыя карціны алейнымі фарбамі малявала на паперы

***– Людміла Іванаўна, раскажыце, калі ласка, як пачынаўся Ваш шлях у вялікае мастацтва?***

– Нарадзілася ў вёсцы Мацееўка Гарадзенскай вобласці, але праз два гады памерла маці і я перабралася жыць да бабулі Аўдзейчык Юліі Фёдараўны ў суседнюю вёску Харужанцы. Дзяцінства было нялёгкім, пасляваенны час, жылі ў маленькай хацінцы, прабабуля Аміля спявала беларускія песні, бабуля Юля многа часу праводзіла за кроснамі. Памятаю, я вельмі любіла спяваць: у полі, у лузе, калі трэба было пасвіць вясковых кароў. Во раздолле! На ўвесь голас, ад усяго сэрца, ад паўнаты быцця. Рыфмаваліся словы, з'яўляліся тэксты, першае каханне праявілася праз лірычныя разважанні пад назвай "Чаму ты такі?" і было накіравана ў папулярны тады часопіс "Юность".

Але была яшчэ цікавасць да малявання. Памятаю, так добра атрымаўся эскіз чамадана алоўкам, з усімі цвічкамі, заклёпачкамі. Піянерважатая школы ўбачыла мае здольнасці і прапанавала афармляць школьныя насцензгазеты, стэнды, падарыла мне ленінградскія алейныя фарбы, прынесла растваральнік. І я размалёўвала гербы розных краін на фанеры, увесь насценны друк дружыны імя Марата Казея. А яшчэ ў вольны час з задавальненнем рабіла партрэты бабулі і сяброўак, нацюрморты. Тады, у старэйшых класах, былі створаны першыя работы алеем на паперы. Я нават не здагадвалася пра палатно і яго грунтоўку. Працэс крапатлівай працы алоўкам і фарбамі настолькі захапіў свядомасць, што было вырашана паступаць у Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут на аддзяленне жывапісу. Ізабелінскую школу скончыла з залатым медалём. Дарэчы, тады выкладанне і ўсе падручнікі былі на беларускай мове.

Так здарылася, што на ўступныя экзамены спазнілася на тры дні. Адпраўляюць мяне назад. Сяджу, плачу. Май Данцыг тады быў у прыёмнай камісіі. Сабраліся, вырашаюць, што рабіць? Што за самародак такі з'явіўся з правінцыі без аніякай падрыхтоўкі з малюнкамі алеем на паперы і прэтэндуе на аддзяленне жывапісу? Бяляеў тады быў дэканам, кажа: "Выпішце накіраванне ў інтэрнат, няхай здае экзамены". І я здавала, на беларускай мове, адна з усяго курсу, здала добра і ўзялі мяне на аддзяленне тэкстылю, якое называлася вельмі суха: "Праектаванне тканін метадам ткацтва і друку".

## "Тчыся, лепшы мой габелен!"

***– Раскажыце, чым запомніліся гады вучобы?***

– О, гэта быў вельмі цікавы насычаны незабывальны час, час пошукаў уласнага шляху ў творчасці. Спачатку мяне больш цікавіў уласна жывапіс, графіка; не разумелі маіх работ, бо яны былі не традыцыйныя, а, як бы цяпер сказалі, канцэптуальныя. Як можна намаляваць сум вады? "Побач з табой Пікасо патух", – іранізаваў загадчык кафедры П. В. Масленікаў. Вельмі любіла працаваць у тэхніцы грызайлю, манатыпіі. Праз некалькі год зрабіла мастацкае афармленне кнігі паэзіі Нэлі Тулупавай "Босая цішыня", ілюстрацыі да вершаў Марыны Цвятаевай.

Пасля заканчэння тэатральна-мастацкага інстытута працавала мастаком на Баранавіцкім баваўняным камбінаце, усе тканіны з маімі ўзорамі адразу ішлі ў вытворчасць і карысталіся вялікім попытам у насельніцтва. Вершы цэлымі паласамі друкавала газета "Тэкстыльшчык". Але ж неўтаймаваная энергія маладосці шукала больш індывідуальнага выяўлення.

*З 1972 года Людміла Пятруль пачынае ўдзельнічаць у рэспубліканскіх выставах. Сталічная прапіска далася нялёгка, дзякуй Богу, падтрымалі пісьменнікі, калі яна працавала ў Доме літаратара.*



Людміла ПЯТРУЛЬ.

*Потым была выкладчыцкая праца ў Акадэміі мастацтваў, у музычна-мастацкай школе №1, дзе Людміла Іванаўна працуе і цяпер, больш за трыццаць гадоў выкладае выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.*

*Першы габелен, які атрымаў высокае прызнанне, – "Гімн прыродзе", вытканы ў 1974 годзе. Ствараўся ён пад чароўныя гукі дзявятай сімфоніі Бетховена. Што ў ім? Вобразы вясны з галінкамі дрэваў, набрынялых сокамі зямлі, што ўпарта цягнуцца ўверх да сонца, сама маці-зямля разам з бусламі, травамі, званочкамі спявае абуджальную мелодыю, маладая жанчына, якая імкліва рухаецца ў пошуках сваёй папараць-кветкі. Вельмі складаная, дынамічная, насычаная кампазіцыя твора: кантрастныя колеры вады і агню ўдала спалучаюцца з нюансамі і рытмамі, ураўнаважваючы часткі твору. Вобраз зярнятак у яблыку сцвярджае бясконцасць жыцця, вобраз скрыпкі гаворыць аб вытанчанасці, пранікнёнасці пачуццяў. Цяпер гэты габелен знаходзіцца ў Зборы фондаў БСМ.*

*"Верасовая цішыня" (1981 г.) – амаль жывапісны станковы твор і адначасова паэтычны вобраз, у ім яскрава адчуваецца дыханне, жыццё лясных зёлак і ружова-шэры туман-паўзмрок восеньскай раніцы. Стрыманы каларыт, нюансная тэктоніка твора, мяккасць, далікатнаць ліній сведчаць аб высокім майстэрстве аўтара габелену.*

*Нельга не згадаць "Сказ пра бульбу" (1983 г.), які складаецца з чатырох частак: "Каля бурта", "Пасеў", "Дакопкі", "Клёцкі". Серыя створана ў шэравохрыста-залаціста-блакітных колерах. Новы твор дасканала перадае беларускі вясковы побыт, нацыянальную самабытнасць, а новы каларыт гаворыць аб далейшым развіцці магутнага таленту мастака. З якой любасцю, цеплынёй, усведамленнем значнасці падзей ствараe Людміла абагуленыя вобразы простых вяскоўцаў, коніка, аратага, кошыкі з бульбай! "Дачка вёскі", – як назвала яе Вольга Іпатава ў артыкуле "Тчыся, лепшы мой габелен"("Маладосць", 1997 г., №9) не магла не адгукнуцца на звыклую блізкую тэму. На маю думку, гэты твор можна лічыць хрэстаматыйным, глыбока народным, бо ён – маленькая энцыклапедыя вясковага жыцця беларусаў, своеасаблівы помнік вёсцы, якая на нашых вачах паступова змяняецца.*

*Зусім іншы каларыт і фармат серыі "Плакучая вярба": "Шэрань" (2000 г.), "Вербніца" (1999 г.), "Летні дождж" (1994 г.), "Восеньскі ўлоў" (2004 г.). Разам са звыклым матэрыялам (баваўна, сукно) майстар ужывае новыя – люрэкс, сізаль, які*

*вырабляецца з лісця агавы. Вобраз вярбы, арганізаваны сеткай з ромбаў (ромб у ручніковай семантыцы нацыянальнага ткацтва азначае незасеянае поле) гаворыць аб драматычнасці, зменлівасці, знітаванасці з прыродай чалавечага лёсу. Кожны габелен адпавядае пэўнай пары году.*

*Уражваюць сваёй манументальнасцю, метафарычнасцю габелены "Вартавыя муроў" (1996 г.), "Хатынь" (1975 г.), "Развіднела" (1987 г.), "На строме ліры" (1983 г.), "Сугучнасць" (1988 г.), "Санет" (1991 г.), "Трыялет" (1991 г), трыпціх "Лёс" (1996-1997 гг.), "Тайны пушчы" (2006 г.), апошні створаны спецыяльна для Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, дзе ён зараз і ўпрыгожвае першы паверх будынка.*

*Узгадваюцца радкі з яе верша "На кругі спрадвечных рамёстваў", дзе Людміла Пятруль прамаўляе свой духоўны запавет:*

...Каляровы ўток прыбіваю...
Тчыся, лепшы мой габелен!
...Залатым па зялёным, чырвоным па белым,
Покуль сцежка гнязда не звіла...
Засцілайма зямлю ручнікамі даверу!
Спавівайма зямлю дыванамі цяпла!

## "Няма комплексу прытрымлівацца традыцыйнага матэрыялу"

***– Людміла Іванаўна, успомніце Вашу першую персанальную выставу.***

– Гэта адбылося ў 1998 годзе ў гонар юбілею. У Палацы мастацтва былі творы і жывапісу, і графікі, і габелены. Упешыню былі выстаўлены тканыя партрэты Максіма Багдановіча, Марыны Цвятаевай, Адама Міцкевіча...

Потым дзве персанальныя выставы з серыі габеленаў па матывах паэзіі Янкі Купалы "Казкі новыя у свет" у музеі Я. Купалы і па матывах Максіма Багдановіча "З любоўю да Максіма" ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. А ў 2007годзе – выстава ў Нацыянальным мастацкім музеі разам са скульптарам Максімам Пятрулем "60&30".

...Люблю эксперыментаваць. Напрыклад, абіраю яблыкі, са стружак выклаваю вобраз жанчыны, атрымліваецца "Дама ў капелюшы", фатаграфую. Гэта мастацтва імгнення, якое зараз шырока распаўсюджана ў свеце. Лічу, што сучаснаму мастаку трэба шукаць не толькі сваю манеру, але і новы стыль, адпаведны свайму часу. Імпрэсіянізм адкрыў француз Клод Манэ, авангардызм – віцяблянін Казімір Малевіч, цяжка пераўзысці рэалізм рускага мастака Івана Шышкіна і г. д. Нам на стыку стагоддзяў трэба шукаць новае. З сучасных мастакоў у пэўнай ступені мне імпануе Сяргей Кірушчанка з яго "Метабалізмам жывапісу".

***– Раскажыце пра выставу эксперыментальнага мастацкага тэкстылю паводле Першага беларускага пленэру "Метафары і метамарфозы", якая адбылася восенню мінулага году.***

– Ідэя правядзення такога пленэру ўжо некалькі гадоў лунала над Мінскам. А потым сабраліся разам на канферэнцыі па праблемах сучаснага мастацкага габелена зацікаўленыя мастацтвазнаўцы Л. Д. Фількенштэйн і Я. Ф. Шунэйка і вырашылі правесці пленэр у дворыку ля Палаца мастацтва. Ларыса Давідаўна была куратарам творчай акцыі, Яўген Феліксавіч распрацаваў канцэпцыю, а я пачала абзвоньваць мастакоў, якім, на маю думку, было б цікава паўдзельнічаць у такім праекце. Адгукнуліся 20 творцаў, сярод якіх і мае вучні Ю. Зеляная, В.Конева і іншыя.

Як сведчыць выстава, прызнаныя майстры габелену Н. Пілюзіна, А. Обадава, Я. Шунэйка, Н. Лісоўская і іншыя, а таксама маладыя В. Юрэвіч-Малашчук, М.Карповіч-Сакалова, Н. Рэшатава і іншыя прадэманстравалі самыя розныя формы, тэхнікі, вобразы сучаснага тэкстылю.

*"Табелен зараз адышоў ад сцяны, што было традыцыйным на працягу некалькіх стагоддзяў, пачынаючы з 17-га, калі дываны-карціны ўпершыню пачалі ствараццa ў Беларусі, і выйшаў у прастору. У мастацтвазнаўстве гэтая з'ява атрымала назву "пластычны выбух 1960-х", калі з'явіліся новыя мастацкія формы, такія, як тэкстыльная скульптура, інвайранмент, інсталяцыя і іншыя. Нараджэнне эксперыментальнага тэкстылю ў Беларусі пачалося ў 1980-я гады", – пазначыла ў прэс-рэлізе выставы каардынатар пленэру мастацтвазнаўца, якая даследуе праблемы сучаснага эксперыментальнага тэкстыля, Вераніка Юрэвіч-Малашчук.*

***– Людміла Іванаўна, Ваш арт-аб'ект "Мая першая кніга", зроблены з накрухмаленых лістоў ільну пад назвай "Дзень як жыццё", дзе змешчаны хайку на беларускай і рускай мовах, зацікавіў многіх наведвальнікаў імпрэзы. Як пачынаўся такі ўнікальны праект?***

– Усё проста. Вершы пішу з юнацтва, друкавалася ў калектыўным зборніку паэзіі "Сцяжына" з нізкай "Ля веснічак", у "Маладосці", у альманаху "Далягляды" з перакладамі з польскай вершаў Казіміры Лаковіч і літоўскай паэта Юргіна Кунчынаса, а вось кнігі паэтычнай дагэтуль няма. І я вырашыла паэксперыментаваць. Маю вялікую тэкстыльную кнігу могуць чытаць адразу два чалавекі, якія сядзяць насупраць адзін аднаго.

***– Што зараз на вашым ткацкім станку? Да якіх чарговых выставаў рыхтуецеся?***

– Пакуль што выношваю адзін складаны праект толькі ў думках, а вось удзельнічаць запрасілі ў 14-м Міжнародным трыенале, які адбудзецца ў маі наступнага года ў Польшчы, бо я і раней удзельнічала ў міжнародных выставах. Напрыклад, у 2-м Міжнародным фестывалі тэкстылю "Структуры сувязей" у Кракаве з маімі "Плакучымі вербамі" (2007 г.), ва Усерасійскім трыенале сучаснага габелена малых форм "Квадратны метр – свая прастора" у Маскве (2011 г.) з трыпціхам "Апокрыфы" і іншых.

Магчыма, паспрабую арт-аб'ект "Мая першая кніга" ўдасканаліць для ўдзелу ў міжнародных праектах.

Ала Брадзіхіна



…каханне яшчэ часам успрымаецца “крывавай карыдай”, што прызначаецца лірычнаму суб’екту любай жанчынай…

# Дарослыя гульні: новая эра

***Адметнасці развіцця інтымнай лірыкі ў XXI стагоддзі***

Няспынныя пошукі мыслярамі прычын узнікнення кахання спарадзілі шэраг гіпотэз у самых розных галінах ведаў – ад філасофіі да хіміі. Адна з самых паэтычных версій вырашэння гэтай праблемы была сфармулявана яшчэ ў элінскую эпоху. Паводле антычнай міфалогіі – прызнанай крыніцы вобразных мадэляў агульначалавечых універсалій і архетыпаў, свавольства ці забава бога-дзіцяці Амура (Эрота) выклікае шэраг наступстваў у выглядзе параненых ці разбітых сэрцаў. Іншымі словамі, каханне, лічылі старажытныя грэкі ды рымляне, пачынаецца з гульні.

Сучасная антрапалагічная навука таксама дапускае магчымасць трактоўкі кахання ў якасці феномена, які канстытуіруецца праз катэгарыяльны апарат гульні. Калі ўлічыць, што апошняя – гэта самакаштоўная дзейнасць, якая дае магчымасць рэалізацыі індывіду па-за яго сацыяльнымі ролямі і дорыць вострыя эмацыянальныя перажыванні ў працэсе камунікацыі, пазбаўляе стэрэатыпаў на карысць крэатыўнасці і свабоды, прадугледжвае замену рэальнасці прасторай уяўлення, а парушэнне правіл

цягне за сабой выхад з кола ўдзельнікаў, то такая інтэрпрэтацыя не падаецца штучнай.

У акрэсленым кантэксце выклікае цікавасць аблічча паэзіі кахання пачатку трэцяга тысячагоддзя як сімптаматычнай з'явы ў спазнанні ментальнасці сучаснага чалавека. Паспрабуем вызначыць, як выглядае сённяшні homo ludens.

## Гульня 1. "Хованкі"

Як ні дзіўна, у любоўнай лірыцы XXI ст. назіраецца імкненне пэўным чынам схаваць сваё пачуццё ад патэнцыйнага чытача. Псіхалагічна гэта абумоўлена супрацьстаяннем-канфліктам натуральнага для кожнага паэта жадання выказацца, застаўшыся максімальна шчырым, са стомленасцю і насцярожанасцю, што з'яўляюцца атрыбутыўнымі прыкметамі светаадчування "памежнага" чалавека. Спосабы і сродкі рэалізацыі такой творчай стратэгіі могуць быць самыя розныя.

Найперш трэба адзначыць тэндэнцыю да герметызацыі любоўнага верша, якая назіраецца не толькі ў аўтараў, чыёй паэзіі ўвогуле ўласціва сэнсавая цьмянасць і падкрэсленая інтэлектуалізацыя, але і ў творцаў, так бы мовіць, даволі "ясных". Падобная адметнасць вызначае лірычныя тэксты пра каханне І. Бабкова (зб. "Герой вайны за празрыстаць"), А. Аркуша (зб. "Прывід Вясны"), І. Багдановіч (нізка "Вінагроздзя кахання"), В. Шніпа (нізка "Першы тыдзень без цябе"), Л.Раманавай (нешматлікія любоўныя вершы ў зб. "Птушкі і рыбы") і інш. Цяжка сказаць пра ўсвядомленасць ці ненаўмыснасць акрэсленага спосабу мастацкага ўвасаблення свайго "я" ў кожным канкрэтным выпадку, але яго сутнасць можна сфармуляваць словамі В. Шніпа:

Пра што мае вершы? Пра што я пішу?
Я Богу пра вершы свае адкажу,
Я Богу за вершы свае адкажу,
А вам не скажу,
а вам не скажу... [1, с. 310]

Другі спосаб тычыцца замкнёнасці, своеасаблівай аўтаркічнасці ўнутранага свету многіх аўтараў, прымервання масак, хавання сваіх пачуццяў за гумарам, за гісторыямі "чужога" кахання, што становіцца мастацка-вобразнай дамінантай цэлых цыклаў і нават зборнікаў любоўнай лірыкі. Паказальным у гэтым сэнсе можа служыць выданне адразу некалькіх кніг, дзе назіраецца з'ява часавай аберацыі, а лірычныя гераіні выступаюць у ролях сярэднявечных Чароўных Дам – аб'ектаў кахання высакародных рыцараў (зб. "Рыцарскія хронікі", "Над замкавай вежай" Л. Рублеўскай, "Сармацкі альбом" І. Багдановіч, шэраг вершаў са зб. "Зеленавокія вої і іх прыгажуні" Л. Сільновай). Паэткі рэпрэзентуюць вобраз самотнай і поўнай годнасці панны ў замкавай вежы, роўнай свайму каханаму-князю, які трымаецца на зямлі толькі яе любоўю.

Цікавым бачыцца і заснаваны на эмпатыі прыём пераасэнсавання міфалагічных гісторый любоўнага характару (нізка "Метакаханне" Г. Булыка, вершы "воля выбару..." Л. Рублеўскай, "Санэт XVIII стагоддзя" Ю. Пацюпы, "Рай" Э. Акуліна, "Адаму", "Спаткання раптоўнага сфінксы..." Т. Барысюк і інш.). Своеасаблівасць іх трактоўкі аўтарамі не палягае ў рэчышчы ўжо звыклага для айчыннага вербальнага мастацтва прынцыпу дэкананізацыі. Знешне верш захоўвае прыкметы аўтапсіхалагічнай лірыкі і прамаўляецца ад першай асобы. Такім чынам ствараецца сінкрэтычнае адзінства, узнікае новы, даволі папулярны ў пачатку XXI ст., суб'ект – міфалагічны персанаж і лірычны герой адначасова.

Яшчэ адным сродкам ухіліцца ад прамога выяўлення сваіх пачуццяў з'яўляецца наданне інтымнаму вершу гумарыстычнага характару. Пры гэтым на змену класічнаму любоўнаму жарту XX ст., што быў запатрабаваны ў творчасці М. Танка, А. Вярцінскага, Г. Бураўкіна і інш., у лірыцы паэтаў сённяшніх прыходзіць "шчырым пафігізмам прасякнутая іронія" [2, с. 58]. Нельга не заўважыць, што інтымныя вершы менавіта такога кшталту складаюць важкую плынь у зборніках В. Трэнас ("Цуд канфіскаванага дзяцінства"), А. Хадановіча ("Сто лі100ў на tut.by"), В. Жыбуля ("Дыяфрагма"), Джэці ("За здаровы лад жыцця"), В. Морт ("Я тоненькая як твае вейкі"), Ус. Гарачкі ("Пралетарскія песні") і інш. У якасці прыкладу іранічнага мыслення працытуем наступныя радкі:

Як бы я цябе кахаў  
І расчулена ўздыхаў,  
Называў цябе адзінай,  
Ды сабака забрахаў.

Як бы я цябе любіў,  
Толькі словы – бы згубіў.  
Гэта ён ва ўсім павінны:  
З панталыку мяне збіў [3, с. 14].

Аднак наўрад ці гульнёвы пачатак ёсць толькі дэманстрацыяй сваёй прыналежнасці да постмадэрнісцкага мастацтва, прыхільнасць да эстэтыкі якога ў рознай ступені праглядаецца ў большасці з названых творцаў. Пазіцыя іранічнага скепсісу не азначае і адмаўленне кахання як духоўна-эмацыянальнай з'явы, бо гэтаму супярэчыць ужо сам зварот да любоўнай праблематыкі. Хутчэй, такія вершы трэба разглядаць як зрух эстэтычных акцэнтаў, пратэст супраць рамантычна-сентыментальных уздыхаў па каханні, што атаясамліваюцца са штучнай позай, няшчырасцю яго выяўлення: "п1шы мне вершы // кажы мне словы // тольк1 ня трэба // л1рык1" [4, с. 19]. У пэўным сэнсе, гэтая рэакцыя (у айчыннай літаратуры нават запозненая), па словах Р. Барта, натуральная для сучаснага чалавека: "Дыскрэдытаваную сучаснай грамадскай думкай любоўную сентыментальнасць закаханы суб'ект павінен прызнаваць у сабе як радыкальную трансгрэсію, што робіць яго самотным і безабаронным; дзякуючы цяперашняй інверсіі каштоўнасцей, якраз у гэтай сентыментальнасці і заключаецца непрыстойнасць кахання" [5, с. 213].

Шырокараспаўсюджаным прыёмам выступаюць і метамарфозы суб'ектаў кахання, што само па сабе з'ява не новая ў вербальным мастацтве інтымнага характару. Аднак трэба адзначыць адметнасць нераўвасабленняў герояў XXI ст., якія прадстаюць у нетрадыцыйных для любоўнай лірыкі абліччах. Так, не могуць не ўразіць поўныя драматызму "драпежныя" вобразы самотнай ваўчыхі (зб. "Валавуд" В. Куртаніч), гераіні-змяі (зб. "Над замкавай вежай" Л. Рублеўскай) і нават жанчыны-ваўкалака (зб. "Падданыя кахання" З.Дудзюк). Побач з прыведзенымі трансфармацыямі, у якіх, безумоўна, угадваюцца фальклорна-міфалагічныя вытокі, нярэдкія ў сучаснай паэзіі пераўтварэнні, заснаваныя на гранічна суб'ектыўных асацыяцыях, кшталту "я – басе 1 ты басе" [4, с. 27] ("PAGER-вершы" Г. Лабадзенкі), "ты – мая зорка, а я – твая чорная дзірка" [6, с. 55] (зб. "Дыяфрагма" В.Жыбуля) або "Не прислоняться! // Я – дзверы ў вагонах метро" [7, с. 37] (зб. "Я тоненькая як твае вейкі" В. Морт). Нарэшце, самы папулярны прыём у сённяшняй любоўнай лірыцы – увасабленне закаханых у выглядзе дзвюх рыбін (вершы У. Арлова, Л. Сільновай, Л. Раманавай, В. Куртаніч, Ус. Гарачкі, В. Жыбуля і інш.), што падаецца цалкам заканамерным, калі ўлічыць іманентную скіраванасць такой вобразна-мастацкай структуры на раскрыццё адной з актуальных праблем зносін паміж мужчынам і жанчынай – мовы кахання.

## Гульня 2. “Маўчанка”

Нельга не заўважыць прыкметнай тэндэнцыі да ігнаравання вербальнага кампаненту ў стасунках паміж закаханымі. У сувязі з гэтым на старонках многіх зборнікаў інтымнай лірыкі прама ці ўскосна ўздымаецца на першы погляд правакацыйнае пытанне: “Але скажыце: // Навошта любові вершы?” [3, с. 50]. Насамрэч актуалізацыя закліку да паэтаў “маўчаць аб каханні” тычыцца не перспектывы існавання любоўнай вершатворчасці, а заўсёднай і ўжо згаданай вышэй праблемы “шчырасці сублімацыі”, што, паводле Б. Вышаслаўцава, ёсць “крытэрый сапраўднай каштоўнасці, «мастацкай праўды»” [8, с. 55]. Іншымі словамі, такім незвычайным чынам – ад супраціўнага – уздымаецца праблема сутыкнення інтымнай і “псеўдаінтымнай” лірыкі, рэальнай і абстрактнай аксіялагічнай значнасці самога пачуцця, верыфікацыйнай ці фальсіфікацыйнай арыентаванасці слова. Недарэмна ў раскрыцці гэтай ідэі паўтараецца вобраз творцы-нарцыса, працэс напісання любоўных вершаў для якога выступае актам самалюбавання, засяроджанасці на сваім “Эга” (вершы “Як тысячы гадоў таму...” В. Русілкі, “ап’янелы ад суму паэт любаваўся сабой...” В. Трэнас):

Як тысячы гадоў таму,
Паэт спявае пра каханне.
Гучаць гарачыя прызнанні,
Як тысячы гадоў таму.
Ды Богам дадзена яму
Любіць сябе ў зачараванні.
А вам – гарачыя прызнанні,
Як тысячы гадоў таму [9, с. 66].

Тут дарэчы будзе назваць і такую рысу сучаснай лірыкі, ды і ўвогуле літаратуры, як цяга да мініяцюрных форм, што часам вызначае паэтыку цэлых інтымных зборнікаў (“Вершаняты” Г. Каржанеўскай, “Лісты да цябе” А. Зэкава, “Даты” Ус. Гарачкі, “PAGER-вершы” Г. Лабадзенкі і інш.). У любоўнай паэзіі акрэсленая адметнасць спалучаецца з лаканізмам выяўлення сваіх пачуццяў, патрабаваннем вялікай ідэйна-асацыятыўнай напоўненасці мікраверша, а не стварэння фрагмента, замалёўкі, адзінкавага вобраза, афарызма, як, скажам, у пейзажнай ці філасофскай лірыцы. Узгадаем вядомае двухрадкоўе Р. Барадуліна – паэму, паводле ўласна аўтарскага жанравага вызначэння: “Мне цябе не стае // Тае...” [10, с. 329]. Падобныя сэнсава ёмістыя мініяцюры складаюць важкую плынь у сённяшняй інтымнай паэзіі: “Мне так баляць // Мае забітыя жаданні, // Што нават страшна // Ад з’яўлення новых” [9, с. 5] (В. Русілка, зб. “Ажына”); “З табою // ўдваіх // нас болей, // чым іх” [6, с. 98] (В. Жыбуль, зб. “Дыяфрагма”); “ліпаю запахла ў снежні // за межамі кахання // нічога болей // не засталося” [11, с. 75] (Л.Раманава, зб. “Птушкі і рыбы”) і шмат іншых.

Акрамя таго, у інтымнай лірыцы новага стагоддзя слоўная формула “я цябе кахаю” губляе сваё сакральнае значэнне. Зразумела, уніканне ў мастацкай рэальнасці прамых прызнанняў абумоўлена лёгкасцю, будзённасцю, часта беспрычыннасцю прамаўлення любоўных клятваў у рэальнасці эмпірычнай. Дэвальвацыя гэтай фразы ў свядомасці сучаснага чалавека падкрэсліваецца і на стылёвым узроўні. Перадусім гэта замена слоў кахання іх іншамоўнымі адпаведнікамі (I love you, жё тэм, amo te), стварэнне ўласных інтымных вершаў на англійскай мове (Т. Барысюк, В. Морт) або ўвасабленне іх лацінскай графікай (А. Хадановіч, В. Стахвюк, В. Трэнас, Г. Лабадзенка). Заўважаецца, праўда, адвольнасць, а часам непаслядоўнасць, варыянтаў перадачы аднаго і таго ж гука ў гэтых лірычных тэкстах. Складана меркаваць пра эфектыўнасць такіх спосабаў увасаблення паэтычнай думкі, але падыходы ў іх успрыняцці могуць быць розныя: ад канстатацыі за-

раджэння новай эстэтыкі або прыхаванай дыдактычнай задачы вярнуць словам кахання каштоўнасць,аднавіць іх сапраўдны, першародны сэнс да даніны модзе, дэманстрацыі аўтарамі сваёй адукаванасці ці проста гульні.

## Гульня 3. "Марскі бой"

Інтымная паэзія пачатку XXI ст. рэпрэзентуе і якасна іншыя паводзінныя мадэлі лірычных герояў у сітуацыі любоўнага канфлікту. Традыцыйная ва ўсёй сусветнай літаратуры яго метафара – вайна – адступае на другі план, а часам трактуецца як непрымальны для цывілізаванага чалавека стан адносін: "Пераблытаўшы каханьне з вайной, // не зьдзіўляйся спусташэньню душы, // Бо паўсюль замест падвойных вяршынь // Атрымаеш празаічны двубой" [12, с. 106] (Л. Сом, зб. "Свабода Слова Зіма"). Брутальнасць вырашэння тэмы кахання 90-х гг., прыёмы трэшавай стылістыкі, мэтай якіх быў эпатаж, а вытокам – аберацыйная рэакцыя на ідэалогію палавой стэрыльнасці савецкай літаратуры і адначасова маральна-духоўную энтрапію тагачаснага соцыуму (нагадаем "Я складаю ў торбу твае вочы...", "Некрафілічнае каханне як лозунг" Зм. Вішнёва, "Замарыў паэт Марыю..." Ус. Гарачкі, "Аўторак пяты" А. Бахарэвіча і інш.), таксама паступова адыходзяць у нябыт. Сутнасць любоўных сутыкненняў сённяшніх герояў даволі трапна адлюстроўвае наступны верш А. Хадановіча:

Недалёка з гульнямі да бяды,
гульні ж алімпійскія, як рубель:
e2-e4 – і ў тры хады
патапіў трохпалубны карабель.

А яна пад ветразем без вады
адарыла позіркам, як рублём,
крочыла – і ты ад яе хады
патануў трохпалубным караблём [13, с. 12].

І хоць каханне яшчэ часам успрымаецца "крывавай карыдай", што прызначаецца лірычнаму суб'екту любай жанчынай (Г. Лабадзенка), якая да таго ж можа "расстраляць яго сваім позіркам" і "дабіць сваімі вуснамі" (В. Жыбуль), сутнасць такога знешняга канфлікту хутчэй нагадвае "марскі бой". Зыход яго заўсёды мірны, а пацярпець у выніку можа толькі папера. Магчыма, паслабленне разбуральнага пачатку ў сённяшняй лірыцы звязана з тым, што ініцыятарам "вайны-гульні" пераважна выступае Яна.

У сваю чаргу, у фемінным любоўным дыскурсе таксама назіраецца пэўная мадыфікацыя вобраза жанчыны. Гэта стварэнне мэтаскіраванай асобы, здольнай абараняць сваё пачуццё, а пры адсутнасці ўзаемнасці – супрацьстаяць адзіноце, бо ёй "надакучыла быць слабою" [14, с. 42], і яна кіруецца дэвізам "але я імкнуся (гэта значыць даб'юся)" [2, с. 60]:

Ты – не мой каханы,
так, памылка.
*Мой каханы не прыносіць болю,*
*мой каханы не ілжэ ніколі,*
*ён ахоўнік і майго спакою,*
*сэрца любай не дзярэ, бы голкай...*
Выляжанку тую б задаволіў,
а мяне не варты. Аніколькі.
І таму апошняя адсылка:
я каханай буду
не табою [15, с. 26]. (В. Куртаніч)

Актыўнасць і ўнутраная моц лірычнай гераіні можа быць як яўнай (вершы В. Куртаніч, Г. Булыка, Г. Каржанеўскай, В. Аксак, Л. Сільновай, Л. Сом, С. Явар, С. Шах, В. Трэнас), так і латэнтнай (творчасць Л. Рублеўскай, І. Багдановіч, Джэці, В. Морт і інш.). Іншымі словамі, шэрагі "слязлівых ахвяр", або "разрумзаных Фрузаў", калі скарыстацца тэрміналогіяй С. Дубаўца [16, с. 19], сёння відавочна радзеюць.

Такая "я-канцэпцыя" лірычнай гераіні цалкам апраўдана для літаратуры, дзе адбываецца працэс ураўнаважвання гендэрнай дыспрапорцыі, асабліва прыкметны ў любоўнай лірыцы, што ўспрымаецца сёння (прынамсі, колькасна) пераважна жаночай сферай дзейнасці. "Ваяўнічы" наступ слабога полу адчувальны і ў назвах многіх кніг XXI ст., аўтарамі якіх з'яўляюцца жанчыны. "Blonde attack" або "Жанчыны выходзяць з-пад кантролю" – надзвычай паказальны факт. Псіхалагічны партрэт сённяшняй пакрыўджанай мужчынам лірычнай гераіні хутчэй нагадвае амазонку: "Я склала зброю. Стаптала боты. // Зламала кіпці. Пайшла дадому" [2, с. 89]. Таму і стан пакінутасці для яе не падстава для дэпрэсіі, а чарговая перадышка, бо хутка зноў "пачынаюцца ловы // пачынаюцца ловы" [2, с. 16].

## Гульня 4. "Слабое звяно"

Зусім па-іншаму ў інтымных гінатэкстах фарміруецца вобраз лірычнага аб'екта. Найперш заўважаецца тэндэнцыя да яго дэгераізацыі, г.зн. замяшчэння вобразам "антыгероя". У культуралогіі, як вядома, пад гэтым паняццем разумеюць пратаганіста з сумнеўнай сістэмай каштоўнасцей, шэрую, не здольную на смеласць і высакародства, асобу. Апісанне такіх тыпаў у сучаснай жаночай лірыцы набывае як прыватную праекцыю – у выглядзе выкрывальнай характарыстыкі сутнасці каханага (часцей былога), – так і агульназначную, сацыяльную, бо "даўно бракуе рыцарскіх традыцый" [17, с. 70] (Г. Каржанеўская, З. Дудзюк, В. Куртаніч, В. Трэнас, В. Морт, Джэці і інш.). Неаднаразова нават падаюцца яскравыя, цэласныя партрэты-дэфініцыі такога кшталту "герояў-палюбоўнікаў":

...то йдзе прытомны,
мой Адзін-адзіны
са словамі, як вёрткія вужы,
з усмешкамі, як слізкія смаўжы,
з вачыма, як халодныя глыжы,
і на вяроўцы лёс вядзе ваўчыны [15, с. 50].

Сярод радыкальна-нязвыклых прыёмаў стварэння новага персанажа ў інтымнай лірыцы можна назваць наданне яму рыс Трыкстэра. І тады: "...знаёмцеся, мой герой – // Пэдра Пабітая Пыса" [18, с. 16].

Цікава, што аналагічныя думкі адносна спецыфікі героя сучаснай паэзіі гучаць і ў многіх паэтаў-мужчын. "Захварэў герой на гераін. // Гераін героя перамог. // Жыў адзін, ну і сканаў адзін. // Час не гераічны, бачыць Бог" [19, с. 61], – сцвярджае А. Глобус. "Па святах трох1 мы мужчынк1" [4, с. 12], – на іншы лад паўтарае Г. Лабадзенка. "Засынаюць прынцы, пысамі ў тортах" [13, с. 49], – дадае А. Хадановіч.

Разам з тым у мужчынскай інтымнай лірыцы кардынальна адрозніваецца ўвасабленне вобраза любай жанчыны. Канцэпцыя гераіні тут вырашаецца пераважна праз яе традыцыйнае ўзвышэнне і абагаўленне. Мастацкая рэалізацыя гэтага прынцыпу часта прадугледжвае праяўленне, так бы мовіць, "сіндрома Галатэі" – супадзенне рэальнага і ідэальнага вобраза ў адной асобе, стварэнне ажыццёўленай мроі (Э. Акулін, Я. Лайкоў, А. Хадановіч). Больш за тое, у поўнай адпаведнасці з класічнай практыкай любоўнай вершатворчасці, каханая можа паядноўваць у сабе рысы ўсіх жанчын свету, выступаючы мегавобразам і мета-

вобразам адначасова (У. Арлоў, А. Зэкаў). Такая пазіцыя ў многім абумоўлівае агульную гарманічную, а часам ідылічную, атмасферу лірычных тэкстаў пра каханне (В. Ярац, Э. Акулін, У. Арлоў, А. Зэкаў, Я. Лайкоў, Г. Лабадзенка і інш.). У параўнанні з фемінным любоўным дыскурсам, дзе спарадычна праступае драматычны модус мастацкасці, выкліканы душэўным разладам гераінь, інтымную лірыку паэтаў-мужчын характарызуе ўнутраная бесканфліктнасць (калі, вядома, разумець канфлікт як разбуральную з'яву).

Трэба сказаць, што паэткамі таксама ствараецца ідэальны вобраз каханага як альтэрнатыва "антыгерою", але сферы функцыянавання гэтых суб'ектаў выразна падзелены. Непераадольная мяжа праходзіць паміж рэальнай і віртуальнай прасторамі (такое адасабленне ў прыведзеным вышэй вершы В. Куртаніч абазначана нават графічна). Першая выступае тэрыторыяй чакання і адзіноты. Другая, што суадносіцца ў свядомасці гераінь са сном, марай, фантазіяй, паэзіяй ці іншым часам, атаясамліваецца са светам, дзе жыве Ён – "прывідны хлопчык" (Л. Сом), "несустрэты рыцар" (Л. Рублеўская), "чараўнік верасовы", "сфантазіраваны рыцар" (І. Багдановіч), "неіснуючы сябра" (В. Трэнас). Не дзіўна, што і каханне даволі часта суправаджаецца эпітэтам "непражытае", "няздзейсненае", "няспраўджанае":

Мае рамантычныя, гжэчныя, годныя,
Вы не адшукалі мяне.
Таму маё сэрца ды вочы халодныя,
Іх болей нішто не кране [12, с. 78]. (Л.Сом "Гэрoі")

Такім чынам, можна гаварыць пра факт адсутнасці прататыпа ідэальнага героя ў інтымнай лірыцы сучасных паэтак, што, аднак, не супадае з уяўленнямі творцаў-мужчын пра аб'екты іх пачуццёвых інтэнцый. Насуперак вядомаму стэрэатыпу, шэраг аўтараў складае свае любоўныя вершы ў гонар каханай-жонкі (Э. Акулін, А. Зэкаў, В. Шніп, Я. Лайкоў і інш.). Правільнасць інтэрпрэтацыі адрасата забяспечваецца не толькі кантэкстам верша, дзе ўказваецца імя і сацыяльны статус гераіні, але і з дапамогай рамачных кампанентаў твора – загалоўка (назвы) ці прысвячэння.

Згаданыя прыёмы надаюць вершу форму паслання, дамінантную ў многіх зборніках інтымнага характару ("Лісты да цябе" А. Зэкава, "Сто лі100ў на tut.by" А. Хадановіча, "PAGER-вершы" Г. Лабадзенкі), што дае падставу гаварыць пра адраджэнне амаль забытай разнавіднасці лірыкі – альбомнай. Праўда, у XXI ст. яе жанравая сістэма значна пашырае свае абсягі. Гэта не толькі мадрыгал (А. Зэкаў), але і інтэрнэт-ліст (А. Хадановіч), pager-накцюрн, SMS-пасланне (Г. Лабадзенка), а таксама шматлікія калыханкі – любоўныя, філасофскія, іранічныя і нават жахлівыя (А. Хадановіч, Джэці, Ус. Гарачка, В. Трэнас, Г. Лабадзенка і інш.).

## Гульня 5. "Каша-малаша"

Увогуле, пранікненне ў мастацкую прастору любоўнага верша прыкмет тэхнагеннай цывілізацыі, навуковай лексікі, тэрміналагізацыя тропаў – адна з дыферэнцыяльных рыс сённяшняй любоўнай паэзіі. Такая тэндэнцыя актуалізавалася яшчэ ў 90-я гг. XX ст., калі выразы кшталту "перыкардная пустата цярпення", "адажыо надзеі", "амальгама абавязку" (Л. Дранько-Майсюк) ці "ногі – кантактная міна", "у пачуццях нашых – інфляцыя" (Э. Акулін) сталі рэгулярна ўжывацца у творах інтымнай лірыкі, што, з аднаго боку, надавала ёй вобразна-стылістычную навізну, з другога – не заўсёды арганічна ўпісвалася ў эмацыянальна-пачуццёвы кантэкст верша. Ужо толькі гэтая адметнасць гаворыць на карысць таго, што любоўная паэзія на сучасным этапе губляе статус аднаго з самых кансерватыўных відаў

лірыкі і ўяўляе сабой сістэму, адкрытую для навацый і эксперыментаў у духу запатрабаванняў часу.

Калісьці ў інтымнай паэзіі М. Танка адным з такіх эксперыментаў стаў верлібр, патэнцыйна прыдатны для ўвасаблення дыскурсіўнага, а не экспрэсіўнага пачатку. Сёння верлібраў любоўнага характару не піша толькі лянівы, што ў пэўнай ступені дэтэрмінавана імкненнем да інтэлектуалізацыі і філасафічнасці верша, а таксама акрэсленым вышэй пранікненнем навукі ў літаратуру. Фармальныя эксперыменты XXI ст. вядуцца пераважна ў кірунку жанравай дыфузіі, зрашчэння дзвюх, а то і трох розных архітэктанічных форм. Прыкладам можа служыць цыкл Ю. Пацюпы “Юрлівыя санеты”, які з’яўляецца даволі ўдалай спробай спалучыць у структуры санета адзнакі некалькіх жанраў, адначасова не губляючы кампазіцыйных і зместавых патрабаванняў да кожнага з іх (санет-газель-туюг “Эпікурэйства”, санет-брахікалан “Шчадрыца”, драпа-санет “Самнамбулізм”). Імкненне з’яднаць у адзінае мастацкае цэлае верлібр, акраверш і таўтаграму (дакладней, “мінітаўтаграму”) вызначае паэтыку цыкла “Першы тыдзень без цябе” В. Шніпа.

Прынцып узаемапранікнення назіраецца і ў адносінах да зместава адрозных відаў лірычных плыняў (інтымнай, пейзажнай, грамадзянскай, філасофскай). Маецца на ўвазе не толькі папулярная на працягу апошніх дзесяцігоддзяў праекцыя традыцыйных вобразаў-сімвалаў, паняційнага апарату, сутнасна прызначанага для выражэння любоўных пачуццяў, на іншыя тэматычныя сферы (“Дзеўка-зіма прыйшла белатварай марай // і цалуе ўзасмак белазубай згубай” [13, с. 89]), але і выкарыстанне тэмы адносін паміж мужчынам і жанчынай для данясення пэўных сацыяльных, філасофскіх, нацыянальна-патрыятычных ідэй (В. Шніп, У. Арлоў, В. Аксак, Л. Сільнова, Джэці і інш.). Нягледзячы на тое, што такі верш арганізоўваецца дзякуючы менавіта любоўнай тэматыцы, аб’ект кахання непасрэдна ў творы не прысутнічае, бо часцей за ўсё яму адведзена другарадная, фонавая функцыя ці роля рэцыпіента:

Рана ці позна зіма праміне,
Быццам святло загарыцца ў вакне
Ціхай кватэры, дзе ты не памрэш,
Быццам бы мой недапісаны верш,
Верш, што табе я адной прысвяціў,
Быццам бы свечку ў царкве запаліў.
Рана ці позна зіма праміне,
Рана ці позна не будзе мяне,
Вецер снягамі мой шлях замяце,
Шлях мой вясною праз снег прарасце,
Быццам святло загарыцца ў вакне
Ціхай кватэры, дзе ты без мяне
Будзеш чытаць мой зажураны верш,
Верш, у якім ты, як рыфма, жывеш...
Рана ці позна зіма праміне [20, с.49]. (В. Шніп)

Аднак, калі разглядаць гэты тэкст з боку яго прыналежнасці да філасофскай ці пейзажнай лірыкі, дзе вобраз каханай існуе натуральна і нязмушана, “як рыфма” ў вершы, то трэба, наадварот, канстатаваць заўсёдную і паўсюдную прысутнасць любай жанчыны ў духоўным жыцці персанажа. Для апісання гэтай сітуацыі можна скарыстацца метафарай шклянкі, якая, у залежнасці ад ракурсу погляду, або напалову пустая, або напалову поўная.

Адсутнасць / нябачная прысутнасць вобраза каханай уласціва і лірыцы У.Арлова, які ў пашырэнні абсягаў інтымнага верша пайшоў далей, яшчэ ў 90-я стварыўшы новы жанр, праўда, не суправадзіўшы сваё вынаходніцтва кідкай назвай. І калі ў зборніку “Фаўна сноў” “вершатэксты” (тэрмін П. Васючэнкі) чаргаваліся з верлібрамі, то новы зборнік “Паром праз Ля-Манш” амаль цалкам складаецца са згаданых арыгінальна-аўтарскіх адзінак.

Гэтыя лірычныя тэксты ўяўляюць сабой кантамінацыю, утрымліваюць не толькі адзнакі ўсіх чатырох разнавіднасцей лірыкі паводле яе традыцыйнага падзелу на грамадзянскую, пейзажную, філасофскую і інтымную з выразным дамінаваннем апошняй, але і пераадольваюць межы ўласна літаратуры праз сінкрэтызм мастацкага, філасофскага, публіцыстычнага і навуковага пачаткаў. У іх суседнічаюць суб'ектыўныя ўражанні і навуковыя дэфініцыі, апісанне побытавых дэталяў і папулярная інтэрпрэтацыя сапраўдных гістарычных фактаў з указаннем іх дакладных дат, падарожныя нататкі і філасофскія развагі, элементы грамадска-палітычнай аналітыкі і эстэтыка-літаратуразнаўчыя назіранні. Гэта ўплывае і на аб'ём тэксту, досыць вялікі для твора лірычнага роду з яго іманентнай цягай да лаканічнасці. Паводле некаторых асноўных прыкмет новага жанру – тэматычнага эклектызму, міждысцыплінарнага характару крэатыўнага доследу, разняволенасці і нязмушанасці стылю – можна прапанаваць яму альтэрнатыўную назву – "эсэізаваная лірыка". Пра перспектыўнасць вынайдзенай У. Арловым ідэйна-фармальнай адзінкі гаворыць факт яе запатрабаванасці ў інтымнай паэзіі многіх аўтараў (В. Аксак, зб. "Віно з Каліфорніі", Л. Сом, верш "У тым горадзе..." са зб. "Свабода Слова Зіма", Л. Сільнова, верш "Каханне" са зб. "Зеленавокія воі і іх прыгажуні" і інш.).

*P.S.* Са сказанага вышэй вынікае пытанне: што чакае беларускую любоўную лірыку ў новым XXI стагоддзі?

Адказ відавочны: THE GAME STILL IS NOT OVER...

Літаратура:

1. Шніп, В.А. Балада камянёў: паэзія і проза / В. Шніп. – Мн.: Маст. літ., 2006. – 318 с.
2. Трэнас, В. Цуд канфіскаванага дзяцінства: Вершы / В. Трэнас. – Мн.: І.П. Логвінаў, 2005. – 94 с.
3. Гарачка, У. Пралетарскія песні: Вершы / У. Гарачка. – Мн.: Логвінаў, 2004. – 72 с.
4. Лабадзенка, Г. pager-вершы: начная лірыка / Г. Лабадзенка. – Вільня: "Gudas", 2005. – 100 с.
5. Барт, Р. Фрагменты речи влюбленного / Р. Барт. – М.: «Ad Marginem», 2002. – 431 с.
6. Жыбуль, В. Дыяфрагма: Збор вершаў / В. Жыбуль. – Мн.: Логвінаў, 2003. – 112 с.
7. Морт, В. Я тоненькая як твае вейкі: Тэксты / В. Морт. – Мн.: І.П. Логвінаў, 2005. – 111 с.
8. Вышеславцев, Б.П. Этика преображенного Эроса / Б.П. Вышеславцев. – М.: Республика, 1994. – 368 с.
9. Русілка, В. Ажына: Вершы / В. Русілка. – Мн.: Маст. літ., 2004. – 70 с.
10. Яна і Я: Вершы і песні пра каханне / Уклад. Ул. Сіўчыкаў, Р. Шастак. – Мн.: ПУП "Радыёла-плюс", 2005. – 512 с.
11. Раманава, Л. Птушкі і рыбы: Паэзія / Л. Раманава. – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 2004. – 91 с.
12. Сом, Л. Свабода Слова Зіма: вершы / Л. Сом. – Мн.: Логвінаў, 2005. – 130 с.
13. Хадановіч, А. Сто лі100ў на tut.by: паэзія / А. Хадановіч. – Мн.: Логвінаў, 2007. – 136 с.
14. Каржанеўская, Г. Вершаняты / Г. Каржанеўская. – Мн.: "Беллітфонд", 2005. – 120 с.
15. Куртаніч, В. Валавуд: Вершы / В. Куртаніч. – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 2002. – 84 с.
16. Дубавец, С. Вершы / С. Дубавец. – Мн.: Медысонт, 2007. – 224 с.
17. Багдановіч, І. Сармацкі альбом: Вершы / І. Багдановіч. – Мн.: «URSUS», 2004. – 84 с.
18. Джэці (Вера Бурлак). За здаровы лад жыцця: Вершы / Джэці (Вера Бурлак). – Мн.: І.П. Логвінаў, 2003. – 102 с.
19. Глобус, А. Не сумуй без мяне, мая любая Вільня: Вершы / А. Глобус // Дзеяслоў. – 2003. – №6. – с. 60 – 63.
20. Рублеўская, Л. Над замкавай вежай / В. Шніп, Л. Рублеўская. – Маладэчна, 2003. – 126 с.

Лада Алейнік



...нашай сучаснай прозе апавядальнага ўмельства яўна бракуе...

# На доўгай дыстанцыі

***Алесь Усеня. Мой лістапад... — Мінск: Медысонт, 2012. — 248 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 28).***

На паліцах сталічных кнігарняў сёння ўжо можна ўбачыць кнігу Алеся Усені “Мой лістапад...”. Але ўпершыню аўтабіяграфічныя нататкі аўтара былі надрукаваны ў “Дзеяслове” (№№ 5-6 (54-55) за 2011 г., №№ 1-3 (56-58) за 2012 г.).

Найперш прызнаюся, што “дзеясловаўскую” публікацыю ўспамінаў Алеся Усені я пачынала чытаць са спецыфічным скепсісам. Адразу па некалькіх прычынах...

Па-свойму насцярожылі ўжо тыя радкі ва ўступе да публікацыі, дзе аўтар нібыта загадзя апраўдваецца за свой тэкст – маўляў, “мала каго зацікавяць нататкі пра маё жыццё <...>, не такая ўжо я выбітная асоба, каб выклікаць у кагосьці інтарэс”; “...у мяне ёсць дочкі, унукі <...> дык няхай хоць яны прачытаюць, што быў у іх такі продак, нешта рабіў, пра штосьці думаў...” [3, с. 4]. Як па мне, то




гэта не надта пераканаўчая матывацыя для часопіснай публікацыі. Калі нататкі адрасаваны найперш уласным дзецям ды ўнукам (і больш "мала каго зацікавяць"), то навошта іх друкаваць у літаратурна-мастацкім выданні? Дый шчыраму прызнанню аўтара – "не такая ўжо я выбітная асоба, каб выклікаць у кагосьці інтарэс" – не выпадала моцна пярэчыць, бо імя Алеся Усені не сказаць, каб надта вядомае... Асабіста мне з творамі гэтага аўтара давялося пазнаёміцца літаральна аднойчы – у зборніку дэтэктываў "Карона Вітаўта Вялікага" былі надрукаваны дзве яго аповесці. І хоць "біяграфічная даведка" ў той кнізе даводзіла, што Алесь Усеня – не толькі спрактыкаваны журналіст (працаваў у газетах "Інтэграл", "Навіны Старадарожчыны", "Гомельская праўда", "Звязда", у часопісе "Вожык"), але і "аўтар кніг паэзіі, дакументалістыкі і дэтэктыўнай прозы" [2, с. 509], іншыя ўзоры яго творчасці мне ніколі не трапляліся на вочы...

Дарэчы, якраз тое, што Алесь Усеня перадусім вядомы як журналіст, асабліва павялічвала скепсіс. Прычына тут простая. У журналістаў часцяком выпрацоўваецца "прафесійны" стыль пісьма, якому ўласцівы моўныя штампы, клішэ, рознага кшталту канцылярызмы і казённа-афіцыйныя выразы. Інакш кажучы, стыль, непрымальны для мастацкай прозы. Нават згадаўся міжволі колішні артыкул Віктара Каваленкі "У далечы жыццёвых гарызонтаў". У тым артыкуле, сярод іншых літаратурных узораў, разглядалася аповесць "Бацькавічы" – "першы буйны мастацкі твор вопытнага журналіста і нарысіста" Сцяпана Кухарава. Даследчык прызнаваўся, што чакаў ад аўтара "шырокага вобразнага абагульнення багатых і канкрэтных жыццёвых назіранняў", бо менавіта "журналіст і нарысіст ведае жыццё не па кнігах, не па чутках"... Але, прачытаўшы аповесць, крытык адчуў сябе "быццам ашуканым": "Бадай, няшмат знойдзецца беларускіх пісьменнікаў, незалежна ад таго, да якога пакалення яны належаць, якія не пісалі б пра ўласнае дзяцінства, прычым вельмі асабіста, з багатымі аўтабіяграфічнымі момантамі, ледзь не з храналагічнай паслядоўнасцю падзей, быццам кожны аўтар – значная гістарычная асоба. <...> У гэтым не было б вялікай бяды, калі б не выпрацаваўся жорсткі штамп, які ўладарна падпарадкоўвае амаль усе творчыя спробы паказаць пару мілага дзяцінства ці юнацтва. Хоць твораў такіх надзвычай шмат (не адзін дзясятак і не два), варыяцыі тэмы, сюжэта зусім нязначныя. Добрыя бацькі (калі іх няма, то добрыя цётка, дзед, баба, якія выхоўваюць сірату), нехта дзівакаваты з суседзяў, нехта дрэнны, жорсткі, першае юнацкае каханне, школьныя "шпяктаклі", грамадскія падзеі на вёсцы, якія ўплываюць на лёс герояў усюды аднолькава" [1, с. 126].

Карацей кажучы, усе гэтыя акалічнасці паспрыялі майму заўчасна-прадузятаму стаўленню да публікацыі Алеся Усені. Аднак, забягаючы наперад, хачу адзначыць, што фактычна ніводнае з маіх песімістычных прадчуванняў не спраўдзілася...

Прыемна ўразілі ўжо нават першыя кароценькія нататкі – філасофскія замалёўкі "Апілкі" і "Першыя радкі", іранічныя "Шкода навукі" і "Карэспандэнт", па-свойму драматычныя "Пастух" і "Слодыч"... Тут адразу ж выявілася выключнае апавядальнае майстэрства аўтара, якое пасля, з кожнай наступнай старонкай твора, будзе рабіцца ўсё больш відавочным...

Гэтае майстэрства, на мой погляд, асабліва выразна выяўляецца ва ўменні пісьменніка вобразна, эмацыйна і займальна расказваць пра звычайнае, шараговае. Расказваць так, каб апавядальная плынь захапляла і заварожвала, каб звыклая паўсядзённасць напаўнялася новым сэнсам, каб трывіяльнае ды побытавае ўзбуйнялася да ўніверсальнага і агульначалавечага.

Не магу не заўважыць, што нашай сучаснай прозе апавядальнага ўмельства яўна бракуе. Апошнім часам усё часцей і часцей даводзіцца сутыкацца з гэтак званымі ўзорамі творчасці, дзе праз грувасткія моўныя канструкцыі цяжка прадрацца да сэнсу, дзе арыгінальнасць саступае месца эксцэнтрычнасці – лексічнай эквілібрыстыцы ды жангліраванню словамі... Цырк на дроце, дальбог!

Апавядальны талент Алеся Усені выяўляецца менавіта ва ўменні вобразна, але ясна фармуляваць думкі, агульныя заканамернасці жыцця разглядаць скрозь прызму асабістага вопыту. Пісьменнік, здавалася б, вядзе рэй выключна пра свой прыватны лёс – пра першыя радасці і крыўды, перамогі і паразы, аднак у большасці гісторый я знаходжу нешта блізкае мне асабіста, згадваю пэўныя эпізоды ўласнага жыцця і кожны раз нанава здзіўляюся дакладнасці псіхалагічных малюнкаў, створаных аўтарам, дакладнасці эмацыйнай афарбоўкі падзей.

Існуе ўстойлівае меркаванне, што пісьменнік, які ўзяўся пісаць аўтабіяграфію, павінен быць надзвычайна пільным у адборы фактаў. Інакш кажучы, з вялікага мноства жыццёвых перыпетый павінен вылучыць самае значнае, самае неардынарнае... Рацыянальнае зерне ў такім сцвярджэнні, несумненна, ёсць. Але назваць гэтую тэзу аксіёмай нельга. Галоўнае, з майго пункта гледжання, нават не тое, ***пра што*** расказвае аўтар, а ***як*** ён гэта робіць. Бо адзін пісьменнік нават пра надзвычайнае здарэнне расказвае так, што ў яго інтэрпрэтацыі яно ператвараецца ў занудную банальшчыну. А іншы – наадварот – самую шараговую падзею здольны ператварыць у арыгінальную і змястоўную гісторыю.

Згадаем, прыкладам, колькі пісьменнікаў дзяліліся ўспамінамі пра свае ўдалыя ці няўдалыя “літаратурныя дэбюты”, пра першыя публікацыі ў якіх-небудзь “раёнках”, пра першыя ўражанні ад станоўчых ці адмоўных водзываў крытыкі... Ці не кожны другі! Але, на жаль, далёка не заўсёды асабістыя ўспаміны таго ці іншага мастака набывалі рысы індывідуальнасці, непаўторнасці. Болей за тое. Ад некаторых мемураў заставалася ўстойлівае адчуванне déja vu, узнікала ўражанне, што іх аўтары пакутавалі на дэперсаналізацыю. Трафарэтнасць сюжэтаў ды шаблоннасць вобразаў у канчатковым выніку ператваралі гісторыю ў набор стэрэатыпаў.

...Алесь Усеня таксама не абмінуў увагай свае першыя творчыя крокі – нататкі “Стымул”, “Цэлы клас паэтаў”, “Асадзі назад!” і некаторыя іншыя прысвечаны менавіта гэтым “знакавым” эпізодам жыцця аўтара. Аднак наколькі ж дасціпна і арыгінальна выкладзены гісторыі “дзіцячых” поспехаў будучага пісьменніка! У цэнтры кожнай з іх – па-свойму ўнікальная падзея, амаль што маленькая сенсацыя. Займальна і непасрэдна аўтар расказаў і пра ўласны “паэтычны дэбют”, высока ацэнены школьным настаўнікам (“за кожны верш настаўнік ставіць пяцёрку – ледзь хапіла клетачак у класным журнале” [3, с. 27]), і пра тое, як пісаў вершы за ўсіх сваіх аднакласнікаў (“як вынік, урок падобны на паэтычныя чытанні, а клас – на літаратурны гурток” [3, с. 27]), і пра першы прыкры досвед ад сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі...

Яшчэ раз падкрэслю – усё выкладзена цікава, ярка і вобразна. Але справа тут не толькі ў апавядальным майстэрстве. Істотную ролю адыгрывае кампазіцыйная структура нататак, большасць з якіх паводле фармальных прыкмет дароўніваецца да прыпавесцяў. Характар прыпавесцяў надаюць ім вельмі ўдалыя заключныя падагульненні, якія не толькі спрыяюць сэнсавай завершанасці гісторый, але па-свойму завастраюць сюжэт, паглыбляюць яго змястоўнасць, надзяляюць іншасказальнасцю. Гэтыя падагульненні выразна падкрэсліваюць, што сутнасць жыццёвага досведу пэўнай асобы – зусім не ў сукупнасці інфармацыі, увасобленай у тым ці іншым аповедзе... Сутнасць – у асэнсаванай кульмінацыі, у высновах, якія чалавек робіць з перажытых момантаў. Возьмем, напрыклад, нататку “Сляпенда”, дзе аўтар згадаў, як аднойчы (у школьныя гады) раптоўна ўсвядоміў, што

ў яго моцна пагоршыўся зрок... “Прызнацца ў гэтым я магу толькі самому сабе. У вёсцы з бязлітаснай пагардай ставяцца да заганных і хібных. Калі ты гарбаты ці картавы, дык усё жыццё не абярэшся кпінаў і здзекаў. Такая ўжо грубая сялянская “далікатнасць” [3, с. 34]. Фабула нататкі зусім простая – каб пазбегнуць насмешак, хлопчык утойвае, што дрэнна бачыць. Хітравацьі выкручвацца яму даводзіцца аж да студэнцкіх гадоў...

Нягледзячы на тое, што ў нататцы ідзе ўскосная гаворка пра вясковыя норавы (альбо, як прынята казаць, “этыку сялянскіх ўзаемаадносінаў”), гэты эпізод з жыцця аўтара выглядаў бы ўсяго толькі прыватнай гісторыяй – кранальнай, непасрэднай, эмацыйнай, трошкі сентыментальнай..., але менавіта ***прыватнай***. Калі б не пара заключных фраз, у якіх утрымліваецца квінтэсенцыя ўсяго зместу. “Колькі марных пакут і душэўных сіл трацім мы на тое, каб у чужых вачах выглядаць “гэткімі, як і ўсе”, ні ў чым не заганнымі, паспяховымі! А куды прасцей было б заставацца самімі сабою, не абцяжарвацца чыімісьці думкамі і меркаваннямі пра ўласную асобу, не “спатыкацца” ад пагардлівых позіркаў. І жыць бы стала больш камфортна і зручна” [3, с. 35]. Апошнія сказы не толькі істотна ўзбуйняюць агульны сэнс гісторыі, але расхінаюць шырокую прастору для асабістых асацыяцый чытачоў, для асэнсавання іх персанальных жыццёвых урокаў.

Як ужо адзначалася, Алесь Усеня ўмее дасціпна і ярка расказваць нават пра будзённае, шараговае. Аднак дзеля справядлівасці трэба сказаць, што ў жыцці аўтара яўна не было дэфіцыту на адмысловыя здарэнні і займальныя выпадкі, на цікавыя знаёмствы і запамінальныя сустрэчы. Скажам, героямі шмат якіх аповедаў-успамінаў Алеся Усені зрабіліся вядомыя беларускія пісьменнікі – Рыгор Барадулін, Віктар Стрыжак, Анатоль Сыс, Барыс Пятровіч, Сяргей Дубавец, Уладзімір Някляеў, іншыя. Думаецца, што далёка не пра ўсё і не пра ўсіх было лёгка напісаць – як-ніяк гаворка ідзе пра рэальных людзей... Гэта значыць, што пісьменнік апынаецца ў вельмі няпростай сітуацыі – яму трэба знайсці такія словы, каб і супраць праўды не саграшыць, і каб рэзкім словам нікога не пакрыўдзіць. І тое, з якой непадробнай шчырасцю і відавочнай тактоўнасцю аўтар расказвае пра пэўныя жыццёвыя сітуацыі, не можа не захапляць. Прыкладам тут – нататка “Пляма”, дзе гаворка ідзе пра колішняе літаб’яднанне “Узлёт” і пра непрыемны выпадак, які адбыўся паміж кіраўніком творчай суполкі Алегам Антонавічам Лойкам і маладым паэтам Віктарам Стрыжаком. Уражвае, з якой далікатнасцю аўтар расставіў маральныя акцэнты ў гэтай гісторыі, як трапна адлюстраваў характары яе ўдзельнікаў... Альбо нататкі “Залік”, “Белы верш”, “Нашы і не нашы”, “Апошняя сустрэча”, у якіх увасоблены ўспаміны аўтара пра вучобу на журфаку Белдзяржуніверсітэта, пра выкладчыкаў і сяброў-студэнтаў. Гэтыя гісторыі яшчэ раз пераконваюць ва ўменні аўтара эстэтычна дасканала інтэрпрэтаваць жыццёвыя факты, чуйна захоўваць этычную раўнавагу...

Але вось што цікава... Наколькі карэктна Алесь Усеня імкнецца абыходзіцца са сваімі героямі, настолькі ж бязлітасна і бескампрамісна ён ацэньвае некаторыя ўласныя ўчынкі. Гэта і даўнія гісторыі, якія адбыліся з аўтарам у дзяцінстве ці юнацтве (“Подлы ўдар”, “Музыка”, “Ад нянавісці – да любові”, “Грэх”, “Лішні нулік”, “Ганьба”, “На лыжні”), і больш блізкія паводле храналагічнай адлегласці падзеі, калі ён быў ужо зусім дарослым і самастойным чалавекам (“Першая сцежка і апошні шлях”, “Сабачая” прафесія”, “Абвяржэнне”, “Фальшывая нота”, “Пасланец”, “Папка”, “Мог, ды не захацеў”). Нанава асэнсоўваючы перажытае, пісьменнік шмат пра што шкадуе, шмат за што сябе дакарае, шмат чаго не можа сабе дараваць. З гранічнай праўдзівасцю, называючы рэчы сваімі імёнамі (і літаральна называючы сапраўдныя імёны вядомых у краіне людзей, перад якімі лічыць сябе вінаватым), Алесь Усеня расказвае пра тыя ўчынкі, якія па сённяшні дзень вярэдзяць яго душу і сумленне. Расказвае з адчувальнай горыччу, з болем... У нататцы

"Першая сцежка і апошні шлях" сустрэлася фраза – "...калі шчыра пакаешся ў сваім граху, дык Бог табе яго прабачыць" [3, с. 210]. Верагодна, гэтая матывацыя зрабілася асноватворным імпульсам для споведзі пісьменніка. Аднак, нягледзячы на ўсю мужнасць і шчырасць аўтара, мне хочацца яму часткова запярэчыць: такое самаедства не зусім правамернае. Бо вядома, што ніякія чалавечыя ўчынкі не пазбаўлены сэнсу на гэтым свеце, асабу фармуе нават негатыўны досвед, нават памылкі. Славуты "эфект матылька" – змяні адзін эпізод жыцця, і па-іншаму можа скласціся ўвесь лёс. І калі б у жыцці пісьменніка не было тых фактаў, пра якія ён вядзе гаворку, то, магчыма, не было б і шмат чаго іншага – станоўчага, светлага... Дакладна калісьці выказаўся на гэты конт Уільям Фолкнер: "...Не існуе чалавека, які быў бы сам па сабе, у ім – выяўленне яго мінулага. Няма такога панятку, як "было", таму што мінулае "ёсць". У кожны дадзены момант яно ў кожным мужчыне ці жанчыне, уся спадчына, уся перадгісторыя ў кожны момант прысутнічае ў ім або ў ёй. І таму чалавек, персанаж у любы момант дзеяння ўяўляе сабой не проста тое, што ён ёсць у дадзены момант, у ім усё тое, што зрабіла яго такім..." [4, с. 65].

Напрыканцы хацелася б заўважыць, што нататкі Алеся Усені склаліся ў вельмі цэльную і змястоўную гісторыю, якая паводле фармальна-жанравых прыкмет прыпадабняецца да аўтабіяграфічнага рамана-эсэ. Гісторыя жыцця аўтара атрымалася дынамічнай, яркай, па-мастацку інтрыгоўнай, нават захапляльнай. Апроч таго, гэта гісторыя выспеленая, глыбока асэнсаваная, шмат у чым павучальная... Яна дэманструе, як чалавек робіцца асобай, як фармуецца яго характар і акрэсліваюцца жыццёвыя прынцыпы, як вызначаюцца прыярытэты. Паказальна, што ў заключных радках аўтар адзначае: "Пра тое, што адбылося ў маім жыцці блізкім часам, я напісаў не надта шмат. І не таму, што не было яркіх падзей ці сустрэч з цікавымі людзьмі. Хутчэй наадварот. Проста самае значнае, самае адметнае пакуль што не выкрысталізавалася ў маёй душы, у маёй памяці. Патрэбен нейкі час, каб асэнсаваць перажытае, разгледзець і адчуць менавіта тое, што вартае ўвагі, аддзяліць, так бы мовіць, зерне ад шалупіння" [3, с. 246]. З майго пункту гледжання – гэта беспамылковая пазіцыя. Менавіта адлегласць дазваляе ўбачыць падзеі і з'явы ва ўсім іх маштабе, ва ўсім аб'ёме... Дый увогуле, напісанне аўтабіяграфіі – занятак не для спрынтэраў, гэтая справа – для бегуноў на доўгія дыстанцыі. І таму мне хочацца пажадаць аўтару энергіі ды волі для той дыстанцыі, якая ў яго яшчэ наперадзе.

Л і т а р а т у р а:

1. Каваленка, В. Прага духоўнасці / Віктар Каваленка. – Мінск: Маст. літ., 1975. – 256 с.

2. Карона Вітаўта Вялікага: раманы, аповесці, апавяданні. – Мінск: Маст. літ., 2004. – 510 с.

3. Усеня, А. Мой лістапад...: успаміны / Алесь Усеня. – Мінск: Медысонт, 2012. – 248 с.

4. Цыт. па: Грибанов, Б. Фолкнер / Борис Грибанов. – Москва: Молодая гвардия, 1976. – 352 с.



Ганна Янкута



...жыццё Шабаноў пачынаецца
зусім нядаўна і пакуль не можа пахваліцца
такой багатай гісторыяй,
як жыццё Лондана ці Занзібара...

# “Шабаны” і Шабаны: гісторыя адной дэканструкцыі

***Бахарэвіч, Альгерд. Шабаны. Гісторыя аднаго знікнення: раман. — Мінск, Галіяфы, 2012. — 272 с. — (Другі фронт мастацтваў).***

Біяграфіі гарадоў, мясцінаў і мястэчак, а таксама цэлых краінаў робяцца ўсё больш цікавымі і запатрабаванымі, чым біяграфіі асобных людзей. Многія гарады, напрыклад, Лондан, Парыж, Пецярбург, вядомыя нават тым, хто ў іх не бываў, па творах літаратуры XIX стагоддзя. Але ў XX стагоддзі гарады патрабуюць для сябе ў літаратуры новага месца: калі яшчэ ў 1914 годзе Джэймс Джойс можа выдаць раман “Дублінцы”, адным з герояў якога робіцца ўласна сам Дублін, — прыём досыць распаўсюджаны і раней, — то ў апошнія дзесяцігоддзі з месцам дзеяння адбываюцца самыя неверагодныя рэчы, якія заканчвацца пакуль зусім не збіраюцца. У 1994 годзе будучы лаўрэат Нобелеўскай прэміі Джон Максвэл Кутзэе друкуе раман “Майстра з Пецярбургу” (у рускім перакладзе вядомы як




“Восень у Пецярбургу”), усе апісанні Пецярбурга ў якім створаныя на аснове каментароў да твораў Дастаеўскага. У 1998 годзе будучы букераўскі лаўрэат Джуліян Барнс у рамане “Англія, Англія” паказаў, што Англія, якой мы яе ведаем, — гэта не больш чым сімулякр. У 2000 годзе Пітэр Акрайд выдае біяграфію Лондана, а ў 2007 — яшчэ і Тэмзы. У 2011 польская журналістка Малгажата Шэйнарт надрукавала кнігу-рэпартаж “Дом чарапахі: Занзібар”, расказаўшы перад гэтым свету гісторыі з жыцця Гданьска, Шчэціна і Эліс-Айлэнда. У 2012 годзе Альгерд Бахарэвіч напісаў кнігу, галоўным героем якой зрабіліся Шабаны. Месца дзеяння і герой мяняюць свае пазіцыі: жыццё героя — гэта толькі нагода апісаць жыццё месца.

“Шабаны” — твор для сучаснай беларускай літаратуры амаль універсальны: па ім можна абараніць безліч дыпломных працаў і разгледзець у іх розныя аспекты постмадэрнізму, постструктуралізму і іншых мілых веку філолага рэчаў. У гэтым плане раман можа скласці сур’ёзную канкурэнцыю “Імені грушы” Сяргея Балаханава, але пра гэта ніжэй. Пачнем з таго, у чым “Шабанам” канкурэнцыю на сённяшні дзень у беларускай літаратуры не складзе ніхто. Важную ролю ў рамане адыгрывае асэнсаванне гісторыі Шабаноў, іх history ў межах уласна літаратурнай story. Гэтая выкладзеная ледзь не падручнікавая history прымушае ўспомніць пра тэорыю новага гістарызму, кірунак ці філасофію сучаснай нават не столькі літаратуры, колькі ўвогуле думкі, яркім прыкладам літаратурнага ўвасаблення якой можна назваць раман ангельскага пісьменніка Грэма Свіфта “Зямля вады”: гісторыі яго герояў шчыльна ўплеценыя ў гісторыю Фенланда — некалі балоцістага рэгіёна на ўсходзе Англіі. Тэма “маленькай” гісторыі, гісторыі канкрэтнага месца і канкрэтнай асобы, his-story набывае ў рамане асаблівае гучанне, сама ж Англія знікае, бо, як і ў шэрагу іншых сучасных твораў (напрыклад, у “Папулярнай музыцы з Вітулы” Мікаэля Ніэмі, на беларускую мову перакладзенай Вольгай Цвірка), рэгіяналізм перамагае прывязку да канкрэтнай нацыянальнай дамінанты.

Цікава, што “Шабаны” — першы значны твор Бахарэвіча, у якім не падымаецца тэма беларускасці, беларускай свядомасці ці лёсу беларускага грамадства. Сённяшняя палітычная сітуацыя не з’яўляецца ў творы нават фонам, герояў цікавіць не нацыянальная ідэнтычнасць, а толькі свая прыналежнасць да Шабаноў як цэнтру прыцягнення твора. Аўтару цікавы канкрэтны пункт у прасторы, на які характарыстыкі беларускасці калі і пераносяцца, то вельмі апасродкавана. У гэтым і ёсць сутнасць новага гістарызму: яго не цікавяць вялікія велічыні, за ім стаіць недавер да вялікіх гісторыяў. Тэкст пачынае пазбягаць абстрактных ідэяў і лакалізавацца тут і цяпер. Такім геаграфічным пунктам і зрабіліся для аўтара Шабаны.

Але нельга сказаць, што Шабаны — гэта толькі месца дзеяння рамана альбо адзін з самых важных вобразаў кнігі. Шабаны для Бахарэвіча — гэта адначасова герой і антыгерой, метафара і мастацкі метад. Гэтая кніга пісалася для Шабаноў і Шабанамі, і ўсё ў ёй скіравана на тое, каб паказаць: Шабаны — гэта сакральнае месца не толькі Мінска, але і ўсёй арганізаванай імі прасторы, гэта сал, бэн, рош і ён чагосьці вельмі важнага, глыбіннай загадкі, якая патрабуе тэрміновага тлумачэння. Раман Альгерда Бахарэвіча — гэта ода містычным і нават метафізічным Шабанам, што прыйдзецца даспадобы многім землякам пісьменніка, якія, вырасшы ў той самай атмасферы, што і аўтар, напэўна, зловяць усё намёкі і зразумеюць усе недагаворанасці. Але зірнем на твор вачыма жыхароў Сухарава, Малінаўкі ці Сцяпянкі.

З першых старонак раман захапляе балансаваннем на мяжы рэальнага і нерэальнага, якое выклікае згадкі пра найлепшыя творы, напісаныя ў рэчышчы магічнага рэалізму і ажыўляе асацыяцыі з вобразамі Маконда Маркеса і лабірынтаў Ластоўскага, аднак ужо ў пачатку другой часткі захапленне гэтае знікае: рэальнасць тут усё яшчэ змагаецца са сваёй рэалістычнасцю, але да канца рамана так яе і не пераадольвае: ні згубленая ў дзяцінстве і знойдзеная цацка, ні філасофія Саланевіча, ні сама таямніца знікнення Сіманенкі не здольныя ані ўразіць уяўленне, ані патлумачыць, чаму Шабаны — прастора містычная, калі ніякімі містычнымі атрыбутамі яна не валодае. Міфалагізацыя Шабаноў выяўляецца самамэтай, якая нічым не пацвярджаецца на сюжэтным узроўні і робіцца хутчэй прыгожай рэкламнай абгорткай, унутры якой — досыць шараговы ў вобразнай сістэме і ідэйным плане твор Альгерда Бахарэвіча.

Канцоўка рамана дае падставу для досыць нечаканай высновы: Шабаны настолькі міфалагічныя, што іх няма — і ў святле эсэістычных прац Валянціна Акудовіча і яго поглядаў на Беларусь такое тлумачэнне адмесці адразу нельга, бо ў такім выпадку пусты дэнатат Шабаноў атрымлівае новае прачытанне. Яго, аднак, адмятае папярэдняя частка рамана, дзе Шабаны мінскія параўноўваюцца з Шабанамі гамбургскімі і робіцца выснова, што пад месяцам нічога новага няма, проста беларусы ў сваім "шабаноўстве", у адрозненне ад немцаў, разынкі не бачаць. Неймаверная колькасць магчымых прачытанняў рамана, а таксама ключоў, якія падымаюць шмат праблемаў і дазваляюць выдумаць колькі заўгодна інтэрпрэтацыяў, прымушаюць не толькі праклясці дэлёзаўскую рызому, але і запрагнуць ад рамана "Шабаны" хоць нейкай лінейнасці, якая ні ў якім разе не дала б адназначнага прачытання твора, але, прынамсі, дазволіла б разабрацца з заблытанай структурай узаемных сувязяў і хаатычных дэталяў.

Але на гэтым жыхары Сухарава, Малінаўскі і Сцяпянкі не спыняцца. Яны возьмуць кухонны нож і зусім не ювелірна разрэжуць "Шабаны" на дзве часткі. Складанасцяў у гэтым дэканструкцыйным акце не прадбачыцца: аўтар сам зляпіў іх не самым трывалым растворам і сшыў не самымі моцнымі ніткамі падазронага белага колеру. Першая частка — гэта гісторыя знікнення Сіманенкі ці, дакладней, гісторыя яго жонкі і яе перажывання гэтага знікнення. Можна сказаць, што ўвесь раман на гэтай гісторыі і пабудаваны, бо яна складае аснову раманнага дзеяння і вызначае яго сюжэт. Другая частка нашмат больш размытая і ўключае шэраг разнародных элементаў: і гісторыя героя (якога мы з улікам інтэрв'ю, дадзеных Альгердам Бахарэвічам розным СМІ, асцярожна назавем аўтарам, вызначыўшы такім чынам аповед як аўтабіяфічны), які вяртаецца ноччу ў Шабаны, і яго ўспаміны пра шабаноўскае дзяцінства, і агульныя развažанні пра родны раён і яго месца на карце горада і сусвету, і ўласна рэфлексія наконт ідэі "шабаноўства", для якой Шабаны мінскія — не больш як адзін з многіх прыкладаў. На гэтай частцы хацелася б спыніцца падрабязней.

Калі згадаць ранейшыя творы Альгерда Бахарэвіча, выявіцца, што бліжэй за ўсё аўтабіяграфічная лінія "Шабаноў" падышла да "Малой медычнай энцыклапедыі", зборніка эсэ, які ўвайшоў летась у шорт-ліст прэміі імя Ежы Гедройца і нават трапіў у ім на другую пазіцыю. Папулярны цяпер ва ўсім свеце жанр эсэ, які паводле прынцыпу "Хазарскага слоўніка" арыгінальна аформіўся ў медычную энцыклапедыю, атрымаў у "Шабанах" новае развіццё. Калі вычленіць з рамана аўтабіяграфічную лінію, мы атрымаем гісторыю Шабаноў, заснаваную на ўласным досведзе аўтара, гісторыю, у якой Шабаны разглядаюцца ўсебакова: і варыянты паходжання іх назвы, і самыя важныя "турыстычныя" аб'екты, і нават біяграфіі асобаў, у чый гонар названыя вуліцы раёна. У дадзеным выпадку мы маем паўнавартасную лінію нон-фікшн, дзе

асоба аўтара аказваецца хутчэй злучальным звяном, якое дазваляе абыходзіцца з матэрыялам досыць вольна, але перашкаджае выйсці за межы дакладнасці. Дыстыляваўшы лінію нон-фікшн, мы атрымліваем асобны твор, паводле сваёй ідэі падобны да шэрагу згаданых вышэй біяграфіяў loci. Цяжка сказаць, ці вырасла б з гэтай лініі цэлая кніга — жыццё Шабаноў пачынаецца зусім нядаўна і пакуль не можа пахваліцца такой багатай гісторыяй, як жыццё Лондана ці Занзібара — але што чыталася б яна не з меншай цікавасцю, чым твор уласна літаратурны, сумневаў няма.

Сіманенкаўская гісторыя мусіла ў такім выпадку зрабіцца мастацкім адлюстраваннем выкладзенага ў частцы нон-фікшн, ілюстрацыяй таго, як працуюць законы Шабаноў, на канкрэтным прыкладзе. І тут мы вяртаемся да думкі, што законы гэтыя прысутнічаюць у тэксце толькі ў выглядзе прывідаў, і мы ўвесь час спрабуем іх намацаць, але натыкаемся на ўсё тое ж пытанне: што агульнае можа быць паміж загадкавымі Шабанамі і жонкай выхадца з Шабаноў Сіманенкі?

Зірнем цяпер на той раствор і на тыя падазроныя ніткі, з якімі жыхары Сухарава, Малінаўкі і Сцяпянкі зусім нядаўна так неміласэрна абышліся. Апроч уласна вобраза Шабаноў гэта шэраг скразных матываў, якія тут і там з'яўляюцца ў аповедзе, нагадваючы чытачу, што ён усё яшчэ чытае раман Альгерда Бахарэвіча. Так, напрыклад, час ад часу героі рамана паведамляюць адно аднаму і навакольным, што ў Шабаны хутка правядуць метро. Настойлівыя згадкі пра метро прымушаюць паверыць у нейкую яго значнасць для сюжэту і шукаць паварот, які да гэтага метро нас выведзе, аднак у канцы рамана карэнных сухараўцаў чакае расчараванне: настойлівая фраза ў сюжэце не рэалізуецца, так і застаючыся насмешкай над стрэльбай, якая ўсю п'есу вісіць над сцэнай і ў выніку не страляе. Падобны прыём, з той толькі розніцай, што стрэльба ў выніку страляе, быў выкарыстаны Айн Рэнд у рамане "Атлант расправіў плечы", дзе цягам першых двух тамоў героі перакідваюцца прымаўкай "Хто такі Джон Галт?", нікога канкрэтнага не маючы на ўвазе, а ў трэцяй выяўляецца, што прымаўкай гэты самы Джон Галт зрабіўся зусім не выпадкова.

Не да канца зразумелую ролю для жыхароў, напрыклад, Сцяпянкі, адыгрывае ў рамане вобраз акадэміка Мікалая Мара і яго "яфетычная тэорыя", паводле якой мова пачалася з чатырох першаэлементаў: "сал", "бэр", "ён" і "рош" (у рамане замест "бэр" ужываецца "бэн"). З аднаго боку, "пракарані" добра пасуюць для міфалагізацыі Шабаноў, з другога, выкарыстоўваюцца яны ў самых нечаканых месцах (у тым ліку ў лаянцы), што перашкаджае даць нейкую канкрэтную інтэрпрэтацыю: ці то ўсё ў Шабанах пачалося ад сал, бэн і далей па тэксце, ці то самі Шабаны нашмат больш старажытныя, чым зайздросныя малінаўцы маглі сабе ўявіць. Лінія нон-фікшн запатрабавала ад аўтара нават увядзення ў аповед элементы біяграфіі акадэміка Мара. Якая яе роля ў жыцці Шабаноў, зноў жа незразумелая.

Яшчэ адзін матыў, роля якога ў тэксце не зусім паддаецца расшыфроўцы, — гэта матыў нямецкасці і, вузей, нямецкай мовы (якая разам з польскай спрычыняецца, апроч усяго іншага, да павышэння макаранічнага фону). Цяжка патлумачыць, з якімі мастацкімі мэтамі аўтар тыя ці іншыя рэчы называе ў тэксце па-нямецку ці па-польску: цікавасць аўтара да нямецкай мовы за межамі рамана "Шабаны" зразумелая, але вось яе роля ў тэксце — не.

Усе гэтыя, а таксама іншыя скразныя матывы (какаду, напрыклад, які насамрэч дзеяслоў — фрагмент з развітальнага ліста Данілы: "І вось табе слова: Какаду, не пытайся, пры чым тут гэта. Проста ведай: какаду" — увогуле выглядае на вельмі няўклюдную спробу пажартаваць) вельмі добра працуюць на форму, звязваючы часткі твора і дапамагаючы патлумачыць, што ў неза-

лежных і нічым на першы погляд не звязаных эпізодах трэба шукаць нейкую агульнасць альбо разгадку загадкі, загаданай дзесьці яшчэ. У працы з формай бачная рука майстра, які ведае, што і як павінна ў рамане працаваць, але ў сэнсавым плане скразныя элементы, як і сам вобраз Шабаноў, аказваюцца пустымі дэнататамі.

А цяпер вернемся да заяўленай у пачатку артыкула канкурэнцыі паміж "Шабанамі" і "Іменем грушы" Сяргея Балахонава. Калі б нешта такое адбывалася не на паперы, а на вуліцы, жыхары Сцяпянкі адназначна параілі б апошняму далей за "Аўтазаводскую" са сваім "Іменем грушы" не хадзіць, аднак пакуль параўнанне не выходзіць за межы артыкула, "Шабанам" давядзецца трошкі пацярпець. Гэтыя творы падаюцца вельмі цікавымі для параўнання па двух пунктах: інтэртэкстуальнасць і самарэфлексія.

Калі гаварыць пра раман "Імя грушы" Балахонава, тут усё досыць проста: тэкст гэты ёсць відавочным дыялогам з "Лабірынтамі" Вацлава Ластоўскага ў цэлым і рознымі спосабамі спасылаецца на шэраг іншых твораў у больш прыватных выпадках, напрыклад, асобных рэпліках, схаваных і яўных цытатах. Такім чынам, аўтар рамана на моўным узроўні рэалізуе згаданы ім самім у тэксце твора прынцып "шкуцянкі": уласна тэкст "Імені грушы" пярэсціцца шматкамі іншых тэкстаў. На стылістычным узроўні гульня (часцей за ўсё толькі дзеля самой гульні) з цытатамі ператвараецца ў адмысловы прыём, дзякуючы якому сэнсы асобных фрагментаў множацца, аднак сам твор пры гэтым застаецца цэльным. На кампазіцыйным узроўні прынцып "шкуцянкі" выяўляецца ў спалучэнні шэрагу жанраў: першы раздзел уяўляе сабой нібыта перакладзеныя з рускай мовы ўспаміны, другі — ліст з польскай, а трэці — фрагменты з напісанага па-беларуску дзённіка. Гульня задаецца ўжо назвай твора, і постмадэрнісцкая татальная іронія ў ім не без бляску даводзіцца да абсурду.

Згаданы ў рамане "Шабаны" метад дэканструкцыі таксама дае падставы гаварыць пра самарэфлексію. У такім выпадку сухараўцы атрымліваюць яшчэ адзін кірунак для інтэрпрэтацыі: замест цэльнага твора аўтар прапануе нам два касцякі (гісторыя Сіманенкі і гісторыя аўтабіяграфічная, то бок нон-фікшн), жменю вінцікаў, то бок скразныя матывы, і яшчэ сёе-тое, у тым ліку мяшок цытатаў, словаў і фразаў на замежных мовах, вытрымкі з Вікіпедыі і г.д., — твор, ці два творы, якія цягам прачытання аўтар свядома разбурае, акцэнтуючы ўвагу чытача на асобных складніках. Сімвалам гэтай дэканструкцыі акурат і робяцца тады Шабаны. Аднак патлумачыўшы такім чынам наяўнасць і яркіх саміх па сабе, але абсалютна пустых што да сюжэту скразных матываў, і дзвюх катастрафічна розных ліній, ды і цытатаў, якія таксама выглядаюць як сабаку пятая нага ("Шабаны вы мае, Шабаны, дайце зараз я вас пацалую"), сухараўцы ўсё адно застаюцца перад пытаннем: які сэнс канструяваць пазітыўную (не ў эстэтычным, а ў чыста лагічным сэнсе) міфалогію Шабаноў, калі яны робяцца ўсяго толькі сімвалам дэканструкцыі? У такім выпадку дзве гэтыя рознаскіраваныя сілы гасяць эфект, якім бы ён ні мусіў быць, і робяцца роўнымі нулю.

І яшчэ адзін момант, на якім жыхары Сухарава, Малінаўкі і Сцяпянкі не могуць не спыніцца, — гэта псіхалагічная дакладнасць вобразаў і абгрунтаванасць дзеянняў. Дзеянні герояў у творы часта падаюцца нелагічнымі і не адпавядаюць таму, што пра іх раней гаварылася. Так, напрыклад, незразумелыя нечаканыя ўцёкі Данілы за мяжу, калі раней у тэксце нейкай цягі да свабоды менавіта ад кампаніі Сафіі ён не выяўляў: ствараецца ўражанне, што такім чынам вызвалялася месца побач з гераіняй. Зрэшты, не зразумелая і сама логіка, паводле якой родзічы пасялілі побач з маладой жанчынай, у якой знік муж, маладога брата

гэтага мужа: такое выразнае падштурхоўванне да здрады можна патлумачыць хіба што вернасцю старажытнай традыцыі, паводле якой брат памерлага бярэ на сябе клопат пра яго жонку з усімі дадатковымі прыемнасцямі, якія такі клопат прадугледжвае. Не зразумела, як і чаму менавіта ў шабаноўскім ліфце Сафія навучылася пераймаць час і ў чым гэта выяўляецца. “Галоўным падчас паездкі ў ліфце было не скакаць, не разгойдваць кабіну, ехаць моўчкі, зліваца з ліфтам у адно цэлае, якое, нібы корак, імкнецца ўверх, каб выскачыць у дзень, у новае жыццё”, — прыгожы сказ, за якім не бачыцца ніякага асаблівага сэнсу, чарговы пусты дэнатат.

І самі Шабаны (калі верыць Альгерду Бахарэвічу), і “Шабаны” — з’явы няроўныя і досыць хаатычныя: выглядае на тое, што аўтару трэба сказаць так шмат, што нават такая буйная форма, як раман, трашчыць і ледзь не развальваецца на кавалкі. Атрымліваецца своеасаблівая silva rerum постмадэрнісцкіх прыёмаў, замяшаных на змрочных матывах творчасці Бахарэвіча і прыпраўленых нон-фікшн. Спроба трапіць ці не ва ўсе трэнды сучаснай і ўмоўна сучаснай літаратуры ледзь не прыводзіць да ператварэння рамана ў “Малую літаратуразнаўчую энцыклапедыю”, у выніку чаго робіцца відавочным, што прывід “Энцыклапедыі Шабаноў”, які ўсё яшчэ не супакоіўся і прагне заняць сваё месца сярод іншых genii loci, цяперашнім станам рэчаў катэгарычна не задаволены.

крытыка

Мікола Захаранка



...духоўная культура народа толькі тады
ёсць жывы арганізм,
калі мае на ўвазе гісторыю
аб тым, што было, што ёсць і... будзе...

# Званочак па мінулым

***Сяржук Вітушка. Дзінь-Дзілінь: Пара гуляць у казкі! / Ілюстрацыі Міхала Анемпадыстава. — Мінск: Зміцер Колас, 2011. — 114 с.***

*Як народ мой пеўчы,*
*гэтак жа і вы*
*існуеце вечна,*
*журавы.*
(З песні)

Кажуць, гісторыя не прымае ўмоўнага ладу. Якую гісторыю мае на ўвазе той, хто гэта сказаў? Храналагічны поступ падзей, які абумовіў твар сучаснасці – вось што такое гісторыя ў распаўсюджаным уяўленні абываценя. Сучаснасць – вось яна, не памяняеш, не адверцішся. Вынік усяго, так бы мовіць. Аб’ектыўна існуючая рэч. Значыць, і прычыны, што прывялі да гэтага выніку, аб’ектыўна-рэчаісныя, непазбежныя і недатыкальныя ў часе і прасторы. Сучаснасць – адзіна дадзены прычынны вынік, і версіі тут недарэчныя! Аднак і сучаснасць у кожнага свая. Адна ў багатага – другая ў беднага; адна ў маладосці – другая ў старасці; адна ў злодзея

– другая ў абкрадзенага; адна ў ахвяры – другая ў к**а**та і г.д. Але калі нават такая адчувальная “навобмацак” субстанцыя, як сучаснасць, неадназначная, то гісторыя і пагатоў рэч амбівалентная.



Гісторыя – генератар і могілкі ідэй. Здараецца, у часе ўвасабляюцца не самыя плённыя, не самыя перспектыўныя памкненні. Ці не таму яна, гісторыя, адмаўляе слаўназнанаму ўмоўнаму ладу хоць і катэгарычна, але са шкадаваннем і скрухаю? Яна адвяргае, а душа патрабуе. Чаму, навошта? Няўжо толькі каб развярэдзіць сябе салодкімі ўспамінамі аб няздзейсненым?

Гартаю кніжку Сержука Вітушкі, выдадзеную ў Мінску ў 2011 годзе. Кніжка дзіцячая, з дзіцячай назвай “Дзінь-дзілінь”, з падзагалоўкам “Пара гуляць у казкі”.

Цёплы настальгічны ветрык перагортвае старонкі, шапаціць успамінамі, саграваe застылае сэрца. Казкі пра Беларусь, расказаныя шчырым беларусам... Але адкуль мая настальгія, па чым яна? Сумуюць па немагчымаму, недасягальнаму, незваротна страчанаму. А тут жа казкі ўвабраныя ў тэмы, якія нікуды не зніклі, нікуды ад нас не пайшлі, заўсёды побач. Пра дзеда, бабу, залатое яечка. Пра жывую і мёртвую вадзіцу. Пра цмока, пра купальскія цуды. Пра тое, “як Менск пачынаўся”... Нават да дня святога Валянціна казачка ёсць. (Праўда, тры казачкі “на Дзень Волі” не зусім адпавядаюць нашай цяперашняй геральдычна ўладкаванай штодзённасці. Бо яны крыху не пра тыя Гімн, Герб і Сцяг, якія мы, на жаль, маем. Але я не такі *сфетышызаваны* патрыёт і прыхільнік старажытнай, *законнай*, геральдыкі, каб вельмі смуткаваць з тае нагоды. Справа не толькі ў сімвалах. Магчыма, не так важна, пад якім *татэмам* жыве племя. Галоўнае, каб яно пачувалася племем, гуртавалася ім, самаідэнтыфікавалася з яго дапамогай. А ці адбываецца тое зараз – пакажа час.)

Словам, у кніжцы ёсць усё патрэбнае, каб утульна пачувацца ў свеце дзівосаў ды з асалодай атаясамлівацца душой і свядомасцю ў роднай нацыянальна-фальклорнай міфалагічнай стыхіі. Як, раз і назаўсёды, пачуваешся, напрыклад, у краіне шляхціца Завальні...

Але ёсць няўлоўная на першы погляд розніца: Я. Баршчэўскі запатольвае маю настальгічную смагу, С. Вітушка яе... трывожыць.

Чаму яно так?

Казачны свет Баршчэўскага *гістарычна* знітаваны з тагачаснай рэальнасцю, запатрабаваны ёю, вынікае з яе. У гэтым сэнсе яго фантастыка ёсць фантастыка *рэалістычная*. Казкі Вітушкі пафасна прапанаваныя той духоўна-культурнай Айкумене, якой ужо (ці яшчэ!) няма, але якая павінна быць, якая *магла б* быць, калі б!.. Гэта фантастыка летуценная.

Казачнік робіць выгляд, *нібы нічога не здарылася*! Ён прапануе чытачу *гуляць у казкі*, нібыта адраджэнне не спынілася, нібыта мове чарговы раз не вынесены смяротны прысуд, нібыта будучыня поўная светлых спадзяванняў, як у пачатку 90-х, а ў школах і калідорах універсітэтаў вее вольны ветрык. *Як тады.*

Чамусьці разам з аўтарам адчайна хочацца рабіць такі ж самы выгляд. Пры тым, што цвярозы розум панура канстатуе неадчэпныя рэаліі сённяшняга стану рэчаў. Ах, маўляў, якія тут казкі, калі не адно казачныя героі, – жыццядайныя постаці нацыянальнай культуры ў свядомасці большасці дзяцей (і дарослых!) усё менш і менш успрымаюцца актуальнымі, ужывую, пакрысе набываюць тую функцыю, якую ім навязвалі ў старыя добрыя савецкія часы, калі амаль на поўным сур’ёзе існавала ідэалагічна замацаваная парная трыяда “Маркс-Энгельс, Ленін-Сталін, Купала-Колас”.

Якія казкі... Калі нават песні пра Беларусь (“сінявокую”) зараз гучаць, як партыйныя гімны! Дальбог, такое ўражанне, нібы яны натхнёна ствараюцца і спяваюцца дзеля пазначэння *лаяльнасці*. Функцыянальна яны запаўняюць тую ідэалагічную нішу, у якой раней мясціліся партыя і Ленін.

Ёсць гісторыя як шэраг падзей, што адбыліся ў часе. Няспраўджаныя падзеі для гісторыі – нонсэнс! *Умоўны лад*. Не тое ў гісторыі духу. У ёй аднолькава раўнацэнныя спраўджаныя і *пакуль яшчэ* няспраўджаныя варыянты. Думка, мара, малітва, натхненне лунаюць у часе і прасторы па ўсіх напрамках. “Дух вее, дзе ён хоча”.

Падзейная (матэрыяльная) гісторыя дэтэрмінавана ў адным, і толькі адным напрамку: спачатку прычына, потым – вынік. А ніяк не наадварот! (Хоць, здаецца, у рэлятывісцкай фізіцы ўсё ўжо не так проста і адназначна.)

Гісторыя духу дапускае розныя іншыя ўзаемадачыненні мінулага, цяперашняга і будучага. Бо дух вечны і час бясконцы. Сярод вечнасці цяжка бывае ўхапіць, што на што ўплывае, што ад чаго залежыць...

Духоўная культура народа толькі тады ёсць жывы арганізм, калі мае на ўвазе гісторыю аб тым, што было, што ёсць і... будзе. Менавіта гэты футуралагічны чыннік уваскрашае, захоўвае, песціць і вяртае адтуль, з будучыні, у нашу духоўную сучаснасць *забітыя* ў падзейна-рэчаіснай гісторыі магчымасці і верагоднасці. Нішто нікуды не дзелася. Усё было, ёсць і будзе. Банальная ісціна, якую часам не хапае духу помніць.

Дзіцячая кніжачка “Дзінь-дзілінь” – званочак па мінулым страчаным. Адначасова – дзейная спроба паўплываць на жыццё ў зваротным, *вынікова-прычынным*, напрамку.

Светлы казачнік Сяржук Вітушка з невытлумачальнай наіўнасцю прапанаваў пагуляць у казкі аб нераздзейсненай Беларусі. У дзве тысячы адзінаццатым годзе!

Ён не наіўны, ён мудры.

Ён пайшоў з Гэтага свету з упэўненай надзеяй на нашае выратаванне, пакінуўшы нам, знявераным, водбліск тае надзеі.

Ён *ведае*, што робіць.



Алеся Лапіцкая



...праблемы ўладкавання на чужой зямлі, відавочна, падаліся аўтарам менш важнымі, чым успаміны пра роднае і далёкае...

# Успаміны з-за мяжы і пярэстая котка

## *Агляд альманаха “Беларус”*

***Беларус: літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа, выдаецца са жнiўня 2007 г. – Нью-Ёрк, выдавецтва “Беларус”, 2012. – 331 с.***

Беларуская эміграцыя, эмігранцкая літаратура – даволі папулярныя тэмы ў сучасным культурным жыцці. Але цалкам верагодна, што пра другую хвалю эміграцыі мы ведаем значна больш, чым пра сённяшнюю беларускую дыяспару. Добрай магчымасцю пазнаёміцца з нацыянальна свядомымі суайчыннікамі з’яўляецца альманах “Беларус”. Шмат для якіх аўтараў публікацыя сталася менавіта самапрэзентацыяй – нагодай распавесці пра сябе і свае повязі з Бацькаўшчынай, выказаць уласны погляд на грамадскія і культурныя падзеі, што адбываюцца на Беларусі. У выніку палову альманаха займаюць тэксты дакументальных жанраў: успаміны, дзённікі, нататкі, між якімі ёсць і надзвычай каштоўныя публікацыі.

У першую чаргу гэта тычыцца аб’ёмных (25 старонак) успамінаў **Валянціны Якімовіч**, дзе культурная дзячка распавядае пра Анатоля Сыса і пачатак нацыянальнага адраджэння. Менавіта




знаёмства з вядомым паэтам абудзіла ў аўтарцы цікавасць да беларушчыны – таму натуральна, што ніводнае “імгненьне, вырванае з жыцьця” не абыходзіцца без А. Сыса. Роздумы над ягонымі вершамі, фрагменты размоў, апісанні ўчынкаў і паводзін паэта чаргуюцца са згадкамі пра грамадскія і культурныя падзеі 1987 – 1988 гадоў: першыя Дзяды, угодкі Караткевіча, утварэнне аргкамітэту БНФ...

Для твора ўласцівая ўзнёсла-рамантычная інтанацыя, але разам з прадчуваннямі, сненнямі, лірычнымі эпізодамі, ва ўспамінах багата і канкрэтнай інфармацыі: апісанняў ходу мерапрыемстваў, падрабязных пералікаў прысутных. Шчырасць і выдатнае пачуццё меры спалучаюцца з памкненнем крыху ідэалізаваць легендарную эпоху, таму амаль усе адраджэнцы нагадваюць у творы анёлаў, а згадкі пра А. Сыса ніякім чынам не парушаюць задуманую аўтаркай канцэпцыю вобраза – “Князя паэзіі” і “нацыянальнага героя”. З тэксту ўспамінаў не зусім зразумела, чаму такімі цеснымі апынуліся храналагічныя межы твора: добрая памяць і валоданне стылем, здаецца, дазволілі б В. Якімовіч пашырыць часавыя межы часопіснай публікацыі, ці, напрыклад, паглыбіць палітычную праблематыку. Выданне такога кшталту, безумоўна, займела б удзячнага чытача.

Складана прамінуць і ўспаміны **Алеся Тарановіча** пад назваю “Тэатар “Steel orgasm”. Стаўленне чалавека да таго, што адбываецца ў сферы ягонай прафесійнай дзейнасці, часцяком вельмі адрозніваецца ад агульнапрынятага. Таму дзённік мужчыны, які займаўся стрыптызам і здатны натхнёна, без комплексаў пра гэта распавядаць, натуральна, дэманструе надзвычай адмысловы погляд на сексуальнае жыццё і сэксуальную культуру. Аналізуюць гэта ў нас даволі рэдка, таму роздумы А. Тарановіча пра стрыптыз як мастацтва альбо пра скутасць беларускіх гледачоў падаюцца даволі цікавымі. Затое эратычныя сцэны атрымоўваюцца ў сучасных пісьменнікаў значна лепш. Што да стылю, то сама назва публікацыі выяўляе схільнасць аўтара да спалучэння неспалучальнага, таму ў тэксце сустракаецца шмат моўных выразаў, блізкіх да аксюмарана, – а ў фінале А. Тарановіч паведамляе, што зрэшты прыйшоў да Бога. Як і ўспаміны В. Якімовіч, гэты тэкст мае лёгкі водар (альбо “амбрэ”?) незваротных залатых 90-х, якія пакінулі Беларусь разам з вельмі неардынарнымі і насамрэч бязмежна вольнымі людзьмі...

Тым, хто цікавіцца рэчамі больш сур’ёзнымі, – топавымі для альманаха тэмамі Вялікай Айчыннай вайны і пасляваеннага жыцця на Беларусі – карысна будзе пазнаёміцца з успамінамі **Якуба Лапаткі, Дзмітрыя Шатыловіча, Цімоха Ліакумовіча**. Зрэшты, і самі аўтары з’яўляюцца прыкметнымі постацямі ў беларускай культуры. Ц. Ліакумовіч і Я. Лапатка (апавяданне “Бяроза і магнолія”, успаміны “Мой кут лясны”) згадваюць яркія эпізоды дзяцінства, якое прыпала на сярэдзіну ХХ стагоддзя, а Д. Шатыловіч (“Уцёкі”) узнаўляе час свайго знаходжання ва Усходняй Прусіі на прымусовай працы. Аб’ектыўны, даволі дэталёвы, вольны ад тэндэнцыйнасці, гэты расповед дазваляе ўбачыць вайну вачыма маладога кемлівага гастрабайтара, які ўцякае з лініі фронту, дзе давялося капаць акопы – але не да “сваіх”, а ў Нямеччыну, да баўэра, у якога раней працаваў за найміта. Аўтар, здаецца, не скіроўвае чытача да пэўных высноваў, але выразна дэманструе разгубленасць людзей перад вайной і – незалежна ад нацыянальнасці – стаўленне да яе як да агульнага гора. Пісьменнік нібы нагадвае, што ў час, калі міска гарачага супу ці карысная парада магла выратаваць жыццё, спагадлівасць і чалавечнасць значылі значна больш, чым службовая пасада, сацыяльнае становішча ці этнічная прыналежнасць.

Паводле ж апавядання **Эмігідыюша Рыжага**, вызначальную ролю на вайне адыгрывала і рэлігійнасць: “Бог ніколі не пакіне ў цяжкую хвіліну чалавека, які

шчыра верыць у Яго”. Гэты тэзіс выдатна ілюструецца здарэннем з набожнай Верай, якая амаль цудам пазбегла расстрэлу. Пра “Чалавека і чалавечнасць” разважае і **Анатоль Маўчун**, таксама згадваючы вайну – “страшнае бязьлітаснае чалавечае гора, а дакладней, крыніцу злачыннасьці, адобраную дурнымі законамі, людзьмі і іхнай уладай”.

У кантэксце гэтых твораў свежае ўражанне пакідаюць нататкі, у якіх аўтары распавядаюць пра больш сучасныя рэчы: турыстычнае падарожжа з Аўстраліі ў Беларусь ці навучанне дзяцей беларускіх эмігрантаў у суботняй школцы. Прычына тут простая: між дваццаці чатырох літаратараў з 10 краінаў свету толькі лічаныя асобы адлюстравалі ўражанні ад жыцця на новым месцы – хаця менавіта гэта, бадай, найперш зацікавіла б суайчыннікаў. Супастаўленне розных звычак і светапоглядаў, праблемы ўладкавання на чужой зямлі, відавочна, падаліся аўтарам менш важнымі, чым успаміны пра роднае і далёкае. Затое на старонках альманаха багата роздумаў пра грамадска-палітычнае і культурнае жыццё ў сучаснай Беларусі – прычым не толькі прозай, але і вершамі:

Ды зямля застаецца галоўнай.
На яе селянін мае права!
Вярнуць мусяць яе безумоўна –
Тым, хто займецца ёю спраўна. ...
Ну была б хаця альтэрнатыва,
Ды стварылі ўмовы для фермаў,
Не патрэбны былі б дырэктывы,
Усе б пабачылі шлях які верны.
*(Мурзёнак Пётар П. “Сказ пра Сільвестра”)*

Пры гэтым складана назваць іншае беларускае выданне, якое аб’яднала б пад сваёй вокладкай аўтараў з настолькі рознымі, часам дыяметральна супрацьлеглымі поглядамі на Вялікую Айчынную вайну, перспектывы знешняй палітыкі Беларусі і нават трагедыю ў мінскім метро 2011 года...

У альманаху пераважае традыцыйная манера выкладання, але кожны аўтар мае свой індывідуальны стыль, дэманструе ўласны лад мыслення. Адным тэкстам уласцівыя выразныя дыдактычна-маралістычныя інтэнцыі, іншыя напісаны лёгка і іранічна, у рознай ступені выяўлены суб’ектыўны пачатак і памкненне да абагульнення. Цікавым апавядальнікам з’яўляецца, напрыклад, **Віктар Кавалеўскі** (нататкі “А зараз гляньце направа”), які дасціпна, хоць часам і празмерна падрабязна апісаў падарожжа Аўстралія – Беларусь. Сапраўды, людзей, адораных літаратурнымі здольнасцямі, нашмат больш, чым прафесійных пісьменнікаў!

Мастацкая частка альманаха атрымалася. Найбольш поўна прадстаўлена тут творчасць **Макса Шчура**. Першае ягонае апавяданне, прысвечанае стасункам з суседскай кошкай, у літаратурным плане вартае караценькага (і выдатнага) верша з паэтычнай нізкі:

Калі віно – увасабленьне радасьці,
то котка – ўвасабленьне прыгажосьці,
самой сабе глыбокае адданасьці,
настолькі недасяжнай для кагосьці.

Калі мы зь ёй былі ўва ўлоньнях матчыных,
калі навокал разглядаліся спрасоньня,
яна ўжо ведала, які ёй лёс прызначаны –
а я ня ведаў, і ня ведаю да сёння.

У параўнанні з празаічным тэкстам тут больш выразна выяўляецца і вобраз коткі, і настрой аўтара, і тое не-супольнае, што тлумачыць увагу пісьменніка да пярэстай жывёлінкі.

Макс Шчур плённа працуе як у рэчышчы прозы, так і ў паэзіі: ён відавочна не хоча застацца “неадбытым” – як Альбэрт С., герой аднаго з “Трох апокрыфаў пра паэзію”. У гэтым эсэ актуалізуецца праблема “неадбытых” творцаў – тых, хто абраў неадпаведную сабе форму выяўлення, і, магчыма, праз гэта не дасягнуў сапраўднай вяршыні. Альбэрт С., на думку аўтара, меў здольнасці выдатнага празаіка – але пісаў толькі вершы, бо, па-першае, “хацеў быць менавіта “Паэтам” зь вялікай літары”, а па-другое, “сюжэтаў з рэальнага жыцьця чэрпаць ня мог, бо ніколі так і не спазнаў яго зблізку”. Чытач застаецца са сваімі здагадкамі пра прататыпа Альбэрта С. (арыфметычныя аперацыі з датамі тут не дапамагаюць) – зрэшты, літаратараў, усё жыццё верных аднаму ці двум жанрам, на Беларусі сапраўды зашмат... Іншыя “апокрыфы пра паэзію” прысвечаны падступствам літаратурнага лёсу, прычым расповед “Вечная слава” ёсць яшчэ і спробай прадэманстраваць часам радыкальную розніцу між легендарнымі паэтычнымі біяграфіямі і рэальнымі суадносінамі падзей.

Яшчэ больш смела пісьменнік замахваецца на стэрэатыпы ў апавяданні “Васільевіч”: галоўны герой, які паводле роду заняткаў мог паўстаць у абліччы непрызнанага паэта, змагара за свабоду ці рупліўца беларускай культуры, апынаецца нейкай разгубленай, закамплексаванай, памяркоўнай мізэрнасцю. Іншы тып асобы, іншая матывацыя, і замест апасіянарнасці ды харызматычнасці – плямы ад маласольных гуркоў на старым пінжаку і турботы пра выданне ўласнай манаграфіі. Літаратуразнаўца і рэдактар, Васільевіч мала падобны да тыповага паэта ці змагара, аднак у апавяданні не столькі высмейваецца галоўны герой, колькі ставіцца пад пытанне абгрунтаванасць ідэалізацыі шматлікіх з’яў сучаснага культурнага жыцця. Размова ідзе не толькі пра Апосталаў літаратуры, але нават пра Свабоднае Радзіва і Саюз пісьменнікаў, да якіх у незалежніцкім асяроддзі ставяцца з безумоўнай пашанай.

Кожная новая генерацыя крытыкуе каштоўнасці старэйшага пакалення, і механізм рэгулярных рэвізій даўно прааналізаваны заходнімі навукоўцамі і прызнаны неабходным для нармалёвага развіцця культуры (згадаем, у прыватнасці, П’ера Бурдз’ё). Маладыя ж аўтары не толькі скептычна ставяцца да культурных аўтарытэтаў, але й не жадаюць удзельнічаць у пакутніцкай эстафеце – за мову, Радзіму і спадчыну. Ды што застаецца рабіць? Васільевіч марыць пра палітычны прытулак, але і за мяжой пісьменнік ці літаратуразнаўца ў значнай ступені застаецца закладнікам беларускай культурнай сітуацыі...

Вершы М. Шчура – гэта працяг назіранняў і разважанняў над культурным і, вядома, уласным жыццём. Бадай, толькі ў гэтых творах альманаха і адчуваецца спецыфічная насталгія сучаснага эмігранта, які жыве ў час інтэрнэту і адносна адкрытых межаў, але настойліва спрабуе асэнсаваць свае ўзаемадачыненні з новым месцам жыхарства і пакінутай Бацькаўшчынай, з рэальным жыццём і вобразамі мінулага. Падборка М. Шчура, якая цягне на палову паэтычнага зборніка, прывабная і надзвычай разнастайнай тэматыкай: тут не толькі звыклыя для паэзіі разважанні над ёй самой, над бегам часу і восеньскай самотай – ёсць і творы, напісаныя з нагоды “адкрыцьця хуткасьці, большае за сьветлавую”, прысвечаныя капіталізму, чэшскаму пісьменніку і мастаку Багуславу Рэйнэку ці параўнанню мабільніка з машынамі апаратыўнага прызначэння. Большасць тэкстаў – гэта абмалёўка даволі звычайных падзей альбо сітуацый, якія падштурхнулі аўтара да арыгінальнай высновы ці супастаўлення:

...Здранцьвеўшы ў эратычна-штучнай позе,
увагі не надаючы снабом,
яна ахвяравала доўгі позірк
мне, мінаку цікаўнаму за шклом.
І я, згадаўшы штось, хаду прысьпешыў –
ня з сораму, той так не закране:

яна няўцям пазіравала вершу,
як ты – раману нашаму раней.

У творах багата цікавых метафар і проста дасціпных думак, паэт умее балансаваць на мяжы між цяперашнім і адвечным праз спалучэнне ўльтрасучасных і “класічных” вобразаў:

...і віньетка касьцёла – нібы цыфэрблят
тэлефона бяз слухаўкі (скралі няўгляд):
ты па ім набіраеш, сабе неўздагад,
усё той жа пажарны двухлічбавы нумар.

Асобныя ж творы падаюцца ўвогуле бездакорнымі і прыйдуцца даспадобы, бадай, кожнаму аматару паэзіі (“Спрабуюць кроплі нерваў ксыляфон...”, “Месяц...”, “1 траўня”).

На фоне іншых аўтараў “Беларуса” тэксты М. Шчура адметныя найперш прадуманасцю, нават лагічнасцю – з чаго вынікае рэдкая для нашай паэзіі суладнасць і стройнасць вобразнай сістэмы твораў. Калі **Іна Снарская**, якая прэзентуе беларускае жаночае вершаскладанне, натхнёна перабірае метафары дарогі, птушкі, ветру, сну, нанізвае іх на традыцыйныя матывы спаткання ці сумавання, то для М. Шчура арганічна чужасная такая зіхоткая паэтычная прыгажосць, і кожны вобраз у ягоных вершах – гэта прыватнае, непаўторнае ўражанне. Разам з тым, М. Шчур не заўсёды патрабавальны да гучання свайго верша – а вось творы **Юрася Шамецькі**, напісаныя пераважна анапестам, вылучаюцца менавіта напеўнай, узнёсла-мінорнай інтанацыяй. Праўда, сэнс радкоў тут часцяком выходзіць з-пад улады аўтара, бо мелодыя ператварае словы адно ў магчымасць уласнага гучання. Істотна аднак, што і пра І. Снарскую, і пра менш вядомага Ю. Шамецьку можна з лёгкай душой пісаць як пра паэтаў, бо ў публікацыі кожнага з гэтых аўтараў ёсць выдатныя, праніклівыя радкі...

Побач з вершамі М. Шчура адной з лепшых паэтычных падборак альманаха з’яўляюцца творы **Алега Мінкіна**, між якімі цыкл “Гастарбайт” і іранічныя вершы “абсэнтнай” тэматыкі “Паводле Амара Хаяма”. А. Мінкін піша часам наўмысна проста, не баіцца русізмаў, грубаватых словаў, размоўных інтанацый і літаратурных штампаў, якія можна ўжываць – і пры гэтым хітра падсмейвацца. Гэта дазваляе яму, па-першае, пісаць на тэмы, нетыповыя для беларускай паэзіі, і, па-другое, у нязвыклым ракурсе закранаць адвечныя для нас праблемы:

**МАТРАЦ**

Так мала грошай і так многа працы...
Таму й ляжу на выцертым матрацы,
Сярод шумецьця, як узбэк той ці кыргыз,
Які ад крыўды кожнага б тут згрыз.
Ды ў іх ёсьць Фэргана і Ісыкуль,
А я сюды прыехаў ніадкуль,
І пляшка таннага віна ды спадысподу вата –
Адно, што мяне розьніць ад прымата.

Нельга не працытаваць і верш “Васілёк”– сучасны і зусім не сцёбны рэмэйк “Слуцкіх ткачых” Максіма Багдановіча:

Стракочуць зычна конікі ля ганку
“Салёну прыгажосьці”, дзе ад ранку
Дзяўчына зь вёскі беларускай Петракі
Наколкі робіць і праколвае пупкі.
А недзе там лагодны ветрык вее,
Сінее васілёк, і жыта палавее...
І ў забыцьці выколвае рука,
Замест пачвары – кветку васілька.

Калі ж вяртацца да прыватна мастацкай прозы "Беларуса", то вельмі шматабяцальным апынуўся пачатак аповесці **Сержука Сокалава-Воюша** "1654". З першай старонкі твор прываблівае імёнамі герояў: гэта і ваявода Абуховіч, і Філон Кміта-Чарнобыльскі, і малады шляхціц Цыпрук, прамоўніцкі талент якога падкрэсліваецца пасля кожнай удалай рэплікі. Чытач адразу згадвае знакаміты "Ліст да Абуховіча", верагодным аўтарам якога сёння лічыцца Цыпрыян Камуняка. Гэты твор палітычнай сатыры дае інтрыгоўную магчымасць выбудаваць уласную, не абавязкова навуковую, версію здачы Смаленска альбо ўявіць узаемаадносіны між Цыпрыянам і Абуховічам. Да таго ж, можна паспрабаваць выявіць светаадчуванне літаратараў той далёкай эпохі, іх уласнае стаўленне да тэкстаў, якія сёння сталі хрэстаматыйнымі. Варта думаць, што твор атрымаецца даволі маштабным, бо першыя тры часткі аповесці, верагодна, з'яўляюцца толькі завязкай. Пісьменнік прэзентуе герояў, прычым Абуховіча характарызуе як "знанага далёка па-за межамі Княства прамоўцу, тонкага дыпламата, не абы-якога вайскоўца", што дазваляе чакаць цікавай інтэрпрэтацыі гэтага персанажа. У дадатак чым далей, тым больш відавочна, што ў аповесці пачынаюць дзейнічаць нейкія містычныя сілы... Твор напісаны на ўзроўні добрай гістарычнай прозы, кшталту Уладзіміра Караткевіча ці Уладзіміра Арлова: у празаіка атрымліваецца стварыць атмасферу XVII стагоддзя праз ужыванне гістарызмаў, апісанне адмысловых звычаяў, увядзенне фальклорных тэкстаў і нават цытацыю "Дзесяцігадовай аповесці..." Андрэя Рымшы. Варта думаць, што аповесць будзе моцным творам, і, прынамсі, дапаможа беларускім філолагам уявіць сітуацыю ў даўняй беларускай літаратуры.

Удалым атрымалася і апавяданне **Віталя Зайкі** "У горадзе, што ніколі ня сьпіць" – вось толькі гаворка ў творы ідзе не столькі пра нястомны Нью-Ёрк сярэдзіны XX ст., колькі пра фантастычную заблытанасць і ўзаемазвязанасць чалавечых лёсаў у цесным эмігранцкім асяроддзі. Апавяданне фактычна трымаецца на вобразе галоўнага героя, які адразу пасля Навагрудскай гімназіі ўладкаваўся перакладчыкам у СД, а па заканчэнні вайны з'ехаў у Амерыку. Аўтар здолеў выдатна выявіць унутраны стан Міхася, уражанага, крыху няўпэўненага, але смелага, які спрабуе ўладкавацца на новым месцы і спадзяецца на ўдачу, але выдатна адчувае, што можа не пашанцаваць – і ў самыя складаныя моманты пачынае "злавацца на сябе... На вайну... На ўвесь свет". Аўтар імкнецца максімальна раскрыць вобраз героя, але паведамляе пра яго зашмат для развіцця нескладанага дэтэктыўнага сюжэту. Так, трагічны лёс Міхасёвага стрыечнага брата не мае аніякага дачынення да забойства Пятра Блажэя і тым больш да "гораду, што ніколі ня сьпіць". Твор атрымаўся крыху незбалансаваным, затое з такім героем, як Міхась, можна крочыць далей, у аповесць – абы была ахвота ў аўтара.

У падборцы даволі разнародных тэкстаў **Віталя Воранава** вылучаецца сатырычная "Казка, у якую ў свой час ніхто не хацеў верыць" з яе наўздзіў яскравым антыглабалісцкім сэнсам, культуралагічнае эсэ "Месяцаходы літаратуры" і цыкл "Апавяданьняў адным сказам" – сутнасць якіх складана вызначыць інакш, як гэтым удалым жанравым азначэннем.

"Мастак прыйшоў у музэй, каб зьнішчыць сваю карціну, і яго арыштавалі, пасадзіўшы ў адну камэру разам са сваёй карцінай".

З перакладаў варта адзначыць "Легенды Ванкувэра" Паўлін Джонсан-Тэкеянуакей, узноўленыя на беларускай мове **Ірынай Верабей**. Нязвыклы сёння тэмп апавяданняў вельмі кантрастуе з дынамічнасцю і насычанасцю тэкстаў альманаха. Індзейскія легенды вяртаюць чытача ў час, калі цішыня была больш важкая за словы, разважлівасць і няспешнасць шанаваліся больш за красамоўства і гаварлівасць, а паўзы былі не толькі данінай этыкету, але і нечым абавязковым, каб размаўляць пра вайну, каханне ці нараджэнне. Варта спадзявацца, што падрыхтаваная да друку кніга Джонсан-Тэкеянуакей такі пабачыць свет, бо літаратура ін-

дзейцаў, бадай, слаба прадстаўлена на нашай мове, а культурныя паралелі могуць зацікавіць беларускага чытача.

У некаторых аспектах змест “Беларуса” адлюстроўвае агульную сітуацыю ў сучаснай беларускай літаратуры: між дваццаці чатырох аўтараў толькі 5 аўтараўжанчын, а паэтаў у два разы больш за аўтараў мастацкай прозы. Затое маладых літаратараў, пачаткоўцаў з прэтэнзіяй на сур’ёзны узровень, у гэтым выданні няшмат (вылучаецца найперш паэт **Аляксей Арцёмаў**) – справа, бадай, у тым, што шматлікія студэнты з Беларусі, якія фактычна жывуць за межамі краіны, пакуль не залічваюцца да дыяспары, альбо проста не лічаць самі сябе эмігрантамі. Можа таму ў альманаху амаль не адчуваецца захаплення бруталыпчынай, уласцівага шмат каму з беларускіх пісьменнікаў “метраполіі” – і аўтары з годнасцю вызнаюць сваю адданасць “традыцыйным каштоўнасцям”: распавядаюць пра любоў да ўласнай сям’і, прызнаюцца, што часта пякуць кексы ці займаюцца вышываннем.

Можа здацца, што мова альманаха эміграцкай літаратуры павінна быць адметнай і незвычайнай, і ў “Беларуса” сапраўды сустракаецца шмат адмысловых словаў і выразаў: ад “бузяной вады” да “цяжаровак”. Багатая на архаізмы і каларытныя, напаўзабытыя слоўцы аповесць С. Сокала-Воюша:

“– Ну, што ж, тады едзем, – прыбаднуў вастрагамі свайго каня з гарушкі Якуб”.

Мала хто з беларускіх літаратараў абыходзіцца сёння без дыялектызмаў і неалагізмаў – затое далёка не кожны дазваляе сабе сумнявацца ў легітымнасці такіх словаў, як “габрэй” альбо “нкусавец”. А вось Я. Лапатка, філолаг і перакладчык, наважваецца супрацьпаставіць літаратурную мову і народную гаворку, праз што закранае вельмі спрэчны момант у сучаснай моватворчасці.

У кантэксце мовы варта адзначыць прафесійную працу выдаўца “Беларуса” **Марата Клакоцкага** і карэктара **Алены Высоцкай**: у альманаху практычна не сустракаецца абдруковак і граматычных памылак, і можна здагадацца, што шмат якія публікацыі пакідаюць добрае ўражанне менавіта дзякуючы ўвазе рэдактара і карэктара. Адметная рыса выдання – тое, што ўсе тэксты адаптаваны да класічнага правапісу.

Большасць аўтараў “Беларуса” імкнуліся праз свае творы сцвердзіць уласную прыналежнасць да далёкай Радзімы, назаўсёды застацца сведкамі адметных гістарычных эпох. Але замест шматслоўных падагульненняў варта, бадай, пераказаць першы эпіграф да “Легендаў Ванкувэра”, з якога мог бы распачынацца і наш альманах:

“Гэта здарылася ў Брытанскай Калюмбіі пад час сустрэчы індзейскай грамады з прадстаўнікамі ўраду белых каляністаў. Урад белых заявіў пра свае правы на гэтую зямлю. Карэнныя жыхары былі вельмі абураныя такой заявай. Урэшце адзін са старэйшын здолеў укласьці ўсё іхнае непаразуменьне ў адно-адзінае пытаньне. “Што як гэта вашая зямля, – запытаўся ён, – дзе ж вашыя легенды пра яе?” Ён сказаў гэта па-ангельску, але потым перайшоў на гітксан – мясцовую гаворку свайго племені цімшыян – ды пачаў расказваць легенду.

І тады ўсе зразумелі... хоць ні ўрадавыя чыноўнікі, ні нават некаторыя супляменьнікі ня ведалі ні слова на гітксане. Але тое, што яны зразумелі, было важнейшым: як легенды надаюць сэнс ды каштоўнасьць месцу, якое мы ўважаем за свой дом; як яны, уводзячы нас у сьвет словаў, прывязваюць нас да тае зямлі, на якой мы жывём; як яны яднаюць нас, разам з тым робячы адметнымі” (Тэд Чэмбэрлін).

Усевалад Сцебурака



...тэмперамент, плюс інтэлект, плюс жыццёвы досвед, плюс... нешта такое, што камусьці дадзена, камусьці – не...

# Апошні жыхар мястэчка G...

## *Адвольная рэцэнзія на новую кнігу Віктара Шалкевіча*

***Віктар Шалкевіч. Мястэчка G... ...і ваколіцы... – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 112 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; вып. 30).***

У кожным паселішчы, малой вёсцы ці вялікім горадзе ёсць свой адметны дух. Надзвычай проста яго знайсці і ля падмуркаў старых камяніцаў, і на бруку пакручастых даўнейшых вуліцаў, пачуць на кірмашовых пляцах і на званіцах бажніцаў, убачыць яго адлюстраванне ў вітрынах зграбных крамкаў і ўтульных кавярняў.

Так, дух адчуць проста – калі ўсё пералічанае ёсць, як ёсць яно ў Вільні ці Празе, Львове ці Рызе. А што рабіць, калі ты – беларус XXI стагоддзя і маеш справу з іншым наборам прыкметаў места – шэрыя пяціпавярховікі, адвечныя калюжыны ў дзюравым асфальце на вуліцах герояў рэвалюцыі, на пляцы – ДК і выканкам з курдупельным Іллічом ды хаатычна раскіданыя агідныя кропкі грамадскага харчавання з рэдкімі грамадскімі




прыбіральнямі? Дух і тут, канечне, мае месца, але такі, што хочацца нацягнуць адгазнік...

Ратуюць гэтую гаротную карціну хіба тыя выпадкі, калі дух паселішча знаходзіць прытулак у душах месцічаў, тубыльцаў, жыхароў самога мястэчка і яго ваколіцаў.

Кніга “Мястэчка G і ваколіцы” Віктара Шалкевіча якраз прасякнутая такім дэфіцытна-салодкім і амаль страчаным у наш час духам. І справа не толькі ў сюжэтах і героях, а ў найбольшае ступені ў тым, што сам аўтар ёсць жыхаром тых вёсак і мястэчак Заходняе Беларусі, якія зніклі з рэальнай паўсядзённасці і засталіся ў яго марах і ўспамінах.

“Мястэчка G і ваколіцы” – гэта настальгія ў чыстым яе выглядзе. Толькі не па месцы, але па часе. Яна, гэтая настальгія, фірмовая адзнака сп. Шалкевіча – дастаткова прыгадаць зварот аўтара на вокладцы альбома “Смутны беларускі блюз” (1996) – “Жыхарам колішняга Вялікага Княства Літоўскага, раскіданым па ўсім свеце, прысвячаецца”... Хіба розніца ў тым, што там былі песні, тут – аповеды.

...Асабіста я далёкі ад думкі, што захапленне каларытам мінулага з’яўляецца агульным культурніцкім фонам у сучасным айфонным грамадстве. Зразумела, што гісторыя, мінуўшчына і старасвецкасць як такія – толькі частка з неабходнага ў сістэме каардынат “было-ёсць-будзе”, але пан Бог сведка – як нам бракуе менавіта яе!

Бракуе ў тым выглядзе, дзе яна не міфічна-велічная, як у маэстра Караткевіча, не прашытая кулямі, як у класіка Быкава, а блізкая, інтымна-пяшчотная, падобраму смешная і такая прыватная, як у спадара Шалкевіча.

Ведаеце, панове, ёсць выдатныя творы, чытаючы якія, глядзіш на панараму апісанага сюжэту пры ўсёй цікавасці ўсё ж адстаронена, бо ён такі грандыёзны, маштабны і такі сусветна значны, што ты – маленькі нікчэмны чалавечак, апроч як зайздросна паглядаць здалёк нічога, напраўду, і не можаш. Асаблівасць жа змешчаных у кнізе “Мястэчка G і ваколіцы” аповедаў у тым, што адразу па прачытанні першых абзацаў падаецца, што ці ты сам, ці твае сваякі-знаёмцы былі ўдзельнікамі азначаных падзеяў, бачылі гэта ўсё на свае вочы, ці, у скрайнім выпадку, дакладна чулі ўсё гэта ў нядзелю на кірмашы ў мястэчку. Сюжэты твораў простыя і адвечныя, як свет – маленства і бацькоўскі дом, суседзі і сябры, каханне і смерць – блізкая і зразумелая кожнаму рэчаіснасць. Асобнае месца належыць згадкам маленства і юнацтва, ці нават больш правільна сказаць, – не самім згадкам (бо ў кнізе іх не так шмат), але разгляду падзеяў нібы вачыма таго хлопчыка-падлетка, які калісьці бегаў па вуліцах свайго маленства. У аповедах, змешчаных у кнізе, дзіўна хораша ўдаецца аўтару сумяшчаць жыццёвы досвед сталага чалавека з шчырай безабароннасцю дзіцёнка, які трымае ў руках «аранжавы пластмасавы карабельчык з таямнічым надпісам – “Руденск”, які застаўся недзе там»...

Дарэчы, гэтае нявызначанае і прыцягальнае “там” з’яўляецца, кажучы казённаю моваю крытыкі, адным са знакавых вобразаў у творчасці сп. Шалкевіча і працягам узгаданай вышэй настальгіі па часе. У далёкім ужо 1998 годзе, у альбоме “Балады і рамансы”, у адметнай сваёй энергетыкай песні “Шчуры Эўропы” быў злавесна-таямнічы рэфрэн: “Там... там... там...”. Але, калі ў выпадку “Шчуроў Эўропы”, “Там” – гэта была хутчэй будучыня, то ў 2012 годзе ў кнізе “Мястэчка G і ваколіцы” казачна-летуценнае “Там” з’яўляецца ізноў, але ўжо ў вобразе мінулага. І зараз ужо гэта, так бы мовіць, адзін з уяўных архетыпаў аўтара. Менавіта “там” – як калектыўнае несвядомае выразна прасочваецца ў аднайменным апавяданні – дзе

асабістыя ўзгадкі суседнічаюць з узгадкамі падзеяў, угледжаных нібы вачыма дзеда і прадзеда, то бок ранейшых пакаленняў. “Там” – гэта не толькі мінулае-недасяжнае, “там” – гэта незваротна страчанае, якога жудасна бракуе ўсім нам.

Ну, і што дадаць напрыканцы? Дадамо, што вялікай адметнасцю, хоць і для ўсіх знаёмых з асобаю аўтара, зразумела, адметнасцю выключна чаканай, ёсць сакавіты гумар мовы ўсіх без вынятку тэкстаў кнігі. Не ведаю, як вам, спадарства, а мне жудасна не стае ў сучаснай беларускай літаратуры менавіта добрага і разумнага гумару – не плачу аб старонцы, не галаваскрутнага экшану, не натуралізму чужых войнаў, не шызафрэнічнага самакапання з элементамі сада-маза, а менавіта тонкага пачуцця гумару. Падумалася, што яно, гэтае пачуццё, як славутая “Бехераўка”, 26 інгрыдыентаў якой вядомыя ўсім, а адзін, фінальны і галоўны, – не. У выпадку з гумарам, на першы погляд, таксама проста: гэта – адпаведны тэмперамент, плюс інтэлект, плюс жыццёвы досвед, плюс... нешта такое, што камусьці дадзена, камусьці – не...

*P.S.* “Мястэчка G і ваколіцы” – гэта трошкі ўспаміны, трошкі байкі, але найбольш, безумоўна, добрая лірыка з вялікім гумарам. На паліцы кніжніцы “Мястэчка G і ваколіцы” адразу змясцілася побач з кніжкамі “Фрашкі да пляшкі” Севярына Кваткоўскага і “Сямейным альбомам” Вінцэся Мудрова. Я не параўноўваю гэтыя творы, яны розныя. Проста ў іх ёсць нешта няўлоўна блізкае. Асабіста мне.



# Колеры

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Сяргей Балахонаў. Зямля пад белымі крыламі Фенікса: нарысы з паралельнай гісторыі Беларусі. – Мінск: І.П. Логвінаў, 2012. – 248 с. – (Серыя “Галерэя “Б”).**

Кніга ёсць яскравым прыкладам апакрыфічна-сатырычнай прозы, што была адносна шырока распаўсюджаная ў беларускай літаратуры канца XX – пачатку XXI стагоддзяў і вядомая чытачу па праекце “10 мяхоў беларускай гісторыі”.

У новай кнізе аўтар свядома і наўмысна разгортвае перад агаломшаным чытачом велізарную шматузроўневую містыфікацыю, якая руйнуе і нанова адбудоўвае дзівосны гмах “сапраўднай” гісторыі краіны і ваколіцаў. Спасылаючыся на рэальныя і няісныя крыніцы і звышсумніўных, але ад таго не менш аўтарытэтных сведкаў падзей, сп. Балахонаў абвяргае ранейшыя чужыя міфы, паспяхова ствараючы новыя прывабныя свае.




**Анатоль Брусевіч. Апошні дзень. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 136 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 32).**

Вершы, што ўвайшлі ў свежы зборнік Анатоля Брусевіча – наздзіў роўныя па настроі як для тэкстаў, што стварaліся цягам шасці гадоў. Аўтар – адзін з самых яскравых прадстаўнікоў стылю *неадэкаданс* у беларускай паэзіі.

Паўз увесь зборнік праходзяць скразныя вобразы Восені, Шэрасці, Ночы і, вядома ж, Смерці з іншымі вербальнымі маркерамі стылю. Відавочна, гэта тэксты, якія ствараюцца ад душэўнага суму ці, нават, вусцішнасці быцця. Але – дэкаданс Брусевіча не сур’ёзна-змрочны. Ён з дамешкам іранічнасці, метафізічнае тугі па святле і вясне. З верай, што прыйдзе дзень *новы*.

*Апошні дзень самотнага стагоддзя*
*Я змог пражыць з адчыненай душой,*
*І праз мяне ізноў прарос спакой,*
*Нібыта мох на вывернутым плоце,*

*І мары, што загінулі даўно,*
*Ускрэслі, каб не здзейсніцца ніколі.*
*Апошні дзень асунуўся паволі*
*Пяском жыцця на дно прыгожых сноў.*




**Мікола Касцюкевіч. Колеры. – Масква: “Русский путь”, 2013. – 381 с.**

У гэты свайго роду збор твораў Міколы Касцюкевіча ўвайшло практычна ўсё, напісанае аўтарам за дваццаць гадоў. Чытач знойдзе ў кнізе цэлы калейдаскоп формаў і жанраў: у паэзіі – канвенцыйны верш, лірычную імпрэсію, метафізічнае эсэ, у прозе – псіхалагічную любоўную навэлу, “гатычную” гісторыю, апавяданне-баявік, антыўтопію, містычную паэму ў прозе. Між тым, паэтыка М. Касцюкевіча даволі традыцыйная. Завяршаюць кнігу філасофскія запісы, якія раней не друкаваліся. Прадмову да кнігі напісаў Юрась Пацюпа.



**Севярын Квяткоўскі. Падарунак для Адэлі. – Менск, Логвінаў, 2012. – 96 с.**

Чарговая кніга стваральніка нашумелых “Фрашак да пляшкі” прапануе сяброўскі, трошкі інтымны, трошкі блюзнерскі, але вельмі сімпатычны суплёт успамінаў і алегарычных фантазіяў аўтара. Складзеная з асобных апавяданняў, кніга “Падарунак для Адэлі” між тым прадстаўляе з сябе цалкавітую адзінку, дзе нашыя, дарэчы, вельмі пазнавальныя, сучаснікі на знаёмых з дзяцінства вуліцах Горада ўступаюць у дыялог з героямі сп. Квяткоўскага, а раз-пораз – і з ім самім. На старонках “Падарунка для Адэлі” прысутнасць аўтара істотна большая, чымсьці ў памянёных “Фрашках”, і гэтае “назіранне з уласнай прысутнасцю” відавочна дадае смаку і цікавосці пры чытанні кнігі.



**Сяргей Рублеўскі. Святло лускі. – Мінск: Медысонт, 2012. – 160 с.**

“Кніга для тых, хто любіць лавіць рыбу ўсім сэрцам”, – такі падзагаловак мае другая кніга Сяргея Рублеўскага, што выйшла ў 2012 г. Вось жа, і гэты прагал беларускага прыгожага пісьменства, так бы мовіць, запоўнены. І як уловіста!

Нашым чытачам ужо знаёмыя некаторыя раздзелы з яе (гл.: №№50, 57). Акрамя быційна-сузіральных і замалёвак практычных парадаў са свайго рыбацкага досведу, у кнізе маюцца й замалёўкі графічныя, напрыклад, – эксклюзіўны ўзор завязвання бляшні “Люсокс”.

“Святло лускі” “з цікавасцю прачытаюць усе, для каго адзінота з’яўляецца не выракам гаротнасці, а вытворнай самадастатковасці, шчаслівым затулкам для роздуму”, – зазначаецца ў анатацыі. Ці “клюне” чытач на гэтыя словы?..



**Юры Станкевіч. Шал. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 318 с. – (Другі фронт мастацтваў).**

У новую кнігу Юрыя Станкевіча ўвайшлі тры аповесці, апавяданні розных гадоў, кінасцэнар і эсэ, прысвечанае памяці Акіры Курасавы, вядомае чытачам “Дзеяслова”. Тэксты празаіка, асабліва аповесці, вельмі кінематаграфічныя па спосабе выкладу з яго трапнасцю ў апісанні дэталяў, вострасюжэтнасцю, унутраным драйвам ды экшнам. Яны проста просяцца да экранізацыі. Лішне казаць, што дзяржаўная кінакампанія наўрад ці тое зробіць...

Што да зместу, то, падаецца, за што б ні браўся празаік – ці гэта цяперашні час, ці недалёкая будучыня, – атрымліваецца антыўтопія. Хтосьці трапна назваў Ю. Станкевіча барысаўскім Кінгам. Наколькі слушнымі апынуцца яго змрочныя прагнозы і прароцтвы, вырашыць толькі час. Покуль жа відавочна, што гэты аўтар – адзін з найбольш яскравых прадаўжальнікаў традыцыі экзістэнцыяналізму ў цяперашняй беларускай літаратуры.

# Нашыя аўтары

**Аблажэй Алег** — паэт, публіцыст, мастак, перакладчык. Творы друкаваліся ў шматлікіх беларускіх і летувіскіх выданнях. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Лезнявічы на Дзятлаўшчыне. Жыве ў Вільні.

**Акулін Эдуард** — паэт, перакладчык, бард. Аўтар кніг паэзіі «Лес дзённага асвятлення», «Пяшчота ліўня», «Крыло анёла», «Радно», «Непрычалены човен», «Малітва воч», драматычнай містэрыі «На Каляды» і інш. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Вялікія Нямкі на Веткаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Алейнік Лада** — крытык, літаратуразнаўца. Аўтар кнігі «Пясочны гадзіннік», шматлікіх публікацыяў у рэспубліканскім друку. Нарадзілася ў 1970 годзе ў вёсцы Чапліцы на Случчыне. Жыве ў Мінску.

**Анціпаў Павел** – празаік, паэт, перакладчык. Пераможца розных беларускіх і расійскіх літаратурных конкурсаў. Творы друкаваліся ў беларускім і расійскім друку. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Арабей Лідзія** — празаік, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Калібры», «Мера часу», «Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы», «Сярод ночы», «Пошукі кахання» і інш. Нарадзілася ў 1925 годзе ў вёсцы Нізок на Уздзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Брадзіхіна Ала** – літаратуразнаўца. Аўтар манаграфіі «Сучасная беларуская інтымная лірыка: тэндэнцыі і перспектывы развіцця». Друкавалася ў часопісах «Полымя», «Тэрмапілы», «Першацвет», «Дзеяслоў», тыднёвіку «ЛіМ». Нарадзілася ў 1973 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

**Бураўкін Генадзь** — паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1980 г.). Аўтар кніг паэзіі «Майская просінь», «З любоўю і нянавісцю зямною», «Дыханне», «Жніво», «Выток», «Варта вернасці», «Пяшчота», «Паміж зоркай і свечкай», «Чытаю тайнапіс вачэй», «Лісты да запатрабавання» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Шуляціна на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.

**Воранаў Віталь** – празаік, перакладчык, выдавец. Сузаснавальнік і старшыня Беларускага культурна-асветніцкага цэнтра ў Познані. Пераклаў на беларускую мову «У чаканні Гадо» Сэмюэла Бэкета, «Віня-Пых» Алана Мілна. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Мінску. Цяпер жыве ў штаце Канзас, ЗША.

**Голуб Юрка** — паэт, журналіст. Аўтар кніг паэзіі «Гром на зялёнае голле», «Дрэва навальніцы», «Векапомнае поле», «Помню пра сябе» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Горны на Зэльвеншчыне. Жыве ў Гародні.

**Дашына Ярына** — паэт. Аўтар кнігі «Графіці на сэрцы». Нарадзілася ў 1978 годзе ў вёсцы Ставы на Камянеччыне. Жыве ў Берасці.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Жуковіч Васіль** — паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Крылатыя сябры», «Мелодыя святла», «Як адна вясна...», «Цана цішыні», «Твая місія», «Разняволенне» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Захаранка Мікола** — празаік, паэт, публіцыст, драматург. П'еса «Паехалі» (1996 г.) ставілася на сцэне Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы. Проза і паэзія друкаваліся ў «Полымі», «Літаратуры і мастацтве», «Звяздзе» і інш. выданнях. Нарадзіўся ў 1949 годзе ў Васілевічах на Гомельшчыне. Жыве ў вёсцы Швабы на Лагойшчыне.

**Каўка Аляксей** — публіцыст, літаратуразнаўца, гісторык. Аўтар кніг «Тут мой народ», «Жывом!», «Будам жыць!», «Каб не забыцца» і інш. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Равецкі Бор на Чэрвеншчыне. Жыве ў Маскве.

**Крыніцкі Рышард** – польскі паэт, адзін з прадстаўнікоў літаратурнай групы «Новая хваля», што існавала ў 1968-1976 гг. Аўтар кніг паэзіі «Шал пагоні, шал уцёкаў», «Акт нараджэння», «Калі ў нейкім краі», «Ўратаванне з нябыту» (Ocalenie z nicości), «Вершы, галасы», «Магнетычны пункт», «Камень, шэрань» і інш. Лаўрэат прэміі фундацыі імя Касцельскіх і прэміі польскага ПЭН-клуба. У 2008 годзе атрымаў прэмію Kamień на люблінскім фестывалі «Горад

Паэзіі». Нарадзіўся ў 1943 годзе ў Аўстрыі. Жыве ў Познані.

**Лапіцкая Алеся** – крытык, празаік, публіцыст. Фіналістка "дзеяслоўскага" конкурсу літаратурна-крытычных твораў "Беларуская літаратура XXI ст.: тэндэнцыі, постаці, перспектывы". Нарадзілася ў 1987 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Ляхновіч Павел** – празаік, журналіст, перакладчык. Аўтар кніг «Пачатак сезона», «Зялёны дуб». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Сярэдняя на Міншчыне. Жыве ў Пінску.

**Міхно Уладзімір** — празаік, публіцыст. Аўтар кнігі «Горкі зефір». Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Чэрцы на Лепельшчыне. Жыве на Лепельшчыне.

**Раманава Святлана** – паэт, журналіст. Нарадзілася ў 1964 годзе ў вёсцы Покаць на Чачэршчыне. Жыве ў Мінску.

**Русецкая Наталля** – паэтка, перакладчыца. Перакладае паэзію і драматургію з польскай мовы. Аўтар кнігі паэзіі «Два бяссонні», манаграфіі «Сямейная муза», прысвечанай паэтычнай творчасці Ф.У. Радзівіл. Нарадзілася ў 1974 годзе ў горадзе Новы Урэнь (Расія). Жыве ў Любліне.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Скобла Міхась** — паэт, парадыст, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча. Аўтар паэтычных кніг «Вечны Зніч», «Вочы Савы», «Нашэсце Поўні», «Акно для матылькоў», кнігі гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» і інш. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Паляжын на Зэльвеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Слінка Віктар** — паэт. Аўтар кніг паэзіі «Апошні снег», «Штольні вясны», «Арахна». Нарадзіўся ў 1972 годзе ў вёсцы Козікі Івацэвіцкага раёна, што на Брэстчыне. Жыве ў Мінску.

**Сплюшка Юля** – паэт. Нарадзілася ў 1991 годзе ў Асвеі. Пасля сканчэння школы працуе ў заапарку. Жыве ў Мінску.

**Спрынчан Аксана** — паэт, празаік. Аўтар кніг «Вершы ад А.», «ЖываЯ». Нарадзілася ў 1973 годзе ў Лунінцы. Жыве ў Мінску.

**Стралко Валер** – перакладчык. Перакладае на беларускую з украінскай і з украінскай на беларускую. Лаўрэат міжнароднай літаратурнай прэміі імя Івана Франко за кнігу «Непагасны агонь» (2003), прэміі імя Кандрата Крапівы за пераклад «Тараса на Парнасе» (2003). Нарадзіўся ў 1938 годзе ў Любечы на Чарнігаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Сцепанюк Андрэй** – паэт. Дырэктар Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Б. Тарашкевіча ў Бельску. Вершы друкаваліся ў студэнцкім часопісе "Сустрэчы", тыднёвіку "Ніва", а таксама літаратурных альманахах "Белавежа", "Свае песні табе дару" і "Bielskie spotkania z poezją". Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Бельску-Падляшскім. Жыве ў Бельску-Падляшскім.

**Сянкевіч Кацярына** – паэт, мастак. Аўтар кнігі паэзіі «Дачка ружы». Закончыла Мастацкі ліцэй імя Артура Гротгера ў Супраслі ў класе фатаграфіі і тканіны. Цяпер студэнтка мастацкага факультэта Люблінскага ўніверсітэта. Нарадзілася 11 снежня 1991 года ў Гайнаўцы. Жыве на хутары Граматнае Гайнаўскага павета на Беласточчыне.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай і ўкраінскай моваў. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Шамецька Юрась** – паэт. Нарадзіўся і вырас у Мінску. Аўтар кнігі паэзіі «Шлях да вяртання». Творы друкаваліся ў альманаху «Беларус», часопісах «Дзеяслоў», «Маладосць». З 1997 года жыве ў Атаве, Канада.

**Шчур Макс** — паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кніг «Спадарыня Адзіноцтва», «Амфітэатар», «Раньні збор», «Амальгама», «Ліст, знойдзены на папялішчы» і інш. Перакладае з чэшскай, іспанскай і ангельскай моваў. Заснавальнік сайта www.niamesta.se. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Берасці. Жыве ў Празе.

**Янкута Ганна** – перакладчыца. Лаўрэатка конкурсаў маладых літаратараў імя Карласа Шэрмана (2009), Чэслава Мілаша (2011), «Экслібрыс» (2012). Перакладае з ангельскай, польскай, афрыкаанс, нідэрландскай. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Гародні. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Юрыя Дзядзінкіна, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.